


**Ёнас Авіжус**

# ЧАС, КАЛІ ПУСЦЕЮЦЬ СЯДЗІБЫ

*Енас Авіжус (нарадзіўся ў 1922 г.) — аўтар кніжак нарысаў, апавяданняў, аповесцяў, казак. Але найбольшае прызнанне ў чытачоў атрымалі яго раманы «Шкляная гара», «Вёска на раздарожжы», «Хамелеонавы колеры», «Папялішчы», а сярод іх найперш раман «Час, калі пусцеюць сядзібы».*

*Лёс нацыі і лёс асобы ў пераломныя часы гісторыі — вось тая галоўная тэма, якая дзесяцігоддзі палоніць душу і думкі пісьменніка, жывіць яго творчыя пошукі, даючы магчымасць яму вытыкаць шырокія эпічныя палотны.*

*У раманах Е. Авіжуса малое не засланяецца вялікім, «чужое — сваім»: у іх яднаюцца і сутыкаюцца кардынальныя праблемы чалавечага жыцця і надзённага сялянскага побыту, напружаныя псіхалагічныя калізіі і разважлівая споведзь, яркія чалавечыя характары і ваяўнічыя ідэалогіі.*

ПРОЗА НАРОДАЎ СССР

Ёнас Авіжус

# ЧАС, КАЛІ ПУСЦЕЮЦЬ СЯДЗІБЫ

РАМАН

З ЛІТОЎСКАЙ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84 Ли 7
А 20

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1984 ГОДЗЕ

*Пераклаў Алесь Разанаў*

Пераклад зроблены з выдання:

Jonas Avyžius. Sodybų tuštėjimo metas.—
Vilnius: Vaga, 1982.— 640 с.

Роман «Потерянный кров» (Ленинская премия 1976 г.) посвящен народным судьбам в поворотные моменты истории. Действие романа происходит в 1941—1944 годах. Литва переживает очередную волну перемен — падение правительства Сметоны, установление советской власти и годом позже — оккупацию войсками гитлеровской Германии.

А $\frac{4702390201-172}{М\ 302(03)-89}$ 134—89

ISBN 5-340-00146-6

Вее ветрык з усходу
і з захаду вее.
Вей, ветрык, памаленечку,
бо збудзіцца мой міленечкі.

*Літоўская народная песня*

# Кніга першая

## *Раздзел першы*

### I

Стаяла лета 1941 года, самая сярэдзіна ліпеня. Ужоўклыя палі азіміны,ацяжэлыя ад налітых каласоў, мляўка плавалі ў душным сонечным сквары. Пахла скошанай сенажаццю, садамі, у якіх ужо чырванелі раннія вішні і ападалі падточаныя чарвяком дробныя яблычкі. Зрэдчасу па вясковай вуліцы прапаўзаў рыплівы воз канюшыны альбо тарахцела пустая фурманка, распуджваючы курэй, што купаліся ў гарачым дарожным пыле; кудахкаючы і шумна лопаючы крыллем, пералётвалі яны цераз платы, аброслыя густымі кустамі парэчак, у якіх дзе-нідзе бялелі калматыя галовы малых ласуноў. Каб не сляды адгрукацелай бітвы ўсцяж дарогі — парожнія снарадныя скрынкі, вывернутая бомбай яма, пакінуты акопчык ці падбіты танк, якім цяпер завалодалі мурзатыя падшыванцы,— цяжка было б паверыць, што тут нядаўна праходзіў фронт і што недзе на ўсходзе цяпер палымнее вайна, нелітасціва губячы людзей і нажытае за многія гады дабро.

Колькі гэтакіх вёсак перабачыў Гедымінас, пакуль, агараўшы добрую сотню кіламетраў, нарэшце датупаў да сваіх Краштупенаў! Ад нагрэтага бруку тут моцна тхнула конскай мачой і яшчэ нейкімі пахамі, на якія багаты горад, трэцяя частка жыхароў якога трымае кароў і коз, а ў кожным другім двары драўляная, вясковага кшталту, прыбіральня ды памыйная яма — праўдзівы рай для катоў-валацугаў, для пацукоў і безлічы мух, што роем насіліся ў паветры, прыдаючы апусцелым вуліцам нейкае няўлоўнае гукавое адценне.

Вайна толькі збольшага зачапіла горад сваім вогненным крыллем: заўважыліся некалькі знявечаных дамоў і зруйнаваная бамбёжкай чыгуначная станцыя. На сценах будынкаў сям-там міргацелі загады акупацыйнай улады, часам трапляліся плакаты, якія ўслаўлялі гістарычную місію вялікага германскага народа: сцерці з твару зямлі ўсходняга варвара. Як сведчанне, што гэта не марныя сло-

вы, наўпроці трохпавярховага гмаху камендатуры, якую ўпрыгожваў крывава-чырвоны, з чорнай свастыкай на белым крузе, сцяг трэцяга рэйха, шпацыраваў узброены вартавы: змакрэлы ад поту, ён з нейкім упартым выклікам падстаўляў твар і грудзі паўдзённаму сонцу, нібыта пагарджаў ім, як, зрэшты, і ўсім астатнім у гэтым занядбалым кутку пігмеяў. У вітрынах кінатэатра рэкламаваўся дакументальны фільм пра захоп Францыі. Назойліва лезлі ў вочы здымкі з эпізодамі вайны. Неператожная Германія крочыла па ахопленых полымем гарадах зваяванай краіны. Яе віталі, ёй угодліва ўсміхаліся, пад яе кутымі ботамі, што заўзята ўсё трушчылі на сваім шляху, стаялі на каленях войскі пераможанага ворага і ляжалі зганьбаваныя сцягі. «Deutschland, Deutschland über alles!» [1]

Няўжо ўзыходзіць эпоха захопу, якая ў адны рукі аддасць цэлы свет? У мінулую восень, калі Гедымінас яшчэ настаўнічаў у гімназіі, з тых самых вітрын таксама пазіралі адважныя ваякі, толькі другія — у вастраверхіх аблавухіх шапках, крыж-накрыж апяразаныя кулямётнымі стужкамі. «Няхай жыве сусветная рэвалюцыя!» І сапраўды, няўжо асобныя нацыі ўжо аджылі свой век і мы, нешматлікія, асуджаны растварыцца ў масе шматлікіх? Бедны вялікі паэт малога народа! Як жорстка ён памыляўся, вяшчаючы прарочым голасам братам свайго занепалага племя:

Тут Вітаўтас рупіўся справай і словам,
Пад Грунвальдам лютых скрышыў крыжакоў;
Тут клалі бацькі за свабоду галовы,
Тут наша айчына на векі вякоў.
Тут, дзе Вітаўтас Вялікі бараніў нас шынна,
Як была ў стагоддзях, будзеш, о Літва-айчына! [2]

Прыгнечаны думкамі, Гедымінас пасунуўся далей. Ён мусіў бы дзякаваць лёсу, што жывы і здаровы вярнуўся ў родны кут. Ад знаёмых, якія сустрэліся, ён ужо ведаў, што фронт абмінуў Лаўксадзіс, бацька жывы і, несумненна, нецярпліва яго чакае. Пра лёс брата Мікаласа, праўда, нічога не чуваць, аднак трэба спадзявацца, што ён своечасова даўмеецца ўцячы з войска і ў адзін цудоўны дзень заявіцца дамоў. Вось і спраўдзілася яго запаветная мара, з-за якой ён не спаў начэй, чакаючы той паваротнай часіны, калі ён зможа без боязі хадзіць па роднай

---

[1] «Германія, Германія вышэй за ўсё!» (*ням.*)
[2] З верша Майроніса — выдатнага літоўскага паэта.

зямлі. Аднак... Аднак родная зямля з дня на дзень пачынала рабіцца ўсё чужэйшая і ненадзейнейшая. Ён ужо не адчуваў радасці. Тры тыдні таму назад, калі аркестр грымнуў нацыянальны гімн і жоўта-зялёна-чырвонае палотнішча ўрачыста папаўзло па флагштоку ўгору, ён не ўтрымаўся ад слёз, а цяпер спакойна, нават абыякава пазіраў на трохкаляровы сцяг, што вісеў на доме гарадской самаўправы, нібыта гэта была звычайная палатняная ануча. Зрабілася ніякавата, калі прыгадаў тую дурную сваю сентыментальнасць (хоць тады ў далёкім жэмайцкім гарадку расчуліўся не ён адзін), і ён пачаў думаць пра кухаль халоднага піва і пра Фрыдманаў склеп; вось дзе добра было б перадыхнуць з дарогі і спатоліць смагу. Але на месцы, дзе ўсе гады высілася піўніца, ляжала цяпер груда курных развалін. Некалькі хвілін таму назад Гедымінас праміну ў самы шыкоўны рэстаран у Краштупенах, аднак там на дзвярах вісела шыльдачка з перасцярогаю: «Nur für Deutsche!» [1]

Яго занудзіла; адчуў, што раптам расхацелася, зусім расхацелася піва, і калі б у гэтую хвілю хто прапанаваў яму кухаль, мабыць, не звалодаў бы з сабою і паслаў бы яго да д'ябла. Чамусьці прыгадалася студня. У Краштупенах студняў не бракавала, мог падысці да любой і напіцца чыстай сцюдзёнай вады, аднак у вачах стаяла т а я студня. Яны (тады ён вучыўся ў гімназіі ў першым ці ў другім класе) адкідвалі з цэментавага зруба цяжкое замшэлае века і, абступіўшы наўкола, пазіралі ў прахалодную глыбіню, у якой адбіваўся круглы акравак неба, абтулены іхнімі галовамі. Было боязна і разам з тым прыцягальна-прыемна адчуваць, што ты можаш сарвацца і незваротна згінуць у прыцемнай прорве, але што гэтага не здарыцца, бо цябе сцеражэ добры надзейны зруб.

Цяпер студня была на замку, і нават вядро адчапілі ад ланцуга — летнія канікулы... На апусцелай пляцоўцы самотна тырчалі белыя баскетбольныя шчыты, валейбольныя слупы, гімнастычныя брусы... Нязграбны будынак гімназіі — двухпавярховая цагляная скрынка пад чырвоным чарапічным дахам — быў жудліва пусты і сіратлівы; цяжка ўявіць, што тры месяцы таму назад (толькі тры месяцы!) цябе, як сабаку, вытурылі адгэтуль і ты да ночы блукаў па крывых завулках прадмесця, вярэдзячы сябе думкамі: хіба справядліва караць чалавека за тое, што ён

[1] «Толькі для немцаў!» *(ням.)*

любіць мінуўшчыну свайго народа. Было б цікава сустрэць зараз дырэктара гімназіі і паглядзець яму ў вочы. Альбо Баўкуса, настаўніка матэматыкі. Нікчэмнікі... Няхай невінаватыя, але нікчэмнікі. Цяжка будзе працаваць разам з імі, калі давядзецца.

Гедымінас, схмурнеўшы, рушыў па вуліцы. Міма праходзілі тры яўрэі — муж з жонкаю і падростак-хлапчук. Гедымінас павітаўся — гэта была сям'я купца Бергмана. Яму адказалі баязлівымі позіркамі і пакорлівымі паклонамі. Пан настаўнік! Ой, ён добры чалавек, гэты пан настаўнік... Ну, але калі ты адзначаны зоркаю Давіда і цягнешся па бруку, быццам конь балаголаў, а яму належаць усе тратуары, такім людзям зручней было б не заўважаць адзін аднаго.

Па тратуары, ледзьве не зачапіўшы Гедымінаса, на ровары прамчалася дзяўчына. Беласнежная блузка, чорныя тоўстыя косы — нібы пакладзіся на снежным полі дзве свежаўзараныя баразны. Аквіля! Божа мой, які цесны свет!

Гедымінас, нібы яму спуталі раптам ногі, прыхінуўся да плота. Голыя, колеру бронзы рукі, доўгая прыгожая шыя, сінія чаравікі...— о так, яна любіць кантрасты.

Некалькі імгненняў Гедымінас глядзеў услед ровару, пасля адарваўся ад плота і, перамагаючы знясіленасць, кінуўся наўздагонкі.

Аквіля злезла з ровара і цяпер ішла па бруку разам з Бергманамі. Ён уявіў яе вуглаваты, не дужа прыгожы, але шчыры і мілы твар, шэрыя, з сінім адценнем, вочы, трохі асіметрычную ўсмешку вабных губ. Яна заўсёды гэтак усміхалася, калі Гедымінас спрабаваў ёй сказаць больш, чым дазвалялі адносіны, і тады ён без усялякіх слоў разумеў, што спадзяванні яго дарэмныя.

У нерашучасці ён спыніўся. Усё гэта не мае ніякага сэнсу, ніякага сэнсу. Яна ж, напэўна, пазнала яго, і аднак... Не, няма чаго лезці самому ў вочы.

Беласнежная блузка і тры жоўтыя шасцікутныя зоркі пасоўваліся па вуліцы, што падымалася ўгору. На сонцы бліішчаў яе нікеляваны ровар, а таксама шпількі ці, можа, грабянец у валасах. Гедымінас, як набіты, валокся ззаду, і баючыся, што яна можа азірнуцца, і жадаючы, каб яна азірнулася. Калі яны ўчатырох, выйшаўшы на рынкавы пляц, прапалі з вачэй, Гедымінас ізноў заспяшаўся. «Дурноцце... дурноцце...» — шаптаў ён сабе і ўсё роўна бег. Выскачыў каля касцёла на рынкавы пляц і ра-

зявіў рот ад здзіўлення: яўрэі зніклі, нібы скрозь зямлю праваліліся, а дзяўчына ў беласнежнай блузцы стаяла каля дзвярэй крамы, паставіўшы адну нагу на педаль ровара, і гутарыла з нейкім мужчынам.

Гедымінас у думках злаяў сябе. Ашалеў ён, ці што, калі ў кожнай дзяўчыне з чорнымі косамі бачыць Аквілю...

З двара валаснон управы паказаўся чалавек у мундзіры. Паліцэйскі. Гедымінас выняў з кішэні запэцканую насоўку і, наўмысна спыніўшыся пасярод тратуара, узяўся абціраць спатнелы твар. Нічога! Гэткія паны могуць і абысці.

Паліцэйскі рухаўся проста на яго, нібы вырашыў, не зважаючы ні на што, трымаць гонар прадстаўніка ўлады. Ён гняўліва насупіў лоб і ўжо прыўзняў далонь, каб прыкласці да шапкі, як неспадзявана ўвесь падабрэў, зіміргаў рудымі невялічкімі вочкамі, твар расцягнуўся ва ўсмешцы.

— Гедміс! Каго я бачу! — гукнуў ён, шырока растапырыўшы рукі.— Няўжо гэта на самой справе ты, няшчасны ўцякач? Не можа быць!..

Гедымінас, страшэнна ўражаны, адступіў назад. Перад ім стаяў Аквілін брат — Адомас Вайнарас; яны і нарадзіліся, і выраслі ў адной вёсцы, разам хадзілі ў гімназію і моцна сябравалі, хоць, праўда, у апошнія гады іхнія інтарэсы не дужа супадалі. Гедымінас глядзеў на высокую мажную паставу сябра (Адомас быў амаль на цэлую галаву вышэйшы за яго) і не ведаў, плакаць яму ці смяяцца. Ён уяўляў Адомаса кім толькі хочаш — калгаснікам, паштальёнам, валасным пісарам, толькі не паліцэйскім.

— Не думаў не гадаў, што ты зробіш такую кар'еру,— прызнаўся ён, калі абодва пасля сяброўскіх абдымкаў дапытліва пачалі аглядаць адзін аднаго.— Паліцэйскія пагоны, шапка... Дык што ты за птушка, пярун на цябе?!.

Адомас дабрадушна зарагатаў.

— Вы стаіце перад начальнікам паліцэйскага ўчастка Краштупенаўскай воласці, пане настаўнік!

— Віншую, віншую...— Гедымінас нагнуўся, каб падняць насоўку, што раптам выпала з рук. Потым паволі і доўга разгінаўся, адчуваючы на плячах нейкі гнятлівы цяжар.

— Я страшэнна рады, Гедміс, што ты вярнуўся! Гайда ў «Тры асілкі», да братоў Маркайцісаў. Раскажаш, дзе цябе д'ябал насіў, дзе ашываўся, што рабіў. Ну!..— Адомас

павярнуў Гедымінаса за плечы і штурхануў з тратуара.— Носам наперад... марш!

«Добра было б, калі б сёння я патрапіў у Лаўксадзіс,— падумаў сабе Гедымінас,— і, вядома, цвярозы. Але, так ці гэтак, мы сябры, адзін аднаго больш любім, чым ненавідзім. Чаму ж, напраўду, не махнуць рукой на ўсе колішнія ростыркі і не парадавацца, што мы зноў сустрэліся, бо ўсё магло быць інакш».

— Добра,— згадзіўся ён.— Але давай не напівацца. Калі напіваемся — заўсёды сварымся.

— Нап'ёмся, яшчэ як нап'ёмся, галубок! Усё будзе, як мае быць між сапраўднымі сябрамі. Цябе чакаюць добрыя навіны, Гедміс. Наогул, тут вельмі цікаваліся вашай асобай, пане настаўнік. Ну, зразумела, з добрага боку. Але пра гэта пазней. Цяпер ты лепш растлумач мне, на якое ліха ты дэзерціраваў з краштупенаўскіх краёў? І каму сёння павінны дзякаваць за тое, што маем нагоду абмыць тваё вяртанне.

## II

Здаецца, якраз вячэралі ці толькі што скончылі, як у хату ўбегла наймічка Гульбінасаў Мігла-Дарата, якую ў вёсцы ўсе называлі Міграта, і, захліпаючыся ад слёз, паведаміла, што забралі гаспадароў.

Бабуля Брыгіта ляжала на ложку распухлая, як гара. Ёй было семдзесят пяць, другое лета не ўставала з ложка, ела за дваіх і не магла памерці. А ў Анэлі Гульбянені, унучкі, усё жыццё заставалася наперадзе. Божа, божа, які ты часам жорсткі і несправядлівы.

Маці, таксама Анэля, як толькі пачула гэтую жахлівую навіну, перажагналася і пачала ўставаць з крэсла, але ў гэты ж момант павалілася на падлогу. Яе перанеслі на ложак, вярнулі да жыцця, але ўжо да світанку ніхто ў хаце не змружыў вачэй.

Як толькі пачало днець, Гедымінас паехаў у Краштупены. На чыгуначнай станцыі, загнаныя на запасны пуць, стаялі пашарпаныя таварныя вагоны, прызначаныя, каб перавозіць быдла. Каля кожнага вагона туды-сюды пахаджаў абмундзіраваны вартавы ў сіне-чырвонай шапцы і з карабінам у руках.

Гедымінас хацеў знайсці вагон, дзе сядзелі Гульбінасы; спадзяваўся, што яму ўдасца пабачыцца з сястрою і

шваграм, але вайскоўцы адганялі кожнага, хто падыходзіў бліжэй да саставу.

Калі вяртаўся дамоў, Гедымінас усю дарогу думаў, як часам дзіўна паварочваецца чалавечы лёс. Варта было б Анэлі выйсці замуж не за Гульбінаса, а за Анзельмаса Лукошуса, які ўвіваўся каля яе, і не сядзела б яна цяпер у вагоне. Не сядзеў бы і Гульбінас, калі б некалі, уцякаючы ад галечы (іх было васьмёра дзяцей у сям'і на чатырох гектарах зямлі), не падаўся ў Амерыку, не зарабіў грошай, не ашчадзіў іх, а калі вярнууўся, не пайшоў у прымы ў фальварак да маладой удавы Гурскені, якая праз некалькі гадоў памерла. Анэлі рупіла стаць паняй, гэта яе і згубіла. «На трыццаць гадоў старэйшы? Падумаеш!.. Кожны разумны чалавек скажа, што лепш пад залатой барадой у старога, чым пад канаплянаю пугаю ў маладога». Анзельмас Лукошус застаўся са сваёй канаплянаю пугай. Зрэшты, яго барада таксама магла пазалаціцца, калі б лёсу не захацелася пажартаваць з яго. Анзельмасу больш падабалася бавіць час у вясёлым застоллі з картамі і збанком піва, чым займацца сваёй гаспадаркай, на якой гнулі спіны трое парабкаў. У трыццаць восьмым яе прадалі з таргоў, а праз два гады прыйшла савецкая ўлада. Анзельмас залазіў на рыначным пляцы на бочку, размахваў рукамі, пагражаў класу прыгнятальнікаў: «Крыўдзіцелі! Паразіты! Настала гадзіна адплаты. Хто быў нічым, той стане ўсім!» Анзельмаса ўзнагародзілі надзелам з яго колішняй гаспадаркі. Наваселец. Праўда, гэта было не тое багацце, якое меў, не тыя сорак гектараў, аднак, так альбо гэтак, больш не давядзецца капаць равы...— да пары да часу.

Гедымінас яшчэ не заехаў на двор, як адчуў, што дома нешта здарылася. Бацька стаяў на ганку, белы як палатно. З адчыненых дзвярэй цягнула холадам і паленым воскам.

— Заварочвай назад,— глуха сказаў стары, топчучыся босымі нагамі.— Труна трэба... І званы заказаць... Няма ў нас больш маці, мой сыне...

Вечарам на памінкі сабралася шмат народу. Піва толькі пачалі варыць — ніхто ж не чакаў смерці! — аднак і без яго пеўчыя стараліся ад душы, бо Анэля Джугеня сваёй працавітасцю, сваім добрым характарам і светлым розумам заслужыла любоў і павагу ўсіх. Гедымінас глядзеў на яе вузлаватыя рукі, спавітыя чорным ружанцам, і прыгадваў сваё маленства, калі маці была прыгожая і мала-

дая і яе пальцаў яшчэ не пакруціў раматус, і яму хацелася падысці, пакласці галаву на яе застылыя грудзі і выплакацца ўволю.

Бліз паўночы, калі пачалі спяваць «Пагоркі», сусед шапнуў Гедымінасу, каб ён выйшаў на двор.

Ля плота стаяў бацька, заліты бляклым месячным святлом. Зеленкаватае чэрвеньскае неба было цёплае і мяккае, як паляна, засланая пралескамі. Пахла прахалоднай вільгаццю поля, канюшынай, і гэтае адроджанае хараство прыроды, невычэрпная яе жыццёвасць так не стасаваліся з хаўтурным спевам, што на некалькі імгненняў усё гэта здалося Гедымінасу жудлівым трызненнем.

— Дарма ты не ўцёк учора ўначы разам з Адомасам,— сказаў бацька.— Быў чалавек з Краштупенаў. Забіраюць усіх, хто служыў пры колішняй уладзе. Трэба табе недзе перачакаць, пакуль не пачнецца вайна.

— Як жа я мог уцячы ад маці? — запярэчыў Гедымінас.— І не развітацца з нябожчыцай...

— Нябожчыкам могуць дапамагчы толькі нябожчыкі, а жывыя павінны турбавацца пра сябе.— Бацькаў пагляд быў цвёрды і светлы, як першы лёд, а зблажэлы твар надзіва спакойны, аднак Гедымінас ведаў, што пад бранёй гэтага спакою віруе вулкан.

— Добра, тата. Але спачатку давай, калі ўсе разыдуцца, разам з табой пасядзім ля мамы.

На досвітку Гедымінас выйшаў з весніц бацькоўскага хутара, не ведаючы, ці вернецца калі сюды зноў. Ішоў не аглядаючыся, амаль бег, адчуваючы на губах мармуровы холад матчынага лба, а на плячах цяжкія бацькавы рукі, якія рэдка калі быў пяшчотны, але заўсёды справядлівы. Ён нават не ведаў, дзе спыніцца, што будзе рабіць,— усё засланяла сабою і, як бізун паганятага, гнала наперад адна-адзіная думка: хутчэй адгэтуль, хутчэй, пакуль не закарцела вярнуцца назад! Калі нарэшце адважыўся азірнуцца, хутар зліваўся з вёскаю ў адну засмужаную палоску на даляглядзе, адно спічастая вежа касцёла, якая ўразалася ў яснае ранішняе неба, пазначала мясціну, дзе заставаўся родны дом.

Толькі пад вечар Гедымінас уцяміў, куды яму трэба ісці. Недзе непадалёку мусіць быць чыгуначны паўстанак. Замест таго каб блукаць па крывых палявых дарогах, ён можа сесці ў цягнік і праз пару гадзін апынуцца ў Шылаі. Нікому і ў галаву не стрэліць шукаць яго там, і цётка не надта здзівіцца, бо ён не падзяляў бацькавых адносін

да яе. Праўда такі, Гедымінасу не падабалася, што Юргела вадзіўся з бальшавікамі, вызнаваў чужыя яму ідэі,— з такімі людзьмі Гедымінас не хацеў мець нічога супольнага. Ён нават дзівіўся, як магла цётка Пятроня пакахаць такога тыпа, але цяпер, калі яна аўдавела, трэба было б усё гэта скінуць з рахунку. Аднак бацька заставаўся няўхільны, усё даводзіў сваё: Пятроня зрабілася такая самая, як і яе нябожчык муж, і дзяцей яна выгадуе такіх самых — бязбожнікаў: людзей без бога і без айчыны. І ён не памыляўся — Гедымінас зразумеў гэта, ледзь толькі пераступіў парог цётчынага дома. Ва ўсіх трох пакоях дома не было нічога, што б нагадвала, што тут жыве чалавек, які шануе сямейныя традыцыі Джугасаў. Замест выяў старых літоўскіх князёў і святых абразоў на сценах віселі партрэты Леніна, Сталіна і дзесятак каляровых рэпрадукцый са сцэнамі грамадзянскай вайны ў рускіх. Абедзве дачкі цёткі Пятроні насілі чырвоныя піянерскія гальштукі, а сын Саўлюс быў камсамольцам. З Гедымінасам усе абыходзіліся як з блізкім сваяком — з павагай і добразычліва, але ён адчуваў, што трапіў у чужы свет, якога не любіць, а толькі трывае і ў якім яго таксама не любяць, а толькі трываюць, і чым хутчэй ён адгэтуль з'едзе, тым лягчэй будзе ўсім.

Гарадок Шылай немцы занялі на другі дзень вайны. Саўлюс намерыўся падацца разам з камсамольцамі, але Гедымінас з цёткай звязалі яго і зачынілі ў пакоі. Немцы культурныя і паважныя ваякі, даводзіў Гедымінас. Яны ваююць з мужчынамі, а не з жанчынамі і дзецьмі. Саўлюсу толькі шаснаццаць гадоў, яму яшчэ трэба падрасці, а не перціся немаведама куды на згубу.

Пятроня была звычайная жанчына, не гераіня, любоў да свайго дзіцяці засланіла ёй цвярозую развагу. І праўда ж! Саўлюс такі добры, слаўны хлапчук, ён нічога нікому не зрабіў благога. Вайна не разбіраецца, вінаваты ты ці не, раздушыць, як тую казюрку, а тут, пры немцах, яшчэ ўсяляк можа быць. Хіба яны людаеды?

— Цяпер ужо лепш забіце,— сказаў Саўлюс, калі яго развязалі.

Побач, ажно трымцелі шыбіны ў вокнах, праносіліся бронемашыны з нямецкімі салдатамі.

У той самы дзень у дом уварваліся тры ўзброеныя падлеткі і забралі з сабою Саўлюса.

— Божухна, што я нарабіла! — галасіла цётка Пятроня.

## III

— Я за тымі вісусамі ўслед — трэба ж ратаваць чалавека. Вінаваты, вядома: мітынгаваў, наюджваў брата-літоўца на брата, загідзіў сваё гняздо,— але каб адразу пад сценку? Досыць такому злупіць скуру, і ён прыйдзе да розуму. І ведаеш, Адомас, што мне сказалі? Сказалі, што, калі буду лезці, куды не просяць, палічаць зубы. Калі я назаўтра зноўку прыйшоў і стаў ім даказваць, што паводзяць яны сябе нягожа, дык на самой справе зарабіў па зубах; мне параілі, каб я больш сюды не патыкаўся, калі не жадаю апынуцца ў адной кампаніі з жыдамі і камсамольцамі. Праз некалькі дзён начальнік паліцыі арганізаваў дэманстрацыю ганьбы: усе заарыштаваныя мусілі несці лозунгі і партрэты бальшавіцкіх правадыроў, пляваць на іх і крычаць: «Няхай жыве новая Еўропа! Смерць азіяцкім ка́там!» Тых, што паводзілі сябе, як ім было сказана, пасля дэманстрацыі адпусцілі, але Саўлюс, а з ім яшчэ некалькі гэтакіх самых фанатыкаў залямантавалі «Інтэрнацыянал», іх зноў запхнулі ў сінагогу, а вечарам расстралялі. Я мусіў заставацца ў Шылаі яшчэ з добры тыдзень, баяўся, што цётка Пятроня нешта зробіць з сабой. Гэты дом, Адомас, ніколі мне не даруе за Саўлюса.

Гедымінас замоўк. З залы даносілася гамана развесялелых гасцей і назойліва-вясёлая музыка скрыпкі. У асобным пакойчыку, у якім яны сядзелі толькі ўдвух, было ўтульна, праз адчыненае акно плыло з саду свежае паветра, лёгка пакалыхваючы празрыстую льняную фіранку. Недзе непадалёку гучна іграла радыё, галёкалі дзеці, весела грукацелі па бруку колы сялянскай фурманкі. Захмялелымі вачамі Гедымінас пазіраў на бутэльку, што ўжо спаражнілася ніжэй этыкеткі, і адчуваў ва ўсім целе прыемную знямогу. «Чалавек некуды імкнецца, нешта асягае. А найбольшае шчасце, можа, сядзець, вось як цяпер, перад бутэлькай гарэлкі, есці начыненае парася і ні аб чым не думаць».

— Значыць, твая місіянерская дзейнасць скончылася няўдала: не ўдалося ўратаваць камсамольца,— нязлосна пакпіў Адомас.

— А ты? Многа іх уходаў? — у тон яму запытаўся Гедымінас, не падымаючы вачэй.

— Ведаеш, я мог бы каюкнуць Чырвонага Маруса.— Адомас па-дзівацку заўсміхаўся.— Ён ехаў на ровары, ззаду — пара гэтакіх самых тыпаў. Я стаяў у бярэзніку,

калі яны праязджалі побач са мной. Мог усіх трох адправіць на той свет. Сам не ведаю, галубок, чаму я гэтага не зрабіў. Напэўна, з-за Аквілі. А можа, таму, што мне агідна страляць чалавеку ў спіну, ды яшчэ свайму, літоўцу.

— Дзіва, дый годзе!

— Што?

— Што такія дабрадзеі, як ты, кіруюць паліцыяй, а яна ж стаіць на варце бандыцкага загаду, што прымушае людзей, як быдла, ісці пасярэдзіне бруку.

— Мы дамаўляліся, галубок, не гыркацца.— Адомас узняў чарку, падахвоціў Гедымінаса, і абодва, стукнуўшыся, выпілі.

Эліт, мая краса,
чаруюць твае ножкі,—

старанна выспеўваў па радыё тэнар.

— Калі яго слухаеш, можна піць гарбату без цукру. Я слодычы не люблю, але ўсе бабы закаханыя ў яго па вушы.

— Ён мне таксама не падабаецца, але гэта не важна. Лепш раскажы, як тут праходзіў фронт.

— Доўгая размова, галубок. У нядзелю папрылётвалі людзі з касцёла, не дачакаўшыся абедні,— вайна! А ў чацвер раніцаю немцы былі ўжо ў Лаўксадзісе. Мы плакалі ад радасці, Гедміс, як слязлівыя бабы... Думалі, рускія спраўныя ваякі, давядзецца з імі добра павалтузіцца. Дзе там! Ледзь толькі першы стрэл пачулі, драпанулі ва ўсе бакі, як зайцы. Да Нямунісаў зайшоў узвод напіцца, нашы хлопцы далі некалькі чэргаў ад хлява, і непабядзімая змылася ў жыта. Гітлерава армія чыста папрацавала, нам застаецца толькі навесці парадак. За вызваліцеляў, Гедміс!

— Гісторыя не ведае выпадку, каб адзін народ проста так сабе, з добрых пачуццяў, вызваляў другі народ.— Гедымінас адсунуў убок сваю чарку. Энтузіязм Адомаса яго злаваў.

— Каму-каму, Гедміс, а табе гэтак гаварыць не варта. Каб не немцы, нядоўга ты праседзеў бы пад цётчынай спадніцай.

— Затое цяпер мусяць сядзець іншыя. Гэтакія самыя літоўцы, як ты і я. Учора нас падбухторвалі адны, каб мы выразалі адзін аднаго, сёння — другія. І тыя і гэтыя запэўніваюць, што яны вызвалілі Літву, а вынік? Яшчэ некалькі такіх вызваленняў — і не застанецца нацыі.

— У мяне, пане настаўнік, няма гумору разводзіць балясы пра палітыку.— Адомас, не запрашаючы Гедымінаса, кульнуў чарку і не закусваючы загаварыў зноў. Ён быў раздражнёны.— Няхай я дурнейшы за цябе і не такі вучоны, але адно мне зразумела як белы дзень: калі табе намерваюцца ўсадзіць нож у сэрца, мусіш бараніцца ўсімі сродкамі, каб застацца жывым. Можа, немцы і не лепшыя за рускіх, аднак лепшыя за Марусаву зграю, якая прадавала нас рускім.

— А цяпер нас прадаюць немцам. Ці даўно ўсе сабакі брахалі пра незалежнасць, а дзе яна? Пан Амбразявічус са сваім кабінетам — папяровыя міністры; яны не кіруюць, а толькі перакладаюць на літоўскую мову загады акупантаў.

— На ўсё свой час. Дадзім спачатку Гітлеру ўправіцца са Сталінам. Так альбо гэтак, Грунвальд — сівая мінуўшчына, але, тым не менш, мы маем большую падставу давяраць нашчадкам рыцараў, чым дзікім азіятам, галубок. З Захадам наш народ ваяваў, а для Усходу быў рабом. Я аддаю перавагу рыцару, а не тырану.

— А я не веру ні ў адных, ні ў другіх. Калі можна цяпер у каго-небудзь верыць, дык толькі ў саміх сябе.

— Ты хочаш сказаць: у свой народ, у літоўцаў? Вядома, Гедміс! Сёння гэта найважней за ўсё.

— Не ў свой народ, а ў сябе! Літоўцы паспелі ўжо даказаць, што ўласнаручна не могуць жыць. Працавітае паслухмянае быдла, неблагі гурт, але яму трэба чужыя пастухі, якія б увесь час ляскалі над вухам бізунамі. Неўзабаве пра іх зможам сказаць так, як некалькі гадоў таму назад сказаў адзін наш паэт, калі ў яго папрасілі напісаць аўтабіяграфію: «Аўтабіяграфію? Навошта? Літоўскі народ вымер, а мова, на якой я хацеў бы пісаць, забыта». Верыць у тваіх літоўцаў, у гэтых пакорлівых рабоў, азначала б браць на сябе адказнасць за іх, а я не хачу адказваць за ўвесь гурт, хоць і сам да яго належу. Усіх нас гоняць у адзін хлеў, але ў яго можна трапіць праз розныя дзверы. Я хачу выбраць хоць бы дзверы.

Адомас адсунуўся з крэслам ад стала і моўчкі свідраваў Гедымінаса пачырванелымі вочкамі. Гладкі паголены твар палымнеў і бліщчаў, нібы паліраваны.

— Што з табой сталася, Гедміс? — ціха запытаў ён, болей са скрухай, чым са здзіўленнем.

— Тое сама, што і з многімі, з табою, напрыклад. Толькі ты яшчэ не зразумеў, што адбылося. Праз які год,

а можа, і раней, калі ўсё акрэсліцца, выдатна зразумееш мяне.

— Паважныя людзі маюць да цябе каралеўскую прапанову — мог бы заняць пасаду бурмістра ў Краштупенах. Але хто ведае, ці не будзе пану настаўніку, які ўдасканальваўся на бальшавіцкіх курсах сваёй цётухны, такая пасада задробная?

— Твая праўда: пан настаўнік безнадзейна сапсуты чалавек і, апроч таго, не мае ніякіх заслуг...

— Вы няўдзячны свінтус, пане Джугас.— Адомас устаў, выпіў адну за адной дзве чаркі і зноўку гупнуўся ў крэсла. Гедымінас, апусціўшы вялікую калматую галаву, нешта крэмзаў пальцам на стале. Буйны, нібы прыклееены, нос, шырокія косці шчок, ніжняя частка твару выдаецца наперад. На тоўстых губах з'едлівая ўсмешка. Мыза, што ў малпы.— Чаго выкрыўляешся? Хочаш, каб табе падалі гатовы смажаны кавалак на талерцы? Але ж нехта мусіць павышкрабаць бальшавіцкі гной, да д'ябблаў! — Адомас грымнуў кулаком па стале, нават посуд падскочыў.— Вы адзін з тых езуітаў, пане настаўнік, якія кажуць: чаму конча я павінен рабіць, няхай іншыя робяць!

— Так і думаў, што мы пасварымся.— Гедымінас падняў перакуленую чарку, хацеў быў наліць, але бутэлька была пустая.

— Гэй, гарэлкі! — крыкнуў Адомас.

У дзвярах з'явіўся невялічкі чалавечак з круглым і звялым, нібы печаны яблык, тварам, адзін з трох братоў Маркайцісаў, якім належаў рэстаран.

— Калі хочаш яшчэ выпіць, давай лепш не будзем гаварыць пра палітыку,— прапанаваў Гедымінас, калі Маркайціс знік за дзвярыма.

— Добра, не будзем гаварыць пра палітыку,— мірна адказаў Адомас, раптам супакоіўшыся.— Памятаеш Пятраса Брэдзіса? У адным класе вучыліся. Слаўны быў хлопец. У гімназіі яго называлі Брэдзькам. Калі прыйшлі немцы, спаў у клуні. Пачуў, што страляюць, з перапуду выскачыў на двор — і зарабіў кулю ў лоб.

— Няшчасны выпадак.

— Краштупенаўскага пробашча Раўгіса таксама ўжо няма ў жывых — бальшавікі, уцякаючы, пусцілі ў расход.

— Вечны яму супакой...

— А тваю бабулю Брыгіту — мабыць, ужо ведаеш? — пахавалі на другі дзень вайны.

— Ага... Бедная бабуля...

— Стары чалавек, нічога не зробіш. Кожнага гэта чакае. Мікаласа, вось каго шкада.

— Я чамусьці веру, што ён яшчэ аб'явіцца...

— Павінен бы. Не дурны хлопец быў, хоць з войскам выйшла не надта латва: мог бы восенню не адазвацца на позву, счакаць...

Вярнуўся Маркайціс з графінам гарэлкі і двума кухлямі піва.

Адомас напоўніў чаркі.

— Вып'ем за вечную памяць нябожчыкаў, Гедміс. За тваю маці, бабулю, Брэдзьку, ксяндза Раўгіса.— Яны ўсталі і, стукнуўшыся чаркамі, урачыста выпілі.— Маленькая наша Літва, але крыві праліла багата. І яшчэ больш пральне! Вып'ем за тых, што чакаюць сваёй чаргі. За будучых нябожчыкаў, Гедміс! За сябе! — Па шчоках у Адомаса цяклі п'яныя слёзы.

— Ат, не гавары ўсялякай брыды.

— Так, мы брыда, Гедміс! Усе брыда! Самі сабе здаёмся добрымі, а іншым — брыда.

— Ты не гэтак мяне пачуў.

— Чакай! — Адомас нецярпліва махнуў рукой. Грудзі ў яго цяжка хадзілі пад спацелай кашуляй.— Мы не можам быць інакшыя: у свеце ўсё так спарадкавана, што, робячы добрае аднаму, немінуча зробіш кепскае другому. Скажам, ты займаеш адказную пасаду і па сваіх пераканаччях — патрыёт. Сям'я таксама на ўзроўні. Але аднаго дня прыходзіць да цябе сястра, брат ці яшчэ які лысы д'ябал з радзіны і кажа: у нас у клуні ляжыць цяжка паранены рускі салдат — дапамажы! Вось якія справы, чорт вазьмі! — Адомас скрыгітнуў зубамі.— Ты ўцягваеш у гэтую афёру знаёмага лекара, шаноўнага бацьку сям'і, ставіш на карту яго лёс, ды і не аднаго яго, альбо выдаеш сваіх блізкіх, альбо... Ха-ха-ха! Вы ж, аднак, мудрэц, пане настаўнік! Саламон! Можа, скажаце, як падзяліць такое дзіця?

Гедымінас доўга і ўважліва пазіраў на Адомаса, рогат якога быў нейкі жудасны.

— Думаю, дзіця падзялілі ўжо і без мяне.— Гедымінасу раптам зрабілася сумна і чагосьці шкада.— Мы яшчэ не падымалі чарак за шчырасць, Адомас. («І яшчэ за аднаго нябожчыка, а можа, за нябожчыка, які пакуль што жыве,— за наша сяброўства».) Вып'ем за тое, што было

найлепшае паміж сябрамі і чаго, напэўна, ніколі не будзе больш.

— Цыцэрон,— прамармытаў Адомас.

Гедымінас перахіліўся цераз спінку крэсла, на якой вісеў пінжак, дастаў непачаты пачак папяросаў і закурыў. Першы раз за два тыдні з таго дня, як вырашыў больш не курыць. Уся прастора запоўнілася ваганнем і хмельнай музыкай, і ён паплыў гэтай хвалістай пустатой, атулены падманлівым пачуццём супакаення.

«Чаму я не пытаюся пра Аквілю? Не, не трэба. Тут гэтак брудна, гэтак шмат пылу. На стале, на падлозе, на вопратцы. Бруд! Тлустыя рукі, падбароддзі, вочы, спацелыя кашулі. Бруд і тлушч! А ў яе блузка такая бялюткая, так пахне дажджавою вадой...

О, прыйдзі хоць на хвіліну госцяй
у маё забытае жыццё!..»

## *Раздзел другі*

### I

Будынкі стаялі панурыя, нямыя, з жалобна завешанымі вокнамі, некаторыя адгарадзіліся ад свету аканіцамі і замкнёнымі брамамі, але ўсе яны былі надзіва падобныя адзін на аднаго: немагчыма было распазнаць, хто з іх сапраўды ў смутку, а хто прыкідваецца, са зласлівай радасцю пазіраючы праз шчыліны занавесак на ненавісныя твары і цешачы сябе думкай, што ў самы раз падрыхтаваў букет кветак вызваліцелям.

Каля касцёла Аквіля ўбачыла разбіты вайсковы грузавік: нехта шпурнуў у яго са званіцы касцёла звязку гранат. Параненых павезлі, а жахліва знявечаныя, парваныя на кавалкі трупы ўсё яшчэ клалі на фурманку развозчыка тавараў. Двое з чырвонымі павязкамі на рукавах вялі па бруку сівагаловага ксяндза. Раўгіс! Аквіля хацела прывітацца: «Слава Ісусу Хрысту!», аднак адзін з хлапцоў быў блізкі Марусаў прыяцель, і яна пасаромелася.

— Што ён зрабіў? — запыталася толькі.

Бязмоўны ўзмах рукі ў бок узарванага грузавіка; на нагрэтым на сонцы бруку блішчала яшчэ не засохлая кроў.

Вокны выканкама былі выбіты — непадалёк выбухнула бомба. Смуродліва пахла гарэлым. Праз шырока адчы-

неныя дзверы і аконныя прахоны вецер вымятаў абгарэлыя рэшткі папер, яны ляцелі на вуліцу, сцелючыся на засмечаны, разварочаны тракамі танкаў брук.

Марус і яшчэ некалькі мужчын на падворку грузілі на машыну нейкія скрынкі. Усе былі ў адных кашулях, разагрэтыя, са счарнелымі тварамі. Побач стаялі козлы з трох вінтовак. У Маруса ў задняй кішэні штаноў тапырыўся наган.

— Вось і я! — сказала яна, нібыта прыйшла на звычайнае спатканне.

Марус доўга заштурхоўваў скрынку ў кузаў. Куды даўжэй, чым гэта было трэба. Запэцканая клятчатая кашуля надзімалася, нібы кавальскі мех. Ці на самой справе гэта яго спіна?

— Вось і я, Марус,— паўтарыла яна ўжо не гэтак адважна.

Пагляды мужчын скіраваліся на яе клумачак. Яна не бачыла тых паглядаў, але цяжар, які станавіўся ўсё большы, адцягваў рукі ўніз. «Не трэба было ўчора казаць, што чакаю дзіця». Яе ахапіў страх.

— Я хацела пабачыць таварыша Нямуніса,— прамармытала яна збянтэжана.

Ён паволі павярнуўся. Твар у яго быў скамечаны, непрыгожы, па-дзіцячы надзьмутыя губы дрыжалі.

— Ты? — здзівіўся ён, не хаваючы незадавальнення.— Як ты сабе думаеш, ці не лепш сядзець жанчынам у гэты час дома?

— Мой дом там, дзе ты, Марус.

— Здаецца, учора пра ўсё дамовіліся. Мусіла б зразумець... Вайна — не прагулянка на ровары ў нядзелю.

— Але ўчора ты сам сказаў, што Чырвоная Армія магутная, адкіне немцаў... мы тады вернемся...

— У гэтым няма ніякіх сумненняў. Таму самае разумнае для цябе — пайсці дадому і чакаць.

— Чакаць? — Яе позірк наткнуўся на яго змаркочаны твар, на якім было высечана няўмольнае рашэнне.— Ты хочаш кінуць мяне?.. Як жа, зручная прычына, каб пазбавіцца ад мяне... Не, не! — Яна прыпала да яго і абедзвюма рукамі абхапіла за шыю.— Я не застануся, я не магу заставацца адна!

— Аквіля... дзяўчынка... дарагая... будзь разумніца...— Ён гладзіў яе па плячах і лепятаў тыя самыя словы. Потым узяў яе рукі і пачаў адрываць ад сябе. Ніколі

яшчэ яго далоні не былі такія нелітасціва жорсткія і цвёрдыя.

Яна заплакала.

Тады ён адпусціў яе, і яна зноў кінулася яму на грудзі.

Нехта з яго хаўруснікаў нецярпліва закерхаў, нехта ў яе за спіною з прыкрасцю сплюнуў — Маруса чакаюць. Чакаюць мужчыны, чакаюць тры вінтоўкі і грузавік, які яшчэ трэба загрузіць. А кожнага хто-небудзь чакае дома. Толькі немцы не чакаюць. Задымленае неба грыміць, як бубен. Бура! Набліжаецца бура!

— Ачомайся, старшыня, годзе! Можа, гэту кулацкую пташку контра знарок падсадзіла? Пакуль вы тут кешкаецеся, яе дружкі нам засаду ладзяць.

Быццам граната грымнула паміж імі. Яна адскочыла ад Маруса і пабегла; ён так і застаўся з прыўзнятымі рукамі, нібы абдымаў яе. Цыбаты міліцыянер з крывым каркам разявіўся, нібы збіраўся цыркнуць праз зубы слінай. Яна не бачыла, хто сказаў тыя словы, аднак чамусьці была ўпэўненая, што гэта ён, крывашыі цыбун з рыбінымі вачамі.

Толькі недзе за рыначным пляцам яна спахапілася, што з ёю няма яе клумачка. «Там найлепшая мая сукенка і споднее. Той сухаты, напэўна, аддасць іх сваёй дзеўцы. Хаця не! Я ж кулацкая пташка, ад мяне, чаго добрага, можна набрацца. Яны спаляць гэтае адзенне альбо закапаюць яго ў зямлю». І яна пачала смяяцца, хоць нічога вясёлага ў такіх думках не было. Не заўважыла, як скончыўся брук, але калі перад вачамі адкрылася зялёная панарама лугоў і ў твар дыхнула пахкаю прахалодаю канюшыны, у грудзях раптам усё перавярнулася, і яна зноў заплакала.

Гэтак ішла яна па выбітай сцежцы ўзбоч рова, тонучы ў аблоках пылу, што ўздымаўся з дарогі ад праезджых сялянскіх фурманак і вайсковых грузавікоў з параненымі. У галаве было пуста, адно стаяў уваччу разлютаваны бык, той самы, які хацеў падчапіць яе на рогі, калі ёй ішоў чацвёрты ці пяты годзік. Бацька тады прапароў быка касою, і ўсе вельмі шкадавалі гэтую чыстакроўную, рэдкага заводу, жывёліну; пра гэты выпадак доўга гаварылі, а ўсіх тых размоў магло б і не быць (прынамсі, яна, Аквіля, магла іх не чуць), калі б ён паспеў спагнаць сваё шаленства на яе чырвонай сукенцы, якую ўжо быў пачапіў на рогі, як сцяг перамогі.

Потым яна падышла да драўлянага мастка, перакіну-

тага цераз Струмлю, невялічкую рачулку з незвычайна чыстай вадой, і, запавольваючы хаду, увайшла ў яе. Яна мыла твар, што ажно апух ад слёз, а рачны пясок цадзіўся між пальцаў босых ног, глядзела на бялёсыя падводныя воблачкі, якія, ледзь толькі іх патрывожыш, размываліся і знікалі разам з плынню, і тут, сярод гэтых аблачынак, ёй зноў пабачыўся бык — ён наставіўся на яе калючымі, нібы навостранымі, рагамі і вачамі, налітымі крывёю. Непадалёку два маладыя мужчыны касілі сена. Яна ўжо ўмылася і цяпер мыла ногі, задраўшы сукенку вышэй калень. Мужчыны пазіралі на яе з прагнай цікавасцю, аднак яна была цяпер малая дзяўчынка ў чырвонай сукеначцы, і ёй зусім не было сорамна. І з дна рачулкі ўжо не дзівіўся пагрозлівы бык. Залацісты пясок расцвітаў сярэдзінай лета, і Марус ішоў па туманлівым полі ёй насустрач, і цёплы паўднёвы ветрык калмаціў яго русявыя валасы, што пасмамі спадалі на шырокі лоб, блішчалі глыбокія цёмныя вочы. Чорны Кукса касіў яравую збажыну, якой сам не сеяў, а яго жонка з купай дзяцей гаспадарыла ў чужой святліцы.

— Як жывеш, бацька?

Бацька сёрбаў за сталом халодны боршч з бульбай.

— Нічога, кратаемся памаленьку, старшыня.— Можа, ён і хацеў бы паскардзіцца, але хто паспагадаў бы? Пакінулі ім паводле пастановы трыццаць гектараў...

— Кратаемся! — сарвалася з месца маці.— Ён і пад зямлёй будзе кратацца, хамут няшчасны, не слухайце яго, пане Нямуніс.

— Таварыш Нямуніс,— ветліва паправіў Марус.— Мы ніколі ні над кім не панавалі, грамадзянка Вайнарэня.

— Можа, і не панавалі, але няма сёння зласнейшых паноў, чым вы. Забіраеце зямлю, наводзіце поўную святліцу жабракоў. Паглядзіце на нашы рукі: якія мы паны? Рвёмся з самага ранку да позняга вечара горш за парабкаў — голыя, абдзёртыя, да сёмага поту. Вы рабаўнікі і галаварэзы, а не ўлада працоўных, па-не Нямуніс!

— Маці, э-э... угаманіся...— пралепятаў бацька.

— Не твой клопат, сядзіш і сядзі, баран з бараноў. На чужое дабро голы-босы прыйшоў, дык табе нічога не абыходзіць мянташыць языком. Не думайце, пане Нямуніс, што ўжо ўсё, што апошняе слова за вамі. Ніякая крыўда на зямлі не застаецца без адплаты. Прыйдзе час — адальюцца вам нашы слёзы.— І як развязала язык — па кутках парастаўляла ўсю працоўную ўладу.

Марус хадзіў па хаце і цярпліва чакаў, калі яна ўжо выгаварыцца. А Аквілі было сорамна. Нібыта першы раз пабачыла, якая звычайная вясковая баба яе маці.

— Мы не бяздушныя, матуля, разумеем вашу незадаволенасць,— сказаў Марус, калі яна выдыхнулася.— Але парайце, як зрабіць, каб і Чорны Кукса не быў жабраком, як вы яго назвалі, і вас не пакрыўдзіць? Савецкая ўлада дамагаецца лепшага жыцця для ўсіх. Вось мы і бяром у таго, хто мае замнога, і аддаём таму, хто нічога не мае. Вы ж набожная жанчына, ведаеце, што і Хрыстос загадваў дзяліцца з бедняком апошнім кавалкам хлеба, а тыя дзесяць гектараў, якія перайшлі да Чорнага Куксы, не складаюць нават чацвёртай часткі вашай маёмасці.

— Юда! Ён мяне катахізму будзе вучыць, пракляты бязбожнік! — кіпяцілася маці, калі Марус пайшоў.

Аквілі хацелася засмяяцца ёй у твар і назваць яе Катрай Табакай — такую мянушку ёй далі ў вёсцы, аднак толькі вымавіла:

— Культурны чалавек.— А ў думках дадала: «Калі б яна толькі ведала, што мы кахаем адно аднаго...»

— Бандыт!

— Хай так, але законы веры ён ведае лепш за некаторых хрышчоных каталікоў.— Яна з выклікам засмяялася і выйшла на падворак, намагаючыся заглушыць нядобрае пачуццё да маці. За дрэвамі, што раслі каля клуні, былі відаць палі збажыны — бялёсыя, як дно пясчанай рачулкі; яна глядзела ўдалечыню і не бачыла таго, каго хацела ўбачыць, аднак пэўна ведала, што ён дзесьці там і нікуды не падзенецца, бо ніхто не можа ўцячы ад свайго лёсу.

## II

«Тут прайшоў ён,— думала яна і не мела моцы адарваць позірк ад пяску, што размываўся плынню.— Я павінна дагнаць, чаго б гэта ні каштавала, павінна яго дагнаць». Бялёсае дно рачулкі здалося вялікім і ўтульным, як нагрэтыя на сонцы палі даспелай пшаніцы; яна хацела прытуліцца да залацістай прасторы і растварыцца ў цёплым хлебным водары, якім дыхала набрынялая ўраджаем зямля. «Чаго б ні каштавала, павінна яго дагнаць...» Ступіла адзін крок, і ўсё наваколле заліў дзіўны гул. Быццам зачапіла нагой сэрца нябачнага звона і яно ўдарыла ў гіганцкую медную глыбу, напаўняючы прастору гудзеннем,

якое распалася на тысячы дробных аскепкаў і са страхотным грукатам абрынулася на зямлю.

Яна ачнулася.

Мужчыны ўжо не глядзелі на яе, яны глядзелі на неба, усыпанае рухомымі крыжыкамі. Самалётаў было шмат, яны ляцелі, акуратна размешчаныя, як на парадзе. Цяжкія, непаваротлівыя. На крылах пярэдніх ужо можна было адрозніць пяцікутныя зоркі.

— Глядзі, глядзі! — загукаў адзін з мужчын.— Немцы!

У небе пачалі выбухаць фіялетавыя воблачкі. Строй вокамгненна зламаўся. Два самалёты, цягнучы чорныя хвасты дыму, разляцеліся ў процілеглыя кірункі і зніклі з вачэй, а трэці лопнуў, як дзіцячы шарык, і вогненнымі абломкамі апаў на зямлю.

— Вось як ваюе немец!

— Я нешта іх не адрозніваю... Дзе ён, твой немец?

— Святлейшы, з крыжамі на крылах. Хіба ты не адрозніваеш тых двух? Правей глядзі, правей! Не, іх трое. А вунь і чацвёрты! Ох, і ныркуюць, д'яблы, люба паглядзець. Як ястрабы на галубоў, напалі, спускаюць на дол аднаго за адным...

— Ага, бачу! Зноў аднаго падпалілі! — здзівіўся другі, паказваючы рукою на падбіты самалёт, які памкнуўся апусцелым паднябессем за лес і там выбухнуў, не дасягнуўшы зямлі.

Аквіля выйшла на бераг і пайшла далей узбочынай. Зямля была ласкавая і цёплая, як спіна дрымлівай жывёліны, паветра мутнае, насычанае пылам, і гэтакае самае неба — запылены каптур з блакітнага шкла. Побач ляскалі калёсы: іх цягнула сухарэбрая сіўка. На калёсах сядзеў дзяцюк гадоў трыццаці ў расшпіленай, з саматканага сукна, світцы і ў таннай, у палоску, кашулі; зверху яна была расшпіленая, і з-пад яе былі відаць зарослыя рыжым мохам грудзі. Ён пазіраў на Аквілю, нібы намерваўся і не рашаўся загаварыць да яе. Яна ж, пэўна, чула, як ляскочуць калёсы, як фыркае лядашчая кляча, аднак па-ранейшаму ішла па цёплай спіне дрымлівай жывёліны і не падымала вачэй. Ёй здавалася, яшчэ яна і не нарадзілася, а побач ужо тарахцелі гэтыя калёсы і фыркала гэтая занэндзаная сіўка, што яе не будзе ў жывых, а вечная спадарожніца — фурманка — усё роўна будзе грукацець, змушаючы яе глытаць гарачы пыл дарогі, якая ніколі не скончыцца. Потым яна пачула, як прагучала яе імя; яна падняла галаву, спынілася і стала глядзець у той бок, нібы ў варухлівую про-

рву, дзе толькі што прагрукатаў абвал. Сіўка таксама спынілася, перасталі ляскацець колы.

— Сядай хіба, падвязу дахаты,— сказаў той, што сядзеў на возе. Гэта быў Хвэлька Кяршыс — дзяцюк з іхняе вёскі. «Толькі б яна не адмовілася»,— з нейкай затоенай бояззю думаў ён у гэты час.

Наперадзе, за некалькі метраў ад таго месца, дзе стала сіўка, бальшак перацінаўся вузкакалейкаю. Вузкім ланцужком, далёка паадстаўшы адзін ад аднаго, ішлі тры салдаты. Яны былі зусім маладзенькія, амаль дзеці. Без зброі, рэчмяшкоў, адзін нават без пілоткі і дзягі — з гімнасцёркай, выпушчанай зверху штаноў. Блізка, каля чыгункі, жанчына даіла карову. Той, з выпушчанай гімнасцёркай, падышоў да жанчыны і, стаўшы на калені, доўга піў з вядра малако. Следам падышоў другі, за ім трэці, і ўсе яны апускаліся на калені і пілі з вядра пеністы сырадой. Жанчына стаяла, апусціўшы цяжкія сялянскія рукі, і сумнаківала завязанай у квяцістую хустку галавой — яна таксама мела дзяцей. «Ці пабачаць яны, тыя гаротныя маткі, сваіх сыноў?»

«Яны ідуць дамоў,— падумала Аквіля.— Усе ідуць дамоў, хто мае дом. Толькі Марус шукае сабе дом на чужыне».

Яна пералезла цераз роў і падала Кяршысу нямоглую руку.

— Дзякуй, калі падвязеш. Спякота сёння...

— Якраз на касавіцу,— прамовіў ён.

— Пэўна...

— А-эх, каб жа не вайна...— Кяршыс дадаў яшчэ нешта, але калі яна нічога не адказала, таксама замоўк.

Аквіля, стуліўшыся, сядзела на возе і адчувала побач з сабою нясмелае моцнае Хвэлькава плячо. Ёй было добра, што ён ні аб чым не распытвае і яна можа ехаць, занятая сваімі думкамі. Наўзбоч цягнуліся густыя палі збажыны, знаёмыя, што сустракаліся, прыўзнімалі шапкі — непадалёку была ўжо родная вёска, а яна ўсё думала пра тых маладзенькіх салдатаў, што, укленчыўшы, пілі малако, і пра мужчын на лузе, што лічылі падпаленыя самалёты. І яшчэ пра іхняе развітанне ў двары выканкама, якое здавалася ёй цяпер несапраўдным. Бачыла ўсё як праз густую імглу. Нейкія стракатыя варухлівыя плямы. Не магла ўспомніць нават Марусавага твару. Нібыта там была не яна, Аквіля, а іншая дзяўчына. Аквіля толькі сачыла за ёю збоку, і ёй

было шкада, вельмі шкада, што тая дзяўчына такая няшчасная і што ёй нельга дапамагчы.

Потым яна ўбачыла вайсковы грузавік, паабтыканы зялёнымі галінамі. Гэта ўжо не гульня ўяўлення, а сапраўднасць — ён імчаў ім насустрач з боку вёскі. У гэты момант паветра задрыжала ад аглушальнага выцця, і над самымі іхнімі галовамі, неймаверна нізка, люта хлябешчучы кулямётамі, хітнуўся жаўтабрухі дракон. Грузавік затармазіў, салдаты пасыпаліся ў равы, а сіўка, напалоханая нябачанай пачварай, кінулася ўбок па дарожцы, што натрапілася, і калёсы, трасучыся на калдобінах, панесліся праз жытнёвае поле. Аквіля ляжала, згарнуўшыся на дне фурманкі, прыдушаная чужым целам, і ёй было добра ў цёплым цемрыве, і зноў яна адчувала на сабе цвёрдыя Марусавы рукі, чула глухія ўдары яго сэрца і ўдыхала востры, як кроў, пах мужчынскага поту.

«Без каня мужыку нявыкрутка,— думаў Кяршыс, хмялеючы ад блізкасці жаночага цела.— Але яго можна купіць. А другой такой жанчыны, якая табе падабаецца, не знойдзеш ні за якія грошы. Няхай лепш ужо мяне самога заб'е».

— Дзіўна, як мы засталіся жывыя,— сказала Акviля, калі праз нейкі час, пасля таго як самалёт схаваўся з вачэй, абое выкараскаліся з лазовага хмызняку, у які зацягнула сіўка калёсы.

«Праўда,— падумаў ён расчаравана.— Магло хоць бы параніць...»

— Ну, усяго табе добрага, Хвэлька. Я амаль што дома.— Яна кіўнула галавой і пайшла, не падаўшы на развітанне рукі.

— Усяго добрага, Акviля.

Яна азірнулася і прымусіла сябе ўсміхнуцца.

— Ты добры, Хвэлька.

Ён праглынуў камяк, што захрас у горле. Рыжыя вейкі заскакалі, як матылькі проці сонца.

— А-эх, Марус нікуды не дзенецца, Акviля, ён вернецца зноў!..— выгукнуў ён, душачыся зманлівай дабратой.

У той вечар яна сядзела каля адчыненага акна. Па вясковай вуліцы на матацыклах, упрыгожаных кветкамі, праносіліся нямецкія матацыклісты: прыбраныя як на парад, закасаўшы да локцяў рукавы, яны махалі дзяўчатам і весела крычалі: «Fraülein, fahren Sie mit nach Russland! Fraülein, fahren Sie mit!» [1]

---

[1] Паненка, едзем з намі ў Расію! Паненка, едзем з намі! *(ням.)*

Маці стаяла каля варотаў са збанком піва і знакамі запрашала выпіць. Аднак яны толькі круцілі галовамі: «Danke schön, Matka. Wir werden uns in Moskau satt trinken» [1].

## III

Настала раніца, потым зноў прыйшла ноч, і зноў раніца. Час мігцеў, нібыта марскі маяк, а яна пасоўвалася наўзбоч гэтага маяка, як асуджаны на гібель карабель, і кожны пробліск святла ў каменнай цішы ёй здаваўся апошнім. Ёй хацелася як мага хутчэй патануць, але час, гэты прыроджаны мучыцель, марудзіў. «Ах, злітуйся! Хутчэй!..» — умольвала яна. Аднак час толькі ўсміхаўся (чараўнічая ўсмешка д'ябла) і круціў усё той самы фільм. І яна, можа, тысячы разоў бачыла вайскоўцаў — тых, што пілі малако, і гэтых, вясёлых, моцных, упэўненых у сабе, з закасанымі рукавамі,— і мужчын на лузе, і іншых мужчын — у двары выканкама, і крылатага, з жоўтым падбрушшам дракона, які пляваўся агнём, і, нарэшце, таго чужога, з кучаравымі грудзьмі, чалавека, які прыкрыў яе, Аквілю, ад куль, нібы крапасная сцяна, рызыкуючы сабой. Праклятая карусель! Калі ўсё гэта скончыцца? Якая сіла здолее спыніць забойча аднастайны рух машыны? Ах, можна звар'яцець!

Аднае раніцы яе абудзіў дзіўны погук. Клікаў не чалавек, не звер, а высокі бераг Гілужэ. У тым месцы яна часта сустракалася з Марусам. Ёй падабалася сядзець на стромістым пясчаным абрыве спакойным летнім днём і пазіраць, як дрэвы зялёнай сцяной падаюць у ваду і сярод іх у блакітнай глыбіні возера сцелюцца белыя пуховыя воблачкі. Свет здаваўся тады неабсяжным, без лішніх людзей, а яны — усемагутныя яго ўладары.

— Калі ты мяне пакінеш, Марус, я кінуся з гэтага берага. Адзінае месца, дзе я не пабаялася б памерці,— неяк сказала яна.

Ён бесклапотна засмяяўся, нават не падазраючы, што аднаго разу гэта ледзьве не здарылася. (Між імі не было ніякіх таямніц, але гэтай сваёй таямніцы яна саромелася і хавала яе ад усіх, нібыта была гэта атручаная студня.) Праўда, Марус ведаў, што ён у яе не першы, перад ім быў пан Кантроль, але гэта было нешта зусім іншае. О, гэты

---

[1] Вялікі дзякуй, маці. Мы нап'ёмся ўдоволь у Маскве *(ням.)*.

матацыкліст у брэзенце, лятучы пострах малочнікаў! Ён, як і кожны чалавек, меў імя і прозвішча, аднак чамусьці яго ніхто інакш не называў, толькі панам Кантролем. Малады, шалёна прыгожы хлапец з чорнымі вусікамі над пульхнай верхняй губой. Нявіннае аблічча дзіцяці і львіны, што адымаў волю, пагляд. Узор пяшчоты, мудрасці і мужчынскай сілы. Калі дадаць, што больш ніхто ва ўсёй воласці не меў матацыкла, не ўмеў так густоўна адзявацца, так зграбна танцаваць і спяваць, расказваць смешныя анекдоты, то адразу стане зразумела, чаму не знайшлося ніводнага жаночага сэрца, якое здольнае было б праціўіцца чарам гэтага маладзёна. Ён ездзіў па вёсках, замерваючы тлустасць малака, і хоць яго ўлада абмяжоўвалася гаспадарскімі каровамі, усе глядзелі на яго як на дужа важную асобу. «Што там начальнік Краштупенаўскага павета. Пан Кантроль — вось гэта фігура!»

Вясною Аквіля вярнулася з курсаў дамаводства. Неўзабаве ёй спаўнялася семнаццаць гадоў, і начамі яна доўга круцілася ў гарачым ложку, марачы пра выдуманага каханага. Ён быў падобны то на казачнага каралевіча, то на звычайнага юнака, пакуль аднаго разу, калі яна ішла з поля, яе не дагнаў матацыкл і дзіўны рыцар у скураным шлеме з вялікімі акулярамі не ўгаварыў яе сесці на задняе сядзенне. Яна не магла адмовіцца ад такога запрашэння («Пакатацца на матацыкле — божа, якое шчасце!»), і яны паляцелі па бальшаку, як на крылах: палохаліся коні, дзяўчат бралі завідкі. Потым абое гулялі ў сасонніку каля Гілужэ, а на другі вечар зноўку лёталі на тым страхотлівым жалезным птаху і зноў гулялі ў сасонніку. Ноччу да самага світанку яна, як на вуголлі, праварочалася ў ложку, яе палілі мары пра каханага, які цяпер, аднак, быў не ўяўны, а сапраўдны і меў аблічча не казачнага каралевіча, а пана Кантроля.

— Абнясу цябе на руках вакол зямлі і пакажу ўвесь свет,— гаварыў ён.

Ніхто дагэтуль ёй гэтак многа не абяцаў. І ніхто дагэтуль яе не падманваў. Праўда, маці часам не трымала слова, але ж на яе можна было не зважаць.

Увосень, калі абое ўдоўж і ўпоперак аб'ездзілі ўсе дарогі павета, пан Кантроль раптам знік: знайшоў іншую службу і дзяўчыну... Яна не паверыла чуткам («Ха, якія злосныя жарты!»). Сама пайшла ў Краштупены, адшукала яго кватэру. Вочы ў гаспадыні былі добрыя, поўныя мацярынскай спагады. Гэтай жанчыне нельга было не ве-

рыць. «Паганец! Лавец нявінных дзяўчат. Але цяпер і яму канцы: нейкая багатая ўдава падрэзала пташцы крылцы...»

Аквіля, як стаяла, асунулася на падлогу без прытомнасці. Потым доўга хварэла. Калі акрыяла, дрэвы стаялі голыя, у маркотных галінах свістаў халодны лістападаўскі вецер. Аквіля брыла па беразе возера, пад нагамі шамацела апалае лісце. Лісце, лісце... Чырвонае, жоўтае, шэрае лісце. Шматкі бляхі ад заржавелых надмагільных вянкоў. Ачарэпкі разбітых надзей. Яна ішла па тых ачарэпках, сунімаючы ў душы плач, а ў вушах звінела дзіўная музыка дзіцячых дзён. «А-а, а-а»,— спявала, схіліўшыся над яе ложачкам, мама, спявала сутонлівая столь, спяваў увесь пакой. І яна, зачараваная дзівоснай музыкай, паглыблялася ў салодкі нябыт, растаючы ў ім, як ільдзінка ў нагрэтай вясновым сонцам вадзе.

Тады маці яшчэ не была для яе Катрай Табакай, любіла яе, і Аквіля магла плаціць ёй тым самым.

І вось праз мноства гадоў у яе свядомасці зноў адгукнуліся акорды забытай музыкі, і яна ўжо не ішла, а бегма бегла, адчуваючы, як набліжаюцца шырока адтуленыя абдымкі вечнага адпачынку, і баючыся, каб дзіва не знікла.

Чамусьці ёй здавалася, што яе чакае менавіта абрыў, што гэта самае адпаведнае месца для таго, каб... Яна паглядзела ўніз, на шумлівую неспакойную ваду. З пахмурага неба апускаўся на возера адвячорак — прамоклы, брудны і стомлены, нібы жабрак, што прабадзяўся ўвесь дзень. Паўз абрыў, скачучы з хвалі на хвалю, плыла лодка. За вёсламі сядзеў чалавек у капелюшы з шырокім полем і, задраўшы галаву, пазіраў угору, дзе, хвастаная дажджом і ветрам, стаяла самотная постаць Аквілі.

— Гэй, мая дзяўчынка! — крыкнуў ён.— Табе трэба спяшацца дадому, а мой параход якраз ідзе ў гэтым кірунку. Прашу на прыстань! Білеты прадаюцца на месцы.

Яна нічога не адказала; у вушах яшчэ гучаў марш вечнага супакою. Аднак той, унізе, у сваёй нягеглай лодцы, налягаў на вёслы і, ні на пядзю не пасоўваючыся наперад, бесперастанку гукаў:

— Хутчэй, хутчэй, мая дзяўчынка! Ты ж не збіраешся тут начаваць?

Яна зноў нічога не адказала, але адчула, што музыка сціхла. Поўная абыякавасць авалодала ёю. «Чалавек — цацка ў руках лёсу». Яна спусцілася з абрыву і ўлезла ў лодку. «Лодка таксама ў руках лёсу. І гэты бурлівы вецер, і хвалі. Караблі тонуць не толькі ў моры...»

Марус, апрануты ў цёплае адзенне і ўвабраны ў брызентавы плашч, здаваўся груваcткім і няўклюдным. У нагах у яго ляжала некалькі рыбін, якія мацi заўтра павязе крамнікам у Краштупены. Лодка краталася па хвалях, падпарадкоўваючыся ягоным моцным рукам, але бераг набліжаўся вельмі паволі. У згусцелых прыцемках, пасінелая ад холаду, ляжала вёска з касцёлам; на ўлонні праяснелага неба былі відаць толькі яе невыразныя абрысы ды між дрэў ззялі агеньчыкі, нібы ў высокай траве рассыпаныя светлячкі. Потым зусім сцямнела, нарваўся яшчэ мацнейшы вецер, ён дзьмуў проста ў твар, а яны, прамоклыя, да касцей, ледзь-ледзь пасоўваліся наперад.

— Адна ўключына ледзьве ліпіць,— данёс вецер Марусаў голас.— Калі выламае гняздо... Памолімся, мая дзяўчынка!

— Патонем,— адказала яна, дрыжучы ад холаду.

— Гучней! Праз гэты чортаў вецер нічога не чуваць.

— Перакулімся! — крыкнула яна ў злоснай радасці.

— Не бойся! Чалавек не муха, а лодка не лапаць! — адгукнуўся ён.

— А я і не баюся. Толькі няхай усё будзе хутчэй. Мне холадна.

— Ты адважная дзяўчынка, чорт вазьмі! Відаць, гэта самае каштоўнае, што Вайнарасы маюць у сваёй гаспадарцы.

Аднак яна не абразілася за бацькоў. Падумала толькі, што цяпер лепш разумее, чаму яго не любяць і называюць Чырвоным Марусам. Акалелымі рукамі вылівала з лодкі ваду, якой усё прыбывала, і была ўпэўненая, што яны ніколі не даплывуць да берага. Заўтра, а можа, толькі праз тыдзень, хвалі выкінуць два трупы і дзіравую лодку, і ніколі ніхто не даведаецца таямніцы гэтага вечара. Ёй захацелася ачысціцца перад смерцю, захацелася выспавядацца (не важна перад кім, магла б і перад каменем, калі б не было побач жывога чалавека) у тым, у чым была вінаватая перад сабою і блізкімі, апраўдацца, чаму так здарылася. Яна не хацела браць усю віну на сябе. Перад усім светам не апраўдаешся, дык няхай хоць адзін чалавек даведаецца ўсю праўду. Вось гэты, асуджаны памерці разам з ёю.

І яна, захліпваючыся і душачыся ад вільготных парываў ветру, пачала расказваць сумную гісторыю свайго кахання.

— Ваду! Чэрпай ваду! — крычаў ён.

Але яна нібыта аглухла. Тады ён, сцяўшы зубы, яшчэ

мацней налёг на вёслы, якія трашчалі, быццам некаму ламалі косці. А калі яна выспавядалася і замоўкла — лёгкая, нібы пасля родаў,— Марус прамовіў:

— Гм... Па-свінску складана, мая дзяўчынка, але ў жыцці бывае і горш, куды горш бывае ў жыцці...

Нейкім цудам яны ўсё роўна прыбіліся да берага. Аквіля, адубелая ад холаду і стомы, не магла ўстаць з лаўкі. Марус выцягнуў яе з лодкі і да самага свайго дома нёс на руках, дыхаючы ў твар прыемнай, з пахам тытунёвага дыму, цеплынёй.

— Зойдзем да маіх старых, абсохнеш,— сказаў на падворку, ставячы яе на зямлю, асцярожна, нібы трэснутае шкло з лямпы. Праўда, голас у яго быў не такі ўжо цвёрды і ўпэўнены.

## IV

Хутка пасля гэтага прыйшло шчасце — акурат такое, якое ўяўлялася Аквілі. Яна чула: гісторыя паўтараецца, аднак думала, што гэта гаворыцца пра народ, а не пра асобных людзей, тым больш не пра яе. Аднак той раніцай у канцы чэрвеня, калі пасля чатырохгадовага перапынку ў яе вушах зноў зазвінелі акорды забытай музыкі і пачуўся прыцягальны голас пясчанага абрыву, яна зусім не здзівілася. Як звычайна, падаіла кароў, працадзіла малако і проста ад статка пайшла туды, перакананая, што назад не давядзецца вярнуцца.

Сухі бялёсы абрыў асвятляўся сонцам. На пяску валяліся папяросныя недакуркі, гарэлыя запалкі, за камлём прыбярэжнай сасны, у зацішку, застаўся адбітак падэшвы. За гэтыя некалькі дзён вайна разбурыла цэлыя гарады, а Марусавы сляды... Нібыта толькі ўчора ён тут сядзеў, курыў папяросу за папяросай, як дзіцяці, падносіў ёй запалку, каб задзьмула, а потым адыходзіў («Да заўтра, мая дзяўчынка...») сваёй грувасткай клышаногай паходкай, з якой яна часам нязлосна кпіла.

Яна зірнула з абрыву ўніз. У застылай глыбіні мігцелі перакуленыя дрэвы і жорсткая сінеча неба. Зажмурылася. «Адзін крок, і ўсё будзе скончана...» І тады адбылося нечаканае: абрыў заварушыўся пад нагамі, а да спіны дакранулася чыясьці халодная далонь. Яна ў жаху здрыганулася і кінулася назад. Вытаптаныя лясныя сцежкі разбягаліся ў бакі. Гушчар, пасплятаныя кусты, а ззаду — жудасная перасцярога. Вецце сцёбала па твары, драпала голыя ногі,

рукі, чаплялася за адзенне. Знямогшыся, упала на калені пад ялінай. Божа, божа, няўжо яна вар'яцее... У сэрцы быў жах і змрок, як у лесе, які ціха шумеў і дыхаў ёй у твар цёплым, прапахлым жывіцай паветрам. Потым зялёная самота агарнула яе сваім утульным крыллем, зрабілася спакойна і добра ў гэтым кутку зямлі, і дзіўнай здавалася думка, што недзе непадалёку пачынаецца іншы свет, поўны людзей, якія мітусяцца і забіваюць адно аднаго. Лес з усіх бакоў лашчыў яе па-бацькоўску пяшчотным, супакойлівым паглядам. Усё тут было святочнае, урачыстае, непарушнае, а разам з тым трывалае і надзейнае, нібы ў непрыступнай крэпасці. Кожная палянка была знаёмая, сходжаная-пераходжаная, калі збірала грыбы, ягады, ад кожнага закутка дыхала ўспамінамі, ад якіх займала дыханне і пачынала скакаць сэрца. У адным месцы яна напаткала сасну, якую з карэннем вывернула бура. Мінулай восенню яно яшчэ было жывое, гэтае магутнае высокае дрэва; кружылася галава, калі глядзела на яго кучаравую вяршаліну, што даставала, здавалася, да неба. Крывая нягеглая сасна па суседстве ўцалела, а гэтакі волат... Дрэвы як людзі: маюць свой лёс. Прыгадваецца, той раз прыйшла сюды з Марусам... Зноў Марус! Не трэба думаць пра яго. Не трэба, не трэба. Няма яго і ніколі не было. Не было, не было, не было.

Аквіля абвяла паглядам шумлівыя навакольныя сосны і раптам зразумела, што ў гэтым шуме ёй чуецца нейчы плач. «Божа, я напраўду трачу розум!» Ёй стала не па сабе і захацелася як мага хутчэй пайсці адгэтуль. Але цяпер яна ўжо выразна чула стогн, і гэты стогн не быў шумам соснаў. Яна нават магла сказаць, адкуль ён даносіцца. Стогн заціх. Затаіўшы дыханне, яна ўслухоўвалася ў выратавальную цішу — магчыма, усё гэта ёй толькі здалося? Але праз некалькі хвілін пачула яго зноў. Яна дрыжала ад хвалявання, аднак, сабраўшы ўсю адвагу, паступова, крок за крокам, пачала набліжацца туды, адкуль чуўся стогн,— да ямы, якая зеўрала пад каранямі выварацня. Яна хацела, каб гэта быў ё н, і разам з тым неймаверна баялася, што гэта сапраўды можа быць ё н.

Не, гэта быў не ён. У яме ляжаў зусім незнаёмы чалавек. Ніцма, галаву адхіліўшы ўбок, у дзіўным адзенні. Такі ўбор Аквіля некалі бачыла ў кіно — гэта быў лётчык. Ён мог быць і малады, і прыгожы, і дужы, аднак цяпер — жахлівыя чалавечыя руіны, у якіх ледзьве тлела жыццё. Аквіля з вусцішнай цікавасцю глядзела на чорную шча-

цiнiстую скуру, якая абцягвала чэрап незнаёмца, на зямлiстыя выцягнутыя рукi, якiмi ён з апошнiх сiл чапляўся за жыццё, намагаючыся выпаўзцi з ямы, i адчувала, што разам са страхам у грудзi ўлiваецца незразумелая палёгка i свая роспач адыходзiць некуды ўбок, саступаючы месца чужой пакуце.

## V

Даўно ўжо яны не збiралiся ўсёю сям'ёю разам за нядзельным абедам. Катра не ведае, як дагадзiць Адомасу — найлюбiмаму сыну. На стале суп са свежай капусты, галубцы, мiса адвараных вэнджаных кiлбас. Калi з'ядуцца гарачыя стравы, мацi прынясе сыру, кумпяка з гарчыцай i iншую закуску, якая пасля чаркi гарэлкi цешыць сэрца i заахвочвае хутчэй выпiць шклянку самаробнага пiва. Дзеля сваiх, вядома, гэтак бы не старалася, але калi такi госць, няхай пачастуюцца разам i гэтая збродніца Аквiля, i смаркачка Юста, i Юргiс, i гэты баран з бараноў. Нават казённаму каню, прывязанаму ў клунi да казённай брычкi, пачапiла на морду торбу з аўсом. Нiчога не шкада — Адомас прыехаў!

Адомасу цесна ў мундзiры начальнiка палiцыi. Скiнуў пасак, расшпiлiў кiцель. Пульхныя шчокi паружавелi, вочы блiшчаць.

— За ваша здароўе, мама. Стукнемся, тата. Аквiля, чаго сядзiш як зямлю прадаўшы? Дзiнь-дзiлiнь!

— Аквiля гавее.

— Хай гавеюць тыя, хто да зямлi нагамi не дастае, мама. Вып'ем, сястрычка. А можа, усё яшчэ дзьмешся на брата, што ўплятаў тваю манную кашу, калi была малая? Анёльская страва! Нiчога смачнейшага, як жыву, не каштаваў.

— Мама, звары Адомасу маннай кашы,— азвалася Юста, языкастая шэльма.

Адомас рагоча. Стрыманая ўсмешка прабягае i па заклапочаным твары Лаўрынаса Вайнараса.

Аквiля ўстае з-за стала — пойдзе пашукае яец у клунi. Адомасу на дарогу. Бацька праводзiць дачку ўстрывожаным паглядам i раптам робiцца надзвычай гаварлiвы.

— Яец!.. Па дзесяць разоў бегае ў клуню i ўсё па яйцы,— усмiхаецца Катра.— Паляцела выплакацца, не iнакш. Вiдаць, глыбока запаў ёй у сэрца той бальшавiк.

— Пакiнем Аквiлю ў спакоi, мама. Ёй i так цяжка.

Бацька згодна ківае галавой.

Катра крывіцца ад прыкрасці. Ахвотна задыміла б сваёю піпкай, як заўсёды, калі занервуецца, але Адомасу гэта не падабаецца.

— Вы ўсе трое, разам узятыя, не прычынілі маці гэтулькі бедаў, як адна Аквіля.

— Вазьму яшчэ галубцоў, мама. У рэстаране такіх смачных не гатуюць.

— Табе трэба знайсці добрую жонку, Адомас.

— Не дужа прыдатны час, галубок, каб жаніхацца.

— А каб з саламянай удавой мілавацца — прыдатны? — сячэ Катра.— Думаеш, бурмістра няма ў жывых? Ой, будзе бяды і ганьбы, калі бурмістр вернецца!

— Бабскія плёткі, мама. Нічога блізкага з ёю не маю.

— Гэтыя Дайліды радзіна вядомая. Голыя, як пяткі, хітрыя, як вужакі. А Мілда іх усіх апярэдзіла, гадзюка з гадзюкаў. Ты яшчэ дзіцянём быў, ужо хацела абкруціць, але не выйшла тады.

— Сапраўды шалёная баба,— згаджаецца Адомас, не жадаючы спрачацца з маці.

Вярнулася Аквіля. У прыполе некалькі яец, на збляднелым твары безнадзейны крык аб дапамозе. Бацька ўпотайкі злавіў яе позірк. Выпіў чарку, узяў нешта закусіць, стараючыся схаваць хваляванне. Але відэлец лясь-лясьлясь аб бераг талеркі...

Аквіля спадылба глядзіць на Адомаса. Шырокія плечы, вялікія мускулістыя рукі. На што ўжо бацька ўдаўся ростам, але Адомас на паўгалавы за яго вышэйшы. Асілак. Нічога не засталося ад таго хлапчука-бэйбуса, які́м яна ведала яго з тых гадоў, калі пачала памятаць. Аднак у рысах твару, у рухах, нарэшце ў гэтай мілай прымаўцы «галубок» засталося нешта такое, што будзіла дзіцячыя ўспаміны, выклікала давер. Не, ён неблагі. Магчыма, часам занадта жорсткі да другіх, але што да сваіх, дык за Аквілю, бацьку, пазней за меншых не раз пускаў у ход кулакі. Аднаго разу ледзь не забіў сынка Пуплясіса за тое, што той абазваў яго матку Табакай, хоць за вочы яе называла так уся вёска. Аквіля бачыла ў старэйшым браце заступніка, які заўсёды ў выпадку патрэбы падасць ім руку дапамогі. Не, мундзір не можа змяніць чалавека — Адомас добры брат. Некалькі дзён таму назад з Крàштупенаў вярнуўся Пранас Нямуніс, Марусаў бацька. Быў арыштаваны ў самы першы дзень, як толькі прыйшлі немцы, разам з іншы-

мі савецкімі актывістамі, і вось усё роўна яго выпусцілі. Стары кашляў, пляваўся крывёю: лёгкія адбілі, злыдні...

— Адомас?!.— запыталася ў яго Аквіля, адчуваючы, што недзе ў глыбіні душы бурацца апоры, якія дагэтуль былі трывалыя і здаровыя.

— Не. Аднак мог быць і ён. Усе яны сабакі, толькі твой Адомас не такі куслівы.

Аквіля хацела сказаць, што без ведама Адомаса яго не адпусцілі б, але стары закашляўся і, адплёўваючыся, пайшоў.

— Забяру цябе ў Краштупены, Аквіля. Будзеш гатаваць мне галубцы, вясковыя кілбасы. Мама, выкарміш нам свінчука? Ну, вось. На зіму насолім грыбоў, наробім яблычнага віна. Будзеш, галубок, жыць, як у плябана.— Рудыя вочкі па-сяброўску падміргваюць, падбадзёрваюць: не смуткуй, не смуткуй, сястрыца, усё будзе добра.

Брат жа, родны брат! У каго яшчэ, як не ў яго, шукаць паратунку?

У сенцах груккнулі дзверы. Усе ўважліва слухалі, як нязлосна загыркаў Рудзька, як нехта там, у сенцах, старанна шараваў нагамі, а потым пастукаўся ў дзверы ў святліцу.

— Каб табе там у галаве стукала! — раптам абзываецца Катра: яна ўжо ведае, каго гэта чорт прынёс.

Пятрас Путрымас, празваны за сваю цыганскую чарнявасць і знявечаную далонь Чорным Куксам, збянтэжана перамінаўся каля парога. І трэба ж было нарвацца якраз на начальніка паліцыі! Ён не меў ніякай ахвоты сустракацца з гэтакім панам, але калі так выйшла, не ўцякаць жа назад на двор?

Доўгая непрыязная ціша. Усе чакаюць, што скажа маці.

Катра марудзіць. Гэты здыхляк цэлы год гаспадарыў з плоймай сваіх байструкоў у святліцы. Няхай жа цяпер адчуе, хто тут сапраўдны гаспадар.

— Чаго спалохаўся, Путрымас? Давай заходзь,— не вытрымаў Адомас, падабрэлы ад бацькоўскага пачастунку.

У гэтую хвіліну Катра з вялікай асалодай пасмактала б сваю люльку.

— Сядай, калі прыйшоў,— не кажа, а шыпіць, не пазіраючы на госця.— Калі была твая ўлада, ведаў, дзе стол, а дзе лава. Адважна пахаджаў па нашай святліцы, шыбы дрыжалі, дык чаму цяпер на пальчыках, су-се-дзе?

Кукса кусае губы. Позірк люта адскоквае ад падлогі, потым зноў пакорліва апускаецца ўніз. Цішэй, цішэй, Чор-

ны Кукса. Падумай пра сваіх дзяцей, пра жонку, якая неўзабаве народзіць шостага. Гонар — добрая справа, але калі няма хлеба, ім сям'і не накорміш.

— Што было, тое было, пані Вайнарэня. Не ведаю, я чалавек маленькі, не мне вырашаць, ці добра ўлада рабіла, ці кепска, калі ў адных брала, а другім давала. Сам я не ўрываўся ў вашу святліцу, не браў вашай зямлі, каб яе качкі стапталі. Пуплясіс, старшыня сельсавета, сказаў: Путрымас, пішы заяву, дадзім табе кавалак зямлі. Раз даюць, дык што ж... Дзе пані знойдзе галоднага, што не ўзяў бы хлеба, які яму кладуць у рукі? Ну, а што да крыўды, пані Вайнарэня... калі б не я, пакрыўдзіў бы нехта іншы. Закон, улада вырашае, а мы што — дробныя людзі...

— Тра-та-та! Тарахціш, як таратайка нешмараваная. Ласкавы цяпер, хоць за пазуху кладзі. Нагу мне пацалаваў бы, калі б падставіла. А як тады спяваў? Без спросу ў клець, у клуню, на вышкі. Тут збожжа ссыплю, там сала павешу, там кароў пастаўлю. Распараджаўся, як у сваёй хаце. Пазыч яму плуг, фурманку, вупраж. Бач ты, па-зыч!.. Нібыта мы не ведаем, што азначае пазычаць такім таварышам? Ды што тут казаць! Рабавалі, як бандыты, толькі прыгожымі словамі называлі сваё рамяство, зладзюгі.

Кукса стаіць, нібы яму жар прыпякае пяты, шукае зручнейшага слова. «Такі закон быў. Хіба я адзін...» Не, гэтакімі мудрошчамі горла Катры Табацы не заткнеш, каб ёй духі пазатыкала. Эх, каб ведаў, што часы пераменяцца... Ногі можна было не цалаваць, а вось мякчэй, далікатней... Ты ж галадранец, ведай сваё месца, каб яго качкі стапталі! Пуплясіс з Марусам гарачылі кроў: мы — народ, гаспадары, наша зямля, вада, лясы. Вышэй галаву! Вось і ўзнялі! Ды што там галаву — і ногі на стол задралі. Памятаецца, аднаго разу нападпітку прыйшоў проста ў пакой Вайнарасаў — а тыя якраз вячэралі,— рассеўся без спросу на крэсле і ногі — на стол. «Панюхайце, кулакі, пралетарскага духу. Я — народ! Мая зямля, вада, лясы на векі вечныя векавечныя. Амін!»

— Усе мы людзі, пані Вайнарэня... Калі пад адным дахам жывеш, усё можа здарыцца,— мармыча Кукса, страціўшы апошнюю надзею, і бокам-бокам да дзвярэй.

— У іншых воласцях скакуноў тваёй масці пазаганялі ў скляпы, каб мазгі астылі,— падаў голас Адомас.

— Дык не дужа шмат і мазгоў тых у мяне, пане начальнік.

— Добра, што хоць гэта разумееш,— лагадней Адо-

2*

мас.— Ты цёмны, дурны чалавек, Путрымас! А дурняў мы не караем, толькі паказваем ім іхняе месца. Тваё месца тут, з сумленнымі гаспадарамі, літоўцамі, а не з жыдоўскімі прыхваснямі, з бальшавікамі.

— Каб іх качкі стапталі, пане начальнік! Я ж літовец, не нейкі там жыд... як жа я пайду з імі...— Кукса скімліць, як пабіты сабачка. Да сораму і ўгодлівасці зняважанага чалавека дадаецца страх.

— Дык чаго ты хацеў, Путрымас? — Адомас зусім размяк.— Падыдзі бліжэй, выпі чарку.

Кукса прыніжана дзякуе (о, ён даўно ведаў, што ў пана Адомаса залатое сэрца!), але каб падысці да стала — дык не.

— Бачыце, панове, такая справа... Я наконт зямлі... Гм... гм...— мармыча ён, шмыгаючы вачамі па баках. Павodзіны пана начальніка дадаюць яму адвагі, аднак у Катры такая пыса, што мурашкі па спіне бегаюць.— Як ведаеце, зямлю я абрабіў, сваім зернем засеяў. Паводле закону новай улады вы можаце мне дулю паказаць, і я за гэта яшчэ падзякаваць мушу. Закон ёсць закон... Але можна дамовіцца і па-суседску... Гм... гм... па-хрысціянску, не крыўдзячы адзін аднаго. Так, як у часы незалежнасці наймiт дамаўляўся з гаспадаром. Аднаму палавіна ўраджаю за працу і насенне, другому другая — за зямлю...

Чорны Кукса на самым разгоне — выраз твару пана Адомаса сёе-тое абяцае. Калі і не абяцае, дык ва ўсякім разе дазваляе на нешта спадзявацца. Сапраўды, як яшчэ можна разумней, не выдзіраючы адзін аднаму вачэй, разблытаць гэты вузел? Кукса разяўляе рот, вырашыўшы канчаткова рассеяць усе сумненні, калі яны яшчэ засталіся ў галовах паноў Вайнарасаў, але яго апярэджвае Катрын смех. Злаcлівы, поўны пагарды і помслівай радасці. Нібыта побач грукоча цягнік, напханы вар'ятамі-рагатунамі.

— Ён прыйшоў... ён прыйшоў зрабіць нам ласку! — нарэшце набыла Катра дар мовы, аднак спінка канапы ўсё яшчэ ўгінаецца ад сутаргавых рухаў яе цела, рукі пляскаюць па сцёгнах, як крылы раз'ятранай квактухі, горла хрыпіць, нібы не жадае ўдыхаць таго самага паветра, якім дыхае гэты чорны бандыт каля дзвярэй. Запалыя шчокі ў Катры пазелянелі, як трава, вузкі твар выцягнуўся яшчэ больш. На доўгім прыплюшчаным носе яшчэ больш прыкметнай стала барадаўка, упрыгожаная купкай валасоў.— Яго праца, яго насенне... Вы толькі паслухайце гэтага злодзея, гэтага вылюдка з вылюдкаў. Трэба мець свіныя вочы,

каб з гэтакім заявіцца!.. Яго насенне! Ад каго ты, паршывец, атрымаў тое зерне, калі не ад бальшавікоў? А бальшавікі — няхай яны падатруцца сваімі рублямі — у нас адабралі. Ён засеяў сваім зернем чужое поле, чуеце яго... Прэч з маіх вачэй, брахун пракляты! — Катра сарвалася з месца. Зачапіла талерку, і тая бразнулася са стала, а Кукса кульнуўся ў дзверы.

На двары міралюбна вурчыць сабака. Нібыта на злосць гаспадыні, і хвастом завіляў, убачыўшы Куксу. І ў таго рука пацягнулася, каб пагладзіць Рудзьку — адзіную істоту ў сядзібе Вайнарасаў, да якой ляжала сэрца,— аднак у гэтыя няпэўныя часы трэба зусім няшмат, каб расцвяліць людзей.

— Рудзьку ў мяшок — і ў рэчку! — крычыць Катра.— Калі нас не будзе дома, гэты здыхляк расцягне ўсю гаспадарку.

## VI

Доўга ніхто не наважваецца і слова сказаць. Найболей зніякавелі Юргіс з Юстай: маці не на жарт забараніла ім знацца з дзецьмі галадранцаў. Пасля ўсяго, што цяпер адбылося, нават здалёку боязна будзе зірнуць на сядзібы Чорнага Куксы ці Пуплясіса.

Адомас вешае мундзір на плечыкі крэсла. Сонца ажно пячэ праз акно. Горача.

— Мама часам лейцы задужа адпускае,— незадаволена кажа ён.

Катра крывіцца. На тварах у астатніх напісана маўклівая згода. Аквіля паслужліва налівае братаву чарку.

— Я не хачу, каб жабракі на карку ездзілі. Скончыўся іхні час.

— Але няма чаго залазіць і на іхнія каркі, мама. Праз сваю недарэчную прагавітасць губім справу нацыі.

— Куксу трэба было заліць сала за скуру. Каб у вочы не лез, ведаў, дзе яго месца.

— Калі пачнём помсціць адзін аднаму, канца не будзе, галубок. Перарэзаць усіх няцяжка — не гэтак шмат нас, літоўцаў.

— Чорны Кукса — літовец? Цьфу!.. Каб яны павыдыхалі, такія літоўцы.

— Бальшавікі звабілі сваімі абяцанкамі. Такіх, абдураных, тысячы. Калі прапусцім праз веялку, палова нацыі адсеецца. Не, мама, так нельга. Мы мусім перацягнуць іх

на свой бок. Бо калі будзем рабіць так, як гэта мама робіць, то, вядома, нічога добрага з гэтага не будзе.

— Займееш сваю гаспадарку — дзяліся тады з жабракамі, колькі душа жадае.— Катра дзьмецца, нібы індык на чырвонае. Яна пакрыўджаная і зняважаная — як жа, родны сын ёй чытае павучанне.— Юста, ану цягні сюды піпку!

Адомас устае, дзякуе за пачастунак. Гумор ва ўсіх канчаткова сапсаваны.

— Пайду паляжу якую гадзінку ў садзе пад яблыняй. Надта ж добра вы мяне накармілі сёння.

Катра дыміць сваёй піпкай. Халодная, недасяжная, як горная вяршыня. Праўдзівае ўвасабленне зняважанай мацярынскай годнасці. «А мне ўсё роўна. Ідзі і ляж сабе хоць на крушні камення...»

Аквіля выбягае следам, нясе падушку.

Сад звініць ад птушыных галасоў. Праз пасплятанае голле, на якім, абцягваючы яго ўніз, спелі шчодрыя летнія яблыкі, глядзела блакітнае неба. Дзе-нідзе белыя абалачынкі. Добра адпачываць у такі дзень у бацькоўскім садзе пад яблыняй, якую сам пасадзіў, і адчуваць, як рука любай сястры гладзіць твае густыя залацістыя валасы.

— Ты — бурштын, а я — дзёгаць.

— У табе больш матчынага, а я дык удаўся ў бацьку.

— Нядобра казаць гэтак, але я не люблю маці.

— Цяжкі чалавек.— Адомас заплюшчвае вочы, нібы саромеецца сваёй шчырасці.— Хоча трымаць нас, як шчанюкоў, на ланцугу. Я ніколі яе не любіў, толькі баяўся.

— Адомас...

— Што, Аквіля?

— Ты добры...— Яна нахіляецца, цалуе яго ў лоб.— Такі мілы, свой без гэтага казённага сурдута. Мой колішні цудоўны Адомас.

Недарэчная сентыментальнасць! Ён змушана ўсміхаецца і пераварочваецца на бок.

— Сёння я мала спаў уначы. Пакінь мяне, сястрычка.

Аквіля ўстае, некалькі імгненняў змагаецца з сабою, потым зноў апускаецца побач з братам.

— Адомас, ты ведаеш доктара Гінкуса.

— Ну і што?

— Вы добрыя сябры.

Адомас пераварочваецца на спіну. Далоні пад галавой, локці шырока растапыраны ў бакі. На твары болей чым проста цікаўнасць.

— Сябры. Ну і што з таго?

— Бачыш...— Яна доўга пазірае яму ў вочы. Знерухомела на вастрыі ляза, над самай прорвай. Але няма ніякага іншага выйсця, як толькі рынуцца наперад.— Я хацела б, каб гэта засталося між намі. Абяцай нікому нічога не казаць.

Адомас збянтэжаны і затурбаваны. Ага! Вось якія справы, галубок... Ён так і здагадваўся, што між ёю і Чырвоным Марусам было нешта большае, чым нявінныя пацалункі. Але супакойся, сястрычка, не трэба з гэтага рабіць трагедыі. Доктар Гінкус з дарагой душой дапаможа, мыш не пісне — усё чыста будзе зроблена. Пан Роберт умее маўчаць — абавязвае прафесія медыка.

Аквіля круціць галавой. Не, не! Марус тут ні пры чым.

Адомас не слухае. Ён ужо сеў, хрупасціць пальцамі. Пачырванеў не ад пачастунку — ад злосці. Зганьбаваў гонар сястры! Здраднік, прадажная шкура! Яе ўтаптаў у балота, але запэцканы і ён, родны брат.

— Укакошылі, як сабаку. І няхай! Гэтакім месца толькі ў яме.

Аквіля не разумее, пра што ён кажа. Усе яе думкі там, дзе цяпер мучыцца безабаронны няшчасны чалавек. Тут, пад гэтай маладой урадлівай яблыняй, вырашаецца пытанне яго жыцця. Альбо смерці.

— Ты не зразумеў мяне, Адомас.— Аквіля стаіць перад ім на каленях. Кулакі прыціснула да грудзей, шчокі шэрыя, як зямля, збялелыя вусны шэпчуць, быццам ксяндзу ў акенца спавядальні. Споведзь. Словы трапечуцца, нібыта звязаныя птушкі. Што будзе, калі не адпусціць грахоў?

Вочы ў Адомаса шырацца, твар то бляднее, то чырванее. Ён не хоча верыць сваім вушам. Сон, зманлівы сон! Упіраецца рукамі ў зямлю — духмяная, жывая трава. Устае, азіраецца: навокал родны сад, над галавой — высокае роднае неба. Жахлівая рэчаіснасць!

— Ён выздаравеў бы, але нешта здарылася... Трызніць, у сліне кроў... Дапамажы, Адомас, ты можаш дапамагчы...— цячэ малітва.

Адомас стаіць, сагнуты, нібы дуга. Адной рукой, каб не ўпасці, учапіўся за сук яблыні.

— Чаму маўчыш, брат? Мусіш зразумець, я не магла пакінуць чалавека паміраць у лесе!

— Мёртвыя не паміраюць.— Ці ён гэтак сказаў, ці толькі гэтак здалося? Не, гэта яго голас. Халодны, непарушны, быццам нябожчыкава рука.

— Ты гневаешся на мяне?

— Не, радуюся.— Цяпер яго голас зноў жывы, набыў свой колер, у якім цёмныя адценні гневу змешваюцца з кплівай насмешкай.— Як табе не стрэліла ў галаву яшчэ геніяльная думка: павесіць на клуні шыльду, што тут ляжаць бальшавіцкіх салдатаў?!

— Ляжачы — не вораг. Ты сам калісьці гэта казаў.

— Цяпер ён страшнейшы за стаячага. Ці ведаеш, што было б, каб даведаліся немцы? Усе віселі б на галіне, не дапамог бы і мой мундзір.

— Пан Роберт...

— Замоўкні! Я не знаёмы з ім!

Аквіля маўчыць. Страх паўзе ў душу, як слізкая жаба. Няўжо гэта ўсё? Дагэтуль яны былі брат і сястра, а цяпер...

— Калі гэтак, Адомас, ідзі і дабі яго.— Аквіля з жахам глядзіць на шырачэзныя плечы, што раптам затузаліся: ён смяецца. Яна ўжо недзе чула гэтакі самы смех. Праўда, не такі істэрычны, гучны, але ў ім тая самая скрыплівая матчына нота.

— Гэтакага легкадумства трэба пашукаць. «Не магла пакінуць чалавека паміраць у лесе...» Высакародна, надзвычай высакародна, нічога не скажаш. Аднаго ратаваць, а семярым на шыю пятлю класці. Сваіх бацькоў, братоў, сястру памяняць на нейкага рускага дзікуна. Я не разумею такой матэматыкі. І ніхто не зразумее. Нават твой Марус, хоць ён усё лічыў па-жыдоўску — з другога канца.

Аквіля зноў маўчыць. Вочы не міргаючы ўперліся ў яго патыліцу. Няўжо і сапраўды быў час, калі да поўнага шчасця ёй не хапала гэтых светлых шаўковых валасоў?

— Ён і цябе навучыў сваёй табліцы множання,— дудзіць спіна ў кашулі, пазначаная рудым крыжам шлеек.— Думаеш, вернецца і абое будзеце лічыць далей. Не, гэтага ўжо не будзе — Маруса Нямуніса больш няма. Усіх іх паклалі ў Вянцкім лесе. На шматкі пашматалі, іншага толькі па вопратцы і можна было пазнаць. Немцы загадалі пазвальваць усіх у ямы з вапнай, як падлу. Вось што засталося ад твайго Маруса! — Халодны бліскучы прадмет, быццам срабрыстая рыбка, ляціць цераз плячо і падае ў траву пад ногі Аквілі.

Табакерка! Шахматная дошка з выявай мініяцюрных фігурак. Распачатая партыя, і яшчэ незразумела, хто атрымае ў ёй перамогу. Яе падарунак Марусу на дзень нараджэння.

— У Жакайціса, гэтага міліцэйскага шчанюка, знайшлі. Быў разумнейшы за іншых, неяк застаўся жывы і прыйшоў у паліцыю здавацца.

— Жакайціс... Ах, гэта той: «Ачомайся, старшыня, годзе! Можа, яе, гэту кулацкую пташку, контра знарок падсадзіла...»

— Хваліўся, што сам прыкончыў Нямуніса,— бязлітасна ґрыміць спіна.— У нас няма падставы, каб не верыць, бо ад такога быдла ўсяго можна чакаць.

Аквіля кладзе далонь на табакерку. Холад працінае да касцей. Даўно астыла яе цела, даўно спынілася сэрца.

## *Раздзел трэці*

### I

Чалавек ляжаў на руках у Адомаса бездапаможны, нібы дзіця, і цяжкі, нібы злачынства, якое неўзабаве мусіла адбыцца. У пагаслых вачах не было ні страху, ні дакору, толькі бязмоўнае прымірэнне са сваім лёсам і яшчэ нейкая пагарда, падобная на шкадаванне.

«Вось як выглядае чалавек, асуджаны на смерць...»

Адомас заплюшчыў вочы, аднак ледзяны позірк лётчыка, быццам сцюжа ў ненапаленую хату, пранікаў праз усе поры яго цела, напаўняючы сэрца жудлівым холадам, ад якога кроў застывала ў жылах і рабілася цяжка дыхаць. Ён ішоў са сваёю ношаю на руках бясконцым падземным калідорам; недзе ў непранікальнай цемры ззяла ледзь бачная зорачка; можа, гэта дзверы ў свет жывых, а можа, міраж, але яму было ўжо ўсё роўна, бо ведаў, што ўжо ніколі не выйдзе з гэтых катакомбаў смерці.

Абудзіўся, абліты халодным потам. У касцёле званілі да ранішняга набажэнства. Доўга ляжаў, не расплюшчваючы вачэй, агорнуты ціхай радасцю (як усё-такі добра, што пад тваім бокам утульная цёплая пасцель, а не цвёрдая дошка труны!), і кпліва падумаў, што такі кашмар можа прытрызніцца толькі пасля п'янкі. Першы раз ён прысніў лётчыка, зрабіўшы тое, ад чаго, па яго цвёрдым перакананні, немагчыма было адхіліцца. «Сон — гэта скажонае адлюстраванне ў свядомасці чалавечых перажыванняў...» Словы нейкага вучонага знаўцы, якія ён недзе чытаў. Лухта! А вось што ўчора перабраў — тут ужо нікуды не дзенешся, давядзецца згадзіцца, галубок. Насцябаўся, як ні-

колі ў жыцці, нават брыдка падумаць. Памятае яшчэ, як цалаваліся з Гедымінасам, бэсцілі немцаў, зноў цалаваліся. Па праўдзе кажучы, ён цалаваў Гедымінаса, а той нешта бурчаў пад нос і не пярэчыў, хоць казаў, што яму гідка, калі мужчыны ліжуцца. Потым аднекуль узялася размаляваная дзеўка з цюленевымі вачамі, падсеў рыжавусы дзядзька. Цяпер ужо цалаваліся ўсе ўчацвярых, клялі бальшавікоў і крычалі «ўра» незалежнай Літве. Урэшце да іх далучыўся і пяты, прышчаваты таўстагубы тып, і пачаў крычаць, грукаючы па стале, што немцы іх падманулі. І тады ўжо, упяцёх, клялі і тых і гэтых і спявалі нацыянальны гімн. А потым усё патанула ў імгле. Здаецца, некуды ішоў, нешта рабіў, з некім хапаўся загрудкі. Хутчэй за ўсё з Гедымінасам. Як жа, цяпер ён прыгадвае. Ён прапанаваў Гедымінасу на гэтую ноч сваю Мілду, той назваў яго свіннёй ці яшчэ больш крыўдна, і яны счапіліся. Напэўна, іх развялі, хоць гэтага ён ужо не памятае. Але горш за ўсё, што ён не ведае, як апынуўся ў Мілды. Яна не павінна была бачыць яго ў такім стане. Колькі разоў яна казала, і ён паабяцаў ёй, што п'яны да яе не будзе прыходзіць. Пракляты інстынкт самца!

Адомас, не знаходзячы сабе месца, скінуў нагой на падлогу коўдру. У адчыненае акно лілося свежае ранішняе паветра, крычалі вароны. Росныя вяршаліны дрэў, асветленыя чырванню світання, блішчалі меддзю. Ён мусіў бы адчуваць сябе добра і радасна, як заўсёды, калі ты малады, здаровы і распачынаецца яшчэ адзін цудоўны дзень, але на душы ў Адомаса было пагана. Ён цяпер лепш чым калі разумеў, чаму часам людзі пускаюць сабе кулю ў лоб альбо п'юць эсенцыю воцату.

Хвіліну, кусаючы губы, ён круціўся па пакоі, потым падышоў да дзвярэй у сталоўку і нерашуча затукаў. Яшчэ раз — ужо энергічней, адважней. Цішыня. Тады ён націснуў ручку, і дзверы, мякка рыпнуўшы, адчыніліся.

Мілда ляжала на канапе, да падбародка нацягнуўшы жоўтую коўдру. Побач стаяла крэсла, на ім — споднее адзенне, халат.

Пахла валяр'янкай. Адомас збянтэжана пазіраў на дробны збляднелы твар, на якім вылучаўся невялічкі яркачырвоны рот; сіняватыя павекі былі шчыльна заплюшчаныя, аднак Адомас ведаў, што яна не спіць: яна не ўмела прыкідвацца.

— Добрай раніцы, Мілда.— Голас яго прагучаў баязліва і пакорліва.

— Добрай раніцы,— адказала яна, не расплюшчваючы вачэй.

Яму адразу палягчэла.

— Учора я быў вялікім свінтусам. Прабач, дарагая.

— Прабачаю.

— Ведаю, гневаешся, але я гэтага варты. Калі чалавек напіваецца, як быдла... Ат...— Ён з прыкрасцю махнуў рукою.

— Не бачыла я п'янага быдла.

— Ведаеш, калі сустракаеш сябра, якога мог і не сустрэць... Ты разумная жанчына, галубок, разумееш... Чалавек напіваецца часам з радасці, часам з роспачы, а калі адно і другое збягаюцца разам, звар'яцець можна.— Ён запнуўся, працяты трывожнаю думкай, што яна раптам можа спытаць пра тое, пра што ён нікому ніколі не адважыцца сказаць усю праўду, і паспешліва дадаў: — Ты ведаеш настаўніка Джугаса — ён ніколі не траціць пачуцця меры, а ўчора ледзьве за зямлю не трымаўся.

Мілда нахмурылася.

— Божа мой, як я не люблю тых людзей, якія абліваюць гразёю іншых, каб толькі самім выглядаць чысцейшымі.

— Я кажу праўду, галубок.— Адомас нахіліўся і пагладзіў белую пасмачку валасоў, прытуленую да падушкі. У твар павеяла сонпаю цеплынёю жаночага цела.— Ідзі ў свой ложак, Мілдзяля. Да сняданку яшчэ добрыя тры гадзіны.

Яна скоса паглядзела на яго. Яснюткія сінія вочы былі цёплыя, але пустыя, як толькі што пакінутая пасцель.

— Перш за ўсё, шаноўны, будзьце ласкавыя прыняць ванну.

— Ты проста цуд, Мілдзяля.— Ён хацеў яе пацалаваць, але Мілда схавалася з галавой пад коўдру.

Калі, пасвяжэлы і разрумянены, ён вярнуўся з ванны, пакоі былі ўжо прыбраныя. Мілда, адзетая ў белую піжаму, сядзела на канапе і слухала па радыё музыку. На стале стаяла бутэлька піва і парожні бакал.

— Ты чытаеш чужыя думкі, галубок,— дрыжачай рукою Адомас напоўніў бакал, высмактаў да дна і, пазіраючы праз адчыненыя дзверы на засланы ложак, расчаравана дадаў: — Не ўяўляю, што мы зараз рабіць будзем, паўсхопліваліся ні свет ні зара...

— Табе трэба ісці дамоў, Адомас.

— Куды?

— Ці табе не прыходзіла ў галаву, што жанчына, якая яна ні была б, можа захацець аднаго разу жыць па-новаму.

Збіты з панталыку Адомас развёў рукамі.

— Спадзяюся, ты не надумалася ісці ў манастыр!

— Не, проста засумавала па спакойным жыцці.

Адомас прысеў побач, адной рукою прыцягнуў да сябе яе маленькую зграбную постаць і пацалаваў у скронь.

— Цікавы капрыз, галубок. Ты часта выдумляеш нешта арыгінальнае, а гэта мне падабаецца.

— Гэта не капрыз, Адомас. Калі ты пачнеш адчуваць, што нібыта цэлы месяц ты не была ў ванне, нічога болей не хочацца, як толькі змяніць брудную бялізну і выспацца ў чыстай пасцелі.

Адомас, абражаны, некалькі імгненняў маўчаў. Згадаў ідыёцкі сон, здзеклівую іронію Гедымінаса, і яго раптам апанавала злосць.

— Чаму, чорт вазьмі, вы ўсе думаеце, што паліцэйскі не мяняе бялізны?

— Не прыкідвайся. Сам добра ведаеш, пра што гавару. Некалі ў Краштупенаўскай парафіі жыў такі занэндзаны абадранец Нікадзямас Дайліда. Шэсць гектараў гэта не дужа многа, але калі б ён рупіўся на іх... А то, бывала, выедзе з канём на поле, сядзе на ўзмежку і газету чытае. Вечарамі зноў з двара ў двор: прасвятляе ўсіх, як трэба будаваць новае жыццё ў Літве. Улез у турму, і засталіся мы ўдзвюх з маткаю. А тыя шэсць гектараў, аказалася, дарэшты ў даўгах. Так праз бацькавае палітыканства і заехалі мы ў жабрацтва. А пазней, калі выкараскалася з галечы і па-людску жыць пачала, тая самая палітыка з'ела і Бяржэнаса. Жыццё толькі адно, Адомас, і я не хачу яшчэ раз ставіць яго на карту.

— Табе трэба было выйсці за якога пана альбо яўрэя-купца, але і ў гэтым разе прагадала б: першага б зацуглялі бальшавікі, а другі цяпер хадзіў бы па бруку з жоўтаю зоркаю,— пакпіў Адомас.

Мілда нічога не адказала.

— Усе нашы непамыслоты адно і бяруцца тады, калі многія пачынаюць думаць, як цяпер ты,— ён гаварыў далей, слухаючы вясёлую музыку, якая гучала ў яго вушах як жалобны марш.— Пакінем палітыку іншым, а самі пазамыкаемся ў залатых клетках. Забудзем пра крыўды нацыі і, удоваль наеўшыся, соладка заснём на касцях сваіх блізкіх. Хутка ж мы забываем, што мелі і што страцілі.

Мілда здрыганулася.

— Не! Толькі таму, што я нічога не забыла, я і кажу так. Бяржэнас можа вярнуцца. А калі і не вернецца... я ўсё роўна яго жонка. Іншы раз думаю — у той час, калі мы абое тут, у гэтым самым ложку... ён, можа, памірае ў лагеры з голаду... і, ведаеш, прыкра за сябе робіцца... Як бы нізка ні ўпаў чалавек, у ім усё роўна застаецца хоць кропля сумлення.— Яна гаварыла трохі картавячы, нізкім цёплым голасам, і кожнае слова ў яе вуснах здавалася жывым, утульным і мілым, нібы птушаня, якое толькі што вылупілася з яйца. Часам няпроста было адрозніць, калі яна гаворыць усур'ёз, калі жартуе, дзе канчаецца лірыка і дзе пачынаецца цынізм, але цяпер Адомас верыў: яна гаворыць тое, што думае.

— А раней тваё сумленне не прачыналася? — Ён моцна сціснуў яе ў абдымках, быццам намагаўся задушыць сваю раптоўную злосць.

— Ах, пусці! Задушыш!

— Не, мне цікава даведацца, дзе раней было тваё сумленне.

Яна ўскрыкнула ад болю (а можа, ад страху?) і вольнай рукою ўчапілася яму ў валасы.

Адомас адшпурнуў яе ад сябе, нібы кацяня, і ўзняўся. Ён увесь калаціўся.

— Дурань! Ты яшчэ п'яны з учарашняга. Дзіўны спосаб выказваць сваю рэўнасць.

— Рэўнасць?! Да каго? Да таго трухлявага старэчыны, чые косці ўжо, можа, згнілі ў Сібіры? — Адомас выліў у бакал рэшткі піва, заплюхаўшы стол, выпіў і зноў зваліўся на канапу.— Усе вы надзіва чуллівыя, калі гэта вам зручна. Тыкаеце яго, гэтае сваё сумленне, кожнаму ў вочы, нібыта маеце на яго манаполію. Знайшла здохлага недавярка, як жа, трэба яму дапамагчы,— сумленне; споўніў грамадзянскі абавязак, але праз гэта загінуў чалавек,— сумленне точыць; здраджвае мужу, якога ніколі не кахала,— зноў сумленне не дае спакою. Можа, скажаш, што кахала свайго бурмістра? Ну, скажы «кахала», што табе значыць яшчэ раз схлусіць добраму сябру. Маўчыш? Не, Мілда, табе трэба было не каханне, а імя, грошы, становішча ў грамадстве. Ты б згадзілася выйсці за стопрацэнтнага трухляка, калі б ён быў «шышкай» і меў двухпавярховы дом плюс некалькі дзесяткаў тысяч у банку.

— Ён мяне кахаў,— холадна адказала Мілда.— Сапраўды, кахаў.

— А я?! — усклікнуў Адомас.

— Ты? На словах — так, але калі трэба паказаць сваё каханне на справе, Адомаса няма.

— Трэба было пачакаць — маці раней ці пазней усё роўна саступіла б. Але табе закарцела...

— Чакаць? Чаго? Смерці Катры Табакі? Такую ведзьму за сто гадоў абухом не заб'еш.

— Я ж цябе кахаў як шалёны! Думаеш, не было дзяўчат, і не такіх басячак, як ты, мог выбраць любую, але сама бачыш... Жанчына, якая кахае, цярпліва чакала б. Год, пяць, дзесяць, увесь век, калі трэба. Чакала б, чакала б, чакала б... Сапраўднае каханне, калі гэта, вядома, сапраўднае каханне...

— Не крывадушнічай, Адомас. Сапраўднае каханне не пабаялася б страціць бацькоўскую спадчыну.

Адомас здзекліва засмяяўся.

— А табе яна не трэба, гэтая спадчына? Не, ты не з такіх, зусім не з такіх, галубок. Каханне табе — піражнае з кавай. Вядома, калі страўнік сыты.

Мілда ўскочыла з канапы, падбегла да століка з радыёпрыёмнікам і павярнула рэгулятар. Зычная музыка заглушыла апошнія Адомасавы словы.

— Заткні горла гэтай д'ябальскай машыне! — у шаленстве крыкнуў ён.

Яна стаяла, адвярнуўшыся ад яго. Адна рука на століку, другая прыціснута да грудзей. Зграбная, мініяцюрная, дасканалымі лініямі паставы; вялікая белая лялька са схіленай на плячо галавой, у якой розуму больш, чым трэба прыгожай жанчыне, аднак не настолькі, каб у крытычны момант перамагчы сэрца. Адомас глядзеў на яе (ах, якая знаёмая поза!) і адчуваў, як яго апаноўвае роспач і як расце ў грудзях страх. Ён выразна разумеў, што ўсё тое, што ўжо столькі часу іх звязвае разам, не проста гульня стыхійных пачуццяў — ён на самой справе кахае Мілду; можа, не так бурліва, наіўна, як у тыя часы, калі яна насіла плісаваную гімназічную сукенку і заплятала ў дзве тоўстыя касы свае бялявыя валасы, але кахае, далібог, кахае.

Ён падышоў і выключыў радыё.

— Мілда,— паклікаў ціха.— Мы не павінны сварыцца, асабліва цяпер не павінны сварыцца. Ты сама не разумееш, як ты мне патрэбная.

Яна маўчала.

Тады ён далікатна ўзяў яе за плечы і павярнуў тварам

да сябе. Яе шчокі запалі, губы пакутліва крывіліся: яна ніколі не плакала са слязамі.

— Твой Адомас нягоднік, дурань, гнюснае стварэнне. Дай яму ў морду! Набі яму морду, Мілдзяля! — Ён узяў яе руку, нерухомую, як пратэз, і некалькі разоў ляпнуў сабе па твары.— Вось гэтак, гэтак трэба гэтай жывёліне, гэтай свінні, гэтаму вырадку!

— Не прыдурвайся.— Мілда злосна вырвала руку з яго клешчаў.

— Я не прыдурваюся — я кахаю цябе!

— Што з таго.

— Мы можам быць шчаслівыя, Мілдзяля. Не трэба зважаць на тое, што некалі было. Тады я быў смаркачом, шалапутам. Ты ведаеш, якая ў мяне маці... А цяпер я вольны чалавек. Хочаш — хоць сёння згуляем вяселле?

— Што з таго? — абыякава паўтарыла яна, аднак вочы яе пажвавелі.

— Суйміся, мая маленькая, досыць ужо, галубочак.— Ён абняў яе і пацалункам замкнуў ёй рот.

— Ах, адпусці... адчапіся... не хачу...— пярэчыла яна, няўпэўнена вырываючыся з яго абдымкаў.

— Не, не! Нікуды не адпушчу, нікуды ты не пойдзеш... Ты ж мая, маленькая, мая...— Як ашалелы, упаў перад ёю на калені і пачаў цалаваць ногі, жывот, грудзі. Пасля падхапіў яе на рукі — абмяклую, пераможаную чужой страсцю — і, бязладна мармычучы тыя самыя словы, панёс у спальню.

## II

— Учора прыходзіла нейкая Пуплясітэ,— згадала Мілда.— З твайго Лаўксадзіса. Прасіла заступіцца, каб ты выпусціў бацьку.

Адомас нацягнуў коўдру на галаву. Мяккая пасцель, а побач яе пругкае мяккае цела п'янілі, быццам пакой, застаўлены кветкамі.

— Ты чуў, што я сказала? — Яна адкінула край коўдры, агаліўшы яго да пояса.

— Дурная дзеўка,— пазяхнуў Адомас.

— Ну не зусім. Я спыталася, чаму яна звяртаецца да мяне, я ж не камендант і не начальнік паліцыі. Пані Бяржэненя, адказвае яна, вельмі мілая і прыгожая жанчына. А прыгожыя жанчыны могуць больш за самых дужых мужчын.

— Хітрасці ў яе заўсёды хапала,— ляніва адказаў Адомас.

— Што пагражае старому?

— Суд пакажа. У іншых валасцях такіх птушак без доўгіх размоў клалі ў ямы, а мы суды разводзім.

— Табе нічога не значыць яго адпусціць.— Мілда пагладзіла Адомаса па шчацэ.— Зрабі хоць адну добрую справу. У Пуплясісаў шмат дзяцей.

— А ты някепска інфармаваная...

— ...Малыя яны зусім. Ні тая дзяўчына — не памятаю яе імя, дзіўнае нейкае, міжнароднае,— ні сама Пупляеcеня не любяць свайго старога, ён ім патрэбны як рабочая жывёла. Караеце аднаго, а кара кладзецца на ўсю сям'ю.

— Усё гэта я ўжо чуў, «пані Бяржэненя, вельмі мілая і прыгожая жанчына». З тыдзень таму назад абедзве прыходзілі, наслухаўся...

Змоўчаў, што праз пару дзён Міграта зноў наведвалася, толькі на гэты раз без маці; ад тае сустрэчы засталося такое непрыемнае ўражанне, што не хацелася ні самому ўспамінаць, ні Мілдзе расказваць.

«Два гады парабкавала ў вас, мы ж з адной вёскі... Дапамажы, пане Адомас».

Яна нейкім чынам ашукала гаспадыню і ўшчамілася ў яго пакой, хоць ён і загадваў нікога не ўпускаць, калі яго няма дома. Адомас непрыязна глядзеў на яе высокую зграбную фігуру, туга абцягнутую суконкай з таннага паркалю ў чырвоныя дзікія ружы. Голыя лыткі абпалены ветрам і сонцам, румяны твар, на роўным, трохі завялікім носе лупіцца скура, пад нізкаватым ілбом пакорлівыя, як у авечкі, вочы.

«Дарэмна і самі ходзіце і іншых турбуеце»,— сказаў ён, не хаваючы незадавальнення.

Міграта паклала руку на плечыкі крэсла і выставіла наперад нагу, агаляючы калена. Не была ніякай прыгажуняй — разумела гэта сваім абмежаваным розумам, але жаночая інтуіцыя (а можа, і маці, выпраўляючы з дому?), ёй падказала, што і на яе вабы можа знайсціся аматар.

«Бацька дурань, яго ніхто не любіць,— казала, малюючы мыском туфлі кругі на падлозе і крадком цікуючы за Адомасам.— Мы, дзеці, больш любім маму, чым старога. Праз яго адны злыбеды. Іншыя з нічога сталі заможныя, а ён толькі з гаспадарамі сварыцца ўмеў. Заеўся летась з

фальваркам, што ячмень наш паспасвалі, шукаў па судах управы, пакуль апошнія порткі з яго не знялі, потым праз гэты зуб, які Катра... матуля ваша, памялом выбіла. Куды ні ўпхнецца наш бацька — адна шкода з гэтага. Хацеў мяне ў камсамол запісаць. Не паслухалася і добра зрабіла. Усё трэба рабіць наадварот, не так, як ён кажа...»

«Сядай!» — крыкнуў Адомас.

Яна паслухмяна прысела на крэсла. Ён — насупраць. Круглявыя бронзавыя калені растуліліся, уздрыгваюць, быццам абураюцца, што даводзіцца хаўрусаваць з паркалем. Сцёгны неспакойна муляюцца пад чырвонымі дзікімі ружамі. Магла б пашыць на лета шаўковае, але цяпер увесь заробак давядзецца аддаць маці... «Ох, ох, пане Адомас...» Адвярнулася, узлакацілася на спінку крэсла. Плечы пацепваюцца, сукенка лезе ўгору, адкрываючы голыя сцёгны.

Адомас зажмурыўся. «Колькі тады ёй было гадоў? Мабыць, семнаццаць. Ну, пэўна, яна, здаецца, на шэсць гадоў за мяне маладзейшая. Значыць, восень трыццаць дзевятага, на малацьбе...»

...Яна стаяла на беражку сцірты, якую канчалі ўжо малаціць, а ён унізе, амаль датыкаючыся лбом да пальцаў яе босых ног. Навокал пыл, шум, звярынае выццё малатарні. І шалёны скразняк. Яе сукенка трапяталася, быццам закручаны вакол мачты сцяг, а ён бессаромна глядзеў, задраўшы галаву, і, як дурань, смяяўся. І яна глядзела на яго. Нахабна, з выклікам і разам з тым абяцальна, як адно толькі можа недасведчаная дзяўчына, якая яшчэ не разумее, што робіць. Сёння яму зразумела, што ён памыляўся — яна ведала, што робіць,— але тады нейкі д'ябал адабраў розум. Ён падскочыў угору, нібы ў маленстве, калі намерваўся сарваць самы спелы яблык, і схапіў Міграту пад калені. Яна так і грымнулася яму ў абдымкі, збіваючы цяжарам свайго цела з ног. А мужчыны, надзвычай паслужлівыя ў такіх выпадках, накінулі зверху на іх некалькі абярэмкаў саломы, пад якою звычайна пачыналася тое, што потым канчалася ў стагах, калі, закончыўшы ўсе палявыя работы, пасля пачастунку вярталіся дадому. Ён трымаў яе ў сваіх абдымках — гарачую, прапахлую палыном — і чакаў адпору, але замест гэтага адчуў вакол шыі гарачыя ліпкія рукі. «Пане пісар, ох пане пісар...» І гэты шэпт, падобны на шыпенне вужакі, а больш за ўсё дык гэтыя ідыёцкія словы канчаткова ацверазілі яго. Ён адпусціў Міграту і больш ніколі не думаў пра яе як пра

жанчыну. А калі часам сустракаў, згадваў потныя, аблепленыя дзьмухаўцовым пухам лыткі, ну і апроч таго, і яму рабілася брыдка.

...Адомас адчыніў дзверы, вярнуўся да Міграты і павярнуў яе разам з крэслам тварам да калідора.

«Мне трэба ісці, галубок».

— Нехта звоніць,— прыслухалася Мілда.

— Няхай сабе. Мы спім.

— Не выношу, калі за дзвярыма стаіць чалавек, а ты сядзіш у пакоі і прыкідваешся, што нікога няма дома.

— Таму чалавеку трэба прыходзіць у належны час.— Адомас кусянуў Мілду ў аголенае плячо.— Скажам, па абедзе ці нават заўтра.

— Не выдурвайся! Цябе шукаюць.

— Хто? Вы, няйначай, жартуеце, мілая паненка! Мой вахмістр пан Бугяніс быў бы проста шчаслівы, калі б я наогул не з'яўляўся ў паліцыі — без мяне яны там управяцца куды лацвей.

Зноўку задзынкаў званок. Даўжэй і настойлівей.

— Усё роўна пайду пагляджу. Хто ведае, а раптам важная справа.— Пакуль Адомас спахапіўся, Мілда перакулілася цераз яго і, захінаючы халат, пабегла да дзвярэй.

— Куніца...— незадаволена прамармытаў ён.

Праз некалькі хвілін яна вярнулася.

— Твая хатняя гаспадыня. Цябе выклікаюць у камендатуру.

— І сам чуў. Не баба — пажарная сірэна. Усю вуліцу ўзняла на ногі.

— Уставай! — Мілда сцягнула з крэсла Адомасавы штаны і кінула яму на галаву.

— Дзе ні схаваешся, усюды цябе знойдуць,— паскардзіўся ён, вылазячы з ложка; але ніякавата, як гэта здаралася раней, калі хто-небудзь даваў зразумець, што ведае пра яго стасункі з Мілдай, цяпер сябе не адчуваў.

— Я хуценька сняданак згатую.

— Не спяшайся. Пан камендант мае багата часу — пачакае. Няхай не думае, што мы як тыя харты: варта свіснуць — і паляцім, высалапіўшы языкі.

# III

Пан Рудольф Роп паходзіў з Клайпеды. Яго продкі пасяліліся там яшчэ ў тыя часы, калі насілі прозвішча Ропе; тады на старых літоўскіх землях між вусцем Нёмана і Прэголі ўжо трывала стаяў падкаваны рурскай сталлю бот каланіста. Ропы любілі сваю каталіцкую веру, мову, зямлю, але іхні хрыбет не здолеў вытрымаць націск каланісцкай культуры. На нейкае, не вядома якое, шчасце ён меў адну асаблівасць, якой не мелі жэмайцкія хрыбты часу Вітаўта Вялікага: быў гнуткі, а не цвёрды. Дзяды Рудольфа без вялікага клопату выракліся каталіцтва, як некалі іхнія продкі — паганскіх багоў, і пачалі вызнаваць рэфарматара Марціна Лютэра, а бацькі ўжо саромеліся на людзях размаўляць па-літоўску і, жадаючы, каб іхнія дзеці яшчэ больш наблізіліся да выбранага грамадства — вядома, нямецкага, аддалі іх вучыцца ў нямецкую школу. Тут высветлілася, што ў прозвішчы Ропе літара «е» зусім непатрэбная. У дакументах была зроблена маленькая аперацыя, і літовец з Малой Літвы Ропе стаў немцам з Вялікай Германіі Ропам. Ён ужо не гаварыў па-літоўску, хоць і ўмеў, а калі настаў час абзавесціся сям'ёй, замуж узяў чыстакроўную немку; з яе дапамогай спадзяваўся ўсчаць новую радзіну, унукам якой не давядзецца чырванець за сваё паходжанне.

У трыццаць трэцім, калі Гітлер прыйшоў да ўлады, Рудольф Роп, дробны чыноўнік вольнага горада, стаў буйным палітычным дзеячам: ён — кіраўнік мясцовага аддзялення нацысцкай партыі, арганізатар літоўскіх і яўрэйскіх пагромаў, гарачы мітынгоўшчык, які патрабуе разагнаць літоўскую дырэкторыю і далучыць Клайпедскі край да трэцяга рэйха,— што і было зроблена праз пяць гадоў. Рудольф Роп мог бы адчуваць сябе цалкам шчаслівым, тым больш што падрасталі трое дзетак, якія пэўна ўжо будуць жыць у абяцаным фюрэрам раі тысячагадовага рэйха; авохці, падвёў нос (ягоная дзюбка недарэчна задзіралася ўгору), і валасы былі не бялявыя, як у ідэальнага германца, а цёмныя, і вочы зялёныя, а не блакітныя, хаця асаблівасці будовы чэрапа бясспрэчна даказвалі, што яго ўладальнік — арыец.

Калі Адомас увайшоў у камендатуру (у гэтым будынку размяшчаўся раней павятовы камітэт партыі), Роп заўзята карпеў над сваёй запісной кніжкай: нядаўна ён другі раз прачытаў «Майн кампф», і ў яго галаве некалькі

разоў на дзень узнікалі дужа цікавыя думкі, якія ён руплiва занатоўваў, каб i самому iдэйна ўдасканальвацца i прасвятляць розумы сваiх супрацоўнiкаў. У такiя хвiлiны ён быў настроены на фiласофскi лад i дазваляў сабе больш iнтымнасцi, чым патрабавала службовая дысцыплiна.

— Вельмi плiемна,— прывiтаў ён Адомаса на малалiтоўскай гаворцы, падаючы яму ёмiстую далонь i рухам другой рукi запрашаючы сесцi.

— Вы гаворыце па-лiтоўску? — здзiвiўся Адомас.

— Ja, ja. Ein bischen [1]. Мы, немцы, не гiдзiмся нiчога, калi гэта карысна для айчыны.

— Вы, мабыць, родам з Клайпеды? Я бываў у Клайпедскiм краi. З экскурсiяй гiмназiстаў. Там амаль кожны лiтовец ведае нямецкую мову,— адказаў Адомас, адчуўшы сiмпатыю да каменданта.

— Aber nicht alle Deutsche verstehen Litauisch [2],— заначыў Роп, не зважаючы на тое, што пярэчыць самому сабе.

— Ja, natürlich [3],— згадзiўся Адомас.— Лiтоўская мова ў нямецкай гiмназii не выкладаецца, а мы нямецкую пачынаем вучыць з першага класа. «I нi халеры не ўмеем»,— злосна падумаў ён.

Роп паверх пазалочаных акуляраў утаропiўся на Адомаса; iнтуiцыя заўсёды своечасова перасцерагала, калi ўзнiкала небяспека страцiць дыстанцыю памiж сабою i падначаленым, i тады ў iм аўтаматычна ўключалiся адпаведныя рэгулятары, усталёўваючы раўнавагу розуму i пачуцця.

— Пакiнем школу дзецям,— адразу пасуровеўшы, сказаў ён, мiж тым як яго пальцы гарталi запiсную кнiжку.— Лёс новай Еўропы вырашаецца не ў класе, а на полi бiтвы, Herr Polizmeister [4].

На вуснах у Адомаса пагасла ўсмешка. Ён механiчна кiўнуў галавой.

— Палiчана: бальшавiцкае войска на сённяшнi дзень страцiла каля паўтара мiльёна чалавек. Узяты Вiцебск, Смаленск, акружаны Пецярбург. Нямецкiя страты дробныя да смешнага. У сярэдзiне жнiўня будзем у Маскве. Сусветная гiсторыя не ведае перамог такога маштабу!

---

[1] Так, так. Трохi *(ням.)*.
[2] Але не ўсе немцы разумеюць па-лiтоўску *(ням.)*.
[3] Так, вядома *(ням.)*.
[4] Пане начальнiк палiцыi *(ням.)*.

— Ja, das ist wunderbar [1],— згадзіўся Адомас, хоць няшмат што зразумеў: камендант сыпаў як з кулямёта, напалову праглытваючы словы.

— Германія заклікана спраўдзіць гістарычную місію. Мы, немцы, ствараем і іншым дапаможам стварыць новы парадак, у якім будзе панаваць паўнацэнны чалавек, што вытрымае выпрабаванне на адбор. Мы знішчым струхлелую дэмакратыю плутакратаў і дыктатуру славянскіх прахвостаў і на іхняе месца паставім асобу, бо «не маса і не большасць вынаходзіць і мысліць, а заўсёды толькі выключны чалавек, асоба», як вучыць фюрэр. «У самім тварэнні — ці то матэрыяльным, ці то інтэлектуальным, са сферы думак,— найбольш каштоўны сам творца як асоба».

— Ja, ja,—ківаў Адомас.

Роп націснуў кнопку.

Увайшоў салдат.

Перакладчык быў сівы чалавек, апрануты ў добра пашыты цывільны гарнітур; ён гаварыў з жэмайцкім акцэнтам.

Роп паўтарыў свой маналог і, пакуль перакладчык перакладаў, уважліва пазіраў на Адомаса, якому рабілася ніякавата ад яго цяжкага дапытлівага позірку.

— Мне зразумелая ваша палітыка...

— ...і ідэалогія.

— Так. Літоўцы ніколі не забудуць, каму яны мусяць быць удзячныя за тое, што зноў уецца наш дзяржаўны сцяг і мы, не баючыся за сваё жыццё, можам спяваць наш нацыянальны гімн.

— Не ведаю...— Роп устаў.— Я ў гэтым не ўпэўнены. Да мяне даходзяць весткі, што адносіны мясцовага насельніцтва да нямецкіх салдатаў ужо не такія, як у першыя дні пасля вызвалення. Кветкі, якімі асыпалі нашу армію пасля таго, як яна перайшла мяжу, даўно завялі, а новых не відаць. Нямецкія салдаты ядуць літоўскае сала і яйцы, але дарам ім гэтага ніхто не дае: мусяць вымяньваць у гаспадароў на тытунь і цыгарэты. Вашы дзяўчаты прывабныя, цешаць вока, аднак яны чамусьці не хочуць заўважаць, што армія фюрэра складаецца са здаровых мужчын, якім для нармальнага жыцця недастаткова добра пад'есці... Калі мы хочам узняць баявы дух салдата на найбольшую вышыню, трэба стварыць ім такія ўмовы, каб

[1] Так, гэта дзівосна *(ням.)*.

яны адчувалі сябе як дома. Але, але...— Роп абышоў вакол стала, ледзь не закранаючы плячом Адомаса. Ён быў даволі стройны, сярэдняга росту і стараўся трымацца як сапраўдны немец, хоць і ў рухах яго і ў мове заўважалася жэмайцкая няўклюднасць. Спыніўшыся перад партрэтам Гітлера, што вісеў на бакавой сцяне кабінета, некалькі імгненняў пастаяў, пачціва знерухомеўшы, як перад алтаром, і зноў сеў.— Я не збіраюся ляпіць з вас агітатара, пане Вайнарас, як гэта з літоўцамі рабілі бальшавікі, але мусіце парупіцца, каб жыхары зразумелі, перад кім яны ў даўгу за свабоду.

Адомас слухаў, звёўшы вочы ўбок, і адно толькі ківаў галавой:

— Вядома, як жа... Ja, ja...

— Германія мусіць атрымаць грам у грам усе сельскагаспадарчыя прадукты паводле дзяржаўнага плана на падаткі. Папярэдзьце сялян, што кожны, хто пакіне ў полі хоць ахапак збажыны, будзе адказваць перад ваенна-палявым судом. Ваша зямля пры немцах павінна даваць не меншы ўраджай, чым пры Сметане. Калі ж сяляне будуць займацца сабатажам, адказваць за гэта давядзецца вам, пане начальнік паліцыі.

— Мне? — Адомас спахмурнеў.— Я магу адказваць толькі за сябе самога і загадзя запэўніваю вас, пане камендант, што сам удавацца ў сабатаж я, прынамсі, не збіраюся. А што тычыцца насельніцтва, дык тут усё будзе залежаць ад далейшых абставін. Бальшавікоў на літоўскай зямлі таксама сустракалі кветкамі, а праводзілі кулямі...

Роп страпянуўся і запытальна паглядзеў на Адомаса.

— Бальшавікі не спраўдзілі абяцанняў, якія давалі народу,— казаў той далей, утаймоўваючы раздражненне, што расло ў ім.— Нашы людзі вельмі добра памятаюць, што абвяшчалася па радыё з Германіі. Калі хочаце, магу слова ў слова паўтарыць адну мясціну з адозвы часовага ўрада Літвы да народа: «Мы хочам быць незалежнымі, мы гатовыя ахвяраваць сабой і ўсё аддаць Літве». Гэта гаварылася тры тыдні таму. Народ думае, што пара б і здзейсніцца гэтым словам; калі ж гэтага няма, людзі перастаюць верыць і немцам і нам.

Пакуль Адомас гаварыў, Роп нервова сціскаў кароткія тоўстыя пальцы. Потым павярнуўся з усім крэслам да перакладчыка, што прымасціўся ў канцы стала.

— Дзіўны народ! — Шчака, павернутая да Адомаса, тузалася.— Будзьце ласкавыя, падарыце нам незалеж-

насць... Нібы якія паношаныя нагавіцы ці пару жаночых панчох... Вільсан у васемнаццатым зрабіў вам такую ласку, але падараваную рэч не шануюць. Фіны як адзін уздымаюцца бараніць сваю зямлю, а вы самі выцягваеце рукі ды яшчэ дзякуеце, што вам наклалі кайданы. Не, пане начальнік паліцыі, незалежнасць нельга выпрасіць, яе трэба заваяваць!

— Дэкларацыя Вільсана засталася б пустым шматком паперы, калі б нашы бацькі не падтрымалі яе зброяй. У брацкіх магілах ляжаць тысячы літоўцаў. А пра саракавы год... лепей не будзем чапаць. Вы самі добра ведаеце, што сапраўдныя літоўцы не дзякавалі за кайданы.

— Навошта вы мне ўсё гэта кажаце? — Роп з пагардай глядзеў праз верх акуляраў на Адомаса.— Мы ж не за сталом дыпламатычных перагавораў. Я запрасіў вас для таго, каб вы прынялі належныя меры і такім чынам пазбеглі магчымых непрыемнасцей. А вы, замест таго каб цвяроза ацаніць становішча, пачынаеце фантазіраваць.

— Гэта не фантазія, а факты.— Адомас хацеў устаць і выйсці: зняважлівае стаўленне каменданта выклікала ў ім шаленства.— Народ спадзяваўся на свабоду і калі замест яе атрымае... Выбачайце, пане камендант, але хто яго тады пераканае, што ўсё мусіць быць так, а не інакш?

— Кулі! — Акуляры Ропа холадна бліснулі.— Мы маем іх дастаткова, пане начальнік паліцыі.

— Куляў? — машынальна прамармытаў Адомас.

— Хто не з намі, той з бальшавікамі. Трэцяга шляху не існуе. Мы, немцы, заклікаты выканаць гістарычную місію — ачысціць свет ад няварта сных людзей і распачаць эру звышчалавека. Вы ведаеце, што сказаў фюрэр у кнізе «Майн кампф»? Арыйская раса, як самая каштоўная частка чалавецтва, мусіць пахаваць пад руінамі старой цывілізацыі ўсе непаўнацэнныя расы. Тыя літоўцы, якіх не сапсавала славянская альбо жыдоўская кроў, належаць да арыйцаў і змогуць уліцца ў вялікі нямецкі народ, прыняць яго культуру, карыстацца ўсімі выгодамі германскай цывілізацыі.

— Альбо, працей кажучы, яны стануць немцамі,— панура заўважыў Адомас.

— Так, якія гэта заслужаць.— Роп дакорліва паківаў галавой.— Для прадстаўнікоў малога адсталага народа — гэта шчасце. Вы павінны б вечна дзякаваць лёсу за будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў.

Адомас моцна сціснуў кулакі. Адчуў, як пазногці ўпіліся ў далоні.

— Дзякую за шчырасць.— Ён устаў.— Дагэтуль мы многае ўяўлялі сабе інакш.

— Я сказаў больш, чым належала.— Камендант узняўся з крэсла і падаў Адомасу руку.— З разумнымі партнёрамі люблю гуляць адкрытымі картамі, Herr Polizmeister. Heil Hitler!

— Heil...— прабубніў Адомас.

## IV

Кабінет начальніка паліцыі быў на другім паверсе. Адомас крок за крокам цяжка ўздымаўся па рыплівых прыступках, трымаючыся за хісткія парэнчы, якія скрыпалі ад самага нязначнага дотыку, і ад гэтых гукаў, ад неправетранага паху казармы рабілася моташна. «Гісторыя не ведае выпадку, каб адзін народ проста так сабе, з добрых пачуццяў, вызваляў другі народ...» Слушна казаў Гедымінас. Але што мы тут можам зрабіць? Бугяніс сказаў бы: «Хочам мы ці не хочам, усё роўна ўсё адбудзецца так, як мае адбыцца, пане начальнік; Ёзасу Бугянісу не зрушыць кола гісторыі ні наперад, ні назад; самае большае, што ён можа зрабіць — асцерагчыся, каб гэтае кола не раздушыла яго самога...» Філасофія цяляці, якога збіраюцца рэзаць... Не, пане камендант! Пакуль што мы гаспадары на сваёй зямлі, а вы толькі госці, і мы пастараемся гэта даказаць!

Адомас, не стукаючы, націснуў клямку і ўвайшоў у кабінет, у якім, як звычайна, калі адсутнічаў начальнік, размяшчаўся вахмістр Бугяніс.

Гэта быў непрыкметны на выгляд, хударлявы чалавечак, аднак надзвычай энергічны, зласлівы, з вайсковымі навыкамі, якія ён прынёс са сметанаўскай арміі разам з чынам унтэр-афіцэра. Да падзей саракавога года ён працаваў у гарадской самаўправе, але новая ўлада звольніла яго, і давялося калоць камяні на будаўніцтве шашы.

Убачыўшы Адомаса, Бугяніс ускочыў з крэсла і адрапартаваў. Ён хваравіта прытрымліваўся вайсковай дысцыпліны і часта праз гэта выглядаў смешным.

— Як спалася, пане начальнік? — спытаў ён пасля афіцыйнай часткі.— Учора мы бачылі вас у «Трох асілках», п'янага, трэба сказаць, у дым.

— А што табе. Усе мы напіваемся.

— Але не гэтак, але не гэтак, пане начальнік. Абодва вы з Джугасам былі цёпленькія, як варэнікі пад падушкай.

— Які д'ябал цябе носіць па рэстаранах, калі ты гэтакі святы...

— Бачыце, ён нічога не прыпамінае! — Бугяніс крутнуўся, падышоў да дзвярэй, зноў да стала. Ён мітусіўся па пакоі, быццам на яго напалі пчолы, і недасведчанаму магло здацца, што Бугяніс надзвычай усхваляваны.— Роп загадаў адшукаць вас, пане начальнік, і сказаць, каб сёння ў дзевяць былі ў камендатуры. Цяпер ужо адзінаццаць. Немцы любяць пунктуальнасць.

— Які ён немец...

— А хто ж ён?

«Знямечаны жэмайцкі парсюк...» Адомас ляніва сеў. Крэсла было яшчэ цёплае, і яму зноў зрабілася блага, як і тады, калі падымаўся па лесвіцы. «Праклятае пахмелле».

— Прывядзі Пуплясіса,— загадаў, не паварочваючы галавы.— І Жакайціса,— дадаў, трохі счакаўшы.

Бугяніс стукнуў абцасамі, але не скрануўся з месца.

— Што яшчэ, чорт вазьмі, незразумела? — зазлаваў Адомас.— Я загадаў прывесці арыштаваных Матаса Пуплясіса і Пятраса Жакайціса!

— Слухаюся, пане начальнік! Прывесці Матаса Пуплясіса і Пятраса Жакайціса! — Бугяніс па-вайсковаму выпнуў грудзі і, крутнуўшыся на адным абцасе, памаршыраваў з пакоя.

Адомас праводзіў яго непрыязным позіркам: ён за шмат што не любіў Бугяніса, але найболей за тое, што не мог зразумець, дзе гэты чалавек гаворыць шчыра, а дзе блазнуе.

«Можа, трэба было параіцца з ім?»

«— Як ты мяркуеш, Ёзас, куды немцы падзенуць тых, чые чарапы скроены не па ўсталяваных стандартах?

— Ха-ха! Мы ўжо такім начапілі жоўтыя зоркі, пане начальнік. Хутка загонім у гета і прымусім заняцца карысна для нацыі працай.

— А ты перакананы, што твой чэрап адпавядае ўсім меркам?

— Чхаў я на гэта! Я не з тых дурняў, якія тлумяць сабе галовы заўтрашнім днём, мяркуючы, што ніколі не памруць. Ёзас Бугяніс — просты чалавек, пане начальнік. Сёння ён ёсць, заўтра яго няма, таму ён прызнае толькі гэты дзень. Сэнс жыцця? Калі паспееш, пакуль зойдзе

тваё сонца, перагрызці горла тым, хто капаў табе яму, дык болей змястоўнага жыцця не трэба і жадаць, пане начальнік».

«Кажуць, чалавеку трэба мець розум, здольнасці, а тут галоўнае, аказваецца,— зубы!»

Адомас цяжка ўстаў і падышоў да акна. Рыначны пляц быў запруджаны фурманкамі і людзьмі. Праз адчыненую фортку гарачы паўдзённы вецер даносіў востры пах конскай мачы і гоман базару.

«Людзі... Адна мова, адзін народ, адна айчына, любіць якую вучыліся з маленства. Колькі з іх збярэцца на гэтым пляцы праз нейкі дзесятак гадоў? Палова? Трэцяя частка? А можа, яшчэ менш — гэта ўжо гледзячы на тое, з якой руплівасцю мы будзем карыстацца кулямі, што прапанаваў пан камендант...»

Ён зноў успомніў свой сон і тую ноч, калі зрабіў тое, чаго, па глыбокім яго перакананні, нельга было пазбегнуць. Цяпер ён не бачыў лётчыка, а толькі адчуваў яго — бездапаможнае аслабелае цела, быццам гліняная глыба, душыла на плечы. («Ці Ісусу Хрысту цяжэй было несці крыж?») Чужое сэрца — крыло параненай птушкі — стукала ў плечы; Адомасу здавалася, што гэта адгукаецца рэха яго ўласнага сэрца, і ён дзівіўся, чаму гэта так — яны ж не ў гарах, не ў лесе, а ў мяккай, прапахлай сенам цемры. Яго крокі таксама былі мяккія, пругкія, як па нязляжалым стозе сена, аднак яму здавалася, што пад яго нагамі грукоча зямля (ён ішоў, не як ходзяць людзі, а па нейкім, д'ябал на яго, барабане!), ад грукату вось-вось абудзіцца ўся вёска, збягуцца людзі... Ужо чуваць за дзвярыма іх крокі!..

Увялі арыштаваных.

Адомас дрыготкаю рукою выцер спацелы лоб.

## V

Бугяніс выпхнуў арыштаваных на сярэдзіну пакоя, загадаўшы стаць смірна.

Адомас выняў пісталет з кабуры і паклаў на стол.

— Ты, вольны, Ёзас.

— Я?!.— Бугяніс здзіўлена вырачыў вочы.

Адомас кіўнуў.

— Сядайце,— сказаў ён арыштаваным, калі Бугяніс, пакрыўдзіўшыся, выйшаў.

Пуплясіс ступіў да пісьмовага стала.

Адомас паклаў руку на пісталет.

— Туды,— паказаў галавою на супрацьлеглую сцяну, дзе стаялі два крэслы.

Арыштаваныя селі. Пуплясіс спакойна, упэўнена, быццам у сябе дома на свой услончык, каб плесці пута, Жакайціс — нерашуча, нібы сумняваючыся, ці правільна ён пачуў. Абодва пазарасталі густымі барадамі; іхняе адзенне было адны суцэльныя лахманы, бруднае, з павыдзіранымі гузікамі, ад яго тхнула смуродам: ледзьве не месяц яны выбылі ў цесным склепе, не мыліся, не мянялі апраткі, там елі, там і патрэбу спраўлялі. На апухлых атупелых тварах былі відаць сляды незагоеных ран — Бугяніс са сваімі хлапцамі папрацаваў на славу — і свежы сіняк пад вокам у Пуплясіса.

Жакайціс быў у форме міліцыянера, у якой ён пайшоў, намерваючыся загінуць альбо вярнуцца пераможцам. Аднак не вытрымаў першага ж выпрабавання і вярнуўся здраднікам. Ён сядзеў неяк наўскос, нахіліўшы набок вялікую даўгаватую галаву, быццам яе не трымала доўгая шыя, і здавалася, што ён мае крывы карак. Матас Пуплясіс побач з ім быў падобны на непрапарцыянальна складзенага недаростка: амаль на трэць меншы ростам, аднак надзвычай шырокі ў плячах, у якіх таілася вялізная сіла, нават дзіўная для такога чалавека. Жыхары Лаўксадзіса называлі яго Кедронам — напіўшыся, ён любіў спяваць святыя песні, асабліва адну пра раку Кедрон. Наогул, гэта быў дасціпны чалавек, шчодра надзелены негабляваным сялянскім гумарам і цыркавымі здольнасцямі. Наспрач ён мог выпіць з півам дваццаць сырых яек, заесці шклом з цвікамі, пасля гэтага ўмошчваўся пасярод двара, на яго клалі дзверы ад пуні, па якіх праязджала фурманка, напханая суседзямі. Пуплясісы мелі шасцёра дзяцей, старэйшай з якіх Мігле-Дараце было дзевятнаццаць, а наймаршаму, Вітаўтасу-Якубасу, чатыры гадкі. Наколькі Матавушас Пуплясіс быў заняты бязбожнік, настолькі яго жонка Тарэса набожная; праз гэта, аднак, у сям'і не ўзнікала асаблівых непаладкаў, хоць у душы абое кпілі адно з аднаго, мяркуючы, што большага дурня (альбо дурніцы) не знойдзеш днём з агнём ва ўсёй Краштупенаўскай воласці. Калі нараджалася дзіця, Пуплясіс самаўласна выбіраў імя, і конча паганскае, але калі прыходзіла пара хрысціць, Пуплясеня паказвала нораў, і ў касцельныя кнігі немаўля запісвалі пад двума найменнямі: да бязбожнага далучалася хрысціянскае. Першы год кожны з бацькоў

упарта называў немаўля імем, якое ён выбраў, але потым, калі абое пераконваліся, што той, другі, бок не ўступіць, прыходзілі да згоды: пачыналі называць дзіця двайным імем. Жыхарам Лаўксадзіса, што не былі прызвычаены да такога шматслоўя, гэта было не да густу. Заўсёды адшукваўся дасціпны вясковы лінгвіст, які, удала абцяўшы канчаткі, так злучаў абодва найменні ў адно, што новае ўтварэнне адразу ж прыжывалася ва ўсёй акрузе. Такім чынам з Міглы-Дараты зрабілася Міграта, Кястуціс-Казімерас стаў Кястумерасам, а Вітаўтас-Якубас — Вікубасам.

Адомас моўчкі пазіраў на арыштантаў. «Магло іх тут і не быць, як і тых васемнаццаці, якіх са сваімі хлапцамі Бугяніс уходаў дваццаць сёмага чэрвеня».

— Даўно вас варта было б расстраляць,— сказаў ён.— Заслужылі: за здраду радзіме— вышэйшая мера. Нават і суда не трэба. Але я мяркую, што закон лепей разважыць, чым гняўлівы чалавечы розум. Таму вас належыць перадаць нямецкай палітычнай паліцыі. Там і высветлілася б, Жакайціс, ці ты адно толькі хвалішся і строіш нейкія хітрыкі, ці на самой справе ўлажыў Маруса Нямуніса. А ты, Пуплясіс, там зрабіўся б як шаўковы, і мы даведаліся б, як ты рупіўся на карысць свайго сельсавета, і наогул — ці большыя за цябе паны вінаватыя, ці сам руку прыклаў, што Гульбінасаў пакацілі на Усход.

Жакайціс неспакойна заварушыўся. У круглявых вачах мільганула надзея.

— Пане Вайнарас... начальнік... Я сапраўды... на справе гатовы даказаць...— замыкаў, спрабуючы ўзняцца.

Пуплясіс павярнуўся да Жакайціса спіной і зноў застыў. Цяжкія вялікія рукі ляжалі на каленях, быццам кавалы вэнджанага кумпяка.

— А ты што думаеш, Пуплясіс? — запытаўся Адомас.

— Я? — Пуплясіс нават не здрыгануўся, нават не паглядзеў на Адомаса.— Няўжо важна кату́, пра што думае мыш?

— Не мудрагель, стары. Хачу пагаварыць з табою пачалавечы.

— Ну, калі па-чалавечы, дык скажу, што прыгадаў адзін прыгожы летні дзянёк, калі ў твайго бацькі касіў канюшыну. Тады ты быў жабяня якіх-небудзь гадоў шасці. Так здарылася, што надыбаў на соннага зайца і ўгледзець не ўгледзеў, як шмаргануў касою па задніх лапах. Абедзве адцяў да каленяў. Ты тады кінуўся на мяне з ку-

Лакамі, няма чаго казаць, быў добры ваяка,— а потым плакаў, абняўшы зайца. Чулыя мы тады былі...

— І цяпер хочаш расчуліць? — Адомас сурова паглядзеў на Пуплясіса, аднак у голасе яго не было злосці.— А сам, як бачу, дык не расчуліўся. Здрадзіў свайму народу, таварышкаваў з ворагамі, дапамагаў чужынцам рабаваць сваіх, а цяпер апавядаеш пра заечыя лапкі.

— Я выконваў загады сваёй улады, як ты выконваеш сваёй...

Адомас пачырванеў.

— Выконваў?! Ты выслужваўся перад імі! — злосна крыкнуў ён.— Падзякуй богу, што ты проста дурны блазан. У іншым разе ўжо даўно ляжаў бы ў яме.

Пуплясіс нічога не адказаў.

— Дажываеш свой век, а не можаш зразумець, стары дурань, што авечкі павінны быць у адным гурце з авечкамі, каровы з каровамі і ні адных, ні другіх нельга змешваць з ваўкамі,— ужо лагадней гаварыў Адомас.— Мы — маленькі народ, жывём паміж двух гігантаў, нібыта жменька жыта паміж камянямі-жаронамі. Мусім быць сталёвымі, каб нас не раструшчылі. Наша моц у адзінстве. Рускія навязалі нам класавую барацьбу, пад'юджвалі брата на брата, каб мы перарэзалі адзін аднаго,— тады ім лягчэй было б управіцца з намі. Сёй-той («напрыклад, пан камендант») і сёння хацеў бы весці падобную палітыку, вядома, з другога канца, але мы не дазволім! Не, не дазволім... Часовы ўрад Літвы ў сваёй адозве да народа ясна выказаўся па гэтым пытанні: такую раскошу — міжусобную разню — могуць сабе дазволіць толькі стомільённыя народы, а нам дарагі кожны чалавек. Мы хочам усіх заблудлых вярнуць свайму народу; вядома, калі яны не лютыя ворагі, калі ўмеюць ацаніць нашу добрую волю і гатовы даказаць на справе...

— Я гатовы! Я ўжо казаў, пане начальнік, што гатовы!..— сарваўся з месца Жакайціс.— Ці служыў бы я самохаць у той міліцыі, зямлю дапамагаў бы дзяліць? Падбухторылі, угаварылі... Сляпы быў!

— Калі б немцы не адрэзалі дарогі, хто ведае, ці расплюшчыліся б твае вочы,— з'едліва ўсміхнуўся Адомас.— Але досыць пра гэта. Бачу, што раскайваешся, хоць, можа, у сім-тым і брэшаш, як цюцька. Гарбаты, але малады, час выпрастае. Хочаш служыць у паліцыі?

Жакайціс стаяў, панурыўшы галаву. Няголены твар дзіўна торгаўся.

— Магу... Усё магу, пане начальнік...— усхліпнуў ён. Яго ногі пачалі згінацца ў каленях, і паволі, быццам яго прытрымлівала за каршэнь нябачная рука, ён упаў на калені побач з крэслам.

— Да д'ябла, устань! — крыкнуў разлютаваны Адомас.—Ануча! Нам трэба мужчыны, а не бабы!

Жакайціс ускочыў.

— Пайшоў прэч! Чуеш? — Адомас паклаў руку на пісталет.— Знайдзі дзяжурнага і запрасі сюды.

Жакайціс, нібы не сваімі вачамі азіраючыся вакол сябе, бокам выслізнуў з кабінета.

— Бачыш, якія слупы вашай улады, галубок,— сказаў Адомас Пуплясісу, які сядзеў, нібы драўляны ідал, толькі вочы, што блішчалі спадылба, паказвалі, што пад згрубелай карою пня тоіцца чалавечае жыццё.— Такіх, як Жакайціс, у Літве тысячы. Што ты на гэта скажаш?

Мёртвая кара зварушылася, і на пажвавелым твары з'явілася нешта падобнае на ўсмешку. З такім выразам Пуплясіс грыз шкло.

— Нічога мудрэйшага, пане начальнік, чым тое, што ёсць, не скажаш. Жакайціс нядаўна жаніўся, мае маладую жонку, сам малады, мядовы месяц ледзьве мінуў, можа, і варта дзеля гэтага змяніць скуру, але я за сваю жонку гэтакай цаны не дам.

Адомас схаваў пісталет у кабуру.

— А можа, дзеці гэтага вартыя?

Пуплясіс здрыгануўся, але ўпарта глядзеў на Адомаса. Кулакі на каленях пакутліва ўздрыгвалі.

— Дзеці і без мяне вырастуць, пане Вайнарас. Чым цяжэй ім будзе, тым мацней будуць памятаць, каму абавязаны за гэта.

— А мы не хочам, каб памяталі.— Адомас устаў. Яму стала весела.— Выбірайся ты жывы-здаровы дадому. Жыта пара касіць. Які ты нам цяпер вораг? Конік-стракатун! Скачы не скачы, ваенную машыну не спыніш, нават калі ляжаш пад яе колы. Можа, думаеш, яшчэ вернуцца бальшавікі?

Пуплясіс пакруціў галавой: нельга было зразумець, згаджаецца ён ці не.

У гэты момант з шумам адчыніліся дзверы і ў кабінет упхнуўся Жакайціс, а ўслед за ім — Бугяніс з пісталетам, гатовым страляць.

— Пане начальнік, гэты тып... я яго затрымаў... Што тут урэшце, да ўсіх д'яблаў, робіцца?!

— Жакайціс, як мне здаецца, хоча папрацаваць на нас,— спакойна растлумачыў Адомас і, павярнуўшыся да Пуплясіса, дадаў: — Табе давядзецца штодня адзначацца ў паліцыі, а там відаць будзе. Жакайціс!

Той падскочыў, нібы наступіў на вужаку.

— У Каўнасе арганізуюць працоўныя батальёны. Набіраюць добраахвотнікаў на вайсковыя будоўлі. Добрая нагода, каб выкупіць сваю віну перад айчынай. Зразумеў?

— Зразумеў, пане начальнік... Выкуплю...

— Анархія! — абурыўся Бугяніс.— Вы кідаеце запалкі ў бочку з порахам, пане Вайнарас!

«Мілда будзе задаволеная»,— з іроніяй падумаў Адомас.

## *Раздзел чацвёрты*

### I

У выканкаме Марус сказаў:

— Мы арганізавалі курсы для непісьменных, таварыш настаўнік. Ці не змог бы раз у тры вечары ахвяраваць пару гадзін?

Гедымінас змусіў сябе ўсміхнуцца.

«Былі часы, калі мы называлі адзін аднаго сваім імем. Але цяпер паміж намі грувасткі пісьмовы стол і дзяўчына. якую мы абодва кахаем».

— Вы ж начальнік цяпер, можаце загадваць...

— Савецкая ўлада не загадвае сваім сябрам.

Марус тры гады хадзіў да Гедымінаса, калі той прыязджаў на вакацыі, паказваў яму сшыткі, спісаныя няўклюднымі літарамі, і кожную восень здаваў экстэрнам экзамены ў наступны клас.

Што б ні здарылася, ён гэтага ніколі не зможа забыць.

— Ці так ужо трэба пры савецкай уладзе, каб займаць пасаду старшыні валаснога выканаўчага камітэта, мець у кішэні пасведчанне аб заканчэнні трох класаў гімназіі? Сёння модна не чысціць пазногцяў, не насіць гальштука, не мыцца, хадзіць у пакамечанай вопратцы і выдаваць сябе за пралетарыя, пакрыўджанага буржуазіяй.

— У кожнай хаце ёсць свае мухі. Нічога, прыйдзе час — перавядуцца. Мы пастараемся, таварыш настаўнік, каб гэты час прыйшоў як мага хутчэй.— Позірк у Маруса быў цвёрды і ўпарты, нібы напяты канат, цяжкія жылі-

стыя кулакі ляжалі на стале, быццам былі гатовыя кінуцца ў бой і на справе даказаць сваю правату.

Потым Гедымінас такія кулакі ўбачыў у класе. Іх было шмат. Яны парамі ляжалі на школьных партах, нібы зняможаныя жывёліны на чорным стаптаным полі. Навошта яны сабраліся тут, гэтыя немаладыя ўжо людзі, твары якіх былі паараныя маршчакамі? Жанчыны, якія нараджалі і хавалі сваіх дзяцей, не ўмеючы напісаць свайго прозвішча? Ці гэтыя няголеныя мужчыны, якія ўвесь дзень завіхаліся каля варштатаў у майстэрнях альбо цягалі мяхі на чыгуначнай станцыі? Няўжо яны думаюць, што пасядзяць пару гадзін за школьнай партай — і хлеба прыбудзе?

— У такія гады... як дзеці... Хіба не смешна, таварыш настаўнік? — спытаўся адзін здаравяк, калі Гедымінас, падышоўшы, узяў яго руку з алоўкам і паказаў, як правільна пішацца слова.

На лбе ў здаравяка выступіў пот, твар пачырванеў ад напругі. Зняверапы і стомлены, ён глядзеў на непаслухмяныя літары і думаў, што кожная з іх цяжэйшая за таварны вагон, сотні якіх ён разгрузіў за сваё жыццё. Але ён ужо не мог адступіць назад. Нібы катаржнік камяні, ён будзе падкочваць камень да каменя, злучаць іх у стопудовыя словы, пакуль мёртвая папера не загаворыць дзівоснай мовай.

Яго мучыў духоўны голад.

Гедымінас паглядзеў у прагныя, па-дзіцячы сарамлівыя вочы і, апанаваны дзіўным хваляваннем, адказаў:

— Вучыцца ніколі не смешна, сябра.

Тады ўсе галовы, колькі было іх у класе, адарваліся ад сшыткаў і павярнуліся да Гедымінаса. У вачах свяціліся тая самая неспатольная прага і дзіцячая сарамяжлівасць.

«Да гэтага часу я не ведаў людзей»,— падумаў здзіўлены Гедымінас.

Некалькі дзён перад гэтым ён быў у вёсцы. Каля дарогі босы селянін у палатнянай кашулі сеяў жыта. Яго крокі былі шпаркія, узмахі шырокія, твар па-святочнаму ўрачысты. Штогод, восенню і вясною, ён кідаў зярняты ў глебу, што тужыла па насенні, аднак усё ў чужую, а цяпер першы раз засяваў сваё поле.

— Тут мая зямля, таварыш настаўнік. Вунь там на пагорку ў наступным годзе збудую хату, а каля хаты пасаджу сад. Ці вы разумееце, што азначае мець сваю зямлю і сваю хату, калі ў цябе чацвёра дзяцей?

— Вядома, вам цяпер не давядзецца парабкаваць у гаспадароў...

— Не, вы нічога не разумееце.— Селянін прысеў на кукішкі і абедзвюма далонямі, нібы песціў, пачаў гладзіць дробныя пульхныя грудкі зямлі.— Зямелька, зямелька. Кінеш ёй адно зярнятка, а яна табе дзесяць верне. Родная маці не бывае шчадрэйшая да свайго сына...— нібыта малітву, шапталі яго губы, а вочы гарэлі свяшчэнным голадам. Як і ў тых, што сабраліся ў класе, каб разгадаць таямніцу пісанага слова.

Калі селянін, напоўніўшы сяўню насеннем, рушыў далей па раллі, Гедымінас доўга не мог адарваць зачараванага пагляду ад постаці ў зрэбнай кашулі, якая аддалялася, выпускаючы з абедзвюх рук сонечныя промні зярнят.

«Гэты чалавек змог бы адкроіць лусту с в а ё й зямлі і есці яе, як хлеб. Ён ашалеў ад шчасця. Вось глядзіш на яго і пачынаеш сумнявацца, ці сустракаў ты дагэтуль с а п р а ў д ы шчаслівых людзей...»

Марус некалі сказаў — тады паміж імі яшчэ не стаяла жанчына:

— Нацыя, нацыя. Твая нацыя, Гедымінас, падзелена на паганятых і валоў у ярме. Пакуль не разбурацца перагародкі, што падзяляюць людзей, літовец будзе араць на літоўцы, а наша Літва будзе стукацца з торбай у чужыя брамы.

Няўжо бальшавікі зрушылі гэтыя неадольныя бар'еры?

Гляджу, не зводзячы вачэй,—
няўжо стаў край у змене дзён
такім, якім у сне начэй
душы бяссоннай быў відзён?!

Позна ўвечары, вярнуўшыся з заняткаў, Гедымінас разгарнуў пажоўклую папку, напакаваную сшыткамі. Недзе, у падсвядомасці, варушылася думка, што гэтак рабіць не трэба, што гэта блюзнерства, што ён здраджвае ўсяму, чым да гэтага часу жыў і дзеля чаго жыў, але перад вачамі стаяў той селянін у зрэбнай кашулі, што з абедзвюх рук кідаў у зямлю прамяністае зерне, людзі, што сядзелі на школьных партах, і Гедымінас не здолеў запярэчыць незразумелай сіле, якая ўзварушыла яго пачуцці і розум. Гэтак было заўсёды, калі яго ахопліваў душэўны ўздым; у такія хвіліны Гедымінас браўся за аловак і выліваў на паперу ўсё, што было ў душы.

Верш здаўся яму ўдалым; у папцы іх быў цэлы стос —

літаратурныя спробы за які дзесятак гадоў; некалькі яго вершаў былі надрукаваныя, але апошні верш, здаецца, вылучаўся і сярод іх.

«Варта было б прапанаваць у газету».

На другі вечар Гедымінас яшчэ раз перачытаў верш.

Ён ужо не здаваўся яму такім удалым.

«Што ні кажы, няёмка будзе, калі сябры ўбачаць яго надрукаваным. Хіба што пад псеўданімам...»

А неўзабаве ён сустрэўся з тым чалавекам. Здавалася, нічога асаблівага ў ім не было, такіх людзей было шмат навокал. Гедымінас часта з імі сутыкаўся і наслухаўся ўсяго. Але гэты чалавек надта ўжо нагадваў таго селяніна ў зрэбнай кашулі, які мог адкроіць лусту с в а ё й зямлі і есці яе, як хлеб. Ён таксама быў у палатнянай кашулі, босы, да самазабыцця ўлюбёны ў сваю зямлю працаўнік. Калісьці, калі дзеці ў яго былі малыя, ён наймаў парабка і парабчанку, на гадзіну раней за іх уставаў і на гадзіну пазней клаўся. Ён быў кулаком. Калі дзеці падраслі, самі ўпраўляліся з гаспадаркай. Але ўсё роўна ён быў кулаком, бо меў болей зямлі, чым дазваляў цяперашні закон.

— Няхай бы ўжо адабралі тыя некалькі гектараў, калі такі парадак у новай улады,— скардзіўся ён Гедымінасу.— Але нашто чалавека зжываць са свету? Кулак, прыгнятальнік, той на чужым карку сядзеў... Але гэтую зямлю мне бацькі пакінулі, таксама атрымаўшы ад сваіх бацькоў! Калі вы хочаце ведаць, мае ногі да самага замаразку не мелі ніякага абутку, а парабкі босыя з хаты кроку не ступяць: абуй — і ўсё тут! Быў чалавекам, і паважалі, здаецца, і нічога ніколі кепскага не казалі, а цяпер робяць з цябе найстрашнейшага звера.

Гедымінас вярнуўся дадому прыгнечаны.

«Марус, а можа, твае паганятыя памяняліся месцамі з валамі?»

Ён дастаў з папкі сшытак, перачытаў верш.

Селянін у зрэбнай кашулі, як помнік, стаяў пасярод раллі. Рукі ў яго былі растапыраныя, нібы ён намерваўся абняць усю зямлю, але з яго далоняў, аднак, ужо не струменіліся сонечныя промні.

Гедымінас вырваў са сшытка ліст з вершам і падраў яго на дробныя кавалачкі.

## II

У пачатку трэцяга трыместра яго выклікалі ў гаркам партыі.

Ён здагадваўся, чым гэта пахне: дырэктар не адзін раз упікаў яго, што ён ухіляецца ад грамадскіх абавязкаў, а камсарг гімназіі на пасяджэнні педсавета адкрыта абвінавацiў яго, што ён падрывае аўтарытэт камсамольскай арганізацыі. І яшчэ да таго ж нядаўна гарана нагадала, што трэба няўхільна прытрымлівацца інструкцыі Камісарыята асветы і не чапляцца за «ідэалістычны баласт», які, паводле ўказанняў зверху, быў выкінуты з праграмы.

У гаркам партыі пайшоў, адчуваючы сябе вельмі няўтульна, але цвёрда наважыўшыся адпрэчыць усе закіды. Ухіляюся ад грамадскай работы? Як жа, пан... таварыш сакратар, такая работа, у якой я не бачу ніякага сэнсу, даводзіць мяне да шаленства. Усе гэтыя сходы, мітынгі, заклікі з трыбуны... Калатэча, арганізацыі, пераарганізацыі... Нейкі бясконцы базар, на якім, можа, нехта і ўтаргуе, але толькі не настаўнік. І, вядома, не вучні. Яны ж таксама ўцягнутыя ў гэтую палітычную валтузню, у якой на што хочаш хапае часу, але толькі не на ўрокі. Я мяркую, што абавязак настаўніка перадаваць вучням свае веды, абавязак жа вучняў — іх засвойваць, а не палітыкаваць, таварыш сакратар. А што да аўтарытэту камсамола, дык гэта сапраўднае непаразуменне. З якой ласкі я павінен ставіць камсамольцу добрую адзнаку, калі ён кепска вучыцца? Хіба для таго, каб камсарг змог сказаць: «Вось якая савецкая моладзь! У дзённіках за ўвесь трыместр няма ніводнай двойкі!» Разумею, гэта можа прывабіць новых членаў у камсамольскую арганізацыю, але ніякім чынам не памножыць іх ведаў. Я — сумленны настаўнік, таварыш сакратар. І з гэтага, мабыць, яшчэ адно, не меней цяжкае абвінавачанне — што я не прытрымліваюся інструкцыі Камісарыята. Часткова — праўда. Але згадзіцеся, праграма па гісторыі Літвы дужа абкарнаная, з яе выпаў шэраг важных момантаў, без уліку якіх гістарычная ісціна бачыцца скажонай. Як педагог я не маю права ўводзіць у зман вучняў, а як літовец — не магу са спакойным сумленнем ступаць бруднымі нагамі па святых мясцінах.

Гедымінас і не спадзяваўся, што ў гаркаме яго захочуць зразумець (палітыка застаецца палітыкай), аднак не сумняваўся, што пераканае таварыша Гавенаса, што не

3*

мае благіх намераў. Не плюнуць жа яму там у вочы, як плюнуў дырэктар гімназіі Уміла: «Ваша біяграфія, настаўнік Джугас, мусіла б вас болей абавязваць. Сястра замужам за панам, бацька добраахвотнік, ды яшчэ ўзнагароджаны крыжам Пагоні, а самі ва універсітэце, здаецца, былі ў неалітуанах [1]. Прыгожы букецік, нічога не скажаш, хе, хе...» Ён нічога і не казаў, ён толькі хацеў, каб яго правільна зразумелі: усё, што ён рабіў, вынікала са шчырага сэрца, з перакананняў, тут няма ніякага падману ці злога намеру; ён не ўмее крывадушнічаць і прыстасоўвацца, бо, галоўнае, не мае здольнасці тых павярхоўных, беспрынцыповых людзей, якія ў адзін момант могуць перамяніць сваё перакананне, нібы сарочку ў прылазніку, каб у адпаведны час зноўку нацягнуць яе — брудную, аднак паспешліва адпрасаваную — на сваю гнуткую спіну. На жаль, ён не такі. Перш за ўсё ён мусіць вынішчыць з розуму і сэрца ўсё, чым жыў, прыняць чужую праўду як сваё непазбежнае існаванне, і толькі тады ён зможа ўпасці перад ёй на калені і маліцца, як маліўся дагэтуль старым багам. Таварыш Гавенас, вядома, не апраўдае яго, Гедымінаса, але, наколькі даводзілася чуць ад іншых і верыць свайму асабістаму ўражанню, ён разумны чалавек і павінен жа зразумець, што адкрыты вораг (калі трымацца бальшавіцкай фармуліроўкі: «Хто не з намі, той супраць нас») менш небяспечны і болей варты павагі, чым двурушны сябра, які стаў такім пад прымусам альбо ад страху.

Псіхалагічна падрыхтаваўшыся такім чынам, Гедымінас адчыніў дзверы ў кабінет сакратара, у якім калісьці гаспадарыў бурмістр Бяржэнас. Як усё тут змянілася! Вось — у адным кутку квадратны стол з чатырма мяккімі, абабітымі скурай крэсламі. Раней стол быў засланы зялёным сукном, на ім да позняй восені стаяла ваза з жывымі кветкамі, якія штодня прыносіў і ставіў у ваду сам бурмістр. Цяпер стол быў засланы чырвонай тканінай — суцэльна пустая заваяваная тэрыторыя, на сярэдзіне якой, як знак перамогі, узвышаўся чырвоны сцяжок. Утульны твой дом — ужо не твой дом. Са сцен пазрываны каштоўныя сямейныя рэліквіі і паразвешваны іншыя: партрэты дзеячаў чужой краіны, чужы герб, чыесьці чужыя словы, напісаныя белымі літарамі на чырвоным транспаранце на ўсю даўжыню сцяны. Усё халоднае і чужое.

[1] Нацыяналістычная студэнцкая арганізацыя.

Убачыўшы наведніка, Гавенас устаў з-за груваcткага дубовага стала і стрыманым жэстам рукі папрасіў сесці. Ён быў сярэдняга росту, сухарлявы, з доўгім худым тварам, на якім выдаваліся косці шчок. Досыць яркі, што западае ў памяць, партрэт, хоць нельга было сказаць, якога колеру ў яго вочы. Наогул, рабіў прыемнае ўражанне інтэлігентнага чалавека, аднак, нягледзячы на ўсе яго намаганні трымацца нязмушана, адчувалася, што ён увесь час хвалюецца і бянтэжыцца, і, разумеючы, што гэта відаць старонняму, яшчэ больш нервуецца і злуе на самога сябе.

Некалькі агульных фразаў пра надвор'е, здароўе, наогул пра жыццё. Пашкадаваў, што не давялося пазнаёміцца раней. Гедымінас адказваў асцярожна, але шчыра, чакаючы, калі пасыплюцца папрокі, але Гавенас паводзіў сябе так, быццам яму абрыд гэты прасторны кабінет і ён запрасіў сюды старонняга чалавека толькі для таго, каб разагнаць смутак.

— Мяне часам дзівяць стрыманыя адносіны некаторых колаў нашай інтэлігенцыі да савецкай улады,— гаварыў ён.— Я маю на ўвазе людзей, што выйшлі з народа, у горшым выпадку звязаных крэўным сваяцтвам з дробнай буржуазіяй, якія ў часы сметанаўскай дыктатуры выступалі супраць рэжыму таўцінінкасаў [1]. Вядома, цяжка чалавеку, што страціў старыя арыенціры, адразу думаць па-новаму, але як можна не бачыць фактаў? Бо тым, хто любіць свой народ,— а тая частка інтэлігенцыі, пра якую я гавару, у часы Сметаны дужа бедавала пра лёс літоўскага народа,— павінна быць зразумела, што савецкая ўлада дала народу Літвы тое, чаго ніякая іншая ўлада не магла і ніколі не зможа даць. Папярэджваю вас, таварыш Джугас, я — чалавек без нацыянальных прыхамацяў, аднак пастараюся паглядзець на наш час вачамі інтэлігента, што не пазбыўся гэтых прыхамацяў. Найперш возьмем зямлю, асноўнае багацце народа. Мы раздалі фальваркі — сярод багацеяў быў куды меншы працэнт літоўцаў, чым сярод беднаты. Што змогуць адказаць на гэта тыя людзі, якія ў часы Сметаны крычалі, што літовец па-ранейшаму парабкуе на чужых паноў, а цяпер усё роўна касавурацца на савецкую ўладу? Далей: права на працу, адпачынак, на бясплатнае лячэнне і адукацыю. Нацыя атрымала шмат, надзвычай шмат, таварыш Джугас. Такія факты, і іх не аспрэчыш. Мне часам здаецца, што людзі, якія ўсяго гэта-

[1] Нацыяналістычная партыя ў буржуазнай Літве.

га не бачаць, апанаваныя нейкай, не зразумелай нам, маніяй.

Гавенас замоўк і запытальна паглядзеў на Гедымінаса. «Гэта пра мяне,— падумаў ён.— Але чаму, таварыш сакратар, такою кружною дарогаю?»

— Не ведаю. Чалавек, бачыце, дзіўнае стварэнне. Аднаго абсып з галавы да ног золатам, і ўсё роўна ён будзе незадаволены, а другому, каб быць шчаслівым, дастаткова посаха вандроўніка і бясхмарнага неба над галавой. Кожны па-свойму маньяк.

— Выбачайце.— Гавенас вінавата ўсміхнуўся.— Па спецыяльнасці я прафесійны падпольшчык, хоць даводзілася працаваць і бухгалтарам. Дзялянкі далёкія ад сферы мастацтва, так што алегорыі мне не па зубах.

— Думаю, што гэтая манія, як вы цяпер выказаліся, называецца нацыянальным самалюбствам. Так, наша нацыя шмат атрымала ад савецкай улады. Беззямельнікі займелі зямлю, работнікі — працу, права на бясплатнае лячэнне, адукацыю і гэтак далей; аднак тыя інтэлігенты, якія, кажучы вашымі словамі, усяго гэтага не бачаць, відаць, мяркуюць, што нацыя, атрымліваючы гэтыя даброты, страціла галоўнае — дзяржаўнасць.

— Выбачайце, вы, напэўна, хацелі сказаць: незалежнасць? — асцярожна заўважыў Гавенас.

— Можаце і так разумець, бо гэтыя два паняцці не існуюць адно без другога.

— Незалежнасць буржуазнай Літвы! — Гавенас ад душы засмяяўся.— Вы ўсур'ёз верыце, што яна была? Свабодная, незалежная Літва з самастойнай замежнай палітыкай, са сваёй эканомікай? Карацей кажучы, дзяржава, а не вотчына заходніх манапалістаў, клімат якой залежаў ад замежнага капіталу?

— Няхай яна была вотчынай манапалістаў, аднак жа мела свой літ, сваё войска, а калі міністр замежных спраў гэтай вотчыны прыбываў з афіцыйным візітам у іншую дзяржаву, перад ім выстройвалі ганаровы каравул.

— Вы адчувальныя да вонкавага бляску, таварыш Джугас. Але просты народ, мабыць, думае інакш, калі ён паставіў крыж на так званай незалежнасці, якая па сутнасці была незалежнасцю толькі паноўных колаў.

«Паставіў крыж... калі ўвайшло чужое войска...»

Гедымінас крыва ўсміхнуўся.

— Я не хацеў бы, каб мяне няправільна зразумелі, таварыш сакратар,— сказаў ён.— Калісьці я быў настроены

вельмі нацыяналістычна. На першым курсе універсітэта я нават уваходзіў у карпарацыю неалітуанаў. Ненавідзеў палякаў, не любіў рускіх і немцаў, з павагай глядзеў на англа-саксонскія народы, абагаўляў усё літоўскае. А потым патрохі ачомаўся. Убачыў, што тым, якія кіруюць Літвой і гавораць народу прыгожыя словы, гэты народ патрэбны толькі для таго, каб, спекулюючы на яго імені, напакаваць свае кішэні грашыма, купіць маёнтак, пагуляць за народны кошт на замежных курортах. Бачыў, як мой бацька выстойваў па тры дні ў чарзе, каб здаць беконную свінню, як дрыготкімі рукамі лічыў кожны літ (ці хопіць на падаткі і за маё навучанне?), а ў той жа час студэнты — сыны найвышэйшых чыноў — за адзін вечар прасаджвалі ў карты больш, чым уся наша гаспадарка за цэлае паўгоддзе назбірвала ад здачы малака. Мне даводзілася бачыць сялян, што вымушаны былі расставацца з роднымі сядзібамі, і кожны раз, чытаючы ў газеце даўжэзныя спісы гаспадарак, прададзеных з таргоў, я ўяўляў, колькі сем'яў у гэты час плача, цалуючы парог роднага дома, які цяпер будуць пераступаць іншыя. Усё гэта я бачыў, таварыш сакратар. І няроўнасць, і эксплуатацыю, і хлусню. Мая нацыя пакутавала ад сваіх жа паноў, якія яе падманвалі і прыгняталі, і я не мог не радавацца, калі нарэшце іхняя ўлада скончылася. Народная Літва! Тады мы ўсе без выключэння, каго турбаваў лёс нацыі, былі за народную Літву. Ніхто і не меркаваў спачатку, што новы лад менш за ўсё зацікаўлены ў тым, каб захаваць дзяржаўнасць Літвы...— Гедымінас раптам абсекся: на яго глядзелі пранізлівыя карыя вочы Гавенаса. Але, карыя. Гедымінас цяпер добра бачыў іх колер. Мяккія пяшчотныя рысы твару, што падахвочвалі да сардэчнай шчырасці, пабляклі, не засталося і знаку ад той сарамяжнасці, праз якую прабівалася незадаволенасць сабою, а можа, занадта вялікая павага да іншага.

— Кажыце далей, кажыце,— прабубніў ён, не спускаючы вачэй з Гедымінаса.

Гедымінас памаўчаў хвіліну, пазіраючы ў акно,— яму здалося, што Гавенасаў позірк, быццам вострая брытва, набліжаецца да горла. «І якога д'ябла я распусціў язык?» Яму стала страшна. За акном была відаць вільготная вуліца, залітая яркім сакавіцкім сонцам, і ён адчуў, што зайздросціць прахожым, адзіны клопат якіх, здавалася,— абысці брудную лужыну ды яшчэ ўхіліцца, каб не трапіла за каўнер халодная кропля з ледзяша.

— Я гэтак думаю, толькі думаю, таварыш сакратар. Але не кажу, што не памыляюся.— Гедымінасу стала агідна ад апошняй сваёй фразы.

— Ваша ўяўная дзяржаўнасць нагадвае мне агарод без плота, дзе корпаюцца суседскія свінні,— сказаў Гавенас.— Падумаць толькі, перад міністрам замежных спраў выстройваецца ганаровы каравул! А ў гэты час Рыбентропківае пальцам: падыдзі, малеча, сюды, што там у цябе? А-а, Клайпеда! Калі ласка, аддай мне гэтую цукерку. Альбо Бэк: годзе балбатаць «мы без Вільні не супакоімся», згадзіцеся, што яна была і будзе непадзельнаю часткаю Польшчы! І аддалі Клайпеду, і прызналі за палякамі Вільню, а папрасілі б немцы ў дадатак Сувалкію — аддалі б і яе. Мусім радавацца, што, дзякуючы спрыяльным акалічнасцям, мы змаглі далучыцца да Савецкага Саюза. Малой нацыі, калі карыстацца вашым тэрмінам, гэта сапраўднае шчасце. Зрэшты, што такое нацыя? Людская суполка, аб'яднаная адною моваю, гісторыяй, звычаямі? Скажам, так. Аднак нішто гэтак не яднае людзей, як супольная праца, аднолькава ганаровае становішча ў грамадстве, супольныя інтарэсы. Наша нацыя, тава... настаўнік Джугас, гэта ўвесь працоўны народ, на якой бы мове ён ні гаварыў. Яму напляваць на ганаровыя каравулы вашага міністра. Ён хоча працаваць, тварыць і карыстацца плёнам сваёй працы. Сацыялізм вядзе свет у будучыню, дзе ўсе людзі змогуць дамаўляцца паміж сабою на адной мове, жыць без дзяржаўных межаў, без армій і, зразумела, без войнаў. Гэта непазбежна адбудзецца — жадаем мы таго ці не. Такі дыктат гісторыі, такая логіка дыялектычнага матэрыялізму. Вам варта было б хоць трохі паштудзіраваць марксізм-ленінізм,— дадаў Гавенас і ўстаў.

— Я чытаў сёе-тое...— Гедымінас таксама ўстаў.

«Такі дыктат гісторыі... Вядома, нацыі паміраюць, як і асобныя людзі. Але навошта спяшаецеся да часу ўвагнаць іх у магілу? Губіце жыцці мільёнаў людзей...» — падумаў ён.

— Мы занадта паблажлівыя да інтэлігентаў вашага тыпу, настаўнік Джугас. Не зважаем на іх мінулае, давяраем ім выхаванне моладзі і гэтак далей...

Не ведаючы, што адказаць, Гедымінас падаў руку, каб развітацца, але Гавенас не заўважыў яе — заклаўшы рукі за спіну, ён па-ранейшаму стаяў за сталом.

— Усяго добрага, таварыш сакратар.

— Усяго добрага.

Гедымінас павярнуўся (не, нехта чужы павярнуў яго за плечы) і не сваімі нагамі пайшоў да дзвярэй. Узяўся за клямку (не сваімі рукамі), але не меў сілы націснуць. Азірнуўся (не ён, а нехта іншы за яго) і, нібы праз імглу, гледзячы на чалавечую постаць, схіленую за сталом, прагаварыў:

— Мабыць, я павінен падаць заяву на звальненне...

Постаць неспакойна заварушылася (напэўна, замахала рукамі), і адтуль даляцеў раздражнёны голас:

— Пра гэта патурбуецца сам калектыў гімназіі.

## III

— Перад сходам мяне выклікаў дырэктар, сказаў, каб я рыхтаваўся выступіць. Ты стары настаўнік, Баўкус, з аўтарытэтам, сказаў дырэктар, вельмі важна, каб такі чалавек падтрымаў маю пазіцыю. Спачатку я ўпарціўся, як жа, сэрцам я быў на вашым баку, заўсёды паважаў вас, мушу прызнацца, нават любіў. Але Уміла, у што б там ні стала, хацеў вас разбамбіць — такое ўказанне гаркама партыі. І я, разумееце, змушаны быў... я быў змушаны... Жонка, дзеці, самі разумееце... Моцны чалавек, напрыклад, такі, як вы, устаяў бы, а я не герой, пане Джугас, не герой...

Настаўнік матэматыкі Лявонас Баўкус сядзіць за сталом, затуліўшы далонямі твар. Вострыя прыгорбленыя плечы, ліловая лысіна, ліловы кончык носа. Брыдкае пудзіла —не чалавек. Хацеў, маўляў, кінуцца ў ногі ў першы ж дзень, калі Гедымінас заявіўся ў гімназіі, але пабаяўся — ёсць злачынствы, якія нельга дараваць, і людзі, якія не могуць дараваць.

— Але вы не такі, ведаю, што вы не такі, пане Джугас... Вы разумееце, які тады быў час. Даруйце старому дурню.

— Я даўно ўжо вам дараваў, пане Баўкус.

— Не гневайцеся, не трымайце зла...

— Не гневаюся і не трымаю зла. Вы былі толькі прылада. Ці можна асуджаць нож, які забойца ўвагнаў у спіну сваёй ахвяры?

— Не кажыце так, пане Джугас,— я чалавек, я маю сумленне!

— Гэткіх людзей, як вы,— тысячы. Учора са страху яны дапамагалі тапіць людзей адным, сёння дапамагаюць

другім. А калі некаторыя, як вы, яшчэ трымаюцца збоку, дык гэта толькі таму, што нямецкі Гавенас альбо Уміла яшчэ не ўзяў іх за каршэнь.

— Не, вы мне не даравалі, пане Джугас, вы пагарджаеце мною.

— Я так не лічу, пане Баўкус.— Гедымінас уключае радыё, стаіць каля апарата, павярнуўшыся да госця спіною.— Не ваша віна, што вы нарадзіліся ў Літве, а не дзе-небудзь у Швейцарыі ці ў афрыканскіх джунглях. Наогул, хіба мы вінаватыя, што жывём не ў дзевятнаццатым стагоддзі, калі ў свеце не было Умілаў, а людзі мелі менш хлеба, але затое больш годнасці. Не, я не лічу, пане Баўкус, што я пагарджаю вамі. Мне проста шкада вас, як і кожнага, чый лёс не дужа зайздросны. Вось і ўсё.

— Шкада... вам шкада мяне! Я не патрабую, не маю права патрабаваць вашай павагі... Але, малю, не думайце пра мяне як пра апошняга нягодніка, пане Джугас...

Па радыё — урачысты голас дыктара: перадаюць апошнія паведамленні з вышэйшай стаўкі фюрэра.

На Усходнім фронце распачалася апошняя, вырашальная бітва. Узяты гарады: Адэса, Калуга і Калінін. Маскоўскі ўрад схаваўся ў Казані... На сённяшні дзень знішчаны і ўзяты ў палон шэсць мільёнаў бальшавіцкіх салдатаў. Вораг пастаўлены ў такое становішча, што яшчэ да зімовых халадоў будзе разбіты...

Гучыць «Хорст Весель». Ваенныя маршы.

Паўтараюць урыўкі з адозвы фюрэра да народа:

«Немцы! Вялікая Германская імперыя перажывае найвелічныя гадзіны ў сусветнай гісторыі. Сцягі трэцяга рэйха развяваюцца ад Атлантыкі да Чорнага мора. Наша гераічная армія ўжо штурмуе галоўныя гарады Расіі — Маскву і Ленінград. Усе сілы — перамозе! Закончыць ваенную кампанію да зімовых халадоў! У Германіі няма іншага выбару — альбо перамагчы, альбо быць знішчанай да апошняга чалавека...»

— Ці не здаецца вам, пане Баўкус, што, у параўнанні з тым, што цяпер творыцца ў свеце, нашы асабістыя адносіны не вартыя і макавага зярняці? — Гедымінас пераключае хвалі, шукае іншую станцыю. Лёгкая танцавальная музыка.— Якое гэта мае значэнне, ці паважаю я вас, ці пагарджаю вамі, калі бурацца цэлыя дзяржавы, а забойства чалавека лічыцца подзвігам? Забудзем, што было. Навокал занадта шмат сапраўдных ворагаў, каб нам заставацца ворагамі.

— Несумненна, несумненна, пане Джугас, ваша праўда. На ўсе сто працэнтаў, ваша праўда...— Баўкус першы раз за ўсю размову падымае вочы, цяжка ўстае, нясмела падае руку Гедымінасу.— Мне толькі пяцьдзесят... ёсць яшчэ час... я пастараюся... Вы ўбачыце, што я не такі ўжо нягоднік...

Гедымінас моўчкі пацiснуў яму руку, правёдзіў да дзвярэй.

Лявонас Баўкус пляцецца па двары, быццам чапляецца за нябачныя прадметы, і знікае ў садзе сярод голых дрэў. Яшчэ адно дрэва з пазрыванай лістотай...

— Пане Гедымінас, будзе дождж. Заставайцеся гэтую суботу дома.

Гэта гаспадыня дома Анута, панна не першай маладосці, якая заўсёды турбуецца пра справы пана настаўніка куды ў большай меры, чым трэба.

Гедымінас праходзіць каля яе, ледзьве не зачапіўшы крутыя, выстаўленыя напаказ грудзі, бярэ прыхінуты да сцяны ровар і штурхае яго да веснiц.

— Да заўтрашняга вечара, панна Анута. Жадаю весела правесці нядзелю.

— І вам таксама, пане Гедымінас. Паклон вашаму тату.

— Шчыра дзякую, панна Анута. Тата будзе рады.

Асеннія нізкія хмары вісяць над горадам. Вулічны брук, тратуары, нават дахі прысадзістых дамоў услалы лістотай, а парывісты кастрычніцкі вецер усё яшчэ зрывае яе з асірацелых галін і шпурляе апошні ўбор лета пад халодныя ногі восені.

Вільготны пах прэлага жыцця, змешаны з пахам зямлі. Панурыя шэрыя людзі, шэрае паветра, шэрае неба — нібы попел патухлага вогнішча. Шэрае існаванне за шэрымі сценамі дамоў, у шэрых дварах, дзе яшчэ валяюцца парэпаныя, засыпаныя шэрым пылам сёлетнія каштаны. Шэрасць. Нешта сярэдняе паміж чырвоным і чорным, радасцю і скрухай, вясельнай сукенкаю і дошкай труны. Штодзённая вопратка — яна не ўпрыгожвае, надакучыла, але ў ёй цёпла і ўтульна. Салдацкі шынель, што ўраўноўвае забойцу і ахвяру. Пане Баўкус, беражыце сваю шэрую апратку, пад ёю зручна хавацца...

«Каб я быў сапраўды паэтам, напісаў бы добры верш. Чалавек, як і большасць жывых істот, бароніцца ахоўным колерам. Аднак не ўсе могуць прыстасавацца, некаторыя гінуць. Застаюцца толькі тыя, у якіх найлепш развіты

звярыны інстынкт — чаго б ні каштавала, уратаваць сваю шкуру. Чалавек-звер зжырае проста чалавека, таму чалавецтва не набліжаецца да ідэалу дасканаласці, а аддаляецца ад яго».

Каля скрыжавання насупраць рынку Гедымінасу давозіцца злезці з ровара: упоперак вуліцы, загарадзіўшы дарогу, стаяць два грузавікі. Навокал шнырацъ узброеныя цывільныя з белымі павязкамі на рукавах і паліцэйскія, тут жа некалькі эсэсаўцаў. Шарфюрэр у акулярах, залезшы на капот машыны, нешта пакрыквае, напэўна, прыспешвае. Лямант, крыкі, смех: усе п'яныя. Адзін грузавік усутыч панапіханы яўрэямі, другі канчаюць загружаць. Трухлявыя старыя з пэйсамі і звялыя, зламаныя горам жанчыны паволі, нага за нагу, цягнуцца з двара сінагогі (тут апошнім часам пасялілі старых краштупенаўскіх яўрэяў, адлучыўшы іх ад дзяцей) і па прыстаўной драбінцы, нібы на эшафот, уздымаюцца на грузавік. З абодвух бакоў драбінкі стаяць два ўзброеныя дзецюкі. Калі які недалужны стары закешкаецца, яны хапаюць яго —адной рукою пад пахі, другой за штаны — і, быццам мяшок, шпурляюць у кузаў.

Каля нагружанай машыны круцяцца два гімназісты. Таксама з вінтоўкамі за плячамі, нападпітку.

— Добры дзень, пане настаўнік. Просім да талакі.

Гедымінас адвярнуўся. Шукае вачамі Адомаса.

— Куды іх перасяляеце? — пытаецца ў вахмістра Бугяніса, што кіруе літоўскай групай.

— Дзе болей месца, пане Джугас. У Каўнас. Там адчыняецца жыдоўскае гета з усімі выгодамі.— Бугяніс іржэ, быццам конь.

Дружны рогат.

— Трэба спадзявацца, там у іх будуць людскія ўмовы,— кажа Гедымінас, паверыўшы словам вахмістра.

— Несумненна, пане настаўнік. Хіба пан камендант загадаў бы праводзіць гэтую аперацыю, калі б гэта было не так? Там яны будуць жыць разам са сваімі дзецьмі. А хто не захоча, можа пайсці ў прытулак для састарэлых. Можна смела сказаць, што канчаюцца іх зямныя пакуты.

Яўрэі сядзяць, панурыўшы галовы. Сівыя бароды, ярмолкі, у жанчын хусткі і капялюшыкі. Пагаслыя погляды ўтаропленыя ў спіны адно аднаму альбо прыкуты да падлогі грузавіка, на якім ляжыць трохі зямлі роднага мястэчка, натаптанай нагамі. Не выпадае верыць таму, што сказалі ім перад пасадкаю ў машыны. Але ўсё адабрана —

дзеці, гонар, багацце. Чым жыць, калі не надзеяй? Не можа быць, каб Пятрас, якому заўсёды давалі тавары ў пазыку, калі не меў грошай, альбо Ёнас, у бацькі якога куплялі лён і пшаніцу, а пасля за адным сталом пілі магарыч, пасяброўску называючы адзін аднаго на «ты», альбо гэты акулярысты Фрыц (ці, можа, Ганс) са сваімі хаўруснікамі, якія таксама маюць маці і бацьку, не можа быць, каб гэтыя людзі пасмелі зрабіць ім, нядужым старым, нешта благое! Не! Яны абавязкова сустрэнуцца са сваімі дзецьмі ў тым велізарным каўнаскім геце. Абабраныя да апошняй ніткі, зняважаныя. Зведзеныя да ўзроўню скаціны. Але сустрэнуцца і будуць жыць так доўга, колькі гасподзь бог прызначыў.

Шафёры залазяць у машыны. Вуркочуць заведзеныя маторы.

— Будзьце здаровыя! — Гедымінас здымае капялюш.— Зычу вам шчасця на новым месцы!

— Будзь здароў, пане Джугас.

— Вы былі добрым чалавекам, пане настаўнік. Благаславі вас гасподзь.

Гедымінас махае капелюшом. Яны таксама памахалі б у адказ, але калі нехта паспрабаваў гэта зрабіць, ахоўнік саўгануў прыкладам вінтоўкі па руках.

— Пане Джугас,— Бугяніс пальцам пагражае праз акно кабіны,— калі вам так любы часнаковы пах, можам знайсці ў грузавіку вольнае месца.

(«Яму шкада гэтых пархатых. Жыдоўскі заступнік...» — кіпіць у душы ў Бугяніса. Не можа ніяк забыць, як яны са старэйшым братам намерыліся разбагацець: павышкрабалі апошнія грошыкі, што не хапіла — пазычылі і заснавалі ў адным мястэчку краму каланіяльных тавараў. Але неўзабаве мусілі ўсё распрадаць, не вытрымаўшы канкурэнцыі: яўрэі-аптавікі, падтрымліваючы сваіх крамнікаў, пастаўлялі ім тавары па ніжэйшым кошце, чым Бугянісам. Розніца была мізэрная, аднак яе было дастаткова, каб адбіць пакупнікоў. «Пархаты кагал. Пачакайце! Прыйдзе час, яшчэ папомніце вы літоўскіх гандляроў!» І час гэты прыйшоў. Не адну зіму прамарнаваўся ён унтэрам, але дачакаўся. «Цяпер наша музыка, а вы скачыце, юды».)

Машыны, глуха равучы, паволі сунуцца вуліцай. Дзве адчыненыя труны, напханыя яшчэ жывымі, але ўжо асуджанымі на скон людзьмі.

П'яная песня...

Гедымінас, не заўважаючы, што надзеў капялюш задам наперад, сядае на ровар. Яму ў адваротны бок.

«Паганцы! Праклятыя паганцы!»

Уздымае кулак і, не саромеючыся цікаўных прахожых, пагражае камусьці нябачнаму за сабой.

## IV

І чаго толькі не выдумляў у маленстве! На загуменні засталася зарослая травой западзіна, дзе ён капаў гліну,— наробіць мноства цаглін, збудуе вялізны горад і будзе ў ім каралём. Вымураваў «малачарню», рабіў з гліны «масла», потым з іншымі дзецьмі ўзвёў з лапухоў будан — «фабрыку», рабіў з крапівы «шоўк», выціскаў з зёлак лекі і ўсё спадзяваўся адкрыць нешта незвычайнае і здзівіць увесь свет.

Доўгімі зімовымі вечарамі, калі бабуля засынала, не даказаўшы да канца казкі, няўтрымнае ўяўленне заносіла Гедымінаса да самых зорак, і ён на некалькі гадзін станавіўся ўладаром сусвету — богам. Потым зноў спускаўся на зямлю, з вясковымі хлапчукамі выстругваў з дрэва шаблі, стрэлы, рабіў лукі і вярхом на кіях скакаў вызваляць ад палякаў Вільню. Альбо ператвараўся ў вавёрку — добра зімою ў дупле, а арэхі такія салодкія! — і ў утульнай адзіноце чакаў вясны. А калі яна наставала, ён ужо быў шпаком, што прыляцеў з выраю. Выбірае самую прыгожую шпакоўню (вядома, на сваім родным хутары), віе гняздо, выводзіць птушанят. Суха, прыемна ў маленькай хатцы. Чуваць, як дождж барабаніць па драўляным даху шпакоўні, як свішча вецер у лятку, як за сцяною шкрабецца кот, просіцца ў хатку. Але не — ён яго не ўпусціць. Ніхто не можа ўвайсці ў зачараваны замак шпака!

Дом, родны дом! Кожны раз, убачыўшы твае гасцінна разведзеныя рукі, адчуваеш сябе, як той шпак дзіцячых гадоў у сваёй утульнай шпакоўні. Два каштаны каля варотаў, пасыпаны пяском двор — даўно чакалі цябе, просім уваходзіць; зарослы мохам калодзежны журавель — вітаем цябе, нізка кланяемся; белы каменны дом са старым дранкавым дахам, бокам прытулены да самага саду,— як па табе засумавалі, як засумавалі, дазволь абняць... Каля хлява радасна скуголіць і скача на ланцугу сабака. Ён таксама цябе вітае... І ты з ім вітаешся. З аблізанымі рукамі, тварам, адчуваючы пах псіны, ідзеш да сажалкі, абсаджанай ніцымі бярозамі. Тутсама пахіленая лазня. Па-

дыходзіш да яе, адчыняеш дзверы, зазіраеш у сярэдзіну — тлустая, прапахлая дымам цемрадзь. Ідзеш да гумна (да старой будыніны з запалым саламяным хрыбтом), таксама адчыняеш дзверы... Да хлява, да клуні. І ўсюды адчыняеш дзверы. Ты абыходзіш усю бацькоўскую сядзібу, як пілігрым святыя мясціны, адчыняеш усе дзверы і за кожнымі пакідаеш частку таго цяжару, які навальваў на твае плечы час. Пылінку за пылінкай сцярушваеш з вопраткі прах чужых дарог і вяртаешся да сябе чысты і быццам бязважкі.

Бацька ўжо на двары — прыехаў з поля, засыпаў апошні канец буракоў.

Мужчыны абдымаюцца, прытуляючыся тварам да твару. Два абрабаваныя жыццём чалавекі цяпер больш чым калі патрэбныя адзін аднаму.

Гедымінас пераапранаецца — пойдзе карміць жывёлу.

Пранізліва рыпіць стары журавель, бразгаюць вёдры. Мілы пах сена і хлява! Стары, з закураным шклом ліхтар блукае з клуні ў свіран, у хлеў і назад. Нецярпліва вішчаць свінні. Бляюць авечкі. Чакальна ржуць коні.

Гедымінас з бацькам ходзяць ад ясляў да ясляў, ад карыта да карыта. Два вялікія дабрадзеі ў маленькім згаладнелым свеце, дзелячы хлеб і ваду. А за імі па пятах рухаецца сыты спакой. Чуваць толькі прагнае чаўканне, хрумстанне, булькание пойла ды шамаценне сена. І лагодныя бацькавы словы — паглыбіўшыся ў гэты маленькі свет, ён размаўляе з жывёлай, як з людзьмі.

«Што б ні здарылася, селянін не будзе адзінокі — ён мае жывёлу».

Пакуль бацька мые каля калодзежа рукі, Гедымінас запальвае ў хаце лямпу і абходзіць з ёю ўсе пакоі. Тут ляжала мама, там — бабуля. Побач з кухняй — пакойчык сястры Анэлі; яго цяпер займае Аквіля. Ложкі пустыя і халодныя, нібы труны. Цёмныя цені рэчаў лезуць з куткоў, паўзуць па сценах, зліваючыся з тваім ценем, які ўварваўся сюды, як узломшчык у храм.

Тужліва рыпяць пад нагамі старыя маснічыны. А як весела стукацелі яны пад тваімі малымі нажанятамі такімі самымі асеннімі вечарамі, калі мама засяроджана вязала перад камінкам, бацька каля дзвярэй сукаў вяроўкі, а вы з сястрою гулялі ў хованкі... Зламысная рука лёсу ўторкнула ў вулей, што гэтак весела гудзеў, агністую галавешку, і вось ён памірае, іхні ўтульны дамок; і нідзе няма пчаляра, які здолеў бы ўдыхнуць у яго новае жыццё.

— Чаго шукаеш? — адазваўся голас бацькі з другога пакоя.

І праўда — чаго? Хіба толькі шчопця солі, каб пасыпаць на незагоеныя раны...

Гедымінас, узняўшы высока лямпу, глядзіць на сцяну. Замаркочаная божая маці са схіленай на плячо галавою ў прамяністай аўры, Хрыстос, што посціцца ў пустыні. Ніжэй — гіпсавы пашарэлы барэльеф Уладаса Путвінскаса[1]: павесіў яго тою вясною, калі атрымаў атэстат сталасці. Юнацкая даніна патрыятызму...

Гарачая хваля залівае шчокі. Ён зрывае барэльеф з цвіка і як найдалей запіхае яго пад ложак. Стомленым жэстам зачыняе дзверы, сядае да стала насупраць бацькі.

— Табе цяжка аднаму, бацька. Я хацеў бы вярнуцца ў вёску, каб дапамагчы табе гаспадарыць. Чаго пасміхаешся? Не бойся, я не забыўся сялянскай працы. Альбо, калі хочаш, прадавай зямлю і перасяляйся да мяне ў горад.

Мікалас Джугас хмурыць сівыя парадзелыя бровы, з дакорам, спадылба пазірае на сына. У горад! І гэта ў такі час, калі кожны, як за паратунак, чапляецца за вёску!..

— Каму зямля толькі месца, каб справіць сваю патрэбу, той можа яе купляць і прадаваць, як цыган коней,— гаворыць ён з прыкрасцю.— Не стала ў мяне жонкі, дачкі, сына Мікаласа ўхапіла вайна, маці памерла. Чатырох чалавек як не было. І гэта за адзін год! Не кожнаму бог дае такі крыж. А ты — пераязджай да мяне ў горад! Тут мае карані, сыне. Тут пахаваны бацькі бацькоў, тут усе сцежкі маімі нагамі сходжаны, вашымі, дзіцячымі, збеганы. Куды ні пайду, усюды знаёмае, сваё, кожны куст пра нешта нагадвае. Што ў мяне яшчэ застаецца, калі не зямля? Што я буду рабіць без яе? Хіба зможа дрэва жыць без каранёў?

— Я цябе люблю, бацька. Ты не адзін. І брат Мікалас яшчэ вернецца з Расіі. А можа, ён туды і не трапіў? Можа, уцёк з палка ў той самы дзень, калі пачалася вайна? Ці мала літоўцаў апынулася за мяжой...

Пакуль Гедымінас гаворыць, Мікалас Джугас глядзіць на сцяну з абыякавым тварам — нічога не хоча слухаць пра сына. Ніякіх спадзяванняў, ніколі не трэба мець ніякіх спадзяванняў! Таму, ледзь толькі Гедымінас замаўкае, ён зноўку распачынае сваё:

---

[1] Заснавальнік саюза шаўлісаў — ваенізаванай нацыяналістычнай арганізацыі ў буржуазнай Літве.

— Вы не нюхалі зямлі, вам лёгка махнуць на яе рукою. Паслужылі б у гаспадароў, пакаштавалі б чужога хлеба — тады шматок сваёй зямлі здалёк стаў бы пахнуць. А я дзеля яго, гэтага шматка зямлі, тры разы ў шпіталі ляжаў, траха, браце мой, з галавой не развітаўся. Кожны гектар крывёю выкупіў. А колькі поту праліў, пакуль маё карэнне тут прыжылося! О-о, што тут казаць, што тут успамінаць!..— Мікалас Джугас задыхаўся, дрыготкімі пальцамі ўхапіўся за край стальніцы. У вачах смутак і нешта невыказнае.— Не, сыне, надта дорага мне каштавала зямля, каб я мог павярнуцца да яе спіной і пайсці, паплёўваючы сабе па баках. Табе таксама няма чаго вяртацца ў вёску. Не для таго вучыўся, каб лезці назад у багну. Я не магу без яе жыць, яна замешана маёй крывёю, маім потам, разведзена маімі слязамі, я ў ёй, у гэтай багне, па самую макаўку, а ты ўвесь на паверхні. Дык застанёмся кожны на сваім месцы. Адно будзь разумны, не лезь у палітыку, як Вайнарасаў Адомас. Улады прыходзяць і адыходзяць, а чалавеку, якая б улада ні была, трэба заставацца ў сваім доме і рабіць сваю справу.

— Любая справа — таксама палітыка, тата. Я часам кажу сабе: ты настаўнік, твая прафесія не мае нічога агульнага з акупацыйнай уладай. Але ад гэтай самай улады я атрымліваю плату... За што? Мабыць, таму, што я ёй патрэбны, дапамагаю здзяйсняць яе палітыку, ёй служу... Без мяне яна не змагла б нармальна функцыянаваць, як без фабрычнага рабочага, што выпускае гарматы, альбо без селяніна, што вырошчвае хлеб для войска. Мы ўсе маленькія колцы велізарнай дзяржаўнай машыны, мы не хочам, каб яна рухалася наперад, а ўсё роўна, нават насупраць сваёй волі, круцімся разам з усім механізмам і дапамагаем яе штурхаць наперад. У наш час, калі хочаш адгарадзіцца ад палітыкі, трэба зачыніцца ад усяго свету і жыць у непралазнай пушчы...

— Дзіўна гаворыш.— Мікалас Джугас памаўчаў, пажвакаў пустым ротам.— Выходзіць, усе мы ў адной фурманцы сядзім, адну песню спяваем. Ну не, мой сыне. Я аддаў дзяржаве тое, што належыць, немец есць мой хлеб, аднак людзей я не забіваў і яўрэяў з вінтоўкаю не ганяў. Я карміцель, а не забойца. А калі хлеб, што я вырасціў, есць і забойца, то тут я нічога не магу зрабіць. Селянін не вінаваты, што на зямлі ўсялякія людзі, ён не можа раздаваць свой хлеб толькі добрым.

«Ён праўду кажа, мой добры стары. Чалавек бяссіль-

ны хоць што-небудзь змяніць. Усё, што мы можам, гэта пастарацца застацца сумленнымі. Чалавек бяззбройны, але ён мае крэпасць — сябе самога, і, зачыніўшыся ў ёй са сваім сумленнем, ён можа абараняцца!»

Гедымінас рассеяна слухае бацьку, механічна ўстаўляе адно-другое слова. Яго думкі далёка. Ён замкнуўся ў сабе — у гэтай непрыступнай крэпасці, якую так неспадзявана займеў. Ён аглядае ўсё навокал, правярае, ці трывалыя сцены, дзівіцца, што адсюль усе рэчы здаюцца не такімі, якімі ён іх уяўляў сабе здалёк: шурпаты бацькаў голас ператвараецца ў мяккі і далікатны голас мудрага прарока; застылая пустка пакоя пачынае варушыцца, напаўняецца гукамі і святлом; з адчыненых кухонных дзвярэй льецца цёплы пах стравы, весела трашчаць у печы дровы, гучыць музыка посуду, што ставіцца на стол... Калі Гедымінас першы раз убачыў пакруглелую постаць Аквілі, а бацька растлумачыў, чаму Катра Табака выгнала з дому дачку, ён адчуў нянавісць да чалавечка, які яшчэ не з'явіўся на свеце. А цяпер, поўны ўсёдаравальнай дабрыні, як посуд чыстай вады, ён слухае шоргат яе крокаў, глядзіць на рукі, што ставяць страву на стол, спакойнай усмешкай адказвае на ўсмешку. Ён можа без дрыжыкаў, не абліваючыся халодным потам, глядзець ёй у вочы і гутарыць так спакойна, нібы ён вымаўляе «добры дзень». Ён зусім вольны ад тыраніі кахання. Ад колішніх пачуццяў засталася толькі жменька сатлелага попелу.

Пасля вячэры Гедымінас доўга сядзіць за сталом, схіліўшыся над сшыткам. Пяро, парыпваючы, бегае па белым лісце паперы, радкі кладуцца адзін да аднаго, нібы тлустыя баразны раллі. Насенне падае праз пальцы ў пульхную зямлю, вокамгненна ўзыходзіць, выспявае і тут жа дае плён — зерне. Дзівосны араты! Потым ён, можа, убачыць, што сабраны ўраджай — адно гірса ды кукаль, але ў гэтае імгненне ён перажывае шчаслівае самазабыццё творцы.

— Што ты пішаш?

Ён не адразу зразумеў, адкуль гэты голас, усё яшчэ зачынены ў сваёй адмысловай крэпасці. Лямпа, што стаіць на стале, яму яшчэ не лямпа, а яркае сонца, закураная столь — высокае вясновае неба, сцены пакоя, што тонуць у змроку,— далягляды неабсяжнага свету.

— Ты?! Чаму не спіш? — Гедымінас збянтэжана загарнуў сшытак.

— Я перашкодзіла табе? — Аквіля таксама бянтэжыцца. На твары запабеглівая ўсмешка, ад якой самой робіцца няёмка.— Раней ты пісаў вельмі прыгожыя вершы. Дасі заўтра пачытаць свой спытак?

«Раней я пісаў дурныя вершы пра каханне і часам чытаў іх табе. Ты, вядома, уздыхала, але думала пра другога».

— Мае новыя вершы табе будуць нецікавыя. Паэзіі патрэбна юначая палкасць, а я ўжо стары і здольны толькі суха разважаць.

— «Ён (альбо яна) раптам пастарэлі на дзесяць гадоў». Калі, чытаючы, я сустракала ў кнігах такую фразу, яна мне нічога не казала. Цяпер я разумею яе.— Аквіля правяла кончыкамі пальцаў па шчоках. У святле лямпы яе твар быў зеленкаваты, апухлы і непрыгожы.

— Нічога, у цябе добры выгляд.— Гедымінас хацеў, каб яна села: непрыемна было бачыць яе вялізны жывот.

— Не трэба... Табе не пасуе хлусіць.— Усмешка патухла на яе вуснах, і Гедымінас убачыў колішнюю Аквілю: добрую, шчырую, аднак жа ганарлівую і незалежную.— Хацела пагутарыць з табой як з добрым сябрам, Гедымінас. Ты быў мне не абыякавы, і я нібы вінаватая перад табой... Калі б Марус паказаўся, які ён на самой справе, раней, магчыма, усё склалася б інакш... Але каханне як каценя — сляпое, пакуль не расплюшчацца вочы.

— У Маруса не было іншага выйсця. Бугяніс са сваёй зграяй закатаваў бы яго.

— Я не асуджаю яго за тое, што ён не застаўся, аднак не магу дараваць, што пакінуў мяне. «Табе будзе цяжка... небяспечна... могуць забіць...» Тады я без страху пайшла б пад кулі і загінула б разам з ім. Разам з ім я магла ісці на край свету. Але навошта я яму, калі ў яго ёсць сябры і вінтоўка? Ведаю, ты скажаш, ён хацеў зберагчы мяне і наша дзіця. Пэўна, яму не бракавала розуму і сумленнасці, але ён не разумеў, што жанчыне часам лепш загінуць разам з каханым чалавекам, чым заставацца сам-насам са сваім няшчасцем.

— Сур'ёзныя людзі цябе не асуджаюць, Аквіля, а на бабуль мінулага стагоддзя напляваць.

— Ты не разумееш мяне.— Яна з лёгкім дакорам паглядзела на Гедымінаса.— Мой бацька мяне не асуджае таму, што шкадуе. Твой бацька прыняў мяне таксама са шкадавання. Абодва яны добрыя людзі і заўсёды паспагадаюць, колькі змогуць, але ніколі не апраўдаюць мяне.

У іхніх вачах я страчаны чалавек, які не ўмеў разумна жыць, і такому небараку трэба падаць міласціну. Я не хачу, каб і ты апынуўся ў ліку дабрадзеяў, Гедымінас.

Гедымінас моўчкі пакруціў галавой. Яго зноў агарнула тое знаёмае пачуццё, калі Аквіля расхінала перад ім сваю душу, і ён, страціўшы сілу волі, паддаўшыся спадманлівым спадзяваннем, ужо бачыў сябе там, у яе душы. Паміж імі былі толькі стол і лямпа. І яшчэ загорнуты сшытак. Дастаткова было пакласці рукі ёй на плечы і сказаць: «Я цябе кахаю, Аквіля. Вайна жахлівая, ды, дзякуй богу, яна змяла ўсё, што стаяла паміж намі. Дай руку, мая мілая...» Аднак, пачуўшы яе апошнія словы, ён стрымаўся.

— Табе менш за ўсё трэба міласціна, Аквіля,— сказаў ён, унікаючы яе пільнага пагляду.— Ёсць людзі, якія ходзяць з акрываўленымі рукамі і думаюць, што яны ў святым алеі. Вось каго трэба шкадаваць.

Яна скурчылася ў крэсле, нібы хацела праваліцца скрозь зямлю. Твару не было відаць, толькі макаўка. У вёсцы жудасна завыў нейчы сабака.

— Ты... пра Адомаса?

— Я наогул пра такіх...

— Такіх шмат, а Адомас мой брат. Я не маю другога такога брата, Гедымінас.

Гедымінас машынальна кіўнуў галавой.

— Я любіла Адомаса. Калі два гады таму ён цяжка захварэў на запаленне лёгкіх, я начамі не спала, маліла бога, каб ён выздаравеў. А лепш было б, калі б ён тады памёр.

— Праўда, Адомасу не трэба было ўсаджваць пальцаў паміж дзвярэй...

— Ты нічога не ведаеш, Гедымінас, ты нічога не ведаеш...— зашаптала Аквіля.— Мне страшна, мне сорамна табе гаварыць пра гэта, але я павінна табе расказаць. Не магу больш!

## V

Бацька тачыў пад паветкай касу з сенажаткі.

Аквіля падышла і штурханула плячом браціка, што круціў тачыла.

— Бяжы пачытай, Юргюкас. Я замяню цябе.

Тачыла звінела, іскры ляцелі бацьку ў густыя жоўтыя вусы. І пакуль Аквіля вышэптвала сваю навіну, вусы натапырваліся ўсё больш і больш.

Бацькавы рукі, такія цвёрдыя і трывалыя, затрэсліся. Каса захадзіла ў бакі, яе жалезныя зубы скрыгаталі, дакранаючыся да тачыла навостранымі гранямі.

Так яно, кажаш... так яно...— мармытаў Лаўрынас Вайнарас, усёй сваёй сутнасцю молячы, каб яна спынілася, абвергла тое, што сказала: гэтага не магло быць. Ён не хоча, каб так было!

— Там жывы чалавек, тата!

Лаўрынас Вайнарас яшчэ ніжэй угнуў галаву. Каса прыстаўлена да нагі, як стрэльба, шырокія плечы апалі. Палонны салдат, які не ведае, што рыхтуе яму невядомы лёс.

— Немцы...— выдыхнуў ён. На збляднелым твары выступілі кропелькі поту.— Пранюхаюць — усім капцы...

— А калі б там ляжаў наш Адомас альбо Юргіс?..

Адказу няма.

— Галоўнае, каб мама не даведалася,— сказала яна, ахінутая пяшчотным пачуццём да бацькі.

Выехалі на возе, седзячы спіной да спіны. Бацька — тварам да коней, Аквіля — да дарогі, што ўцякае назад. Было і страшна, і прыемна, як на галавакружнай вышыні, з якой у любы момант можаш сарвацца і разбіцца дашчэнту. Потым гэты самы воз вяртаўся з лесу, толькі ўжо непаспешліва, ціхай хадой. На ім куча галля, а яны абое ідуць наўзбоч, баючыся падумаць пра цану, якую раптам давядзецца заплаціць за таго, хто цяпер ляжыць на дне ў возе.

Разам з бацькам зрабілі ў леташнім сене хованку, параіліся, дзе закапаюць труп, бо амаль не верылася, што лётчык выжыве.

Але ён не памёр. Аквіля па некалькі разоў на дзень, а спачатку і па начах, бегала да хворага, каб змяніць павязку, прыносіла свежай вады, тайком ад маці варыла булён. Свет яе звузіўся да цеснага закутка ў сене. Яна запаўзала сюды, кожны раз перапоўненая найвялікшым неспакоем і страхам, і якую хвіліну аслухоўвалася ў цемры, затаіўшы дыханне. Ноч, бясконцая ноч. З двух бакоў — сцяна з бярвення і дошак, у галавах у яго і з правага боку — сена, над галавой і пад ім — таксама сена. Пышная магіла, усланая духмяным, самой прыродай вытканым аксамітам. Ёй станавілася не па сабе. Толькі пачуўшы слабое дыханне, адважвалася запаліць электрычны ліхтарык. Тады вузенькая шчыліна ў сцяне, праз якую прабівалася бляклае святло дня, патухала — і абрывалася апошняя ні-

тачка, якая лучыла Аквілю з вонкавым светам. Яна баялася гэтага свету і ненавідзела яго. Гледзячы на змучанага бездапаможнага чалавека, якога паслаў ёй лёс, яна раставаралася ў чужой пакуце і забывала сваё няшчасце. «Ты ж не адна,— у думках суцяшала яна самую сябе.— Гэты жахлівы свет, які, як злодзей, падглядвае за табою праз шчыліну ў сцяне, вас абаіх загнаў у гэтую цемру. Чужынец — твой брат, бо родныя вашы лёсы».

Неяк — тады ён ужо настолькі акрыяў, што з яе дапамогай мог сесці — здарылася тое, што і раней з ім здаралася, калі ён быў у непрытомнасці,— звычайная патрэба жывога чалавека. Яна прыбрала, не адчуваючы ніякай агіды, а ён скрыгатаў зубамі ад прыкрасці і нешта шаптаў на сваёй незразумелай мове. Дзіцяня! Яна яшчэ не адчувала яго жывога біцця пад сэрцам, але ведала, што яно ўжо жыве. Засмяялася, кранутая мацярынскай пяшчотай, і адчула, як па шчацэ пабегла сляза. Патушыла, запаліла, зноў патушыла электрычны ліхтарык. Праз шчыліну ў сцяне пырснуў пук святла. Яна выцягнула руку і пагладзіла яго — прахалодны і свежы, нібы кветка ружы, што распусцілася на сонцы.

— Дурачок, Ванька-дурачок,— прашаптала яна па-руску, усміхаючыся ім абодвум — таму, яшчэ не народжанаму, і гэтаму, які ў пакутах вяртаўся назад у свет.

## VI

— А вечарам яму стала блага, Гедымінас. Я не ведала, што здарылася, але разумела, што тых маіх медыцынскіх ведаў, якіх я нахапалася ў гімназіі на скаўцкіх зборах, замала. На другі дзень прыехаў Адомас, і я ўсё яму расказала... Пасля вячэры збегала ў клуню, ён быў яшчэ ў сваёй нары, а раніцай ужо яго не знайшла... Кінулася ў Краштупены, але з паўдарогі вярнулася дамоў. Я спалохалася яго, роднага брата, Гедымінас...

— Так...— Ён не ведаў, што сказаць.— Так, так,— паўтарыў ён, апусціўшы вочы і бачачы толькі вузкую палоску яе грудзей і рукі, сціснутыя на жываце. Яму ўявілася маці — яна сядзела за сталом на гэтым самым месцы. Хацелася ўпасці перад ёю і пакласці стомленую галаву ёй на калені. «Яна — святая»,— мільганула недарэчная думка, і калі ён нясмела паглядзеў спадылба, дык сапраўды ўбачыў вакол яе галавы прамяністы вяночак, як гэта намалявана на касцельных абразах.

— Чаму, чаму ён гэтак зрабіў, Гедымінас? — усклікнула Акviля; яе голас гулка прагучаў у пустым пакоі.

— Не ведаю,— прамармытаў ён, яшчэ не выцерабіўшыся з аслупянення.— Мабыць, таму, што кожны чалавек акцёр у жыцці. Калі паўстае пытанне: сыходзіць са сцэны ці іграць далей, тады ён і паказвае сваё сапраўднае аблічча.

Акviля раптоўна ўстала.

Гедымінас разумеў — трэба яе суцешыць, падбадзёрыць; яна прыйшла сюды, спадзеючыся, што ён засмяецца ёй у вочы: што ты, я надта добра ведаю Адомаса, каб паверыць такой лухце! Яна б учапілася за гэты выратавальны круг і пастаралася б зберагчы ў сабе гэтую прывідную надзею. Аднак ён не адважваўся пераконваць яе ў тым, у чым і сам не быў перакананы.

«Што ён зрабіў з тым няшчасным лётчыкам? — думаў ён, ужо лежачы ў ложку і расплюшчанымі вачамі ўбіраючы халодную цемру пакоя.— Аддаў немцам, прыдумаўшы праўдападобную гісторыю, каб апраўдаць «знаходку»? А можа, проста прыкончыў сваімі рукамі і недзе закапаў? «Бог сведка, я гэтага зусім не хачу, але калі гаворка ідзе пра лёс усёй сям'і...» І запэўніў сябе, што ён мае падставу так зрабіць. Бо на самой справе, што значыць адзін нядошлы чалавек, калі штодня з паверхні зямлі змятаюцца тысячы здаровых людзей? Бугяніс не такіх малайцоў (да таго ж сваіх, літоўцаў!) адправіў на той свет...»

Гедымінас злавіў сябе на думцы, зазначыўшы, што пра такія рэчы, аказваецца, можна думаць з іроніяй. «Няўжо ніколі мы так і не былі сапраўднымі сябрамі?» Ён успомніў гімназічныя часы. Да чацвёртага класа, калі Адомас, застаўшыся на другі год, пакінуў школу, сябры называлі іх Патам і Паташонам, а іхнія бацькі казалі: «Адомас і Гедымінас разам кладуцца, разам устаюць». Альбо: «Іх нават вадой не разальеш». Адомас быў на два гады маладзейшы за Гедымінаса, але буйнейшы, рослы не па гадах, спакойны і дабрадушны, хоць часам без дай прычыны запальваўся і пускаў у ход кулакі. І цяпер Гедымінасу было шкада як незваротнага мінулага таго чырванашчокага дужага хлапца ў аксамітнай гімназічнай шапачцы, якая трохі смешнавата сядзела на яго вялікай нязграбнай галаве.

«Трэба было б званіць ва ўсе званы: сябра гіне! А я што? Усё раблю, каб пры сустрэчы размінуцца, а калі не ўдаецца, кажу не тое, што трэба».

Праўда, неяк яму сказаў:

— Кідай ты свой пракляты мундзір.

— А каму ад гэтага стане лепш, галубок?

— Табе самому, ёлупень.

Адомас зняважліва засмяяўся і пайшоў.

Сапраўды, што зменіцца ад таго, што нехта іншы нацягне гэты мундзір? Хіба што жыцці дваіх людзей (толькі дваіх!) пойдуць па іншым кірунку; а ўся гэтая пякельная машына ўсё роўна будзе грукатаць далей, як грукатала дагэтуль. Уратуецца Адомас, але замест яго загіне Юргіс альбо Нікадзямас. Праўда, яны не твае сябры, аднак такія самыя людзі, а можа, нават лепшыя за яго. Ты нікога не можаш выцягнуць з ямы, не саштурхнуўшы ў яе другога, які абавязкова знойдзецца, як знаходзіцца ў гадзіншчыка запасная дэталь наўзамен зношанай.

Кожны з нас носіць у сабе пачаткі дабра і зла, жыцця і смерці, асуджэння і апраўдання. Не хто-небудзь іншы, а толькі я сам магу выбраць адно з двух. Мне кажуць: «Скачы ў яму!» Я магу скокнуць і не скокнуць. Ад мяне, толькі ад мяне аднаго залежыць, ці я памру як чалавек, ці здохну, як быдла, заколатае нажом мясніка. Можа, мне трэба чыя-небудзь парада, як лепей уладкаваць сваё жыццё, я з удзячнасцю яе прыму, аднак я не зайздрошчу дарадцу, бо часта ён сам не разумее, якую страшэнную адказнасць бярэ ён на сваё сумленне.

З гэтымі думкамі Гедымінас заснуў, зачыніўшыся ў сваёй надзейнай крэпасці. Недзе за яе тоўстымі сценамі мільгануў бледны Адомасаў цень, зашамацелі знаёмыя крокі... «Пайшоў...» — падумаў ён з палёгкаю праз сон.— У свеце два з паловаю мільярды чалавек блукаюць, шукаючы сваёй дарогі. Які мудрэц можа кожнаму паказаць, дзе сапраўдная? Хто разгадае загадку жыцця?

...Спрадвечную балесную загадку,
што чалавека мучыла заўжды:
у свеце без канца і без пачатку
адкуль ідзе ён? І ідзе куды?

## VII

Назаўтра, пасля абеду, Гедымінас паехаў назад у Краштупены. Хоць даўно не было дажджу, вільготная зямля наліпала на шыны ровара — з самай раніцы церушылася дробная, падобная на густы туман імжа. Уваччу Гедымінаса ўсё яшчэ стаяў нашурплены пясчаны грудок, на які ён, праязджаючы побач, паклаў букет кранутых замаразкамі астраў; з сасны, што расла ў галавах сямейнай

магілы, як і з іншых прыдарожных дрэў, застылых у бялёсай прасторы, зрываліся буйныя кроплі вады, і ён усю дарогу адчуваў мармуровы холад мёртвай зямлі. А калі з туману пачалі праступаць невыразныя контуры касцельнай вежы, Гедымінасу падумалася, што гэты, засланы імжою, горад падобны на могілкі яго роднай вёскі, з цяжкімі магільнымі крыжамі, сярод якіх імкнецца ў нябёсы драўляная вежа каплічкі. Праз імглістую заслону ён убачыў квадратную магільную пліту, што паволі спаўзала з пагорка, за якім пачынаўся гарадскі брук. Гедымінас намерваўся праскочыць міма, але пагорак быў круты, а дарога раскісла. Задыхаўшыся, ён саскочыў з ровара і, выцягнуўшы з кішэні насоўку, пачаў выціраць мокры твар.

— Добры надвячорак, пане настаўнік,— загаварыла магільная пліта, ператварыўшыся ў Матаса Пуплясіса.

Гедымінас прыўзняў капялюш.

— Забавіўся ты ў горадзе, дзядзька Матавушас. Не паспееш завідна дамоў,— заўважыў ён, адчуўшы ў паветры пах гарэлкі.

— А я прывык ужо, пане настаўнік. Кожны другі дзень бываю ў Краштупенах. Баба нават пачала баяцца, каб не падсяліўся да якой гарадской. А чаго мне драмаць? Гарадскія пані чыстыя, напарфумленыя, не тое што мая, вечна сыроваткаю смярдзіць. Выберу сабе бабу з усіх бакоў спраўную, мардастую, з пасагам, з кучай дзяцей, каб самому не давялося высільвацца. Зажыву пан панам! А каму дзякуй? Нашай дужа шаноўнай паліцыі, якая не можа пражыць больш як два дні, не пабачыўшы Матавушаса Пуплясіса.

— Па начах цяпер небяспечна бадзяцца, дзядзька Матавушас.— Гедымінас паклаў рукі на руль, намерваючыся падавацца далей, але Пуплясіс знерухомеў перад ім, раскірэчыўшы ногі, панурыўшы вялізную галаву, і, як бык на чырвоную анучу, вылупліваў вочы на пярэдняе кола ровара.

— Небяспечна? — прамармытаў ён, не рухаючыся з месца.— А як жа, а як жа, пане Гедымінас. Ноччу можна ў калодзеж ці ў якую пельку ўваліцца. Але і ўдзень усялякае здараецца, пане Джугас. Сустрэнеш, напрыклад, чалавека са сваёй вёскі, знаёмыя, здаецца, былі, гутарыш з ім і баішся, а ці тое сказаў. Усе мы адзін аднаму чужыя сталі, пане настаўнік. Калі б не ведаў, што пан цяпер быў у Лаўксадзісе, у свайго старога, мог бы падумаць — вяртаецца з Алешніка, хоць ён і ў іншым баку...

— А што я там не бачыў? — раздражнёна запытаўся

Гедымінас. Ён не любіў Пуплясіса, як і ўсіх тых, што з цяжкасцю чыталі газету, але, узяўшы ўладу ў свае рукі, з лёгкім сэрцам пачалі руйнаваць свет, на падмурку якога стаяў і іхні дом.

— А што там не бачылі паны паліцэйскія ды белапавязнікі? — Пуплясіс усё яшчэ стаяў, па-ранейшаму трымаючы рукі ў кішэнях у бравэрцы. Чырвоны твар быў вільготны і блішчаў, як паліваны посуд.— А што там не бачылі краштупенаўскія яўрэі, пане настаўнік? Хіба гэта яны захацелі паехаць у Алешнік і ўлегчыся ў ямы, на якія ніхто не ўскоціць каменя, як патрабуе таго іхні звычай?

Пуплясіс пахіснуўся, умомант падзяліўся на два чалавекі і, закруціўшыся ў шалёнай чырвонай віхуры, пачаў ападаць у зямлю.

— Не чаўпі лухты, стары блазан! Ты п'яны, каб на цябе пярун!

— Я і сапраўды чаўпу лухту, пане Джугас, але мне ўсё роўна. Пайду якога дня адзначацца, упхнуць у грузавік — і капут Пуплясісу. Быў такі зубасты стары, скажуць людзі, грыз шкло і цвікі, а вось мяккай свінцовай кулькі зжаваць не здолеў.

Гедымінас налёг грудзямі на руль.

— Немагчымая рэч... Дзяды, жанчыны... Безабаронныя людзі... Хлусіш, Пуплясіс! Ты заўсёды выкідваў жарцікі. Але гэта страшныя жарты!

Адзін бот Пуплясісаў — надзьмутая брудная жаба — адарваўся ад зямлі і некалькі разоў далікатна баксануў па шыне ровара.

— Гэтыя жарты не мы з табой чынім, пане настаўнік. І дзякуй богу, што не мы...

Бот вярнуўся на ранейшае месца, потым абодва боты рушылі трохі наперад, і Гедымінас адчуў на спіне цяжкую далонь, аднак толькі на імгненне, на такое кароткае, што падумаў, ці не здалося яму. Ён распростаўся, але квадратная Пуплясісава постаць ужо знікла ў імжы. А наперадзе, недзе за скопішчам дамоў, вухкаў манеўровы паравоз. Яго вусцішнае вухканне было нерэальнае, як і ўсё наўкола.

Гедымінас гнаў ровар праз увесь горад і не мог адарвацца ад гнятлівага ўражання, што на самой справе няма ніякіх людзей, хоць яны вітаюцца і прыўзнімаюць шапкі, няма ніякіх дамоў, вуліц, нарэшце, няма яго самога; усё гэта толькі ўяўленне, ілюзія, расказаная некім казка. Панна Анута сядзіць каля акна, захутаўшыся ў белую пуховую хустку, аднак і яе няма. А калі яна ўзрадавалася, убачыў-

шы яго, а потым заплакала, расказваючы, «што тут тварылася», дык гэта толькі таму, што яму хочацца, каб гэтак было. Бо ў свеце яшчэ павінны быць людзі, якія не развучыліся плакаць і смяяцца.

Гэта страшна, пане Гедымінас! Мы чулі страляніну — колькі адсюль да таго Алешніка? — але хто мог падумаць... Яны да паўночы жлукцілі ў братоў Маркайцісаў, а потым швэндаліся па горадзе, выхваляючыся сваім жахлівым подзвігам. Прыстойныя жанчыны, зразумела, не захацелі мець з імі ніякай справы, тады яны пачалі біць вокны... Умяшаўся нямецкі патруль, завязалася перастрэлка. Аднаго ледзь жывога завезлі ў бальніцу... Канец свету, пане Гедымінас! Сёння раніцай я сустрэла Ніёлю, бабу вахмістра Бугяніса. На руцэ залаты гадзіннік, у смушкавым паліце, якое летась справіла сабе жонка ювеліра Манштэйна. Нядоўга яна насіла яго, бедалага... А Манштэйну пашанцавала — вярнулі жывога з Алешніка. Прызнаўся, што схаваў каштоўнасці, аднак няхай у яго лепш язык адсохне, чым ён каму-небудзь скажа, дзе яны. Яны вырашылі што б там ні стала вырваць у старога таямніцу.

«Сярод тых забойцаў былі два вучні нашай гімназіі».

Усё яшчэ не могучы пазбавіцца ад пачуцця нерэальнасці, ён пераабуўся і выйшаў у горад.

Адомаса не было дома — два дні як паехаў кудысьці па службе.

Абрам Манштэйн сядзеў на цэментовым ганку каля свайго дома, утаропіўшы вочы на пусты рынавы пляц, склаўшы на каленях маршчыністыя рукі, на якія з брыля і сівых пэйсаў капала вада. На вуліцы, нібы цьмяныя свечкі шабасу, запальваліся першыя ліхтары; ён не ведаў, ці дачакаецца (дый, зрэшты, ён не хацеў гэтага) наступнага вечара, але быў шчаслівы, што хоць прырода не адвярнулася ад яго і, не грэбуючы, абмывае старое цела, на сорам усяму чалавецтву аддадзенага на ганьбаванне.

Гедымінас не сваёй рукою схапіўся за капялюш, прамармытаў прывітанне, аднак стары і не паварушыўся. Трэба было б падысці да гэтага няшчаснага чалавека і сказаць нешта большае чым «добры вечар», аднак і гэтых двух слоў Гедымінасу стала сорамна, бо яны былі вымаўлены на той самай мове, якая разам са стрэламі гучала ўчора ў Алешніку.

## VIII

— О, Гедымінас! Дзіва! Хоць раз успомнілі старых сяброў...

— Я хацеў пабачыць пана Вайнараса,— холадна растлумачыў Гедымінас, амаль упэўнены, што гаспадыня Адомаса не хлусіла — яго сапраўды няма ў Краштупенах.

— Аднак заходзьце, заходзьце, што мы тут таргуемся ў дзвярах! — Мілда схапіла Гедымінаса за рукаў і, радасна ўсміхаючыся, уцягнула ў прысенак.

— Калі няма Адомаса...

— Некалі ў гэтым доме вы былі жаданы госць і не дазвалялі нам сумаваць. Вярніце хоць адну шчаслівую хвіліну сваёй старой прыяцельцы, пане Гедымінас.— Мілда расшпіліла яго паліто і, не звяртаючы ўвагі на аднекванне, сцягнула з плячэй.

Пэўна, пакуль у гэтага дома быў гаспадар, ён часта зазіраў сюды ў вольны час. Бурмістр быў разумны і адукаваны чалавек, апроч таго, добра гуляў у шахматы, з ім можна было прасядзець да позняй ночы, ні разу не пазяхнуўшы. «Табе пашанцавала, Мілда, займела выдатнага мужа»,— казаў Гедымінас, калі яны заставаліся самнасам. Яна іранічна ўсміхалася, пакутліва стараючыся і не могучы схаваць сваёй думкі на сваім па-здрадніцку адкрытым твары. Гедымінасу было балюча, што яна не кахае мужа, але, спагадлівы да людскіх слабасцей, не мог яе асудзіць. Нават пасля таго, як Бяржэнаса забралі і яна стала палюбоўніцай Адомаса, Гедымінас не далучаўся да тых, што языкамі і позіркамі прыбівалі саламяную ўдаву да слупа ганьбы. Вядома, ён больш не наведваўся ў гэты дом, хоць Адомас не адзін раз запрашаў зайсці, а калі сустракаў Мілду ў горадзе, гутарыў з ёй па-сяброўску, але афіцыйна. Не, ён не асуджаў яе за парушэнне прынятых нормаў маралі, а проста асцерагаўся яе, як любой прыгожай і лёгка (яму так здавалася) даступнай жанчыны, абыякавым да якой не можа заставацца ніводзін здаровы мужчына, трохі зайздросціў Адомасу і, саромеючыся гэтага нізкага пачуцця, стараўся трымацца збоку.

— Сам бог вас прыслаў, Гедымінас. Адзінокая жанчына ў такі страшны час! — гаманіла Мілда, узяўшы Гедымінаса за локаць і ветліва падштурхоўваючы ў святліцу.— Прашу, уладкоўвайся, дзе табе падабаецца, мой мілы, а я на хвілінку знікну.

Разгублены, ён стаяў каля вялізнага стала і не мог зра-

зумець, чаго сюды прыйшоў. Пабачыцца з Адомасам? Але навошта? Няўжо толькі дзеля таго, каб сказаць тыя некалькі слоў, якія ўпарта гулі ў вушах, пакуль ён у роспачы і жудзе цягнуўся бруднымі гарадскімі вуліцамі: «Хачу пацікавіцца, як п а с л я ў с я г о г э т а г а глядзіцца твая пыса?..» А можа, спадзяваўся, што Адомас, убачыўшы яго, свайго сябра (?), кінецца яму на грудзі і заплача крывавымі слязамі? Дзе там! Тут, галубок, не трэба мець ніякіх ілюзій, бо кроў цяпер — самая танная вадкасць. «Калісьці ў гэтым доме было добра і ўтульна, я быў прывязаны да яго, як кошка. Напэўна, у мяне кашэчы інстынкт; ён загаварыў, калі мяне пакінуў чалавечы розум, і прывёў сюды, нібы зблудную кошку да апусцелай сядзібы, каб прытуліцца да даўно астылага камінка, які некалі мяне саграваў.

Гедымінас апусціўся на крэсла. Ён усё яшчэ бачыў сябе ў прысенку, перад люстэркам — дзіўнага чужога чалавека з шэрым тварам і бліскучымі дзікімі вачамі,— і не мог даўмецца, які з іх сапраўдны. Былі дзве пачапкі для адзення, дзве мініяцюрныя, што міла ўсміхаліся, Мілды, дзве аднолькавыя сцяны прысенка, два «я» — у люстэрку і ў рэчаіснасці,— але ён не мог намацаць мяжы, што дзеліць абодва гэтыя светы; усё — і прадметы, і час — страціла сваю заканамерную сувязь, змяшалася ў бязмежнай прасторы ў бессэнсоўны хаос, у якім не было ні мінулага, ні будучыні, ні сёння. Цяжкі шаўковы абрус пах яблыкамі. Ён быў жоўты, нібы спелае пшанічнае поле. Круглае сонца, кошыкі, поўныя кветак, і голыя амуры, што страляюць з усіх бакоў. Аднак ён бачыў толькі згустак ружовай імглы, у якім, нібы ў велізарным воку смяротна параненага дапатопнага звера, адлюстроўваліся цьмяныя абрысы фантастычных карцін. «Вязём у Каўнас, да дзетак... Ха-ха-ха!» Ён быццам чуў, што нехта ўваходзіць і выходзіць, нешта кажа, машынальна сам адказваў на нейчыя пытанні, часпочас абуджаўся з жудлівага сну, аднак нязменна бачыў перад сабою згустак ружовай імглы, у якой знікалі і зноў утвараліся тыя самыя карціны.

— Гедымінас... што з вамі? — нехта доўга і моцна трос яго за плячо.

Згустак ружовай імглы растаў. Ён зноў убачыў стол — жоўтае сонца, акружанае амурамі. На ім красаваўся пузаты графін з цёмна-чырвонай вадкасцю, два зграбныя кілішкі на тонкіх ножках, ваза з пячэннем; побач стаяла Мілда, ужо не ў халаце, а ў ваўнянай бардовай сукенцы,

бялявыя валасы акуратна прычасаныя, бледнаваты твар крыху нафарбаваны, тонкі водар фіялак чуўся ў паветры. У яе голасе — спалох:

— Ты размаўляеш з тым светам. Што здарылася, Гедымінас?

«Ты»! Як у добрыя мінулыя часіны... А можа, яны яшчэ і не мінулі? Можа, я задрамаў каля стала, чакаючы, калі вернецца пан Бяржэнас, і мне прысніўся жахлівы сон? Зараз пачуецца старэчае пакашліванне і на ўсю кватэру загучыць бадзёры голас: «Мілда, каго я бачу?! Нас зноўку наведаў наш юны сябра!»

— Дык ты нічога не ведаеш? — здзіўлена запытаўся ён.

— Не...— На твары ў яе застыла напружанае чаканне.

Ён змераў яе доўгім калючым позіркам.

— І нічога ты не чула? — выдзяляючы кожнае слова, зноўку запытаўся ён.— Гэтыя стрэлы мусілі прагучаць на ўвесь свет, а ты іх усё-такі не чула? Яны расстралялі некалькі грузавікоў бездапаможных нявінных старых...

Напружанне з Мілдзінага твару знікла.

— Сярод іх на грузавіку я бачыў аднаго ўрача,— вёў ён далей, адчуваючы, як смыліць перасохлае горла.— За свой век ён ўратаваў не адну сотню чалавечых жыццяў, і вось сёння тыя самыя людзі яго...

— Гэта праўда страшна, вельмі страшна, Гедымінас,— вымавіла яна з палёгкай.— Я не магу дараваць Адомасу, што пакінуў мяне адну ў такі час. Але давай не будзем гаварыць пра гэта, мой мілы, не будзем псаваць сённяшняга добрага вечара.

Мілда адсунула крэсла ад стала і села побач з Гедымінасам.

— Тут лікёр,— трымала яна гаворку, наліваючы ў кілішкі.— Я не папыталася, можа, ты хочаш добра паесці? Выбачай, што без лішніх цырымоній перайшла на «ты». Наша даўняе сяброўства, думаю, дае мне на гэта права?

Яе раўнадушнасць ашпарыла яго, быццам кіпень. «Не будзем псаваць добрага сённяшняга вечара...» Што ж, так і зробім. У той час, як там у перадсмяротных канвульсіях уздрыгвае зямля (яны ж хваліліся, што паўкідалі ў яму яшчэ жывыя целы), мы падымем чаркі і вып'ем за бяспамяцце. І, вядома, за саміх сябе. За тое, што жывы-здаровы, за тое, што, дзякаваць богу, не семіты, што над нашымі галовамі ззяе свяцільнік старых добрых часоў, а заўтра зноў засвеціць сонца. На здароўе!

Гедымінас падняў кілішак.

Мілда, падняўшы свой, прыязна кіўнула яму галавой.

— Кроў...— сказаў ён, трымаючы кілішак насупраць святла.— Густая, яшчэ не астылая кроў. Нап'ёмся гарачай крыві, як рабілі нашы дагістарычныя продкі. Няхай сіла ворага перальецца ў наша цела.

— Гедымінас...— дакорліва прашаптала Мілда.

Ён выпіў дзве чаркі запар і павярнуўся да яе. Яна ўсміхалася, але неяк баязліва, нібы праз жалобны вэлюм. Ім апанавала зласлівая радасць.

— Адомас прапусціў выдатную нагоду: мог бы за так набыць табе смушкавае футра альбо, скажам, аздобіць пальцы дарагімі пярсцёнкамі,— сказаў ён, паддаючыся няўмольнаму жаданню пакрыўдзіць яе.

— У той самы дзень, калі ўбачу, што яго рукі нячыстыя, паміж намі ўсё будзе скончана. Ён гэта ведае,— спакойна адказала Мілда.

— Дык таму ён і знік з Краштупенаў, каб вымыць рукі, як Понцій Пілат, а іншыя няхай выконваюць за яго крывавую работу?

— А табе мала, што чалавек стараецца зберагчы годнасць, наколькі гэта магчыма ў наш час?

— Зберагчы годнасць...— Гедымінас перакрывіўся.— Я, значыць, адхілюся, а вы, мае любыя слугі, тым часам папрацуйце. І гэтакі манеўр мы ласкава назавём годнасцю...

— Ён твой сябра.

— Быў...

— Я кахаю яго.

— Ты «кахала» і Бяржэнаса, аднак цяпер я не ўпэўнены, ці ты не ўдзячная тым, што дапамаглі ад яго збавіцца,— адцяў Гедымінас, брыдзячыся, што паўтарае словы іншых, але не могучы ўтаймаваць сваёй раз'ятранасці.— Некалі ты сказала — о, я выдатна памятаю тыя словы: «Уявім, што нам засталося жыць адзін дзень, і возьмем у жыцця ўсё, што яно можа даць». Ты любіш толькі сябе, Мілда, а там хоць свет заваліся...

Яна з натугай засмяялася.

— Цябе цяжка пазнаць, мой дарагі. Было б у мяне больш злосці, вылецеў бы за дзверы. Гаворыш такія непрыемныя рэчы, нібы ўсе мы тут купаемся ў весялосці. Якая табе справа, кахаю я Адомаса ці не? Чаго ты ўсхадзіўся? Можа, раўнуеш? Між іншым, магу табе паведаміць, што пробашч паабяцаў парупіцца наконт майго разводу з Бяржэнасам, яшчэ гэтай зімою мы з Адомасам абвянчаемся.

— Што ж... Шлюб у асобных выпадках проста зручная шырма, за якой можна дагала раздзецца з чужым мужчынам.— Гедымінас амаль з нянавісцю пазіраў на Мілду, усё яшчэ спадзеючыся заўважыць на яе твары збянтэжанасць, крыўду, скруху — усю тую гаму пачуццяў, якая сведчыла б, што яе спакойны, самазадаволены ўтулак зварушаны, што яна няшчасная, як няшчасны цяпер кожны прыстойны чалавек у гэтым знявечаным горадзе.

— Будзь джэнтльменам, Гедымінас: налі ў кілішкі,— папрасіла яна, лянiва жуючы пячэнне.

Гедымінас апусціў вочы — яе нічым нельга было пранядць.

Ён наліў у кілішкі, яны абое моўчкі выпілі, а потым загучала ціхая танцавальная музыка — Мілда ўключыла радыё.

— Раскажы, як жывеш.

— Як сыр у масле.

— Толькі без іроніі, даражэнькі. Пабудзем хоць бы хвілінку шчырыя, як раней. Ведаеш, быў час, калі я ў цябе траха не закахалася.

— Што ж, гэта дужа гожа з твайго боку...

Яна ціха засмяялася.

— Толькі не задзірай носа. Я не думала нічога такога, што не пасуе замужняй жанчыне. Ты быў не такі, як астатнія мужчыны —меней прылізаны, меней дурны і ў дадатак трохі паэт,— не адна жанчына захацела б выпрабаваць сваю ўладу на мужчыне такога тыпу, але ж зусім неабавязкова цягнуць яго ў ложак.

Гедымінас падумаў, што яна гэтакая ж цынічная, як і раней. Аднак якія бессаромныя ні былі б яе фразы, яны не абражалі — так дзеці бегаюць галышма пры людзях і не выклікаюць абурэння. Яна не любіла ўпрыгожанняў, дэкальтаваных сукенак, быццам саромелася спакусліва дасканалых формаў свайго цела і старалася схаваць іх; праўда, яна ўмела гэта рабіць з такім густам і тактам, што, замаскоўваючы іх, яшчэ болей падкрэслівала. Можна было падумаць, што яна баіцца сваёй, такой відочнай, прыгажосці, а можа, стамілася ад яе і, жадаючы адпачыць, няўдала спрабуе ўвабрацца ў вопратку Папялушкі.

«Але, яна ніколечкі не змянілася,— паўтарыў Гедымінас у думках, адчуваючы млявасць ва ўсім целе.— І ў гэтым пакоі ўсё гэтаксама, як было калісьці. Радыё, піяніна, зялёная плюшавая канапа і на ёй дзве падушачкі з ня-

беленага палатна. Усё на сваім ранейшым месцы. Нават пах кватэры той самы. Адпак —

> Навошта, здані, з цемрадзі ўзышлі вы?
> Навошта, згадкі, леціце, як лісце?
> ...Крыху тугі, ды жменька слоў шчымлівых,
> ды пара твараў, бачаных калісьці...»

— Я звару кавы, Гедымінас.

«Цікава, колькі яшчэ засталося часу да камендацкай гадзіны?»

Аднак ён не паглядзеў на гадзіннік і не запратэставаў. Штосьці пяшчотнае, з пахам фіялак, паказытала яму шчаку, пачуліся мяккія шпаркія крокі патрывожанай кошкі. Ён зморшчыў вочы і нечакана прыгадаў адзін адвячорак ранняй вясны. Эпізод быў такі яркі, што на імгненне ён страціў адчуванне часу.

«Я сядзеў на тым самым месцы, дзе яна цяпер, і чытаў свой верш. Мне трэба было прыйсці пазней альбо наогул не прыходзіць, але адкуль я мог ведаць, што пан бурмістр затрымаецца ў магістраце? Мой верш быў пра нешчаслівае каханне, яшчэ свежы і вельмі журботны».

## IX

Але перад гэтым я сустрэў яе, сваё нешчаслівае каханне,— ёй і была прысвечана гэтая элегія.

У жыцці здараюцца самыя дзіўныя кур'ёзы. Скажам, рос у адной вёсцы з дзяўчынай, не заўважаючы яе, як звыклую дэталь наваколля, а аднаго дня быццам нейкая заслона спала з вачэй, і ты, аслупянеўшы ад здзіўлення, пытаешся ў самога сябе: «Як ты мог жыць, не ведаючы, што на свеце ёсць яна?»

Аквіля, я кахаю цябе, мог я сказаць тады, на хрысцінах у Гульбінасаў, калі мы абое былі хросныя, і я тады раптам адчуў, што яна не так сабе нейкая дэталь, а частка майго лёсу, без якой маё далейшае жыццё пустое і бессэнсоўнае. Гэтыя банальныя, але непазбежныя словы я мог паўтарыць (так, паўтарыць, бо да мяне іх казалі мільярды людзей) і ў той духмяны чэрвеньскі вечар, калі мы ўдваіх ішлі за возам сена і спявалі, нібы шалёныя падлеткі, а яе вочы бліскалі асаблівым святлом. Я ніколі не бачыў такога да слёз прыгожага, недасяжна высокага неба і такіх шчаслівых вачэй. Я быў амаль упэўнены, што яна закаханая. І ўсё роўна не рашаўся вымавіць тых вырашальных слоў. Ні ў той вечар, ні пазней, хоць былі дзесяткі

4 Зак. 2237

зручных выпадкаў. Сарамлівасць і нават нейкі інстынктыўны страх звязвалі мне язык усялякі раз, калі я намерваўся адкрыць рот, каб выказаць таямніцу свайго сэрца. Здавалася, гэтых трох слоў замала, яны не здолеюць вытлумачыць маіх пачуццяў, а яшчэ што дадаць да іх я наўрад ці здолею. Праўда, я магу даволі зграбна выказваць думкі, толькі, на жаль, не ў тым выпадку, калі вырашаецца мой лёс. Лепш напішу я ліст — разумны, добра абдуманы, палкі — яна не зможа не зразумець, што такое каханне бывае толькі раз у жыцці, і здолее гэта ацаніць. Несумненна, ліст — лепш за ўсё!

Але нам абаім было б лепш, каб я ніколі не пісаў яго і не ўкідаў у паштовую скрынку, якая вісела на каменнай агароджы касцёла. Я валокся праз рыначны пляц, пацеючы, хоць быў халодны сакавіцкі дзень, і адчуваў у нагах такі цяжар, быццам на мае плечы навалілiся любоўныя пісьмы ўсяго свету, што засталіся без адказу.

А на другі дзень я сустрэў яе. Мы абышлі ўсе крамы — яна шукала нейкай асаблівай матэрыі на летнюю сукенку,— і купіўшы яе, мы падаліся ў цукерню выпіць кавы з піrожным. Я пазіраў на яе шчаслівы, крыху заклапочаны твар і думаў пра ліст, які заўтра ў гэты самы час яна будзе трымаць у руках. Мяне пачало трэсці.

— Што з табою? Табе блага? А можа, якая непрыемнасць? — затурбавалася яна.

— Не, не. Мне толькі чамусьці здалося, што мы сустракаемся апошні раз,— прамармытаў я.

— Ну, ці ты не дурань! — Яна засмяялася.— Чаму гэта мы сустракаемся апошні раз? Ты мой самы лепшы сябра, Гедміс.

— Так...

— Марус кажа, што калі ён чаго дасягне ў жыцці, дык частка заслугі ў гэтым будзе пана Джугаса. Ён дужа ўдзячны табе, Гедымінас.

— Марус здольны вучань.

Аквіля азірнулася, узяла мяне за локаць і, прыхіліўшыся да вуха, зашаптала:

— Нікому я гэтага не казала, але табе можна. Ведаю, не прагаворышся, нават слова гонару не патрабую. Бачыш, як я табе давяраю! Я закахана ў яго, Гедымінас...

У мяне з вачэй пасыпаліся іскры. Кубачкі з кавай і недаедзеныя піrожныя змяшаліся ў кучу. Спрабаваў нешта сказаць, але замест слоў з майго рота вырвалася няўцямнае мармытанне.

— Гедымінас, што ты?!.

Я адкінуў яе руку, устаў і, хістаючыся, выбег на вуліцу. Напэўна, у мяне быў страшны выгляд, бо людзі азіраліся на мяне. Я не ведаў, што ім трэба. І наогул мне дзіўна, што ўсё навокал стаіць, як стаяла, у той час калі мой дом згарэў дарэшты. А калі ён адбудуецца? І наогул, ці можна яго адбудаваць? Я поўзаў вакол папялішча, разграбаючы абпаленымі пальцамі гарачы попел успамінаў, і хацеў крычаць, каб пра маё няшчасце даведаўся ўвесь свет.

Два тыдні мне было агідна глядзець на здаровы, усім задаволены чалавечы твар. Вярнуўшыся пасля работы з гімназіі, я зачыняўся ў сваім пакоі, начамі праседжваў за сталом, дарэмна стараючыся ўтапіць сваю крыўду ў кнігах.

Дык вось, тым вясновым адвячоркам я сядзеў вось тут, дзе сёння Мілда — насупраць піяніна, на якім, узняўшы хобаты, стаялі сем, адзін за аднаго меншыя, слонікаў — сімвал мяшчанскага дабрабыту,— і чытаў свой верш — роспачны псалом спаленаму дому.

— Цябе трэба адлупцаваць, свавольніка,— сказала перад гэтым Мілда, калі я ўвайшоў у дзверы.— Дзе ты прападаў? Ну, хутчэй скідай паліто! Мой сівагаловы каток неўзабаве прыйдзе.

Ці мог я чакаць пана бурмістра, спакойна гутарачы з яго жонкай, калі прыйшоў сюды, сцякаючы крывёю сэрца?

Дык вось, я сядзеў перад гэтай чорнай, невыносна цяжка труною з сямю белымі слонікамі і чытаў на памяць свой верш, які дагэтуль чулі толькі адданыя сцены майго пакоя.

Свет распасціраўся перад маімі вачамі як бязмежная мёртвая пустыня, а я глядзеў на яе аднекуль зверху і ў яе панурых прасторах бачыў маленькую згубленую кропку — самога сябе. У квадраце акна шумеў вясновы горад, недзе бушавалі вечна жывыя рэкі, што пазрывалі ледзяныя путы зімы, за маёй спіною ў мяккіх пантофліках хадзіла Мілда — канарэйка ў залатой клетцы, але я нічога не адчуваў, не бачыў, толькі гэтую маленькую кропку — самога сябе. Мне стала страшна і чагосьці невыказна шкада. Губы пачалі дрыжаць, словы трэскаліся, як перасохлая глеба, а аднекуль з грудзей узняўся гарачы камяк і здушыў горла. Я замоўк, хоць у вершы яшчэ заставалася некалькі радкоў, і напружыў усю сілу, каб суняць плач, у якім захлыналася мая душа. А потым... Не, гэта адбылося, напэўна, у тую самую секунду. Цёплыя, што пахлі фіялкамі, рукі абнялі мяне за шыю. Я адчуў шчакою яе шчаку, шоўк

4*

яе пяшчотных белых валасоў, а плячамі — пругкую апору — яе грудзі. Ніколі ніводная жанчына не абдымала мяне так, ды яшчэ ў такую цяжкую хвіліну. Я, дваццаціпяцігадовы мужчына, заплакаў, як малое дзіцяня. Тады яна ўзяла ў свае далоні маю галаву, адхіліла яе назад і пачала цалаваць, шэпчучы: «Дзівосны верш! Ты прысвяціў яго мне, праўда? Але чаму ты плачаш — я ж кахаю цябе...»

Я ўскочыў, амаль адшпурнуў яе ўбок, выцягнуў насоўку і, адвярнуўшыся, выцер мокры твар. Мне было так сорамна, што я не ведаў, куды вочы падзець. Калі нарэшце паглядзеў на Мілду, убачыў: яна стаіць каля піяніна і ўсміхаецца, нібы нічога не было. Яе вочы яшчэ палымнелі здрадніцкім агнём. «Мой сівагаловы каток неўзабаве прыйдзе...» Нават тут, у гэтым вычышчаным да бляску пакоі, багна! Я хацеў, грукнуўшы дзвярыма, пайсці і ніколі больш сюды не вяртацца, але ведаў, што не змагу так зрабіць — быў занадта зняможаны. «Адзінае, на што я, здаецца, яшчэ здольны, гэта самому брысці па багне і не браць да душы, што пэцкаю іншых»,— падумаў я і не здзівіўся, што такая думка першы раз у жыцці прыйшла мне ў галаву.

## X

— Кава прыехала,— прабуркавала за спіною Мілда.

— Гм... Напраўду?

— Ты сёння надзвычай рассеяны, мой мілы.

— Выдатнае слова.

— Якое?

— Вось гэта «надзвычай», без яго немагчыма абысціся ў сённяшнім надзвычайным свеце. Надзвычай пахне кава, надзвычай іграе музыка, надзвычай прыемна сядзець за сталом з надзвычайнай жанчынай і бачыць праз адчыненыя дзверы ў спальню ложак і кіпу надзвычай белых падушак... Надзвычай салодкая выспа спакою ў бурлівым акіяне... Такая бялюткая, цнатлівая, далікатная, як прасціны перад першаю шлюбнаю ноччу. Так і карціць пахадзіць па ёй удоўж і ўпоперак бруднымі ботамі.

Мілда глядзела на яго, крыху разявіўшы рот, прыжмурыўшы вочы, і ціхенька смяялася.

— Неўзабаве камендацкая гадзіна, аднак я пляваў на яе. Прымеш пераначаваць, Мілда?

— Захмялеў, хлопча...

— Магчыма, але не настолькі, каб было ўсё роўна куды ісці — да нявесты колішняга сябра альбо ў дом распусты.

Не бойся, Адомас не будзе злаваць — не так даўно ён прапаноўваў мне пераспаць з табою.— Гедымінас нахабна ўтаропіўся на Мілду, думаючы: зараз атрымаю па мордзе, і няхай. Хоць адну ноч гэтая пані не зможа заснуць. І раптам са здзіўленнем адчуў, што ім авалодвае жаданне.

— Часам вы, мужчыны, надзвычай шчодрыя,— сказала яна, ледзь чутно смеючыся.— На жаль, не ўсе жанчыны могуць ацаніць гэта. Можа, патанцуем?

Гедымінас глядзеў на яе пагардлівым паглядам, намагаючыся задушыць усё большы агонь жадання.

— Неяк у сне я кахаў цябе,— сказаў ён, разумеючы, што гэтага гаварыць не варта, але не могучы звалодаць з сабою.

— І гэта было са згоды Адомаса? — запыталася яна шэптам.

— Не, тады яшчэ быў жывы пан Бяржэнас,— адказаў ён, дзівячыся, як непазнавальна мяняецца яе аблічча.

— Сёння ты надзвычай цікавы, мой мілы.

— Не думаю.— Ён пакруціў галавой.— Проста мне закарцела прайсці труднымі ботамі па чыстым снезе.

Тады ён пачуў прытоены смех. Яе аблічча знікла, і, як той раз, калі ён чытаў ёй свой верш, яго агарнула фіялетавая, з фіялкавым пахам, цемра.

## *Раздзел пяты*

### I

Яна жыла побач з акварыумам, інакш кажучы, светам, які быў падзелены нябачнымі перагародкамі на мноства клетак. Рэчы і людзі былі бязладна пазапіхваны ў гэтыя шкляныя шуфлядкі, нешта рабілі, некуды спяшаліся, смяяліся альбо заломвалі ў роспачы рукі, а яна глядзела на гэтую трагікамічную пантаміму, абыякавая да ўсяго. Часам — вельмі рэдка, тайком ад Катры Табакі — зазіраў бацька. Некалькі слоў, каб падбадзёрыць, нясмелая ўсмешка, стрыманы поціск рукі, аднак і тут яе сэрца стукалася аб халодную шкляную перагародку — ён таксама быў жыхаром акварыума. Гедымінас пісаў свайму добраму старому (дарогі параскісалі, і ён больш не прыязджаў у адведкі): «...і мноства сардэчных прывітанняў Аквілі...» На каляды будзе дома. Яна не пакрыўдзілася, што ён не напісаў ёй

асабіста: што ж, ён таксама ў шкляной клетцы. Цялёпкалася па вёсцы з пошты, несучы свежыя газеты і гэтае, яшчэ не адпячатанае пісьмо, а ў адным падворку — шкляной загарадцы акварыума — стаяў падлетак і крычаў ёй у спіну:

Гнуцца ногі, пнецца пуза —
заўтра мецьмеш карапуза.

Жанкі з цікаўнасцю зыркалі праз вокны, а сустрэчныя на вуліцы двухсэнсоўна ўсміхаліся, ківалі галовамі, радуючыся, што такая ганьба мінула іх дачок і сясцёр.

«А-яй, Вайнарасава Аквіля ўжо на днях!»

«Маці — гэтакі жандар, а, бачыш, не ўпільнавала».

«Дзе там! З самім жа д'яблам знюхалася...»

«Як жа, думала, улада бальшавікоў на векі вечныя, будзе паняй камісарыхай, а вось як выйшла».

«Гасподзь бог кожнага на сваё месца ставіць, даражэнькая, на тое воля яго...»

Апошнім часам яе даймала хваравітая думка: дзіця народзіцца нежывое. Інакш не можа быць, калі кожная пядзя зямлі дыхае смерцю. І калі, яшчэ не апрытомнеўшы ад болю, пачула яго раптоўны крык («Прывітанне, жыццё!»), палічыла гэта цудам. «Цяпер будзем удваіх»,— падумала яна і са здзіўленнем убачыла, што акварыум разляцеўся ўдрузг, людзі і рэчы, вырваўшыся з шкляных загарадзяў, абступаюць яе, напаўняючы сэрца шчаслівым спакоем і ціхай радасцю.

Нясмела зарыпелі дзверы — увайшоў бацька. У вусах срэбраныя кроплі — расталыя сняжынкі.

— Гм... гм... На самыя каляды. Разам з Ісусам Хрыстом... — Ён нахіліўся да ложка, хацеў пацалаваць, але, засаромеўшыся сваёй пяшчоты, вінавата ўсміхнуўся і схаваў за спіну непатрэбныя рукі.

У дзвярах стаялі абодва Джугасы — стары і малады. Кожная рыска на іх тварах смяялася і танцавала.

— Ну, бачыш, дзеўчына, усё добра...

— Малайчаком, Аквіля!

І словы іхнія ўжо не наштурхоўваліся на шкляную перагародку.

Потым уварвалася Казюня Нямуненя. Неўгамаваная і калючая, як вожык, аднак пад закарэлай шурпатай карою хавалася дабрыня.

— Дзе гэтая дзеўка з дзіцем? Пакажыце мне таго байструка! — закрычала яна, яшчэ не пераступіўшы нават парога.

Павітуха паднесла на падушцы маленечкага чалавечка са зморшчаным тварам стогадовага дзеда.

— Вось які жарабок! — узважыла яна на далоні голае пісклявае цельца, уважліва агледзела з усіх бакоў і раптам апусцілася на ложак, абдымаючы Аквілю.— Носік, лобік, вачаняты... Кажы што хочаш — выліты бацька... — зашаптала яна.— Марус... Наш бедны маленькі Марукас... Сіротка! — Захлынулася слязамі і доўга ўсхліпвала, адной рукой прыціскаючы да грудзей падушку з немаўляткам, а другой гладзячы вуглаватыя плечы незаконнай нявесткі.

Аквіля нацягнула на галаву коўдру і адвярнулася да сцяны. Заплакала, як ніколі, пакутліва, аблягчаючы сэрца плачам.

Праз некалькі дзён Хвэлька Кяршыс прывёз доўг — некалькі дзесяткаў шпунтаваных дошак, якія ён браў у Джугаса ўвосень. Дамаўляліся, што верне вясной,— але ён чамусьці пастараўся раней.

Аквіля сядзела ў кутку каля стала і карміла немаўля. Нават грудзей не прыкрыла, калі ён увайшоў,— не саромелася Кяршыса, як і іншыя вясковыя жанчыны, бачачы ў ім сябра, бацьку, брата, але толькі не мужчыну.

— Дык ужо маеш... — сказаў ён, павітаўшыся.— Нарадзіўся, а-эх...— Прысеў на краечак лавы, чырванеў, соп, саромеючыся паглядзець у бок Аквілі, і словы некуды падзеліся — нібы камяні, якія ён дбайна павызбіраў на сваім лапіку зямлі: ніводнага зручнага пад рукою.— Дык я вось дошкі прывёз... Удалося раней напілаваць, ага. І наслаў шпунтаваную столь. А то раней кастрыца церушылася. За год-другі, калі дасць бог здароўя, абшалюю сцены дошкамі і зраблю новы дах...

— Можа, вып’еш шклянку каляднага піва, Хвэлька? — прапанаваў стары Джугас.

Хвэлька закруціўся ўсім сваім нязграбным целам. Не, не мае часу. Маці зусім злегла, хто ведае, ці падымецца з ложка. Скаціну пара карміць, свінню трэба адгарадзіць у хляве — хутка парасіцца будзе, ды і так поўна ўсялякага клопату. Не, не! Але ўсё роўна сядзеў, нібы прывязаны, і пацеў, жадаючы і не могучы адарвацца ад лавы.

— Дык вось як, ага... Пакуль яшчэ мама сяк-так магла рухацца... А-эх, кепска, вельмі кепска мужчыну аднаму на гаспадарцы...

— Жаніцца трэба, Хвэлька.— перабіў яго Джугас.

— О-о, было б добра... — Глыбока ўздыхнуў, правёў

далонню па даўгаватым, старанна паголеным твары, нібы захінаючы не ў час народжаную думку, і раптам ні з таго ні з сяго спытаўся: — Дык, праўда, калі хрысціны?

— Як пазвозім лес,— адказаў Джугас за Аквілю.— Дзіцятка здаровае, можа пачакаць. Можа, кумам быў бы, Хвэлька?

Прапанова была жартоўная, але Хвэлька прыняў яе за шчырую праўду. Ускочыў спалоханы, нібы зямля пад яго нагамі разявіла пашчу. Круціў галавою, адмаўляўся:

— Не, не! Ні за якія грошы! Толькі не я! Ёсць людзі як людзі. Які з мяне кум. Дык вось... Не гневайцеся, але так ужо выходзіць... ага...

Развітваючыся, нясмела ўзяў працягнутую Аквіліну руку і патрымаў у сваёй мядзведжай лапе. Тоўстыя закарэлыя пальцы дрыжалі. Дрыжалі калматыя бровы, і скасавураны позірк быў скіраваны па-над Аквіліным плячом некуды ў пустую прастору.

— Здаецца мне, ты яму дапала да сэрца,— пажартаваў Мікалас Джугас, праводзіўшы госця.

Аквіля прапусціла ягоныя словы міма вушэй — яе турбавала нешта іншае.

— Абыдземся без галасу, дзядзька,— сказала яна.— У нядзелю з'ездзім у Краштупены, Гедымінас са сваёй гаспадыняй будуць кумамі, і ціха ахрысцім.

— Ты што, з дрэва звалілася? Горшая, чым усе людзі? — запярэчыў Джугас.— Нічога з таго не будзе, маё дзеўчаня: справім хрысціны як належыць. Няхай вёска бачыць: нікому мы не павінныя, ні перад кім мы не вінаватыя.— І, махаючы пальцам перад носікам дзіцяняці, дадаў: — Хіба дзядуля не праўду кажа, Марус?

Аквіля ў роспачы заматляла галавой.

— Толькі не Марусам, дзядзька! Якім хочаш імем, толькі не Марусам...

## II

Ахрысцілі Лаўрынасам — у гонар Аквілінага бацькі і, вядома, назло яе маці. Хросныя таксама падабраліся такія, ад якіх Катра Табака, вядома, не магла быць у захапленні: Юза — жонка гэтага «галадранца з галадранцаў» Путрымаса, і Гедымінас, якога, як і ўсю сям'ю Джугасаў, Катра не пераносіла.

У касцёл наўмысна паехалі праз Вайнарасаў двор — заўпарцілася Аквіля, хоць на бальшак маглі выехаць і ін-

шай палявой дарогай. Мала таго — сама ўшчамілася паміж хроснымі бацькамі: праводзіць іх да вёскі і адным разам запросіць на хрысціны мілую матулю... Мі-лу-ю... І столькі ў гэтым слове было атрутнай злосці, столькі іроніі, што нават утрапенне брала. Гедымінас хмурыўся, але ўсё роўна мусіў спыніцца пад самымі вокнамі Вайнарасаў і цярпліва чакаць, пакуль Аквіля корпалася каля дзіцяці, укручанага ў сваю найлепшую пасцельку, і, касавурачыся на хату, давала кумам непатрэбныя парады. «Тут мой дом, і хоць ты, старая, лопні ад злосці, я правяду с в а й г о с ы н а ў першы шлях са с в а й г о двара»,— крычалі, змрочна палымнеючы, вочы. І калі нарэшце жвавы буланы, пабліскваючы медным акуццем на збруі, ірвануўся з месца і сані вылецелі праз двор на бальшак, яна голасна крыкнула ім услед («Не застудзіце, глядзіце, майго Лаўрукаса!»), каб яе пачулі там, у хаце, і ўсё махала рукою, хоць ужо не было каму махаць, і ўяўляла сабе, як імчацца кумы праз вёску, як віюцца блакітныя стужкі і як потым той самай дарогай яны будуць вяртацца з касцёла, кідаючы цукеркі дзецям, а бабы, прыплюснуўшы насы да шыбін, будуць цікаваць праз вокны альбо стаяць у дварах, нібы папраглынаўшы кіі.

Падавіцеся! Нікому мы не павінныя, ні перад кім не вінаватыя! Дарогу матчынаму сыну Лаўрынасу Вайнарасу!

Падышла да дзвярэй, ганарліва ўскінуўшы галаву, поўная невыказнай пыхі і пагарды да той, якую язык не паварочваецца назваць маці. Зашчапка бразь перад самым носам. А ўслед за гэтым задушлівае гігіканне.

— М а т у л я! Гэта я, Аквіля. Запрашаю на Лаўрукасавы хрысціны.

Пачапала клямку. Раз, другі. Ведала — не ўпусціць, але хіба для гэтага прыйшла?

— Пабачыце, які прыгожы ўнучак. Увесь у Чырвонага Маруса... Далібог, м а т у л я, не задавайцеся, прыходзьце на хрысціны...

За дзвярыма, здавалася, загыркаў сабака, якому наступілі на хвост. Пачуліся крокі, грукнулі дзверы: Катра, не ўтрываўшы, выскачыла ў пакой.

Аквіля тукнула нагою ў вушак і пайшла да кухоннага акна. А там сядзіць бацька за сталом — перад ім бохан хлеба. Нібы з-пад зямлі выніклі Юста з Юргісам. Скачуць каля акна, нібы казляняты, што ўбачылі сябе ў люстэрку, крыўляюцца, знакамі і засумаванымі паглядамі вітаюць старэйшую сястру.

Аквіля прыціснула кулакі да грудзей. Усміхаецца, ледзьве стрымліваючы слёзы, крычыць:

— Дзеці, не прапусціце, калі будуць ехаць кум з кумою! Вязуць паўмяшка цукерак!

З грукатам уварвалася Катра. Юсту — у плечы, Юргісу — па карку, і кухня ўмомант апусцела. Толькі бацькава галава, атуленая далонямі, нібы ён бароніцца ад удару, і распачаты бохан хлеба.

Ляснулі знадворныя дзверы, нават шыбіны ў вокнах забразгацелі.

— Я табе пакажу цукеркі, паскудніца! Я табе дам, абармотка! Будзеш ведаць, як швэндацца пад чужымі вокнамі. Я з цябе выганю д'ябла, свіння ты шалёная, больш ты не будзеш мяне ганьбіць, брыдота... — У Катрыных руках закураная качарга. Без хусткі, раскудлачаная, нібы куст дзядоўніку, крывыя кашчавыя ногі таўкуцца ў драўляных чаравіках.

Аквіля паказала ёй язык і — ходу. Крыху адбегшыся, азірнулася цераз плячо: маці ўсё яшчэ стаяла на двары і, растапырыўшы рукі, махала качаргой.

«Вось жа пацешылі вёску...»

Зацятасць прайшла, нібы адталі шыбіны. Напраўду, чаму было не паслухацца дзядзькі Мікаласа? Каму яна была трэба, гэтая дурная выдумка? Пасля родаў яе нібы падмянілі — стала неўраўнаважаная, узбуджаная, ледзь што — выбухала. На добрае — чуллівая да слёз, на кепскае — гатовая ўчыніць самае найгоршае паскудства. Часам стрэліць у галаву такая дурнота, што пасля хоць ты плач з роспачы. «Яблык ад яблыні непадалёку падае...» Але чаму гэтай яблыняй мусіць быць Катра Табака? Ёсць жа яшчэ бацька, якога ў вёсцы нязлосна называлі божай авечкай. «Аднак сама я далёка не авечка. Хто бачыў, як я гайсала пад вокнамі, той скажа толькі: усе бубкі ў маці падабрала... Маці! Каб яна выпруцілася, гэткая маці! Лепш ужо быць дачкою ведзьмы...»

Нараўлася, наплакалася ўволю — і адлегла ад сэрца. За клуняй абцерла снегам запухлы твар, паблукала па хутары, пакуль зусім не супакоілася, і толькі тады пайшла ў хату дапамагаць жанчынам, што гатавалі пачастунак. Але ў галаву ўсё лезлі назолістыя думкі, цяпер ужо пра іншае: каб чаго благога не здарылася з кумамі. Раптам спудзіцца конь, выверне ўсіх у роў альбо затрымаюць немцы... Яе любоў, што з дня на дзень усё гарачэй разгаралася да сына, была такая самая вялікая, як нянавісць да маці.

Таму, ледзь толькі заўважыла, што вяртаюцца хросныя бацькі з хрэснікам, першая выскачыла на двор, не саромеючыся гасцей, што гурмойываліліся з дзвярэй, каб прывітаць маленькага Лаўрынаса. Галодны роцік прагна ссаў грудзі, і гэты цесны пакойчык, у якім ад чужых вачэй схавалася са сваім скарбам Аквіля, здаваўся ёй прасторнейшым за ўвесь свет. Калі малое заснула, сядзела на ганаровым месцы — на покуці, і ўсе яе віншавалі, уздымаючы шклянкі з півам (сярод іх трапляліся і чаркі мутнай «нямецкай» гарэлкі) за здароўе немаўляці. Аднак жа ёй самой хацелася як мага хутчэй уцячы ад гэтага галасу ў свой утульны куточак.

А гасцей было і праўда шмат — Мікалас Джугас паказаў сябе. Прыйшлі найбліжэйшыя сябры, сваякі, суседзі Джугасаў і Вайнарасаў. Народу ў святліцы па завязку. На сталах таксама поўна ўсяго, можна было б накарміць і напаіць жабракоў усёй парафіі. Дзякаваць богу, не апусцелі яшчэ хлявы, свірны, каморы — немец не паспеў падчысціць. Адно вось толькі — ніводнай жывой душы з хутара Вайнарасаў... Катра Табака пазачыняла ўсіх у лазні, неасцярожна пажартаваў хтосьці, парушаючы святочны настрой. Аднак шклянкі і талеркі ўмомант яго паправілі. З абодвух бакоў суседзі падштурхоўваюць кума з кумою, каб селі шчыльней, а то хрэснік будзе рэдказубы. Чорны Кукса, які, варта яму выпіць, становіцца дужа раўнівы, падазрона зыркае на жонку. Над сталамі ўдоўж і ўпоперак лётаюць дасціпныя жарцікі, што суправаджаюцца выбухамі рогату («Асцеражней, пане настаўнік, Путрымас не любіць памочнікаў...» — «Ды ўжо ж, наш Кукса выстругае сёмага і без чужой дапамогі...»). Нейчая лірычная душа, што старанней за іншых пашчыравала ля шклянак, прапануе заспяваць песню, але тут жа атрымлівае суровую водпаведзь: «Ашалеў! Жалоба ж яшчэ...» Усе ледзьве не абураюцца. Толькі гаспадар паблажліва ўсміхаецца, падкручваючы выгнутыя падковай вусы. Песню? А чаму б і не? Нябожчыку ўжо ўсё роўна, будзеш ты ў гэтай даліне слёз плакаць альбо спяваць песні. А калі яго душа адтуль нас бачыць, дык, пэўна, радуецца, што мы не б'ёмся, не лаемся, а прыгожымі песнямі цешым сэрца. Дык вып'ем, каб лепей спявалася, калі ласка.

Звіняць шклянкі, стукаюць аб талеркі нажы і відэльцы, булькоча піва, што льецца з пузатых збанкоў. Вядомая рэч, будзе песня — у гэтых Джугасаў усё не гэтак, як у іншых людзей. Ды не, не спяваюць, і без таго многа рабо-

ты губам і языку. Зноўку чалавак ля чалавека, сусед ля суседа; яшчэ нядаўна з-за платоў, заваленых снежнымі гурбамі, адно толькі прыўзнімалі адзін перад адным шапкі, а калі і сыходзіліся часам разам, дык толькі па гаспадарчых клопатах; залатвіш клопат — і лягчэй у гаспадарцы, але не на сэрцы. Былі тут і такія, якія не бачыліся па некалькі гадоў альбо, як кажуць тутэйшыя людзі, «палюдску між сабой не пагаварылі». А пагаварыць ёсць пра што: такая зіма! У адным Лаўксадзісе гэтулькі навін, што і ў дзесяці газетах не апішаш. Хто памёр, хто нарадзіўся, хто пажаніўся, у каго ноччу з каморы ўкралі сала, каго немцы пагналі з абозам... А перад Новым годам у Гульбінасаву сядзібу ўсяліўся новы пан, нейкі Петар фон Дызэ з-пад Тыльзіта. Кажа, гэта яго ўласнасць, бо належала яна калісьці Гурскені, першай Гульбінасавай жонцы, якая, паводле крэўнага сваяцтва, даводзіцца яму цёткай,— фраў Гертруда фон Дызэ. Калісьці сапраўды яна так называлася, гэтая фраў Дызэ. Любіла яна пахваліцца сваім прускім паходжаннем — мы, старыя вяскоўцы, гэта добра памятаем. Небаракі Гульбінасы. Лепш, каб яны не вярталіся з той Сібіры, калі яшчэ жывыя.

— Дзе там... Пісалася ў газетах, такія жахі там тварыліся... — галава Мікаласа Джугаса звешваецца на грудзі.

— Вер ты іхнім газетам.

— Дыму без агню не бывае.

— Нічога, Мікалас. Амерыка паб'е немца, і табе дастанецца Гульбінасаў маёнтак.

— Навошта ён мне? Лепш выпі.

— Паб'е... Пустая гаворка. Такая сіла.

— Гітлер захапіў амаль усю Украіну. Рускія засталіся без хлеба. Немцы рвуцца ў Маскву і ў Ленінград.

— Аднак жа не ўзяў Гітлер Масквы да зімы, як абяцаў.

— І не возьме. Расія — уга! Зямля без канца і краю. Яшчэ ніхто ніколі яе не адужаў.

— Дзе там адужаць! Рускім не трэба нават і ваяваць. Былі б разумныя — адступалі б і адступалі б. Немцы заблудзіліся б, як гусяняты ў балоце, і самі палеглі б касцьмі.

— Яны так і робяць. А каб справа рухалася шпарчэй, ззаду партызаны дапамагаюць.

— Прышчамі язык, бацька...

— Ідзі ты ведаеш куды... Хіба я сам гэта выдумаў? Адзін знаёмец з Вільні прыязджаў пагасцяваць. Расказваў,

беларускія лясы кішма кішаць партызанамі. Нават з бабамі, дзецьмі...

— А куды людзям падзецца, калі немцы зграбаюць іх жменямі, быццам вошы, і — у агонь? Надоечы сам бачыў у Краштупенах, як гналі палонных. На людзей не падобныя.

— Здзекі яшчэ нікому дабром не канчаліся. Адрыгнуліся яны адным, заплацяць за іх і другія.

— Раздалі б лепш палонных гаспадарам, замест таго каб марыць іх голадам. Усім была б выгода.

— Кажуць, дадуць. Выйшаў такі загад.

— Падапрэшся ты імі надта, калі яны ледзьве на нагах стаяць.

Чорны Кукса сядзіць, нахіліўшы галаву. Моцна сцяты кулак дужай рукі то хаваецца пад стол, то зноў выскоквае наверх. Нарэшце пальцы распростваюцца, уздрыгваючы, хапаюць шклянку — і да дна! Адважыўся!

— А што, калі — чак! — і Гітлеру канец? — выгуквае ён.— Прайграў вайну. А рускія тут як тут, і рабі што хочаш... Га? Што тады, каб вас качкі стапталі?

— Чакаеш?

Юза Путрыменя, кума, моршчыцца і міргае, злосным позіркам асаджваючы мужа, але Чорны Кукса ўжо разышоўся.

— Не чакаю, проста так цікаўлюся. Хоць, па праўдзе кажучы, свой лапік зямлі быў бы не лішні. Але, з другога боку, навошта ён мне здаўся? Калі прыйдуць рускія, усё роўна ўсіх пазаганяюць у калгасы.

— Марш дадому, п'яная свіння! — Путрыменя то бялее, то чырванее; вочы, і без таго лупатыя, лезуць на лоб, у іх жывёльны страх і лютасць.— Гані яго прэч, пане Джугас.

— Супакойся, кума. Размовамі рускага не наклічаш, а немца не выганіш.

— Што гэтак, тое гэтак. Леташні снег не вяртаецца. Англічане не дазволяць ім нагою ступіць на нашу зямлю. Толькі да мяжы, а далей — стоп!

— Вар'ят! Нічому не навучыўся ў тых, што за язык галовы клалі... — жахаецца Путрыменя.

У другім кутку ў святліцы таксама не абыходзіцца без палітыкі. Яўрэі ашуквалі нашых людзей, але нашто ж з імі гэтак? Літоўкі мылі іхнія пялёнкі, шаравалі ў яўрэяў падлогу? Ну і ліха з імі! Дык давайце цяпер пруставім іхніх баб і дачок да гэтай работы, няхай выграбаюць наш

гной, але нашто пхаць людзей у зямлю? У святым евангелі нідзе не сказана: вазьмі камень і забі свайго ворага. Не, Ісус Хрыстос загадаў даравāць сваім вінаваўцам, хоць яны і прыбілі яго да крыжа. Супраць веры ідзём, вось што! Ні кроплі бязвіннай крыві не прападзе без следу; не дай, божа, каб яна ўпала на нашы галовы і на галовы нашых дзяцей. Немцы вінаватыя? Што пэўна, то пэўна, без іхняй каманды не лілася б бязвінная кроў, але што ты за чалавек, калі кожны галаварэз можа штурхнуць цябе на рабаўніцтва і забойства? Яны ж апошнюю сарочку здзіралі з няшчасных і, у чым маці нарадзіла, скідалі ў яму... У Краштупенах хоць на свае вочы людзі не бачылі гэтых жахаў, а ў Струмлянах дык стралялі ў самім мястэчку, проста на рынку, больш як тысячу чалавек паклалі, і кроў цякла па каменным рынштоку ў рэчку, на цэлы кіламетр уся Струмля была чырвоная. З той крывавай куламесы сяму-таму ўдалося ўцячы, але ці далёка?

У той дзень мы малацілі ў старасты Яўтакіса, згадвае Казюня Нямуненя. Гляджу, блукае вакол тока нейкі чалавек. Яшчэ не стары, але барадой зарос па самыя вушы, адно толькі кончык носа і ашалелыя вочы блішчаць. Людзі пачалі яго намаўляць: хавайся, тут не месца такому. Сілком у сцірту саломы цягнуць. А ён выкрыўляецца, нібы малпа, і, адстаўляючы, быццам стрэльбу, то адну, то другую руку, крычыць: трах-та-та-та, трах-та-та-та. Усё паблыталася ў чалавечай галаве... Убачыў Яўтакіс — тады ён яшчэ быў здаровы — і загадаў мужчынам звязаць вар'ята: трэба аддаць яго немцам. Той уцякаць, выкрыкваючы сваё трах-та-та-та. Тады, адкуль ні вазьміся, Яўтакісаў парабак Пятрас (Кучкайліс ягонае прозвішча) з вінтоўкай. Стрэліў тры разы — і ўсё... А быў добры адвакат — хто не ведаў Грынберга? Не аднаго нашага чалавека ў судзе абараніў.

Размовы за сталамі паступова заціхаюць, гучыць толькі звонкі голас Казюнін. Сёй-той нясмела пярэчыць: у час вайны заўсёды гінуць людзі, а забойцы ва ўсе часы былі і будуць. Нехта, можа, не адважваючыся разявіць рота, разважае ў думках: калі не Пятрас, нехта іншы застрэліў бы. «Такая пастанова Гітлера — знішчыць яўрэяў, і мы яе не зменім»,— адгукнуўся нечы голас з кутка. Можа, і не зменім, загулі адразу некалькі галасоў, але няхай гэтую сваю пастанову выконвае той, хто яе прыдумаў. Не, не, не пройдзе ім гэта дарам. Сам Яўтакіс пальцам не дакрануўся да стрэльбы, хітры, адно яўрэйскае дабро з Краштупенаў вазамі вазіў, а вось жа прыціснула хвароба да ложка, ка-

шчавая ўжо за горла хапае. А Пятрас, што тут казаць... Сам нападпітку хваліўся, што эжно сотню ў Алешніку ўлажыў.

## III

Хвэлька Кяршыс сядзіць спіной да дзвярэй, у размовы не ўлазіць. Калі прычэпяцца ахмялелыя суседзі, то пацягне піва са шклянкі альбо каўтне мутнаватай самагонкі. У грудзях разлілося прыемнае цяпло, добра было б яшчэ крыху пасядзець з усімі, але сонца хіліцца на захад, кліча дамоў — пара скаціну карміць. А-эх, была б у хаце жаночая рука! Першую стрэчную, вядома, можна прывесці — гаспадарка, праўда, невялікая, але ўпарадкаваная,— ды сэрца пярэчыць. А-эх, каб жа Акві́ля... Сядзіць вось яна за хрэсьбінным сталом — такая сумная і такая прыгожая і да таго ж ласкавая да ўсіх... А працаўніца якая, ва ўсім Лаўксадзісе не знойдзецца другой такой. Гаспадыня была б проста скарб! А ён жа і права на яе мае, бо вунь як даўно ўгледзеў, упадабаў. Яшчэ не было ні гэтага ўзвейветру пана Кантроля, ні другога такога баламута — Маруса. Убачыў аднаго разу — гімназістачка буракі поле. Чарняўенькая, худзенькая, жвавая, як чарцяня. Падлетак, сорамна сказаць, але стрэмкай засела ў сэрцы, і нікуды не дзенешся. Сем гадоў! Толькі дурань можа столькі гадоў чакаць і спадзявацца, што кій зазелянее. Але ён, Хвэлька, такі ўжо і ёсць. Каб жа быў прыгажэйшы... Ну ды годзе, няма чаго дурнымі думкамі галаву марочыць, трэба рухацца дамоў...

Кяршыс закратаўся, намерваючыся ўстаць, але дзіўная цішыня прыкула яго да месца. Уся святліца раптам нібы замерла, і яму здалося, што ад усіх сталоў усе вочы ўтаропіліся на яго.

— Добры вечар, паны, пані і паненкі! Добры вечар! — загрымела за плячамі, нібы з грамафоннай трубы.

У дзвярах стаяў Пятрас Кучкайліс. У кажуху пад пахай зашмальцаваны партфель старасты, у правай руцэ клятчатая шапка. Паляпваючы ёю па халяве бота, усміхаўся бязгубым, у лішаях тварам.

Некалькі галасоў уразнабой адгукнуліся на прывітанне.

— Сядай, Пятрас, дзе-небудзь,— запрасіў Мікалас Джугас, неахвотна падымаючыся з месца.— Выпі за здароўе дзіцяці.

Нехта з гасцей падскочыў да Кучкайліса, забраў з рук

шапку, паслужліва зняў кажух, які той няспешна скінуў, і, нягледзячы на нерашучыя пратэсты («Ды навошта ж... Я, бач, па казённых справах, накоратка...»), ушчаміў нечаканага госця між Кяршысам і Пранасам Нямунісам.

— Хвэлька, суседзе, налі ўладзе, можа, мякчэйшаю стане,— папрасіў Джугас.— Дык што, Пятрас, зноўку фурманкі ў абоз пагоніш ці, можа, немец яшчэ зажадаў збожжа?

Пятрас выпіў запар дзве шклянкі піва, кульнуў чарку «нямецкай», закусіў, не звяртаючы ўвагі на запытальна-трывожныя позіркі, і толькі тады сабраўся адказаць. Ой, не! На гэты раз ніякіх фурманак, ніякіх дадатковых паставак. Усё наадварот — немцы, бач, цяпер не просяць, а самі даюць. Вось ён і ходзіць па дварах гаспадароў — перапісвае, колькі хто хоча ўзяць палонных. Немцы, бач, іх паназахоплівалі хоць гаць гаці. Хопіць і каб зямлю ўгноіць, і каб поле абрабіць. Ні маркі не будуць каштаваць, за адзін харч. Спачатку, бач, які тыдзень-другі давядзецца адкормліваць — надта яны ўжо нездаляшчыя. Затое пасля, як стануць на ногі, хопіць з іх таго, што і сабакам,— аб'едкаў. Не будзеш жа іх карміць, бач, аладкамі і салам, як сваіх людзей.

— У фальварку ім зробяць лагер. Напач усіх іх туды — а вартаваць па чарзе мы будзем самі, раніцой жа — марш на работу. Танна, выгадна і добра. Хвэлька, запішы сабе пару, усё роўна без парабка не абыдзешся.

— Я? — Хвэлька зусім збянтэжыўся: гэтакі клопат падае яму на галаву.— А... а калі ўцякуць? Што тады...

— Ды куды яны ўцякуць, небаракі... — умяшалася Казюня Нямуненя.— У гаспадароў жа ім сапраўдны ратунак.

— Уцяку-у-ць! — Пятрас ажно зайшоўся ад смеху.— Назад немцам у кіпці. Пад кулі. Мяне смех бярэ... Пане Джугас, вам таксама парачка прыдасца.

— Беручы іх, толькі добрую справу зробім,— нібыта сабе сказаў Мікалас Джугас.

— Гамонкі няма,— згадзіўся Пятрас.— Немцам не трэба будзе іх ні карміць, ні вартаваць, бач, застанецца болей салдатаў фронту.

— Без цябе, Кучкайліс, немцы, відаць, вайны не выйграюць,— не ўтрываў Чорны Кукса.

Некалькі галасоў стрымана засмяяліся, а Кукса, натхнёны прыхільнымі позіркамі, гнуў далей:

— Далібог, Кучкайліс. Чаго табе тут кешкацца з бабамі і дзецьмі? Падаўся б у добраахвотнікі, дапамог бы Гіт-

леру спляжыць бальшавікоў, а праз які месяц-другі — і назад, з музыкай, з жалезнымі крыжамі на пузе, каб цябе качкі стапталі.

— А дома хто парадак навядзе? — вырвалася ў Пранаса Нямуніса.

Губы ў Пятраса зусім уцягнуліся, спляжаныя лішаямі шчокі затузаліся, жоўтыя бровы натапырыліся: што-што, а кпіны ён адчуваў за кіламетр, як чуе сабака кілбасу, і, не адплаціўшы, не саступаў набок.

— Я вам, чарнамордыя, сонца не зашчу. Ты, куксаты, не паказвай зубоў, такія, як ты, спатрэбяцца акурат у Германіі, айн мамент магу выпісаць замежны пашпарт. Таксама і табе, стары Нямуніс, шануючы твайго сынка, што навярнуў дурною галавою за сваю лапцюжную ўладу.

— Слухай, Кучкайліс,— абарваў яго Гедымінас.— Калі прыйшоў пагражаць, дык не сюды трапіў. Зашпілі свой партфельчык і шыбуй, дзе больш палахлівых.

— Смалены чорт! — усхапілася Казюня Нямуненя.— Ты нашага Маруса не чапай, Кучкайліс! Ён святы, яго рукі не запэцканы крывёю. Ён не забіваў бязвінных людзей, яго самога забілі гэтакія, як ты, бандзюкі.

Мікалас Джугас кінуўся ўтаймоўваць сварку:

— Ці пашалелі? Можа, яды-пітва не хапае? Налівайце, кладзіце на талеркі. Пятрас, Казюня! Святыя хрысціны тут, а не шынок.

— Распеказаўся тут...

— Як жа: налаўчыўся ў Алешніку...

— Ды ўжо ж, каб голага яўрэя забіць, не трэба вялікай адвагі...

— І як такіх святая зямля носіць! — пасыпаліся воклічы адзін смялейшы за аднаго.

Пятрас устаў, схапіў са стала збанок — зараз некаму джвагне. Вочы чырвоныя, жаўлакі пад скураю ходзяць, збляднеў, як сцяна. Валасатая лапа, ашчаперыўшы збанок, трасецца, нібы ў прыпадачнага, ажно піва расплюхваецца цераз край.

— Пятрас... Пятрок...— пачуўся ў напятай цішыні спалоханы голас Мікаласа Джугаса.— Сядзь... На п'яных людзей нельга злаваць...

Гедымінас, зніякавелы, апусціў вочы.

Пятрас пастаяў яшчэ хвіліну, як раз'ятраны бык перад чырвонай анучаю, гучна ўцягваючы паветра дрыгатлівымі ноздрамі, потым шумліва плюхнуўся на крэсла, пі-

быта яго пацягнулі ззаду, патрапіўшы лупануць адным локцем у грудзі Нямунасу, другім — Кяршысу.

— Мае рукі ў крыві? Ха-ха-ха! Мяне смех бярэ... — зарагатаў ён, адкінуўшы галаву.— Нямуненя, бальшавіцкая матка, скажы, калі ласка: хіба ёсць кроў у гэтай жыдаўпі? Лепш бы сказала, мае рукі ў тлушчы. Тлушчу ў іх хапае — трыбух у кожнага звісае, бач, да каленяў. Адна Хайка якія тры цэнтнеры важыла. Шкада, добрая была жыдоўка. Я так і сказаў ёй: «Агідна мне, бач, пускаць кулю ў тваё сала. Што будуць рабіць нашы вяскоўцы, калі цябе не стане? Хто дасць ім у доўг селядцоў, газы, тытуню? Загінем, сіроты, але што рабіць, калі ўжо вінтоўка заражаная...» Яна плясь перада мной на калені. «Уй, вэй, пане Пятрас, злітуйся, мы жылі, бач, як брат з сястрою. Уй, вэй, не страляй, я частавала летась на вялікдзень пана мацою...» Мацой з каталіцкай крывёю... Мяне смех бярэ! Як толькі яна згадала тую мацу, куля сама айн мамент вылецела са ствала...

Пятрас заржаў, абводзячы кплівым паглядам прыціхлых гасцей, што сядзелі, не падымаючы вачэй, і тут здарылася нечаканае: Хвэлька Кяршыс заварушыўся, замыкаў, нібы хто сыпануў яму за каўнер гарачага прысаку, і кулаком урэзаў Кучкайлісу ў падбароддзе. Той, нават не войкнуўшы, грымнуўся разам з крэслам на падлогу. Тады Кяршыс нязграбна ўстаў, рукавом пінжака выцер спацелы твар і, узяўшы ляжачага за ногі, вывалак яго на двор. Пасля непаспешліва вярнуўся ў хату, выцягнуў з-пад стала партфель старасты і шпурнуў яго праз дзверы ў ногі Кучкайлісу, які, перавярнуўшыся ніцма, спрабаваў рукамі адштурхнуцца ад зямлі.

— Дык мне пара ўжо... ага... — сказаў Кяршыс, упхнуўшы галаву ў святліцу.— Дзякуй за пачастунак, значыць... Я пайшоў.

І, адшукаўшы на кухні свой кажух, цяжкай хісткай хадою рушыў дадому.

— Куля сама вылецела са ствала, бач... Мацой заражаная... Ірад! Нібы яго кроў даражэйшая за яўрэйскую... — мармытаў ён, выціраючы спацелыя далоні аб кажух.

## IV

Мікаласа Джугаса выклікалі ў воласць. Прыехаў ён злосны і заклапочаны.

— Хочуць старастам прызначыць,— адплёўваўся ён.— Ледзь з войтам не пасварыўся. Баюся, могуць палоннага адабраць.

Васіль, здагадваючыся, што гаворка вядзецца пра яго, неспакойна зыркаў спадылба; тлусты боршч на сале, які яму гэтулькі разоў сніўся ў лагеры вязняў, раптам страціў усялякі свой смак.

Папалуднаваўшы, паехалі садзіць бульбу. Самая пара: квадра поўні, неба ўсланае дробнымі аблачынкамі — бульба ўродзіцца буйная і сопкая.

Мікалас Джугас араў, а Аквіля, Васіль і Казюня з Куксаваю жонкаю, што прыйшлі пасобіць, клалі бульбіны ў баразну. Маленькі Лаўрукас сядзеў у канцы загона, у кашы, абкладзеным падушкамі, і праз суслу смактаў малако з бутэлечкі. Усюды, куды ні кінь вока, у полі завіхаліся людзі, гучалі галасы, а то і песні, бо вясна такая пара, што нават камень варушыцца ў глебе.

Трава яшчэ ледзьве прабілася, але Мікалас Джугас павыпускаў сваіх кароў на папар — няхай паскубуць да вечара пырніку.

— Гэй, гэй! — крычаў то адзін, то другі, убачыўшы скаціну ў падазронай блізіне ад азіміны, і бег адганяць яе.

— Ваша Чорная скача на іншых кароў, не дае пасвіцца,— заўважыла Казюня.

— Быка шукае. Трэба будзе вечарам звадзіць,— вырашыў Мікалас Джугас.

— У фальварак ці да Яўтакіса? — запытала Аквіля, ведаючы, што гэта давядзецца зрабіць ёй, бо ў жанчыны, ды яшчэ якая нядаўна нарадзіла, лёгкая рука.

— Навошта нам з імі радніцца. Зганяеш да Кяршыса — яго сядзіба найбліжэй, дый бычка ладнага ён мае.

Адвячоркам, уклаўшы Лаўрукаса, яна павяла Чарнулю да быка. Вёска, натапырыўшыся вяршалінамі дрэў, танула ў цьмяным бляску вечаровага сонца: фантастычная пашча, бязладна ўтыканая вялікімі і малымі зубамі, сярод якіх вытыркаўся востры чырвоны ікол — драўляная вежа каплічкі. З таго боку дзьмуў лёгкі ветрык, несучы пах дыму і сцішаныя гукі вечаровай сялянскай мітрэнгі. Каля стаўка Сальмінісавага млына дрымотліва шумела Струмля.

Месяц, вялікі і белы, ужо ўзыходзіў у глыб пацямнелага неба, на добрую пядзю адарваўшыся ад зямлі,— спрадвечны ліхтар прыроды, які свеціць і закаханым, і жабам, што квакаюць у балоце, і чубатай кнігаўцы, што, прыляцеўшы раней за іншых птушак, кігікае ў полі, радуючыся, што ператрывала апошнія вясновыя прымаразкі і што ў гняздзе прадзюбваюцца з яец пушыстыя нашчадкі.

Аквіля вяла на повадзе неспакойлівую карову, усім целам п'ючы духмяную і спеўную вечаровую прахалоду. Было ціха і добра, хоць часам мяккі смутак ахінаў сэрца. Прыгадалася гэтакая самая месячная ноч год таму назад. Адцвіталі сады, і трава пад яблынямі была белая, як ад шэрані. «Сам бог паслаў нам пасцель»,— сказаў Марус і грымнуўся жартам на зямлю, цягнучы яе за сабой. Яны мілаваліся, потым, лежачы на спіне, глядзелі на месяц, што заблытаўся ў яблыневых галінах, зноў мілаваліся. Марус часам траціў пачуццё меры. Гэта яе палохала і раздражняла: «Як сабакі. Яго зусім не турбуе, як я потым улезу назад у акно да Юсты». Яна падазравала, што ўжо зацяжарала,— там, у Нямунісавай клуні на леташнім сене, калі недзе ўнізе рохкала свіння. А можа, дні праз тры, у сцірце саломы Яўтакісаў? Але яна не сказала і сама не ведае чаму. Няўжо тады ўжо яму не давярала? «Марус, на сёмуху маглі б пажаніцца»,— нібы выпрабоўваючы яго, сказала тады яна. Засмяяўся, нібы з дурыкаў малога дзіцяці. «А чаму не на свята Кастрычніцкай рэвалюцыі ці не ў Дзень сталінскай канстытуцыі? Не, мая дзяўчынка, пра вяселле рана гаварыць, ёсць яшчэ куча неадкладных спраў, спачатку трэба іх залатвіць». Што хавалася за тымі словамі? Ці не спадзяванне, што Катра Табака нарэшце саступіць і дасць дачцэ добры пасаг?

Гэтак, прыгадваючы Маруса, Аквіля кожны раз несвядомай падозраю пляміла яго памяць, заштурхоўваючы яго вобраз усё глыбей у закуткі счарсцвелага сэрца, дзе ўсё менш заставалася месца мінуламу, якое трэба як найхутчэй забыць, каб можна было безбалесна ўрасці ў суровую рэчаіснасць. Таму цяпер, узяўшы сябе ў рукі, прагнала звадлівыя думкі і, пакуль дайшла да Кяршысавай сядзібы, думала то пра Лаўрукаса, то непакоілася, ці не падаўся гаспадар бычка спаць.

Кяршыс, толькі што павячэраўшы, сядзеў на ганку і курыў цыгарку. Каля ног ляжалі скураныя пасталы — ён выцерушыў з іх зямлю, зараз павесіць на плот, каб ноччу сабака не сцягнуў. Убачыўшы Аквілю, здзівіўся незвы-

чайна: бровы так і заторгаліся. Хацеў усхапіцца, але гэта яму не адразу ўдалося — ногі зрабіліся як ватныя.

— Я, разумееш, Хвэлька... Дзядзька Мікалас прыслаў... — растлумачыла Аквіля, утаймоўваючы апанаваную шалам карову.

— Праўда, да мяне? — не верылася Кяршысу. Губы расцягнуліся да вушэй у непрыхаванай усмешцы.— А-эх, зараз выпушчу свайго Быську! Малады яшчэ, спраўны, сама ўбачыш. Заводу не папсуе.

Аквіля ланцугом прывязала Чарнулю да слупа ў плоце, а Кяршыс бегма кінуўся да хлява. Адно толькі замільгацелі ногі ў падкасаных нагавіцах. Аквіля засмяялася: ніколі не бачыла, каб ён гэтак спяшаўся, ну, а яго няўклюдны галоп выглядаў вельмі смешна.

Вывеў свайго Быську.

— Бачыш, які бычына!

Бык, убачыўшы карову, якая круцілася каля плота, зароў і, падскокваючы, панёсся па загарадзі. Кяршыс насілу ўтрымаў яго на ланцугу.

Аквіля, засаромеўшыся, адвярнулася.

— Спраўны бычок, а-эх, спраўны... — захапляўся Кяршыс, чуючы, як, спарваючыся, сапуць жывёліны.— Але і кароўка таксама што трэба. Калі будзе цялушка, загадзя прашу Джугаса, каб прадаў мне.

— Скажу,— паабяцала Аквіля, зноў прыгадваючы тую ноч, калі яны ляжалі з Марусам пад яблыняй.

...Старая Кяршэня сядзела на самаробным ложку, абапёршыся спіною аб кіпу падушак. Худая, высахлая, як трэска; на жоўтым пергаментавым твары адно толькі і засталіся што храшчаваты нос і вялізныя вочы. Побач, на ўскрайку ўслона, шклянка з наварам нейкіх зёлак ды місачка з засохлай недаедзенай кашай. Каля сцен накіданы свежыя яловыя галіны, каб перабіць кепскі пах. У хаце страшэнны непарадак: вопратка валяецца абы-дзе, у кутку ля дзвярэй куча бруднай бялізны, стол завалены нямытым посудам.

— Служанка ўчора сышла да старасты — паабяцаў болей плаціць, а палоннага не даў: помсціць Пятрас за аплявуху,— паскардзіўся Кяршыс.

Аквіля прысела ў нагах у хворай. Адчувала сябе вінаватай, што ні разу не праведала суседкі. Папрасіла прабачэння.

— Ды чаго там... Не вяселле ж, не танцы. Каму прыемна лашчыць здыхлявага сабаку,— добразычліва папра-

віла яе старая.— У моладзі свае справы, радасці і клопат, а старому адзін канец — чакаць кашчавай.

— Ніхто не ведае, цётачка, калі яна прыйдзе.

— А я ведаю, дзіцятка. Цыганка наваражыла. Калі акалее ў вёсцы самы галоўны сабака, і я сашчаплю рукі: падамся ўслед за Яўтакісам.

Акваля ўстала, сабралася ісці.

— У нядзелю праведаю, цётачка,— вырвалася абяцанне.

— Добра было б,— усцешылася старая, не дужа верачы Аквіліным словам.— Хвеліксас вечна работай завалены. А я ўсё адна і адна.

— Мамуля будзе чакаць, ага. Вялікую ўцеху ёй зробіш,— сказаў Кяршыс, правёўшы Аквілю з каровай за вароты сядзібы.— І мне таксама... — дадаў ён нясмела. І, благаслаўляючы ў думках свайго Быську, вачамі еў усё больш густую цемру, пакуль белая Аквіліна хустка не знікла ўдалечыні.

А-эх, хаця б яна не падманула...

Але ў нядзелю пасля сняданку яна зноў прыйшла. На адной руцэ — Лаўрукас, у другой — кошык з гасцінцамі хворай: варэнне, свежыя булачкі.

Кяршыс выйшаў у двор сустракаць. Белая крамная кашуля, новыя суконныя штаны, падпяразаныя скуранай папругай. Паголены, падстрыжаны, пахне мылам і танным тытунём.

У хаце ўсё прыбрана, спарадкавана, хоць і відаць, што не жаночай рукой.

Старая расчулілася да слёз. Мала таго што стрымала слова, ды яшчэ гэтулькі пачастункаў! Хвеліксас, Хвеліксас, а мы чым будзем гасцей частаваць?

Кяршыс таптаўся пасярод хаты, не знаходзячы сабе месца. І прыемна, і ніякавата.

— Ёсць кумпяк, сала, мука, яйцы,— мармытаў ён.— Можна аладкаў напячы дзіцяці... Ёсць леташняе віно з яблык...

— Ой, Хвэлька, Хвэлька... — паўшчувала сына старая, неспакойна варочаючыся на сваіх падушках.— Дык чаго чакаеш? Вось вазьму ды і сама ўстану, і будзе табе сорамна...

— Не трэба, нічога не трэба, цётачка,— баранілася Аквіля.— Мы з Лаўрукасам толькі што паснедалі.

Кяршыс выйшаў у сені. Па столі забухалі цяжкія крокі. Вярнуўся, несучы дзве запыленыя бутэлькі.

— Усяго ў нас хапае. Абжыліся,— кволым, але пажвавелым голасам хвалілася Кяршэня, пакуль Хвэлька за печчу абціраў бутэлькі і шукаў чаркі на віно.— Працавіты мой сын, не лайдак, бог не пакрыўдзіў ні розумам, ні здароўем. Калі б яму яшчэ такую самую жонку, дык лепшага жыцця і не трэба.

— Знойдзе, цётачка, мае час.

— Даўно ўжо трэба. О, каб яму такую, як ты, пупышку...

Аквіля звяла гэты намёк на жарт.

— Мой муж — вось хто,— сказала яна, цалуючы Лаўрукаса.

Кяршыс чырванеў, як дзяўчына. Бутэлька зрабілася раптам зацяжкая, чарка замалая, і віно лілося праз верх на дашчаны непафарбаваны стол.

— Паслязаўтра збіраюся буракі садзіць,— змяніў ён размову.— Можа, які дзень пасобіце за майго Быську...

Аквіля паабяцала.

Прыйшла разам з Васілём. Кяршыс звечара парабіў барозны і цяпер таксама працаваў разам з імі. Лаўрукас поўзаў каля загона на лужку, абгароджаны калкамі, нібы ягнятка. Калі, стаміўшыся, пачынаў румзаць, Аквіля ўкладвала яго ў кош, давала бутэлечку з малаком, і, смокчучы суслу, дзіця спакойна засынала.

Пасля паўдня Кяршыс адпусціў яе гатаваць вячэру. Хоць перад гэтым ён паказаў ёй, дзе што ляжыць, але адчувала сябе ўсё роўна ніякавата. Хацела бачыць толькі тое, што трэба ўзяць, але ў вочы кідалася кожная драбніца. Зачэрпвала з мяшка муку на варэнікі, а позірк міжволі шастаў па свірне, заўважаючы засекі збожжа, пласты воску, выробленыя аўчыны, што віселі на вяроўцы пад самай страхою. У каморы зноў-такі — трэба адрэзаць невялікі кавалак кумпяка, але, хоць было цёмна, яна ўбачыла цяжкія брусы сала, на дошчачцы пад столлю сальцісон, вядро шмальцу і іншыя запасы. У хляве дзве каровы, бычок, паросная свіння, два падсвінкі (хоць яе ніхто не прасіў аб гэтым, накарміла і скаціну), пад павеццю поўна дроў... «Хвэлька ўмее гаспадарыць...» І лезлі ў галаву такія думкі, што ажно шчокі гарэлі, нібы ў зладзейкі, якую схапілі за руку.

Пасля вячэры Кяршыс узяў Лаўрукаса на калені, павёз «на кані ў Рыгу». Дзіця задаволена лапатала: яму спадабаўся гэты няўклюдны, негаваркі, але добры дзядзька. І ён спадабаўся дзядзьку, які сёння быў у асабліва добрым

гуморы: буракі пасаджаны, варэнікі смачныя, скаціна накормленая.

Уначы Аквіля кепска спала. Раз за разам прачыналася — яе будзіла нейкае гуканне. Калі задрамала, прысніла Вянцкі лес, хоць ніколі там не была. На пні сядзеў Марус, увесь абсыпаны вішнёвым цветам, і суровым, пранізлівым позіркам глядзеў на гіганцкую сасну. За гэтай сасною стаяла яна, Аквіля. «Не хавайся, усё роўна бачу,— казаў ён усё слабейшым голасам.— Нашы вочы засыпаны, але мы бачым і праз зямлю. Не будзь дурніцай. Мы ўсё роўна бачым...» І ён разам з пнём пачаў аддаляцца, нібы на экране; зрабіўся маленькі, як Лаўрукас, потым, як лялька, і нарэшце зусім знік.

Цэлы дзень яе даймала гнятлівае пачуццё здрады. Ведала, што гэта дурнота, але не магла адпрэчыцца ад пачуцця, якое штурхае грэшніка, што каецца ў сваіх учынках, наведваць святыя мясціны.

Пакінуўшы Лаўрукаса ў Казюні, яна пеша выправілася ў Вянцкі лес. Стары ляснічы паказаў ёй тое месца, дзе яны пахаваныя, няшчасныя вар'яты, як ён сказаў. На невялічкай лясной прагаліне была відаць упадзіна, яшчэ не зарослая травой, не зацягнутая мохам, адно толькі занесеная леташнім лісцем і сухім веццем. Непадалёку ўзвышаліся кучы счарнелага галля і замшэлыя пні. «Можа, ім паставяць калі-небудзь помнік,— сказаў стары ляснічы,— але пакуль што нямнога мацярок ведае, дзе ляжаць іхнія дзеці».

Аквіля села на пень побач з гэтай упадзінай — у сне яна бачыла, што Марус сядзеў якраз тут. Пашукала вачамі вялізнай сасны, але навокал ніякіх сосен не было. Толькі лістоўніцы і яліны. «Дзе ж яго застрэлілі Жакайціс?» Паспрабавала ўявіць Маруса, але перад вачамі была толькі прагаліна, засмечаная галлём, і пануры лес. Шматок нямой зямлі, што хавае аслізлыя косці. Ёй стала не па сабе, нібы яна сядзіць апоўначы адна каля труны нябожчыка. Ускочыла з пня і падалася да лясной дарогі, баючыся, што пачуе за спіной погук мінулага, і радуючыся, што на душы спакойна і пуста, як на гэтай высушанай сонцам палянцы.

У нядзелю Кяршыс зноўку зняў з гарышча дзве бутэлькі віна і гайдаў на каленях Лаўрукаса, а старая, адчуваючы апошнім часам лепей, бласлаўляла дзяцей расчуленым позіркам і шаптала: «Дасць бог, дасць бог...» Аквіля без доўгіх упрошванняў згадзілася напячы аладкаў, а Хвэль-

ку асобна згатаваць яго любімых варэнікаў. I ні засекі збожжа ў свірне, ні брусы сала ў каморы ўжо не здаваліся ёй такімі чужымі, а думкі, што прыходзілі ў галаву, такімі зладзейкаватымі.

Пасля пачастунку Кяршыс запрасіў агледзець поле. Аквіля ішла ззаду, ён — наперадзе, пасадзіўшы на карак Лаўрукаса.

— Конь заслабы на дзесяць гектараў,— па-гаспадарску разважаў ён.— Завяду добрага каняку, ага. А-эх, добра было б у немцаў якога збракаванага ардэна... Вось тут пасеяны авёс, там — мешанка на зялёную пашу,— паказваў ён, прыпыняючыся і шырокім улюбёным паглядам песцячы кожны лапік зямлі.— Добра ўсходзіць, калі бог дасць дажджу, будзе дзе кароў прывязваць. Канюшына, аднак жа, плехамі палысела — пашкодзілі вясновыя прымаразкі, але затое там, на тым кавалку, не поле, а рутавы агарод. Два разы на год кашу. Жыта таксама будзе ўволю, бачыш, якая густая і цёмная рунь. А парасткі пшаніцы — нібы цыбукі, нават закручваюцца. Засыплю абодва кутнія засекі ажно да столі, як у найлепшыя гады. А-эх, каб не засуха альбо град, не дай бог сурочыць, ды каб не гэтыя немцы са сваімі пастаўкамі, чаго яшчэ трэба было б? Пачаў бы будаваць новы хлеў, узяў бы які гектар у арэнду; гаспадарка вырасла б і ўшыркі і ўгору. Адкупіў бы тыя восем гектараў, якія нябожчык бацька мусіў прадаць пасля благога года. Вайна, а-эх, каб жа не вайна...

Аквіля глядзела на шырокую, у кашулі, спіну, на доўгія мускулістыя рукі, што, як дзве галіны дрэва, выгнуліся ўгору, трымаючы на карку пажвавелага Лаўрукаса, і сытны пах хлеба і ўтульнага кута наплываў у грудзі, напаўняючы сэрца малітоўнай пакорай.

«Божа, што я шукала, што знайшла і што хачу знайсці? У гэты час, калі чалавек чалавеку звер, калі вакол падман і хлусня, самае найвялікшае шчасце — займець спакойны куток...»

Абышоўшы поле, вярнуліся да лужка. Кяршыс раптам спахмурнеў, замкнуўся ў сабе, нешта вырашаючы і не адважваючыся сказаць.

— Не стамілася? — неспадзявана запытаўся ён і, не чакаючы адказу, сеў тут жа, на ўзмежку жытнёвага поля, на лужку.

Аквіля таксама прымасцілася за некалькі крокаў ад яго. Нейкі час абое маўчалі, пазіраючы ў блакітнае неба, дзе, аддаляючыся, зумкаў крыжык самалёта.

— Ведаеш што? — нарэшце сказаў ён.

Яна апусціла вочы, адчула, як моцна затахкала сэрца. Чакала, баючыся, што ў апошняе імгненне можа завагацца і адказаць не так, як ён хоча.

— Нікому гэтага не казаў, толькі табе адной.— Кяршыс памаўчаў, пашкроб патыліцу, нібыта ўпэўніваўся, ці на месцы ўсё, што ён хоча сказаць.— Дык вось... там ляжыць чалавек...

— Дзе? — здрыганулася Аквіля.

Ён доўга і цяжка падымаў руку.

— Там...— махнуў задубелай далонню.

Яна са здзіўленнем паглядзела ў той бок, куды ён паказваў. Нічога не відаць, адно раўнюткі луг і трохі далей — нейкае дзікае дрэўца.

— Там дзічка,— яшчэ больш здзівілася Аквіля.

— Я яе потым пасадзіў. Там ляжыць чалавек... Можа, і ён, вось як мы з табой сёння, летась абходзіў сваё поле... Ніхто пра гэта не ведае, але табе скажу. Ты мусіш ведаць, што ў мяне ў гаспадарцы.

## V

Як заўсёды, каня ён пакінуў у двары ў Бергмана. Вярнуўся з рынку, несучы пад пахай салдацкі непрамакальны плашч, які выменяў у немца. «Навошта мне гэты плашч?» — падумаў ён адразу, не хацеў нават браць, але спалохаўся, што можа застацца без нічога: надта ўжо прагна зыркаў салдат на сала.

У варотах свайго двара стаяў купец Бергман.

— Пане Кяршыс, вы ўжо дадому?

— Ага, пане Бергман... Збіраюся. Пара...

— Зойдзем на хвілінку да мяне, пане Кяршыс. У пакой.— Бергман баязліва азірнуўся.— Калі беднага яўрэя прыціснулі, многія старыя знаёмыя пачалі мінаць мой двор, а вы ўсё роўна прывязваеце свайго коніка да таго самага слупа. Добра сказана, пане Кяршыс: праўдзівага прыяцеля пазнаеш толькі ў бядзе.

«Пане Кяршыс...» Да гэтага часу ён быў Бергману толькі Хвеліксас альбо Хвэлька, дый ён сам,як і большасць сялян, называў купца толькі па імені — Фрэйтка. У Лаўксадзісе Фрэйтка быў сваім чалавекам, без яго не абыходзілася ніводная сялянская рада. Селянін, пасняхова прадаўшы лён альбо воз пшаніцы, заўсёды гатаваў пачастунак, і купец са свайго боку ставіў на стол бутэльку пра-

зрыстай, як сляза, гарэлкі. І, не баючыся ніякага талмуду, разам з усімі еў свіную вясковую кілбасу, сала, пасыпанае перцам, падпіўшы, чапляўся да дзяўчат, спяваў і расказваў усялякія смешныя выпадкі, ад якіх усе ажно клаліся на зямлю. Калі ў вёску прыязджаў які іншы купец, ён звычайна чуў адзін адказ: «Пачакаем яшчэ, можа, цэны падымуцца». А калі той ад'язджаў, удакладнялі: «Лепей ужо прададзім свайму Фрэйтку...» Вёску ён заваяваў не толькі сваім вясёлым норавам, кемлівым розумам, але і прывабным выглядам: высокі, зграбны, з бялявымі кучаравымі валасамі, заўсёды ўсмешлівымі чорнымі вачамі,— да чалавека з такімі вачамі нельга было не адчуць сімпатыі.

— Можа, шклянку гарбаты, пане Кяршыс? — прапанаваў Бергман, калі яны ўвайшлі ў дом.

— Не, не турбуйцеся, я сыты...

— Такія часы, вядома. Не злуйце, што я з вамі загаварыў. Цяпер з намі, як з хворымі на халеру, лепей не мець нічога супольнага. Я разумею вас, пане Кяршыс.

— А-эх, я ж нічога такога, пане Бергман...— Кяршыс заштморгаўся на крэсле, нібы сеў на калючку.— Мы свае людзі. Можа, і добра было б гарбаты, ага...

Бергман на хвіліну выйшаў з пакоя.

— Трэба было ў Расію падацца,— вярнуўшыся, вёў ён далей.— Паспелі б. Але хто мог падумаць, што немец прасунецца гэтак далёка? А зрэшты, куды ўцячэш ад лёсу? Бог не раз выпрабоўваў свой народ, і калі цяпер зноўку настала гэтая цяжкая гадзіна, застаецца скарыцца яго святой волі.

— Немцы таксама людзі. Можа, яшчэ ўсё добра скончыцца, пане Бергман.

Бергман сумна ўсміхнуўся.

— Скончыцца тым, пане Кяршыс, што яны адбяруць у нас маёмасць, адных заганяць у гета, другіх у канцлагеры, як у Нямеччыне. Кажуць, гасподзь карае за грахі. Але ў чым вінаватыя дзеці? Бачылі б майго Мойшу, пане Кяршыс. Восем гадкоў хлапчуку, а такі вясёлы, жвавы, блакітнавокі, ад літоўца не адрозніш.— Бергман захваляваўся, пачаў заікацца, вочы наліліся слязамі — А які разумны, як чыста па-літоўску гаворыць, ніхто не скажа, што яўрэй, пане Кяршыс.

— Бог ведае, якая ліхая гадзіна настала,— прамармытаў Кяршыс, стараючыся зразумець, што ад яго трэба Бергману.

— Вы не маеце дзяцей, вам цяжка зразумець бацькоўскія пачуцці, але паверце, пане Кяршыс, за свайго хлапчука я не пашкадаваў бы ніякіх багаццяў на свеце...— Бергман знямеў і, цяжка дыхаючы, утаропіўся роспачным паглядам на Кяршыса.

Той унурыўся цяжкім позіркам у стол, нібы сам быў вінаваты ва ўсіх злыбедах, што тварыліся на зямлі.

— Што мы можам зрабіць, пане Бергман, што мы можам...— адно толькі і сказаў.

Бергман доўга маўчаў, пра нешта думаў і ўсё не рашаўся загаварыць...

— Хвеліксас...— адазваўся нарэшце Бергман, спрабуючы зрабіць яшчэ адзін крок па хісткай паверхні дрыгвы.— Хвэлька, немцы нам начапілі зоркі, сагналі з тратуараў, адабралі рамяство, аднак, дзякаваць богу, я яшчэ не галетнік. Мог бы нагрузіць фурманку такімі рэчамі, што ўсю тваю гаспадарку пераважылі б. Калі застанёмся жывыя, вернеш — ведаю тваё сумленнае сэрца,— а калі не — усё застанецца табе.

У горле ў Кяршыса перасохла, перахапіла дыханне. Некалькі хвілін хапаў паветра разяўленым ротам, то чырванеючы, то бялеючы. Хацеў устаць, але ніяк не мог намацаць нагамі дол. Нарэшце! Ухапіўся рукамі за стол і ўзняўся — увесь кіпіць, агнём палымнее, нібы напаленыя камяні ў печы. Бялкі вачэй і тыя бліскацяць іскрамі.

Бергман, здзіўлены і напалоханы, таксама ўзняўся.

— Пане Кяршыс, я што-небудзь не так?..— прашаптаў ён у роспачы.

— Фурманку? Мне? — прарвала таго.— Каб я нажываўся на чужой бядзе, пане Бергман! Ну не! Ёсць злыдні, якія вазамі возяць ваша дабро, радуюцца, што прыціснулі яўрэя, як жа — нагода пакарыстацца, толькі не я, пане Бергман. Вы не думайце, што калі такія часы, дык усялякі хрысціянін рабаўнік і забойца...

— Пане Кяршыс, я не хацеў...

— А-эх, не трэба мне ваша дабро, пане Бергман, жывіце сабе здаровыя, вясёлыя, шчаслівыя, няхай дапаможа вам бог.

Увайшла Бергманіха, несучы тацу з пячэннем і дзвюма шклянкамі гарбаты, але цяжкія, злосныя крокі Хвэлькі Кяршыса ўжо грымелі па сходцах ганка.

Толькі ў дарозе, супакоіўшыся і цверазей разважыўшы тое, што адбылося, пачаў шкадаваць, што пагарачыўся. Вядома, нашто яму яўрэйскае дабро, але ж Фрэйтка хут-

чэй за ўсё прапаноўваў ад шчырага сэрца, дарма ён гэтак уз'еўся на яго. Нечакана мільганула думка, ад якой Кяршыс увесь затросся і напружыўся, як спружына. Не, не!— адштурхоўваў яе ад сябе, нібы ўцёс, што падаў яму на галаву. Забаранілі хадзіць па тратуарах, начапілі зоркі, адабралі рамяство. Кепска Фрэйтку, але хіба настолькі кепска, каб аддаваць Мойшу ў чужыя рукі? Не, пане Бергман проста не хоча, каб немцы пакарысталіся яго дабром, вось ён і вырашыў частку даверыць знаёмаму чалавеку...

Прыехаўшы дамоў, расказаў пра сустрэчу з Бергманам маці.

— Якія бацькі захочуць расстацца з дзецьмі! — сказала старая.— Не паміраюць жа з голаду. А што не ўзяў іхняга нажытку, дык правільна зрабіў: толькі бяды і ганьбы набраўся б.

Кяршыс супакоіўся, аднак глухое пачуццё незадавальнення ўсё роўна засталося. Нейкая фальшывая нота гучала там, у глыбінях яго душы, і ён, развярэджаны гэтым дысанансам, доўга ўначы не мог заснуць. Яму здавалася цяпер, што той гнеў, які ў ім запаліўся на Бергмана і які яму так не пасуе, быў няшчыры і вынікаў са страху, бо яшчэ *да таго*, як яму прапанавалі багацце, ён зразумеў, што ад яго хоча Фрэйтка ўзамен. Гэтая думка — цьмяная, нашаптаная адчуваннем,— напэўна, зарадзілася ў тое самае імгненне, калі ён убачыў, як яўрэй таемна яму ківае пальцам, а можа, яшчэ раней, ён нават не можа дакладна сказаць — калі, але што ён яе чакаў (калі не розумам, то адчуваннем), гэта пэўна. Значыць, ён уцёк, пакінуўшы не чапанай гарбату Бергманаў, не таму, што не хацеў квапіцца на чужое дабро, а таму, што, беручы яго, рызыкаваў заплаціць сваім жыццём. *Ён уцёк ад занадта высокай цаны*, хоць тады, бог яму сведка, ён зусім не думаў пра грошы...

Гэта была надзіва страхотная ноч. Заснуў апоўначы і зноў тут жа пракінуўся. Нязлосна брахаў і скуголіў сабака. Кяршыс ціхенька адзеўся, каб не пабудзіць маці, і выйшаў на падворак. Першае, што ён убачыў, быў цьмяны сілуэт нейкай жывёліны ў загарадзі. Падышоў бліжэй і... О божа! Кяршысу здалося, што яму на галаву абрушваецца зорнае неба. У загарадзі стаяў запрэжаны конь; і не чый-небудзь, а яго родная сіўка, старая задышлівая кляча з вострымі скабамі і запалымі бакамі, якія хадзілі, нібы кавальскія мяхі, патыхаючы знаёмым пахам непрасохлага поту. Якім чынам яна тут апынулася, калі ўчора, вяр-

нуўшыся з Краштупенаў, ён баранаваў папар, а папач прывязаў яе на канюшыне каля Вайнарасавай мяжы, пакінуўшы тамсама фурманку: заўтра раніцой, калі будзе вяртацца з поля, ён прывязе накошанай мешанкі свінням; якое ліха яе сюды прынесла, ды яшчэ з усім возам?! Кяршыс не ведаў, што і падумаць. А ўжо зусім адняліся рукі-ногі і ўсё цела абліў халодны пот, калі ў фурманцы пачуўся кволы, што ажно вярэдзіў сэрца, стогн. Там ляжаў чалавек... Замест твару — шэрая пляма, адзеты ў нейкую дзіўную вопратку з велізарным футравым каўняром, што захінала ногі да каленяў, ногі босыя, непрапарцыянальна вялікія, правая проста нібы калода — Кяршыс толькі пазней угледзеў, што ад костачак да сцягна яна забінтавана тоўстым слоем бінту і ваты. «Піть... Воды... Мама... Наташа...» — шаптаў чалавек, торгаючы счарнелымі павекамі, але не могучы іх падняць. Кяршыс кінуўся, наколькі дазваляў яму спрыт, да студні, ад студні ў хату, але, нібы адбіўшыся ад дзвярэй, пашыбаваў назад у загарадзь. Ён мітусіўся па двары, нібыта страціўшы розум, хапаўся то за адну, то за другую рэч, пакуль нарэшце зноўку не апынуўся каля студні. Тут, на вечку зруба, стаяў эмаліраваны кубак. Ён зачарпнуў з вядра і зноўку заспяшаўся да воза. Стогну ўжо не было чуваць. Абыякавая да ўсяго сіўка стаяла, звесіўшы доўгую худую шыю і выставіўшы свой востры хрыбет да зорак сусвету. Кяршыс нахіліўся над ляжачым, падсунуў руку пад плечы — зараз прыўзніме галаву, дасць глыток вады. І тут яго вочы спаткаліся з паглядам незнаёмца. Халодным, застылым, які нешта шукаў, але так і пагас, нічога не знайшоўшы...

Наступнай ноччу, калі маці спала глыбокім сном, Кяршыс выцягнуў нябожчыка з клуні, дзе хаваў яго пад саломай, паклаў на фурманку і завёз у загадзя нагледжанае месца. Яму ён выкапаў яшчэ звечара і збіў пэсць негабляваных дошак. Апусціў ніжнюю частку труны ў яму, заслаўшы перад гэтым дно тою дзівоснай вопраткай, пасля на лейцах апусціў туды нябожчыка, саскочыў сам, паправіў цела, склаў на грудзях рукі, а пад галаву паклаў дзіўныя боты з мяккай скуры, якія знайшоў у фурманцы. Засталося толькі закрыць труну, засыпаць зямлёй, ну і адгаварыць малітву, як належыць хрышчонаму чалавеку.

А-эх, невядомы брат далёкай зямлі! (Усе мы, памершы, становімся братамі, бо там, дзе пануе ўсявышні, адно каралеўства, адзін кароль...) Хто прывёў цябе сюды паміраць і хто, выконваючы божую волю, захацеў, каб апошні

раз ты ўбачыў зорнае неба з двара Хвеліксаса Кяршыса? Хай даруе яму міласэрны гасподзь. І хай не загневаецца ўсемагутны ўладца, што я пахаваў цябе ў неасвечанай зямлі, без святара, без святых малітваў, а замест надмагілля над табою зялёны дзірван, дзікі пырнік, і ніхто ніколі не пасадзіць тут кветак. Мая сіўка будзе скубці траву з тваёй магілы, на ёй будуць пасвіцца каровы, біцца лбамі ягняты. А-эх, і крыжа не будзе, гэтага святога знака, які затрымаў бы прахожага, прымусіў бы ўзняць яго руку, каб перахрысціцца, адтуліў бы яго вусны для малітвы за небараку, каб аблегчыць пакуты яго душы... А-эх, хіба я вінаваты, божа? Хіба я кірую, выдаю загады, прымушаю адных узброеных людзей кідацца супраць такіх самых людзей, хіба ад мяне залежыць, што яны гінуць, як мухі, і што даводзіцца іх закопваць без трун, быццам якую падлу?.. Не, госпадзі-збаўца і ты, няшчасны чалавеча. Я толькі камар, якога носіць вецер; усё, што я магу зрабіць (калі не лічыць гэтых негабляваных сасновых дошак), гэта пасадзіць на магіле дрэўца, пакуль яшчэ не зраўняў яе з долам і не заклаў дзірваном. А калі час дазволіць (дай божа, каб хутчэй настаў такі час!), будзе тут і святы крыж, і агароджа навокал, і кожны католік, праходзячы міма, скіне шапку і адгаворыць тры разы «Вечны супакой».

Дай яму, госпадзі, вечны супакой, і вечная светлыня няхай яму свеціць.

## VI

— Гасподзь сурова мяне прысароміў... за Бергмана... Не дапамог я жывому чалавеку — прыслаў нябожчыка. Але хто тады думаў, што немцы гэтак з яўрэямі...

«Яго прыслаў Адомас»,— хацела супакоіць Кяршыса Аквіля. Аднак сказала толькі:

— Каб жа чалавек мог бачыць, што будзе...

Кяршыс панура паківаў вялікай галавой і цяжка ўздыхнуў.

Аквіля змружыла вочы. Яна зноў убачыла лётчыка. Так выразна, нібыта гэта не было амаль год назад. Аблёгшыся, ён сядзіць у шапатлівым сене. На грудзях кавалак фанеры — «пісьмовы стол», у выцягнутай руцэ — ліст паперы, на якім накрэмзаны нейкія незразумелыя словы. Вазьміце, б а р ы ш н я. Калі нашы вернуцца, можа, спатрэбіцца. Вочы весела ўсміхаюцца, хоць у іх глыбіні тоіцца пакута. Позірк пераможцы. Але, але, барышня. Тыдзень-

другі, устанем на ногі — і гайда да сваіх. А потым з савецкімі палкамі назад... Нібыта фронт перайсці яму тое самае што пераступіць парог... Узяла тую паперыну — аддасць бацьку. А яго рука — празрыста-жоўтая, з пазгінанымі тоўстымі пальцамі — усё яшчэ вісела ў паветры, быццам чакала, каб яе хто пагладзіў, сагрэў жывым чалавечым цяплом. І Аквіля, сама не разумеючы чаму, правяла па ёй далонню ад запясця да кончыкаў пальцаў. Тады ягоныя губы задрыжалі, вочы заплюшчыліся і па шчоках пакаціліся слёзы. Цяпер тая рука, якую яна лашчыла, ляжыць складзеная на грудзях. І вочы, што так слепа верылі жыццю, і губы, што цалавалі калісьці сваю дзяўчыну, і тая небарака-нага, і прабітая асколкам спіна, якую Аквіля гэтулькі разоў кратала пальцамі, мяняючы павязкі, усё-ўсё яго цела тут, пад гэтым дзірваном, у драўлянай скрынцы. Аквілі неяк раз давялося бачыць нябожчыка, што цэлы год праляжаў у зямлі,— Пуплясісы хавалі маці і папрасілі адчыніць сынаву труну, што памёр перад гэтым. Твар быў такі, нібы яго паквэцалі дражджамі, губы і вачніцы пачарнелі. Толькі чаравікі новыя і валасы, нібы прычасаныя гадзіну таму назад.

Аквілі стала вусцішна, як і тады, у Вянцкім лесе, калі стары ляснічы пайшоў, а яна засталася сядзець на пні, дарэмна спадзеючыся пачуць у сэрцы Марусава гуканне.

— Хадзем адгэтуль, Хвэлька,— прашаптала яна, дрыжучы ад унутранага холаду. Абаперлася рукою аб яго плячо і ўстала.

Плячо было моцнае і цёплае, у грудзях білася жывое сэрца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Казюня ў двары карміла курэй. Каля плота ў стойцы таптаўся Лаўрукас. Няхітрая прылада — нізкая шырокая табурэтка з круглай дзіркаю,— але дзіцяці навіна: бабуля сёння першы раз паставіла яго сюды, надумаўшы выпрабаваць, ці моцныя ножкі ва ўнучка.

— А-ёй, наш Лаўрукас ужо стаіць! — загукала Юліта, найменшая Нямунасава дзяўчынка.

Казюня запэцканай далонню ацерла слязу. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна ў гэтай жа стойцы скакаў Марус...

— Кыш, кыш, паскуда,— закрычала яна на чужую курыцу, што прытупала з суседняй сядзібы.— Ёзук, лайдак, гані прэч гэтую рыжую шэльму. Ах, гэтыя Груйнісы такія нядбальцы, не могуць дзірку залатаць у плоце.

Ёзукас, дзевяцігадовы сірата (прыблудзіўся з разбуранага бамбёжкай дзіцячага дома — гэтак усім тлумачылі Нямунісы), пабег услед за рыжаю шэльмай, палохаючы яе крыкам і шпурляючы ў яе то трэскаю, то глыжком зямлі,— што траплялася пад руку.

Аквіля не паспела ўвайсці ў двор, як адразу кінулася да Лаўрукаса.

— О-о, што я бачу, што я бачу! Мой Лаўрынас ужо стаіць! — бегла да сына, і пляскала ў ладкі, і круціла галавою так, што нават косы паразляталіся ў бакі.— Мой маленькі, мой слаўненькі, мой асілак! Цётачка, паглядзі, яму ж толькі сёмы месяц. Ах, вось дык мужчына!

— У бацьку. І Марус быў моцны ў касці,— сурова адказала Казюня.

Аквілю нібы халоднай вадой аблілі. Нахіліўшыся, выцягнула са стаячка сына, лашчыла, цалавала, хаваючы раздражненне, што ўсё расло.

— Бегаеш па вёсцы, нібы авечка, уджаленая ў хвост,— прарвала Казюню.— Надта ўжо салодкая стала табе Кяршысава сядзіба. Прыстойныя людзі год носяць жалобу, а на тваёй галаве ці патрымалася месяц чорная хустка. Усё каб толькі хутчэй ды каб толькі далей. Спяшайся, спяшайся. З разгону яшчэ ніхто далёка не забег, адно толькі надарваўся. Ведай, вайна не скончылася. Не кожны загінуў, па кім плакалі. Іншы, каго людскія языкі даўно пахавалі, уваскрасаў праз дзесяць гадоў і прыходзіў дадому.

— Мёртвыя не ходзяць. А калі хто і прыходзіць, дык не знаходзіць таго, што пакінуў,— злосна адсекла Аквіля.

— Сука! — грымнула Казюня.— З адным пабегала, не паспела нарадзіць, як зноў ёй свярбіць, цягне ў гайню...

Аквіля вышэй узняла на руках сына і, затуляючы ім успалымнелы твар, подбегам кінулася з двара, з якога ўслед ёй ляцела лаянка незаконнай свякрухі.

## *Раздзел шосты*

### I

Тры гады не бачыліся! Нібы невялікі кавалак часу, але колькі ў ім умясцілася! Цэлыя дзяржавы разбурыліся, мы самі не раз балансавалі на краі прорвы, а вось жывыя-здаровыя сядзім на руінах сваёй Літвы і падымаем чаркі

5 Зак. 2237

за дарагую нябожчыцу. За будучыню, калі яшчэ ёсць такая, пане лейтэнант, галубок. Былі ж мы, аднак, сябрамі, хоць адзін афіцэр, а другі ледзьве дацягнуў да унтэра. За вайсковы статут, які сцяною стаяў паміж афіцэрам і салдатам, аднак абодва мы ўсё роўна пераступілі яе, пане лейтэнант!

Дайнюс Саргунас усміхаецца сухім паружавелым тварам, выціраючы блюткай насоўкай па-жаночы пульхныя губы. Навошта гэтак афіцыйна, пане Адомас. Між іншым, ён ужо не лейтэнант, а капітан — перад тым як ён змыўся ад іх, бальшавікі паспелі павысіць яго ў званні. О так, не ацаніў іх намаганняў і дэзерціраваў у першы дзень вайны... А калі быць шчырым да канца, дык сёння ён ужо наогул ніякі не афіцэр, гэты візітны касцюм не маскарад, а звычайнае адзенне адказнага чыноўніка органаў самаўправы. Чалавек павінен працаваць там, дзе зможа прынесці найбольш карысці сваёй айчыне. Праўда, Каўнас — сталіца без дзяржавы, але ўсё роўна сталіца. І генерал Кубілюнас не прэзідэнт, але, што ні кажы, старшыня самаўправы і, апроч таго, чалавек разумны, здольны, які шчыра хоча дапамагчы справе нацыі, наколькі дазваляюць яго звязаныя рукі.

— Мы там, у Каўнасе, робім усё што можам, каб акупацыйны рэжым як мага менш знясіліў наш край,— гаварыў Саргунас.— Але магчымасці меншыя, чым вы сабе ўяўляеце, мілы Адомас. Органы самаўправы — навостраны інструмант у руках у немцаў, які скіраваны супраць самой нашай нацыі. Гэты факт спрытна выкарыстоўвае бальшавіцкая прапаганда. Але не будзем забываць, гэты інструмант не бутафорыя, а жывы арганізм, які здольны так манеўраваць, каб у крытычны момант ударыць тупым канцом. Мы зможам прынесці нацыі куды большую карысць, калі будзем круціцца ў механізме акупацыйнай машыны, чым тады, калі будзем абыякава пазіраць збоку на яе агонію.

«Ён кажа праўду».

— А ўсё-такі людзі нас лічаць нямецкімі памагатымі,— дадаў ён уголас.

— На наша няшчасце, ёсць і такія, аднак сапраўдны патрыёт сёння сядзіць на двух крэслах, мае два аблічча і адну ідэю — служыць айчыне. Людзі бачаць толькі тое яго аблічча, якое можна паказаць. Гісторыя сатрэ з яго пляўкі, і тыя самыя людзі, якія сёння прыбіваюць патрыёта да крыжа, заўтра ўвянчаюць яго лаўрамі.

З вазай яблыкаў вярнулася Мілда.

— Сёлетні ўраджай. З нашага саду,— сказала яна, прывабліва ўсміхаючыся госцю.— Пане Саргунас, прашу, выбірайце, якое найпрыгажэйшае.

— У вашых руках самая звычайная бульбіна ператварылася б у яблык, пані Мілда,— гэтакай самай усмешкай адказаў ёй Саргунас.— Пане Адомас, падымем тост за вашую цудоўную жонку. Пакуль ёсць такія жанчыны ў Літве, будучыня нацыі не безнадзейная.

— О, не рабіце з мяне княгіні Біруты.— Мілда гулліва засмяялася.— Я звычайная смяротная жанчына: хачу кахаць, быць каханай і...

— ...нарадзіць двое-трое дзяцей свайму Адомасу,— падхапіў Саргунас.

— Не,— Мілда капрызліва надзьмула губкі.— Зусім не, пане Саргунас.

— Хіба? Дык што тады хаваецца за шматкроп'ем, калі не сакрэт?

— Сакрэт, цяпер ужо сакрэт, пане Саргунас.— Мілда стала сур'ёзная.— Я бачу, што вы, як і ўсе мужчыны,— эгаіст. Сабе пакідаеце задавальненне, а жанчын забяспечваеце радзільнымі пакутамі і бяссоннымі начамі каля калыскі.

— Але абавязак жанчыны перад нацыяй...

— Прускі стыль, пане Саргунас,— горача запярэчыла яму Мілда, пачаўшы нервавацца.— Немцы ператварылі сваіх фраў у машыны па вытворчасці дзяцей, а я прытрымліваюся англійскага стылю: спачатку лэдзі, а потым ужо машына. Дазвольце жанчыне адстаяцца, як віну,— няхай становіцца маці, калі сама таго захоча,— а вы, мужчыны, даліваеце воцату ў гэтае віно, каб яно хутчэй скісла, і потым ідзяце сабе каштаваць чужое.

— Будзьце літасцівейшая да нашага полу, пані.— Саргунас дарэмна стараўся схаваць за ўсмешкаю няёмкасць.

— Яна кепска спала гэтай ноччу. Стамілася,— незадаволена заўважыў Адомас.

Мілда злосна зыркнула на мужа.

— Не верце яму, пане Саргунас. Я сплю як забітая.

Саргунас разгублена прыкусіў чорную шчотачку коратка падстрыжаных вусоў.

Адомас устаў і моўчкі наліў у кілішкі.

— Раскажыце, пане Саргунас, што новага ў Каўнасе,— парушыла Мілда няёмкую цішу.— Да вайны была

там не адзін раз. Сімпатычны горад. Парыж ведаю толькі па расказах, але думаю, што Каўнас не без падставы называюць малым Парыжам. Культурная публіка, тэмп, усё мадэрн... Калі патрапіш туды з такіх Краштупенаў, адчуваеш сябе зайцам, што выскачыў на бальшак.

— Каўнас цяпер ужо не такі, пані,— без энтузіязму адказаў Саргунас.— Не, не, ад бамбёжкі ён амаль не пацярпеў — разбураны адзін-другі дом каля чыгуначнага вакзала,— але час паклаў свой адбітак. Вайна... Джэнтльмены сталі спекулянтамі, лэдзі — прастытуткамі, там, дзе пахла дарагімі духамі і водарам кветак, смярдзіць салдатамі і базарнымі бабамі, выбачайце на слове. Наш маленькі Парыж ператварыўся ў вялікі балаган, пані Мілда.

Мілдзе было цікава, якія цяпер моды ў Каўнасе. Якія капялюшыкі, туфлі носяць жанчыны.

Саргунас ветліва ўсміхнуўся. Немцы пайшлі далёка на ўсход, аднак моды не пасунуліся наперад ні на крок. А можа, ён проста не заўважыў? Зрэшты, высокі востры абцасік ніколі не выйдзе з моды — ім лягчэй за ўсё працінаць мужчынскае сэрца. Заўважыўшы, што Адомас панура маўчыць, ён таксама замоўк. Размова не клеілася. Мілда зразумела, што мужчыны хочуць застацца адны, папрасіла прабачэння і выйшла ў свой пакой.

— Эх, гэтыя жанчыны...— уздыхнуў Саргунас, і незразумела было, што ён хацеў гэтым сказаць.

— Жанчыны мяняюцца, як і ўсё навокал,— няпэўна заўважыў Адомас. Яму карцела растлумачыць госцю жончыны паводзіны: між імі нядаўна адбыўся сур'ёзны сямейны канфлікт. Але ў такім выпадку давялося б удавацца ў інтымныя дэталі. А каму ахвота выстаўляць напаказ сваю брудную бялізну? Нарэшце, Мілда, можа, і праўду кажа: на якое ліха дзіця ў такі пакручасты час? Прускі стыль... Не, зусім не таму ён упарціўся, не жадаючы, каб яна перапыняла цяжарнасць. Проста абудзіліся бацькоўскія пачуцці, ну і Мілду хацеў мацней прывязаць да сябе.

— Мала ў нас жанчын, якія здолелі б узняцца вышэй за асабістыя інтарэсы,— пачуў ён Саргунаса.— У гэтым сэнсе трэба пазайздросціць немцам.

Адомас нешта прамармытаў у адказ.

Саргунас, зрабіўшы яшчэ некалькі закідаў на адрас літоўскіх жанчын, вярнуўся да ранейшай тэмы.

— У гэты час галоўнае — зберагчы сілы нацыі,— гаварыў ён.— Лаяльнасць — вось аснова пасіўнага супраціўлення. Аднак лаяльнасць у меру — без таго, каб поўзаць

на каленях і біць паклоны. Немцы дамагаюцца воўны, аўчын, мяса, збожжа. Дадзім ім усё гэта. Не пашкадуем ні хлеба, ні сала, але зберажом людзей. Мы не супраць, калі немцы забіраюць нашу моладзь у працоўныя атрады рэйха альбо вярбуюць работнікаў сваім баўэрам. Там наш чалавек не прападзе, гэта нам толькі на карысць — у немцаў ёсць чаму павучыцца; вярнуўшыся, гэтыя людзі ўліюць свежую кроў у літоўскую культуру. Але даць салдатаў фронту... Тут ужо іншая справа. Мы абмяжоўваемся добраахвотнікамі і, само па сабе зразумела, стараемся, каб іх туды трапіла як мага менш. Друк, вядома, агітуе, абуджае так званыя нацыянальныя пачуцці. Гэта, так сказаць, наша другое аблічча, а неафіцыйным чынам мы стараемся прышчапіць моладзі іншы дух. Прасцей кажучы, гэта індывідуальная растлумачальная работа, як зазначылі б бальшавікі. Бачыш, мы і ад іх сяму-таму навучыліся... Аднак, як я ўжо сказаў, усё трэба рабіць з адчуваннем меры, даражэнькі Адомас. Ні ў якім выпадку нельга цвяліць немцаў. Ашалеламу быку нічога не значыць ускінуць на рогі неасцярожнага пастуха. Сёння, калі ўсім зразумела, што ад немцаў мы не атрымаем таго, чаго хочам, нам застаецца адно — пастарацца зберагчы жывую сілу нацыі і цярпліва чакаць, пакуль знясіляцца і Гітлер, і Сталін. А тады выйдуць на сцэну Рузвельт і Чэрчыль і выправяць учыненую гісторыяй несправядлівасць.

Адомас кпліва засмяяўся.

— Любы чалавек, які цвяроза мысліць, не можа не згадзіцца, што такая палітыка ў цяперашні час найбольш выгодная нацыі,— дадаў незадаволены Саргунас.

— Вядома,— згадзіўся Адомас.— Аднак сумняваюся, ці не занадта позна мы сталі рупіцца аб тым, каб зберагчы сілы нацыі? За гэтыя пятнаццаць месяцаў наша зямля ўвабрала нямала літоўскай крыві, якая вельмі спатрэбілася б у будучым. Мы перастараліся, пане Дайнюс.

Саргунас доўгім уважлівым позіркам вывучаў Адомаса.

— Мы ачысцілі нацыю ад вырадкаў, і калі пад гарачую руку падвярнуўся адзін-другі з тых, да каго мы павінны былі паставіцца паблажліва, дык... лес сякуць — заўсёды трэскі ляцяць. Не будзем сентыментальныя, дарагі Адомас. Калі хочаш ведаць, мы яшчэ не папрудзілі ўсіх вошай у сваіх кашулях. Не дай бог вернуцца колішнія часы, яны не пашкадуюць нашай крыві.

Адомас моўчкі кіўнуў галавою.

Саргунас устаў, каб развітацца.

— Спадзяюся, пані не загневаецца на мяне, што не пацалаваў ёй ручкі,— сказаў нібы з нейкім шкадаваннем, зірнуўшы на прачыненыя дзверы ў спальню.

— Выбачай, Дайнюс...— вінавата ўсміхнуўся Адомас.

— Я радуюся, дарагі Адомас, што нашы меркаванні ў прынцыпе супадаюць,— сказаў Саргунас, калі абодва выйшлі на падворак.— Нас яднаюць адны патрыятычныя пачуцці і адна мэта. Не сумняваюся, што пры патрэбе ў тваёй асобе заўсёды знайду чалавека, на якога можна абаперціся. І ты таксама знаходзь гэтакіх людзей. Мы пакуль што з немцамі, аднак не супраць сваёй нацыі. Вось наш арыенцір, якога мусім трымацца.— Саргунас абедзвюма рукамі патрос Адомасаву руку, пасля па-мужчынску ляпнуў яму па плячы («Трымайся, дружа! Да пабачэння!») і, па-ваеннаму павярнуўшыся, выйшаў на вуліцу.

## II

Мілда ляжала на ложку, адзетая ў халат. Крохкая белявая лялька з застылым паглядам.

— Магла быць ветлівейшая, галубок.— Адомас пакасавурыўся на яе аголеныя калені.

— Калі ты адвучышся ўрэшце ад гэтага недарэчнага слова? — спыталася яна, папраўляючы халат.

— Кожны новы дзень знаходзіш у мяне новыя мінусы,— прамармытаў Адомас.

— Што гэтаму Саргунасу спатрэбілася ад цябе?

— Сябра — служылі разам у войску...

— Несімпатычны тып.

— А я меркаваў, што ён табе спадабаўся. Ваенная выпраўка, чорныя вусікі, мужны твар. Гэтакія зухі, пэўна, не адну жанчыну звялі з розуму,— паспрабаваў пажартаваць Адомас.

— Закаранелы стары кавалер. Што ён ведае пра жанчын. Закаханы ў сваю палітыку, як яўрэй у залатое цяля. Не пераварваю такіх суб'ектаў.

— Сёння, хочаш не хочаш, усе мусяць жыць палітыкай, галу... мая любая.— Адомас прысеў на ложак.

— Але ж толькі не гуляць у яе! Немцаў, бачыце, яны абдураць. Разумнікі! Колькі такіх дзеячаў ужо апынулася за кратамі, а то і кулю ў лоб зарабілі. Няхай твой Сар-

гунас робіць сам, што ён надумаў, а табе няма чаго соўгаць нос куды не трэба.

Адомас узяў у далоні цёплую далікатную Мілдзіну руку.

— Ты ўсё роўна мяне трохі кахаеш,— зашаптаў ён, нахіляючыся, каб пацалаваць яе ў губы.

— Шкада дурня, а яшчэ болей сябе... Не лезь! Адчапіся, кажу табе! — Мілда ўперлася кулачкамі яму ў грудзі.

Адомас, пакрыўджаны, устаў.

— Я маю куды болей падставы злаваць на цябе, шаноўная.

— Вядома. Я знішчыла недаспелы плод.— Мілда села на ложку.— Аднаго ненароджанага, у той час як твае сябрукі тысячы здаровых людзей увагналі ў магілу.

— Замоўкні!

— Не трэба быць сентыментальным, як раіў твой Саргунас...

Адомас выйшаў са спальні, бразнуўшы дзвярыма. У бутэльцы яшчэ заставалася віно. Перакуліў і выпіў да дна.

Вечарам, калі яны леглі спаць, за ўвесь дзень не абазваўшыся нават словам, Мілда першая парушыла маўклівы байкот.

— Паслухай, Адомас...

— Калі хочаш зацягнуць старую малітву, дык лепей памаўчым,— нязлосна перапыніў яе Адомас.— Ведай, мяне гэтая гісторыя хвалюе менш, чым ты думаеш. Ну, пагарачыўся. Ты таксама. Вось і ўсё. Дабранач.

— Не спяшайся. Ёсць важнейшыя справы; вось пра іх і трэба пагаварыць. Ці табе не здаецца, што пара мяняць прафесію? Начальнік паліцыі — яно, можа, і няблага гучыць, але не ў такі час, калі ў яго абавязкі ўваходзіць больш, чым захаванне грамадскага парадку.

— Яшчэ адзін капрыз.

— Зусім не, Адомас. Мне непрыемна, калі людзі глядзяць на мяне, як на жонку скурадзёра.

— Хто глядзіць? — Адомас ускочыў на ложку.— Якія людзі? Бальшавікі!

— Усіх жа не пераканаеш, што ў той час, калі служкі завіхаюцца, льючы людскую кроў, іхні гаспадар, нічога не ведаючы, гуляе ў белых пальчатках.

— Плюй, плюй і ты плюй мне ў твар,— замармытаў

Адомас, згадаўшы Саргунасавы словы.— Усе вы бачыце не далей парога, але час пакажа...

— Пакажа, што ты яшчэ глыбей улезеш у багну.

— Я выконваю свой абавязак. Можа, табе палічыць людзей, якіх даўно не было б на свеце, каб не я?

— Што мне з таго? Гэтыя людзі першыя адварочваюцца, калі я праходжу побач.

— Дык чаго ты, ліха на цябе, хочаш? Каб лупіў з пісталета ў кожную пысу, якая табе не падабаецца?

— Пераходзь працаваць туды, дзе не трэба махаць пісталетам. Будзь разумны. Мы трацім старых сяброў, а новыя нічога не вартыя.

— Такая логіка жыцця, мы пастаянна нешта трацім. Спачатку пялёнкі, потым школьную парту, яшчэ пазней — першае каханне, аднак айчыну мы страціць не можам,— змрочна адказаў Адомас. Часткова ён згаджаўся з Мілдай — у апошні час пра гэта і сам не адзін раз думаў,— аднак пасля размовы з Саргунасам не хацелася з гэтым згаджацца.— Мы не прададзеныя немцам. У вярхах нашай улады ёсць сумленныя людзі, што гатовыя абараніць нацыю. Саргунас лічыць, што я, займаючы пост начальніка паліцыі, магу прынесці шмат карысці сваім людзям.

— Толькі не мне,— злосна адсекла Мілда.

— Адкажу табе словамі Саргунаса: ёсць ідэя, дзеля якой варта адмовіцца ад сябе. Гэта — айчына.

— Кавалак вар'ята! — Мілда адвярнулася спіной, адсунулася на самы краёк ложка і, колькі ні спрабаваў загаварыць Адомас, не вымавіла і слова.

Пустацвет!

Яго ахапіла жудлівае пачуццё няпэўнасці. Нібыта ідзе ён у беспрасветнай цемры, ведаючы, што недзе непадалёку — прорва. Хіба гэтая жанчына не ўсё, што ён трымае (аднак ці трывала?) у сваіх руках? Мінулае, такое мілае і дарагое, незваротна адплывае ад яго, як бераг роднай зямлі ад выгнанца, а сучаснасць падобная да нялюбай, начэпленай супраць тваёй волі, нявесты, ад якой нікуды не дзенешся, бо ўжо абмяняліся пярсцёнкамі. Будучыня... О так, толькі яна адна яшчэ можа выкупіць безразважна ўкладзены капітал. Але пакуль што гэта абстракцыя, абяцаны рай, трапіць у які выпадае далёка не кожнаму. Ці настане калі той дзень, каб можна было сказаць: «Вось наша запаветная раніца, і цяпер вырашайце, на чым баку праўда!» Сказаць усім тым, якія сёння, як

Гедымінас, пры сустрэчы пачынаюць з цікавасцю разглядаць вітрыну альбо свідруюць цябе змрочным паглядам, і тым, якія, убачыўшы цябе здалёку, расцягваюць рот да вушэй ва ўгодлівай усмешцы, сыплюць кампліменты, пазіраючы на цябе сабачымі адданымі вачамі, хоць у іхніх сэрцах няма ні кропелькі сапраўднай прыязнасці, адно крывадушнае ўгодніцтва, народжанае жывёльным інстынктам самазахавання. Сказаць Аквілі... Ну-ну... Нядаўна сустрэў яе ў горадзе, ішла разам з Кяршысам. Узрадаваўся, хоць іншы на яго месцы да канца жыцця не даравау бы ёй, што не запрасіла на вяселле. «Як жывеш, сястрычка? І ты, Хвеліксас? Заходзьце да нас, Мілда вельмі будзе радая...» Скрывілася, як праўдзівая ведзьма, і пайшла, нічога не сказаўшы.

Якраз перад тым ён заязджаў у Лаўксадзіс і таксама не знайшоў тут, чаго чакаў. Праўда, маці сабрала на стол, аднак ад яе, як ад даўно настылае печы, цягнула холадам: не магла дараваць, што не паслухаўся яе і ўзяў саламяную ўдаву. Юргіс і Юста выглядалі нейкімі напалоханымі, нібы за сталом сядзеў не родны брат, а паліцэйскі, што прыехаў іх арыштоўваць. Паспрабаваў завязаць размову з бацькам. Стары толькі мыкаў, адварочваў вочы ўбок, і зразумей ты яго як хочаш. Адомас ніколі не паважаў бацькі: божая авечка, не вядома, што засталося б ад гаспадаркі, калі б не цвёрдая матчына рука. Аднак быў прывязаны да яго, як прывязваецца да шчаняці дзіця, і па-свойму яго любіў. Дзіўна, па маці ніколі не сумаваў, а бацьку згадваў часта, хоць калі прыязджаў дадому, яго амаль што не заўважаў, як не заўважаем солі ў супе, але заўсёды адчуваем, калі яе не стае. Ад яго выпраменьвалася нейкая ўтульная цеплыня, і калі Адомас на даўжэйшы час адлучаўся, бывала, з дому, ён адчуваў, што яму якраз найбольш не хапае гэтай утульнай цеплыні, і ён спяшаўся сюды, нібы азяблы падарожны да вогнішча. Калі б не адзін выпадак, яму, напэўна, і не было б чаго прыгадаць са сваіх адносін з бацькам. Некалькі скупых, часцей за ўсё тых самых слоў, добрую ўсмешку, што нясмела зварушвала жоўтую падкову вусоў, спакойныя шэрыя вочы, якія смуткавалі, калі хто прычыняў яму крыўду, але ніколі не абураліся. Рукі меў мускулістыя, моцныя, аднак толькі да працы ў полі — ні разу ні на кога ён іх не ўзняў. Выведзены з цярпення, толькі сціскаў кулакі і, уцягнуўшы галаву ў плечы, адыходзіў прэч. Калі ў гэты час яму ў рукі трапляла каса, гнаў шырачэз-

ны пракос, калі сякера — як звер, кідаўся на карчы, якіх ніколі не бракавала ў Вайнарасавым разлозе, выліваючы разам з потам і злосць.

Дык вось, той выпадак.

## III

Ён тады ўжо працаваў у воласці пісарам. Маці кляла яго на чым свет стаіць: шэсць гадоў як на вецер; гэтулькі грошай змарнавалі, людзям хваліліся — будзе ксяндзом, а выйшла ні богу свечка ні чорту качарга... Ах, гэтая мама... Ну хоць бы раз усур'ёз падумаў ён пра тое, каб стаць ксяндзом!.. Праўда, у гімназію рваўся — навошта яму гаспадарка, няхай Юргіс на ёй застаецца,— але толькі таму рваўся, што спачатку гэта здавалася цікавым і ганаровым. Шапка, уніформа. Гімназіст! Вайнарасаў Адомас прыехаў на вакацыі... Ну і, апроч таго, ён грэбаваў мужыцкай работай, вабіў яго гарадскі брук, хоць ён яшчэ не ведаў, як па ім ступаць. Каб толькі хутчэй з дому, з гэтай багны, каб толькі хутчэй! Хто-хто, а ён мужыком не будзе. Гвалтам вырваўся. А потым абрыдла гэтая навука, насілу пяць класаў адолеў, у апошнім нават адседзеў два гады. Можа, цягнуў бы ярэмца і далей, але тут Мілда Дайлідайтэ кінула гімназію і пайшла працаваць у кінатэатр касіркай. А следам і ён, думаючы: абое мы ўжо самастойныя людзі, можам і пажаніцца. Але маці заспявала зусім іншае: рабі што хочаш, але пра дом забудзь, ні крошкі не атрымаеш. Ён такі спужаўся, бо ведаў, што маці не кідае слоў на вецер. Заставалася спадзявацца — міне злосць, маці прывыкне і саступіць. Ён не падаў у роспач, каханне не засляпіла яму вачэй, як здарылася б з іншым хлопцам ягоных гадоў.

— Мілда пачакае, пакуль я адслужу ў войску,— шукаў ён спагады ў Аквілі, з якой дзяліўся сваімі таямніцамі.— Тады і мама будзе са мной лічыцца — як-ніяк дарослы чалавек...

Аквіля пляскала ў ладкі.

— Вось пабачыш, абую цябе ў лапці — першая спраўлю вяселле! — Тады яна яшчэ ездзіла з панам Кантролем.— Мама, вядома, будзе супраць, але мы вырашылі не пытацца дазволу.

Дзверы ў хаце былі адчыненыя ў той гарачы летні дзень, калі яны гэтак гутарылі між сабою, седзячы ў двары на кучы цёплага камення. Аднак яны маглі быць на-

ват замураваныя, вокны таксама, і ўсё роўна голас Катры Табакі, які падымаў на ногі паўвёскі, калі яна разяўляла горла, прабіў бы сабе дарогу.

— Узнагародзіў гасподзь бог мужычком, няма чаго казаць,— заходзячыся ад крыку, верашчала маці.— Кала і таго не ўмее ўбіць. Столькі буракоў паглумілі! Можа, скажаш, не ты кароў прывязваў, ёлупень ты безгаловы?! О госпадзі, даў жа ты розуму сваёй няшчаснай служцы! Такі крыж узваліць на свае плечы! Нібы не было мужчын як мужчын. Ды не, дзе там... Хоць і прыгожыя, і здаровыя, і багатыя. Д'ябал падбіў мяне выйсці за гэтакага дурня, ды яшчэ галадранца. Апрача працёртых нагавіц, ён жа нічога больш за душою не меў, авечка з авечак. На чужое дабро прыйшоў, праз мяне гаспадаром стаў. Другі на тваім месцы мне з ранку да вечара ногі мыў бы і тую ваду піў бы, а ты, лапцюжнік з лапцюжнікаў...

Бацькаываліўся з дзвярэй. Вуглаваты, цяжкі, як глыба, адколатая ад муру. І, хапаючыся рукамі за галаву, паплёўся ўздоўж плота.

Маці выскачыла на ганак і ўжо адтуль драла горла, пакуль бацька не схаваўся за вуглом клуні. І што яе дабро мантачыць, і што гультай, і што праз яго ёй адно гора з негадзівымі дзецьмі...

Потым напала на Аквілю з Адомасам.

— Ці гэта месца, каб сядзець тут у святую нядзелю? Нехрысты! Маліцеся! Прасіце ў бога, каб гэтаму старому дуралею розум вярнуў. Ох, госпадзі літасцівы, ён жа зноўку зашыецца ў якую-небудзь дзіру, да ночы яго і са свечкаю не знойдзеш. Чаго вочы вылупілі як баран на новыя вароты. Бяжыце хутчэй паглядзіце, куды яго панесла.

Абое ўзрадаваліся нагодзе, каб знікнуць з матчыных вачэй. Бацька мог быць і ў клуні, і ў хляве, і ў асеці. Абышлі ўсе будынкі, пагукалі, зазірнулі нават у лазню, але бацька як скрозь зямлю праваліўся. Тады Адомасу стрэліла ў галаву думка схадзіць на Французскую горку,— калі Напалеон адступаў з Расіі, на ёй хавалі французскіх салдатаў.

Яны залезлі на пагорак, парослы рэдкімі соснамі, кустамі шыпшыны і бэзу, сярод якіх стаялі тры драўляныя крыжы. Амшэлыя, пакрыўленыя, крыжы абыякава пазіралі на апанаваную быльнягом зямлю, што прытуліла і сцеражэ давераныя ёй косці. Некалі, мабыць, крыжоў было больш — кажуць, з даўніх часоў тут закопвалі са-

магубцаў,— але засталіся толькі гэтыя тры, апошні дарунак нябогам ад блізкіх.

Ці спадзяваліся яны ў гэтакім месцы (хоць яно і было ў Вайнарасавым разлозе) напаткаць бацьку? Не, прыйшлі сабе проста так, каб перачакаць, пакуль утаймуецца маці. І калі пабачылі яго там, на камені пад кустом бэзу, абое разам падумалі, што гэта ім мірсціцца, бо пра Французскую горку наслухаліся нямала жудлівых гісторый. Цяпер ужо цяжка прыгадаць, ці ён першы заўважыў іх і паклікаў, ці яны самі падышлі, але Адомас ніколі не забудзе таго пагляду, якім бацька сустрэў іх. Гэта былі вочы чалавека, што развітваецца са светам. Усім яны даруюць, усіх блаславяць, аднак не могуць зміры́цца са страшнай несправядлівасцю. Пяшчота і роспач, любоў і гнеў, пакора і бунт — усё гэта перапляталася і жыло ў бездані яго вачэй, што першы раз адсланілася перад Адомасам. «Дзіва, да гэтага часу я не заўважаў, што ў бацькі ёсць вочы»,— уражаны, падумаў ён. Не літаральна, вядома — ён мог сказаць, якога колеру ў бацькі вочы (шэрыя, з парудзелымі бялкамі), але раней у іх ён не бачыў чалавека, а толькі добрую, свойскую жывёліну, якая цярпліва цягнецца па бясконцай баразне. І хто ведае, ці калі-небудзь здарыўся б гэты цуд, калі б яны не сустрэліся ў гэтым месцы (на магіле бацькавай маладосці), дзе ён схаваўся, каб суняць свой сардэчны боль? Можа, яго душа такі засталася б нямая для Адомаса і ён ніколі не даведаўся б, чым асаблівы гэты, зараслы быльнягом, шматок зямлі за некалькі крокаў ад каменя.

«Трэба было тут паставіць крыж»,— хацеў ён сказаць, калі бацька скончыў свой расказ, кожнае слова якога было невыносна цяжкае і крывавае, нібыта камень, на якім твораць ахвяраванне. Аднак не здолеў адтуліць перасохлых вуснаў.

Аквіля плакала.

Бацька сарамяжліва ўсміхаўся памутнелымі вачамі, нібы перапрашаў за тое, што гісторыя яго першага кахання такая сумная.

Дамоў вярталіся ўтраіх — яны па баках, бацька пасярэдзіне. Быццам рабы, скутыя адным ланцугом, які, аднак, было лёгка несці, бо ў сваім няшчасці яны былі шчаслівыя.

Адомас тады першы раз убачыў, што бацька ўмее плакаць, і першы раз адчуў, што не любіць маці. Баіцца (можа, нават больш чым раней), але не любіць.

Удваіх з Аквіляй яны абышлі сядзібу, стараючыся ажывіць ва ўяўленні мінулае, і кожнае дрэва, кожны камень падмурка, кожнае бервяно ў сцяне цяпер выглядалі іначай.

Трыццаць гадоў таму назад...

Стары Яўтакіс сядзіць каля хаты на ўслоне, захутаўшыся ў кажух, хоць на дварэ гарачы жнівеньскі дзень. Увосень ён памрэ, і адзіная дачка Катра стане гаспадыняй багатай сядзібы. Пярэстарка з валасатай бародаўкай на носе, яна даўно вынюхвае, з якога боку прыедуць сваты, але так і не можа іх дачакацца. Вароты шырока адчыненыя, авох, у іх уязджаюць толькі свае фурманкі, раніцай праз іх выганяецца на пашу, а вечарам прыганяецца дамоў статак. Ніхто не паквапіўся ні на сорак гектараў зямлі, ні на хлявы, поўныя жывёлы, ні на засекі, засыпаныя да столі збожжам; не знайшлося смельчака, які, плюнуўшы на жаночую прыгажосць, сказаў бы сабе: «Ужо ж такі я выганю д'ябла з гэтай ведзьмы...» Праўда, пакуль была маладая, сёй-той прапаноўваў вечны хаўрус («Баба — нанач, ды ў цемры і не відаць, а Яўтакісавы гектары — на ўсё жыццё»), але ўсе задрыпаныя галякі, і Яўтакіс пасылаў іх да д'ябла. Дык дзякуй богу, што стары трасецца ад холаду пасярод лета, дый труна даўно ўжо ляжыць на гарышчы (сам сабе зрабіў); так што яшчэ трохі — і можна будзе згуляць вяселле з першым сустрэчным. Галоўнае, каб меў сілу ў целе, ну, і не зусім дурны быў, а гаспадарку яна сама здолее павесці. Не гаспадар, а работнік патрэбен.

Лаўрынас Вайнарас надзівавацца не можа: няўжо зямля перавярнулася? Не паспеў рассеяцца дух памінак, а гаспадыня загадвае ўжо яму перабірацца са свірна ў пакой нябожчыка. Харчуецца ён, праўда, за адным сталом з парабкамі (пастушком Бенядыкцелісам і наймічкай Агняй), але ў яго талерцы з'явіліся тлусцейшыя кавалкі, сама Катра налівае яму баршчу — адзін апалонік зверху, другі з самай гушчы,— сама прыносіць полудзень у поле. І не нейкую місачку кіслага малака з учарашняю бульбай, як раней, а кавалак кумпяка альбо кілбасы, а то і яечню на сале. Губы яе ласкава ўсміхаюцца, просяць падсілкавацца, быццам якога госця, угаворваюць выпіць піва, збаночак з якім таксама прынесла з сабою, каб не сумна было чакаць вячэры. Лаўрынас Вайнарас жуе як не сваімі зубамі, адварочвае вочы ўбок. Гм... Няўжо гаспадыня не ведае, што ён кахае Агню? Ужо і вяселле пры-

значапа — на каляды, бо адкладаць надалей не выпадае: будзе дзіця... «Чуе маё сэрца, дабра з гэтага не будзе,— усё часцей ацірае Агня слязу.— Хадзем адгэтуль, не чакаючы калядаў...» — «А заробак? Хто заплаціць?» Лаўрынас Вайнарас гладзіць плечы Агні. Ён перапоўнены любоўю і дабрынёю, як посуд чыстай крынічнай вадой. О-о, нікога на зямлі ён не кахае і не пакахае так, як яе, сваю адзіную. «Не трэба мне ні яечня яе, ні піва. Лепш з табою на голай падлозе, пад дзіравай страхою, чым з другою ў залатым палацы. Толькі патрывай. Нельга пакінуць заробак: куды дзенемся без грошай...» Спаў гэтую ноч з ёю ў каморы, а на другі вечар... О, не трэба было перасяляцца ў пакой нябожчыка!.. Увайшла яна, гэты прывід, у адной начной сарочцы. «Лаўрынас, спіш?» Маўчаў, ні жывы ні мёртвы. Быў бы адважнейшы, паслаў бы яе да д'яблаў. Але як тут пашлеш — гэта ж гаспадыня. Нават дыханне перахапіла, калі яна села на край ложка і пачала адпіхваць яго халоднымі рукамі да сцяны. «Не, не, не...» Схапіўся нацягваць коўдру сабе на галаву, а ў гэты час ціхенька адчыніліся дзверы. Агня! «Не сюды трапіла!» — закрычала Катра. Роспачны плач, паспешлівы тупат крокаў. У сенцах, бразгаючы, пакацілася зачэпленае вядро.

Не прайшло і тыдня, як яе хавалі.

— Яна павінна была зразумець, як усё было на самой справе,— сказаў тады на Французскай горцы Адомас.

— Не ведаю... Казаў, тлумачыў... Здаецца, нібы і памірыліся... Мабыць, усё-такі не паверыла,— уздыхнуў стары.— Так і пахавалі тут. Бо ні бацькоў, ні братоў, круглая сірата была.

Адомас з Аквіляй зайшлі ў камору. На парэпаным падаконніку вазон з кветкамі, у кутку ложак, побач крывулясты столік. Колькі дзяўчат-парабчанак прайшло праз гэты пакой! Колькі хлопцаў стукаліся сюды, колькі тут плакалі і кахалі! На гэтым ложку і бацька лашчыў сваю... Тут яна і пражыла апошнюю ноч, цвёрда наважыўшыся лепш выпіць атруту, чым на ўсеагульны смех застацца дзяўчынай з дзіцем. Прыгожая была, сказаў бацька. І Адомас уявіў яе — як яна ляжыць на гэтым раскалыманым ложку, белая, крохкая, лёгкая, зусім як Мілда. І яму было шкада яе, шкада бацькі, а яшчэ болей шкада сябе і Мілды.

Ён выйшаў, несучы ў душы жудасны холад. Нібы з сямейнага магільнага склепа, куды ўсё роўна давядзецца аднойчы вярнуцца.

## IV

Дурная сентыментальнасць, сказаў бы Саргунас: вечарам у начальніка пошты вясёлая гулянка (карты, гарэлка, сябры), а ён валочыцца за дзесяць кіламетраў, каб пасядзець са сваімі занудлівымі старымі. Але палі, што драмалі ў вераснёўскім сонцы, ужо ўцягнулі яго, ахмялілі пахам ссохлага бульбоўніку, аблыталі павуцінай, якая плавала над пожняй, і ён, папханы каменнай рукою горада, з прагнай радасцю рынуўся ў абдымкі гэтай салодкай няволі. Дарога весела грыміць пад імклівымі коламі. Пахне дзёгцем, конскім потам, каровамі, што побач з дарогаю жуюць жуйку. Міма пралятае крыты грузавік, у ім сядзяць шэрыя постаці. Бензін, пыл, салдацкі дух; жудлівы перадсмяротны крык, што ўварваўся ў святочны спакой раніцы. Зніклі... Прастора палёў праглынула іх, быццам пустыня міраж, і зноў над галавою тое самае асенняе спелае неба, тыя самыя хутары з узнятымі калодзежнымі жураўлямі, тыя самыя рутавыя агародчыкі, кранутыя прымаразкамі, вяргіні ўздоўж плота і палыселыя кусты язміну каля варотаў. А там, далей, яна, родная вёска, ад якой калісьці ён пагардліва адвярнуўся і якая, аднак, ніколі не дазволіць, каб ён яе забыў.

— Чаму не на машыне? — спыталася маці.

У гэтай халоднай, пафарбаванай у зялёнае скрынцы? У гэтым жалезным сейфе з прастрэленымі бакамі? Адна дзірачка ў шыбіне проста над самым рулём. Магчыма, за ім сядзеў рускі камісар ці малады хлапчына аднекуль з сібірскай тайгі, калі яму ў галаву патрапіла куля... Вядома, гэта не па-мужчынску, не мадэрн, не ў духу часу, як сказаў бы вахмістр Бугяніс, але мне больш падабаецца гняды конік. Калі едзеш на сустрэчу з мінулым, трэба і сядаць у фурманку мінулага.

— Прыгожая восень,— сказаў у адказ Адомас.— Ці пакапалі ўжо бульбу?

— Мог бы са сваёй Бяржэненяй заявіцца. Чаго тут хавацца, і так усе ведаюць.

— Заявімся, заявімся...— няцвёрда паабяцаў ён, не разумеючы, куды гэта маці хіліць.— Хацеў бы прывезці ёй букет кветак. Яна вельмі любіць асеннія кветкі.

— Гэтага зелля поўна. Хопіць і сваім, і чужым каровам.

«З прыемнасцю смальнуў бы па зубах»,— падумаў Адомас, намагаючыся не глядзець на маці.

— Дзе бацька?

— Як заўсёды: зашыўся кудысьці і носа не паказвае.

Юста пабегла ў гародчык нарваць кветак. Юргіс пацікаваў, ці не бачыць маці, і, запхнуўшы за пазуху кнігу, шмыгануў у сад. Абодва палонныя — рыжы і чарнявы — рупіліся каля Адомасавай фурманкі: распрагалі каня, паілі, кармілі. Адомас глядзеў праз акно з святліцы на двор, бачыў конскія клубы ў дзвярах клуні і тых двух — рыжага і чарнявага, што круціліся побач, і думаў, што тут, мабыць, ніколі і не было таго, чаго кожны раз ён намерваўся знайсці. Усё гэта толькі прымроенае рэха мінулых дзён — накшталт шалясцення кветак, якія зрывае ў гародчыку Юста, альбо накшталт гэтай самотнай мухі, якая поўзае па запаскуджанай шыбе і дні якое ўжо злічаны. Гэты дом ужо даўно мёртвы. Толькі дрэва, тынк і цвікі. Скамянелы, забальзамаваны труп. А можа, у яго ніколі і не было душы?

— З Юргіса не будзе чалавека: яму толькі кніжкі наўме,— сказала маці.

— Я кніжак не любіў,— сказаў Адомас, ляніва жуючы ежу. «На два чалавекі стол занадта шырокі, і талерак зашмат, а такой агіднай гарэлкі я ніколі ў жыцці не піў».— Я кніжак не любіў,— паўтарыў ён.

— З табою было ўсё ў парадку, пакуль не збіла з панталыку гэтая плюндра. Майстрыха чмурыць мужыкам галовы. Надакучыў Бяржэнас, улучыла нагоду — развязалася і падчапіла новага гэтакага самага дурня.

— І навошта ты, мама, лухту чаўпеш! Нібы не ведаеш, як на самой справе было з Бяржэнасам.

— Вось жа і яно, што ведаю. Каго бралі, дык бралі з сем'ямі, а яе, шчаслівіцу, адну пакінулі...

— Яна ж тады паехала да бацькоў.

— Д'яблу пад хвост! Калі б хацелі, і там адшукалі б. Аддала чырвоным свайго бурмістра як міленькага, а сама толькі задам крутнула. Ведала, сучка, якім месцам адкупіцца.

«Няўжо гэтая жанчына на самой справе мая маці? Калі кашчавая ўкладзе яе ў труну, мне давядзецца добра-такі нашмараваць вочы цыбуляй».

— Я яшчэ не чуў, каб мама добра адзывалася пра чалавека.— Адомас дрыгатлівымі пальцамі расшпіліў каўнер у мундзіры — не хапала паветра.

— А ты мне пакажы добрага чалавека. Ісус Хрыстос быў добры, аднак і яго, сына божага, жыды ўкрыжавалі.

Увайшла Юста з вялізным букетам кветак. Паставіць іх у ваду. Калі Адомас будзе ад'язджаць, тады возьме. Яе губы нясмела ўсміхаліся, але вочы былі сумныя і халодныя, як гэтыя асеннія кветкі.

Адомас устаў.

— Пайду пашукаю бацьку.

— Сам прыцягнецца. Юста, агледзь сядзібу, пагукай, можа, дрыхне, залезшы куды.

— Не, не, я лепш ведаю...— Ён хацеў хутчэй вырвацца з пустаты, якая раптам абступіла яго, нібы беспаветраная прастора з мільёнамі лятучых сусветаў, ніводзін з якіх, аднак, не быў ягонай Зямлёй.

У сенцах злавіў Юсту за плечы.

— Ну, што вы хочаце ад мяне?!

Яна ўскрыкнула і, скінуўшы яго руку, скокнула назад у хату.

Бацька сядзеў за клуняй на старой патрэсканай калодзе і рамантаваў аброці. Такую работу лепш выпадала рабіць на ганку ў свірне альбо на лаўцы каля плота, але стары, калі толькі мог, заўсёды зашываўся з работай у глушэйшае месца.

Адомас моўчкі падышоў і сеў побач.

— Прыехаў? — буркнуў бацька, не падымаючы галавы ад сваіх аброцяў.

— Як бачыш...— Адомас хацеў абняць старога, павітацца, але, на жаль, не было як.— Не забываю роднага дому, хоць, здаецца, ніхто тут і не чакае такога госця.

— Так і бывае. У бацькоў свае, у дзяцей свае дарогі.

— У нас адна дарога, бацька: трымацца як мага мацней разам, пакуль бура не прашуміць.

— Так яно, так...— Бацька доўга засоўваў шнурок у пятлічку і ўсё ніяк не мог трапіць. Сівыя пасмы ўпалі на лоб. Бруднае вуха і зарослая шчэццю шчака.— Самі гэтую буру падымаем, самі потым трымаемся, аднак не ўсім дапамагае бог.

— Нашай нацыі бог дапаможа, бацька.— Адомас нагнуўся і паглядзеў знізу ўверх, намерваючыся ўбачыць бацькаў твар.— Будзем зноў незалежныя. Мы ж яшчэ не забыліся, што мы — літоўцы.

Бацька яшчэ ніжэй апусціў галаву, амаль даткнуўшыся носам да каленяў. Спіна выгнулася дугою, нібы ў кошкі, рукі перасталі варушыцца.

— Яўтакіс памёр... стараста...— пачулася глухое мармытанне аднекуль з-пад зямлі, з-пад калоды.

— Ведаю: гэтай вясною,— адказаў здзіўлены Адомас.— Чуў, Пятрас Кучкайліс заляцаецца да ўдавы.

— Кепскі быў чалавек, злітуйся, божа, над яго душою, ніхто добрым словам не прыгадае. Чым гэткаму можа дапамагчы нацыя?

Адомас паклаў руку на гэтую выгнутую дугою спіну і зноў адняў, адчуўшы ёю, як напружылася нябачная спружына.

— Тата...— Ён сціснуў далонямі галаву, баючыся, каб не паразрываліся скроні — так шалёна білася кроў у жылах.— Ты можаш думаць, што хочаш, твая справа, людзі ўмеюць нагаварыць, але я не Яўтакіс, не прадаю сваіх людзей. І не Пятрас Кучкайліс...

— Сваіх людзей...— зарыпела, застагнала калода.— Людзей... А т о й не быў чалавекам?

Адомас некалькі імгненняў маўчаў, пазіраючы на галінастыя вярбіны, што выстраіліся ў канцы сядзібы, і бачачы толькі шэрыя плямы на брудным палатне неба. «Адрэчвацца? Але на халеру? Хіба я мог зрабіць інакш?»

— І яны нас не шкадавалі,— сказаў ён, ужо не апраўдваючыся, а наступаючы.— Аднак я яго не забіваў. Іншы так і зрабіў бы, а я — не. Калі хочаш — больш таго: я нават ведаў, у чый двор яго завязе конь. Аквіля на мяне зубы точыць, Кяршыс таксама глядзіць скоса. Нібыта не разумеюць: варта мне было толькі тады захацець...

Дуга спіны раптам распрасталася, быццам нехта нажом перацяў нябачную цеціву. Бацька павярнуўся да Адомаса ўсім целам і першы раз за многія дні паглядзеў яму проста ў вочы. Ніколі ў гэтых галубіных вачах не было гэтулькі цеплыні і пяшчоты і разам з тым шчымлівага смутку і няўмольнай суровасці!

— Не трэба было табе адварочвацца ад зямлі,— сказаў бацька з не ўласцівай яму шчырасцю.— Звер у лесе, чалавек на гаспадарцы не прападаюць. Каня апяражаш па храпах, падпаска — па спіне, калі надта гарачы, паб'ешся з суседам — вось і ўсё тое кепскае, што можа ўчыніць чалавек (калі ён не ліхадзей), жывучы на гаспадарцы. Гарадскі камень, вядома, цвёрды, ім лаўчэй замахнуцца, і, апроч таго, цвёрдыя рэчы не маюць сэрца. Плюнь гораду ў твар — ён цябе на парашок сатрэ, а зямля даруе, кожнага блуднага сына прыме. Вяртайся дадому, Адомас, усім хопіць месца. Будзем жыць...

Адомас апусціў вочы, не вытрымаўшы бацькавага пагляду. «Сумленны селянін. Толькі селянін, больш нічога.

Да вайны гэтакіх сялян у Літве было тысячы, а куды мы зайшлі?»

— Мы сядзім плячо ў плячо, тата, аднак адзін аднаго не бачым і не чуем. Твая зямля — гектары, а мая — восемдзесят тысяч квадратных кіламетраў. Хочаш, каб я яе пакінуў і пайшоў у твой хлеў мясіць гной?! Пастарайся мяне зразумець.

Бацькава галава паволі пачала хіліцца ўніз, вочы пабляклі, ён згорбіўся, як раней, і ўзяўся за свае аброці. І колькі разоў Адомас ні ўсчынаў нанава размову — усё марна: у адказ чуліся аднастайныя словы і няўцямнае мармытанне. Сезам зачыніўся.

«У гэтым доме мне больш няма чаго рабіць».

— Бывай здаровы,— вымавіў Адомас і пайшоў, не падаўшы рукі.

— З богам,— данеслася ўслед.

Рыжы палонны раўняў у хляве гной. («Яны нехрысты,— сказала маці,— не вераць у бога, могуць папрацаваць і ў нядзелю».)

— Запрагай,— крыкнуў яму Адомас.

— Што здарылася? — спалохалася маці.

— Сыты, задаволены, начаставаўся. Паедзем, дзе гасцей не гэтак добра прымаюць.

— Ну, ці не дурань! Ложак пасланы. Вечарам, можа, сёй-той зойдзе пагутарыць. Ну што за асталоп цвердалобы!

— Кветкі! — выбегла Юста на ганак.

— Няхай мама аддасць іх сваім каровам.

— З глузду з'ехаў, божа мілы.

Адомас пляснуўся на сядзенне, нацягнуў лейцы, і застаялы гняды віхурай вынес вазок праз вароты.

«Да начальніка пошты! Да сваіх людзей, да сваёй айчыны...» Сцебануў пугаю каня, укладваючы ў гэты ўдар усю злосць, што паліла сэрца, і панёсся па вясковай вуліцы, патануўшы ў вірлівым воблаку пылу.

Двары пралятаі наўзбоч — кудахкалі куры, стракацелі прывялыя асеннія кветкі, дыміліся каміны над хатамі, пахла сырадоем. Тырчалі на платах гліняныя гаршкі, бялелі выцвілыя палатняныя торбы і пялёнкі, бліпчалі прыхіленыя да двароў ровары, сям-там стаялі людзі, што падымалі нядбала рукі да брыля шапкі і пасылалі запозненую ўсмешку... Вёска вітала яго, кланялася яму, свайму начальніку паліцыі. Вёска належала яму. Ён мог завярнуць гнядога ў які папала двор, і яго ласкава запра-

сілі б у хату, пасадзілі б за стол. Калі ласка, не пагрэбуйце, пане начальнік... Аднак у кожным двары, магчыма, быў і свой бацька, які сядзеў за клуняй на ўрослай у траву струхлелай калодзе і, згорбіўшыся, рамантаваў аброці. І ён узняў пугу. («Без гонару не апускай»,— сказаў бы Саргунас), тузануў лейцамі, жадаючы як мага хутчэй вырвацца з вёскі, якую некалі з песнямі і дзяўчатамі перамераў удоўж і ўпоперак. Кароткая і цесная яму тады была вёска...

«Да сваіх людзей, да сваёй айчыны...»

Сонца, па-вечароваму нізкае, ляцела за галінамі дрэў, як алімпійскі факел у руках апантанага бегуна. І яму зноў, можа, соты раз пасля таго здарэння прыгадалася поўня, што засела ў дрэвах бацькоўскай сядзібы, і гэтакія самыя доўгія цені, якія прывідным крыллем сцёбалі па бязмоўнай зямлі. Калёсы грукацелі тады, як і цяпер, толькі былі яны іншыя, і іншы быў конь, і не да начальніка пошты ехалі яны тады, а на пахаванне.

«...А т о й не быў чалавекам?..»

## V

...Ён дагнаў воз, што ўжо спыняўся, і дубцом, паспешліва выламаным у вербалозніку, агрэў па спіне каня. Калёсы загрукацелі па палявой дарозе, збягаючы з пагорка ў лагчыну. І тады ён, як ашалелы, кінуўся ўцякаць. Недзе ў кустах каля возера быў ягоны гняды, але цяпер ён не думаў ні пра свайго каня, ні пра тое, што ўвесь час найболей яго турбавала: як мінуць вёску і незаўважна вярнуцца ў Краштупены? Яго гнала жуда. Ён не разумеў, адкуль гэты панічны страх — справа ж, урэшце, ужо зроблена,— аднак уваччу неадступна плавала шызая пляма твару з губамі, скрыўленымі ў д'ябальскай усмешцы. І дзве бяздонныя студні, поўныя месяцовага святла,— глыбока запалыя вочы, якія праклiналі яго. І ён уцякаў ад гэтага нямога праклёну, што вярэдзіў яму душу. Потым, калі ён шчасліва выбраўся з вёскі, яму стала сорамна, што ён гэтак расклеіўся. «Дзякаваць богу, галубок, справа добра скончылася. Выбавіў усіх ад турботы»,— цынічна засмяяўся ён. Думаў, што сваім смехам ён перакрэсліў тую ноч, але яна засталася. Дастаткова было самай маленькай дэталі — убачыць сівую клячу, пачуць рыпенне нешмараваных колаў,— і ў свядомасці зноў ажывала шызая пляма твару, наскрозь свідравалі жудасныя

лётчыкавы вочы. Пра ўсё Адомас расказваў Мілдзе — ён жа наогул быў шчыры душою,— а гэты выпадак утаіў. Сам дзівіўся: ён жа не забіў, толькі ўратаваў радню ад бяды. Дый, зрэшты, хіба гэты лётчык першы: там, каля Чортавага Закруту, трое загінулі ад яго рукі, і нічога... Сабакам — сабачая смерць.

А мог жа і не страляць. Да самай апошняй секунды не думаў, што гэтак зробіць. Ляжалі ўдвух з Бугянісам, затуліўшыся за кустом ядлоўцу, і з зайздрасцю пазіралі на бальшак, па якім можна было праз нейкія паўгадзіны дабрацца да роднага дома і дасыта наесціся гарачага супу, аднак ніхто з іх не ведаў, калі зможа пастукацца ў дзверы сваёй хаты. А калі і пастукаешся, дык ці адчыніць хто табе? Можа, напаткаеш даўно астылую печ, пах цвілі, пыл на стале. І ў гэтым будзеш вінаваты найболей ты сам. За тое, што быў шаўлісам, ды не радавым, што бегаў на вучэннях з вінтоўкай, што спяваў нацыянальны гімн. І, як заўсёды, калі ён дужа нерваваўся, яго ахапіла раптоўная ятрасць. Ружовая імгла на імгненне заліла дарогу, якая ў гэтым месцы стромка падала ўніз і, зрабіўшы закрут амаль на дзевяноста градусаў, нырала ў глыб лесу. «Пайсці туды, кінуцца з абрыву ўніз галавою, і ўсё было б скончана»,— падумаў Адомас. Але каму ён гэтым адпомсціць? Адно што не давядзецца блукаць па лесе, як бяздомнаму сабаку.

— Машына...— прашаптаў Бугяніс.

Да спуску набліжаўся вайсковы грузавік. Праменне вечаровага сонца цьмянай чырванню афарбавала ветравое шкло, і Адомас убачыў высокую чырвоную шапку з сінім верхам. У кузаве сядзелі некалькі чалавек — усе ў гэтакіх самых шапках. Гэтыя шапкі апошні раз некалькі дзён таму назад ён бачыў на дарозе ў сядзібу Гульбінасаў, калі, прыгнуўшыся, уцякаў па жытнёвым узмежку з дому, у адной руцэ трымаючы торбачку з харчам, другой сціскаючы пісталет у кішэні.

Вось калі ён прыдаўся!

Ён выцягнуў з кішэні зброю і прыцэліўся ў ветравое шкло ў машыне. Плёнка ружовай імглы спала з вачэй, усё навокал зрабілася надзвычай празрыстае і выразнае.

— Ты з глузду з'ехаў!.. Загінем...— залапатаў Бугяніс.

Ці падумаў ён, што можа не трапіць у шафёра і тады гэтыя стрэлы будуць апошнія ў яго жыцці? Роспачная ятрасць загнанага звера замуціла развагу, выключыўшы

ўсе кантакты інстынкту самазахавання і ўключыўшы адзіны той, дзякуючы якому чалавек творыць вар'яцкі альбо гераічны ўчынак.

Потым ён даведаўся, што грузавік, які страціў кіраванне, урэзаўся ў дрэва і перакуліўся, падмяўшы пад сабою некалькі чалавек.

— Літва такіх людзей не забывае, пане Вайнарас,— сказаў начальнік павета, выклікаўшы яго, калі яшчэ курыліся разваліны.— Будзеш кіраваць валасной паліцыяй.

Адомас выцягнуўся ў струнку. («Для славы айчыны!») I нічога, ніякіх згрызот сумлення. Нібы тыя трое былі звычайнымі мухамі — раздушыш, і стане чысцей у пакоі. «Вораг. Калі не я яго, дык ён мяне». Аднак і той, што канаў, быў вораг. Як і той маладзенькі салдацік, якога злавілі ў жыце і зачынілі ў асеці.

— Не варта з-за аднаго арыштанта вартавога ставіць. Прыстрэліць! — вырашыў Бугяніс, і большасць падтрымала яго.

Салдаціку было не больш як васемнаццаць гадоў. Белабрысая, падстрыжаная пад машынку галава, круглыя мурзатыя шчочкі, чыстыя вочы пакрыўджанага дзіцяці... Ён выпусціў усю абойму са сваёй даўгастволай вінтоўкі і тады ўзняў рукі: больш у яго не было патронаў.

— Мы не забіваем бяззбройных, галубок,— сказаў Адомас, і ўсе падпарадкаваліся яму, бо ніхто з іх на сваім рахунку яшчэ не меў трох раздушаных мух.

Праз пару гадзін з'явіліся разведвальныя нямецкія часці.

— Es gibt einen Cefangenen [1],— сказаў Адомас двум матацыклістам, што ўляцелі ў падворак. Прывёў іх да асеці, а калі тыя не адважваліся ўвайсці ў сярэдзіну, сам адчыніў дзверы і загадаў палоннаму выйсці.

— Los! [2] — махнуў адзін з салдатаў аўтаматам Адомасу, каб той адышоў.

Вочы салдаціка расшырыліся ад жаху, ён разявіў рот, але крык так і не паспеў вырвацца з яго кволых дзіцячых грудзей: застракатала чарга і ён асунуўся ў праёме дзвярэй.

— Свінні! — сказаў Адомас.

— У палон яны бяруць толькі ўзводамі,— заўважыў нехта з сябрукоў.

---

[1] Ёсць адзін палонны *(ням.)*.

[2] Прэч! *(ням.)*

— Ім няма калі цацкацца,— зазначыў Бугяніс.
— Усё роўна свінні,— сплюнуў Адомас, прыгнечаны і расчараваны першай сустрэчай з вызваліцелямі.

## VI

Банкет у начальніка пошты Анзельмаса Баярчуса ў самым разгары. Гуляюць сярэбранае вяселле — роўна дваццаць пяць гадоў таму назад малады правінцыйны чыноўнік ускружыў галаву спеленькай мясніковай дачцэ і прысягнуў перад алтаром у вечнай адданасці. З гэтай нагоды кожны стараецца раскапаць свой уласны юбілей. Камендант Роп згадаў, што дваццаць пяць гадоў таму назад у гэтую пару жонка нарадзіла яму першага сына; бурмістр Дзіржыс першы раз нешчасліва закахаўся, а Шаркус, валасны войт, меў тады дзесяць гадоў. Сярод мноства гасцей знайшлося некалькі чалавек, што нарадзіліся якраз дваццаць пяць гадоў назад. Іх вітаюць воплескамі і дружнымі «ўра», за іх падымаюць келіхі. Адомаса таксама далучаюць да іх (вясёленькі Мілдзін жарт), хоць да яго дваццаціпяцігоддзя не хапае дзевяці месяцаў. Вы толькі падумайце, дзевяць месяцаў! Калі хочаце ведаць, без гэтага падрыхтоўчага перыяду нікога з нас тут не было б, шаноўныя жаніх і нявеста таксама не сядзелі б у аплеценых кветкамі крэслах сярэбранага вяселля. За інкубацыйны перыяд, дамы і джэнтльмены! Дасціпны тост, нібы грэшны анёл, лунае над шумлівымі сталамі. Сціплейшыя дамы стараюцца пачырванець і ўпарта не падымаюць вачэй ад стала. («Панове, такія размовы пры жанчынах...») Абедзве, не першай маладосці, дзяўчыны, між якіх гаспадары ўшчамілі Адомаса, хіхікаюць у кулачок, вачамі і сцёгнамі атакуючы пана начальніка паліцыі. Мілда кідае праз стол пагляды вінаватай свавольніцы, хоць не просіць прабачэння, а, мабыць, пасміхаецца. Побач з ёй Гедымінас. Трохі схмялелы, у добрым гуморы. Адомас падазрона, спадылба, пазірае на іх абаіх. Усё роўна ёй адной не варта было сюды прыходзіць. А пан настаўнік гісторыі таксама... Проста не месціцца ў галаве, што бачыць яго, праведніка з праведнікаў, у сённяшняй кампаніі. Баярчусы, праўда, маюць слабасць да асяроддзя асветнікаў — тут і дырэктар гімназіі з інспектарамі, і яшчэ пара настаўнікаў; запрашалі, вядома, але як Гедымінас згадзіўся сесці не ў свае сані?

Гаспадар устае, бразгае відэльцам па талерцы, пакуль

у абодвух пакоях (дзверы ў другі часова знятыя) не заціхае гамана падпітых гасцей.

— Пані і панове! — Баярчус задзірае да столі круглую, плямамі палыселую галаву. Цяжкая ніжняя сківіца, што падтрымлівае дробны тварык, соўгаецца, нібыта хоча ад яго адарвацца.— Мілыя панове і пані! Гм... гм. Абое мы з дарагою Рытай,— ён кладзе руку жонцы на плячо, якая сядзіць побач і чый агромністы бюст робіць гэтае плячо падобным на саф'янавае сядло,— з маёй мілай сяброўкай жыцця вельмі шчаслівыя, што ўшанаваць нас прыйшлі такія дарагія, гм... гм, і такія высокія госці. Гм... Дзякуем, дзякуем, дзякуем.— І Баярчус тройчы пакланіўся сваёй талерцы.— Дзякуючы гэтай нагодзе, мілыя пані і панове, хачу звярнуць вашу ўвагу... Гм... гм... сярод нас знаходзіцца высокі госць з Вільнюса. Пан Мунд выказаў нашай сям'і вялікі гонар і, нягледзячы на далёкую дарогу... Я глыбока ўсхваляваны, панове... Запрашаю ўсіх узняць тост за начальніка вільнюскага паштамта дарагога пана Мунда! — Баярчус павярнуўся да пажылога таўстуна з двайным падбародДзем, у пенснэ, што сядзеў злева ад яго, і, кланяючыся, паднёс сваю чарку да блішчастага, як стручок чырвонага перцу, носа высокага госця.— Я шчаслівы, што магу з вамі стукнуцца чаркамі, пане Мунд.

Госць з Вільнюса ўсміхнуўся, як належыць чалавеку, што робіць гонар і ласку, кароткімі тлустымі пальцамі ўзяў сваю чарку за ножку і, не ўстаючы, паднёс да вуснаў.

Аднак гаспадар не разгубіўся.

— Няхай жыве пан Мунд і вялікі рэйх! — усклікнуў ён, уздымаючы чарку ўгору.

Загрукацелі, адсоўваючыся, крэслы. Госці падхопліваліся адзін за адным. Пан Мунд таксама падняўся. Усе дружна спаражнілі чаркі ў гонар вільнюскага паштмайстра і трэцяга рэйха. Крэслы зноў вярнуліся на свае месцы. Застаўся стаяць толькі пан Мунд — яго абавязак абвясціць чарговы тост.

— Панове! Пашану, якую вы мне робіце, я ўспрымаю як пашану фюрэру і Германіі. Sieg heil! [1]

— Sieg heil! Sieg heil! Sieg heil! — паўтарыў хор галасоў, якімі кіраваў камендант Роп і начальнік гестапа Хрыстаф Дангель.

— Мне прыемна сустрэцца за гэтым сталом са сваімі

---

[1] Няхай жыве перамога! *(ням.)*

слаўнымі суайчыннікамі і адданымі сябрамі немцаў літоўцамі, продкі якіх, на жаль, некалькі стагоддзяў таму назад не разумелі, што лёс Германіі — лёс усяго культурнага свету. Аднак гісторыя, хоць і са спазненнем, выпраўляе памылкі. Нашы прадзеды рыцары аддалі нямала жыццяў, несучы культуру на вашу маляўнічую зямлю, і вось нарэшце мы споўнілі іхнюю высакародную місію і з колішнімі ворагамі п'ём як з сябрамі з адных чарак. Sieg heil! — Пан Мунд ускінуў руку ўгору. За сталамі таксама ўскінулася некалькі рук.

— Sieg heil! Sieg heil! Sieg heil!

— Мае мілыя літоўскія сябры! Для вас вайна ўжо скончылася. У ваш маляўнічы край мы прынеслі свабоду і мір. У той час, калі нямецкі салдат лье сваю кроў, знішчаючы бальшавіцкія орды на Усходзе, вашы сяляне могуць спакойна працаваць у полі, кахаць сваіх жанчын, гадаваць дзяцей. Аднак, панове, і працуючы, і банкетуючы, і лежачы са сваімі жонкамі ці каханкамі, вы не павінны забываць, каму абавязаныя за гэтае вялікае шчасце. Мы чакаем ад вас разнастайнай дапамогі адважнай нямецкай арміі. Хай хлеб, што вырошчвае літоўскі селянін, тлусты бекон, малако і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты дапамогуць канчатковай перамозе нямецкай арміі! — Пан Мунд счакаў, пакуль перакладчык пераклаў, і, абстрэльваючы прысутных вострым позіркам, металёвым фальцэтам казаў далей: — Яшчэ ніколі ў гісторыі Германія не атрымлівала такіх велізарных перамог. Нашы дывізіі прайшлі тысячы кіламетраў па дзікіх прасторах Расіі. Мы цвёрда трымаем у сваіх руках Крым, ужо амаль захоплены апошні цэнтр супраціўлення бальшавікоў — Сталінград. Не заўтра, дык паслязаўтра рухне Масква, панове, і Сталін прыпаўзе на каленях прасіць міру. Sieg heil!

— Sieg heil! Sieg heil! Sieg heil!

— Я прапаную тост, панове, за храбрага нямецкага салдата, у якім жыве несмяротны дух нашых прадзедаў рыцараў!

— Heil!

— За вялікага фюрэра, што вядзе нацыю ад перамогі да перамогі! За тысячагадовую будучыню вялікай Германіі! Deitschland, Deitschland über alles!

— Heil!

Некалькі рук зноў пранізалі паветра. Ледзьве не ўскі-

нуў сваю і пан Баярчус, але завагаўся, а раптам нельга, як не члену нацыянал-сацыялісцкай партыі.

— Сёння, здаецца, нас добра-такі прадзьме,— шапнуў Адомас суседцы.

Не памыліўся. Тост абвяшчаўся за тостам, адзін патрыятычнейшы за другі. Высокія госці зусім забылі, што сядзяць у крэслах, упрыгожаных кветкамі. Яны апярэдзілі гісторыю і святкавалі не сярэбранае вяселле, а гадавіну перамогі Германіі, якая дваццаць пяць гадоў таму назад заваявала ўвесь свет. Каменданту Ропу мроіўся велізарны маёнтак на ўрадлівых раўнінах Сярэдняй Літвы, а начальнік гестапа Дангель ужо ўяўляў такі самы (а можа, нават і два!) у стэпах Украіны, і абодва ўздымалі чаркі за расу рабоў, на касцях якой будзе пабудаваны тысячагадовы рэйх. Пан бурмістр з войтам (іхнія хрыбты пасля кожнай чаркі станавіліся ўсё гнутчэйшыя) расчуліліся да слёз, дзякуючы лёсу, што не належаць да непаўнацэнных істот, што іхнія дзеці маюць права жаніцца з немкамі, выходзіць замуж за немцаў і гадаваць прыплод нямецкай імперыі. І абодва — адзін гарадскі галава, другі валасны — былі бязмежна шчаслівыя, што могуць узняць тост за мудрасць фюрэра і высакароднасць немцаў.

Пакуль аддавалася належная даніна патрыятызму, госці добра набраліся. Языкі пачалі заплятацца, вочы памутнелі. Усё часцей бразгалі дзверы, выпускаючы праветрыцца ацяжэлых і ўпускаючы палягчэлых гасцей, якія часцей за ўсё ўжо не сядалі на сваё ранейшае месца, а дзе хто. Сябры зрабіліся надзвычай прыязныя, а жанчыны прыгожыя як ніколі. Урачысты настрой за сталамі рассыпаўся. Сядзела, можа, палавіна гасцей: адны падаліся дамоў, другія лічылі ў двары зоркі.

Адомас, карыстаючыся нагодай, падсеў да Мілды.

— Прымеце? — запытаўся ён, паглядзеўшы з іроніяй на Гедымінаса.

— Не ведаю.— Мілда какетліва ўсміхнулася.— Мы трохі тут флірцуем. А куды ты падзеў свае ружы?

— Паслаў па рэкамендацыі пані Баярчэні ў сад, дзе можна абысціся без каналізацыі, бо хатняе збудаванне, наколькі мне вядома, часова выйшла з ужытку.

— Ведаеш, і мне не лішне ў той бок,— засмяялася Мілда, устаючы.— Сядай на маё месца.

— Мне не трэба было сёння вяртацца — сапсаваў табе вечар,— прашаптаў Адомас, прапускаючы яе.

— Пакінь свае кпіны на заўтра,— нягучна адказала

яна.— Сама Баярчэня яшчэ раз прыходзіла мяне запрашаць. Дый, апрача таго, мне тут было зусім не сумна.— І, павярнуўшыся да Гедымінаса, ужо голасна дадала: — З панам Гедымінасам немагчыма засумаваць.

— Не выкрыўляйся,— прамармытаў Адомас. Ён падсунуў крэсла і сеў на Мілдзіна месца.— Ну і паказалі Баярчусы, на што яны здольныя. Такі банкет!

Гедымінас лянiва падняў асалавелыя вочы.

— Маюць з чаго. Дачка ў Вільнюсе з немцамі, сын яўрэяў губіў. Навалаклі чужога дабра,— ціха адказаў ён.

— Я прыемна здзіўлены, бачачы цябе тут.

— Прыйшоў паназіраць за вартай жалю людской нікчэмнасцю. Сам ведаеш — чаго пераясі, таго доўга не захочаш. А я сёння сыты па горла. Тут шмат страў, якія мой страўнік не можа пераварыць. Heil Sieg! — Гедымінас агідна ашчэрыўся (у гэтую хвіліну яго твар стаў падобны на пысу малпы) і ўзняў сваю чарку.

— Што ж, прынцыпы ў цябе гнуткія. Аднак сёння мы дзейнічалі ў згодзе: абодва стаялі па стойцы «смірна» і пілі за здароўе тысячагадовай бабулі. Мяркую, ты разумееш мяне сёння лепш, чым, напрыклад, год таму назад.

— Калі трапіў да свіней, даводзіцца па-свінску рохкаць, аднак жа зусім не конча па-свінску думаць.— Гедымінас адпіў з чаркі.— Я падымаў свой кілішак не за іх, дакладней, не за вас, а за... Але табе гэта зусім неабавязкова ведаць.

Адомас памаўчаў. У галаве трошкі кружылася. Пракураны пакой з цьмянымі людскім фігурамі, што варушыліся, нібы цені, здаваўся нерэальным; нейкі акварыум, напоўнены мутнай вадой, дзе плаваюць фантастычныя істоты.

— Ты гэта дарэмна, Гедымінас.— Хацеў быў пакрыўдзіцца, але ўспомніў Саргунаса.— Мы дзеці адной сям'і, галубок. Гэты стол, можа, засцілаў і нягоднік, але сядзець за ім нам больш выпадае, чым панам Ропам ці Мундам. Баярчус быдла, але сваё. А свой нават гной не гэтак смярдзіць. Прыйдзе час, калі яны пойдуць з намі.

— Яны і цяпер ужо з вамі.

Вярнулася з двара Мілда. Адомас ужо хацеў быў перасесці на вольнае месца побач, але Мілду каля дзвярэй перавяў начальнік гестапа Хрыстаф Дангель і запрасіў у другі пакой, дзе размясцілася яго сябрына.

— Мы арыштоўваем вас, пані Мілда. У чым абвінавачваецеся? Прыгажосць — вось ваша віна. Мы бездапамож-

ныя супраць такога ворага, але пастараемся акружыць яго і ўзяць у палон. Ха-ха-ха!

«Дурань!» Адомас, узнерваваны, перакуліў Мілдзін кілішак.

— Абставіны могуць часова зрабіць чалавека быдлам, але варта ім змяніцца, і ён зноў стане, кім быў, Гедміс.

Гедымінас недаверліва паглядзеў на Адомаса.

— За пятнаццаць месяцаў ты зрабіў прыкметныя поспехі ў галіне самакрытыкі, кажучы бальшавіцкім стылем.

— Выспяваем,— сумна ўсміхнуўся Адомас.— У нечым тады была твая праўда: не трэба было гэтак безразважліва кідацца ў вар. Але наконт усяго іншага можам паспрачацца. Хто з кім — гэта мы яшчэ пабачым. І наогул нам трэба сёе-тое з табой высветліць. Хацеў да цябе зайсці, але сам ведаеш... Так, няма чаго шукаць каменя за пазухаю ў сябра. Жывём у такія часы, што, можа, трэба будзе ісці плячо ў плячо...— Адомас агледзеўся. На гэтым канцы стала, апрача іх двух, нікога не засталося. Ён нахіліўся бліжэй да Гедымінаса і, паклаўшы руку на спінку яго крэсла, ціпіком пераказаў сваю размову з Саргунасам.— Калі ўжо ў вярхах такія настроі...— са значэннем закончыў ён.

Гедымінас хвілінку сядзеў з застылым выразам твару. Доўгія, закінутыя назад валасы пасмамі спадалі на вушы і лоб (ён часта забываў пра тое, што мае грабянец); ад яго веяла нейкім няўлоўным водарам — канцылярыяй, бярозамі, вопраткай, што даўно не надзявалася...— гэты пах з'явіўся пасля таго, як ён кінуў курыць.

— Настроі людзей, што вінаватыя перад сваёй нацыяй,— нарэшце азваўся Гедымінас.— Кошкі паводзяць сябе такім самым чынам: нагадзяць — і стараюцца закапаць. Гэтыя паны спадзяюцца, што адкупяцца будучыняй. І, вядома, будуць рабіць гэта не сваімі рукамі. Я не збіраюся адшкрабаць чужы бруд.

Адомас прыняў руку са спінкі крэсла, нібы апёкся. У вушах пачуўся знаёмы звон: зараз жа трэба ўстаць і пайсці, а то ўлепіць прыяцелю ў морду.

— Той тып са сваім Кубілюнасам яшчэ не нацыя.

— Лепей скажы: баюся! Важдацца з дзецьмі ў класе альбо пісаць паршывыя вершы куды спакайней, чым рызыкаваць галавой.

— Мае ідэі без ідэалогіі, яны не патрабуюць, каб падалі галовы.— Гедымінас калюча ўсміхнуўся.— Вы мяр-

куеце, што трэба, каб вызваліць сабе месца пад сонцам, сіх-тых перарэзаць, а я думаю, няхай кожны жыве, як хоча, зямлі і неба хопіць усім. Былі таўцінінкасы — мялі адных, прыйшлі бальшавікі — другіх, немцы — прэч з дарогі, хто не немец. Прыйдзе яшчэ адна ўлада, скажам, ваша,— зноў паляцяць галовы, зноў пагоняць арыштантаў у астрогі і працоўныя лагеры. Чаму я мушу ўдзельнічаць у бяздумнай высечцы лесу? Я сам сабе дрэва, сам ляснік.

У суседнім пакоі камендант Роп зацягнуў песню нямецкіх лётчыкаў. Гарлапанілі, хто як дуж. Адомас мусіў павысіць голас, каб Гедымінас мог яго чуць.

— Вядома, найвыгадней стаяць збоку і назіраць, як у іншых ляцяць з плеч галовы,— засыкаў Адомас, насілу стрымліваючы злосць.— Паэт! Ён, бачыце, вышэй за ўсякія ідэалы. Гуманіст! А я табе скажу, што твой так званы гуманізм граша ламанага не варты. Скуголенне імпатэнта, больш нічога. Умееш толькі стагнаць і плакаць. Немцы такія, немцы сякія, гіне столькі нявінных людзей... Наколькі яны нявінныя ці вінаватыя, не будзем пра гэта спрачацца. Але шчыра табе скажу, галубок, што я больш разумею рускіх, якія ўцякаюць у лясы, далучаюцца да бандытаў і б'юць немцаў, чым цябе... Лепш бы ты ўжо, да ўсіх д'яблаў, маўчаў, не судзіў іншых! Не варыш кашы, дык няма чаго загадваць, колькі класці солі.

Гедымінас слухаў з іранічнай усмешкай, круцячы ў пальцах кілішак. Але паступова ўсмешка пачала блякнуць, вочы спахмурнелі; было відаць, што Гедымінас збянтэжаны.

— Не я стварыў гэты свет і не збіраюся за яго адказваць,— няцвёрда сказаў ён.

— Яшчэ адзін вінаваты — бог! — Адомас пагардліва зарагатаў.

— Каго няма, таго немагчыма абвінаваціць.

— Як жа, на ўсім свеце ты толькі адзін...

— Не, пакуль што яшчэ існуе і гэтая суцяшальніца.— Гедымінас наліў кілішкі, і абодва выпілі іх да дна.— Немцы любяць ва ўсім трымаць раўнавагу. Ці не адчуваеш, што палова гэтай брыдотнай вадкасці ідзе ў верхнюю, палова ў ніжнюю частку цела? Я намерваюся агледзець запасныя апартаменты паноў Баярчусаў у садзе.

— Хоць у гэтым нашы інтарэсы супадаюць,— кпліва заўважыў Адомас.

Абодва цяжка ўсталі і няцвёрдымі крокамі выйшлі на двор. Над уваходнымі дзвярамі гарэла электрычная лям-

пачка, вырываючы з цемры частку саду, сцяну прыбіральні і дзве легкавыя машыны; воддаль, прыхінуўшыся да плота, драмаў патрульны эсэсавец, якога яны не заўважылі. Каля прыбіральні таксама блішчала няяркая электрычная лямпачка. Горад спаў, патануўшы ў чорным акіяне, быццам на ўсім свеце нічога больш не было, апроч непранікальнай пустаты, у якой, як Ноеў каўчэг, плаваў гэты шматок ацалелай выспы, запруджанай платамі, машынамі і людзьмі, што знатоўпіліся ў адзіным доме, спяшаючыся ўсё выпіць, з'есці, атрымаць, бо заўтра ўжо нічога не будзе.

— Ведаеш, неахвота пхацца за весніцы,— сказаў Гедымінас.— Цікава, каторая з гэтых машына нашага шаноўнага паштмайстра? Варта абмачыць колы, каб спіцы не расцярушыліся да Вільнюса.

Адомас ціха засмяяўся.

— Здаецца, мы някепска накуляліся, галубок.

— Ад свежага паветра ачмурэлі.— Гедымінас зайшоў за першую машыну, Адомас — услед.

...Як я ехаў ды зялёным гаем —
захацеў: рабіны наламаю...—

неслася з аднаго канца Ноевага каўчэга, што свяціўся ўсімі вокнамі.

— Нашы ўзялі верх,— канстатаваў Адомас, з вялікай цяжкасцю адольваючы апошні гузік.

— Як і належыць у такі гістарычны момант.— Гедымінас захіхікаў.— Вось і ўсё, што мы можам сабе дазволіць, змагаючыся за незалежнасць. Мокры пратэст у імя нацыянальнай еднасці. Аднак я бачу, ты і тут неважнецкі ваяка. Вышэй, падымай вышэй. Ніводнай кулі міма! Цэлься ў дзверы. Рурская сталь дужа высокага гатунку. Гучыць, як скрыпка Страдыварыуса.

— Нехта ідзе...— прашаптаў Адомас, пачуўшы падазроны шорах.

— Гэта крокі гісторыі,— замуркаў Гедымінас.— Твой генерал Кубілюнас...

Ён не паспеў скончыць. Грукнуў, зачапіўшыся за нешта, аўтамат, і ў гэтае ж імгненне прагучала каманда:

— Hände hoch! [1]

Яны хацелі павярнуцца, думаючы, што нехта вырашыў пажартаваць, але зноў прагучаў яшчэ больш грозны вокрык.

---

[1] Рукі ўгору! *(ням.)*

— Гэта я, Вайнарас, начальнік паліцыі,— на кручанай нямецкай мове залапатаў Адомас, падымаючы рукі. І ў гэтую ж хвіліну адчуў, як нехта энергічным рухам вырваў з кабуры яго рэвальвер. Маланкава павярнуўся, аглушаны знаёмым звонам у вушах,— і наткнуўся грудзямі на аўтаматную рулю. Трохі далей стаяў другі эсэсавец з паліраваным тварам манекена, таксама трымаючы зброю напагатове.

— Аддайце рэвальвер! — закрычаў раз'ятраны Адомас.— Хіба не бачыце, хто я?! — Ён ляснуў сябе кулаком па пагоне, апускаючы і другую руку, аднак тут жа давялося ўзняць абедзве, бо немцы пагрозліва загарлапанілі і забразгалі аўтаматамі.

— Будзьце карэктныя, панове, дазвольце прывесці ў належны выгляд штаны,— папрасіў Гедымінас, раптам працверазеўшы.

— Аддайце зброю, чорт вазьмі! Я не які-небудзь бандыт, я свой... начальнік паліцыі. Аддайце зброю!..— крычаў Адомас, ківаючыся з боку ў бок, нібыта быў падвешаны за рукі на нябачнай вяроўцы.

Ці пану каменданту з начальнікам паштамта зарупіла выйсці на свежае паветра, ці яны пачулі шум,— як бы там ні было, але нечакана абодва суайчыннікі апынуліся на двары. Яны з самым сур'ёзным выглядам выслухалі рапарт патруля, а тым часам Адомас і Гедымінас мусілі стаяць з узнятымі рукамі ў асляпляльным бляску электрычных ліхтарыкаў. Пасля з'явіўся начальнік гестапа штурмфюрэр Дангель і яшчэ адзін госць, вайсковец з камендатуры. І ўжо чатыры пары здзеклівых вачэй поўзалі па іх целах, абмацваючы кожную зморшчыну вопраткі. На двор павывальваліся госці («...Meine Damen und Herren, bitte alle in den Hof... Ein seltenes Spektakl... Ihr werdet es nicht bereuen... Kommt alle schneller in den Hof...» [1]), і абодва яны, хоць і былі п'яныя, зразумелі, што не заўсёды трэба зрываць з чалавека адзенне, каб раздзець яго дагала.

## VII

Страх падумаць, што ён учора натварыў! Шчаслівы той, хто пасля п'янкі нічога не памятае. Трэба было пайсці разам з Гедымінасам адразу ж пасля той ганебнай

[1] Пані і панове, калі ласка, усе на двор... Рэдкі спектакль... Вы не пашкадуеце... Ідзіце хутчэй на двор... *(ням.)*

прыгоды ў двары. Няхай усе бачаць, яму напляваць на паноў немцаў, ён не з тых баязліўцаў, якія дазволяць здзекавацца з сябе! Аднак не хапіла рашучасці, страх, як гэта здаралася з ім не адзін раз, засланіў пачуццё ўласнага гонару. Ён кіпеў ад злосці, аднак стукаўся чаркаю з немцамі, усмешкай адказваў на ўсмешку, разам з імі рагатаў, у душы скрыгічучы зубамі ад лютасці. «Пана начальніка паліцыі раззброілі! Ха-ха-ха!» Гэты д'ябальскі рогат натоўпу, што сабраўся ў двары, грымеў у вушах, і ён куляў чарку за чаркай, стараючыся яго заглушыць. «Кожны сапраўдны патрыёт сёння мае два аблічча»,— свідравалі мозг словы Саргунаса. Час-почас ён адчуваў, што гэтае другое аблічча пачынае акрэслівацца, набліжаючыся да небяспечнай адлегласці. Тады, сабраўшы ўсю сілу, ён наносіў удар свайму двайніку, і той на нейкі час знікаў. Але потым зноў вынырваў з цемры, лез у вочы, і ён зноў бачыў сябе, асепленага бляскам электрычных ліхтарыкаў з ганебна ўзнятымі рукамі. «Чаго вы, да д'яблаў, хочаце, сваіх не пазнаяце? Пане камендант... Herr Kommandant...»

Апусціў рукі, ступіў крок наперад. «Halt!» [1] Трайное «halt!» — два ззаду, адно спераду. І ён, хоць быў асеплены святлом ліхтарыкаў, заўважыў (хутчэй адчуў) скіраванае проста ў грудзі дула пісталета. Так, яны былі ў адмысловым гуморы, паны немцы, і іхняму спектаклю трэба былі гледачы... Потым, калі яны сядзелі за сталом і рагаталі з гэтага здарэння, пан Роп прамовіў: «Рускіх за падобныя жарты мы расстралялі б...» Велікадушна, з добрай усмешкай на твары (хоць у вачах пры гэтым бліснула пагроза) былі сказаны гэтыя словы, і ён не мог не стукнуцца чаркай са сваім добразычліўцам і не выпіць за тое, што ён усё-такі вышэйшы за рускіх. «Пане Вайнарас, калі мы падымалі тосты за фюрэра і айчыну, вы пазіралі ў сваю талерку, глядзелі, чым закусіць»,— заўважыў начальнік гестапа; і ён не мог не прапанаваць тосту за «вечнага сябра літоўскага народа вялікую Германію» і не запісаць на свой рахунак яшчэ адну чарку. «Усе яны свінні, бальшавікі. Ці могуць свінні зразумець, што такое айчына?» — дадаў пан паштмайстар; і ён зноў мусіў падняць чарку («За сцяг трэцяга рэйха над цытадэллю бальшавікоў — Крамлём!»), жадаючы паказаць, што ён не свіння і што ў яго крыві няма бацылаў бальшавізму. Здаецца, ад

[1] Стой! *(ням.)*

той чаркі кола і пачало круціцца ў адваротны бок. Абліваючыся халодным потым, адчуў, што другое аблічча зноў лезе наверх, а накаўтаваць яго няма сілы. Спрабаваў устаць, але галава была пустая і лёгкая, як адквітнелы дзьмухавец, а азадак нібыта наліты свінцом. «Што вы цяміце ў літоўскай нацыі, пане... паштмайстар?.. Хіба калінебудзь вы разумелі яе, стараліся зразумець? Вам толькі падавай гусак, сала, яйкі («Liebe Mutter, Eier, Butter...» [1]). Аддай Клайпеду... Пане камендант, галубок, хіба не праўду кажу? Адзіны порт адабралі. Акно ў мо-о-ора... Але ўсё роўна мы з вамі, з вамі, пане Дангель. Служым... Аддана і паслухмяна. Фюрэру, Германіі, а сваім — што застанецца. Сваім крошкі кідаем, пане камендант... Латва смяяцца вам са свайго слугі, але часам і слуга можа адкінуць убок ліўрэю. І яшчэ як можа, пане паштмайстар... Думаеце, мне гэтыя пагоны дужа дарагія, я не маю за што пашыць прыстойны гарнітур? Напляваць мне на мундзір начальніка паліцыі, панове!.. Заўтра падаю ў адстаўку і прашу ўсіх, хто хоча, на маё месца. Хоць вы яго займіце, пане паштмайстар...» Адпаліў адным дыхам, адчуваючы, як у сэрцы сто д'яблаў скачуць ад задавальнення. («На́ табе, пане камендант! На́ табе, штурмфюрэр! Жары і ты, укормленая свіння, паштмайстар! Удавіцеся святою праўдай...») Невядома, што ён яшчэ нагаварыў бы, але паштмайстар зверашчаў, як недарэзаны парсюк, і ляснуў Адомасу кулаком у скіўіцу. Не, ён не даў здачы. Усё шчасце, што ён не даў здачы. Толькі ўскочыў (свінец раптоўна перамясціўся ў ногі) і тут жа зноўку асеў на крэсла, працяты страшным позіркам каменданта: халодныя няўмольныя вочы пранізвалі яго наскрозь, як надоечы ў двары дула пісталета. Нейкае дужа важнае колца, зрушанае ўдарам паштмайстра, раптам стала на сваё месца, і ўвесь механізм пачаў дзейнічаць, як раней. Баярчус скуголіў, торгаўся, як паралітык (здавалася, што яго пляшывая галава зляціць з курынай шыі): «Дадому, Вайнарас, хутчэй дадому! У мяне няма месца правакатарам!» Аднак мог і не выганяць. Ён мірна выйшаў з дома Баярчусаў сам. Яго заносіла ў бакі («Які д'ябал яшчэ тут штурхаецца...»), але побач была Мілда, якая падтрымлівала яго. Цьмяна асветленыя вуліцы былі панурыя і пустыя. У вусцішнай цішыні гучна стукацелі Мілдзіны абцасікі, і яму здавалася, нібыта ўвесь час нехта рухаецца

[1] Любая маці, яек, масла... *(ням.)*

ўслед, наставіўшы ў спіну чорнае дула пісталета. Раптам яму зрабілася страшна — гэтай непрабуднай цемры з рэдкімі плямамі ліхтароў, гэтых прывідных сілуэтаў дамоў,— і ён заплакаў, нібы дзіця, што заблудзілася ў лесе. Мілда суцяшала яго, але і сама таксама плакала. І першы раз пасля многіх начэй сямейны ложак зноў ім быў вузкі, і Адомас быў шчаслівы, адчуваючы, як у застылае цела іхняга кахання вяртаюцца душа, крылатая неўтаймоўная страсць і непадманлівая пяшчота.

Але раніцай, ледзьве ачомаўшыся ад сну, ён зноўку ўбачыў застаўленыя бутэлькамі і талеркамі сталы і твар каменданта, скрыўлены ва ўсмешцы.

— Дурань ты, дурань...— сказала Мілда, паглядзеўшы на яго чужымі вачамі.

У яе голасе былі прыкрасць, расчараванне, магчыма, нават пагарда, і ні кропелькі той пяшчоты, якой яшчэ дыхала пасцель. Нібы не з гэтай жанчынай ён спаў гэтаю ноччу.

— Трэба прасіць прабачэння...— прамармытаў ён.

— Я прабачаю.— І яна паглядзела на яго тым дзіўным позіркам, у якім Адомас адчуў страшны, але не зразумелы яму сэнс.

«Сапраўды, трэба пайсці да пана каменданта. Прабачце, учора набраўся, як свіння. Вельмі шкадую, entschuldigen Sie, Herr Hauptmann!..[1]»,— думаў Адомас, ужо седзячы ў сваім кабінеце. Пацягнуўся быў да тэлефоннай трубкі, аднак нерашуча адвёў руку. Не, няма чаго кідацца з гарачкі. Яны таксама былі добрыя з тымі сваімі ліхтарыкамі...

Да паўдня ён мераў кабінет цяжкімі нервовымі крокамі. Час ад часу спыняўся каля стала і пустым позіркам узіраўся ў стос пратаколаў. Уваходзіў дзяжурны (такая і такая справа, пане начальнік), але Адомас адхіляўся ад усіх спраў («А што там робіць Бугяніс, чорт вазьмі!»). «У гэты пакой рэдка калі трапляе прыстойны чалавек — усё забойцы, зладзеі, спекулянты. А я мушу корпацца ў гэтым гнаі, як апошні парабак, угнойваць чужое поле... Пане начальнік паліцыі... Асенізатар з бліскучымі пагонамі. Ха-ха-ха!» Ён расшпільваў і зноўку зашпільваў каўнер, раз за разам папраляў пасак — яшчэ ніколі гэтак нязграбна на ім не сядзеў мундзір. Невядома чаму, у галаву беспрастанку лез Гедымінас, і Адомас, не жадаючы

[1] Прабачце, пане капітан!.. *(ням.)*

прызнавацца ў гэтым самому сабе, адчуваў, што шчыра яму зайздросціць.

Зноў увайшоў дзяжурны: просіць прыняць Пятрас Кучкайліс, з Лаўксадзіса.

— Да Бугяніса!

— Кажа, дужа важная справа. Хоча з самім начальнікам...

— Няхай пачакае, калі яму гэтак рупіць.

— І яшчэ, пане начальнік: прыехаў з батальёна Жакайціс. У водпуск. Таксама хацеў бы з вамі пабачыцца. Але, разумееце, ён добра-такі нападпітку.

— Выправадзі да д'ябла!

— Не так-то проста, пане начальнік: ён узброены. Пагражае.

Адомас разлютаваўся.

— Давай сюды яго! Відаць, хоча правесці водпуск на гаўптвахце. Буянім, пане Жакайціс? — накінуўся ён, калі той, хістаючыся і ікаючы, уваліўся ў кабінет.— Аддай зброю!

— А я не раззбройвацца прыйшоў да вас, пане Вайнарас.— Жакайціс выплюнуў патухлую цыгарэту пад пісьмовы стол і шумліва пляснуўся на крэсла. Шэры азызлы твар, запалыя вочы, вугровая галоўка ківаецца ў бакі, не могучы ўтрымацца на доўгай тонкай шыі. Але ваенная форма была ў парадку, боты наваксаваныя, усе гузікі на сваім месцы.— Атрымаў тыдзень водпуску. За ўзорную службу. Скарыстоўваю, пане начальнік. Адведваю сяброў, сваякоў, знаёмых, жоначку ціскаю. Словам, дзейнічаем. Засумаваў. Можа, пляшку разам вып'ем, прыгадаем тыя цудоўныя часы, калі выбавіў мяне ад кулі, каб я іншых расстрэльваў... Працоўны батальён... Ха-ха-ха! Прылада працы — вінтоўка, а будаўнічы матэрыял — нябожчыкі. А як жа — паперу такую падпісалі, прысягнулі змагацца за Адольфа Гітлера. Файна ўладкаваў ты мяне, начальнік, ой файна, нават не ведаю цяпер, як аддзячыць...

— Чуеш, што сказаў? Аддай зброю,— душачыся ад злосці, паўтарыў Адомас.— Альбо пазваню ў камендатуру.

— Навошта гэта трэба? — Жакайціс, нядобра смеючыся, паляпаў сабе па кішэні шыняля, дзе тырчаў рэвальвер.— Гэта машынка можа пуф-паф! — і стрэліць табе ў жывот. Зусім незнарок. Што ёй значыць, чалавекам больш альбо менш? Мы там прывыклі не дробязнічаць, пане на-

чальнік. Акружым беларускую партызанскую вёску — старых і баб у клуню, чырвонага пеўня пад страху і марш далей. «Мы крочым, мы ідзём, смерць ворагу нясём». І такіх мужчын ты думаеш запалохаць камендатурай, паршывы паліцэйскі пацук! Смяротніка напужаць смерцю!

Адомас, увесь трасучыся, выцягнуў пісталет.

— Рукі на стол!

Жакайціс дзіка зарагатаў.

— Націсні, націсні, пане начальнік. Асабіста для мяне гэта ніякая не страта. Адным вырадкам на зямлі будзе менш. Шчыра кажучы, даўно думаю: добра было б, каб нехта ззаду мне бацнуў у патыліцу. Я стаміўся... Страляем і страляем, палім і палім, канца не відаць. Націсні, пане начальнік. Жакайціс пачаў калаціцца, па шчоках пацяклі слёзы.— Куды ні пайду, усё яны стаяць перад вачамі. Нямоглыя старыя, смаркатыя дзеці. За што ты нас, пане Жакайціс? А за тое, што жывы застаўся, што прадаў душу д'яблу. Бах-бах, тра-та-та... Маруса Нямуніса забіў... Ніякага Нямуніса я не забіваў. Хлусня! Нямуніс уцёк як чалавек, а я няшчасны трус...

— Выйдзі...— прашаптаў Адомас.

Жакайціс узняў галаву і з нянавісцю паглядзеў на Адомаса працверазелымі вачамі.

— Калі ішоў сюды, меў вялікую спакусу пусціць табе кулю ў мызу,— сказаў ён, цяжка ўстаючы.— Але няхай, усё роўна нехта іншы за мяне гэта зробіць.

— Выбірайся! — працадзіў праз зубы Адомас, паклаўшы палец на спуск.

Жакайціс, скасабочыўшыся, паклыпаў да дзвярэй. На парозе раптоўна павярнуўся, схапіўся за рэвальвер і здзекліва зарагатаў, убачыўшы, як сарваўся з месца Адомас.

— Іншым разам, пане начальнік. Да пабачэння.

Адомас кінуўся да акна, адчыніў абедзве паловы. Ён задыхаўся, па целе струмкамі ліўся пот. Шалёна кружыўся пакой, наўкола ляцелі брудныя зеленкаватыя сцены з партрэтамі Гітлера і Кубілюнаса. Клетка, якая насіцца ў пустой прасторы. Зараз наглядчык прачыніць дзверы і ўпусціць у клетку іншага звера... Адомас, пахістваючыся, падышоў да стала і зваліўся ў крэсла. Замкнуцца! Усё да д'ябла! Але не меў моцы ўзняцца. Сядзеў, аблакаціўшыся на кіпу папер, слухаючы дзіўнае, дагэтуль не чутае гуканне і адчуваючы, як паступова супакойваецца ўзбураная душа і ў сэрцы спее рашэнне. Абшары палёў, нібы шчодрыя абдымкі любячай маці, адкрыліся перад ім, і ён,

належачы толькі сабе і гэтым палям, вольны ішоў па мяккай раллі, і яго саграваала плённае лона роднай зямлі і блаславляла высокае неба. О так, стары меў праўду, рамантуючы тыя свае аброці, тысячу разоў меў праўду!..

І як толькі Адомас прызнаўся ў гэтым самому сабе, яму раптам зрабілася лёгка і добра, усе рэчы сталі на свае месцы і зноў пакой стаў звычайным пакоем, з якога можна выйсці і ніколі больш не вярнуцца. І тады родны дом зноў павернецца тварам да свайго сына, а сэрца каханай жанчыны будзе кахаць, як кахала. Але, панове немцы, мы абыдземся адно без аднаго.

За дзвярыма пачуўся стукат вайсковых ботаў. Адомас ямчэй усеўся ў крэсле і паправіў мундзір. «Сяджу тут ужо на правах госця. Калі Кучкайліса не задавальняе Бугяніс, няхай пачакае, пакуль прызначаць новага начальніка...»

Аднак увайшоў не дзяжурны паліцэйскі, а начальнік гестапа Дангель. Адомас пазнаў яго, ледзь толькі прачыніліся дзверы. Цвёрды энергічны крок, упэўненыя рухі чалавека, што задаволены сабой, востры пах адэкалону ў радыусе некалькіх метраў вакол Дангеля.

Адомас усхапіўся. Пакой зноў пачаў лётаць па крузе, быццам клетка, завіслая ў прасторы.

— Sehr schön, Herr Stumführer. Bitte, nehmen Sie Platz [1].

— Oh, nein [2]. Я на хвілінку, пане Вайнарас. Нашай прафесіі не ўласцівая лянота, і, апроч таго, часам трапляюцца крэслы з панатыканымі шпількамі.— Дангель усміхнуўся прадаўгаватым пластмасавым тварам, на якім адны толькі вочы здаваліся праўдзівымі, і, крутнуўшыся на цыбатых, стрункіх нагах у бліскучых ботах, пачаў аглядаць пакой.

— Хацеў пазваніць вам... зайсці...— прамармытаў Адомас, не могучы суняць дрыготку ў каленях.

— Гэта неабавязкова. Хоць звычайна я прымаю сваіх кліентаў ва ўстанове, часам бывае цікава зрабіць ім візіт.

— Учора я быў дужа п'яны... Шкадую пра гэта, пане штурмфюрэр...

— У вашага народа ёсць разумная прыказка: што ў цвярозага наўме, тое ў п'янага на языку.

---

[1] Вельмі прыемна, пане штурмфюрэр. Сядайце, калі ласка *(ням.)*.

[2] О, не *(ням.)*.

— Пане Дангель...— Адомас аблізаў перасохлыя губы.

— Супакойцеся, пане Вайнарас. Калі-нікалі можна дазволіць сабе і пажартаваць. Ведаў аднаго вясёлага тыпа, які смяяўся нават тады, калі яму чаплялі пятлю на шыю.— Дангель абышоў кабінет, уважліва аглядаючы сцены, пасля павярнуўся да Адомаса, пазіраючы на яго той самай пластмасавай усмешкай, якая дзіўным чынам дзяліла яго пусты, невыразны твар на дзве часткі.— Камісар Остлянда пан Разенберг быў бы непрыемна здзіўлены, не знайшоўшы тут свайго партрэта, а фюрэр... не думаю, што яму вялікі гонар быць у адной кампаніі з нейкім генералам.

— Перавесім, пане штурмфюрэр.

— А гэты белы конь тут ужо зусім не да месца.— Дангель махнуў рукой на сцяну, дзе за плячамі ў Адомаса вісела Пагоня.— Бессэнсоўна, сентыментальна. Дзяржаўны герб неіснуючай дзяржавы... Вы адстаяце ад гісторыі ці любіце збіраць музейную даўніну, пане Вайнарас?..

— Здымем...

— У кабінеце начальніка паліцыі павінен адчувацца дух часу. So etwas wirkt an die Interessanten positiv [1].

— Зразумела, пане Дангель.

Начальнік гестапа падышоў да акна, паглядзеў на вуліцу, па-вайсковаму павярнуўся і павольным размераным крокам рушыў да дзвярэй.

— Ведаеце, пане Вайнарас, я не з тых людзей, хто, пазіраючы на босага чалавека, верыць, што ў яго чыстыя ногі. Апраніцеся ў якую хочаце вопратку, я ўсё роўна скажу, на якім плячы ў вас радзімка. Людзі нашай прафесіі празарліўцы! Таму без усялякіх круцялёў скажу вам па-сяброўску: выкіньце з галавы дапатопны баласт. Некалі, калі я быў яшчэ гімназістам, і мяне расчульвалі старыя пялёнкі, але з часам зразумеў, што яны неабходныя толькі ў адзін перыяд чалавечага жыцця — у маленстве. Разумныя людзі не жывуць наіўнымі ілюзіямі, а цвяроза ацэньваюць гістарычную перспектыву. Маленькаму народу, што з усіх бакоў сціснуты вялікімі суседзямі, раней ці пазней наканавана растварыцца,— мякка, нібы настаўнік, які тлумачыць урок, гаварыў Дангель, шпацыруючы па кабінеце з закладзенымі за спіну рукамі.— Трэба толькі радавацца, што, дзякуючы спрыяльным абставінам, вы трапілі ў абдымкі не дзікага Усходу, а куль-

[1] Гэта становіча дзейнічае на паведвальнікаў *(ням.)*.

турнага Захаду. Сентыментальныя дурні палохаюць вас германізацыяй. Але і прусы ў свой час анямечыліся. Што яны страцілі? У той час, як ваш жэмайціец калупаў зямлю драўлянай сахою, паліў лучыну, а ягоныя дзеці ўпотайкі ад рускіх жандараў вучыліся грамаце, прускі селянін ужо тады жыў лепш, чым сёння літоўскі вясковец. Літва па меншай меры на стагоддзе адстала ад Захаду. Вашы князі пралілі многа крыві, баронячы край ад крыжакоў, але на самой справе абаранілі не Літву, а Усход, які аддзякаваў пазней за гэта кайданамі рабства. Гэта была фатальная памылка. На жаль, сёй-той і сёння не разумее, наколькі бессэнсоўна пярэчыць гістарычнай неабходнасці, і спрабуе звярнуць на сцежкі, пратаптаныя старымі дурнямі. Бачыце, я з вамі даволі шчыры, пане Вайнарас. Напэўна, і ўва мне таксама яшчэ засталося трохі літоўскай сентыментальнасці. І, апрача таго, прызнаюся, я прытрымліваюся меркавання, што разумны хрыбет спачатку трэба паспрабаваць сагнуць, бо пераламаць яго заўсёды паспеем.— Дангель спыніўся каля пісьмовага стала і першы раз за ўвесь маналог падняў на Адомаса вочы. Глыбокі пагляд зялёных вачэй быў цёплы і па-сяброўску прыязны.

— Я вас разумею, пане Дангель,— здранцвелымі губамі вымавіў Адомас.

Пластмасавая ўсмешка падзяліла твар на дзве часткі, позірк пагас.

— Не, пакуль што вы не зразумелі мяне, пане Вайнарас, але, спадзяюся, як след падумаеце.— Дангель зірнуў на ручны гадзіннік і ўжо афіцыйным тонам дадаў: — У мяне да вас адно важнае пажаданне, Herr Polizeichef.

Адомас, адчуваючы пагарду да самога сябе, выцягнуўся ў струнку.

— Я гатовы выслухаць вас, пане штурмфюрэр.

— Мне здаецца, што нашы ўстановы павінны былі б цясней супрацоўнічаць. Калі-нікалі могуць трапляцца справы, якія, хоць і ўваходзяць у вашу кампетэнцыю, настолькі сур'ёзныя, што маглі б зацікавіць і гестапа. Аднабаковае рашэнне часам прыводзіць да памылак.

— Будзем кансультавацца...

— Я гэта якраз і хацеў пачуць ад вас.— Дангель падаў Адомасу вузкую бледную руку.— Да наступнай, і больш прыемнай, размовы, пане Вайнарас. Мой візіт, можа, і зачапіў ваш гонар, але добрага каня я не люблю хвастаць бізуном, яго дастаткова проста прышпорыць.—

І, па-вайсковаму павярнуўшыся на абцасе, пакрочыў да дзвярэй.

Адомас зваліўся на крэсла. Ён быў дарэшты знясілены і фізічна і маральна. У галаве было пуста, як на аціхлым полі бою. Толькі нейкія сутарэнні, нейкія абрысы фантастычных хрыбтоў, што патанулі ў тванлівай імгле. І ў гэтым хаосе, быццам рачулка, што точыцца глыбока ў зямлі, струменілася адна-адзіная думка: «Чаму нельга плюнуць у морду, чаму нельга?..» Чужыя ногі прынеслі яго да дзвярэй, чужыя рукі адчынілі іх, і пад гудзенне пахавальных званоў чужыя вусны выгукнулі: «Кучкайліса!» «Недзе я ўжо бачыў гэтае бязгубае быдла з парсюковымі вейкамі і пабітымі каростаю шчокамі,— думаў ён, пазіраючы праз заслону імглы, што паступова рабілася ўсё радзейшая, на цяжкую чалавечую постаць, якая ўзнікла перад ім.— Ах, дык ён жа з нашай вёскі! Працавіты парабак і добры спявак. У гаспадары цэліць. Наступнік старасты Яўтакіса, на ўсе рукі майстар. Яму ўсё роўна, калодзеж ці магілу чалавеку выкапаць».

— Вы ўпэўнены, што не памыляецеся? — запытаўся ён, калі Кучкайліс, адкашліваючыся ў валасаты кулак і палахліва азіраючыся на адчыненае акно, амаль шэптам выклаў сваю справу.

— Каб я з гэтага месца не сышоў, пане начальнік. Даўно западозрыў. Прыбяжыць, бач, дзіцёнак з такой далечыні і патрапіць якраз, бач, туды, дзе яго чакаюць. Магніт прыцягнуў, ха-ха-ха, мне смешна. Жыдоўскі дух, пане начальнік, я і проці ветру чую. Яшчэ пачуў такую размову — Гірнюсаў пастух прагаварыўся,— што ў яго не такі, як у нас, каталікоў... Падгледзеў, бач, пане начальнік, калі той у возеры купаўся... Гэтыя дзіцячыя потайкі мне ўвесь час калолі вочы. Усё адзін і адзін. Хітрае жыдзяня. Але будзь ты самы расхітры, не прыклеіш, калі абрэзана, ха-ха-ха, мне смешна. Думаю, злаўлю дзе і спушчу нагавіцы, каб самому пераканацца. Тут такая справа, пане начальнік, нельга даць маху, у старостве, бач, павінен быць парадак. Нябожчык Яўтакіс, бач, цяпер ужо не адкажа, з Пятраса Кучкайліса ўвесь спрос. Справа гонару свядомага чалавека, пане начальнік. Учора вечарам надарылася нагода — лазню, пане начальнік, яны, бач, палілі. Прыміце, кажу, і мяне папарыцца, бо ў нашай печку трэба перакладаць. З бялізнай пад пахай ды з венікам айн мамент і ўваліўся ў лазню, ха-ха-ха, мне смешна. А яны голенькія, стары Нямуніс і той дзіцёнак. Каб вы

бачылі, пане начальнік, што там усчалося! Стары за вядро і ўсё вядро шух на печку, пара заклубілася да самай столі, нічога не відаць. А той шчанюк гэтым часам праз дзверы ў прылазнік і — за адзенне. Уцёк. А навошта яму ўцякаць, скажыце, калі ў яго такі самы, як у нас, каталікоў? Ці я ўпэўнены? Ха-ха-ха, мне смешна. Каб я з гэтага месца не сышоў, пане начальнік.

— Стараешся? — працадзіў праз зубы Адомас, не гледзячы на Кучкайліса.

— Трэба, пане начальнік. Я за Літву без жыдоў.

Адомас устаў.

— Можаш ісці! — Гэтыя словы ён кінуў, быццам камень: «Выбірайся да д'ябла, бо можаш зарабіць кулю ў плечы».

Кучкайліс, здзіўлены і расчараваны, паглядзеў на Адомаса.

— Добра, дзякую, пане Кучкайліс. Прымем неабходныя меры,— ужо лагадней дадаў Адомас, адчуваючы, як нябачныя пальцы нацягваюць на яго твар ўсмешлівую маску. Гэтыя самыя пальцы расшчамілі правую руку і паклалі яе на тэлефонную трубку.— Пане Дангель? Ужо вярнуліся? Гэта Вайнарас. Ведаеце, пане штурмфюрэр, такая справа...

## *Раздзел сёмы*

### I

— Пане Гедымінас, пане Гедымінас...— Голас ломкі, скрыпучы, нібы з начы занесены снегам тратуар, над якім са свістам гуляе завея.

«Зноўку настаўнік Баўкус...» Кожны раз, па дарозе ў гімназію, і потым, пасля ўрокаў, па дарозе дамоў, ён вылузваецца са скуры, каб конча апынуцца побач з Гедымінасам. Пра тое, што калісьці было, Гедымінас яму болей не напамінае, але Баўкус усім сваім прыніжаным выглядам сведчыць, што ён дык не забыўся.

Гедымінас непрыкметна паскорвае хаду. У шэрых ранішніх прыцемках будынкі плаваюць, нібы караблі ў імглістым моры. Вузкая вулачка, што пралягае між іх, перапоўнена ў гэты час гукамі: рыпяць паспешлівыя крокі прахожых, ляпаюць весніцы, трапечуцца прымацаваныя да балконаў і пад'ездаў сцягі (чырвоныя з чорнай свасты-

каю ў белых кружках і трохкаляровыя); перавязаныя стужкамі чорнага крэпу, яны, як ацалелыя шматкі экзатычных ветразяў, цяпер ва ўладзе снежных парываў ветру. Знак салідарнасці дзвюх улад — папоўнай і прыслужнай — у гэтую цяжкую гадзіну жалобы. Недзе год з паловай назад абедзве цвярдзілі: «Праз месяц Масква ўпадзе перад намі на калені». Вялікая Германія ўжо засцілала святочнымі абрусамі сталы ў гонар пераможцаў, загадзя ўпрыгожвала іхнія галовы лаўровымі вянкамі, але ў адзін дзень салодкі пірог перамогі неспадзявана ператварыўся ў велізарны могільнік пад Сталінградам. Сотні тысяч мацярок, жонак і нявестаў ніколі ўжо не дачакаюцца тых, каго праводзілі на Усход дзікімі крыкамі фанатычнай радасці, мяркуючы, што вайна — вясёлая вандроўка з кветачкай у пятліцы.

— Пане Гедымінас, пане Гедымінас...

Цяжкое сапенне каля вуха. «Дагнаў усё-такі».

— Добрай раніцы, пане Баўкус.

— Мяце...— Баўкус папраўляе настаўлены смушкавы каўнер. Чорнае паліто, чорны капялюш, бялявая пляма твару. Рухаецца бокам, хаваючы вочы ад рэзкага ветру, левым плячом штурхаючы нябачную перашкоду.

— Але-е... Надвор'е неважнецкае...

— Глыбокая зіма.

— Але-е...

— Немцам цяжка...

— Яны, здаецца, ужо прайгралі вайну,— абыякава адказаў Гедымінас.

Баўкус глыбей занурыўся ў каўнер. Абменьваючыся агульнымі фразамі аб апошніх падзеях, так бы, як і заўсёды, яны прайшлі гэты кавалак дарогі да гімназіі, але сёння з Баўкусам творыцца штосьці не тое. Голас і частыя шматкроп'і выдаюць яго хваляванне.

— У Вянцкім лесе, кажуць, аб'явіліся партызаны. Перакулілі цягнік з салдатамі. Цыстэрна спірту была прычэпленая. Дык спірт па равах цёк. Людзі панабіралі цэлыя вёдры...— мармыча Баўкус у каўнер, хоць па інтанацыі чуваць, што ён хацеў бы расказаць нешта зусім іншае.

«Учора пра гэта ён ужо казаў. У старога глузд закульгаў».

— Нічога не зробіш, трэба аплачваць рахункі.

— Быў я на чыгуначнай станцыі, мая дачка, вы ж ведаеце, у касе працуе. Цягнікі ідуць і ідуць — і ўсё поў-

ныя параненых, абмарожаных. Кажуць, найбольш абмарожаных. Рукі, ногі. Зайшлі двое такіх у чакальню, спрэс твары пазабінтаваныя, ажно глядзець непрыемна...— Вецер рве Баўкусаў голас на дробныя шматкі, шпурляе ў паветра, дзе віруюць сняжынкі.

— Лагічны вынік, пане Баўкус. Не трэба адыходзіць далёка ад дому без цёплай вопраткі.

Баўкус доўга маўчыць, разважае. Сумёты, што навалілiся на нізенькія штыкетавыя платы, ляжаць, як гіганцкія цюлені, вышчарыўшы чорныя зубы. Чорныя чаравікі па костачкі правальваюцца ў белы мяккі снег. Паныла свішча вецер, і за настаўленым каўняром, за шэрай смушкавай сцяною, адбываецца напружаная барацьба паміж настаўнікам Баўкусам і Баўкусам-чалавекам.

— Пане Гедымінас...— ён хапае Гедымінаса за руку. Словы штурхаюцца ў роце, захрасаюць у горле, душаць. Тапелец у бяскрайнім моры, якому ўсё роўна, у які бок плысці.— Я хачу вам сёе-тое сказаць, пане Гедымінас, сёетое сказаць... Да самай магілы буду вам удзячны... і, наогул, вы такі чалавек... можна даверыцца... Дапамажыце мне, пане Гедымінас...

— Гм... Што ж з вамі здарылася, пане Баўкус?

— Жонка, дзеці... Дангель гэта ведае. Ён усё ведае. Ён так і сказаў: «Пры бальшавіках ты пачаў чырванець, прыйшоў час вярнуць свой натуральны колер». Але хіба я сам тады стаў чырвоны, пане Гедымінас? Мяне пафарбавалі! Я так яму і сказаў: «Не мяне аднаго тады пафарбавалі, чаму чапляецеся толькі да мяне?» Дангель зарагатаў мне ў твар. «Ты не хочаш садзейнічаць нашай перамозе? Добра, мы гэта будзем мець на ўвазе». Я не ліхадзей, пане Гедымінас, але што мне было рабіць? Жонка, дзеці... Я ж не асоба, не герой, я звычайны чалавек, хачу жыць.

Гедымінас рэзка адвярнуўся, прыспешыў хаду. Правая Баўкусава рука, страціўшы апору, бездапаможна павісла ў паветры.

— Што вам трэба ад мяне, пане Баўкус? Якой трасцы вы ўсё гэта мне расказваеце? Хочаце, каб я стаў пасрэднікам паміж вамі і гестапа?

— Не, не! Будзьце чалавекам, выслухайце! — Баўкус дагнаў і зноў схапіў Гедымінаса за руку.— Я ім крычаў: «Ніколі не быў шпіёнам і не буду!» Яны толькі смяяліся: «Нам і не трэба шпіёна, нам дастаткова інфарматара...» Як я мог не згадзіцца, пане Гедымінас? Жонка, дзеці...

Але я не ліхадзей, пане Гедымінас, я прыстойны чалавек, я не хачу ведаць, што робіцца ў нашай гімназіі!

— Між намі не было гэтай размовы, пане Баўкус. Я нічога не чуў. Зразумелі?

— Як жа, як жа, пане Гедымінас. Вы нічога не чулі. Я так і ведаў, што вы нічога не пачуеце. Вы добры чалавек, пане Гедымінас, вы не загубіце свайго блізкага. Вы пастараецеся зрабіць так, каб усе асцерагаліся старога няшчаснага Баўкуса. Вы не дазволіце, каб я запэцкаў сваё сумленне злачынствам.

Гедымінас гняўліва пазірае перад сабой. Высокі дашчаны плот, за ім чатырохкутная скрынка з чырвонай цэглы — будынак гімназіі. Мы зараз туды ўвойдзем, пане Баўкус. У настаўніцкую, у класы. І вы пастараецеся нічога не бачыць і не чуць, але калі пачуеце... «Жонка, дзеці... Я не асоба, не герой...» Вызвальце, пане Гедымінас, дарогу гэтаму духоўнаму рахітыку, каб ён, праходзячы міма, не зачапіўся за вострыя прадметы.

Гедымінас затрымаўся. Лявонас Баўкус таксама спыніўся.

— Прашу вас, прашу...— Брамка ў дашчаным плоце шырока адчынена. Чорная рука выстаўлена наперад, як указальнік.— Прашу вас, пане Гедымінас.

— Паслухайце! — Гедымінас згроб за плечы чорную згорбленую постаць і прапіхнуў праз весніцы.— Давайце дамовімся, пане Баўкус, што мы калегі толькі ў настаўніцкай. Як вы ведаеце, я пішу вершы. А паэзія любіць адзіноту. Дык не забірайце ў мяне тыя паўгадзіны часу, якія я трачу ў вашым таварыстве, калі іду ў гімназію і вяртаюся з гімназіі пасля ўрокаў дамоў.

— Аднак...

— Давайце не будзем сварыцца, пане Баўкус.

## II

Калісьці навука гісторыі нагадвала мне звонкі горны ручай, напіўшыся з якога чалавек набываў новую моц і з новай энергіяй мог ісці далей. Пазнаючы мінулае свайго народа, правільней ацэньваеш сябе. Калі б мы не паварочваліся тварам да мінулага, засталіся б вечнымі дзецьмі, што тупаюць у стойцы, ніколі не навучыліся б хадзіць цвёрдым мужчынскім крокам, які пракладае шлях цывілізацыі і культуры. Гістарычная памяць — гэта посах, дзякуючы яму намацваем яміны, у якія звальваліся ўчора.

Я ўяўляў сябе жрацом, што трымае ключ ад магільнага склепа дзяржаў і народаў з пахаванымі там свяшчэннымі рэліквіямі чалавецтва. З дрыжачымі каленямі фанатыка (о святая наіўнасць!) я блукаў па свеце нябожчыкаў, пашанліва датыкаючыся кончыкамі пальцаў да струхлелых шкілетаў прадзедаў, і абвяшчаў жывым: «Глядзіце, гэта неўміручае мінулага нашага народа! Гэты шматок зямлі каля Балтыкі, што на карце па сваёй форме нагадвае сэрца, усеяны ўсцяж касцямі продкаў; тут знайшоў сабе магілу і вораг з Захаду, узброены каталіцкім крыжам і блаславеннем папы рымскага, і вораг з Усходу, які пад імперыялістычнымі царскімі сцягамі пашыраў сваю дзяржаву да шостай часткі свету. Дык паклонімся святой памяці продкаў, няхай яна будзе невычарпальнай крыніцаю моцы для наступных пакаленняў, што ідуць шляхам свабоды...» Аднак я бачыў: свабода страчана, дрэўца засыхае, не паспеўшы прыжыцца, і плакаў разам з паэтам:

Мы радасна ішлі, нам быў відзён
прасторны шлях — Літва снавала крозы.
Цяпер трухлеем у астрозе дзён,
забыўшыся, што значаць пот і слёзы...

А ўсё адно спяваў гімн разам з тымі, хто паліваў гэтае дрэўца кіпнем:

О Літва, айчына наша,
волатаў разлога!
Хай сыны твае бясстрашша
чэрпаюць з былога...

Я яшчэ верыў у гістарычную справядлівасць. Вільнюс мы прызналі за палякамі, Клайпеду аддалі немцам... Дзяржаўны муж з элегантнай бародкаю і закручанымі ўгору вусамі за нейкую гадзіну адрокся ад прынцыпаў, якімі дваццаць два гады карміў свой народ. Плынь часу змые яго здраду, ачысціць ад двурушнасці, адасобіць ад радні, для якой ён зрабіў куды больш, чым для свайго народа, і праз мноства гадоў які-небудзь настаўнічак гісторыі скажа сваім вучням: «Ён быў першым прэзідэнтам нашай дзяржавы, яму належыць адно з самых ганаровых месцаў перыяду нацыянальнага адраджэння».

З памяці гісторыі сатруцца баўкусы, адомасы, бугянісы, дангелі, усе гэтыя чарвякі, якімі сёння кішыць заражанае фашызмам цела чалавецтва, а ё н, хто даў пачатак гэтай страшнай заразе, будзе ўпісаны ў к н і г у м і н у л а г а. «Пры Гітлеру германская імперыя дасягнула вяр-

шыні сваёй магутнасці»,— заканстатуе гістарычны факт нямецкі гісторык, а мой далёкі калега з якой-небудзь Баварыі з прафесійным задавальненнем паставіць вучню найвышэйшую адзнаку за дакладны адказ аб дзяржаўных межах Германіі 1942—1943 гадоў. Сіта часу прасее шкілеты ахвяр, зацярушваючы забыццём мільёны няшчасных лёсаў, і застануцца толькі нежывыя лічбы (столькі і столькі загінула альбо знішчана), толькі матэматычна дакладныя даты (адбылося тады і тады), толькі ўсталяваныя факты, якія ўслаўляюць асобу,— бо гісторык перш за ўсё аддае даніну не сыну, забітаму Іванам Грозным, не будаўніку-мужыку, на касцях якога вырас Пецярбург, а самому Івану Грознаму альбо Пятру Першаму, што цэментавалі народнай крывёю магутнасць дзяржавы. Гістарычная ісціна... (Ха-ха-ха!..) Гэта універсальны бот, які кожная ідэалогія нацягвае на сваю нагу. Пацешныя прапагандысты мёртвай мінуўшчыны! Шукаем блох у пахавальных саванах, аперыруем стагоддзямі, забыўшыся, што самім нам суджана пражыць надзвычай мізэрны адрэзак часу, што кожны з нас — гэта асобны свет, асобная нацыя і дзяржава, што кожны творыць сваю гісторыю і што самае важнае ў чалавечым жыцці — навучыцца пражыць дзень, каб вечарам сказаць сабе: «Я сёння задаволены табою, мой сябра». Ці задумваўся калі над гэтым хоць бы адзін з сарака чатырох гімназістаў, што схілілі цяпер над сшыткамі галовы, панапіхваныя звесткамі пра розных гістарычных асоб? «Маё шчасце — у маім сумленні». Не, яны хутчэй скажуць: «Маё шчасце — у рассеянасці майго настаўніка, гэтак мне лягчэй яго ашукаць».

Гедымінас закрэсліў дзве апошнія страфы верша і ўстаў. Стаптаныя маснічыны па-здрадніцку зарыпелі пад нагамі. Клас замёр, спалохаўшыся, ці не занадта шмат ён сабе дазволіў за гэтыя чвэрць гадзіны, пакуль настаўнік, як звычайна ў час пісьмовай работы, блукаў у лабірынтах сваіх думак. Матэматык Баўкус скардзіўся: шосты клас — самы горшы ва ўсёй гімназіі, ледзь толькі кранешся з месца — падлога і зайграла, нібы арган, папярэджваючы шпаргальшчыкаў. Стары мае слабасць — любіць падкрасціся на пальчыках да несумленнага вучня і знянацку схапіць за каршэнь. «Які ў гэтым сэнс? — прыгадаўшы, падумаў Гедымінас.— Каб я больш ленаваўся, а мае настаўнікі менш шчыравалі, напэўна, не спатрэбілася б дваццаці васьмі гадоў, каб зрабіць выснову, што ўсё, чым я да гэтага часу жыў,— адно балеснае непаразуменне. Горы

перачытаных кніг, гімназія, тры курсы універсітэта, ганар, надзеі бацькоў... Ланцуг недарэчнасцей, якім я пакупова аблытваў сябе, думаючы, што вызваляюся. Інтэлігенцыя — цвет народа... Ха! Рабы палітычнай сістэмы, мы самі сабе пабудавалі астрог, замкнуліся ў ім і ключ выкінулі праз акно. Калі хто і свабодны ў грамадстве, дык гэта земляроб, бо ён, не гандлюючы сваім сумленнем, спаўняе свяшчэнную місію — карміць чалавецтва».

Пачуўся стукат: у некага ўпаў на падлогу падручнік. Вучні зачмыхалі і павярнулі галовы да апошняй парты, пад якой, дастаючы падручнік, соп Антанас Мінкус. У класе ён быў белай варонай: дваццацігадовы бэйбус, аднагодкі якога яшчэ летась атрымалі атэстаты сталасці; амаль усе ў класе глядзелі на яго з паблажлівай усмешкай, аднак аддавалі належнае яго фізічнай сіле і розным завугольным здольнасцям — да флірту, картаў, чаркі. Але калі аднаго разу яго ўбачылі на рыначным пляцы з вінтоўкаю за спіной, а потым, праз некалькі дзён, ён прыйшоў у гімназію з падпухлымі ад п'янства вачамі і пахваліўся, што ён дапамагаў немцам «парадкаваць» яўрэяў, у класе ўсе аднадушна адвярнуліся ад яго. Гедымінас уваходзіў у шосты клас з прыгнечаным настроем і стараўся не пазіраць на крайнюю парту, куды, параіўшыся з класным кіраўніком, засунуў Мінкуса, аднак увесь час адчуваў яго прысутнасць. «Гэтыя спакойныя, нават, здаецца, добрыя вочы цэліліся ў чалавека, а гэтыя пальцы, якія яшчэ не так даўно трымаліся за матчыну спадніцу, дапамагалі забойцам адпраўляць на загубу іншых мацярок»,— думаў Гедымінас, выклікаўшы Мінкуса адказваць урок. Той блытаўся, мыкаў, як першакласнік, якога злавілі на хлусні. Дарослы хлапец, чые рукі былі заплямлены крывёю, ператвараўся перад настаўнікам у бездапаможнае дзіця, гатовае цалаваць настаўнікаву руку, каб толькі тая вывела запаветную тройку. «І перад гэтым смаркачом людзі падалі на калені?!» Гедымінаса апаноўвала злоснае жаданне паздзекавацца з Мінкуса, высмеяць яго перад класам, аднак ён утаймоўваў сябе, разумеючы, што гэтага нельга зрабіць, не прыніжаючыся самому. «Зрэшты, якое права мы маем асуджаць чалавека, калі ён, прыходзячы на гэты свет, не выбірае ні характару, ні натуры, ні жыццёвых абставін, а яны ж і абумоўліваюць яго паводзіны?»

— Пакіньце падручнік у спакоі, Мінкус,— сказаў Гедымінас, стараючыся вытрымаць халодны афіцыйны тон, які быў яму не ўласцівы ў стасунках з вучнямі.— Калі

яшчэ раз заўважу, што вы «кансультуецеся», пастаўлю двойку.

Мінкус неахвотна ўстаў.

— Чаму мне аднаму, пане настаўнік? Увесь клас мае падручнікі.

— Мае, аднак яны карыстаюцца імі дома, калі рыхтуюць урокі, а не цяпер.

— Карыстаюцца і цяпер, аднак вы, пане настаўнік, чамусьці іншых не заўважаеце. Чамусьці толькі Мінкус вам вочы мазоліць...— Мінкус гаварыў, вінавата апусціўшы галаву, голас у яго пакорлівы, перапрашальны, аднак у ім гучала кепска прыхаваная пагроза.

Гедымінас не стрымаўся. Ён адразу ж і сам пашкадуе пра свае словы, але тая болька, якая так доўга нагнойвалася, мусіла аднойчы прарвацца.

— Не мерайце людзей па сабе, Мінкус. Каму другія мазолілі вочы, той зараджаў вінтоўку, каб ачысціць вакол сябе прастору.

Мінкус пабляднеў і моўчкі сеў на месца.

— Аддай сюды падручнік.

— Забярыце ва ўсіх.— Мінкус не паварушыўся, нават не падняў галавы, аднак Гедымінас заўважыў на яго твары тую тупую зацятасць, з якой ён хадзіў па рыначным пляцы.

— Вучні, пакладзіце на парты падручнікі па гісторыі. Дзяжурны, збярыце кнігі і занясіце на стол. Кожны рад асобным стосам.

«Не трэба было ісці на кампраміс,— тут жа, услед за сваім загадам, падумаў ён.— Сярод урока ўсчаў торг. Я станаўлюся смешны». Зазлаваны, падышоў да акна. Падаў снег. Ужо без ветру, вялікімі цяжкімі камякамі. Елкі ў школьным садзе нагадалі яму адзін зімовы дзень, калі ён быў яшчэ малы. Нічога асаблівага тады не адбылося, але ў глыбіні свядомасці на ўсё жыццё застаўся вобраз: нізкае пульхнае неба ў рамах акна, хвалістая тканіна пушыстых сняжынак, кіславаты пах яловых галін. «З такіх дэталяў і складаецца чалавечая душа. Цікава, ці бачыў калі Мінкус праз акно *жывую* зіму?» Усё яшчэ злуючыся на сябе, ён прайшоў да дзвярэй, пастаяў каля дошкі і зноўку сеў за стол. Сёння ён верша не скончыць. І заўтра таксама. На дні тры, не меней, сапсаваны настрой. Страшэнна доўгія і панурыя зімовыя вечары. А трэцяй гадзіне абед. Гадзіна на адпачынак. Да сямі паспее падрыхтавацца да заўтрашніх заняткаў. Дзве-тры гадзіны пачытае.

А куды падзець астатні час? Пайсці ў кіно? Паглядзець прапагандысцкія рэпартажы, як «гераічная нямецкая армія паспяхова нішчыць ворага», а «вызваленыя народы Еўропы радасна твораць новую будучыню»? Альбо зманціраваны паводле рэцэпта Гебельса фільм, у якім звышчалавек у імя нацыянал-сацыялісцкага гуманізму ботамі, падкутымі нянавісцю, топча звычайную чалавечнасць? Не, лепей ужо прабавіць час у географа Туменаса, дзе збіраюцца настаўнікі-аднадумцы, якія аплакваюць незалежнасць Літвы і складаюць палітычныя прагнозы на дзесяць гадоў наперад. Хоць можна пасмяяцца (а смех — гэта адпачынак) з прыдуркаватай сентыментальнасці чалавечкаў. Але мы не пойдзем ні туды, ні сюды. Мы выберам гарызантальнае становішча, захутаемся з галавою коўдрай і храпаком увянчаем яшчэ адзін дзень, пражыты папуста.

Гэтак разважаючы, Гедымінас бязмэтна перакладаў падручнікі з аднаго стоса ў другі, часам гартаў, удыхаючы пах кнігі, які заўсёды яго хваляваў. «Усе вучацца па адных кнігах, а вынік...» Ад гэтай думкі яму зрабілася лягчэй. Выцягнуў з правага стоса падручнік, акуратна загорнуты ў белую паперу. Вокладка кнігі, перамаляваная праз кальку, прозвішча, напісанае ад рукі, але друкаванымі літарамі. Рута Габрунайтэ. Старанная, руплівая вучаніца. Паміж старонак ядвабная нітка, якая служыць закладкай. Не любіць укладаць у кнігу засушаныя кветкі, як гэта робяць іншыя дзяўчаты. Гедымінаса зацікавіла другая вокладка — яна была прыкметна таўсцейшая, мабыць, нешта было ўкладзена за абгортку. Гедымінас не зразумеў, што прымусіла яго адступіць ад сваёй заўсёднай карэктнасці — ён не любіў поркацца ў чужых таямніцах і іншых асуджаў за гэта. Хутчэй за ўсё палез за вокладку машынальна, па рассеянасці. Спачатку здзівіўся, пасля спалохаўся. Такую газетку (на чатырох старонках, фармат лістоўкі), толькі пад іншаю назвай, ён бачыў нядаўна ў Туменаса. Артыкул аб мінулым літоўскай нацыі, які апеляваў да патрыятычных пачуццяў. Заклік да моладзі не ўступаць у вермахт, ухіляцца ад працоўнай павіннасці («Вашы рукі і сэрцы спатрэбяцца пасля вайны, на аднаўленні незалежнай Літвы»). З акупантам пакуль што мірнае суіснаванне («Трэба цвяроза ацаніць становішча»), аднак няхай кожны літовец памятае пра Грунвальд і хай будзе гатовы, як толькі складзецца зручная палітычная сітуацыя, нагадаць немцам урок гісторыі... Гедымінас ведаў, што ёсць падпольны друк і іншага характару. Часам, пры-

клееныя пад сховай ночы, на тэлеграфных слупах і сценах дамоў з'яўляліся лістоўкі, што заклікалі ўступаць ва ўзброеную барацьбу з акупантамі. Неяк Адомас у кішэні свайго паліта знайшоў лістоўку падобнага зместу са знаёмым заклікам: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» Аднак ні дэвізы фанатыкаў, якія зацята верылі ў тое, што гісторыя паўтараецца, ні тых, другіх, што не прызнавалі ніякага кампрамісу і выратаванне нацыі бачылі адно толькі ў крывавым супраціўленні, не знаходзілі ніякага водгуку ў Гедымінасавай душы. «Абодва сцягі імкнуцца да ўлады, а ўлада адных азначае прыгнёт другіх». Праўда, калі Гедымінас атрымаў ад Туменаса сакрэтную газетку і сваімі блюзнерскімі развагамі вывеў таго з цярпення, ён і сам быў усхваляваны. Але толькі таму, што ў пагібельны вір палітычнай барацьбы магла ўцягнуцца гімназічная моладзь.

«Я быў наіўны, а можа, і дурны. У такім узросце і мы соўгалі рукі ў агонь, думаючы, што гэта эліксір жыцця, дзякуючы якому адрастаюць адцятыя галовы...»

Гедымінас згарнуў газетку і паклаў на ранейшае месца.

— Застанься, нам трэба пагутарыць,— сказаў ён пасля званка Руце Габрунайтэ.— Дзяжурныя таксама могуць ісці, я сам праветру клас.

Дзяўчына стаяла каля настаўнікавага століка, трымаючы ў руцэ згорнуты ў трубачку сшытак. Карыя кемлівыя вочы, далікатны авал твару, пухлявы падбародак з ямачкай, яркі румянак на шчоках. Цёмна-каштанавыя валасы заплецены ў дзве тугія касы. Сціплая гімназічная сукенка ўжо не магла схаваць пазграбнелых формаў дзявочага цела. «Ёй семнаццаць гадоў»,— падумаў Гедымінас.

— Пакладзі сшытак на стол, да іншых.— Ён прайшоў да дзвярэй і назад, разважаючы, з чаго пачаць размову.— Ты разумееш, што пагражае за такія рэчы?

Яна кіўнула галавой.

— Спадзяюся, Рута, гэта... выпадкова трапіла ў твае рукі. Больш такіх выпадковасцей не павінна быць. Разумею, дзявоцкая цікаўнасць, аднак для гестапа гэта не апраўданне.

Яна нечакана ўсміхнулася. Вузкія жвавыя вочы адважна, з дзіцячым даверам паглядзелі на Гедымінаса.

— Але, пане настаўнік. Я была неасцярожная.

— Паслухай, дзяўчынка, я гавару ўсур'ёз. Няхай палітыкай займаюцца авантурысты. Гэта не дзіцячыя гулі.

— Я разумею вас, пане настаўнік.— Яна па-змоўніцку ўсміхнулася.

— А іменна? — рэзка запытаўся Гедымінас, крануты за жывое тонам яе адказу.

— Вы кажаце так як службовец, па абавязку. А на самой справе не верыце, што ўсе, хто змагаецца з немцамі, робяць гэта з жадання пагуляць.

«І гэта гаворыць дзяўчынка, якая да гэтага часу, здаецца, нічым не цікавілася, апроч урокаў і настольнага тэніса»,— падумаў уражаны Гедымінас.

— З якога гэта часу вучні пачалі падазраваць свайго настаўніка ў няшчырасці?

— Спадзяюся, што вы, пане настаўнік, не станеце скардзіцца на мяне дырэктару...— Яна зноў паспрабавала ўсміхнуцца, але ў голасе яе ўжо не было ранейшай упэўненасці.

— Не, мы знойдзем іншае выйсце.— Гедымінас узяў са стала падручнік і выцягнуў з-пад абгорткі газетку.

— Бачыце, вы самі прызналіся, што сумленны чалавек у гэты час не можа стаяць збоку.

— Я?! — Гедымінас, хаваючы сваю збянтэжанасць, павярнуўся да акна.— Якім жа чынам, дазвольце папытацца?

— Вы не выдадзіце мяне, пане настаўнік, і тым самым станеце на наш бок, а не на бок немцаў.

— Я не выдам толькі таму, што ненавіджу даносчыкаў. А звыш таго, Рута, каб быць чалавекам, не трэба станавіцца на чый-небудзь бок. Чалавечнасць не дзеліцца на паловы. Яна, як і подласць, ёсць усюды, дзе жывуць людзі.— Гедымінас падышоў да кафлянай грубкі і, адчыніўшы дзверцы, шпурнуў туды газетку.— Служэнне палітыканам нічога добрага табе не дасць, Рута. Калі любіш сваіх блізкіх, рабі так, каб ім не давялося смуткаваць праз цябе. Пастарайся застацца чалавекам, і гэта будзе вельмі многа, бо калі б кожны паводзіў сябе гэтакім чынам, цяпер не курчыўся б свет у самазабойчай агоніі.

Руціны вочы ўжо не ўсміхаліся, позірк быў халодны і расчараваны.

— Мае блізкія — увесь народ, пане настаўнік, бедныя заняволеныя людзі, якім няма месца на сваёй зямлі. Вы кажаце, чалавечнасць... А хіба чалавечна спакойна стаяць і пазіраць, як бандыт бурыць наш дом?

— Не будзем гуляць у герояў, Габрунайтэ.— Гедымінас прысеў перад грубкай на кукішкі, чыркнуў запал-

кай.— Некалі, вядома, былі і героі, аднак сёння пра іх ніхто і не ўспомніў бы, калі б не палітыканы, што заўсёды знаходзяць у картатэцы гісторыі пасведчанне аб смерці якраз таго суб'екта, які патрэбен ім, каб аздобіць сваю ідэалогію.

Запанавала ціша, нядоўгая, аднак абаім яна здалася бясконцай. Гедымінас зачыніў дзверцы і паглядзеў на дзяўчыну. Твар у яе быў чырвоны, быццам яго апёк агонь, які палымнеў у грубцы. З горда выпрастанаю паставай, з узнятаю галавой (абрысы яе зграбнага цела цяпер яшчэ больш кідаліся ў вока), яна здалася Гедымінасу надзвычай прыгожай.

— Калі так, пане настаўнік, дык дазвольце запытацца, чаго былі варты вашы словы на ўроках па гісторыі Літвы?

— Хіба настаўнік абавязаны рабіць справаздачу перад сваімі вучнямі? — кінуў ён першую фразу, якая прыйшла яму ў галаву.

— Вядома, не, прабачце мне, пане настаўнік. Аднак я ніколі не забуду, як цудоўна вы тлумачылі ўрок. Гісторыя стала маім любімым прадметам. Вы нас вучылі любіць мінулае Літвы, ганарыцца яе героямі, ненавідзець ворагаў, а сёння, калі немцы топчуць нашу зямлю...— Яна памаўчала, утаймоўваючы хваляванне, і ўжо цвёрдым голасам закончыла: — Мы так у вас верылі, пане настаўнік!

Гедымінас адчуў, як запалалі ў яго шчокі, быццам хто ляснуў па твары.

— Паслухайце, Габрунайтэ,— сказаў ён, не адважваючыся павярнуцца.— Я не абавязаны даваць вам тлумачэнні, але сёе-тое растлумачу, бо адчуваю за сабою віну. І не перад вамі адной, а перад усёй школай. Але ўсіх не склічаш і не скажаш таго, што я скажу вам адной. Зрэшты, такая думка мне і ў галаву не прыходзіла. А справа зусім простая: жыве чалавек, перакананы, што яго ідэалы самыя справядлівыя і высакародныя ў свеце, пакуль аднаго разу ружовая імгла не рассеецца і ён не ўбачыць рэчаіснасць такую, якая яна ёсць. Я вас уводзіў у зман, Рута, але несвядома, бо і сам быў уведзены ў зман. Ці можаце вы мне даравацъ?

— Настаўнік...

Ён павольна павярнуўся і ступіў гэтых некалькі крокаў, якія іх падзялялі.

— Настаўнік...— паўтарыла яна шэптам.

Ён хацеў пакласці далонь на яе галаву, але позірк на-

штурхнуўся на недзіцячыя грудзі, і ўжо ўзнятая рука сарамліва апусцілася ўніз.

— Вы павінны былі б, Рута, злаваць на мяне, а вы шкадуеце,— сказаў Гедымінас, наскрозь бачачы яе думкі.— Я вас не пераканаў. Што ж, можа, яно і лепш. Хоць бы мне, бо здымае з мяне адказнасць. У жыцці здараецца так, што, жадаючы чалавека ўратаваць, топіш яго. У першыя дні вайны я гэта паспытаў на сваёй скуры: спрабаваў зберагчы аднаго гарачага юнака, а атрымалася, што загубіў. Вінаваты? Не ведаю. Сённяшняе наша жыццё — хаос, а ў хаосе не можа быць логікі, яе замяняе выпадковасць. Што ж, кіруйцеся ёю, хадзіце з завязанымі вачамі па краі прорвы...

Зазвінеў званок.

— Дзякую, пане настаўнік.— Яе голас быў халодны і ветлівы, аднак усмешка, што праслізнула па іранічна скрыўленых губах, агаломшыла Гедымінаса.

Ён упхнуў пад паху сшыткі, у другую руку ўзяў класны журнал і, горбячыся ад ганебнага пачуцця прыніжэння, пайшоў да дзвярэй, пракладаючы сабе шлях у гурме гімназістаў, што з шумам рынулі з калідора.

## III

Ён пайшоў дамоў пасля чатырох урокаў — пятага, апошняга, у той дзень у яго не было. Снег ужо не падаў. Халодная зімовая ціша панавала на вуліцах, на якіх сямтам корпаліся дворнікі ў кажухах, лапатамі расчышчаючы заваленыя снегам тратуары. Пасвятлелае неба адсунулася ад зямлі, зрабілася цяплейшае, прасторнейшае, а дамы весялейшыя, хоць сонейка іх лашчыла толькі здалёк, праз парадзелую заслону аблокаў. Нерухома віселі сцягі, быццам развешаныя шынялі забітых, аднак жывыя на іх амаль не звярталі ўвагі; хіба што нямецкі салдат спішаў на якую хвіліну сваю хаду, працяты раптоўнай думкай, што калі-небудзь і яго гераічную смерць адзначаць чорнымі стужкамі крэпу.

Трэба было зайсці ў краму, атаварыць карткі, але тады давялося б несці прадукты дадому, а Гедымінасу хацелася паблукаць па горадзе. Кожны раз, апынуўшыся пасля ўрокаў за дзвярамі гімназіі, ён адчуваў незразумелую палёгку; туга па прасторы і адзіноце цягнула яго ў ціхмяныя вулачкі прадмесця, дзе ў драўляных дамках, агароджаных плетнікамі, у таполях, якія паабсядалі крыклівыя

вароны, было так шмат свайго, шчымлівага, дарагога, што нагадвала родную вёску! Тут не кідаліся ў вочы мундзіры і згаладнелыя твары палонных — чарапы, абцягнутыя збуцвелым пергаментам; горад адступаў за мяжу рэальнасці са сваімі катамі і пакутнікамі, оргіямі і агоніяй, і Гедымінас заставаўся сам-насам з сабой, паглыбляўся ў свет свайго ўяўлення, у якім «...жывуць гэтакія ж бяссільныя, нешчаслівыя людзі, як і я сам. Вашчаныя фігуркі ў распаленых да чырвані руках лёсу, якія не ведаюць, што з іх вылепіць заўтрашні дзень: праведніка ці зладзея, святога пакутніка ці смуродлівы труп. Гаротныя рабы, запрэжаныя ў воз жыцця, жабракі, з якіх рэдка хто хавае ў сваіх убогіх лахманах адзіна каштоўную манету — шчырае жаданне застацца сумленным, бо менавіта ў гэтым наша душа: страціўшы сумленне, чалавек ператвараецца ў нябожчыка. Так, мы жывём сярод гораў трупаў, але тут, на ўскрайку горада, дзе каркаюць вароны, слабей адчуваецца пах гнілля». Гедымінас ішоў па нядаўна пракапанай сцежцы, што вілася, быццам якая траншэя, па краі вулачкі. Месцамі сумёты ўздымаліся вышэй галавы, па-над іх тоўстымі гладкімі спінамі былі відаць толькі белыя вільчыкі стрэх. Дзе-нідзе траншэя абрывалася, і даводзілася брысці ледзь не па самы пояс у снезе, пакуль выцярэбліваўся зноў на сцежку. «Знайшоў месца для пагулянак. Даследчык Паўночнага полюса...» — кпіў ён з самога сябе, аднак упарта пхнуўся наперад; яго гнала неўтаймоўнае жаданне ўцячы ад самога сябе, ад сваіх думак, ад свайго настрою. Снег набіваўся ў чаравікі, насыпаўся ў шкарпэткі, раставаў на голых лытках (Гедымінас не прызнаваў сподняга, апроч спартыўных трусоў і майкі), халодная вільгаць апякала мышцы, але ён быў задаволены: вось у яго прамоклі шкарпэткі, вось ён выцірае пот з ілба, вось ён, паслізнуўшыся, вылаяўся і на хвіліну забыў самую непрыемную падзею сённяшняга дня — размову з Рутай Габрунайтэ. Аднак час ад часу размова ўсё роўна ўспаміналася, і тады станавілася страшна ад думкі, што гэтае бадзянне па занесеных снегам вулачках прадмесця не можа доўжыцца вечна, настане заўтрашні дзень, калі давядзецца зноў адчыніць дзверы настаўніцкай, увайсці ў клас, гаварыць вучням тое, у што не верыш сам. Перш за ўсё, вядома, давядзецца выслухаць інфармацыю пана дырэктара: учора тое і тое было кепска, звярніце ўвагу, панове... палітычны момант патрабуе... шкодны ўплыў заходняй плутакратыі на вучняў... наш абавязак перад фю-

рэрам і Германіяй, панове... Усе будуць згодна ківаць галовамі, нехта нават адпусціць вострыя досціп на адрас «шкодных дэмакратычных настрояў», аднак нават сам Зыгмунтас Заўка, дырэктар, гэты празарлівец з Саўгумасу [1], не зможа ўгадаць, хто з ягоных настаўнікаў трымае дулю ў кішэні. На першым перапынку географ Туменас, узяўшы пад руку, прашэпча табе на вуха: «Пераемнік, варты Умілы, хе-хе...» Сустрэнеш іншага, таксама пачуеш нешта падобнае. А вакол будзе ўвівацца Лявонас Баўкус, душа-чалавек, у сэрцы якога, аднак, месцяцца толькі жонка і дзеці... «Пане Гедымінас, увайдзіце ў маё становішча»,— упрошваюць яго па-сабачы адданыя вочы. Аднак будуць і іншыя вочы, шмат вачэй, якія сустрэнуць яго з сумным здзіўленнем і горкім дакорам («Мы так верылі ў вас, пане настаўнік...»), нявінныя дзіцячыя вочы, якія верылі, што ён адкрывае ім вялікую ісціну, а ён засляпляў іх згубнай хлуснёй.

«Як жа я заўтра буду глядзець у іх?»

Ён спыніўся каля нейкага двара, раптам адчуўшы, што ледзьве трымаецца на нагах ад знямогі. Упасці б у сумёт, як рабіў у маленстве, калі дужа стамляўся. Хоць бы на імгненне прытуліцца спіною да рыплівага снегу, паглядзець, як глядзіць дзіця, на зімовае неба. Аднак што падумаюць вунь тыя два чалавечкі, што тупаюць каля сваіх саняў. «П'яны альбо дурны...» Мы ніколі не можам застацца самі сабою, мы заўсёды асцерагаемся, каб нас часам не абсмяялі альбо не палічылі вар'ятамі. Двор небаракі Нурока... Сам ён шыў, жонка трымала маленькую крамку — бочка селядцоў, мех цукру, пара палічак, застаўленых усялякай драбязой. Непрыкметныя, але добрыя людцы. Цяпер іх ужо няма. Толькі дом — драўляны, з вялікай незашклёнай верандай — стаіць сабе як ні ў чым не бывала. І патанулая ў снезе, пагрызеная конямі канавязь, да якой вяскоўцы, прыехаўшы ў горад, па прывычцы прывязваюць сваіх гнядых і сівых. Сялянская інертнасць ці адданасць ідыліі? Ці туга па базарных днях, насычаных пахам дзёгцю і конскай мачы, калі, удала прадаўшы тавары, ты браў чарку магарычу ў Хайчыным пакойчыку (у другім пакоі вуркатала швейная Хаімава машына), а за дзвярыма раз за разам бразгатаў званок і жанчыны, напхаўшыся ў крамку, гаманілі, нібыта гусі ў кашах. Вы-

---

[1] Літоўская служба бяспекі ў міжваенным перыядзе і ў часе другой сусветнай вайны.

кочваўся на двор запараны, станіўшыся ад галасу, духаты і цеснаты — цьфу, ну і дзіра! — але сёння, калі ўсё гэта незваротна страчана, шмат аддаў бы, каб зноў змагчы паштурхацца сярод корабаў, у якіх кудахкалі куры, патрэсквалі яйцы, сярод кіслых кажухоў і салёных сярмяг і, удыхаючы пах селядцоў і газы, паслухаць чуйны крамны званочак.

«Гэтыя людзі прыехалі шукаць учарашняга дня,— падумаў Гедымінас.— Добра было б пасядзець на іх санях, якія, напэўна, засланы лёнам. Але можа быць і салома, хоць яна і не пахне клуняй. І адно і другое — гэта вёска. Сонца, палі, цёплае дыханне скаціны ў хляве. Хачу хоць на хвілінку апынуцца ў вёсцы».

Ён завярнуў у двор.

Пара вяскоўцаў варушылася каля саней. Павярнуўшыся да яго спіною, нешта ладкавалі, раз-пораз перагаворваючыся між сабой.

— Добры дзень! — занадта гучна загаварыў Гедымінас, апанаваны дзіўным хваляваннем.

Абое азірнуліся. Аквіля — раптоўна, Хвеліксас Кяршыс — паволі, нібы сумняваючыся, ці варта траціць час на ўсялякую лухту.

— А-а, Гедымінас...

— Пане настаўнік... кум...

Усе трое ўсміхаліся, намагаючыся схаваць ніякаватасць.

— Прыемная неспадзяванка,— прамармытаў Гедымінас, паціскаючы абаім рукі.— Прызнаюся, не чакаў, што сустрэну вас тут. Ты ж, Хвэлька, здаецца, ездзіў раней да Бергманавай карчмы?

— Было такое... было...— замыкаў Кяршыс, хаваючы твар у настаўлены каўнер кажуха.

— Адгэтуль бліжэй да бальшака, не трэба трэсціся па бруку,— умяшалася Аквіля, спяшаючыся змяніць кірунак размовы.— Прывезлі сёе-тое знаёмым. Ведаеш жа, што ў горадзе цяпер бядота. Чалавек, нават маючы грошы, не можа купіць, чаго трэба.

— Імшу, значыць, заказалі. За вечны супакой Пранаса і Казюні,— дадаў Кяршыс.— Неўзабаве паўгода, як немцы іх...

Гедымінас прысеў з краю на санях. Справа тупацелі Аквіля з Кяршысам, з левага ўзвышаліся заінелыя клубы буланага ардэна.

— Твой конь?

Кяршыс задаволена ашчэрыў зубы: заўважыў, ага...

— Збыў сваю сіўку,— ганарліва пахваліўся ён.— Валілася з ног ад ветру. Гэты, праўда, кульгае на адну нагу — сухажылле павярэджана,— але плуга пацягне, нібы запалку. А-эх, другога ў такі час і не паказвай нават: немец адразу ж забярэ ў свой абоз.

— Танна ўдалося купіць,— падтрымала мужа Аквіля.— Ехаў праз вёску камендацкі абоз. Хвэлька запрыкмеціў, што адзін конь у іх накульгвае, угаварыў немцаў. Палова свінча — і буланы наш. І ведаеш, якую замену яны сабе знайшлі? — Аквіля засмяялася.— Выйшла як у казцы, думай — не прыдумаеш. Якраз праязджаў міма наш Юргіс, вёз буракі са склепа. Немцы за яго: заехалі разам з ім у двор, выпісалі квіток, выпраглі гнядога — і бывайце здаровы. Катра Табака ледзь вёску не разнесла — так драла горла. Успамінала бога, Адомаса, паліцыю, пагражала, што паскардзіцца самому Гітлеру. На цэлы год хопіць людзям размовы і смеху.

Кяршыс усміхнуўся паловаю рота, успрымаючы гэта як пахвалу сабе.

— Міжволі так атрымалася.— Ён нібы апраўдваўся, што, не жадаючы таго, прычыніў крыўду другому чалавеку.— Не мне, дык некаму іншаму ўпрэзенталі б свайго буланага, у некага іншага забралі б здаровага каня. У час вайны не ўпільнуеш, што чыё і што да чаго...

— А як жа.— Гедымінас машынальна паківаў галавой. Сані былі ўсланы лёнам, аднак ён чамусьці клуняй зусім не пахнуў...— Я рады, што вам шанцуе. Не кожны здолее нажыцца, калі краінай кіруюць рабаўнікі.

— А ты і пазайздросціў.— Аквіля адчула сябе закранутаю за жывое.— Які тут нажытак, лепшага каня займелі, дый годзе. Быў бы мірны час, а цяпер... За паўдарма немцам трэба збожжа аддаць, амаль нічога не застаецца на продаж. Вось прывезлі кіло-другое сала, масла, вымянялі на вартыя рэчы. Не марка, не рубель, не прападуць...

Кяршыс, дзе толькі можа, устаўляе сваё слоўца, падтаквае жонцы. Ага, як жа — цяпер ужо зразумела, вайна не будзе доўжыцца вечна. Настане спакайнейшы час, і тады спатрэбіцца кожная саломінка, якую з божай помаччу зацягнеш у сваё гняздзечка. А-эх, няхай бы толькі хутчэй мінала гэтая навальніца! Вядома, чалавек і цяпер спрабуе неяк прыстасавацца, але калі спутаны, далёка не паскачаш. Латаеш, прыкрываеш старыя дзіркі, а тут трэба было б нанава будаваць. І вока цягнецца далей за гэтыя дзе-

сяць гектараў — не грэх чалавеку разрастацца, нават звярок і той пашырае і паглыбляе сваю нару...

— А чалавек не ліс і не барсук,— зазначае Кяршыс, поўны самапавагі і веры ў сябе.— Напхаць на цэлы дзень чэрава — гэта яшчэ не ўсё, трэба дзяцей на ногі паставіць, паруліцца, каб мелі, падросшы, што араць і дзе сеяць.

Гедымінас не быў у вёсцы ад калядаў. Ён ужо тады заўважыў, як прыкметна перамяніўся Хвеліксас пасля шлюбу. Патрэскалася шкарлупіна панурай замкнёнасці, праз якую раней амаль не прабівалася жвавейшая думка, інтымнейшае пачуццё. Стаў самастойнейшы, гаварчэйшы, усё часцей кідаў адважнейшае слова, усё часцей усміхаўся, як чалавек, які ведае сабе цану. Нават груваспкае, нязграбна складзенае цела зрабілася спрытнейшае, лягчэйшае ў рухах. Несумненны Аквілін уплыў. Аднак і самой Аквілі не пазнаць. Дзяўчына, якая некалі пазірала ўлюбёнымі вачамі на зорнае неба і лічыла, што лепш згарэць у агні кароткага шчасця, чым тлець усё жыццё, становіцца тлустай вясковай бабай, якая ахвотна ператварыла б зоркі ў крупы, каб карміць сваіх курэй.

«Вочы тыя самыя. І косы, хоць яны і ўкладзены пад ваўнянай, па-бабску завязанай хусткай. А вось ногі па калені захраслі ў Кяршысавых гектарах. Цёплае паліто, яшчэ новае — відаць, выменялі ў нейкай гараджанкі на сала. Пад ім распаўнелае цела. Цяпер зразумела, чаму Хвеліксас турбуецца, што араць, дзе сеяць... Як мала часам трэба чалавеку для шчасця».

Пазней ён зразумеў, што судзіць занадта сурова, але цяпер, у парыве раптоўнай злосці і расчаравання, адчуў, што не ўтрымаецца, каб не шпурнуць камень у балота, якое млела ў салодкай дрымоце на прыпёку са сваімі жабамі і лілеямі.

— Ці Юліта Нямунісаў усё такая самая, не паправілася? — спытаў ён, сурова агледзеўшы абаіх.— А можа, яна ўжо і не жыве ў вас?

— Чаму ж не жыве,— адгукнулася Аквіля.— Праўда, сёй-той быў бы ахвочы ўзяць яе сабе — хоць дзяўчына і не ў сваім розуме, а вось жа да працы здатная. Аднак яна і самім нам трэба. Дый прывязалася яна да мяне, ісці нікуды не хоча.

Гедымінас кісла ўсміхнуўся.

— За два-тры гады выгадуеце сабе добрую наймічку.

Кяршыс, не адчуваючы кпінаў, згодна паківаў гала-

вой: няхай не мае розуму, але рукі засталіся... сярод людзей не прападзе.

— Няшчасная сям'я. Бацькоў забілі эсэсаўцы, адну сястру згвалцілі, яна рукі на сябе налажыла, другая вось звар'яцела. А Марус...— Гедымінас вострым позіркам працяў Аквілю; усцешыўся, калі ўбачыў, што яна ўздрыгнула, пачырванела і схапілася папраўляць пад падбародкам вузел у хустцы.

— Дарэмна яны адразу не выдалі таго Фрэйткавага хлапчука, усё роўна немцы ўжо ведалі.— Аквіля адвpetroў... 

Кяршыс, згаджаючыся з жонкай, з напругай круціць шыяй, што ўрасла ў каўнер кажуха. А-эх, хто гэтага не ведае, маглі б заплаціць таннейшую цану. Бацькоў, вядома, немцы ўсё роўна расстралялі б — такі парадак,— аднак абедзве дзяўчынкі засталіся б. Спадзяваліся, што не знойдуць. Хованка і на самой справе была адмыслова зроблена: пад свірнам, а лаз вёў з засека. Немцы наўмысна Генуту на вачах у бацькоў і Юліты... Юліта і зламалася... Не вытрывала — паказала...

Па целе ў Гедымінаса разлілася мляўкая знямога. Хацелася б пасядзець яшчэ трохі, аднак негасцінныя сані саштурхваюць яго прэч; маленькая выспа вёскі халодная і панурая, быццам крыга, што вагаецца пад нагамі.

— А як бы ты, Хвеліксас, зрабіў? — са злосцю пытаецца ён, нязграбна ўстаючы на ногі.— Завёў бы іх у свіран і паказаў бы: адыміце вунь тую дошку, хлопчык там?

— А-эх, ну хіба я гэтак кажу? — Кяршысава галава зусім знікае ў каўняры, толькі дзве рысачкі заінелых броваў скачуць, хаваючы спалоханы пагляд.— З часам усе разумныя, а як прыцісне бяда... Вось і даводзіцца з двух канцоў выбіраць адзін; сам не ведаеш, які лепшы — альбо лезці ў пятлю, альбо кідацца ў ваду. Тут ужо гэтакая справа...— Каўнер глушыць і рэштку фразы, і ўздых — даніну няшчасным і сабе: дзякаваць богу, мы яшчэ жывём...

— Тут ужо гэтакая справа, каб на яе ліха,— паўтарыў Гедымінас, адчуваючы, што губы растульваюцца супраць яго волі і твар перакрыўляецца, як у малпы.— Куды складанейшая, чым мяняць сала на рэчы, якія пасля таго, як скончыцца вайна, памаглі б хутчэй паставіць на ногі гаспадарку.

Аквіля адвярнулася, Кяршыс таксама павярнуўся спі-

ной. Паволі, як бы нехаця, быццам цяжкія дубовыя дзверы на даўно не шмараваных завесах.

— Не ведаю, што вы рабілі б, каб не мелі вясковага сала,— чуваць абражаны Аквілін голас.

Гедымінас нахіляецца і рукою ў пальчатцы ацярушвае саломіны, што прыліплі да паліта. На душы і добра і брыдка, нібы ў падшыванца, які разбіў шыбіну ў нялюбага суседа.

— Перадавайце прывітанне майму старому. Калі мае час, няхай у суботу заедзе па мяне — засумаваў па Лаўксадзісе,— гаварыў ён амаль весела, нібы дагэтуль яны адно толькі жартавалі.— Шкада, нічога не маю з сабою хрэсніку. Можа, не спяшаецеся? Заехалі б да мяне, знайшоў бы трохі цукеркаў. Праўда, сваёй работы, панна Анута пастаралася, але салодкія, нічым не горшыя за даваенныя «Кароўкі».

Кіршысы аднекваюцца. Аквіля падтыкае пад сяннік краі гунькі, Хвеліксас ляпае па лямцавай халяве пугаўём.

— Не, не трэба, кум. Мы ўжо купілі сёе-тое з гасцінцаў. І Лаўрукасу, і Юліце. Не крыўдзім дзяўчынку, хоць і чужая. Ёсць у доме і мёд, і яблыкі, назапашаныя з восені, а цукеркі Аквіля і сама варыць. Няхай не «Кароўка», але растаюць у роце, як снег вясною, ага, толькі падавай...

Гедымінас падае руку. Спачатку ёй, потым яму. Стрыманы поціск далоняў. Вочы ўсіх траіх спрабуюць усміхнуцца, але тонкія шклінкі лёду не прапускаюць цёплых промняў.

Гедымінас брыдзе па снежным акопе назад. Кіршысам — у адваротны бок. Ён чуе, як аддаляецца вясёлае конскае фырканне, рыпенне палазоў («Гайда-а!» — падахвочвае свайго буланага Хвэлька), але не азіраецца. Без дай прычыны спыняецца, глядзіць сабе пад ногі, быццам нешта згубіў. («А ўсё роўна яны шчаслівыя... шчаслівыя...») Утаймоўвае пачуццё рэўнасці, што раптоўна ўспыхвае ў грудзях, па твары слізгае горкая ўсмешка. «Нехта, пазіраючы на мяне збоку, таксама скажа: шчаслівы чалавек пан настаўнік... Шчасце... Самае адноснае паняцце на свеце, як некалі сказала Мілда... Дзіўна, але кожны раз, калі сустракаюся з Аквіляй, мне згадваецца гэтае светлавалосае кацяня».

Гедымінасу трохі няёмка, што ён ужо цэлы тыдзень не быў у гарадскім садзе каля фантана, не правяраў «паштовай скрынкі» — дупла белай вярбіны. Мілда, вядома, не пакрыўдзіцца — гэта пярэчыла б яе філасофіі

«рэчаў». («Давай будзем адно аднаму рэчамі. Спатрэбілася — бяром, надакучыла — кідаем»,— сказала яна, здаецца, на другі ці на трэці дзень пасля банкету ў Баярчусаў.)

## IV

— Цынічна, але сучасна і выгодна,— зазначыў тады ён, падносячы да вуснаў яе руку.

Мілда ўсміхнулася аднымі вачамі; твар у яе быў сумны і стомлены.

— Ты не ўяўляеш, чаго мне каштаваў той ваш жарт у двары Баярчусаў.

— Шчыра кажучы, у мяне і цяпер такі настрой, быццам мяне пакусаў сабака і я ўсё спрабую даўмецца, ці не быў ён шалёны,— прызнаўся Гедымінас.— Ад дырэктара я атрымаў добрую прачуханку, але не ведаю, ці скончыцца ўсё на гэтым. Застаецца толькі цешыцца, што нас не прыстрэлілі там жа, каля машын. Швабам многа не трэба.

— П'яныя ідыёты.

— Не трэба было табе какетнічаць з тым гестапаўскім апосталам. Адомас перабраў з рэўнасці, а я са скрухі.

— Ты таксама добранькі. Уцёк, пакінуў Адомаса. Мы б яго адразу пасля таго зацягнулі дамоў...— Мілда прыкусіла губу, нібыта баючыся, каб не вырвалася лішняе слова.

— Адомас паводзіў сябе як сапраўдны мужчына,— пакпіў Гедымінас.— Я нават не спадзяваўся. Часам і віно дапамагае сумленню загаварыць.

Мілда раптам павярнулася і пайшла.

Чаму яна абразілася? Не спадабаўся яго легкадумны тон? А можа, хацела б, каб ён адчуваў сябе больш абавязаным перад ёй? Аднак жа сама толькі што сказала: «Давай будзем аднаму рэчамі...»

Ён ішоў па тратуары, разграбаючы бруднымі чаравікамі жоўтае апалае лісце, і намагаўся пранікнуць у сэнс гэтых слоў. «Дагэтуль мы ашуквалі Адомаса зрэдчасу,— падумаў ён.— Яна хоча сістэмы...»

«Аднак першая ноч нас хутчэй раз'яднала, чым зблізіла,— зноўку падумаў ён.— Уся гэтая непрыстойная гісторыя магла на тым і скончыцца».

І сапраўды, пасля гэтага яны не сустракаліся па цэлых тыднях. А калі выпадкова і сустракаліся, дык як далёкія знаёмыя — абменьваючыся штучнай усмешкай,

стрыманым кіўком галавы. Аднаго разу людская плынь, рынуўшы з касцёла, на дзядзінцы прыбіла іх адно да аднаго. Была ранняя вясна, вялікдзень, бесперастанку званілі званы. «Пане Гедымінас? А я думала, што вы не ходзіце ў касцёл».— «Люблю арганную музыку і тэатр, пані Мілда». Яна ўздыхнула, неяк дзіўна нахіліла галаву. На фоне чорнага капялюшыка яе твар здаваўся асляпляльна белым, а вочы глыбейшыя і блакітнейшыя, чым звычайна. Нічога больш не сказаўшы, яна адшукала яго руку, моцна сціснула кончыкі пальцаў і растала ў людскім натоўпе.

Ноччу ён спаў неспакойна. Абудзіўшыся, адразу ж убачыў чорныя палі яе капелюша і цёплы блакіт вачэй, што струменіўся з-пад яго.

Цяпер пры сустрэчы яны ўжо спыняліся, абменьваліся некалькімі словамі, як і ў тыя добрыя часы, калі яна была паняй Бяржэненяй. «Як маешся, Мілда?» — «Дзякуй, Гедымінас, пакуль што нічога». Часам яна бывала меланхалічная, часам вясёлая, лірычная, нават крыху і цынічная, але Гедымінас адчуваў, што яе вочы становяцца з кожным разам глыбейшыя і іх сутонлівая глыбіня ўсё мацней прыцягвае яго.

Летам, калі паменела працы ў полі, Аквіля з Кяршысам згулялі вяселле. Яна сядзела побач з Хвеліксасам, нібы квітучая вішня, і, сарамліва апусціўшы вочы, прымала віншаванні. Гедымінас глядзеў на абаіх, нібы на манекены ў вітрыне мануфактурнай крамы, зусім абыякавы да чужога шчасця альбо няшчасця. Толькі апоўначы, калі музыкі зайгралі «Добрай ночы» маладым і яны ўсталі з-за стала, нешта завірыла, закіпела ў грудзях. Але ненадоўга.

— Я рады, што ты шчаслівая,— шчыра сказаў ён, узяўшы яе за рукі і пазіраючы проста ў вочы.

Яна квола ўсміхнулася, пачырванела («Дзякуй, Гедымінас. Дабранач...»). Але ён усё трымаў яе за рукі, пакутліва доўга гледзячы ў вочы, і бачыў у іх Мілду. Потым да раніцы бузаваў, танцаваў з дзяўчатамі, цалаваўся направа і налева, і кожная, каторую абдымаў, нагадвала Мілду. Быццам нейкі шал усяліўся ў яго. У галаву неадчэпна лезла вар'яцкая думка: зараз жа, не марудзячы, ехаць у Краштупены, пастукацца ў дзверы на Бэзавай вуліцы і на вачах у Адомаса абцалаваць Мілду. На другі дзень, апаўдня, хоць вяселле было ў самым разгары, ён пакінуў застолле і сеў на ровар.

— Ты, хлопча, калі падпіў, тады толькі і знайшоў дарогу ў мой дом,— сказала Мілда.

— Не дакарай. Здаецца, пачынаеш мне падабацца.— Ён паклаў рукі ёй на плечы і, тулячы яе да сябе, пацалаваў колькі разоў у грудзі.— Цярпець не магу начальнікаў паліцыі, але абагаўляю іх жонак.

Позна вечарам, баючыся, каб Адомас не вярнуўся раней, чым абяцаў, яна выправіла Гедымінаса дамоў.

Пайшоў ён у паганым настроі. Паспеў зусім працверазець і не мог сабе дараваць таго, што зрабіў. Мілда, напэўна, абразілася, хоць і не падала выгляду. Ну і няхай! Горш за ўсё, што прынізіў сябе. Уваччу паўставалі Адомасавы боты ў прысенку, яго халат у спальні, скамечаны сямейны ложак. «У чужой пасцелі, нібы які-небудзь... Магла паслаць на канапе ў святліцы...» — злаваў ён на Мілду.

Аднак, сустрэўшыся ў горадзе, яны, як і раней, спыняліся, абменьваліся ўсмешкамі, адной-другой фразай. Старыя знаёмы, і больш нічога. Нібыта і не было тых двух інтымных вечароў.

— Адомаса зноўку сёння ўначы не будзе. Нейкія справы ў павеце,— аднаго разу недвухсэнсоўна згадала яна.— Чэрвеньскія ночы цудоўныя, але калі ты адна, хочацца выць на месяц.

Гедымінас успомніў гэтыя праклятыя боты, халат, пах чужой пасцелі.

— Не прыйду,— рашуча заявіў ён і, сустрэўшы яе здзіўлены позірк, дадаў: — Не люблю коўдру, сагрэтую другім.

Яна ціхенька засмяялася. Каб не вуліца і не вокны цікаўных гараджан, яна кінулася б яму на шыю і абцалавала б — такім гарачым пачуццём загарэліся яе вочы!

— І ўсяго толькі? — прашаптала яна.— О, тады я спалю гэтую коўдру! Дый, зрэшты, навошта яна, калі цяпер якраз пара касавіцы, а ў нас абаіх ёсць ровары.

Позна ўначы, калі вярталіся з лесу, яна паскардзілася, што вызеленіла сукенку, аднак была вясёлая як ніколі.

Праз некалькі дзён ён паехаў да бацькі на летнія канікулы. Амаль кожны тыдзень на вясковым паштовым пункце ён атрымліваў пісьмо — невялічкі лісцік, вырваны з блакнота, на якім, апроч даты, гадзіны і месца сустрэчы, нічога больш не было. Нават подпісу. Часам ён ездзіў, часам не. Пры сустрэчы ён не тлумачыў, чаму не прыязджаў, а яна не дапытвалася. Калі ў гімназіі распачаліся заняткі, такія самыя запіскі ён знаходзіў у дупле старой вярбіны каля фантана. Сяляне даўно ўжо звезлі сена, панура стаяў лес, засыпаны прэлым лісцем, і да таго

дня, калі яна прапанавала быць адно аднаму рэчамі, яны разыходзіліся, абняўшы адно аднаго толькі вачамі. Ён бачыў: яна непакоіцца, баіцца даўжэйшага перапынку, і гэты цьмяны намёк аб рэчах быў прапановай шукаць выйсце.

Вечарам ён зайшоў на кватэру да дырэктара.

— Вы ведаеце, пане дырэктар, што я пішу вершы,— пачаў ён без усялякага ўступу.— Паэты, хоць і няўдалыя, маюць свае дзівацтвы. Напрыклад, я... Часам прыходзіць натхненне, галава поўная цудоўных вобразаў, здаецца, сядай і паспявай запісваць. Але пакуль умосцішся, думка дранцвее, карціна блякне... Наогул, пане дырэктар, я заўважыў, што найцяжэй вершы даюцца мне дома, у сваім пакоі. А самыя лепшыя атрымліваюцца тыя, якія я напісаў у вёсцы ў бацькі альбо ў гімназіі.

Зыгмунтас Заўка, хударлявы бамбіза з увагнутымі, нібы лемяшы ў плузе, шчокамі, нецярпліва перапыніў Гедымінаса:

— Не прыбядняйцеся, пішаце добра. Чытаў адзін ваш верш, здаецца мне, у «Тыдні». Пра вясну. Нашай гімназіі гонар мець такога паэта. Вы хораша ўмееце апісваць прыроду і каханне — за сэрца бярэ, бо я і сам не абыякавы да такіх спраў. Я люблю паэзію, заўсёды гатовы падтрымаць мастацтва. Дык чым магу служыць?

— Я хацеў бы калі-нікалі па вечарах папрацаваць у настаўніцкай, пане дырэктар.

— Хоць да раніцы, пане Джугас. Дарэчы, адно невялічкае пажаданне: як мага болей добрых вершаў! I не толькі ў «Тыдні». Было б вельмі прыемна, калі б знізу, побач з датай нараджэння твора, значылася: «Краштупенаўская гімназія». А ўсё астатняе — як ужо атрымаецца. Несумненна, усе былі б дужа задаволеныя, калі б вы апявалі не толькі літоўскіх жанчын, не толькі лугі і лясы. Мы жывём у суровы час, пане Джугас. Калі наўкола гучаць ваенныя фанфары, ад паэта патрабуецца трохі больш, чым зрываць у садзе кветкі і ўпрыгожваць імі галаву каханай. Абавязак паэта цяпер — выхоўваць нянавісць да ворага, гартаваць волю, мацаваць нацыянальную самасвядомасць. Бо тое, што нядаўна адбылося ў вашай роднай вёсцы, Лаўксадзісе,— ганьба ўсёй нацыі. Праз аднаго жыдоўскага адродка мусіла загінуць літоўская сям'я! З аднаго боку, гэта добра — на некалькі бальшавікоў стала менш, але з другога — сур'ёзнае папярэджанне, што мы яшчэ не пазбыліся шкоднай для нацыі сентыментальнасці.

Гедымінас ківаў галавой («...так, так, вядома, пане ды-

рэктар... пастараемся, наколькі дазволіць талент, але баюся, што не маю палітычнага чуцця...»), а ў свядомасці свярбела дзёрзкая думка: вось бы ўрэзаць пану Заўку па гэтых лемяшах, што палымнеюць нездаровай чырванню, і паглядзець, як зашыпіць яго загартаваная нацысцкая воля. «Не, я баязлівец і, апроч таго, пачынаю кахаць Мілду»,— кпіў ён з сябе, выйшаўшы на вуліцу і накіроўваючыся ў гімназію да вартаўніка — добрага, ціхмянага, як зямля, старога, каб узяць ключ ад уваходных дзвярэй. «Мілдзе будзе прыемная неспадзяванка»,— думаў ён, уяўляючы, як лагодна яна будзе ўсміхацца яму, як палаская сінеча яе глыбокіх вачэй, калі яна даведаецца, што ён знайшоў прытулак на зіму. Праўда, куток не самы ідэальны — дырэктар, апантаны калекцыянер чалавечых касцей,ператварыў настаўніцкую ледзь не ў анатамічны кабінет, заваліўшы яго чарапамі, сківіцамі і рэбрамі. Аднак гэты могільнік можна будзе неяк замаскаваць... Знайшоўшы ў дупле табе аднаму зразумелае паведамленне, што ў яе вольны вечар, можаш прыйсці сюды і, рыхтуючыся да заўтрашніх урокаў, чакаць, пакуль дзынкне па шыбіне каменьчык.

«Ах, гэта ты, мая рэч? Дай сваю маленькую лапку, пойдзем у наш анатамічны музей...»

## V

Гедымінас выцягнуў з кніжнай шафы сцяг і, разгарнуўшы яго, накінуў на шкілет, што бялеў у куце. Потым падышоў да акна, паправіў штору і сеў на канапу побач з Мілдай.

— Шчаслівы збег абставін, што ты менавіта сённяшнім вечарам змагла прыйсці,— сказаў ён.— Ведаеш, жанчына часам бывае патрэбна мужчыну, як злачынцу нязведаныя абшары зямлі, куды ён уцякае, каб схавацца ад закону.

— Адомас некалі сказаў тое ж самае, толькі прасцей: «Ты мне вельмі патрэбная, Мілда»,— адказала яна, пацепнуўшы вузкімі плечыкамі.— Што ж, быць выратавальным кругам — мой высакародны абавязак.

— Не гневайся, Мілдзяля, гэты тыдзень я быў дужа заняты...

— Не мані.— Яна ласкава саштурхнула з плячэй яго руку.— Я проста не трэба была табе, вось і ўсё. Але я не папракаю, не хвалюйся. Я занадта стамілася.

— Даруй,— прашаптаў ён, прысаромлены.

Прысланіўся да спінкі канапы і нейкі час сядзеў з заплюшчанымі вачамі, адчуваючы ўсім целам панурую звінючую цішу. Перад вачамі распасцерлася пустое роўнае поле. Без світальнай зары і полымнага захаду, без неба і гарызонту. Бяскрайняя раўніна, пахвастаная ліўнямі, адшліфаваная вятрамі, што ляціць у бязмежнай прасторы. Яго ногі бязгучна падымаліся і апускаліся, не пакідаючы следу на гэтай скамянелай зямлі нябожчыкаў, і рабілася вусцішна ад думкі, што ён паўтарае шлях мільёнаў нящчасных, якія прайшлі тут раней, перад ім, шукаючы таго, чаго няма, і не знайшлі нават знаку сваіх слядоў, каб змагчы вярнуцца назад.

— Сёння я яшчэ раз убачыў тое, што ведаў і ў што не хацеў паглыбляцца,— нарэшце вымавіў ён.— Ты верыш, што ў некалькіх лічаных гадзінах можа змясціцца квінтэсенцыя ўсяго жыцця?

— Я стараюся не разгадваць рэбусаў, якія мне не па зубах,— спакойна адказала Мілда.

— Гэта таму, што ты ўмееш сябе падманваць. Жук, які паўзе па камені, думае, што ён праторвае сцежку іншым жукам, але калі ён азірнецца... Я азірнуўся, Мілда. Ніякай сцежкі няма. А калі і ёсць, дык не ў гэтым баку.

— Ты дэкламуеш мне свой новы верш?

— Не, проста ўспомніў адну дзяўчынку, якой трэба было нарадзіцца на гадоў дзесяць раней альбо пазней і, вядома, на другім паўшар'і. Тады б яна не наступіла на мой след.

Мілда здрыганулася. Кволая ўсмешка перасмыкнулася раптам па яе вуснах.

— Табе даўно пара ўсур'ёз закахацца. Віншую. Трэба спадзявацца, новенькая не такая чуллівая, як я, дзеля яе не давядзецца захінаць шкілет сцягам.

— Не гавары лухты, яна мая вучаніца.— Гедымінас, не ўстаючы з месца, згроб Мілду за плечы і прыцягнуў да сябе. Яна паслухмяна распрасталася побач з ім упоперак канапы.— Дагэтуль яна была для мяне дзіцём. І толькі сёння я заўважыў, што яе грудзям цесна ў гімназічнай сукенцы. І падумаў, што лёс, які яе чакае, не дужа зайздросны: выйдзе замуж за якога-небудзь вясковага ёлупня, будзе карміць курэй і, запрогшы кульгавага буланага, вазіць сала ў горад; але цяпер такое выйсце было б ёй ратункам. На жаль, пакуль што гэта немагчыма, а пазней будзе непатрэбна: у нас дастаткова грамадзян у чорных

капелюшах, што пяшчотна любяць сваіх жонак, дзяцей, дый хлапцоў не бракуе, што трэніраваліся ў стральбе па жывых мішэнях.— Ён замоўк. Чакаў Мілдзінай рэакцыі, але яна ляжала побач як нежывая, утаропіўшыся бляклым паглядам у столь.— Што з табою? Чаму ты нічога не кажаш?

— Адомас адвучыў мяне распытваць, а ты гаворыш загадкамі,— панура адказала яна.— Але калі хочаш ведаць маё меркаванне, дык тая т в а я невядома чаму няшчасная дзяўчына і сапраўды выйдзе замуж. І не за якога-небудзь вясковага ёлупня, а за паганца ў мундзіры, якому яна для яго ж карысці будзе здраджваць з другім, яшчэ большым паганцам у мундзіры.

Гедымінас сеў.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? — крыкнуў ён, сціснуўшы яе рукі.

Яна пакруціла галавой. Павекі ўзняліся і застылі, быццам вылепленыя з воску. На яго пазірала змучаная жанчына, якая бязмоўна клікала на дапамогу і якая ўжо шкадавала пра словы, што сарваліся з яе вуснаў у хвіліну слабасці.

— Не сціскай гэтак рук...— прастагнала яна.

І абое, ахопленыя раптоўным пачуццём, кінуліся адно аднаму ў абдымкі. Доўга сядзелі моўчкі, ап'янелыя ад цеплыні сваіх цел, аглухлыя ад нерытмічных удараў сэрцаў. Банальныя словы «я цябе кахаю» яшчэ ні разу дагэтуль не вымаўляліся, і губы, якія шукалі другія губы, цяпер таксама маўчалі, аднак кожная клетачка цела выпраменьвала іх.

— Не трэба сакрэтаў, Мілдзяля,— прашаптаў Гедымінас.— Сакрэты разлучаюць людзей. Я табе пра ўсё раскажу.

— Не, не,— абаранялася яна.— Не хачу. Я табе веру. Павер і ты мне. Пра тых у мундзірах я жартам. Хіба ты не ведаеш сваёй эксцэнтрычнай Мілды? — Яна адсунулася ад яго, папраўліла сукенку, спарадкавала валасы, была зноў спакойная і цвёрдая Мілда, якая нічога не патрабуе ад заўтрашняга дня, аднак гатовая ўзяць усё, што дае сённяшні дзень.— Патушы святло,— прашаптала яна.— Я хачу, каб прапалі рэчы і мы засталіся ўдваіх.

«Ну, так,— падумаў ён без энтузіязму.— Да камендантскай гадзіны засталося не дужа многа часу».

З гімназіі выйшлі разам. Каля брамкі, не зважаючы на асцярожнасць, ён абняў яе і горача пацалаваў... Хацеў

7*

правесці дадому — плявацъ яму на Адомаса,— але яна не дазволіла. Раней такога ў іх не было — расставаліся, нібы зайцы, нават рукі адно аднаму не падавалі, і кожны раз ён адчуваў вялікую палёгку, быццам пазбавіўся ад небяспечнай рэчы. «Мабыць, я сапраўды яе кахаю»,— думаў ён, ужо лежачы ў сваім пакоі. Не ішла з галавы гэтая яе фраза пра паганцаў у мундзірах. У сэрца шкрэбліся рэўнасць і нейкі незразумелы страх. Думка паўзла за думкай, як хмара за хмарай, адна цямнейшая за другую; ён не мог злучыць іх у адзіны лагічны ланцуг і зрабіць пэўную высьнову, аднак інтуіцыя ўпарта падказвала яму, што мае адбыцца нешта непазбежнае, не можа ўсё заставацца, як было дагэтуль. «Чалавек уводзіць сябе ў зман, думаючы, што ён сам, па сваёй ініцыятыве, нешта робіць, нешта вырашае. На самой справе гэта не што іншае, як неабходнасць, прадыктаваная абставінамі, на якую кожны рэагуе па-свойму, у залежнасці ад характару. Я не магу больш заставацца ў гімназіі. Гэта ганебная змова з сумленнем, прыкрае самапаніжэнне ў вачах у вучняў. Так, так,— думаў ён,— мне самы час лезці ў іншую нару. Там таксама будуць грукацець падкутыя боты, паветра будзе насычана выпарэннямі подласці, аднак я буду ведаць, што зрабіў усё што мог...» Пасля такога рашэння яму зрабілася лёгка і ясна на душы. Цёплы ласкавы туман спавіў мозг, і ён адчуў, што чыесьці нябачныя рукі падымаюць яго ад зямлі. Усё вышэй і вышэй, ажно да нябеснага скляпення, распаленага да чырвані. Далёка ўнізе ўзыходзіла сонца, гарачае і вострае, быццам нагрэты ў горне беражок круглай пілы. Зямля са сваімі лясамі і гарадамі, вёскамі і палямі стала падобная на велізарны кавалак плямістага палатна — бязлюдная, безжыццёвая, дымная маса яшчэ не астылай планеты, на якой усё народзіцца і разаўецца нанава. Яму стала весела. Ён замахнуўся і ляснуў кулаком у нябеснае скляпенне. Пачуўся стук, але не такі, якога чакаў. Тады ён замахнуўся яшчэ раз і яшчэ. Пачаў грукаць абодвума кулакамі, аднак неба не гуло, як звон, а глуха бубнела, быццам збуцвелы ствол дрэва. «Гэй, гэй, што за жарты! — спужаўшыся, закрычаў ён.— Гэтакае свята, а ўсе званы свету маўчаць».

Ускочыў на ложку, яшчэ не зусім ачомаўшыся ад сну. У першае імгненне не мог зразумець, дзе ён. У сенцах размаўлялі. Не гучна, але дастаткова выразна, каб можна было адрозніць мужчынскі і жаночы галасы. «Адомас!» Панічны страх скаваў рукі і ногі. Ён убачыў, як працяты

кулямі, ён ляжыць на падлозе ў адным споднім. І гэтае відовішча, што маланкава прамільгнула ўваччу, выштурхнула яго з ложка. Умомант сцягнуў штаны з плечыкаў крэсла і кінуўся нацягваць. І пакуль ён гэта рабіў, мозг пачаў дзейнічаць нармальна, сунімаючы плынь хаатычных пачуццяў. Калі Адомас пастукаў у дзверы, Гедымінас быў ужо зусім спакойны. Што ж, трэба было чакаць, што рана ці позна ўсё выплыве на паверхню. Можа, і лепш, што гэта адбылося сёння. Нарэшце ён высветліць адносіны з Адомасам («Так, мы з Мілдай кахаем адно аднаго») і будзе пакладзены канец гэтым недарэчным хованкам.

— Прашу,— крыкнуў ён, адной рукою зашпільваючы штаны, другой уключаючы святло.

Адомас зачыніў дзверы і абапёрся аб іх спіною. Твар у яго быў шэры, вочы ліхаманкава блішчалі, у кутках запечаных губ цямнела ссохлая пена. Адзенне ў беспарадку — шапка з'ехала на патыліцу, боты заляпаны гразёй, пасак, на якім вісела незашпіленая кабура, ссунуўся набок; міжволі напрошвалася думка, што пан начальнік паліцыі добрую вярсту бег без аглядкі і яшчэ дагэтуль не можа паверыць, што ён уратаваў сваю шкуру.

— Не чакаў? — вырвалася ў яго з рота запытанне, падобнае на булькаценне тапельца.

— Не.— Гедымінас ступіў крок назад.— Позні час. І гэтак... наогул жа ты не заходзіш...

— Позна курам і вераб'ям, а сычам самая пільніца. Чаму сесці не запрашаеш? Баішся, каб не запэцкаў крывёю крэсла? Азадак чысты, не бойся. Адзіная частка нашага цела, якая менш за ўсё вінаватая, але больш за ўсё бывае бітая.

— Сядай,— хрыпла сказаў Гедымінас, адчуваючы, як зноўку вяртаецца кроў да яго збляднелага твару.— Можа, чарку вып'еш?

— Давай. Я насмактаўся, як губка, а вось жа не бярэ. Давай свайго яблычнага.

Гедымінас дастаў з буфета бутэльку, паставіў на стол два кілішкі. Рукі яшчэ дрыжалі.

— Шынель здымі.

Адомас, не кажучы ні слова, скінуў з сябе шынель, шпурнуў яго на канапу, пасак з пісталетам тудысама. Шапка паляцела ў другі куток.

— Я загінуў, Гедымінас...— прамармытаў ён, звальваючыся на крэсла.

Гедымінас пакруціў галавой, не рашаючыся распытваць.

— Ты не зразумееш... не, ты не зразумееш...— гугнеў Адомас, наваліўшыся грудзямі на стол і круцячы ў пальцах кілішак з віном.— Заяц не можа зразумець паляўнічага. Вып'ем, галубок.

— Вып'ем, Адомас.

Не гледзячы адзін на аднаго, яны ўзнялі чаркі і абодва прагна выпілі да дна.

— Ведаеш, я так табе зайздрошчу, хітры ты святоша, што часам паўстае шалёнае жаданне ўхапіць цябе за горла і душыць, пакуль вочы не палезуць на лоб.— Адомас скрыгітнуў зубамі. Азызлыя пашчэнкі трэсліся, быццам ён хацеў і ніяк не мог праглынуць нейкі кавалак.— Адпусціць, даць удыхнуць паветра і зноў душыць, адпусціць і зноў душыць. Тады ты зразумееў бы, што такое пакута.

— Дапусцім, разумею. Але што з таго, калі не магу дапамагчы? — адказаў Гедымінас, канчаткова супакоіўшыся.

— Лепей налі яшчэ, чым вярзці ўсялякую лухту, п а н е   н а с т а ў н і к.— Ён кульнуў чарку, не чакаючы, пакуль Гедымінас напоўніць сваю. Хвіліну сядзеў, панурыўшы галаву, мутным позіркам аглядаючы свае рукі і быццам здзіўляючыся, што гэта на самой справе яго рукі.— Што ты можаш зразумець, што ты можаш... Ці кахаў ты калі вартую сябе жанчыну? Якую аднойчы страціў, цудам вярнуў, а вось цяпер яна зноў выслізгвае з тваіх рук? Што я скажу ёй, прыйшоўшы дамоў, як да яе дакрануся? «Службовыя справы, дарагая...» Але хто паверыць, што ты вяртаешся з лазні, калі за кіламетр ад цябе смярдзіць псінай? Жывадзёр! Спачатку апраўдваўся, выдумляў усякае глупства, а цяпер хлушу моўчкі. Да д'ябла! Наша прафесія не з тых, якая дазваляла б дзяліцца з жонкаю ўражаннямі дня і мець ад гэтага прыемнасць... І яна затаілася, Гедміс, затаілася. Аднак жа вачэй, якімі яна паглядзела на мяне, да канца сваіх дзён не забуду! Тады ў яе яшчэ не было падставы так кепска думаць пра мяне, але, ведаеш, людскія плёткі... Калі ты начальнік паліцыі і недзе бахаюць стрэлы, дык абавязкова мусіць курыцца дым і са ствала твайго пісталета. Мусіць — і ўсё тут... Тады яшчэ не курыўся, Гедымінас, хоць... я ўжо быў... Гэты рускі лётчык, Нямунісы...— Адомас закашляўся, твар балесна перакрывіўся. Здавался, словы да крыві дзяруць горла, і ён, быццам атруціўшыся, намагаецца як мага хут-

чэй званітаваць, каб вызваліцца ад пакут.— О так, я ўжо быў нягоднікам! Аднак у чым я вінаваты, калі ўсё так па-дурному склалася? Сам сябе Адомасам я не нарадзіў. Хіба не можа так здарыцца ў жыцці, што чалавек нягоднік і не вінаваты? — Ён нарэшце адарваў вочы ад сваіх рук і ўважліва паглядзеў на Гедымінаса.

— Не! — выгукнуў Гедымінас і ажно сам здрыгануўся: гэтае слова, што вырвалася ў яго міжволі, прагучала ў пакаяннай цішы, быццам суровы прысуд суддзі. Ён усё яшчэ жыў вечарам, які правёў у настаўніцкай. Усё яшчэ трымаў яе — далікатную, крохкую, бездапаможную — у сваіх абдымках, пазіраў у вочы і сумна здзіўляўся, што ў гэтых двух лапіках сінечы адлюстроўваецца туга па страчаных надзеях усяго свету.— Не! — паўтарыў ён, дагаворваючы ў думках: «Ты страціў жанчыну, але я кахаю яе. Напэўна, таму і пакахаў, што яна няшчасная. Пакінь яе мне. Я не магу ўратаваць увесь свет, аднак аднаго чалавека магу зрабіць шчаслівым».

Адомас апусціў галаву. Бязвольны позірк слізгануў па парожнім кілішку, і Адомас асунуўся на стол.

— І ты асудзіў? — прашаптаў ён.— Але што ты ведаеш, што ты можаш ведаць?..

— Не асуджаю, але і не шкадую,— сказаў ён жорстка.— І нічога не хачу ведаць. Вып'ем гэтую пляшку — і падаёмся спаць. Проста не разумею, што цябе прынесла сярод ночы? Не думаю, што адно толькі жаданне схапіць мяне за горла і душыць, пакуль вочы на лоб не палезуць.

Адомас зарагатаў. Смех быў такі нечаканы і жудасны, што па спіне ў Гедымінаса пабеглі мурашкі.

— Прыйшоў спаражніцца ў чужы пакой,— сказаў ён, не крануючыся з месца.— Належу да тых людзей, якія не выносяць, калі смярдзіць адно толькі ў іхнім доме.— Ломячы дрыготкімі пальцамі запалкі, закурыў, схапіў чарку, выпіў, наліў сабе яшчэ, зноў перакуліў. І гаварыў далей, палячы цыгарэту за цыгарэтай і не адводзячы вачэй ад стала насупраць, быццам там сядзела нейкая нябачная істота, якая — адзіная ў свеце — магла зразумець і суцешыць яго. П'яныя слёзы цяклі па шчоках. Час ад часу яго расказ перапыняўся жахлівым смехам, падобным на перадсмяротнае хрыпенне скаціны, і Гедымінас з надзеяй думаў, што Адомасу ўжо не хопіць ні сілы, ні адвагі і што зараз нарэшце скончыцца гэтае жудаснае катаванне. Але крок за крокам ён пнуўся і пнуўся на самую вяршыню

галгофы, і штурхала яго не жаданне апраўдацца, прыняць на сваe плечы салодкі цяжар пакаяння, а безнадзейная спроба ўцячы ад толькі што пераЖытага жаху.

## VI

Тэлефонны званок з камендатуры. Не то просьба, не то загад: пан Роп жадае неадкладна сустрэцца. Чаго б гэта? Ну так, ваенныя ўлады незадаволеныя, што замала сабрана цёплай вопраткі на дапамогу войску. Мoжа, загадаюць хадзіць па вёсках і распранаць сялян?

Адомас са злосцю нацягвае шынель, зашпільвае пасак і партупеяй. Змрочны, хоць і падцягнуты, грукае абцасамі па абледзянелым тратуары, якi дворнікі паспелі ўжо ачысціць ад нядаўняй завеі. Перад дзвярыма камендатуры стаіць салдат з аўтаматам на грудзях. Нашурпіўся, апусціў вушнікі ў шапцы, пад шэрым брылём цямнеюць збянтэжаныя вочы нахабцы, якога раптам павалілі на дол. Над дзвярыма навіс чырвоны сцяг, перавязаны чорнаю стужкаю крэпу. У прадаўгаватых складках — белыя кавалкі паламанай свастыкі. Сталінград, Сталінград... Адомас ледзьве стрымаўся, каб не ўсміхнуцца. «Магчыма, ужо праз год у гэтакі самы час тут будзе вісець трохколерны сцяг, а побач з ім у гонар вызваліцеляў — паласаты з сарака васьмю зоркамі ў верхнім кутку».

Камендант Роп быў не адзін: у крэсле каля пісьмовага стала ўладкаваўся оберштурмфюрэр Хрыстаф Дангель (нядаўна ён атрымаў павышэнне ў чыне за заслугі па ўмацаванні цывільфэрвальтунга) у шэра-зялёнай форме гестапа з белаю свастыкаю на рукаве. У абодвух на тварах драматычнае напружанне і жалобны одум. «Нібыта скіўіцы ў іх таксама падвязаны чорнымі стужкамі»,— падумаў Адомас, але ўсміхацца ўжо не хацелася. Ён адчуў нейкую незразумелую пагрозу. Ён не чуў, як зачынілася пастка, дый, зрэшты, не быў упэўнены, што гэта пастка, але беспамылковы інстынкт папярэджваў яго аб небяспецы. Цяпер ён убачыў яшчэ аднаго чалавека, які сядзеў зводдаль ад стала, у кутку. Чорны мундзір і белы чэрап на шапцы (эсэсавец трымаў яе на каленях) не дужа пасавалі да тлустага невыразнага твару з масіўным падбародкам, які, у сваю чаргу, кантраставаў з вузкім ілбом і маленькімі бясколернымі вочкамі.

— Мы вас трохі затрымаем, пане начальнік паліцыі.— Камендант загадным жэстам рукі паказаў на вольнае

крэсла насупраць Дангеля і, не чакаючы, пакуль Адомас сядзе, вёў далей гаворку, якая, як было відаць, распачалася раней: — Для выканання аперацыі, вядома, нам хапіла б і сваіх сіл, але актуальны момант патрабуе мацней падкрэсліць нямецка-літоўскае супрацоўніцтва.

— Такім чынам пан камендант зусім не думае падкрэсліць трагічны бок падзей,— паспешліва ўмяшаўся Хрыстаф Дангель.— Часовыя паражэнні ў вайне непазбежныя, нават патрэбныя, бо дапамагаюць выявіць памылкі, прааналізаваўшы якія, армія можа найлепшым чынам падрыхтавацца да рашучага ўдару.

Той, што сядзеў у куце, залыпаў вачамі, быццам хацеў сказаць нешта яшчэ, але ўстрымаўся і па-ранейшаму сачыў за размовай, застылы, нібы лялька.

— Цалкам згодны з панам оберштурмфюрэрам,— прамовіў Роп.— Аднак гэта не азначае, што мы абыякавыя да слёз нямецкіх мацярок. Германская шчодрасць здаўна ўсім вядомая: за кожны труп плаціць сотняю трупаў.

Адомас машынальна кіўнуў галавой.

— Германская армія аб гэтым парупіцца, пане камендант,— запэўніў Дангель.— Наш абавязак зрабіць усё, каб яна была сытая, цёпла апранутая, а тыл чысты ад ворагаў. Я без усялякіх агаворак падтрымліваю вашу...

— ... і пана гаўптшарфюрэра Лемке, гер Дангель,— сціпла заўважыў камендант, паказаўшы вачамі на эсэсаўца, які зноў заміргаў, але не зрушыўся з месца, быццам прымёрз да яго.

— Так, я падтрымліваю вашу і пана гаўптшарфюрэра Лемке ініцыятыву. Аперацыя вызваліць некалькі салдатаў, якія патрэбныя для іншых спраў, апроч таго, удасца ашчадзіць прадукты харчавання. Пане Вайнарас,— Дангель загаварыў да Адомаса,— сёння нам трэба будзе правесці адну аперацыю, удзельнічаць у якой робіцца гонар і вашай паліцыі.— І Дангель, не мяняючы позы, нудным голасам выклаў справу.— Пан камендант,— сказаў ён,— кожную акцыю рэгіструе пад кодавай назвай. Нам неабавязкова яе ведаць, аднак паміж сваімі людзьмі не можа быць ніякіх сакрэтаў. Дык вось, некалькі слоў пра аперацыю «Квадрат 517». Камендатура — СС — гестапа — паліцыя — вось чатыры куты, на якія абапіраецца правядзенне ўсёй аперацыі. Лічба паказвае на колькасць. Асноўная маса — 500 — ваеннапалонныя, фізічна знясіленыя, непрыдатныя для карыснай працы. Астатнія 17 — розны бальшавіцкі зброд з засценкаў гестапа. Час — 20.00.

Месца — Алешнік. Транспартам і канвоем займуцца нашы людзі,— закончыў Дангель.— Паліцыя ўключана ў ліквідацыйную групу, кіраваць якой будзе гаўптшарфюрэр Лемке.

Эсэсавец і на гэты раз не паварушыўся. Толькі крыху растуліліся тоўстыя губы, адкрываючы палоску белых зубоў.

Адомас выцер далонню халодны пот з ілба. Чорны цень у кутку вырас, займаючы ўвесь канец пакоя. Зазвінела ў вушах. Ён бачыў, як у каменданта разяўляецца рот — прорва, у якой няма дна,— аднак нічога не разумеў. «Ганаровы абавязак... ачыстка... будзе выдадзена дадаткова... цыгарэт... гарэлкі...» — даходзілі да свядомасці асобныя словы.

— Колькі трэба людзей? — нарэшце пачуў ён свой голас.

— Прывядзіце ўсіх вольных ад службы,— адказаў Роп.

— Я?!

— Само па сабе зразумела, пане Адомас,— адгукнуўся Дангель.— Няўжо вы зможаце даверыць такое ганаровае заданне некаму іншаму, напрыклад, свайму вахмістру Бугянісу, хоць ён і вельмі спраўны чалавек?

— Я...— Адомас паспрабаваў устаць з крэсла, але тры пары вачэй — іранічных, пагрозлівых — штурхнулі яго назад. Белая палоска зубоў паміж тоўстых губ пачала шырыцца, доўжыцца, пакуль ніжняя частка твару не стала падобная на чэрап з ягонай шапкі.

Пан Роп таксама дазволіў сабе ўсміхнуцца ў гэты дзень жалобы і кпліва заўважыў:

— Дагэтуль вы не вызначаліся асаблівай дбайнасцю, пане паліцмайстар. Прыгадваю, у першыя месяцы вайны, калі пры камендатуры была створана карная група па ліквідацыі жыдоў і камуністаў, некаторыя вашы людзі някепска папрацавалі, а ў пана Вайнараса, як толькі ён быў нам патрэбен, адразу ж знаходзілася пільная справа, каб некуды з'ехаць.

— Вам няма за што мяне папракнуць, пане камендант,— залапатаў Адомас.— Калі трэба было, я не баяўся ўжыць зброю. Але расстрэльваць бяззбройных людзей...

— Людзей? — здзівіўся Дангель.— Жыдоўскі камуніст вам чалавек?!. Праказа на твары чалавецтва, гніль, ачысціць ад якой зямлю заклікала нас гісторыя. Не паўтарайце псеўдагуманістычнай лухты, пане Вайнарас, пакінем гэта плутакратычным вырадкам на Захадзе.

— Маральныя прынцыпы нашай нацыі...

— ...чакаць, пакуль нехта зарэжа кураня, каб потым з'есці яго,— падхапіў Дангель.— Перастаньце, пане Адомас, я вас бачу наскрозь, магу нават сказаць, што за думкі сядзяць у вашай галаве. Паслухайце.— Начальнік гестапа нахіліўся да Адомаса. Ад жорсткай маскі твару, напудранай пасля брыцця, павеяла холадам склепа і галантарэяй.— З немцамі не вядома яшчэ што будзе, думаеце вы, у адзін слаўны дзень яны выберуцца з Літвы. Будзе новы Версаль, новы Вільсан са сваімі васемнаццаццю пунктамі, новае шаснаццатага лютага[1]... Вы баіцеся рызыкаваць, далёкадумны вы чалавек, бо не ведаеце, як на гэта будуць рэагаваць вашы новыя апекуны з-за акіяна...

Адомас хацеў ускочыць, абурыцца — ён жа на самой справе не думаў, што некалі давядзецца трымаць адказ за свае ўчынкі,— але Дангелеў позірк прыкаваў яго да крэсла. Сабраўшы ўсю сваю волю, ён усё-такі адарваўся ад яго і ўзняў замглёныя вочы на камендантa.

— Пане Роп... Herr Hauptmann... Мае паводзіны не даюць вам ніякай падставы... Я пратэстую...— Язык ледзь варочаўся ў перасохлым роце, быццам там былі ўстаўлены лішнія зубы.

— Мы не робім далёкасяжных высноў, пане начальнік паліцыі. Мы верым вам. Яшчэ болей — даём вам зручную магчымасць рассеяць падазрэнні, калі ў каго, напрыклад, у пана Дангеля, яны ўзніклі.— Па вуснах у камендантa праслізнула змяіная ўсмешка.— Вы ж разумны чалавек, і я не думаю, каб вы паддаліся на бальшавіцкую прапаганду, што, маўляў, немцы тут часовыя госці. Хоць, з другога боку, вашай нацыі ўласцівая такая свінская рыса, як няўдзячнасць. Германія, якая ўратавала Літву ад сібірскіх лагераў, ліе кроў за Новую Еўропу, а тым часам літоўскія хлапцы забаўляюцца ў сваіх каморах з дзяўчатамі. Нашкрэблі некалькі батальёнаў добраахвотнікаў і думаеце, што споўнілі свой абавязак перад фюрэрам і вялікім рэйхам. Ваякі! Без нямецкай дапамогі не патрапіце даць рады нават беларускім партызанам. Ці не занадта доўга вы выпрабоўваеце наша цярпенне, пане Вайнарас?

— Што я магу, пане камендант,— прамуміў Адомас.— Не ў маёй моцы...

— Мы ўжо змаглі пераканацца, што ў вашай моцы, а

[1] 16 лютага 1918 года — дзень абвяшчэння незалежнасці Літвы.

што не. І думаем,— акуляры ў каменданта пагрозліва бліснулі,— што сапраўднае ваша прызванне не тут, а ў батальёне самаахоўы, вока ў вока з узброеным ворагам,— гэтага ж, здаецца, прагне ваша высакародная салдацкая душа. Ахвотна вас туды адрэкамендую, калі ўжо просіцеся.

Пакуль камендант гаварыў, Дангель у знак згоды стукаў абцасам бота па падлозе, быццам хацеў кожнае слова глыбей убіць у свядомасць начальніка паліцыі.

— Маё меркаванне абсалютна супадае з вашым, пане Роп.— Дангель адштурхнуўся ад спінкі крэсла і зноў нахіліўся да Адомаса.— Як бачыце, пане Адомас, мы маем сур'ёзную падставу не верыць у вашу шчырасць.

Адомас упіўся пазногцямі ў спацелыя далоні.

— Нельга выняць сэрца і паказаць, што ў ім,— выдушыў ён, разумеючы, як ілжыва гучыць кожнае слова.

— Чаму нельга? Можна. Але тады сэрца вам ужо не будзе патрэбна, пане Адомас.— Дангель хрыпла засмяяўся. Грукнула адсунутае крэсла, зарыпеў паркет. Калі Адомас узняў галаву, камендант стаяў за сталом з засмучаным выразам твару. Дангель, заклаўшы нага на нагу і скрыжаваўшы на грудзях рукі, глядзеў у столь. Чорны цень у сваім кутку ўжо не ўсміхаўся, яго вочы няветла свяціліся, быццам у ката́ ў цемры.

Адомас устаў.

— Больш заўваг няма, Herr Polizmeister?

— ...

— У дзевятнаццаць нуль-нуль быць са сваімі людзьмі каля камендатуры.

— У дзевятнаццаць нуль-нуль быць каля камендатуры...

Пан Роп усміхнуўся, і губы ў Адомаса таксама расцягнуліся ва ўсмешцы. Ён стукнуў абцасамі («Можна ісці, Herr Hauptmann?») і рушыў, пахістваючыся, па слізкім паркеце бясконца доўгага пакоя з пальмай з гэтага боку і вартавым з таго боку дзвярэй, адчуваючы на твары ўсмешку, якая расцягвае губы. На чужым, нібы наклееным, твары. І гэтая прыдуркаватая ўсмешка таксама наклееная, не, яна проста ўрасла ў твар, і ён ішоў праз горад, да слёз саромеючыся яе, аднак жа не могучы садраць.

Ачомаўся ён каля свайго дома. Праз адчыненую фортку цадзіўся пах смажаніны. Абед! «Ты хоць раз прыйшоў у пару, Адомас. Ды што з табою? Ты з твару змяніўся. Божа, скажы, што здарылася?» Давядзецца ўсміхацца як

ні ў чым не бывала і есці біфштэкс. Але ён можа, не ўтрываўшы, сарвацца і заехаць ёй у зубы! Пасля застанецца адно — упасці на калені, прасіць даравання і спавядацца ва ўсім перад ёю, нібы перад ксяндзом.

Ён адскочыў ад дзвярэй і выбег на вуліцу. Конча мусіла стацца нейкае дзіва: задрыжыць зямля ці ўпадзе з неба агонь і зжарэ камендатуру. І тых трох, што рыхтуюцца да крывавага абраду.

## VII

— Так, Гедміс, я ўсё яшчэ спадзяваўся на цуд: нешта здарыцца і яны абыдуцца без мяне. «Усіх, хто сёння вольны ад службы, частуе камендатура,— сказаў я сваім хлапцам.— У дзевятнаццаць нуль-нуль выпраўляемся да іх прадаўжаць жалобныя ўрачыстасці». Бугяніс пабег па гарэлку — картачкі мне ўклаў у кішэню Дангель перад маім адыходам,— і мы да самага цямна пілі і пілі гарэлку, аднак чамусьці ніхто не мог ап'янець. Не, не, яны не ведалі, на якое заданне мы едзем. Сам не ведаю, чаму не сказаў ім. «Мабыць, рускія скінулі нейкага парашутыста. Давядзецца ператрасаць вёскі. А калі гэта дзе-небудзь каля Вянцкіх лясоў, дык мы можам мець прыемную сустрэчу з бандытамі»,— вырашылі мае хлапцы. І я падтакваў ім, рагатаў разам з імі, пакуль нарэшце не паверыў, што так яно і будзе.— Адомас запаліў пагаслую цыгарэту. Ён быў зусім цвярозы, хоць асушыў бутэльку амаль да самага дна.— А трэба было сказаць, Гедміс, трэба было... Будрэйка, калі тых сагналі да ямы, а нас выстраілі насупраць, зняў аўтамат і шпурнуў на зямлю. «Мы не мяснікі, пане гаўптшарфюрэр...» Лемке ашчэрыў зубы. Мне здалося, што не стрэл, а гэтыя белыя зубы ўпіліся Будрэйку ў спіну. «Не ўмееце трымаць дысцыпліну, Herr Polizeichef». Перастроілі шарэнгу. Пяць немцаў — адзін паліцэйскі, пяць немцаў — адзін паліцэйскі. «Feuer!» [1] Мы секанулі... Па асветленай пражэктарамі людской сцяне, галінастай, зблытанай між сабой, як той лясны гушчар, што стаяў за імі. Мы стралялі па жывых дрэвах, Гедміс, а пазней, калі апошняя дзялянка была высечана, мы склалі свой інструмант і з песнямі паехалі дамоў. У кузаве каля нашых ног ляжаў труп Будрэйкі, аднак мы ўсё роўна гарлапанілі, як вар'яты, падпяваючы шэрым і чорным

---

[1] Агонь! *(ням.)*

немцам, хацелі перакрычаць крык сумлення. Пасля нам зрабілася блага, адзін Бугяніс трымаўся па-мужчынску. Немцы рагаталі, не пускалі нас да бартоў, і мы аблёўвалі труп Будрэйкі. Не глядзі на мяне, як на вар'ята, усе мы такія... чацвёра магільшчыкаў... Пан камендант расшчодрыўся, выдаў яшчэ некалькі пляшак. Належыць жа на памінках? І мы зноў пілі, а Будрэйка ляжаў на двары без паска, з сарванымі пагонамі. Пасля мы, чацвёра магільшчыкаў, нібы калоду, закінулі яго на плечы — ён закасцянеў на холадзе — і пацягнулі пустымі вуліцамі ў паліцэйскі ўчастак. Немцы не адзінокія са сваім Сталінградам, Гедміс, яны ўмеюць зрабіць, каб не толькі іхнія маці плакалі па сваіх дзецях. Ты не верыш, што мы здольныя заплакаць, аднак мы сапраўды плакалі. Такі хлапчына! Заставалася яшчэ трохі гарэлкі. Высмакталі да апошняй кроплі. Бугяніс выцягнуў аднекуль бутэльку самагонкі, і яе пусцілі па крузе. Няма такой моцы, якая зваліла б нас з ног. Мы неўміручыя, Гедміс,— гісторыя ставіць помнікі і забойцам.

Адомас гаварыў аднатонна, перавёўшы пагляд са стала на абклееную блакітнымі шпалерамі сцяну насупраць сябе, але ні разу не павярнуўся да Гедымінаса. Час-почас ён роспачна рагатаў, нібыта ён быў акцёрам і жадаў гэтакім чынам ажывіць апавяданне, каб не заснуў слухач. Тады яго цела вагалася ў крэсле, а рукі, што ляжалі на стале, мянялі сваё становішча, але з апошнім гукам рогату ён зноў застываў у ранейшай позе. У густа надымленым пакоі яго цела здавалася прывідным — нейкая цьмяная маса, што плавала ў блакітным тумане, якая, у залежнасці ад голасу, то набліжалася, то аддалялася, амаль зусім растаючы ў прасторы. Гедымінас, не могучы працівіцца дзіўнаму пачуццю, выцягнуў руку і турзануўся назад, адчуўшы цёплы авальны выгін пляча.

Адомас уздрыгнуў, павярнуў галаву. На імгненне, усяго толькі на імгненне іхнія позіркі сустрэліся.

— Ведаю, пра што ты цяпер падумаў.— Адомас зірнуў цераз плячо на канапу, дзе ляжаў пасак з пісталетам.— Некалькі гадзін таму назад гэта было б выйсце, а пасля Алешніка — бяссэнсіца. Разумней за іншых зрабіў Будрэйка. Але для гэтага трэба адвага.

— Не, толькі сэрца,— адсутным голасам адказаў Гедымінас, у той жа час думаючы: «Тытунёвы дым падобны на нейкую мутную вадкасць, а электралямпачка на раздзьмутую грушу. Мы зачынены ў чатырохграннай пасудзіне з

блакітнага шкла і замарынаваны». Ім зноў авалодала хваравітая думка выцягнуць руку і дакрануцца да Адомаса, але той раптам захроп, нібы недарэзаная жывёліна, і гэта вярнула Гедымінасу пачуццё рэальнасці.— Навошта ты мне ўсё гэта расказаў? — прашаптаў ён, адчуваючы, як растуляюцца абцугі, што трымалі яго за горла, і ліпкай горыччу наліваюцца вочы.— Не мог знайсці лепшага слухача?

— Не ведаю...— Крэсла пад Адомасам зарыпела, чыркнула запалка.— Не ведаю, Гедміс... Можа, гэта Будрэйкавы вочы?.. Нерухомыя кавалачкі лёду. Тады, памятаеш, на лузе ля Струмлі я праваліўся. Ты падпоўз па лёдзе на жываце, падаў кій. Пэўна, не трэба было глядзець у Будрэйкавы вочы. Але ніхто не хацеў іх заплюшчваць, мусіў падысці сам і пакласці на павекі па медзяку. Засланіў лёд, а ўсё роўна бачыў цябе. На лёдзе. І той пададзены кій...

— І ты прыйшоў нагадаць мне пра гэта, каб узваліць на мае плечы частку адказнасці? — Гедымінас адсунуўся разам з крэслам ад стала і, павярнуўшыся да Адомаса спіною, абапёрся аб спінку. У вачах пякло, і ён уторкнуўся тварам у рукаў, баючыся, каб вірлівая плынь пачуццяў не прарвала такія нетрывалыя загародкі. Адомас нешта гаварыў, змаўкаў, безнадзейна чакаў адказу. Паўзы рабіліся ўсё даўжэйшыя, а голас усё цішэйшы, пакуль не пагас зусім. Потым загрукацела крэсла, якое адсоўвалася, каля канапы затупалі падкутыя боты, затрашчаў на шве шынель, што нацягваўся на плечы.

— Спі, нявіннае немаўля, соладка спі...— засіпеў над вухам Адомасаў голас, аднак Гедымінас не быў упэўнены, што гэта яму не здалося.

Ён ускочыў і адчыніў акно. У пакой хлынула ледзяная, зорная, іскрыстая ноч. У закамянелай цемры рытмічна стукалі боты. Быццам прорва, што разявіла ненажэрную пашчу, чарнеў горад. Адтуль даляталі гудкі паравозаў, крокі патрулёў, рэха стрэлаў.

«Пампея перад вывяржэннем Везувія».

Прыняты жахам, ён зачыніў акно і, не раздзеючыся, кінуўся ў ложак. Ляжаў здранцвелы, не думаючы ні аб чым. Руіны горада, залітыя лавай. Пад раніцу крыху заснуў, а можа, гэта яму проста здалося. Хутчэй за ўсё здалося, бо ён чуў, як заспявалі пеўні. Спачатку адзін — у павеці панны Ануты. Яму адразу ж адгукнуўся другі — суседскі, а таму — трэці, і вось ужо ўвесь край горада

лопаў крыламі і бадзёрым спевам вітаў новы дзень. Гедымінас, нібы зачараваны, глядзеў на абрысы вёскі, што імкліва набліжалася да яго ў сініх світальных прыцемках. Калодзежныя жураўлі і сабакі віталі яго, акенцы ў хаце слязіліся ад радасці расою, і ён ішоў па белай вуліцы, пабапал устаўленай свечкамі дрэў, да зямлі кланяючыся зганьбаванаму храму прыроды і яе грэшным, але адданым слугам.

Я заблудзіўся ў свеце нецвярозым —
хачу вярнуцца ў шчыры край дзяцінства.
Разуюся пад белаю бярозай.
Прымі блукальца, родная хаціна!

Толькі певень, гэтая святая птушка, і змог стварыць такое дзіва!

## *Раздзел восьмы*

### I

Некалькі дзён таму назад пахавалі свякруху. На месца яе ложка паставілі шафу, небагатыя спажыткі нябожчыцы перабралі: горшае адзенне звязалі ў клумак — будзе жабракам, а лепшае закінулі на гарышча — на чорны дзень.

— Грэх так гаварыць, але была ў цяжкасць і сабе, і іншым,— зазначыў Кяршыс, гледзячы, з якім запалам Аквіля парадкуе пакой. Сам хапаўся за цяжэйшыя рэчы, ушчуваў жонку, навошта цягае — хіба Юліта не можа дапамагчы,— а яго вочы са спадзяваннем і пяшчотай лашчылі патаўсцелую жончыну постаць. Толькі памаленьку, толькі без спеху, каб не дай бог... І, адабраўшы з рук у яе вядро, сваёй нязграбнай хадою клыпаў то да калодзежа па ваду, то выносіў на двор памыі, то кідаўся, наколькі дазваляў яму спрыт, да пліты, каб зняць з агню гаршчок. На сёмуху, калі бог дасць, трэба будзе пад бэлькай павесіць калыску!

Мужава клапатлівасць цешыць Аквілю. Калі выходзіла за яго, вясковыя бабы за бакі браліся ад смеху («За такога няўклюду, ды яшчэ сярмяжніка...»), а цяпер усе ёй зайздросцяць. Пашанцавала дзеўцы, што і казаць. Мала таго што з байструком узяў, дык яшчэ, нібы лялечку, на руках носіць. А які дбайны гаспадар, які працавіты!

Хто б мог падумаць, што пад гэтым пнём закапаны сапраўдны скарб.

Хацелася б паглядзець на Катру Табаку — якую мызу яна мае, калі слухае такія размовы. «Не багацеі і не кулакі, як бальшавікі гаварылі, але і без выхвалняння маем чым пахваліцца, м а т у л я... Зайдзі, будзеш госцяй, паглядзі, як жывуць галадранцы Кяршысы». Узяла б яе за руку — і ў хату. Сцены ў пакоях ашаляваныя шпунтавымі дошкамі, столь — таксама. Падлога пафарбаваная, у святліцы кафельная печ. У каморы, праўда, пуставата, але хто ў такі час вешае кумпякі ды сала ва ўсіх на вачах? У хляве адна толькі карова з цялушкай (быка сапхнулі ў пастаўкі) і пароснвя свіння. Затое ў клуні, за саламянымі сценамі, схавана амаль удвая болей скаціны. Не адзін Хвэлька такі разумнік, усе ў Лаўксадзісе, хто як можа, ашукваюць уладу: запішуць адну жывёліну, а трымаюць дзве, але не кожны патрапіць замесці гэтак сляды.

— Абдурваеш самаўправу, Кяршыс,— падазрона міргае староста Пятрас Кучкайліс, раскладаючы на стале свае спісы.— Няўжо ў цябе ўсяго таго дабра, што тут запісана?

— А адкуль яго больш возьмеш, пане староста? Быў жа ты і ў хляве, і ў свірне, і на гарышча лазіў. Уся мая гаспадарка перад табой, як перад госпадам богам, на далоні, ага. Можа, хто-небудзь і абдурвае, толькі не Кяршыс. А-эх, злавіў бы мяне на чым — пэўна, у лыжцы вады ўтапіў бы.

— Вось тут ты ўгадаў. Усе, хто ўводзіць у зман уладу, дапамагае, бач, бальшавікам. З такімі мы айн мамент, і капут.

— Не з усімі, пане староста, а-эх, не з усімі. Такога Кяршыса айн мамент, а заможныя гаспадары праслізгваюць між пальцаў, як намыленыя. На белай паперы, колькі яны сказалі, столькі і запісана, аднак ніхто не правяраў у іхніх свірнах і хлявах...

— Не смуродзь процi ветру, мне смешна.— Пятрас Кучкайліс зняважаны, аднак не мае чым крыць: у Кяршысавым намёку шмат небяспечнай праўды.— Бачу, хочаш адцягнуць маю ўвагу ад сваёй кафлі, ад шпунтаваных сцен. Не старайся, мы ведаем, як робяцца такія рэчы.

Кучкайліс збіраецца адыходзіць, але не паспявае: з кухні выбягае Аквіля, несучы бутэльку віна і закуску, і ўсаджвае яго зноў за стол.

— Хамула хамулам, а рогі вялікія мае,— сказала яна, выправадзіўшы старасту.

— А-эх, хто гэтага не разумее,— згаджаецца Кяршыс.— Гной абыходзіш не са страху, але з-за паху.

Вечарам, управіўшыся з работай, яны ляжаць у шырокім ложку. Сямейны ложак пябожчыкаў бацькоў, вечная ім памяць. Расхістаныя дошкі рыпяць і пішчаць у стыках, пад спіной шамаціць незляжалая жытнёвая салома. «Падушка пад бокам гэта добра, а спружынавы матрац было б яшчэ лепш»,— думае яна, прымаючы яго цела, што пахне конскім потам і тытунём. Потым на яе жываце застаецца толькі яго далонь — цяжкая лускаватая чарапаха, што прагна п'е хмельную цеплыню чужога цела. А-эх, ці гэта не ласка божая, і ці ты не святая, бо адсюль выйдзе на свет чалавек, каб прадаўжаць род Кяршысаў. Яна дрымотна ўсміхаецца. Лянівая, поўная сытасцю і агідаю да самое сябе. Пяць вузлаватых шчупальцаў нерухома ляжаць у яе на жываце. Пад імі ім зачаты зародак, яго насенне, яго цела і кроў. Пяцігаловы цмок раўніва і аддана ахоўвае свяшчэннае права ўласнасці. Ёй становіцца прыкра і страшна. Скінула б яго руку, але цела быццам спавітае. Нудзіць. Яна не мае сілы нават павярнуцца на бок. Моцна заплюшчвае вочы. Але ўсё роўна перад імі стаяць, як стаялі, і шэры падворак, і прывязаная да плота карова, і ў вечаровых прыцемках злітыя цені.

«...Спраўны бычок, а-эх, спраўны...»

— Сёлета, кажуць, пастаўкі будуць большыя. Хто ведае, ці ўдасца выкарміць парсюка на продаж.

Твар у Гедымінаса скрыўлены ў іранічнай усмешцы на фоне плямістага снегу: «Не кожны здолее нажыцца, калі краінай кіруюць рабаўнікі».

— Путрымасы хочуць перасяліцца ў хату Нямунісаў. Нібыта ўжо і дамовіліся. За наймы Чорны Кукса прыйдзе адпрацаваць дзень-другі. Бо пасля таго, як Юліта прыгарнулася да нас...

— Перастань,— ціха, але цвёрда сказала яна.— Я хачу спаць.

Аднак яна яшчэ доўга не засынае. Хвеліксас, павярнуўшыся спіною, ужо даўно пасопвае носам, а яна ўсё глядзіць то на цьмяна асветленую столь, то на акно, за якім плюскаецца расплаўленае месяцавае серабро і пакалыхваецца ад ветру голы куст бэзу, раз-пораз нясмела пастукваючы закляклымі пальцамі ў шыбіну. Пачатак красавіка. Зямля аддыхалася ад холаду, але па начах

яшчэ падмарожвае, і сонца раніцою бяжыць па здранцвелых палях, ломячы крохкія вітражы сухога лядку. «Вясна, яшчэ адна вясна»,— думае яна. Яе абдымае шалёнае жаданне ўсхапіцца з ложка, расхінуць акно — і рынуцца ў гэтую шэрую ноч. Басаноож па мёрзлых грудах, з голымі грудзямі супраць ледзянога ветру.

Калісьці ёй снілася, што яна лётае. («Дурненькая, навошта табе крылы? Я вазьму цябе на рукі і абнясу вакол зямлі»,— сказаў назаўтра пан Кантроль.) Здаецца, таксама, як і цяпер, быў красавік. Кнігаўкі крычалі і насіліся над галавою, пагрозліва ўзмахваючы цяжкімі крыламі, а яшчэ вышэй мітусіліся зоркі — залаты гудлівы рой пчол, унізе ж, глыбока ўнізе ляжала вёска, быццам пашарпаная, утаптаная ў бруд шчотка, і побач з ёй возера — вялізазная, з натапыранай лускою рыбіна, што канае ў агоніі. Потым яна ніколі ўжо больш не лётала, ніколі не перажывала той велізарнай, ні з чым не параўнанай радасці, якой напаўняла хмельная вышыня і зорная бездань, што прасвятляла душу.

«...Заўтра трэба будзе схадзіць на лётчыкаву магілу. Пакуль не адцвілі пралескі...»

У яе ўяўленні ўзнікае і другая магіла. Бачыць замшэлы сасновы пень, кучы галля на лясной прагаліне, старога ляснічага. «Можа, ім паставяць калі-небудзь помнік, але пакуль што нямнога мацярок ведае, дзе ляжаць іхнія дзеці...»

Яна адштурхоўвае ад сябе гэтую карціну, са злосцю сунімае думкі. Чаго трызніш наяве? Пра жыццё думай, пра жыццё, дурненькая гімназістачка! Чуеш? Другая карова хутка будзе цяліцца... у кроснах не скончанае палатно... невядома, колькі картак яшчэ засталося атаварыць... Вось гэтак! Чаго табе трэба яшчэ? Такі муж пад бокам, неўзабаве будзе другое дзіця. Каханая, сытая, апранутая. Не блюзні перад богам. Хочаш бяду наклікаць, вар'ятка?

Дрыгатлівымі пальцамі ўчапернулася за край ложка. Заткнула рот мяккай падушкай. Цёплы пах дрымотнага логвішча. «Трымайся, божа мой, трымайся, за што ўчапілася...»

О божа...

Плынь успамінаў адарвала яе, нібы слімака ад каменя, і шпурнула ў вір мінулых дзён.

## II

Першае, што яна ўбачыла, калі расплюшчыла вочы, была ружаватая пячора, якая дыхала цеплынёю і тхлінай. Пашча велізарнай пачвары ўсмактала яе і нябачнымі слізкімі шчупальцамі ўцягвала глыбей, у нутро. Адтуль уздымаўся непрыемны, ад якога млела сэрца, пах варанага мыла, і калі б не гэтыя дужыя рукі — адна моцна сціскала правае прадплечча, другая абхапіла яе за паясніцу,— Аквіля звалілася б з ног.

— Вылазьце, хто жывы: нявестку прывёў,— крыкнуў Марус.

Воблака пары трохі рассеялася, і яна ўбачыла лямпу, якая вісела на сцяне, стол, завалены нейкім начыннем, і цёмныя постаці людзей. Паволі, быццам слімак, па звілінах мозгу прапаўзла думка: «Ніколі тут не была, хоць жывём у адной вёсцы». Аднак яна, не пярэчачы, падпарадкавалася руцэ, што ляжала ў яе на поясе, і, як таго і жадала рука, села на ўслон перад бязмоўна застылымі постацямі. У запанаванай цішы весела булькацелі гаршкі на прыпечку, стралялі сасновыя дровы, ледзь чутна рыпеў услон пад яе целам, якое дрыжала ад холаду. Нарэшце цені заварушыліся, загаварылі разам, і яна ўбачыла перад сабою высокую мажную жанчыну з шырокім ружовым тварам — бальшавіцкую маці-ведзьму, як яе называла Катра Табака.

— Але ж гэта Вайнарайтэ! Адкуль ты, Марус, выцягнуў гэтую мокрую дзеўку?!

Яна перастала нават дрыжаць ад холаду — так перапалохалася. Раптам адчула: ёй ужо не ўсё роўна, як на яе паглядзяць людзі, яна зноў жывая клетачка гэтага свету, якой важна заняць сваё месца ў ім. Яна гатовая была праваліцца скрозь зямлю ад сораму і ганьбы.

— У сенцях знайшоў,— сцебануў бізуном хрыплаваты смех.

Тады яна павольна павярнула галаву і паглядзела на яго. Ужо без панікі, наэлектрызаваная раптоўнай злосцю. («Можаш мяне апляваць, растаптаць бруднымі ботамі!») Ён стаяў пасярод хаты, расставіўшы ногі. На няголеных шчоках блішчалі нявысахлыя кроплі вады. Шыракаполы капялюш закінуты некуды ў кут, каштанавыя кучаравыя валасы атуляюць матавы квадрат ілба, па-змоўніцку ўсмешліва і адкрыта глядзяць на яе, падбадзёрваючы, вочы: «Не хвалюйся, мая дзяўчынка, мы з табой сёе-тое ведаем, але толькі мы з табой». І яна чамусьці адразу паве-

рыла ў тое, што казалі гэтыя вочы. Зрабілася лёгка і добра, і калі яна зноўку ўбачыла перад сабою ружовы шыракашчокі твар, гэтая жанчына не здалася ўжо ёй такою варожа непрыемнаю, хоць Катра Табака з маленства палохала ёю сваіх дзяцей. Праўда, яна не была прыгожая, голас мела шурпаты, як зрэб'е, словы, якія зляталі ў яе з языка, часта былі рэзкія, нават зняважлівыя, але як пяшчотна шамацела ў яе вузлаватых руках сухое адзенне, якое яна падала Аквілі.

— Твая маці надзвычай добрая,— сказала яна Марусу. Але гэта было намнога пазней. А цяпер яна сядзела каля агню, прыемна здранцвелая, сонная, і ўся гэтая гісторыя з панам Кантролем здавалася ёй казкай, пачутай ад некага іншага. Але хвілінамі зноў уставаў перад яе вачамі бялёсы пасак абрыву, зноў пад нагамі, унізе, адкрывалася вусцішная глыбіня ўзбуранага возера, і яна, апанаваная страхам, ад якога стыла ў жылах кроў, глядзела, доўга глядзела ў вусце печы, дзе агонь лізаў чырвона-пярэстыя палены, адчуваючы, як знікае жудасны вобраз, растае, быццам гэтае дрэва, што ператвараецца ў попел, і ў сэрца зноў вяртаўся спакой. Яна была бязмежна ўдзячная гэтым добрым людзям, якія ні аб чым у яе не пыталіся, ні з чога не дзівіліся, а звычна рабілі сваю работу, гутарачы пра нешта староннее. Іхняя суровасць, якая ў іншы час магла б яе балюча пакрыўдзіць, цяпер яе суцяшала і грэла.

І калі настала зіма — бялейшая, званчэйшая, чым іншыя зімы,— яна агледзелася ў сабе, нібы ў хаце пасля пажару, і пачула шэпт прадчування, які дадаваў ёй адвагі: не застанешся жыць сярод голых сцен, не марнуйся. Потым з зялёнымі паўднёвымі вятрамі ўварвалася вясна, сады ўсыпалі ўсе сцяжыны перад вялікім святам апладнення, і ёй было дзіўна, што гэтая дзевятнаццатая вясна ў яе жыцці (божа, як імчыць час!) чамусьці зелянейшая і хмяльнейшая за іншыя вёсны.

У адзін з такіх дзён, калі ўсё здавалася дужа правільным і простым, яна сказала яму:

— Я твая даўжніца, Марус.

Ён здзівіўся і смешна расцягнуў губы. У вачах замігцелі светлыя кропкі.

— А! — нарэшце ўцяміў ён.— Ці выпадкова не за тое, што летась ледзьве не ўтапіў цябе ў возеры?

Яна падумала: «І за гэта таксама, хоць тады я выходзіла з дому — наогул з цэлага свету,— каб ніколі ўжо больш не вярнуцца назад. Аднак ці не адзін раз даводзіц-

ца радавацца ў жыцці таму, што надоечы не паспяшаўся ўчыніць нейкае глупства?»

— Не,— сказала яна.— Што ты! — схлусіла яна яшчэ раз.— Але, бачыш, пра мяне... з тым Кантролем ты ведаеш больш чым хто. Я тады табе ўсё... Сама не ведаю чаму, але ўсё... Разумееш? Нават мама не ведае, а ты ведаеш, што ён мяне не толькі на матацыкле вазіў... Я думала, пасля гэтага плёткі пойдуць, а ты нібы нідзе нікому... Я табе дужа ўдзячная, Марус...

— Я плётак не разношу, паненка,— сцебануў ён балючай, чым аплявухай, і, не чакаючы адказу, пайшоў.

Пакрыўдзіўся! Загневаўся! Ага, часам толькі зачапі не тую струну, і ў ім адразу ж адгукнецца шыракашчокая матуля-ведзьма.

Гаспадары сварыліся:

— Гэты пракляты бязбожнік падбухторыць кожнага, каго патрапім наняць за таннейшую плату з іншых вёсак. Плацяць яму працэнты якія, ці што, за тое, што цану набівае?

— У самы прыпар палова хлопцаў і дзяўчат у вёсцы забаставала,— падгаварыў, д'ябал, каб патрабавалі сабе вольную нядзелю. Гаспадары самі ўвіхаюцца каля скаціны, а гэтыя нанятыя гніды на кірмашах ды маёўках. Альбо цягні ім звыш платы ажно цэлы літ з кішэні.

«І такога чалавека я хацела крануць добрым словам! — злавала на сябе Аквіля.— Адчувала, што абавязана гэта зрабіць. Дурніца! Яго зусім не турбуе, што думаюць пра яго іншыя. Яму б толькі сеяць звады ды нязгоду, людская злосць больш цешыць яго фанабэрыстае самалюбства, чым прыязнае слова». Але ўсё роўна, калі заходзіла размова пра сям'ю Нямунісаў і Катра Табака пачынала бэсціць Маруса, Акіля не згаджалася з ёй.

— Ён,— казала яна,— злосны, але справядлівы. Хіба гаспадар не хоча намалаціць больш збожжа ўвосень ды грошай сабраць? Словам, пабагацець. Вось і парабку таксама гэта рупіць. І не яго віна, што адзін бок мусіць праіграць, каб выйграў другі.

Яна сама здзіўлялася з дваістасці сваіх пачуццяў да Маруса. Быццам хто навязаў ёй сумніцельную праўду, якую конча трэба было раскалоць напалам, каб змагчы пераканацца, што на самой справе знаходзіцца ўсярэдзіне. Наіўная дзяўчынка, якая да знаёмства з панам Кантролем слепа верыла, што кожны прывабна бліскучы каменьчык — жэмчуг, стала жанчынай, і яе пачуццямі кіраваў розум,

які асцярожна, нібы сабака, што аднойчы апёк чмыс, абнюхваў усё навокал сябе і яшчэ асцеражней сустракаў найменшы водгук у сэрцы. Не, Маруса тады яна яшчэ не кахала. Ён цікавіў яе таму, што рэзка вылучаўся сярод астатніх вяскоўцаў. І хоць ён быў не дужа прыгожы тварам, аднак быў добра скроены, моцны, здаровы. Аднак усё гэта яна пачала заўважаць трохі пазней.

На другі год, восенню, у Гульбінасаў сабралася вялікая талака на ўборку лёну, і Аквіля не то ўзрадавалася, не то спалохалася, убачыўшы там гэтаксама і Маруса. З двума іншымі парабкамі ён вазіў з азярода абмалочаны лён, звальваў у мачыльню і прыдушваў камянямі. Ужо прыцемкам, вяртаючыся з двара дамоў разам з іншымі дзяўчатамі, што рвалі лён, яна прыпынілася каля тых загружаных да краёў мачыльных ямаў. На адну з іх, засланую галлём і сцяблінамі лёну, параспрананыя хлапцы па шырокай дошцы ўскочвалі камяні. Тыя двое былі ў споднім, але ў пінжаках, а Марус у трусах, у кашулі і без шапкі. Яго ногі і твар у прыцемку здаваліся цёмна-сінімі, на месцы губ — цёмны правал. Большыя камяні ён качаў, а меншыя браў у рукі і, цяжка калываючыся, ішоў па ўсланай галлём паверхні, нібы па пругкай дрыгве. Але вось ён не разлічыў — а можа, дзяўчаты былі таму прычынай? — і ўхапіў камень цяжэйшы, чым браў звычайна. Ледзь-ледзь здолеў узняць яго да жывата. Сагнуўшыся ў тры пагібелі, пацёпкаўся па дошках і па раскіданым вецці, штосілы трымаючы празмерны цяжар, ад якога яго вадзіла ў бакі. Адолеў! Камень пляснуўся на вецце, аднак у гэтую хвіліну, не ўтрымаўшы раўнавагі, ногі сарваліся, і Марус па калені праваліўся ў ільняную кашу. Дзяўчаты засмяяліся, а Аквіля так ахнула, што ажно сама засаромелася.

Пасля завяршэння працы яны разам вярталіся дамоў. Першы раз удваіх з мінулага лета, калі яны сустрэліся на маёўцы і там пратанцавалі некалькі кругоў. Гутарылі пра сёе ды тое. Проста так, пра самае рознае глупства. Халоднае паветра, ледзяная вада. Можна зарабіць раматус. І навошта людзі мочаць лён, хіба сланец горшы? Божа, які агідны вецер! (Ён: «Пэўна, сярэдзіна верасня, а ўжо кажухі трэба надзяваць».) Потым яна прыгадала яшчэ свежы фотаздымак (Марус у салдацкай форме), які бачыла той восенню на сцяне ў Нямунісаў. Не, я б не хацела быць мужчынам. Чаго варта адно толькі гэтае ваша войска. На васемнаццаць месяцаў, нібы ў астрог. Бррр... А калі яшчэ вайна... (Ён: «Вайна ўжо ідзе. Польшча зваявана, але гэ-

та яшчэ не ўсё. Супраць немцаў выступілі ангельцы і французы. Можа ўвесь свет зашугаць».)

— Добра, што мы не спрачаліся за Клайпеду...

— Яны не будуць спрачацца нават за ўсю Літву: калі папросяць, стануць на калені і аддадуць,— кпліва зазначыў ён.

— Блыха супраць слана не паскача. Галоўнае, каб не было вайны.

Марус нягучна засмяяўся. Але не злосна, нават, здаецца, лагодна.

— Не, цяпер дык не аддадуць,— ён вёў далей сваю думку.— Спазніліся: савецкія базы не дазволяць.

Яна б яшчэ паспрачалася, але ёй дужа не па душы ўсе гэтыя войскі і дыпламатычныя размовы. Куды прыемней ісці ветранай ноччу праз вёску ўдваіх, слухаючы, як шумяць дрэвы і брэшуць сабакі. Сям-там у акне святло, запознены дым з коміна, а ў галаве лёгкі хмель ад узятай чаркі віна. Добрая ноч. І добры свет, калі ён такі малы, што расставіш рукі — і ўпрэшся ва ўсе чатыры сцяны. Кубічны метр паветра вакол цябе, квадратны метр зямлі пад нагамі. Свет, які нясеш разам з сабой. У ім няма руінаў Варшавы, выбухаў бомбаў, пагрозлівай невядомасці. Толькі гэтая пранятая ветрам і ўсеяная зоркамі ціша, зачыненыя нанач хлявы, пасланая ў святліцы пасцель. А побач ён, не такі, як усе. Чалавек-загадка з цёмна-сінімі нагамі («У бусла ногі чырвоныя...») і з голай галавой. Яна хацела б, каб ён уступіў у яе кубічны свет,— страшна шмат пустога месца. Аднак ён ідзе побач, толькі побач. Адлегласць на некалькі пядзяў расцягваецца на тысячы кіламетраў. Ён належыць іншаму свету, так, ён належыць іншаму свету. Але яна не хоча ў гэта верыць. І кажа, сама не разумеючы чаму:

— Я б так не змагла...— кажа яна, мабыць спалохаўшыся маўчання, што зацягнулася занадта доўга.

— Чаго? — здзіўленае запытанне, кінутае на вецер.

— Гедымінас расказваў,— тады яна яшчэ не атрымлівала любоўнага пісьма ад Гедымінаса,— што ты здаў экзамены за тры класы. Я б так не змагла: працаваць і вучыцца. Ты моцны, Марус.

— Ты думаеш? — Ён засмяяўся нейкім звонкім меладычным смехам.— Трэба быць моцным. Бачыш, стары свет развальваецца. Калі будзеш слабы, не выкараскаешся з-пад руінаў. Нам давядзецца ўсё пачынаць спачатку. Вось і закасваем рукавы.

— Дапраўды, развальваецца. «Хто быў нічым, той стане ўсім». Куды вы толькі падзенеце такіх, як пан Гульбінас альбо наш Адомас?

— У Савецкай краіне няма беспрацоўных, мая дзяўчынка.

Яна доўга маўчыць. Разважае, сумняваецца. Нарэшце няўпэўнена кажа:

— Што ж, у такім разе варта вучыцца. Зможаш заняць добрую пасаду.

Марус цішком лаецца. Павярнуўся да яе, зноў адвярнуўся. Турзаецца, бы конь у хамуце, апанаваны мухамі. Спыніўся — вёску яны ўжо прайшлі да канца (яна неяк незнарок празявала сваю сядзібу), і ў цемры цяпер віднеўся Нямунасаў двор.

— Чорт вазьмі,— зноўку вылаяўся ён,— я ўжо дома. Можа, цябе правесці назад?

— Як хочаш.

— Ды ўжо давядзецца. Ты наступіла мне на мазоль. Мусім разблытаць гэтае пытанне, мая дзяўчынка.

І яны павярнулі назад па вясковай вуліцы.

— Сказала — нібы пазычыла,— загучалі шурпатыя прыкрыя словы.— Вам, кулакам, толькі гэта і рупіць, каб тлусцейшы кавалак ухапіць. Нас жа турбуюць не казённыя пасады, а ідэя барацьбы пралетарыяту, дзяўчынка. А без навукі, адной моцай мускулаў, ідэю ў жыццё не ўвасобіш. Цёмны чалавек падобны да клячы, якую хто хоча, той і можа запрэгчы ў свой плуг. Калі мы будзем такія, нічога добрага з таго не атрымаецца, нават калі б мы ўзялі ўладу ў свае рукі... «Зможаш заняць добрую пасаду...» Ха-ха-ха! Такім, як я, трэба не проста добрая пасада, а ўсё, што нам належыць. Мы возьмем гэта і падзелім так, каб ніхто не быў пакрыўджаны. Эксплуататары, вядомая рэч, будуць ліць کракадзілавыя слёзы. Дзіва што, арлу падрэзалі крылы, зраўнялі з шэрымі вераб'ямі, што поркаюцца ў кучы гною. Па-іхняму, гэта найвялікшая несправядлівасць. Так, мы прынясём радасць, але будзе і роспач, будуць і драмы. «Абрабавалі! Забілі!.. Ратуйце!» Не ўтаю, будзем брысці ў слязах багацеяў, а то, можа, і ў крыві. Гэта непазбежна! А хіба яны не брылі? З найстаражытнейшых часоў, калі запанаваў прыгнёт, беднякі столькі напакутаваліся, што гэтых пакут прыгнятальнікам ніколі нічым не выкупіць. Так, мы мусім узняць кулак над іхнімі галовамі, мая дзяўчынка. Дзеля святой справядлівасці. Дзеля будучыні ўсіх людзей свету. Э-э, ды навошта я табе

ўсё гэта расказваю? Хіба твая галоўка здолее зразумець, як будзе выглядаць свет, калі ўсе людзі будуць братамі? Я і сам гэтага як след не ўяўляю, але ўпэўнены: будзе слаўна. Кожны будзе працаваць не на сябе, а на ўсіх, складаць набытак у агульную кучу, а з яе браць, колькі яму трэба. Не застанецца больш ніякай падставы для зайздрасці, пагарды, сквапнасці, расцвітуць самыя прыгожыя чалавечыя пачуцці — любоў, узаемная павага, высакароднасць, дружба. Знікнуць войны, бо ўжо не будзе межаў паміж народамі і дзяржавамі, будзе толькі адзін народ і адна дзяржава — свабоднае ад путаў капіталу, працоўнае і магутнае чалавецтва.

Яе маленькі кубічны свет сунецца побач. Аскепак чужой планеты, што трапіў у поле прыцягнення Зямлі. Холадна і няўтульна. Яна не верыць, не верыць ніводнаму яго слову. Прыгожая казка, якую будуць расказваць дзеці дзяцей сваім дзецям. «Гэта прывабна,— хацела б адказаць яна.— Вашы сцягі чырвоныя, як вопратка ў Хрыста. Хрыстос таксама абвяшчаў любоў, адной буханкаю хлеба карміў тысячныя натоўпы. Праўда, гэта дужа прывабна». Яна хацела б гэта сказаць, але губы нібы на замку. Яна адчувае сябе надта шэрай, слабой і маленькай перад гэтым чалавекам, што творыць легенду. Каменьчык на сцежцы, які ніколі не скоціцца ў зялёны луг, калі не спіхне нага прахожага.

— Цяпер табе зразумела, чаму я сяджу начамі за кнігамі? — чуе яна яго сярдзіты прыглушаны голас.— А можа, і не. Напэўна, не. Пасміхаешся сабе і думаеш: фантазіруй, фантазіруй.

— І зусім я не пасміхаюся,— шчыра кажа яна.— Я паважаю людзей, якія маюць сваю, няхай і выдуманую, зорку.

Ён ціха свіснуў. Не паверыў! Страшэнна крыўдна: ёй так не хацелася заставацца ў яго вачах легкадумнай падманшчыцай! Але двор ужо побач, нарэшце трэба сказаць «дабранач».

— У гімназіі я шмат чытала,— спяшаецца яна.— Мне падабаліся кнігі, дзе апісваліся людзі, якія за нешта змагаліся. Часта яны прайгравалі, але ўсё роўна я не магла пагарджаць імі. Я зайздрошчу моцным людзям, Марус.

— Вось як! Цікава...— рука, працягнутая для развітання, апускаецца.

«Зараз ён пойдзе...» У смутку яна глядзіць на чорную груду хат, акрытых зорнаю наміткай неба. Каля хлява ў

будцы дрэмле сабака. Пазірае ў смужную цемру свіран, спалоханы і самотны. «Зараз ён пойдзе...» І раптам здараецца нешта неспадзяванае. Яна не хацела казаць гэтых слоў, але яны ўжо сказаліся самі. Застаецца выслухаць, як ён зараз свісне і засмяецца. Аднак смеху не чуваць: ён зразумеў, што ёй трэба апраўдацца.

Яны доўга сядзяць на ганку пад свірнам. Сэрцы адчыненыя не наросхрыст, аднак і праз гэтую вузенькую шчыліну відаць тое, чаго нельга было разгледзець да гэтага часу.

— Ты не такая, як іншыя кулачкі,— чуе яна яго шэпт.

— Не лайся.

Яго твар зусім блізка. Ноч змяніла яго да непазнавальнасці. Загадкавая бронзавая маска цяжка дыхае тытунём і нявымаўленымі словамі. Каменнае плячо прыціскае плячо Аквілі. Час устаць і пайсці. Але яна не можа зрушыцца з месца.

— Не лайся,— слаба паўтарыла яна і ўзняла рукі, каб адштурхнуць яго. Аднак яго рукі таксама ўзлятаюць. Святлістае нябеснае скляпенне засланяецца згусткам цемнаты. Шурпатая прахалода чужога твару, губы, што шукаюць губы. Знайшлі! І адхіснуліся, нібы пакаштавалі атруты. Потым вырваліся словы. Занадта гучныя для ночы і нечакана злосныя:

— Ці мы з глузду...

Ён устаў з ганка і пайшоў. Шумна, таропкімі крокамі, нібы гнаны брэхам разбуджанага сабакі.

— Ша, Рудзька, ша,— нягучным голасам сунімала яна яго.— Супакойся. Ён зусім не чужы чалавек, хоць і здаецца гэтакім.— І, адкінуўшы галаву, усміхнулася халоднаму зорнаму мігценню, усё яшчэ адчуваючы на сабе цяжар яго рук і гарачыя вільготныя губы на сваіх губах.

## III

Прытулілася да мужавай спіны, нібыта гэта было самае зручнае месца, каб схавацца ад таго, што было. Нашто гэтыя ўспаміны, божа мой, нашто гэтыя ўспаміны! Легенда была прыгожая, але зманлівая. Вітражы шкляной казкі пачалі трэскацца яшчэ перад тым, як Гульбінасаў павезлі ўтаптанай дарогай царскіх ссыльных. Яна спрабавала прыклеіць адколатыя аскялёпкі, бо побач з ёю быў ё н. Ах, вось і зноў! Божа мой, нашто гэты ўчарашні дзень, нібы даўно змылены брусок мыла?Нашто той, які абяцаў аб-

несці на руках вакол свету, і той другі, што ўявіў сябе праведнікам Хрыстом? Жыццё не мара-калыханка, не фантазія, яно камень, які трэба ўскочваць на гару, і вельмі абачліва, каб, вырваўшыся з рук, не раздушыў цябе самую.

Раніцай абудзілася Аквіля бадзёрая. Начныя думкі здаліся ёй трызненнем хворага,— спаў жар, і яны зніклі. Трохі слабаватая, аднак арганізм радуецца, адолеўшы хваробу. Аквіля накрывае Лаўрукаса, які скінуў коўдрачку, бярэ ў рукі вёдры і — у хлеў.

— А-эх, і надумалася,— сварыцца Кяршыс.— Я ўпраўлюся за цябе. Ідзі лепш сняданак гатуй.

— Не бойся, будзе і сняданак.

Цяпло, што настаялася ў хляве, абдымае яе мяккім утульным крыллем. Яна кідае авечкам ахапак сена («Мае авечкі...»), доіць кароў, прыносіць ім па кашы буракоў («Мае кароўкі...»), вылівае свінні вядро пойла («Мая свінка...»). Яна ходзіць з хлява ў клуню, у свіран і назад, а следам за ёй цягнецца нябачная нітка, злучаючы яе з рэчамі, да якіх яна дакранаецца рукой ці паглядам. Мары адступілі перад меркай мукі, кашом буракоў, мятным шолахам скубанага сена. Душа поўная каровамі, якія мусяць даць больш малака, свіннямі, якіх трэба тлусцей укарміць, гаспадарчымі будынкамі, у якіх зробіцца зацесна, калі пасля вайны ўсё складзецца належным чынам.

— Заўтра прыйдзе Чорны Кукса перакрываць страху ў клуні,— аднаго дня кажа Кяршыс.

У гэтым нешта не так, што Чорны Кукса мусіць адрабляць за чужую хату, але Аквіля нічога не кажа.

— Але, клуню трэба перакрыць, пакуль не пачалася касавіца,— згаджаецца яна.

Чорны Кукса прывалокся, трымаючы пад пахай стрыхоўку — драўляную шчотку, якою раўняюць салому. Да абеду разам з Кяршысам яны здзіралі са страхі гнілую салому. Трэск зламаных прутоў, чханне. У густым воблаку пылу амаль не відаць мужчын.

— Абед на стале! — крычыць Аквіля, задраўшы галаву.

Яны і не чуюць адразу, хоць працуюць даволі нізка, на апошняй лаце: захапіліся размовай.

— Умееш ты жыць, па-чартоўску ты ўмееш жыць, Хвеліксас,— гамоніць Чорны Кукса.— Нават той спрытнюга, што звіў з мякіны вяроўку і даў свайму брату, каб павесіўся, а яму пакінуў усю гаспадарку, нават той цябе не пераплюнуў бы.

— Зайздрасць бярэ? — незадаволена бурчыць Кяршыс.

— Што ты, Хвеліксас! — Чорны Кукса шчыра здзіўляецца.— Як можна зайздросціць чалавеку ў ліхую гадзіну, каб яе качкі стапталі?!.

— Не мялі глупства! Якая ліхая гадзіна? Чаго ты прычапіўся да мяне? — усё больш гарачыцца Кяршыс, якому ад самай раніцы не дае спакою Путрымасаў востры язычок.

Чорны Кукса адказвае не адразу. Задраўшы галаву, ён пазірае ўгору. А там усё мацнее гул матораў. Самалёты! Высока, пад аблокамі, з зямлі добра відаць роўненькі шнурок чорных крыжыкаў.

— З усходу,— кажа ён.— Хутка пачуем барабанны бой. Бач, як расхрабрыліся пасля Сталінграда! Ужо і ўдзень пана германца наведваюць...

Кяршыс таксама ўздымае галаву. Па небе паўзуць шэрыя аблокі. То тут, то там — блакітны шматок. Будзе дождж.

— Нідзе не напісана, што гэта рускія,— нарэшце кажа, усё яшчэ паглядаючы ўгору.— Чорныя, шпарка шнуруюць. Мабыць, ангельскія.

— Ангельцы ўсё яшчэ аніяк з вады не выцелепкаюцца, каб іх там пакруціла! — Кукса падцягвае порткі, хітра ўсміхаецца.— Не прыйдуць твае ангельцы, задалёка ім. Дачакаемся дарагога суседа. Забяруць твае гектары ў калгас, павядуць буланага ў агульную стайню, зваляць хату,— там усе агулам жывуць,— і лопне тваё сэрца ад болю. Якой яшчэ горшай гадзіны табе трэба, каб яе качкі?

— А-эх, каб у цябе язык адсох! — Кяршыс ухапіўся за пук саломы, пацягнуў да сябе, здаецца, зараз усю страху здзярэ. Схапіў другі, трэці. Збуцвелая салома трашчыць, шамаціць, ляціць на дол, ажно пыл віруе.

А Чорны Кукса далей гне сваё. Цяпер ужо з іншай оперы. Ох, людзі-людцы... Самі часам не ведаюць, чаго хочуць. Калі памыляецца просты чалавек, у гэтым яшчэ няма нічога дзіўнага, але калі вучоныя людзі сярод белага дня не могуць знайсці дарогі да сваіх варотаў... Разумнікі, што інтэлігентамі называюцца. Калі прыйшлі немцы, многія з іх крычалі «ўра», думалі — залатую свабоду нясуць, а сталася так, што гэтыя вызваліцелі пачалі іх саміх зганяць у працоўныя лагеры. Не спадабалася, што падбухторваюць моладзь не слухацца Кубілюнаса і не ісці добраахвотнікамі на фронт. Са злосці і літоўскія універсітэты пазачынялі. Маўляў, як вы нам, гэтак і мы вам. Не соладка, відаць, Гітлеру на Усходзе, калі запатрабаваў літоўскія легіёны, каб

яго качкі стапталі! Але і нашы хлапцы маюць глузд: не вылазяць са сваіх двароў— і што ты ім зробіш? Пэўна, навошта працоўнаму чалавеку ісці супраць сваіх, калі нават сярод службоўцаў многія бунтуюць супраць самаўправы.

Кяршыс аж сапе са злосці, але не кажа ні слова. Таксама знаўца вышукаўся. Палітык! Вялікая справа тыя універсітэты, нібы кніжкі змогуць накарміць чалавека. А-эх, шчасце было б, калі б немцаў турбавалі адно толькі кніжныя справы і каб яны не чапалі вёскі, але дзе там, бедны ты чалавеча: сёлета зноў павялічылі пастаўкі...

— Мужыкі-і-і, абе-е-ед!

За абедам размова не надта каб клеілася. Чорны Кукса спрабуе нават паддобрыцца да гаспадароў, але Кяршыс пануры, як асенняе неба, а Аквіля не ўздымае задуменнага позірку ад сваёй талеркі.

Вечарам, калі Чорны Кукса падаўся дамоў, Кяршыс кажа жонцы:

— А-эх, і зласлівец гэты Путрымас! Сам не ўмее жыць, дык зайздросціць, што іншыя жывуць добра.

Аквіля доўга і ўпарта маўчыць. Гадзіну таму, усяго толькі гадзіну таму назад яна сустрэла Матаса Пуплясіса, і ад яго кплівай насмешкі ўсё яшчэ палымнеюць вушы. Не трэба было згадваць таго фальварка, але яна, жадаючы сказаць добрае слова, вазьмі дый ляпні: «Дык вы засталіся ў паноў Дызэ на другі год?» — «Што ж, тут хоць ведаеш, што ў фатэрлянд не павязуць». Слова за слова — неяк дайшлі да Чорнага Куксы, зачапілі Нямунісаў. Дужа непрыемная тэма, аднак Пуплясіс для таго і народжаны, каб цвяліць людзям душу. «З Нямунісамі нягожа выйшла: змялі з паверхні зямлі, нібыта яны ніколі і не жылі ў Лаўксадзісе. Праўда, вам з мужам ад гэтага толькі карысць, п а н і Кяршэня...»

«Толькі карысць! Вам толькі карысць, п а н і Кяршэня». Аквіля, калі вярталася дамоў, нават заплакала з роспачы.

— Злуе, што бяром за Нямунасаву хату чынш. Але хіба нам не належыць?

Аквіля мые на кухні посуд. На сцяне мігціць лямпа з закураным шклом. За печчу цвыркоча цвыркун. Да акна прытуліўся чатырохкутны твар згуслых прыцемкаў. Зноўку ўзнялася туга, зноўку сэрца вярэдзіць крыўда.

— Належыць? А чаму належыць? — Яе апаноўвае злосць. Хочацца павагаць гэты цвёрды, упэўнены ў сваёй

праваце голас, што ідзе ад дзвярэй.— Хіба мы ставілі Нямунісаву хату?

Ён здзіўлены.

— Юліту прытулілі,— кажа ён, трохі падумаўшы.— Хто ведае, можа, давядзецца ўвесь век кешкацца з ёю. Мы апекуны і мусім дбаць аб яе маёмасці, пакуль у гады не ўбярэцца. Калі не выздаравее, дык усе тыя будынкі і зямля назусім... ага... чатыры гектары...

— Назусім, кажаш?

— А-эх, вядома, як жа інакш, ніякай жа радні ў яе няма. Калі хочаш ведаць, дык гэта, папраўдзе, наша зямля — пасля неўрадлівага года Нямунісы адкупілі яе ў нас. Кяршысаў гэта зямля, ага...— вядзе ён сваё, не зразумеўшы яе подсмеху.— Пакуль вайна, з таго шматка мала наедку. Давай пастаўкі, давай фурманкі ў абоз. З адным канём не дасі рады, давядзецца другога пазычаць. Але затое, калі ўсё супакоіцца, сваё возьмем.

— І праўда?

— А-эх, і мовы няма! Чатырнаццаць гектараў... Тады — другога каня, яшчэ пару кароў. Гектар-другі ў арэнду аддасца альбо за палавіну ўраджаю. Гаспадар!

— Не!

Ён доўга і цяжка падымаецца з услончыка, седзячы на якім разуваўся. Стаў у дзвярах кухні, пануры і спалоханы.

— Гаў-гаў-гаў,— гаўкае за яго спіною дурнічка, ганяючыся па хаце за Лаўрукасам, які разгарэзаваўся.

— Не! — паўтарыла яна, не падымаючы галавы ад мыцця. Талеркі гнеўна бразгаць адна аб адну.— З іхняй сядзібы нам нічога не трэба. Нічога!

У дзвярах засапло, заўздыхала. Босыя, задубелыя ногі топчуцца на парозе.

— Ты... ага... кажаш...— падаюць з рота абрыўкі растурзаных слоў.— Але чаму не трэба? Мы ж нікому ніякай крыўды. Хіба мы вінаватыя, што з Нямунісамі так выйшла?

— Не важна. Няхай там Путрымасы гаспадараць.

Кяршыс зменшыўся ростам. Ацяжэлы пагляд поўзае па падлозе, як яшчарка з пераламаным хрыбтом. Карузлыя рукі то на жываце, то за спіной — нідзе не знаходзяць месца.

— Гаў-гаў-гаў,— скавыча ззаду дурнічка.

— Путрымасы...— нарэшце вырываецца ўздых, цяжкі, быццам баразна ў гліне.— Няхай Путрымасы... Думаеш, мне трэба чужое? Я не такі. Што кесару — кесарава, што Кяршысава — Кяршысу, ага. Я такі.

— Ведаю. Ты хочаш хоць што-небудзь атрымаць за пасаг. Але я не магу таргавацца з нябожчыкамі.

— Што ты! Якія там таргі? Я па-справядліваму. Лаўрукас жа не з яліны ўзяўся. Марус...— Кяршыс здрыганууся — прагаварыўся, аднак. Вельмі даўно не гучала ўжо тут гэтае імя.— Лаўрукасу таксама належыць свая доля, не чужы ж ён Нямунасавай хаце.

Аквіля павярнулася. Твар быў бляднейшы, а вочы большыя, чым звычайна. Складзеныя на вялікім жываце мокрыя рукі паруюць, нібы дзве залітыя вадой галавешкі. Заварушыліся губы, але слова захрасла ў горле невымаўленае. Позірк, цьмяны, як святло гэтай закурэлай лямпы, слізгае па Кяршысавым целе з галавы да босых ног.

— Хоць бы раз ногі памыў...

Голас — нібы клубок нітак, паабтыканы іголкамі, але Кяршыс іх не адчувае: хоць шорсткая воўна, а ўсё адно воўна. Зрушыўся, нібы камень, саштурхнуты з абрыву. «А-эх, яно і праўда! Можна ж памыць. Трэба!» Налівае ў таз вады, сядае на ўслончык ля дзвярэй. Павесялеў і пажвавеў: усё-такі ў справах апошняе слова за ім, гаспадаром.

— Дапусцім, адмаўляемся мы ад сядзібы Нямунісаў,— кажа ён, жадаючы як мага важчэй абгрунтаваць сваю зачэпку.— Думаеш, не знойдзецца ласых на той кавалак? Цэлае шчасце, што пляц не даходзіць да зямлі Вайнарасаў. А-эх, Катра Табака не выпусціла б з рук такой нагоды! — Замоўк. Чухае лыткі, разважаючы, ці варта бабе казаць усё дарэшты. Рашыўся.— Ды што тут гаварыць?!. Справа ўжо вырашана. Ёсць дакумант. Праўда, часовы. Але восенню валасному старшыні завяду цялушку, беконную свінню здам на пастаўкі — і буду мець дакумант на ўвесь час. Кучкайліс хацеў нагу падставіць. Не выйшла. Ёсць начальства вышэйшае за яго.

З кухні ніякага адказу. Аквіля сядзіць, абапершыся на стол, пазастаўляны посудам, і глядзіць у акно. Прыцемкі затапілі палі. Апошнія светлыя выспачкі паглыбляюцца ў цёмныя хвалі акіяна. У роспачы крычаць кнігаўкі.

## *Раздзел дзевяты*

### I

Сваё заданне ён мог выканаць прасцей і абачлівей: выклікаць праз сувязнога Чорнага Куксу і пагутарыць дзе-небудзь у лесе каля возера Гілужэ. Аднак пасля таго, як

яго перакінулі з Вялікай зямлі да партызанаў у Вянцкі лес і ён даведаўся пра жахлівы лёс сваёй сям'і і Аквіліну нявернасць, ён ні ўдзень ні ўначы не знаходзіў спакою. Не помсціць спяшаўся — не спрыяў гэтаму час,— хацеў хоць нагамі дакрануцца да той зямлі, якая некалі абяцала ўсё, а не пакінула амаль нічога. У ім мігцела кволая надзея, што недзе закралася памылка, бо проста немажліва было паверыць, каб жыццё абрынула гэтулькі бедаў на галаву аднаго чалавека. Ён мусіў, непазбежна мусіў дакрануцца пальцамі да сапраўднасці, як евангельскі Фама да ранаў Хрыстовых, каб змагчы вымавіць наканаванае «веру».

Дрэвы парадзелі, і за стваламі паказаўся асветлены зоркамі ўзлесак. Свежае паветра вясновай ночы насычала сасняк, што дурманліва пахнуў тэрпенцінам. Павеяла вільготнай прахалодай возера і някошанымі лугамі. Там, з таго боку Гілужэ, залітага сырадоем туману, была яго вёска, яго дом, магіла яго блізкіх. Лаўксадзіс цямнела на ўлонні парудзелага неба, быццам легла на зямлю прадаўгаватая хмара. Грувасткая, цяжкая, размытая, без пэўных абрысаў. У ёй было нешта нерэальнае, што немагчыма было намацаць, а разам з тым страхотна сапраўднае, што фізічна прыгнятала сваім існаваннем.

Колькі тысяч кіламетраў ён мусіў прайсці, каб цяпер, вярнуўшыся назад, змагчы паглядзець на руіны свайго жыцця! Колькі сяброў пахаваў ён на снежных палях пад Арлом, братоў па зброі, якія, напэўна, калі б вярнуліся дамоў, засталі б неразбуранае сямейнае агнішча і адданую жонку! Не, не таму, зусім не таму, каму трэба, паслужыла сястрыца-куля. І вось ты, асуджаны яе літасцю на яшчэ большае няшчасце, паўзеш, як смяротна паранены воўк, абнюхваючы астылыя сляды даўно мінулых дзён. Мог бы пайсці нацянькі, але нябачная рука цягне цябе каля абрыву, і тут, скурчыўшыся ад болю, залізваеш рану, якая адкрылася, пакуль не зробіцца цёмна ў вачах. Вось тут бачыш яе, бедалажку, акалелую ад холаду, а там, унізе, у лодцы,— сябе і гэтае возера, але не белае ад туману, як вока сляпога, а раскалыханае бурай, пагрозна вірлівае. І дзіўна, што ўсё гэта было: і тая яе пакутлівая, пры свісце ветру, споведзь, і тое нечаканае пачуццё, якое ўпершыню прымусіла цябе паглядзець на яе іншым зрокам — не як на класавага ворага, а як на жанчыну.

Так і паўзеш па астылых слядах колішніх дзён.

Першая надзея, што яна здолее цябе зразумець, першы пацалунак.

Лазня каля возера, красавіцкі дождж.

— Я хацела б, каб ты гэтым летам не ехаў з Лаўксадзіса на заробкі...

А потым той чэрвень з шумлівымі чырвонымі сцягамі. Ты ў кашулі стаяў на балконе перад рынавым пляцам, што быў запруджаны людзьмі. «Мы прыйшлі назаўсёды, каб на руінах прыгнёту і цемры закласці падмурак свету праўды». Унізе шумелі, крычалі, махалі шапкамі. І ў тым вірлівым катле ты ўбачыў яе хустку — хустка была з зялёнымі лістамі, але на чырвоным полі, на ярка-чырвоным полі, бо яна ведала, што ты шануеш чырвоны колер.

— Я бачыў, як ты крычала і махала мне хусткай,— сказаў ты, калі пасля мітынгу вы разам вярталіся ў вёску. Першы раз на вачах ва ўсіх.— Вось не ведаў, што мая дзяўчынка так палітычна падкутая.

Яна засмяялася, заміргала чорнымі вейкамі. Далібог, яна даўно здавалася табе прыгожай, але такой прывабнай ты яшчэ яе не бачыў!

— Цяпер табе не трэба будзе ісці на заробкі — капаць тыя казённыя равы. І яшчэ: ты быў такі прыгожы там, на балконе. Быццам нейкі прарок. «Мы возьмем усё, што нам належыць, і падзелім так, каб ніхто не быў пакрыўджаны». Людзі сустракалі цябе, як першыя хрысціяне Ісуса Хрыста... Я кахаю цябе, Марус.

Ты быў шчаслівы, незвычайна шчаслівы. Не зважаючы на людзей, што ехалі па дарозе, ты згроб яе ў абдымкі і панёс на руках — а яна адбівалася і рагатала... Панёс цераз роў на луг, спярэшчаны пракосамі. Уздоўж мяжы шалясцеў лес жыта, і вы абое, прытомленыя ад пяшчоты, глядзелі ў ясна-блакітнае неба, што пахла сотамі дзікіх пчол. Яна гладзіла твой твар і паўтарала:

— Я кахаю цябе. Моцна-моцна кахаю цябе, Марус.

Тады ты, сам не разумеючы чаму, сеў і паглядзеў ёй у вочы.

— Сёння наша свята,— сказаў ты.— У такія дні людзі звычайна бываюць добрыя і бесклапотныя. Але ў жыцці не выпадае ўвесь час святкаваць, здараюцца таксама цяжкія і суровыя дні. Могуць здарыцца. Ці не здрадзіш ты мне тады?

Яе вочы расшырыліся. Можа, ад здзіўлення, а можа, ад крыўды. Аднак толькі на адно імгненне. А потым... Ах, ты ў жыцці не чуў бестурботнейшага смеху, не бачыў яс-

нейшых вачэй! Ты засаромеўся, але і занепакоіўся. Ты падумаў пра хрустальную чару, звон якої такі праўдзівы, пакуль яна не ўпадзе на падлогу. Аднак ты не хацеў верыць, што яна можа разбіцца, і вось цяпер з акрываўленым сэрцам ідзеш, збіраючы рассыпаныя чарапкі, з якіх ніколі нічога ўжо не склеіш.

О так, нічога!

Ён выйшаў на сцежку. З аднаго боку тая самая малочная бель возера, з другога — чорная хмара, якая шалясціць дрэвамі. Так, ён ужо чуе пошум духмяных садоў, цёплае дыханне хат павеяла яму ў твар. Вясной, калі сплываў лёд, ён бегаў гэтаю сцежкай да лодкі, маці насіла кашы з бялізнай, бацька... сёстры... І найдрабнейшая сцяблінка травы, і жвір, убіты ў дол, цалавалі ім ногі.

Марус раптоўна аслаб і ўпаў на калені пасярод сцежкі. Упёрся далонямі ў халодную росную траву, тварам прыціснуўся да цвёрдай зямлі. Так хацеў бы заплакаць — можа, тады адпусціў бы боль, што здушвае грудзі,— але слёз няма. Няма слёз. Занадта многа чужога болю бачылі вочы.

«Устань! Мацярок мільёны, толькі я, твая родная зямля, на ўсе часы маці ўсім. Пакуль не саромеешся прытуліцца да майго лона, не застанешся сіратою».

І ён устае і ідзе, несучы з сабою халодны, прапахлы травой пацалунак зямлі. Павінен бы звярнуць убок, да хаціны Чорнага Куксы, але родная хата вось тут, побач, запрашае з-за агароджы, каб падышоў бліжэй. Абняўшы рог хаты, доўга гладзіць абедзвюма далонямі шурпатае, парэпанае бярвенне, п'ючы сухі пах папрэлага моху. І нечакана адчувае, як па шчоках точацца цёплыя раўчукі. Заплакаў! Першы раз за гэтулькі дзён, сапраўднымі слязамі, якія нясуць палёгку сэрцу. І, удзячны гэтаму абамшэламу дрэву, яшчэ мацней прыціскаецца да яго тварам і лашчыць далонямі. А калі ў душы застаецца толькі пякучы боль і страшная прага помсты, ён адрываецца ад сцяны і кідаецца назад на загуменне. «Неўзабаве апоўначы, а дванаццатай заспяваюць пеўні»,— спатыкаючыся, ён спяшаецца загуменнямі, быццам нейкі прывід.

## II

Халупа Чорнага Куксы ліпіць, прытуліўшыся да берага возера. Запалая саламяная страха, маленькія закураныя вокны, замест коміна чыгунок без дна. Шэсць крокаў

удоўжкі, пяць упоперак. Лазня селяніна-бедняка, а не хата.

Зарыпелі дзверы. Марус стаіць, нахіліўшыся, на парозе чорнай адчыненай нары. Пальцы моцна сціскаюць пісталет у кішэні.

— Чакаеш?

— Як дамовіліся,— дрыгатлівы голас з сенцаў.

— Пазавешвай вокны.

— Гэта ўжо зроблена.

Парог нізенькі — дошка-саракоўка, аднак нага Марусава ўсё роўна чапляецца за яе. Цемра патыхае ў твар цвіллю. Але яшчэ раней, чым яе, ён адчуў на плячах рукі Чорнага Куксы і яго цяжкае, з пахам тытуню, дыханне. Калючы, даўно не голены твар прытуліўся да Марусавай шчакі.

Мужчыны стаяць, моцна абняўшыся, нібы гутараць між сабой без слоў. Нарэшце, нібы засаромеўшыся, адштурхоўваюць адзін аднаго і ўваходзяць у хату. Калі Кукса запальвае выдлубаны ў бураку лоевы каганец, відаць, што вочы ў абодвух пачырванелі, а твары ўзрушаны радасцю толькі што перажытай сустрэчы. Марус сядае на калоду перад разваленай печчу — у халупе няма ніякай мэблі: Путрымасы ўсё вывезлі, перабіраючыся ў хату Нямунісаў. Няроўная гліняная падлога тоне ў смецці, сцены аточаны цвіллю і павуцінай, па кутках валяюцца нікому не патрэбныя транты і рэшткі абутку. Паныла і няўтульна.

Чорны Кукса з радасным здзіўленнем паглядае на Маруса. Потым кладзе руку яму на плячо, гладзіць, нібы жадае ўпэўніцца, што перад ім сапраўды колішні старшыня Краштупенаўскага валаснога выканаўчага камітэта.

— Калі той таварыш сказаў, што ты хочаш са мною сустрэцца, у мяне ледзьве душа ў пяткі не ўцякла. Жывы! А мы ўжо былі цябе аплакалі. Жакайціс паставіў на табе крыж, каб яго качкі стапталі, а мы і паверылі. Тутэйшыя кулакі ад радасці імшу былі заказалі. Ашалець можна, як некаму не пашанцавала!

Кукса ціха рагоча. Цяпер ён прысеў на кукішкі насупраць. Марус таксама пасміхаецца. Вочы ў абодвух падазрона вільготныя, мускулы твараў уздрыгваюць.

— Ты, Пятрас, як быў калючы, так і застаўся. Не прычасала цябе самаўправа на свой фасон.

— У нас, бедалаг, асаблівая скура: чым больш яе шаруюць, тым цвярдзейшая яна становіцца.

— Не ва ўсіх. Колькі нашых хлапцоў прадалося! У першы савецкі год ільвамі рыкалі, а цяпер верашчаць паршывымі шчанюкамі. Пуплясісу не казаў, якая справа?

— А нашто яму загадзя ведаць? Няхай думае, што клічу ў талаку гнаць самагонку. А далей пабачым. Ужо мусіў бы прыйсці.

— Не давяраеш?

— Не, чаму ж? Матавушас не пустабрэх. Толькі баба ў яго такая самая дурніца, як і ў мяне... «Заб'юць, зловяць, павязуць, не лезь, куды не трэба...» І з дзецьмі ў яго не ўсё латва: старэйшы пасля Міграты, Кястумерас, запісаўся на працоўную службу рэйха, на Гітлера парабкуе, а Міграта да фальварка прыкіпела. Адданая божая служка. Ёй усё роўна, хто кіруе фальваркам — амерыканец Гульбінас ці немец Петар фон Дызэ, галоўнае — пан. А наш Матавушас, можа, чуў, таксама ў двор хвост ушчаміў.— Марус кіўнуў галавой.— З лета сорак першага. Як яго толькі выпусцілі, так і пашыбаваў туды. Асуджаць яго няма за што — трэба ж чалавеку недзе працаваць. На тых яго сямі гектарах дык баба з малодшымі дзецьмі ўпраўляецца. А ў пана Петара як у Хрыста за пазухай: не забяруць, не павязуць у Германію. Рабочая сіла! І не абы-якая. Пуплясіс там нібы за старэйшага, адказвае за палонных. Не соладка мужыку. Скардзіўся. Калі хто з палонных, што працуюць у маёнтку, уцячэ, развітвайся з галавою, каб яе качкі стапталі!..

Марус засяроджана пазірае на бураковы каганец, што патрэсквае на печы. Смярдзіць паленым авечым лоем. Бляклае ружовае святло льецца ў цемру і, знемагаючы, кладзецца чорнымі ценямі каля сцен.

— Кястумерас збіраўся ўступаць у камсамол,— кажа ён, не мяняючы позы.

Чорны Кукса, як паслухмяны сабачка каля гаспадара, усё яшчэ сядзіць на кукішках.

— Збіраўся ў камсамол, а апынуўся ў фашыстаў, нямецкім афіцэрам чэсць аддае. Шукальнік прыгод. Так і сказаў бацьку: пляваў я на ўлады, усе яны аднолькавыя, хачу свету паглядзець. Калі ішлі немцы, дык дзеля гэтых прыгод ледзь не падаўся ў адступленне з Саветамі, але хвароба затрымала. Невядомыя шляхі гасподнія, як некалі казала мая нябожчыца маці...

— Што ж, прамаргалі чалавека.— Марусу непрыемна, што Чорны Кукса сядзіць насупраць на кукішках. Ён устае з калоды і доўга маўчыць, нібы ўшаноўвае памяць

таварыша, што загінуў.— А чаму паліцыя так лёгка выпусціла Пуплясіса?

— Лёгка?! Каб яе ліха, такую лёгкасць! Чатыры зубы там засталіся, а спіна... Не трэба так гаварыць! Мужык шкло хрумстаў, а цяпер скарынку хлеба насілу адолее. Па ім праязджала фурманка, поўная людзей, памятаеш? Больш такога цырка не ўбачыш: ледзь-ледзь запосіць у свіран мяшок пшаніцы. Адпакутаваў сваё, няма чаму тут зайздросціць. Хто ведае, можа, адумаўшыся, яго зноўку сцапалі б, калі б не фальварак ды Кястумерас са сваёй службай рэйху... А што адпусцілі, дык у нашай воласці не ён адзін выслізнуў з сеткі. Адомас Вайнарас... Зблытаўся з забойцамі, але рэзаў не кожнага, хто прыдаўся б на мяса. Сяму-таму дапамог, гэта пэўна. Стараўся, наколькі дазваляла служба.

— Адвакатуеш? — Марус злосна гмыкнуў, змераў дакорлівым позіркам Куксу, што прысланіўся да печы. Знявечаная левая рука (засталіся толькі два пальцы — вялікі і ўказальны) гладзіць кляпу ў пінжаку.— Адомас пакуль што моцна трымаецца і без адвакатаў. Засталося яшчэ нямала наіўных прасцячкоў, якія вераць, што іх пакінулі жывых з хрысціянскай літасці. Пашана да літоўскай крыві? Але, без гэтай якасці фашыст не быў бы фашыстам. Аднак жа ёсць і другі бок — якая карысць Адомасу з нежывога раба? Хто пасля вайны служыў бы кулакам і фабрыкантам? Калі б яны ведалі, што прайграюць, не пакінулі б каменя на камені, мой хлопча.

— Ведаю, ведаю.— Кукса ажно засаромеўся.— Не абараняю я іх, адно сказаў, як выйшла з Пуплясісам. Каб у іх вочы павылазілі, калі я іх на самой справе абараняю!

— Не крыўдуй. Я злосны на іх, як чорт. Ніколі добры не быў, а пасля таго, што перажыў, пачынаю шалець, як толькі пачую слова на іхнюю абарону. Ты кідаеш у іх камякамі зямлі, а трэба камянямі, камянямі, камянямі! І прытым напаленымі дабяла! — Марус усхвалявана кружыць у цеснай кухеньцы, нібы звер у клетцы. Тым часам Кукса, выцягнуўшы з кішэні капшук з тытунём, спрытна скручвае цыгарку.

— Вядомая рэч, табе ёсць чаго шалець,— шматзначна кажа ён.— Але і мяне яны не гладзілі па галоўцы. Атрымаў дзялянку зямлі, толькі пачаў жыць — адабралі. Пуплясіс таксама не мае за што ім дзякаваць. Не думай, кожны з нас затаіў у сэрцы крыўду.

— Не для таго мы сустрэліся, каб лічыць крыўды,—

Марус узяў з рук у Куксы капшук, адарваў край газеты на самакрутку.— Калі мы будзем вярэдзіць свае раны, дык толькі аслабнем. Лепш падумаем пра іншых. Нам трэба, каб у сэрцы змясцілася крыўда ўсіх людзей. Нянавісць — найлепшае выбуховае рэчыва. Такой бомбай самога д'ябла ўзарвём.

Кукса, патануўшы ў воблаку дыму, круціць галавой. Засыпаў бы госця пытаннямі — вельмі ж ужо карціць даведацца, як ён пралез праз вушка ў іголцы і апынуўся тут,— але пасля таго, як неспадзявана яго ўпікнуў Марус, не адважваецца чапляцца з роспытам. Абодва пыхкаюць самакруткамі, глытаючы горкі дым і азіраючыся па баках: куды гэта падзеўся Пуплясіс, каб яго качкі стапталі?

— Як Джугасы жывуць? Гедымінас?

— Жывуць. Добрыя людзі. Калі маці выгнала Аквілю з дому, стары прытуліў бедалажку.— Кукса асекся, пачуўшы, што Марус папярхнуўся дымам і павярнуўся да дзвярэй.— Гедымінас часам да нас зазірае, з маёй бабай разам кумамі былі... Гм... гм... Не пагрэбаваў і на вялікдзень зайсці, хоць на стале ў нас не густа. Пакідае гімназію, каб яе качкі стапталі. Хачу, кажа, сумленнай працай зарабляць хлеб. Будзе з бацькам працаваць на зямлі. Стары, зразумела, не скача ад радасці. Куды ўжо тут: гэтулькі мучыцца, вучыцца — і назад у вёску гразюку мясіць.

— Глядзі ты! — Марус не на жарт здзівіўся.— Вось не спадзяваўся. Бачыў, варты чалавек, але адпавядае ўсім патрабаванням, каб уступіць у аркестр Кубілюнаса. А як жа, пасля Сталінграда многія капаюць сабе новы акопчык.

Кукса пацепвае плячамі. Капаюць акопчык... Можа, і капаюць, але Гедымінас не такі чалавек, каб пра яго кепска думаць. Не свой, аднак і не вораг. Марусу, вядома, гэтага не скажаш: яшчэ звінаваціць у кумаўстве. Дый няма калі казаць: кухоннае акенца адгукнулася ўмоўленым стукам. Пуплясіс, Матавушас!

## III

Пуплясіс стаіць, вырачыўшы вочы, прырослы да падлогі. Рот разяўлены, губы трасуцца, рукі не знаходзяць месца.

— Ну што, Матавушас, сваіх людзей не пазнаеш? — раскалолася напружаная цішыня.

— Нямуніс...— пралапатаў Пуплясіс.— Як ты тут? Адкуль? Марус... І ў сне не снілася...

Марус ступіў насустрач Пуплясісу. Тады і ён, паверыўшы ўжо сваім вачам і вушам, скрануўся з месца.

Мужчыны абняліся.

— Дык, значыць, уцалеў?..

— Трэба было ўцалець. Шмат яшчэ спраў не зроблена.

— Пэ-э-эўна... Жыць трэба.

— Жыць? — Марус выпусціў Пуплясісаву руку, лагодна падштурхнуў яго да калоды.— Сядай на маё месца, Матавушас, ты сярод нас старэйшы...— Сам ускочыў на прымурак побач з Чорным Куксам і вёў далей абарваную думку: — Жыць, кажаш? Жыць сёння немагчыма. Адно з двух: гніць альбо змагацца.

Пуплясіс сціснуў двума пальцамі нос, высмаркаўся і, выцершы руку аб нагавіцы, зазначыў:

— Надта наваюешся, калі калека...

— Як гэта — калека? Хіба фашысты забілі тваю душу?

— Пры чым тут душа? Душа наша з намі, і ніякаму д'яблу яе не прадамо. Толькі нібыта сэнсу няма... Аднак што я тут... Лепш ты выцягвай з торбы свае марцыпаны. Як, што, адкуль? Ці хутка гэтая праклятая вайна скончыцца? Мы дык сядзім у гэтай дзірцы, сляпыя, нібы краты, і нічога не бачым.

— Мае марцыпаны не зачарсцвеюць, з імі паспеем. Скончым спачатку распачатую размову. Чаму ж гэта няма сэнсу? Фальварковыя пірагі спадабаліся?

Пуплясіс неспакойна заварушыўся на калодзе, хілячыся наперад усёй сваёй цяжкай квадратнай постаццю. Каганец гарыць няроўна, у мігатлівым святле Пуплясісаў твар здаецца апухлым, размытым.

— Ужо не маю сумнення, што ты ўваскрэс з мёртвых,— кажа ён кпліва.— Той гэта, гэта той самы язык, які заўсёды ведаў, як укалоць чалавека.

— Праўда вочы коле...— у тон яму адказвае Марус.

— Фальварковыя пірагі вылазяць мне бокам, калі хочаш ведаць. Думаеш, ад добрага жыцця даў сябе прывязаць там, як сабаку да будкі? Меў бы дзяцей, жонку, хоць і дурніцу, сам пабачыў бы...

— Нашто ківаць на дзяцей? Яны ў цябе не пытаюцца, якою дарогаю ім ісці.

Пуплясіс аблакаціўся на калені і глядзіць на падлогу. Шырачэзныя плечы (на іх шэрая суконная світка) нерытмічна пагойдваюцца.

— Дзецьмі папікаеш? — Голасу амаль не чуваць. Словы булькочуць у горле, сэрца крывавіць.

Марус запнуўся. Нават няёмка стала. Падышоў бы, паклаў бы руку на пахіленую галаву («Не гневайся, стары...»), але гэтак, ліха яго ведае, куды павернеш справу.

— Гаворка не пра дзяцей, а пра цябе,— кажа ён ужо лагаднейшым голасам.— Іншыя твайго гатунку, мой дарагі, паварочваюць аглоблі ў лес, а ты: «Нібыта і сэнсу няма...» У саракавым быў сэнс, а ў сорак трэцім — няма. Як жа ж атрымліваецца? Што змянілася? Хіба савецкая ўлада не тая самая?

— Там, дзе яна ёсць, яна, можа, і тая самая, а тут — немцы, самаўправа, мы з табой іх не звалім. Усё вырашыць войска. Як у сорак першым. Прыйдзе, не папытаўшыся ў нас, калі трэба будзе прыйсці, і навядзе свой парадак. А адкуль і якое — мы гэтага не ведаем...

— Лухту мелеш! — не ўтрываў Чорны Кукса.— З Усходу, савецкае, якое ж яшчэ можа быць.

— Няхай з Усходу. Парадуемся, што адтуль, нашы, таварышы, але... бачыш, мы ўжо вучаныя... Памятаем васемнаццаты. Тады таксама ўтваралі савецкую ўладу. «Няхай жыве! Ура!» Увесь свет заваюем. А белыя нас убок сапхнулі. У саракавым мы зноў наверсе. «Няхай жыве! Ура!» Ніхто нас не пераможа, шапкамі закідаем сусветны капіталізм. Узняўся на Захадзе недалугі немчык — гэтаксама казалі: жабракі яны, нічога не маюць,— і прайшоў Літву за тры дні, як гарачы нож праз кавалак масла. Ды ўжо ж, можаш рашаць, як хочаш, клікаць таго ці другога, а прыйдзе той, хто мае прыйсці.

— Прадаўся, Пуплясіс,— прамармытаў Марус.

— Была нагода, ды не зрабіў я гэтага. Я не Жакайціс. І не прадамся, не бойся. Хоць гнію ці тлею — добра не пачуў твайго слова,— аднак сябе яшчэ я трохі паважаю. Савецкая ўлада мне што маці родная, хоць два разы яна ўжо ўцякала ад мяне прэч, пакінуўшы сваё дзіця, абкаканае да вушэй.

— Мог бы дагнаць, калі б захацеў. Але, відаць, табе і сярод чужых нянек някепска.

— Не абражай.

Марус нейкі час маўчыць, утаймоўваючы гнеў, а потым вядзе далей:

— Ён, бачыце, паважае сябе. Самапавага! Можна лопнуць са смеху. Чалавек, што паважае сябе, не спусціць нагавіц і не выставіць голага азадка таму, з кім учора ца-

лаваўся. І не будзе развабжаць, як нейкі дробны гандляр, што выгадна, а што не выгадна. Калі ты, чалавеча, маеш ідэю, да якой ляжыць сэрца і да якой хіліцца розум, які тут можа быць гандаль? З кім і супраць каго? Перакананы, што праўда на тваім баку, вось і стой за яе да канца. Галаву пакладзі, калі на тое пайшло. Ты не дачакаешся перамогі, іншыя яе здабудуць. Васемнаццаты... саракавы... Ажно злосць бярэ, калі цябе слухаеш, дзядзька Пуплясіс. Калі б усе разважалі па-твойму, Чырвоная Армія даўно б склала зброю і ты б нават падумаць не адважыўся, што вернуцца свае і ты зноў зможаш наесціся ўволю, як згаладнелы за зіму мядзведзь.

Пуплясіса — нібыта няма. Нейкі чатырохгранны, наспех абгабляваны дубовы камель. Галаву ўцягнуў у каўнер, твар схаваў у далонях. Нават вушы затуліў — быццам і чуць нічога не хоча.

— «Вырашыць войска...» Войска і вырашае, мусіў бы гэта ведаць, калі сёе-тое чуў пра становішча на фронце і калі, вядома, не лічыш, што гэта — чырвоная прапаганда. Пасля Сталінграда немцы пачалі азірацца туды, адкуль прыйшлі. Чырвоная Армія выгнала іх з Паўночнага Каўказа, заняла Курскую, Растоўскую, Варонежскую вобласці, наблізілася да Смаленска, прарвала кальцо блакады Ленінграда. Японцы з туркамі сцягнулі да нашых граніц вялікае войска, намерваючыся напасці, калі ўпадзе Сталінград. Не дачакаліся... І, зразумела, цяпер ужо не адважацца палезці. Армія гераічна выконвае свой абавязак перад айчынай. Салдаты гінуць тысячамі, думаючы толькі аб адным — якой бы ні было цаной дамагчыся перамогі. Перамога! Усё для перамогі! — вось што цяпер самае асноўнае. Чым хутчэй яна будзе заваявана, тым менш давядзецца скласці галоў.

Пуплясіс маўчыць. Марус таксама замоўк, спахапіўшыся, што забег задалёка наперад. Чорны Кукса шаруе босымі пяткамі па атынкаванай сцяне печы. Праз зачыненыя аканіцы даносіцца спеў першых пеўняў.

— Прышчамілі Гітлеру хвост, па ўсім відаць,— кажа Чорны Кукса.— Газеты пра гэта не хочуць пісаць — маўляў, скарачаем фронт з тактычных ці яшчэ якіх там намераў, але мызы ва ўсіх пачарнелі, нават люба глядзець, каб іх качкі стапталі. Надоечы спыніліся ў вёсцы — яйцы здабывалі. Зайшоў аўстрыяк — адна нага ў яго карацейшая: падстрэлілі, кажа, бальшавікі пад Вязьмай,— дык вось,

правеёў далонню па горле і заяўляе: «Гітлеру капут, камарад». Ведаеш, нават сам не заўважыў, як адрэзаў яму аполец сала, нават гэтых яго саламяных цыгарэтаў не ўзяў...

Кукса фыркае, нібы конь, што ўдоваль накачаўся ў траве: жабраку за добрую малітву заўсёды даём міласціну. Яго ногі мільгацяць, барабаняць задубелымі пяткамі па печы. Ён ужо амаль выйграў вайну, уздымае сцяг перамогі над руінамі Берліна. Але Марус тут жа астуджвае яго. Ну-ну, разагнаўся... Немец яшчэ не знямогся. Татальная мабілізацыя ўвалье яму свежай крыві. Пакуль яе выпусцім, нямала давядзецца праліць і сваёй. Зразумела, наша справа справядлівая, і мы пераможам, як сказаў таварыш Сталін, але пераможам змагаючыся, а не пляскаючы ў ладкі, нібы гледачы ў тэатры. Вядомая рэч, і без нас, пакуль мы сядзім тут, расце дрэва перамогі. Яго палівае сваёю крывёй уся Савецкая краіна, тысячы партызанаў. У Расіі нават жанчыны і дзеці б'юць немца. І гэта заслуга не толькі адной нашай арміі, што твой аўстрыяк забубніў малітву «Гітлер капут». Калі настане пара жніва і мы не зможам пахваліцца, што дапамагалі на сяўбе, не надта прыемна будзе пячы хлеб з чужое мукі.

Кукса прыкусіў губу. На запалых шчоках павыступалі чырвоныя плямы. Знявечаная левая рука нервова трэ лоб.

— Ты не круці,— буркнуў ён,— кажы проста, што хочаш.— Зашлёпаў босымі нагамі па падлозе, сапучы, прысеў перад дзверцамі печы, адчыніў іх, па самае плячо засунуў у печ руку і выцягнуў нейкі, зацярушаны попелам, скрутак. У палатнянай анучы бутэлька самагонкі, хлеб, некалькі галовак цыбулі, кавалак кумпяка.— У мяне шасцёра дзяцей, але я не баюся,— гаварыў ён, раскладаючы пачастунак на прымурку побач з Марусам.— Старэйшаму ўжо пятнаццаць гадкоў, баба трывушчая, умее круціцца, дасць рады і без мяне. Думаеш, я і сам не думаў пра гэта? І не раз, ажно рукі свярбелі. Але хіба што зробіш з голымі рукамі? Недзе ў лясах, чуваць, гэтай зімой партызаны аб'явіліся, а вакол нас ціхата. Не пабяжыш жа па ўсім павеце, галёкаючы: «Гэй, адгукніцеся, дзе вы запратарыліся, Чорны Кукса ідзе на дапамогу!»

Стрыманая ўсмешка прабегла па твары ў Маруса. Адрэзаў сала, паклаў у рот, стараючыся суняць хваляванне.

— Ты, Пятрас, застаўся чалавекам.— Голас зусім спакойны, адпак сэрца скача, нібы цяля, выпушчанае вясною на пасвішча.— Я не памыліўся, мяркуючы, што хоць бы адзін такі застанецца ў Лаўксадзісе.

— Бабе нельга казаць, куды адыходжу: усю вёску ўздыме на ногі, каб у яе язык апух.— Кукса перакуліў чарку, зноўку наліў і падсунуў Марусу, імпэтна хрумстае зубамі цыбуліну.— Пакіну цыдулку — і гайда ў лес. Толькі дазволь яшчэ з тыдзень дома пабыць — трэба сёетое перад адыходам спарадкаваць.

## IV

Пуплясіс як прыкіпеў да сваёй калоды. Выпіў пададзеную Марусам чарку. Калі падышла чарга — другую і трэцюю. «Ты, Пятрас, застаўся чалавекам...» Замглёны позірк блукае па выбоістай падлозе. Спыніўся на дзвюх парах ног — босых, набраклых, нібы рапухі, і ў ботах — але і на тых, і на другіх пыл той самай зямлі. Яны гэтак блізка адны да адных і так далёка ад калоды... Узнялі чарку («За тваё шчырае сэрца, Пятрас»), засмяяліся («Кучкайліс, каб яму вязы пакруціла, таксама Пятрас...»), гутараць, нібы трэці нейкае, не вартае ўвагі, пудзіла. «Закусвай, закусвай, Матавушас»,— згадвае час ад часу Кукса і, падчапіўшы нажом, соўгае яму ў рот кавалак чаго-небудзь, быццам якому кормнаму гусаку...

— Ну не! — чуе ён празмерна бадзёры Марусаў голас.— Занадта лёгка хочаш адрабіцца, мой братка. Самому пайсці ў лес — на гэта ледзь не кожны здатны, ты вось прывядзі з сабою дзесяцёх, дваццацёх, каб адразу стварыць новы атрад, тады будзеш малайчак.

— Каго? Коней альбо кароў, ці што? І адкуль? Бачу, што ты піць развучыўся, таварыш Нямуніс.

— Адкуль? А палонныя? У фальварку іх, здаецца, дзесятак з паловай...

Марус замоўк. Незакончаная фраза завісла ў паветры, неяк няпэўна затрымцела, і Пуплясісу здалося, што дзве нагі — босая і абутая — падазрона штурхнулі адна адну. У вушах зашумела, калода раптам ператварылася ў спружыну, пачала распроствацца, падымаючы ўгору цяжкі квадрат цела. Праз густую заслону дыму ён убачыў два здзіўленыя твары і свой кулак — цёмную вузлаватую масу, узнятую да Марусавых грудзей.

Марус адсунуўся, намагаючыся вызваліць прыціснутыя да печы ногі, але ў той самы момант Пуплясісава рука бездапаможна апала.

— Значыць, мяне ўжо спісалі? Эх ты! Мы з тваім бацькам у васемнаццатым за чырвоны сцяг крывёю харкалі.

Смаркач! — Адхаркаўшыся, плюнуў пад ногі і павярнуўся да дзвярэй.

— Матавушас!

— Пуплясіс!

Спыніўся, але ўжо каля дзвярэй у сенцах.

— Спалохаліся? — кінуў, не азіраючыся на тых двух, што выбеглі ўслед за ім з кухні.— Што ж, страляйце ў спіну. Мабыць, у Маруса знойдзецца штучка для гэтай справы. А-а, баіцеся шуму? Дык пашукайце сякеры. Я пачакаю. Не хачу, каб праз мяне ў вас нагавіцы трэсліся.

— Матавушас, што ты, каб цябе качкі... Бутэлька засталася недапітая...

— Пакінем яго ў спакоі. Бачыш, у чалавека нервы не ў парадку.— Марус падышоў бліжэй, пацягнуўся да Пуплясісава пляча, аднак рука адразу адскочыла назад, быццам ударыўшыся аб нябачную перашкоду.— Ніхто не можа спісаць чалавека, Пуплясіс, калі ён сам таго не захоча. Ідзі дамоў, перабяры ўражанні сённяшняга вечара і ўсё добра абдумай. Усё! Пачынаючы з васемнаццатага, калі ты крывёю харкаў, і канчаючы сорак трэцім, калі можна не харкаць і ўсё адно застацца ў крыві. Калі захочаш сказаць нешта новае, наш Чорны Кукса цябе заўсёды з ахвотай выслухае. Дабранач.

— Толькі асцярожна, Пятрас. Не падстаўляй галавы без патрэбы. Калі ўсё будзе гатова, падай нам знак.

— Не турбуйся, дам рады.

Марус абняў Чорнага Куксу. І цяпер, калі галоўнае ўжо было зроблена, адчуў, што ўнутранае напружанне спала і тая крохкая шкарлупіна, пад якой ён велізарным намаганнем волі трымаў свае пачуцці, рассыпалася на чарапкі. Не, ён не можа, не можа цяпер адгэтуль пайсці проста так.

— Паслухай, Пятрас...— Ён адвярнуўся, адштурхнуў ад сябе Куксу. Апушчаныя плечы цяжка ўздымаліся.— Ты быў тады ў вёсцы, бачыў, як іх усіх?.. Бацьку, маці...

— Не, не... Мы з бабай у Гірнюсаў тады якраз буракі ўбіралі. Эх, Марус, ці варта вярэдзіць сэрца, усё роўна з магілы іх не падымеш.

— Значыць, буракі ўбіраў? І ніхто не ведае, як там усё на самой справе тварылася?

— Бо ніхто са сваіх і не бачыў. Толькі стараста, Кучкайліс, там быў. Кажуць, калі Юліта прагаварылася, Пра-

нас, твой бацька, ударыў эсэсаўца ў жывот. Той за рэвальвер — і ў галаву... на месцы. Генуту... пасля ўсяго таго... укінулі ў камору, дык яна там... пад бэлькай... Не вынесла, бедная, ганьбы...

— Гавары, гавары...

— Калі яны зачынілі ў каморы Генуту, гэтую святую пакутніцу, і кінуліся да схованкі, Юліта з крыкам пабегла па вёсцы. Яе не чапалі. Мабыць, самі засаромеліся свайго зверства,— як-ніяк, а маюць чалавечае аблічча. А Казюню, маці тваю, вечны ёй супакой, і хлапчука Фрэйткі павезлі ў Краштупены. Мы са старым Джугасам хадзілі да Дангеля, прасілі цела аддаць: вывесілі ж аб'явы, што расстраляна за ўтойванне яўрэяў... Дзе там! Самім нам прапанаваў, каб нагледзелі месца на сваю магілу... Так і пахавалі толькі бацьку і дачку...

Абодва доўга маўчаць.

— Ці не здагадваешся, каму за ўсё гэта я маю быць удзячны?

— Не ведаю... Такімі справамі ніхто не хваліцца. Але наш стараста, Кучкайліс, задужа ўжо руплівы... Можа, яшчэ чарку на дарогу?

— Налі.

Кукса жвава павярнуўся і патэпаў у кухню. Калі ён вярнуўся з чаркай, Марус, абапёршыся плячамі аб сцяну, прыпальваў пагаслую цыгарку. Твар быў спакойны, цвёрды, пачырванелыя вочы суха блішчалі.

— Трэба было б спаткацца з Гедымінасам. Дапаможаш,— сказаў ён, быццам пра гэта толькі што вялася размова. Аднак ледзь толькі апынуўся ён на падворку, абцугі штучнага спакою аслаблі; яшчэ трохі — і ён кінуўся б назад у Куксаву халупу. «Як жыве Аквіля?» Колькі разоў гэтае пытанне круцілася ў яго на языку, аднак ён так і панёс яго з сабою, не адважыўшыся вымавіць. Гонар не дазваляў дапытвацца, а Кукса наўмысна пазбягаў гэтай тэмы, баючыся вярэдзіць сэрца. Так ён і не даведаўся нічога звыш таго, што ўжо чуў ад таварышаў па атрадзе: замужам, гадуе іхняга сынка, хутка будзе мець другое дзіця ад Кяршыса. Праўда, Кукса неяк між іншым прагаварыўся, што Кяршысы бяруць з яго плату за Нямунісаў дом; Хвеліксас, маўляў, знайшоў адпаведную пару, абое патрапяць збіць масла з багны. Выпадкова кінутая фраза толькі пацвердзіла ранейшае Марусава падазрэнне, што ён зусім не ведаў Аквілі. Аднак гэта былі не тыя словы, якіх чакала яго збалелае сэрца, як зямля, парэпаная ад

спякоты, чакае дажджу. Нічога ён цяпер не прагнуў больш, як толькі паглядзець у яе здрадлівыя вочы і ўбачыць там роспач. Ён быў амаль упэўнены, што гэтага не адбудзецца — яна, вядома, не нешчаслівая, а яму будзе невыносна цяжка вытрымаць удар, які прычыніць яму яе абыякавасць (а можа, нават злосць, як у звера, патрывожанага ва ўтульным логвішчы), але не мог суняць буры сваіх пачуццяў. «Я мушу пабачыць сына. Можа, першы і апошні раз у сваім жыцці»,— апраўдваўся ён перад сабой, паслухмяна паддаючыся спакусліваму шэпту падсвядомасці.

«Ты ўвойдзеш у гэты замак спакою і ўскалыхнеш яго да самага падмурка. Каралева спіць і сніць салодкія тупыя сны, але ты выцягнеш яе з ложка і, душачыся ад радасці, будзеш любавацца, як гарыць кардонавы палац хлусні і ашуканства. Нітка за ніткай, ты сарвеш з яе шаты самазванства, якімі яна ахінулася, хаваючыся ад выпрабавання на вернасць, і калі ў яе сэрцы засталася хоць кропля Аквілі тых дзён, яна не зможа не ўбачыць свайго бессаромнага ўбоства. Ты ўзбунтуеш яе душу і выйдзеш горда і пераможна, назаўсёды зачыніўшы дзверы, за якімі будзе пахнуць тлустым баршчом і смачным хлебам, але ўжо ніколі не будзе шчасця. У жыцці кожнага чалавека, скажаш ты, настае часіна, калі даводзіцца змагацца са спакусай прадаць сябе. Ты прайграла, Аквіля, і я прыйшоў табе сказаць, каб ты ведала, што страціла. Здзек? Магчыма. Бесчалавечнасць? Жорсткасць? Непавага да сябе? Магчымая рэч. Не апраўдваюся. Вайна — не курсы шляхетных паненак, гэта — вогненны горан, у якім гартуецца сэрца, і вельмі часта ад яго застаецца толькі кавалак счарнелага шлаку. Так што цешэй, пані Кяршэня. У той час, калі вы песціліся на белых прасцінах, маёй пасцеллю было крывавае поле бою».

## V

Я ляжаў на бяскрайніх снежных могілках — цяжка паранены салдат, што, аднак, выйграў бітву,— і думаў пра адзіную кулю, якая засталася ў барабане ў нагане. Дзякуй лёсу, левай рукой я яшчэ неяк валодаў. Прыстаўлю халоднае дула да скроні, спушчу курок — і ўсё скончана. Санітары, што прыйдуць па гарачых слядах бою, знойдуць на адзін труп болей і закапаюць у стэпе сярод трупаў іншых байцоў, якія знайшлі пад небам Расіі другую айчы-

ну, прыйшоўшы сюды, каб аддаць за яе жыццё. Не трэба будзе зноў адольваць холад, голад, бяссонніцу, скрыгатаць зубамі ад болю, пакуль цябе будуць рамантаваць у шпіталі, каб адтуль акрыялага, яшчэ болей прагнага на жыццё, зноў кінуць у пашчу смерці; і ты з крыкам «ура!» зноў пабяжыш наперад праз гэтае бясконцае пекла, дзе плююцца агнём гарматы, дзе курчацца ў агоніі груды цел, дзе змяшаліся свае і чужыя, мёртвыя і параненыя; а потым, адкінуты назад альбо здолеўшы прарвацца наперад, пажывёльнаму будзеш радавацца, што застаўся жывы, і аплакваць у сэрцы палеглых сяброў, і як бы на ўзнагароду за гэта будзеш есці іхнюю пайку.

Не!

Цяпер сам дзіўлюся, як я мог так расклеіцца. Чырванею, калі прыгадаю сабе гэта, аднак не хачу апраўдвацца: хто не быў там, мяне не зразумее, бо ён не дзяліўся з таварышамі апошняй зацяжкай, не ламаў апошняга сухара на некалькі драбкоў, пакідаючы сабе найменшы кавалачак, хоць і не ведаў, калі (можа, заўтра, а можа, праз некалькі дзён) атрымаеш скупую салдацкую пайку; яму нават цяжка ўявіць сабе, што чалавек можа спаць ідучы, а ўпаўшы — не прачнуцца і замерзнуць на снезе, калі яго не заўважаць і не разбудзяць таварышы. Страшна, пані Кяршэня? Так, але ўсё гэта яшчэ нічога, калі хапае патронаў, а за тваімі плячамі чуваць бадзёрлівы гул сваёй артылерыі, калі адчуваеш, што недзе паміж тылам і табой цягнецца непарыўны ланцужок забеспячэння. А тым часам нас кінулі ў той кацёл, калі артылерысты яшчэ толькі шмаравалі колы, рыхтуючыся мяняць пазіцыі, а абозы з харчам і боепрыпасамі паўзлі ў сумётах за дзесяткі кіламетраў ад нас. Адданым братам, на якога можна было паспадзявацца ў вырашальную гадзіну, быў штык, ну а калі ён выходзіў са строю, заставаўся прыклад вінтоўкі ды яшчэ свае кулакі. Але пакуль чарга да іх яшчэ не дайшла, мы адбівалі атакі ворага, а сям-там і самі прарываліся наперад... Аднак скончыліся боепрыпасы і бутэлькі з гаручай сумессю, якія дзейнічаюць напэўна, калі, захапіўшы пару такіх, сам кідаешся з імі пад танк.

Добры салдат павінен, не тлумячы сябе лішняй развагай, прымаць усё, што робіцца навокал. Я не быў да гэтага падрыхтаваны, бо з маленства навучыўся глядзець на жыццё, даходзячы да ўсяго, што мяне цікавіла, і не супакойваўся, пакуль не атрымліваў дакладнага адказу. Аднак гэты самы розум, які зрабіў мяне чалавекам і змагаром за

праўду, цяпер павярнуўся супраць мяне. «Што будзе, калі немцы надумаюць контратакаваць раней, чым прыйдзе падмацаванне? Дый наогул, ці прыйдзе яно? Ці не паўторыцца нядаўняя гісторыя баявой дывізіі, калі яшчэ зялёных, ненавучаных хлапцоў нечакана выцягнулі з зямлянак і, амаль бяззбройных, кінулі супраць сталёвага нямецкага кулака?» Гэтакія думкі палілі мой мозг і былі яшчэ балючэйшыя, чым рана недзе ў ніжняй частцы цела. І, як я цяпер думаю, гэта была яшчэ адна прычына, якая падштурхнула мяне пакарыстацца апошнім патронам у нагане.

Такім чынам, усё было вырашана і было б здзейснена, калі б не той, недзе побач са мною, енк, што раздзіраў сэрца. Я пераварнуўся на бок, заскавытаўшы ад болю, і за пару метраў ад сябе ўбачыў кучу трантаў, якая торгалася і ад якой ішоў гэты енк. Непадалёку ляжаў чаравік, з якога тырчала нешта ружовае. Другая нага, мабыць, была адкінута выбухам далей альбо яе схаваў пад сабою другі забіты, што зваліўся тутсама. Асколкам міны, нібы хірургічным нажом, распарола немцу жывот да самых грудзей, і дымлівыя вантробы лезлі на снег, нібы перастаялая рошчына з дзежкі. Але верхняя частка цела была незачэпленая, сэрца па-ранейшаму пампавала кроў, якой усё менела, а мозг разумеў трагічную бессэнсоўнасць гэтых пакут. У думках ён ужо развітаўся са сваім фатэрляндам (рускі мароз неўзабаве дакончыць тое, чаго не дарабіла зброя). Я бачыў, як малілі мяне яго вочы, скіраваныя на мой наган. Які б ён ні быў багаты, гэты заваёўнік з выпушчанымі вантробамі, у гэтую хвілю ён ведаў, што самае большае багацце — куля ў лоб.

Я меў тую кулю! І калі б яе прасіў смяротна паранены таварыш, я не вагаючыся паслаў бы яму яе, як аддаюць кавалак хлеба альбо апошні глыток вады, нягледзячы на тое, што потым самому б давялося канаць у жахлівых пакутах. Але яе, маю апошнюю кулю, прасіў вораг! Прыхадзень са свету звышчалавекаў, што ўсім прынеслі боль і няшчасце, ён сам, напэўна, дагэтуль не ведаў, што такое чалавечая пакута. Не, я дапамог бы параненӑй жывёліне, але не гэтаму прадстаўніку чыстай расы. Я сам уразіўся сваёй нянавісцю. «Не! — закрычаў я ў думках.— Не ведаю, хто ты такі — гараджанін ці вясковец,— але табе не трэба было сюды прыходзіць. Трэба было ведаць, што няма на зямлі чалавека, які не даражыў бы сваім домам, не хацеў бы кахаць сваю жанчыну і гадаваць дзяцей — куды пры-

емней паваляцца ў нядзельку на лужку з каханай, чым ляжаць тут, у гэтым марозным стэпе мерцвякоў, абняўшы вінтоўку альбо свае вывернутыя вантробы. Па тваёй віне зямля п'е людскую кроў і слёзы, нібы ваду, а я неўзабаве прыстаўлю да сваёй скроні наган і спушчу курок. О так, спушчу, але толькі тады, калі ты сканаеш, каб мая смерць не змагла суцешыць цябе. Не, не дачакаешся ты ад мяне сакраментальнага акта. Лепей ужо прыцэлюся з нагана ў тваю зжаўцелую морду, і калі ты растанеш у чаканні, думаючы, што зараз надыдзе хвіліна вызвалення, я апушчу зброю і засмяюся. Хіба гэта не смешна: звышчалавек, што моліць ласкі ў непаўнацэннага раба?! Жалезны фрыц раздушаны і цяпер нагадвае кузурку, якая, цудам збярогшы галаву, варушыць пярэднімі канечнасцямі...»

Ад яго патыхала смуродам...

Я ўзняў наган і ўсміхнуўся, укладваючы ў гэтую ўсмешку ўсю пагарду, якую можа чалавек адчуваць да самай нікчэмнай істоты на зямлі. Ягоныя губы перакрывіліся, напэўна, ад болю, але я чамусьці падумаў, што ён хоча мне плюнуць у твар. І раптам у ненатуральна расшыраных яго вачах я ўбачыў нешта такое, што працяло мяне, як электраток.

Я павярнуўся на спіну і заплюшчыў вочы. Цела зрабілася лёгкае, нібыта яно было з парахні. Нібы маё, нібы не маё. Я быццам аддзяліўся ад сябе самога і, вынырнуўшы, як вуж з леташняй скуры, папоўз старым звілістым следам назад, адкуль узяўся. Прастора вакол мяне напоўнілася сонцам і празрыстым паветрам палёў. Ахоплены шчымлівай радасцю, я слухаў звонкае шчабятанне птушак, што даносілася да мяне з усіх канцоў, і бачыў, як у блакітным скляпенні неба адлюстроўваюцца кучаравыя пасмы цёмных лясоў і як ад іх коцяцца зеленаватыя хвалі, абмываючы сядзібы і людзей, што разбрыліся па палях. Я глядзеў на цябе, мая дзяўчынка! О так, на цябе, бо, яшчэ не вынырнуўшы са старой вужовай скуры, я ўжо чуў мяккі шолах тваіх крокаў, услед за якім узыходзіла гэтая сонечная летняя раніца. Гэта нічога, што ты тады ўцякла, пакінуўшы на засмечаным двары свой клумачак, і апошні ўспамін, які я павёз адгэтуль за сотні кіламетраў разам з вобразам айчыны, быў не твой позірк, поўны болю расстання і шчырай адданасці, а твая згорбленая спіна; гэта нічога — усё роўна за сотні кіламетраў я пачуў пяшчотны шолах тваіх крокаў. І ўбачыў твае вочы, не баязліва сагнутую спіну, а вочы, якія тужылі і любілі, а таксама не-

цярплівыя губы, што ласкава ўсміхаліся і клікалі, каб прыйшоў. «Ты вярнуўся? — гаварыла ты.— Я верыла, што ты вернешся. Чалавек не можа не вярнуцца, калі яго чакаюць». На тваёй галаве была чырвоная хусцінка, тая самая, якой ты мне махала, стоячы на рыначным пляцы той чэрвеньскай нядзеляй, а на руках трымала маленькага чалавечка — н а ш а дзіця... Так, мая дзяўчынка, у цябе на руках я ўбачыў н а ш а дзіця! Яго вялікія блакітныя вочы глядзелі крыху здзіўлена, але роцік усміхаўся, і далікатныя бледныя пальчыкі, нібыта парасткі, што выраслі ў склепе, датыкаліся да майго зарослага падбародка. «Вярнуўся... вярнуўся... вярнуўся...»

Я расплюшчыў вочы, адчуўшы на шчоках замёрзлыя слёзы, і паглядзеў перад сабою ў шэрую ледзяную пустэчу. Лета ўжо не было. Ні кучаравых лясоў, ні зеленаватай хвалістай зямлі. І ты з н а ш ы м дзіцем адышла за сотні кіламетраў. Аднак я ўсё яшчэ бачыў твае вочы — яны ўсміхаліся, чуў шэпт засмяглых губ — яны клікалі вярнуцца, адчуваў на сваім твары далікатныя пальчыкі дзіцяці, і ад гэтага дотыку трэскалася каменная абалонка гневу, што скаваў сэрца салдата, і праз нежывое папялішча прабівалася пяшчотная вясновая трава.

Я перавярнуўся на бок і, прыцэліўшыся, спусціў курок нагана. Але наўрад ці ён ужо меў патрэбу ў гэтым маім апошнім стрэле: вочы ўжо ні аб чым не малілі, нічога не праклінaлі, звар'яцелыя ад болю, яны былі халодныя, спакойныя і з нейкай патаемнай удзячнасцю глядзелі ў рускую зіму, якая часам бывае літасцівейшая да чалавека, чым сам чалавек. Але, чым чалавек да чалавека, пані Кяршэня... Толькі не падумай, што я прыйшоў сюды скардзіцца ці прасіць міласціны, як той паранены немец кулі. О не! Я адно толькі хацеў, каб ты даведалася, як я цябе кахаў. І яшчэ пажадаць табе: будзь шчаслівая надалей, будзь шчаслівая, калі можаш пасля ўсяго таго, што цяпер пачула.

## VI

Марус у нерашучасці спыніўся каля пакрыўленых варотаў, у хутары. Прачыненыя — варта штурхануць плячом — і ты апынешся ў двары. З аднаго боку свіран, хлеў з агароджаным загонам, у якім стаіць воз, калодзежны журавель, нацэлены ў пабляклае неба, быццам чорны ствол гарматы, шалясценне роснага адцвілага саду...

З другога — хата, новы ганак, лаўка каля сцяны. Сесці б і пакурваць самакрутку, пакуль не развіднее і дзверы не адчыняцца самі... Сэрца адтала, не было ўжо той помслівай злосці, той крыўды, якая прыгнала яго сюды. У грудзях застаўся толькі нейкі шчымлівы смутак ды прыкрае здзіўленне: «Чаго я тут?» Панурыўшы галаву, ён глядзіць сабе пад ногі, на ўтаптаную зямлю на дворы. Ля лаўкі куча жвіру, цямнеюць нейкія параскіданыя прадметы. Ногі ўгнуліся ў каленях, і, прысеўшы на кукішкі, ліхаманкавым позіркам ён пачаў абшукваць гэты шматок зямлі. Цацкі! Я г о н ы я цацкі... Пустыя запалкавыя карабкі і бляшанкі з-пад ваксы, зламаная лыжка, тронак нажа. Кучу жвіру перасякае баразна — не дакапаны да канца канал. Тут жа тырчыць дзяржак з лапаткі — сёння мужчына будзе капаць далей...

Марус выцягнуў руку, гладзіць жвір. «Кожны каменьчык кранаді я г о пальчыкі...» Дрыготкімі рукамі абмацвае зямлю вакол канала (асцярожна, толькі асцярожна, каб не разбурыць!) і каменьчык за каменьчыкам кладзе на далонь... Раптам — трррах! Наступіў на нешта. Ракавінкі! Белыя, рабыя, рудыя шкарлупіны — я г о каровы, авечкі, свінні... Багаты хлеў маленькага гаспадара, якім ён яшчэ ўчора цешыўся, ляжыць, раструшчаны нагой дарослага чалавека. Марус засмучана шукае вачамі ўцалелыя ракавінкі.

Сабраныя каменьчыкі сыплюцца праз растапыраныя пальцы. Злосна брэша сабака. Пачуў чужога! «Чужы, чужы, чужы... Чаго табе тут трэба? І так праз цябе дзіця будзе плакаць...»

Ускочыў, стуліўшыся, пасунуўся ўздоўж плота з двара, як бадзяга, у якога шпурляюць камянямі. Незачыненыя вароты зеўраюць, нібы пашча нейкага звера. «Гаўгаў-гаў!» У сэрцы — храбусценне патрушчаных ракавінак («Ой, мае кароўкі, мае авечкі!..»), у руцэ — адзіны ўцалелы каменьчык. «Нягоднікі, нягоднікі...» — шэпча ён перасохлымі губамі, сам не разумеючы, каму прызначаюцца гэтыя словы. «Нягоднікі, нягоднікі...» Заходзіць за хату з другога боку. На плоце вісяць гаршкі, гліняны збан, сушацца нейкія анучы. Дзядоўнік і крапіва лезуць праз плот у кветнік, а адтуль выхіляюць свае галоўкі кветкі. Як яны хмельна пахнуць! Асабліва ў вільготную майскую ноч, калі цвіце бэз. Ён такі густы, галінасты, гэты куст бэзу, што засланяе палову хаты. Марус, аблёгшыся на плот, углыбіўся тварам у духмяную лістоту. Цяжкія гронкі

кветак халоднымі далонямі абдымаюць шчокі, і раса, што точыцца з іх, ледзянымі кропелькамі коціцца за каўнер, казыча грудзі. Дзесь над галавою, у галлі, абудзіўшыся, падае голас пташка. «Цвір, цвір, цвір...» — быццам нажнічкамі чыкрыжыла яна шэрую прахалодную шату досвітку. Усё шпарчэй, усё мацней, усё шырэйшымі рухамі. Расчыкрыжыла-такі! Марус, затаіўшы дыханне, глядзіць на цёмную шчыліну, што абмалявалася ў галлі. Акно! За ім — цёплая пасцель, я н а і ё н. «Уставай, Хвэлька, уставай. Ужо світае»,— мабыць, кажа яна. Пазяханне, соннае мармытанне: «А-эх, ледзь не праспаў... Але і расспяваліся гэтыя пеўні. Цябе не бярэ на іх злосць?» Вядома, бярэ. Абаіх бярэ злосць. І яшчэ не так позна, каб не было часу нагаманіць... «Нягоднікі, нягоднікі...» Выцягнуць бы пісталет і лупянуць у гэтую чорную шчыліну! Паветра пахне не толькі хлебам і цёплай пярынай, нехта не спіць і памірае, а яны ў гэты час... а яны ў гэты час... Трэба ім пра гэта, чорт бы пабраў, нагадаць!..

Рука слізганула ў кішэню. Але не ў тую. Там толькі маленькі шурпаты каменьчык — згадка з берагоў дзіцячага канала... «Спі, соладка спі, мой малышок...» Адарваўшыся ад плота, доўга выцірае мокры твар рукавом. Кідае неспакойны позірк на пабляклае неба, на якім адна за адной растаюць зоркі, на пасвятлелыя палі, на сядзібу, дзе ўсё суладней і галасней пачынаюць спяваць абуджаныя птушкі. Бразнула, адчыняючыся, акно. Не гэтае, заслоненае квітучым бэзам, а крайняе. Цяжкая хада, пакрэктванне.

— А-эх, сама пара, сама пара,— кажа ён, пазяхаючы.— Пайду падсыплю буланаму аўса.

Нешта шукае навобмацак у ранішніх поцемках. Нешта зачапіў, перакуліў. Аквілін голас, але слоў не разабраць — мабыць, з другога пакоя.

«Пайду падсыплю аўса...» Прыціснуўшы далонь да грудзей, ён слухае, як аддаляецца стук драўляных чаравікаў. Чуе свайго бацьку. Такая самая вясновая раніца. Соннае гагатанне гусей, крык пеўня. Свежае, вільготнае ад расы паветра плыве праз адчыненае акно ў пакой, а ў дзіцячым ложачку так добра і ўтульна.

— Цішэй ты, пяўклюда, дзіця пабудзіш.— Гэта маці. Можа, і Аквіля вымавіла такія самыя словы?

І раптам яму робіцца дзіўна і брыдка, што ён прыцягнуўся сюды і, як нейкі падлетак, зазірае ў вокны чужой хаты. Успамінае сваё заданне, таварышаў па зброі. Па-

чуццё абавязку ўсім цяжарам навальваецца на плечы, і ён адчувае сябе ганебна дробным, зняважаным, страшна зняважаным, амаль што здраднікам. «Ты забыўся, што тваё жыццё належыць не табе аднаму, яно патрэбнае ўсяму народу».— «Я прыйшоў, каб загаварыць да сумлення чалавека, парушыць сыты спакой яго душы. З якой мэтай? Дзеля чаго? Дзеля сябе, толькі дзеля сябе! Парушыць чужы спакой толькі таму, што сам не маю спакою. Таму, што не магу абняць той, якая мне была абяцана, але дасталася другому, таму, што ў мяне адабралі права жыць у сваім доме, без боязі хадзіць па родных палетках, таму, што толькі спотайку, нібы які злачынца, магу пачуць першыя словы ранішняй малітвы селяніна: п а й д у п а д с ы п л ю к а н ю а ў с а».

Ён сумна ўсміхнуўся самому сабе і, нават не азірнуўшыся на сядзібу Кяршысаў, рушыў па полі проста туды, на сасвякі Гілужэ, па-над якімі палымнела зара, усё шырэй і шырэй залліваючы нябеснае скляпенне, усеянае бледнымі сняжынкамі зорак.

## *Раздзел дзесяты*

### I

Ён упароўся ў двор, паабчапляны дзедаўскімі торбамі. Яна занадта позна заўважыла яго — зачыніла б дзверы, а сама ў клуню ці ў хлеў. А цяпер нічога не застаецца, як карміць курэй і чакаць, калі наблізіцца гэтая недарэчная чалавечая разваліна. Не адрываючы вачэй ад зямлі, яна да самых дробных рысак уявіла высокую шыракаплечую постаць жабрака, доўгія ногі ў пасталах, абкручаныя да каленяў бруднымі палатнянымі анучамі, аблезлую заечую шапку, якую ён не здымаў нават летам, у самую вялікую спёку. Яго твар да самага лоба зарос густой барадою, якая, быццам грыва, звісала яму на грудзі, а ніколі не стрыжаныя валасы матляліся па плячах, закрываючы карак і зямлістыя вушы. Пра тое, што гэта сапраўды чалавек, а не нейкае хадзячае пудзіла, сведчылі адно толькі вусцішна бліскучыя шчылінкі вачэй ды чорная пройма рота, якім абвяшчаліся прароцтвы і праклёны грэшнаму чалавечаму роду; некалі ў гэтай істоты быў яшчэ нос, але ён даўно ўжо адгніў. Аквілі здавалася, што Судны Дзень гэтакі самы стары, як божы свет,— іншым гэтага старца яна не па-

мятала. Хіба што тады... Не, ён і тады быў гэтакі ж сівы, лыткі да каленяў былі абкручаныя палатнянымі апмоцінамі, толькі тады ён здаваўся яшчэ больш высокім, і не дзіва — Аквіля ж была зусім маленькая. Яна ляжала на лаве, паклаўшы галаву маме на калені, і глядзела на жабрака — на калматую гару лахманоў, што расселася сярод пакоя. Трэсь-трэсь — трашчалі вошы пад нажом у маці. «Гасподзь сказаў: не забі, бо не ты стварыла яго, жанчына. І палюбі блізкага свайго, як самога сябе, і накармі галоднага, і напаі засмяглага, і перавяжы раны Лазару, і прыгатуй пасцель бяздомнаму, а каб ён ні ў чым не меў патрэбы, пабудзь яму за жанчыну, бо грэшны не той, хто любіць, а той, хто ненавідзіць, хто не пацешыў душу брата свайго, апанаваны пыхай». Маці нешта адказвала. І тады з валасатай ямы рота выпала тое бяскрыўднае слова («Памацай»), якое на ўсё жыццё забрудзілася тым, што ўбачыла Аквіля. Маці страшна залаялася і пхнула нагою жабрака ў пахвіну. Праз некалькі дзён здохла свіння. Ніхто не здзівіўся: рэдка якую сядзібу мінала няшчасце, калі ў яе наведваўся Судны Дзень.

— Слава Ісусу Хрысту.

— На векі вякоў. Амін,— адказала Аквіля на прывітанне жабрака.— Усё блукаеш, божы чалавек? — Ёй было сорамна за гэтую ўгодлівую фразу, але ў Лаўксадзісе ўсе сустракалі няўмольнага прарока якраз гэтакімі словамі.

Судны Дзень, нічога не адказваючы, падышоў да лаўкі каля сцяны, сеў і, паздымаўшы торбы, пачаў гаварыць пацеры. Нельга было зразумець, што ён мармыча ў бараду, утаропіўшы злавесны позірк у адну кропку на небе, нібыта бачыў там таго, каго ніхто са звычайных смяротных ніколі не меў шчасця бачыць. Паступова ягоны голас мацнеў, паасобныя склады, прарваўшыся праз густую цадзілку яго поўсці, зліваліся ў словы, якія грымелі ўсё гучней, пакуль нарэшце не зліліся ў адзіны грукат, у якім ляскаталі перуны.

— Настане дзень, судны дзень. І ўздыме гасподзь меч правасуддзя, і скажа апошняе слова. Ці не засцерагаў я цябе, людскі род, скажа валадар зямлі і нябёсаў, ці не пасылаў з вышыні прароцтвы і знакі, ці не пісалі для цябе мае вучні святых кніг, у якіх было сказана, што ўздымецца з захаду цар і зойме ўсе царствы зямныя, і паўстане брат процi брата, сын процi бацькі, і кроў пальецца ракою, і зрушацца з месца горы і пад сабой пахаваюць тых, хто яшчэ не памёр, і ад іх уздыхаў патрэскаецца зямля, і стра-

се з сябе аздобныя гарады, нібы яблыкі з яблыневых галін? Цярпенне маё вялікае, няшчасны род чалавечы, але твой грэх яшчэ большы. І я наслаў на цябе цяжкае выпрабаванне, каб ты апамятаўся. Але ты, асеплены распуснай пыхаю, адрынуў ласку нябёс і прэшся далей па дарозе, брукаванай грахамі, у бездань апраметнай. Мой біч выклікае ў цябе адно толькі салодкі сверб, ты смяешся, аднак я ўзнясу над тваёй галавой меч гневу, каб падзяліць непадзельнае і ачысціць агнём і крывёю неачышчальнае. Так скажа ўсемагутны гасподзь, і тады злучацца разам суша і мора, агонь і вада, праведнікі і грэшнікі, і сплавяцца, як жалеза ў горне, у адзін вялікі хаос, каб потым зноў усё падзялілася папалам і распачалося спачатку ад Евы і Адама: праўда і ашуканства, мудрасць і глупства, цнота і грэх, вечнае збавенне і пякельныя пакуты, якім не будзе канца.

Аквіля з забабонным страхам слухала казань жахлівага жабрака. Хацела пайсці ў камору — сама пара, каб адкроіць кавалак сала, няхай толькі хутчэй выбіраецца адгэтуль,— аднак не адважылася скрануцца з месца, каб не зняважыць святога бадзягу. Калі ён скончыў сваю дзікую малітву, Аквіля, узмакрэлая ад поту, пашанліва запыталася:

— Што вам пакласці ў дарогу, добры чалавеча?

Жабрак зірнуў на яе мутнымі няўцямнымі вачамі. Барада ў яго захвалявалася, нібы куст, зварухнуты ветрам. Напэўна, ашчэрыўся альбо ўсміхнуўся, калі наогул яшчэ ўмеў усміхацца.

— Усё, што гасподзь стварыў, кладзецца ў торбу ўбогаму,— адказаў ён, драпаючы ў сябе пад пахамі. Потым крывыя птушыныя пальцы (з вострымі доўгімі пазногцямі) павандравалі па жываце ўніз, і Аквіля з жахам прыгадала бяскрыўднае слова, якое забрудзілася, калі яна яшчэ была малая.

Прахалодныя прыцемкі ў каморы пахлі пацукамі і салёным топленым тлушчам. Заседжанае мухамі акенца было халоднае і мутнае, як жабракова вока. «Трухлявая пачвара...» Але тут жа схамянулася, спалохалася сваёй думкі і сама не заўважыла, як замест з'ялчэлага сала адкроіла кавалак кумпяка.

— Памаліся, дабрадзею, хай бог будзе літасцівы да людзей,— сказала яна, падаючы жабраку міласціну.

Той гнеўна нахмурыў бровы. Вочы зрабіліся маленькія і вострыя, быццам дзюбкі штыкоў.

— Ты не сытая, жанчына? — загрымела з калматай капы.

— Не галадаем, дзякаваць богу.

— Ці не народзіш на славу госпаду богу яшчэ аднаго чалавека?

Аквіля, пабляднеўшы, засланіла рукамі жывот.

— Ці не зачатая ты ў граху і ці не жывеш у граху, жанчына? — усё суровей грымеў жабракоў голас.

— Усе мы грэшныя, добры чалавеча...— прашаптала Аквіля.

— Дык якой жа літасці боскай ты хочаш, жанчына? — Жабрак устаў і закінуў за плечы торбы.— Якой ласкі чакаеш з нябёс? Можа, ты святая, а не з таго агіднага людскога гатунку, які кожны белы дзень укрыжоўвае сына гасподняга? Літасці?! Не! Не! Гасподзь быў літасцівы, пакуль не вычарпалася чара яго цярпення, а цяпер настае гадзіна адплаты.— Жабрак павярнуўся да Аквілі спіной і, злосна стукаючы па зямлі сукаватым кіем, падыбаў па двары. Каля варотаў прыпыніўся, нібы нешта забыў, і жудасна зарагатаў.— Не, не, жанчына,— закаркаў ён, тыкаючы кіем у Аквілю.— Не літасці, а справядлівасці буду прасіць у госпада майго, бо першая чара ўжо выпіта, а другая толькі пачата. І скажа мне тады цар над царамі: «Іду! Іду! Да ўсіх аднолькава суровы і справядлівы. Ніхто не будзе забыты. Дзе ж тая твая жанчына, што замест справядлівасці маліла аб літасці, Бенедыкт? Запытай у яе, ці яна таксама гукала разам з габраямі: «Г о р а т а б е, Е р у с а л і м!» І скажы ёй, што той дзень такі самы блізкі, як яе сарочка да цела. Гора табе, Ерусалім! Гора табе, Ерусалім! Скажы гэта ганарлівай жанчыне, зняважаны слуга мой Бенедыкт».

Сабака, які ўвесь час гыркаў на жабрака, цяпер зусім ашалеў. То ён турзаўся на ланцугу, нібы яму падпалілі хвост, то жаласна скуголіў, то выў, то стагнаў, як чалавек, перапоўнены пякучай нянавісцю, ад якой не можа збавіцца. Але слова боскае ў дужым горле святога бадзягі гучала мацней, чым сабачы голас.

Затое ланцуг аказаўся слабейшы. Ён лопнуў, і Судны Дзень, не скончыўшы сваіх прароцтваў, кінуўся ў вароты паўцёкі.

Юліта рагатала, ажно кладучыся на зямлю, і нацкоўвала Тыгра, а Лаўрукас заліваўся слязамі, утуліўшыся ў матчыную спадніцу. Аквіля ўзяла хлопчыка на рукі, вы-

церла пярэднікам мурзаты, мокры ад слёз тварык і, праз сілу ўсміхаючыся, пачала суцяшаць:

— Ты не бойся. Той злосны дзядзька не вернецца. Тыгр яго не пусціць. Бачыш, які ён баязлівец, як уцякае. Цялёп, цялёп,— ажно пыл курыць. Баіцца Тыгра. А мы Тыгра не баімся. Тыгр наш сябра, ён нікому не дазволіць, каб нас пакрыўдзілі.

Лаўрукас супакоіўся. А потым усміхнуўся. І гэтая ўсмешка, і пяшчотны блакіт вачэй працялі сэрца Аквілі. Як зачараваная, глядзела яна на хлопчыка, а бачыла т а- г о і, хоць не жадала вяртацца назад, усё роўна пайшла ўслед за ім па духмяным чэрвеньскім лузе. Шчодра цвіла канюшына — цэлы палетак, аблямаваны па краях рамонкам,— і аж да слёз кранаў звон кляпаных па дварах кос — хаўтурлівыя званы па дзявоцкім леце.

Нічога не было, казала яна сабе ўначы. Нічога не было і не магло быць, з той пары ўжо тры разы касілі канюшыну, а рамонак асыпаў пялёсткі, што наваражылі каханне. Зямля стала голая і бясплодная, а калі і цяжарная, дык толькі трупамі. Нічога не было і не магло быць. Гэтак яна гаварыла сабе ўначы, аднак усё ішла і ішла па ружова-фіялетавай чэрвеньскай канюшыне і плакала ад жалобнай музыкі кляпаных кос.

«Паслухай, Марус, згалі ты бараду,— сказала яна.— Я цябе баюся».

Ён засмяяўся (на вусцішнае савінае вухканне быў падобны яго смех), і тады яна ўбачыла, што перад ёю стаіць жабрак. Аблезлая заечая шапка варушылася ў яго на галаве як жывая; белая, з жоўтымі пасмамі барада дзіўна хвалявалася. Але вочы былі Марусавы. Толькі халодныя і нежывыя.

«Пакінь прыкідвацца,— сказала яна, стараючыся адолець страх, які ўзняўся ў ёй.— Хочаш, каб твая дзяўчынка спалохалася і ўцякла?»

«А хіба ты ад мяне не ўцякла, жанчына?» — сурова спытаўся ён.

«Хто ты такі?» — прашаптала яна, адчуваючы, як валасы па галаве ўстаюць дыба.

«Той, каго ты апукала, жанчына».

«Я...»

«Той, ад каго ты адраклася, як Пётра ад Ісуса Хрыста. Ці ты атрымала тыя трыццаць юдавых срэбранікаў, жанчына?»

«Я...»

«Ты атрымала іх, але ці дастатковая цана? Ці не даражэй купіла, чым прадала, жанчына?»

«Даруй. Я не ведала, што ты вернешся. Даруй, калі можаш».

«Мёртвыя не могуць даравацъ жывым».

«Але я заказала дзве імшы за тваю душу і закажу яшчэ. І кожны вечар буду за цябе маліцца. Будзь літасцівы, божы чалавеча».

«Літасцівы! — загрымеў у адказ дзікі рогат. Марусавы вочы ўпіліся ёй у жывот, і яна адчула, як там нешта звяло сутаргай і забалела.— Якой літасці ты хочаш ад таго, хто і сам яе ніколі не меў, жанчына? Не, я не ведаю, што такое літасць, бо іду, абапіраючыся на посах справядлівасці. Справядлівасці! Так, я нічога больш не прагну, апроч справядлівасці. Я поўны ёю, як тваё лона чужым плодам, як мора вадою. Пі! — я прыйшоў цябе напаіць, жанчына».

Аквіля села ў ложку. Праз запацелую шыбіну цадзілася шарае святло досвітку і чулася нясмелае свіргатанне птушак. У роце было суха, нудзіла, хацелася піць. Кяршыс таксама прачнуўся, пачаў кашляць і пачухвацца, выставіўшы кастлявыя калені, і час-почас пазяхаў і соп перасохлымі ноздрамі.

— А-эх, зноў раніца,— няголасна бумкаў ён, бадзёры і свежы.— Але спаў, дык спаў. Як забіты. А ты крычала праз сон, кідалася, ага. Не трэба было нанач капусты есці.

Аквіля моўчкі павярнулася да яго спіною і пасунулася на ўскрай ложка. Яе цяпер раздражняла тое, што ён соп, што чухаўся.

— Ну, паспі, паспі.— Ён усклаў руку ёй на грудзі. Запахла конскай збруяй і тытунём.— Табе цяпер, жонка, трэба спаць за дваіх. Ведаеш, якое імя я прыдумаў? Калі народзіцца сын, ахрысцім: Хвеліксюкас, а калі дачка — тваім імем, ага.

— Лепей прынёс бы вады,— прамармытала яна, задыхаючыся пад гнятлівым цяжарам яго рукі.

Кяршыс зацёпкаў босымі нагамі на кухню, і ёй на самой справе зрабілася лягчэй. Шырока расплюшчыўшы вочы, яна пазірала ў акно і не магла збавіцца ад дзіўнага пачуцця, што там нехта стаіць, прытуліўшыся тварам да шыбіны, спярэшчанай падцёклымі разоркамі кропляў расы. Яна ведала, што там толькі куст бэзу, што сагнуўся пад духмянаю ношкаю кветак, нічога больш там не можа быць, але ўсё адно яе не пакідала трывожнае, незразумелае пачуццё. Зноў зацёпкалі босыя ногі, вось і эмаліраванае

ны кубак з халоднай вадой, а яна ўсё ніяк не магла адарваць пагляду ад ценю, што завалодаў яе душой. Тады і ён, расплёскваючы ваду, налітую да краёў, павярнуўся да акна. Затурбаваны, нават спалоханы. І раптам шырока ўсміхнуўся, усё зразумеўшы па-свойму.

— Ага, сапраўды! Стаіць, сонца засланяе, толькі сцяна ад яго прэе. Увосень ссяку. Нішто сабе ламачча будзе.

— Ламачча? — не разумеючы, паўтарыла Аквіля.

— Ну, ну. Увосень я з ім распраўлюся, з гэтым кустом. Бяры вось. Свежая, халодная, толькі што са студні. Папаі наша дзіцятка.

«Пі! Я прыйшоў цябе напаіць, жанчына».

Яна выцягнула руку і, не гледзячы на мужа, узяла кубак.

— Табе не трэба есці квашанай капусты.

— Што ты разумееш...— Навобмацак паставіла кубак на падлогу і адвярнулася. А ўсё роўна бачыла яго, як ён стаіць каля ложка ў адным споднім, з ускудлачаным чубам. Камлюкаваты, нязграбны, з грудзямі, зарослымі рыжай поўсцю. Некалькі дзён не голены твар нібы апух — іржышча, зазелянелае пасля дажджу. Яна бачыла яго, хоць ляжала, моцна заплюшчыўшы вочы. Нацягнула коўдру на галаву — і ўсё адно бачыла. Шчэць расла, калмацілася, надзімалася, як мыльная пена ў начоўках, лезла на грудзі, жаўтлявымі пасмачкамі закручвалася вакол носа і шчылінак таямніча бліскучых вачэй. «Пі! Я прыйшоў цябе напаіць, жанчына...» Яна не бачыла толькі сукаватага яблыневага кія, але чула, як ён пагрозліва стукае па цвёрдай зямлі.

Ён выйшаў. «Сёння трэба будзе пасеяць ячмень»,— пачула яна замест развітання, і гэты клопат гаспадара, што раптам уваскрасіў у яе вачах вясёлую рунь палеткаў, як быццам рассеяў прывідныя начныя цені. Але калі ён вярнуўся, падсыпаўшы буланаму ў яслі аўса і прывёўшы з двароваага лагера палоннага, на яе зноў навалілася немарасць. Мужчыны тупацелі на кухні, бразгаў посуд, рыпелі дзверцы ў шафцы, аднак Аквіля не адчувала ўжо той прыемнасці, якая атуляла яе на світанні, калі яна, прачнуўшыся, ляніва варочалася ў цёплай пасцелі. Ёй было агідна; як быццам гэта яна сядзела цяпер насупраць яго (на месцы Івана) і бачыла, як цяжкія вуглаватыя сківіцы абыякава перамолваюць ежу, а выцягнутыя пад сталом босыя ногі з парудзелымі ад гною пальцамі труцца адна аб адну, як два шалудзівыя парасяці.

«Ці не даражэй купіла, чым прадала, жанчына?»

Яна заткнула пальцамі вушы, але гэты праклятьі голас сядзеў недзе ўсярэдзіне. «Уставаць! Уставаць!» Спусціла ногі з ложка. Каля свірна фыркаў запрэжаны конь. «Іван, сюды!» — крычаў Кяршыс. «Іду, іду, хазяін». Неўзабаве зноў затарахцелі, выязджаючы з падворка, калёсы; іх праводзіла гырканне Тыгра, які ўсё яшчэ не хацеў прызнаваць Івана за свайго.

## II

Управіўшыся па гаспадарцы, панесла мужчынам полудзень. Нямунісава дзялянка была з таго боку вёскі, далёка ад бальшака, як і ў большасці малазямельных сялян Лаўксадзіса, якіх заможныя гаспадары адапхнулі ў глушэйшае месца. Дужа не хацелася ісці. Ды яшчэ куды — на зямлю Нямунісаў! Паслала б Юліту, аднак тая, такая адважная, нават нахабная дома, баялася сама за вароты і кроку ступіць.

Больш яна не спрачалася з мужам, аднак разумела, што ніколі не зможа даравацъ яму здзелкі з валасным старшынёй. Ёй было прыкра. Нібыта яна распранула нябожчыка і, перашыўшы, цяпер насіла адзенне з яго. «Добры дзень, Аквіля. Падмацунак мужу нясеш?», «Ужо [redacted] полуднем, Кяршэня? Глядзі, не перакармі свайго Хвэльку». Сустрэчныя гаварылі, здаецца, прыязна, без насмешкі, аднак яна не магла адрабіцца ад думкі, што, адвярнуўшыся, яны абгаворваюць яе, кпяць. І калі яна думала пра гэта, у яе гарэлі вушы, а калі яна ступіла на Нямунасава поле, зямля апякала ногі. Яна плялася па вузкай палявой сцежцы, пужліва азіраючыся па баках, і ні кучаравы жытнёвы парастак, ні густыя кусцікі канюшыны не цешылі яе вока. Узрадавалася, калі нарэшце дабралася да фурманкі, якая стаяла, заняўшы ўсю сцежку, ускараскалася на яе, села на ахапак канюшыны (полудзень буланаму) і пачала чакаць мужчын. А яны, заўважыўшы яе, ужо ішлі з таго канца загона: Іван шпарка ішоў за буланым побач са спружыноўкай, Кяршыс, з сяўнёю на грудзях, абедзвюма рукамі чэрпаў з яе насенне і кідаў шырокімі ўзмахамі рук, нібыта хрысціў зямлю. Тут жа, побач, за некалькі барознаў ад сейбіта, чыкільгаў Путрымасаў Ёзапеліс, трымаючы пад пахай пучок саломы, якой ляшыў месца, дзе падалі апошнія зярняты. Пакуль Іван выпраг каня і прывязаў ззаду да воза, Кяршыс давёў паласу да дарогі. Аквіля на-

ліла ўсім з гаршка па глінянай місцы баршчу, накроіла хлеба, а калі мужчыны ўправіліся з баршчом, выняла з кошыка загорнуты ў пашматаны ручнік гаршчок і масленіцу, дзе была смятана з крышанымі пёрынамі цыбулі.

Хлапчук Чорнага Куксы, ухапіўшы кавалак сала, падскокваючы, пабег цераз загон: яго цікавіла кнігаўчына гняздо, на якое Кяршыс натрапіў, калі першы раз баранаваў леташнюю раллю; тое месца ён пазначыў лазовым дубцом, каб часам, пакуль не вылупіліся птушаняты, не растаптаць.

Аквіля сядзела на возе, абапершыся спіною аб канюшыну, якую хрумстаў буланы. На другім канцы воза — Кяршыс. Іван еў, прымасціўшыся каля аглобляў. Калі пару тыдняў таму Кяршыс прывёз палоннага з Краштупенаў, той ледзь на нагах трымаўся: шкілет, абцягнуты пачарнелай скурай. Аднак папраўляўся ён надзіва хутка. Кяршыс жэстамі і скупым запасам рускіх слоў заахвочваў: «Іван, кушать. Іван, хлеб, сала. Сапагі снімать, Іван, трудна сапагі...» Іван сумленна з'ядаў, што яму падавалі, але змяніць боты на пасталы — лягчэйшы і зручнейшы абутак — адмовіўся.

— Гэтыя кірзачы забіраюць у яго палову здароўя, але трымаецца ён за іх, як шляхціц за жупан,— гаварыў Кяршыс, умінаючы сала з баршчовай гушчай і цыбуляй.— А так добры русачок. Жвавы, кемлівы, не жулік. Яшчэ тыдзень-другі, убярэцца ў сілу — які воз ні нагрузіш, такі і пацягне. Кушать, Іван. Хлеб, сала. Нада работать, нада кушать.

Палонны ўзяў пададзеную Кяршысам лусту хлеба, на якую быў пакладзены кавалак сала. Дзякаваў, змушана ўсміхаўся, ківаў круглай, астрыжанай пад машынку галавой. Твар таксама круглы, хоць і кастлявы, зарослы шэраю шчэццю, шырокія пашчэнкі; пад вузкім ілбом лупатыя карыя вочы, над пульхнымі губамі кірпаты нос. Аквіля ўсялякі раз, калі яго бачыла, чамусьці ўспамінала лётчыка. Каб падбадзёрыць, яна ўсміхнулася Івану.

— А-эх, і без таго яны ліпнуць да дзевак,— заўважыўшы гэта, пажартаваў Кяршыс.— Вунь Джугасаў Васіль усё ўвіваецца вакол удавы Гаўдрымаса. Пухне баба, ага... Такім якраз і падабаюцца мацюкі ды ўсё непрыстойнае. А ў іх кожнае другое слова пра гэтае месца. Родную маці, як якую-небудзь шлюндру, у ложак цягнуць.

— Не бойся, мяне не пацягне,— адцяла Аквіля.

— Ды ўжо ж, я не пра тое...— Кяршыс, зніякавеўшы, адвёў вочы ўбок, моўчкі жуе. Задуменны і не ў гуморы. Але вось яго позірк зачапіў загон, засеяны ячменем, і твар палагоднеў, губы расцягнуліся, шчокі кранула мройлівая ўсмешка.— Добрае поле, угноенае. Калі барануеш, выварочваецца яшчэ леташні гной. Ячмень будзе што тое лыка.

— Леташні гной...— Аквіля ледзьве стрымлівае злосць.— Ёсць з чаго радавацца.

Кяршыс непрыемна здзіўлены.

— Ёсць з чаго радавацца,— настойліва паўтарае Аквіля.— Ты, можа, сам угнойваў гэтае поле?

— Ну, ну... ніхто і не кажа...— Кяршыс не адразу, насілу, глытае кавалак.— Вечны супакой, што ўжо тут зробіш. Так спакон веку павялося: чалавек памірае, адыходзіць, а зямелька застаецца.

— А як жа,— з горыччу кажа яна. Вядома, ён праўду кажа, але з нейкай часткай гэтай праўды яна не можа згадзіцца.— А як жа, а як жа,— усё злосней паўтарае яна.— Чалавек адыходзіць, але чаму той, а не гэты? Ці не магло здарыцца, што немцы нас, а не сям'ю Нямунісаў...

Ён збянтэжыўся, нават спалохаўся. Яна што, звар'яцела?

— Як жа так...— мыкае ён; рука з кавалкам хлеба павісла ў паветры.— Хіба загадаеш богу, каго ён мае прыбраць?

— Калі б ты ўзяў тады Фрэйткавага хлапчука...

— Я?..— Ён пазірае на Аквілю, вылупіўшы засмучоныя вочы.— Ты думаеш, я знарок... са страху?..

— Нічога я не думаю. Кажу, як магло б здарыцца.

Ён шпурнуў надкусаны кавалак сала ў міску, зверху паклаў недаедзеную скібку хлеба. Адвярнуўся. Сядзіць, падпёршы далонямі галаву. Спіна калыхаецца, як жытнёвае поле пад ветрам. Цяжкі ўздых.

— Ты нейкая не такая... Даўно ўжо нейкая не такая...— Сагнуўся ў тры пагібелі, сціскае рукамі жывот, нібы хоча, каб хутчэй званітавала. Не словы — кавалкі неператраўленай ежы, якія не першы дзень носіць у сабе.— Табе шкада таго... Але нашто тады трэба было выходзіць замуж?

Быццам нехта нагою, упэцканай у гной, садануў пад сэрца.

— Вядома, не трэба было.— Ад злосці пацямнела ў вачах, аднак яна бярэ сябе ў рукі і помсціць яму здзекліваю насмешкай.— Ніякага разліку не было. Магла б застацца

дзеўкай з прыплодам. Але нават і гэта не канча: Гедымінас бы мяне ўзяў, калі б я захацела.

— Гедымінас?..

— Ага, наш кум. Але я пабаялася: зусім не пара ён мне. Курыцы патрэбен абскубаны певень, а не сокал. Вось і атрымала, каго хацела.

Кяршыс доўга маўчыць. Раздушаны, змяшаны з зямлёю нечаканым выбухам бомбы. Але дурная надзея, гэтая вечная спадарожніца чалавека, якая падманвае нас да самай труны, нанава ажывае, як жарына, раздзьмуханая ветрам. Кяршыс паволі распростваецца і, павярнуўшыся да Аквілі, кажа, квола ўсміхаючыся:

— Ты гэта таму, што чакаеш малога. Усе жанчыны не ведаюць, чаго яны хочуць, калі чакаюць малога. Пройдзе...

— Вядома, пройдзе. Толькі не трэба есці квашанай капусты.— Вылезла з воза, як папала паскідала посуд у кошык — толькі б хутчэй з гэтага залітага сонцам поля, дзе ўродзіцца добры ячмень, але булка з яго стане папярок горла.

Кяршыс, расставіўшы ногі, стаіць каля воза і пазірае ёй услед, мыляючы ўпэцканымі ў тлушч губамі. Ачомаўся. Паволі праводзіць далонню па шчоках, аглядае рукі, шворае вачамі па босых нагах. «А-эх, гэта ж я, на самой справе я, пень яловы...» Узняў галаву, туманлівым позіркам гоніцца за ёю, але яна несупынна аддаляецца звілістай палявой сцежкай. «Я непрыгожы, не ўмею паводзіцца... Не падабаюся. Але, можа, дасць бог, пасля таго, як народзіцца дзіця, можа, дасць...» — малітоўна шэпча ён, нахіляючыся па сяўню і пашанліва падымаючы яе з зямлі, як ксёндз дараносіцу каля алтара. Вочы ажылі, павесялелі, варта было яму дакрануцца да поля. І, адчуўшы, як у жылах закіпела кроў зямлі, насычанае якою лопаецца высеянае зерне, каб даць свету новае жыццё, бадзёра гукнуў:

— Гэй, Іван, запрагай. Работать нада!

Аквіля здрыганулася: гэты вокрык падагнаў і яе, змусіўшы яе ледзьве не бегма бегчы. Шляк спадніцы сячэ голыя лыткі. Быццам нехта нябачны хвошча па нагах бізуном. Работать нада... Вечарам ён сядзе на ганак, скруціць цыгарку. «А-эх, ячмень, дзякаваць богу, пасеяны... Калі будзе добрае лета, восень не паскупіцца. Жыта ўдалае, пшаніца расце, ажно гудзе. Хочаш не хочаш, а трэба яшчэ адзін конь». Пасёрбае, што паставіш пад нос, а гаворка безупынна будзе вяртацца да засекаў, поўных збож-

жа, да быдла, да планаў пра новыя пабудовы і дадатковыя гектары. І так з дня ў дзень, з году ў год... Чаго вартыя тыя летнія маёўкі, праводзіны цераз палі, уздыханні каля адчыненага акна месячнай ноччу? Ці было ўсё гэта? І прыгожыя абяцанні абнесці на руках вакол свету, і стварыць рай на зямлі, і гімназічныя мроі, калі магла выбіраць і кахаць таго, хто падабаўся? Ніколі потым не было ўжо нічога, падобнага на гэта, і болей не будзе. У жыцці застаюцца толькі буланкі (альбо сіўкі ці гнедкі) і мужы, з якімі трэба спаць, карміць іхняе быдла, нараджаць ім дзяцей. («Калі будзе сын, ахрысцім: Хвеліксюкас, а калі дачка — тваім імем».) А дзе кветкі, якія яны нам дарылі? Смешная дзіцячая забаўка, гэтыя кветкі. («Увосень я з ім расправўлюся, з гэтым кустом».) Іншая справа крапіва: варта яе пасекчы, апшарыць варам, перамяшаць з мукою — свінні з ахвотай умнуць.

Яна раптам здрыганулася: ёй здалося, што нехта ідзе ўслед за ёю і нягучна кліча. Гэтыя няўлоўныя незразумелыя гукі ліліся аднекуль зверху, але калі яна спынілася, убачыла, што вакол яе нікога няма, адны толькі палі, на якіх кіпела вясновая работа, ды вузенькая, з пісягамі каляінаў, дарога, ды неба, усеянае белымі падушачкамі аблокаў,— блакітны звон, які звінеў на ўсё наваколле ад несупыннага птушынага шчабятання. І тады, болей не азіраючыся па баках, яна зазірнула ў сябе. Яны, гэтыя крокі і зовы, былі тут, унутры ў яе! Як чорна-крывавая хмара буру, яна несла іх з сабою, трывожных вестуноў няшчасця. «Іду, іду. Аднолькава да ўсіх суровы і справядлівы. Гора табе, Ерусалім! Гора табе, Ерусалім!» «Тактак,— трымцела наэлектрызаванае паветра ў кожнай клетачцы яе цела, абвяшчаючы ёй, як абвяшчаецца птушкам, што настае часіна гневу ўзрушанай прыроды.— Ты можаш выплысці на бераг, калі перакуліцца човен, выскачыць праз акно ахопленага полымем дома, але нікуды не ўцячэш ад лёсу, бо яго, як і смерць, чалавек носіць унутры самога сябе». І яна, апанаваная смяротным жахам, зноў рушыла наперад, ведаючы, што з кожным крокам яна набліжаецца да накрэсленай лёсам рысы, якую давядзецца пераступіць. «Добры дзень, Аквіля. Ужо дамоў?», «О, прывітанне, Кяршэня. Можа, і нам што засталося перакусіць пасля твайго Хвэлькі?» Сустрэчныя віталіся з ёй, усміхаліся, і яна ўсміхалася, адказваючы ім, але ўсё гэта адбывалася як у сне. Як у сне, падымала яна нягнуткія ногі, што стаміліся трымаць цяжар цела, як у сне, сціска-

ла ў руцэ дужку кошыка, як у сне, зварочвала з палявой дарогі на сцежку, а потым зноў на сцежку, пакуль нарэшце, знясіленая, не ўпала на мяжу. Насупраць яе ляжала знаёмае поле. Сходжанае ўдоўж і ўпоперак, лашчанае вачамі і граблямі, перамацанае рукамі. А па полі ішоў той, таксама пазначаны лёсам, чалавек, які нічога не значыў іншым, але без якога гэтая зямля, пакроеная чорнымі бліскучымі лустамі раллі, была панылая і нежывая, нібы паверхня Месяца. Ён пхнуўся баразною, налягаючы на ручкі плуга і час-почас падганяючы пару коней. За ім, нібы тлусты пацуковы хвост, валокся аблеплены зямлёю бізун.

— Памагай бог, тата...

Коні паслабілі пастронкі і павярнулі галовы ў бок Аквілі. Выцягнутыя шыі ківаюць, аксамітныя вушы стрыгуць паветра. Яны віталі яе, мыляючы мяккімі губамі і ўсміхаючыся мудрымі, трохі здзіўленымі вачамі.

У вачах паплыла мігатлівая імгла. Нібы праз запацелую шыбіну, яна ўбачыла бацьку, які ішоў да яе, грузнучы ў раллі, і размытыя постаці коней.

— А, гэта ты, Аквіля.

— Добры дзень, тата. Арэш?

— А што рабіць. Юргіс замалады, а палонныя з такой работай не ўправяцца. Як ваш, Іван?

— Кемлівы.

— Усё роўна. Наша зямля ім як мачаха: чужая, не любяць яны яе. А вясновае ворыва — гэта святая справа.— Сеў на мяжы побач з Аквіляй, пастукаў па табакерцы арагавелымі пазногцямі і, нязграбна скручваючы цыгарку, пазіраў спатайка на сваё любімае дзіця. І ўсё зразумеў без слоў. Яе вочы былі ўжо сухія, губы нават спрабавалі ўсміхнуцца, але ён усё роўна ўсё зразумеў.— Гм, гм,— пакрэктваў ён, пускаючы ўбок дым.— Чалавек ніколі не можа займець таго, чаго хоча. Такая божая воля. А калі нават хто і займее, то не заўсёды з гэтага цешыцца. Суседскі конь на выгляд часта здаецца лепшы, але калі сам сядзеш ехаць...

— Гэтак,— прашаптала яна. Ёй хацелася прыпасці да бацькавых грудзей і выплакацца, як у дзяцінстве, калі яе крыўдзіла маці, аднак яе скруха здалася ёй такою дробнай у параўнанні з яго нядоляй, што ёй стала сорамна.— Я не скарджуся, тата. Мне добра. Толькі трэба прывыкнуць. Мне зусім добра, тата.

Ён недаверліва паківаў галавой. І тады яна не вытрымала і расплакалася.

— Я баюся, тата. Прысніўся такі жахлівы сон. Нешта павінна здарыцца. Ніколі са мной такога не было. Хіба што перад самай вайною. Я баюся, тата,— паўтарыла яна, уткнуўшыся яму ў грудзі.

— Чаго, дачушка? Чаго? — Грудзі ў яго цяжка ўздымаюцца, пахнуць цяплом роднай хаты, закарэлыя далоні, прасоленыя потам зямлі, нясмела гладзяць плечы.— Часам такое находзіць на чалавека. Бывае. Гэта таму, што замнога думаеш пра сябе. Давер сябе божай волі, памаліся, і палягчэе.

— Не магу больш маліцца, тата. Мае словы пустыя, без сэрца, я ўжо не веру ў іх.

— Нічога. Бог зразумее, дачушка.

Голас у яго нізкі, глухаваты, але цяпер ён звініць у яе ў вушах велікоднымі званамі. Прапахлая ладанам прахалода бажніцы абняла яе, і яна, пад магутны гул аргана, ішла на каленях ад божага стала, прычасціўшыся, прыняўшы ў сябе святое госпадава цела. Усе людзі навокал зноўку былі братамі і сёстрамі, а зямля добрая і чыстая, як ачышчаная ад грахоў душа, якую нябачныя крылы ўзносяць у светлую вышыню, дзе, у зманлівым экстазе дасканаласці, яна хоць на хвіліну адчуе сябе шчаслівай.

Яна навобмацак знайшла бацькаву руку і прыціснула да губ.

...Пасля вячэры, калі Кяршыс, адвёўшы Івана ў лагер, сядзеў на ганку і смактаў самакрутку, Аквіля сказала:

— Заўтра нядзеля.

— Але. Перадыхне буланы.

— Не. Я хачу ў касцёл.

Ён уздыхнуў, нібыта яму самому давядзецца ўпрагацца ў калёсы.

— У панядзелак з самай раніцы зноў у баразну. Каню трэба было б...

— Даўно не была на споведзі,— адсекла яна, не жадаючы нічога слухаць.

— На споведзі дык на споведзі. Што зробіш. Давядзецца, ага.

— Не турбуйся: сама з'езджу.

Ён павярнуўся, здзіўлены. Пачакаў, можа, яшчэ што скажа, але яна ўжо бразгала посудам на кухні. Устаў. Цяжка, нібы перакульваў плячамі фурманку. І, падцягнуўшы абсунутыя штаны, паплёўся ў хату.

— Запрагу,— буркнуў сабе пад нос.

## III

І адразу ж пашкадаваў, што адпусціў адну ў касцёл. Выйшаўшы за вароты, глядзеў на фурманку, што аддалялася палявой дарогай у бок вёскі; на сэрцы стала так нядобра, што не ведаў, куды падзецца.

Абышоў сядзібу, скаціну, потым свой палетак, асобна амаль кожны загон, але ні ярына, што ўзышла гэтак дружна, ні сакавітая рунь азіміны не засланілі незразумелай турботы. «А-эх, не ўцячэ ж нікуды,— цвярдзіў ён сабе.— Буланы — рахманы конь, а немцам такога не трэба».

Пачаў думаць пра восень, мераць яшчэ не сабраны ўраджай, як часта рабіў гэта да жніва. У думках дайшоў да таго доўгачаканага дня, калі скончыцца вайна. І ён пачаў распростваццa, нібы патаптаная трава, нават сонца святлей засвяціла. О, тады ўжо будзе, тады ўжо зажывём... Толькі не трэба чакаць таго дня склаўшы рукі. Бо ні бог, ні д'ябал не збарсаюць табе, чалавеча, лапцяў, калі сам будзеш ляжаць, выставіўшы ўгору пуп.

Згадаў Нямунісаву клячу. Лядачая была, яшчэ слабейшая за яго сіўку, але пры буланым была б дарэчы. Забраў Пятрас Кучкайліс. І кароўку павёў, і курэй пералавіў. Захапіў бы і Нямунасаву дзялянку, каб не падсвінак валасному старшыні... Клячу Кучкайліс заездзіў, скарміў свінням, а шкуру — немцам. Прагавітыя людзі, а гэты яшчэ і забойца...

Гэтая думка навяла на другую: а-эх, пара ўжо араць папар, але калі аднаконным плужком перакорпаеш ты яго? У Нямунісаў на зямлі з паўгектара пазалеташняй канюшыны. Карэнне паспляталася, што тая лаза, без вялікага плуга не падступішся. Хоць плач, трэба шукаць другога каня. Ага, і роў каля мяжы Мікаласа Джугаса патрэбен. Зямелька тлустая, ды што з таго, калі да самай сёмухі вада стаіць. Быў бы Іван як Іван, уклаў бы рыдлёўку ў рукі — і капай! Змардавалі іх немцы ў лагеры, ледзь жывыя. Але хоць які, а работнік. Сёння адмерае роў, пазначыць калкамі — няхай капае. Хоць і па чайнай лыжцы, а ўсё наперад, а не назад.

Узрадаваўся, што нядзеля, божы дзянёк, і то не пройдзе намарна: памеціць роў, дамовіцца наконт каня дый па гаспадарцы сёе-тое зробіць, калі хопіць часу.

Наказаў Юліце пільнаваць Лаўрукаса, а сам падаўся на хутар да Джугаса. Дзіця бегла следам, выстаўляючы

ручаняты: «І я хацу, і я хацу!» Юліта дагнала яго, схапіла ў абдымкі і пацягнула, заплаканага, назад. Нібы і нямка зрабілася Кяршысу, нават падумаў: «Узяў бы на рукі, не цяжкі ж. Але ж надта ўжо падобны на таго...

А-эх, каб даў бог і Аквіля — рррaз! — нарадзіла мне хлапчука...— разважаў ён далей, цешачы вока пшанічным полем, усеяным жоўтай яешняй свірэпкі.— Тады б усюды мы разам і разам. Двое Кяршысаў, двое дужых мужчын.— А-эх, было б тады...

...Дый Аквіля зрабілася б спакайнейшая: т о й бы ўжо не вярэдзіў сэрца. Дзіця ж, як сабаку ланцуг да будкі, прывязвае бабу да мужыка...

А-эх, дай божа, каб як хутчэй скончыўся гэты час, калі мёртвыя не даюць спакою жывым...

...А што, калі ё н жывы?»

Адкінуў гэтую думку, як п'яўку з шыі. Калені дрыжалі, і грукацела сэрца аб рэбры, нібы авечка, якую ловяць на ўбой, аб сцены закутка. Не адразу і супакоіўся — так моцна перапалохаўся, і зусім, як яму здавалася, дарма. А-эх, гэтая вайна так узбунтавала людзей, што мерцвякі ўздымаюцца з магіл...

Увайшоў у двор Мікаласа Джугаса, нібыта ў святліцу. Усюды як падмецена, у садзе апалай галінкі не ўбачыш. Трава блішчыць, як ядваб, каля сцен акуратна складзены дровы, хлуд, старыя дошкі, бёрны, што засталіся ад будоўлі. Гаспадарчыя пабудовы адгароджаны ад хаты штыкетнікам. Агарод, што ўшчаміўся паміж канцом хаты і лазняй, таксама абнесены плотам. Побач з лазняй — сажалка: распарыўся — лезь ачомацца. Вакол сажалкі бярозы ў белых сарочках водзяць карагод. Чаму-чаму, а парадку ў Мікаласа Джугаса можна павучыцца.

У агародзе цёмна-зялёныя рады бутонаў: гэта ўзыходзіць бульба. Ля лазні градка тытуню. Да вайны ніхто з ім не важдаўся, можа, толькі Чорны Кукса, дый таго бабы выганялі з хаты, ледзь унюхаюць дым самакруткі. Але цяпер іншы час. За курыва нямецкім салдатам трэба аддаваць масла, сала, яйцы. А яго, хоць яно і пахне прыемней, даводзіцца змешваць з мацнейшым тутынём. Вішнёвыя лісты, пакропленыя адэкаланом, якая ўжо тут моц...

Кяршыс налягае грудзямі на плот, кашляе.

— Тытунь гадуеш, суседзе?

Джугас павярнуўся ў яго бок. У руках старая бляшаная палівачка. Ад вусоў і следу няма — паголеныя, цяжка

пазнаць чалавека. Нейкая тоўстая стала губа, нос тырчыць.

— А, Хveліксас! Ды вось, браце, паліваю. Прыжыўся добра, але кропля вады не пашкодзіць.

— Пэўна-пэўна. Усё пагодлівыя дні, усё сонца. Няблага было б, каб якая хмарка дажджу прынесла.

— Будзе дождж, будзе. Вунь куры ходзяць як асавелыя. Ты чаго ўтаропіўся?.. А... Узяў — і вусы скасіў. Не з форсу — проста апрыкрала старая скура.

— Бывае, бывае, суседзе.

— Але чаго мы гэта балакаем цераз плот, нібы пасварыліся.— Джугас ставіць на дол палівачку, абцірае аб штаны далоні.— Маю трохі піва, прыхаваў ад вялікадня. Хадзем у хату.

Кяршыс не мае вялікай ахвоты да піва. Яшчэ сёння мусіць намеціць роў, і наогул. А Мікасава піва знакамітае — пасля трэцяга кухля з самім д'яблам не пабаішся пацалавацца, калі сумленна вып'еш да дна. Але пра тую справу, дзеля якой прыйшоў, найзручней пагаварыць за півам.

Каля студні мые ногі Маруся. Кірпаты нос, каштанавыя валасы, грудзі так і выпіраюць з-пад сукенкі. З мінулай восені ў Джугасаў у гаспадарцы. З разбураных вайною раёнаў прывезлі ў Краштупены цэлы вагон жанчын. Кучкайліс, чамусьці добры да Джугаса, выстараўся яму адну.

— Падмога ў гаспадарцы,— кажа Кяршыс.

— Ды яшчэ якая,— згаджаецца Джугас.— Без жанчыны хата, як без печы.

— А-эх, яно вядома.

Садзяцца ў хаце за той самы стол, за якім год з паловай таму назад, нават не думаючы, што Хвеліксас будзе яе мужам, сядзела Аквіля і карміла дзіця. Піва было і кіславатае, і пеністае, але не такое моцнае, якое звычайна было яно ў Мікаласа.

Абодва крыху захмялелі.

— Бачыш, суседзе, я з такім клопатам... Мой буланы хоць і дужы, але адзін. Можа, на які дзень-другі пазычыў бы свайго. Альбо адпрацуем, альбо яшчэ як. Хоць і маеш пару коней, часам можа спатрэбіцца і трэці. Прышлю тады свайго буланага.

Мікалас Джугас без доўгіх угавораў згаджаецца. Здаецца, нават задаволены, што можа паспрыяць суседу.

— У нас з табою такія гаспадаркі, што аднаго каня замала, а двух замнога,— кажа ён, падштурхоўваючы Кяршыса, каб той выпіў.— А па праўдзе сказаць, дык мне часам ахвота плюнуць на ўсё і ляжаць, акрыўшыся з галавою. Бегаў, рупіўся, як ты цяпер, і што выбегаў? Жонкі няма, з дзяцей адзін Гедымінас застаўся. Дый той... Вучыў, стараўся, каб святлейшае жыццё меў, а ён назад у балота лезе. Вярнуцца ў вёску надумаўся, смаркач. А яшчэ разумным чалавекам людзі лічаць. Немцам не хоча слугаваць. А што мы робім тут, у вёсцы, ці не слугуем? Ці не кормім, браце, сваім хлебам нямецкага цмока?

Кяршыс ківае галавой. Ну, ну, вядома, але ж не селянін выбірае і не селянін скідае ўладу. Процi ветру не наплюеш, ага. Здаецца, сыпанеш збожжа курам, а дападуць і вераб'і, і вароны. Такая ўжо доля селяніна — усіх карміць.

— Нядаўна і я гэтак думаў, Хвеліксас. Страляюць недзе бязвінных людзей — мы тут ні пры чым, патронаў жа не падаём. Гоняць палонных па горадзе — скура і косці, зноў-такі ёсць чым апраўдацца: не мы трымаем стрэльбу, мы свайго палоннага садзім за стол разам з сабою. Але калі пазабівалі Нямунісаў, калі іхнюю дзяўчынку... як дзікія звяры, калі я зблізку пабачыў кроў... Не-е, Хвеліксас! Не трэба прыкідвацца, што мы не вінаватыя. Бо калі б мы ўсе разам змовіліся і не далі ні зернейка, ні кавалачка тлушчу, за некалькі дзён лопнула б іхняя сіла. Ты праўду кажаш, не селянін прызначае ўладу. Але селянін яе корміць. Селянін — вялікая сіла, не кажы, Хвеліксас. Селянін магутны, бо ўся зямля ў ягоных руках, а не ў руках улады. Іншая рэч, што ён баязлівы, сквапны і ў першую чаргу шукае сабе выгады. Адною рукою ён выцірае слёзы, бачачы, як рэжуць чалавека, а другою, браце, працягвае забойцу лусту хлеба. Вось дзе наша бяда, Хвеліксас.

Кяршыс маўчыць, трымаючы ў руцэ шклянку. Згаджаецца і не згаджаецца. Вядома, было б лепш, каб усе змовіліся. Але з другога боку... хіба ты, вясковы крот, перакуліш свет? Ужо які разумны Джугас, а не разумее звычайнай рэчы. Сквапны, сабе выгады... Камень, магчыма, і ў мой агарод, але які паважны гаспадар усё пусціць па вецер і пойдзе з торбамі, як Анзельмас Лукошус?

— Ат, няма чаго гаварыць пра гэта, суседзе. Ні я, ні ты гэтага не зробім. Усе хочуць жыць.

Мікалас Джугас журботна пазірае некуды паўз Кяршысава плячо, пагладжваючы двума пальцамі верхнюю

губу. Усё ніяк не можа прывыкнуць без вусоў. Чужое цела, і годзе.

— Таму людзі і гінуць, што хочуць жыць, Хвеліксас. Самі сабе зашмаргу зацягваем вакол шыі. Вось мы з табою — рукамі і зубамі трымаемся за сваю гаспадарку. Глыбей, шырэй, далей. І куды дапнём? Калі немцы тут застануцца, дык у Лаўксадзіс прыедзе не адзін Петар фон Дызэ. Зганяць, браце, нас са сваёй зямлі, паробяць параб-камі. Нямецкую паншчыну накінуць, і ў гэтым мы самі ім дапаможам.

Кяршыс устаў, не дапіўшы піва. Хіба селяніну выпадае весці такія размовы? Джугас, напэўна, устаў сягоння не з той нагі.

— Я не застануся ў даўгу, суседзе, не бойся.— Дзякуе за піва, надзяе шапку — і хутчэй за парог. Ён злосны і ўстурбаваны. От, паганая звычка ў людзей выплюхваць свае памыі, каб і пад чужое акно пацякло. Твая немач, ты і хварэй, чаму я павінен трызніць разам з табою? «Зганяць з зямлі... паншчыну накінуць...» Прарок знайшоўся. Як што будзе, ніхто не ведае. Судны дзень таксама калі-небудзь настане, але калі б усе адно толькі і рабілі, што чакалі яго, каркаючы, як вароны, на зямлі немаведама што будзе тварыцца.

...А-эх, гэты немец сапраўды лютуе, што тут казаць. Сапраўдны Антыхрыст, пра якога царыца Саўская казала мудрацу Саламону. Але з другога боку... не кожнага ён заглытвае ў сваю жалезную пашчу. Ва ўсе часы так было: адных, як сцябліны збажыны, сцінае каса, а другіх, што прытуліліся да зямлі, не чапае. Такая ўжо машына гэтае жыццё: не вытарквай галавы, калі не хочаш, каб яе адцялі...

...Тады, на хрэсьбінах, пад гарачую руку пакрыўдзіў Пятраса Кучкайліса. Напэўна, хацеў перад Аквіляй павыстаўляцца, не іначай, але калі цяпер падумаць на цвярозую галаву, дык усё гэта надарма. Столькі клопату сабе нарабіў, а магло б і горш скончыцца...

...Дабратою і ласкай заўсёды далей заедзеш...

...Усяму свету не дапаможаш, не. Над намі ўсімі адна рука, і не скажаш ёй: я хачу тут стаць, госпадзі, а там пастаў майго суседа. Альбо: мяне забі, адно толькі яго пакінь жывога...

...Як ні круціся, усё роўна пад немцам... А-эх, ніхто не бароніць, паветра не хапае, рукі звязаныя, але ўсё ж такі хвастом можна варушыць. Напрыклад, тое самае сала.

Да вайны ох як цяжка было прадаць дзяржаве свінню. Набралася сала за некалькі гадоў; усе сцены ў каморы былі абвешаны брусамі, і ў свірне пад бэлькаю цэлая шарэнга. Ажно страх браў — калі ўсё гэта з'ясі. Толькі два чалавекі ў хаце. Сала ялчэла, жаўцела. Сэрца разрывалася ад жалю: такое дабро — і на мыла! Але не спатрэбілася. Прыехалі Гітлеравы антыхрысты — і ўсё пайшло да апошняга апольца. Горад, гэты дзіравы мяшок, еў і аблізваўся, хоць у колішнія часы смяяўся з вясковага чалавека. Нават усялякія песенькі складалі, каб пацвяліцца:

Юргіс, Юргіс, ха-ха-ха,
цягне сала паўмяха.
І самому гэта мыла
уплятаць ужо няміла.

Зжэрлі. І з вялікай ахвотай. І яшчэ як ніколі заплацілі і не скрывіліся. Будзьце ласкавыя, пане Кяршыс, прывозьце паболей. Вось мы і квіты. Так ужо бывае ў жыцці: хто ўчора пляваўся, сёння сліну глытае, хто летась жаваў салому жытнёвую, у таго сёлета ў кармушцы сена духмянае, нібы рута. І разбярыся цяпер, як тут што...

Так крок за крокам, думка за думкай апаў з душы гнятлівы цяжар. Адшукаў у клуні лейцы, узяў нож, бо, мяркуючы па сонцы, набажэнства ўжо мусіла скончыцца і можна было брацца за працу. Настругаў у вербалозніку калкоў і пайшоў пазначаць месца на роў. Да Джугасавага канала будзе сажняў сто. З абодвух бакоў трэба будзе яшчэ пракапаць адводныя раўкі. І пацячэ вадзічка па Джугасавым канале ў Вайнарасаў, а адтуль у Струмлю. Ад балота і следу не застанецца. Штогод па якія дваццаць цэнтнераў збожжа будзе дадавацца ў засекі. Да вайны за такую работу грабарам трэба было б заплаціць літаў трыста. Паўгектара зямлі гэтулькі каштавала! А тут Іван выкапае так, за яду.

Калі скончыў работу, было ўжо далёка за паўдня. Сеў пад вербалозавы куст пакурыць — перабіць голад. Знарок не спяшаўся дамоў. Аквіля, напэўна, вярнулася з касцёла і, не дачакаўшыся яго, выправіцца шукаць. Ён пакажа ёй гэтыя два рады калкоў (там, дзе глеба дужа мокрая, яны абрываюцца: паўтыкае, калі падсохне) і скажа: «Бачыш, што я прыдумаў, шаноўная паненка!» Вядома, яна не кінецца яму на шыю, каб пацалаваць яго, не такі ў яе нораў, але што здзівіцца — гэта пэўна. А можа, і ўзрадуецца. Ну, ну, відавочна ўзрадуецца, хоць і выгляду не падасць, бо яна з тых, што трымаюць свае пачуцці ў сабе.

Цыгарка патухла, аднак ён паленаваўся запальваць нанава. Мускулы ацяжэлі, агарнула дрымота; галава схілілася набок, пацягнуўшы за сабою ўсё цела, і яно, абмякнуўшы, прытулілася да куста вербалозу, густа пераплеценага галінамі. Калі абудзіўся, сонца хілілася ўжо на захад. Ён ускочыў спалоханы, сам не разумеючы, дзе ён. У вушах усё яшчэ гучалі дзіўныя гукі трубы, а ўваччу яшчэ не пабляк вобраз, з якім ён абудзіўся: Міхаіл Архангел брыдзе па пшанічным полі, дзьмучы ў велізарную трубу. Па спіне прабеглі дрыжыкі. І ад тых вусцішных гукаў трубы, і ад сонца, што ўжо завяршала свой дзённы шлях. Усё было як звычайна ў гэтакую пару дня: і зморанае шчабятанне птушак, і палі, што дыхалі цёплай дрымотай, і пашарэлае, набраклае лянотай неба; усё было, як заўсёды, і ўсё-такі нешта было не так. Кяршыс усё азіраўся вакол сябе, занепакоены, здзіўлены, нібы марак, пакінуты на чужым беразе. Нечага не хапае, неміnуча нечага павінна не хапаць. Можа, ужо няма вёскі, а можа, яго сядзібы. Нешта на самой справе знікла ў той час, пакуль ён спаў, толькі ён пакуль што не мог зразумець што.

І тады, нібы ў адказ на яго трывожнае здзіўленне, зноў пачуўся гук трубы.

Палявой дарожкай паволі, нібы баючыся наехаць на міны, пасоўваўся зялёны ваенны аўтамабіль.

У Кяршыса сэрца абарвалася. І ўжо зусім перахапіла дыханне, калі ён убачыў, што машына спынілася і з яе выйшаў чалавек у мундзіры. Ён чуў, што той нешта крычыць і нецярпліва махае рукою, але не мог прыспешыць хаду. «Адомас... Госпадзі божа, Адомас... Чаго ён хоча? Навошта ён тут? Госпадзі божа, Адомас...»

— Чорт вазьмі! — замест прывітання крыкнуў той Кяршысу яшчэ здалёк.— Усе палі ўшыркі і ўдоўжкі аб'ездзіў. Дзе ты запраторыўся? Хутчэй сядай! Паедзем.

Кяршыс ледзь адарваў ад зямлі адну, потым другую нагу. Калі б зямля была бляшаная, нібы дах, ён бы пачуў, як стукаюць аб яе кроплі поту.

— А... швагер...— выдушыў ён з сябе не сваім голасам.— Адомас. Здароў...

— Ён самы. Пазнаў-такі,— ашчэрыўся Адомас. Ён быў бледны, ад яго панурага позірку, які нешта хаваў, рабілася холадна.— Едзем у Краштупены.

— Я? Мне? Божа святы, што мне там трэба?

— З Аквіляй бяда.— Адомас адчыніў дзверцы ў ма-

шыне і падштурхнуў Кяршыса, каб ён хутчэй лез у сярэдзіну.— Забярэш свайго ардэна дамоў.

«А-эх, пакатаюся па-панску! Ніколі яшчэ не даводзілася на такой...» — іншым разам заганарыўся б Кяршыс. Але цяпер ён сядзеў, як злоўлены звер у клетцы, і чорнымі ад зямлі пазногцямі шчыпаў сябе за нагу. А можа, ён яшчэ ляжыць у кусце вербалозу і ўсё гэта яму сніцца? Уваччу стракацела. Палі, што пралятали наўзбоч, і дарога, якая шалёна падкідвала машыну, зліліся ў суцэльнае мільгаценне, ад якога кружылася ў галаве і нудзіла. «З Аквіляй... Што з Аквіляй? А-эх, скажы на літасць, што з Аквіляй?» Але ён баяўся растуліць губы, нібыта яшчэ нічога страшнага не здарылася, але здарыцца, калі ён вымавіць гэтыя словы. Празрыста-белыя вушы ў Адомаса і трупны колер твару выклікалі ў ім жах. Здавалася, ужо цэлую вечнасць яны ляцяць кудысьці ў шалёнай жалезнай труне.

Раптам Адомасавы губы выбухнулі. Плявок. Проста на пярэднюю шыбку машыны.

— Быдла! — наўздагон пляўку паляцеў моцны праклён. Вушы цяпер сталі барвовыя, а твар жудасна перакрывіўся ад лютасці.— Мала ім таго, што ловяць людзей па дамах, лезуць ужо і ў касцёл.

— У касцёл?..— прашаптаў Кяршыс.

— А куды ж яшчэ! — грымнуў Адомас.— Нашы добрыя немцы, нашы вызваліцелі, нашы абаронцы.— Выпусціў чаргу лаянкі, зноў плюнуў на шкло, пабялелымі пальцамі так сціснуў руль, што, здавалася, зломіць яго, быццам перасохлы абаранак.— Пасля Сталінграда зусім пашалелі. Нібыта гэта мы вінаватыя, што рускія раскалашмацілі Паўлюсаву армію. Нашу моладзь ім падавай, хацелі б разам са сваёй пакласці за вялікую Германію. А за што, скажы, мусім класці свае галовы? За тое, што нашых людзей, інтэлігенцыю, цвет нацыі, ссылаюць у працоўныя лагеры? Не здзіўлюся, калі ў адзін дзень апынецца там і сам генерал Кубілюнас, бо двое ягоных дарадцаў ужо сядзяць за калючым дротам. Ашукалі праклятыя злыдні, горш не трэба. Якога д'ябла маўчыш?! Ці на іншай планеце жывеш?

— Аквіля...— нарэшце адважыўся Кяршыс.— Выправіў раніцай... Была цэлая і здаровая...

Адомас з забойчаю пагардай зірнуў на шваґра.

— Была? Самае бязглуздае слова, якое толькі можна прыдумаць. Была нацыя, была незалежнасць. Ды што я

табе... Такім, як ты, гэта менш за ўсё рупіць.— І, памаўчаўшы, ужо спакайнейшым голасам дадаў: — Калі людзі ўбачылі, што Гімлерава зграя ачапіла касцёл, рынуліся назад. Аквілю затаптаў натоўп. Толькі не палохайся — не насмерць.

Кяршыс захроп, як недарэзаны бык. Усе пачуцці — роспач, трывога, страх, што назбіраваліся ў ім з той самай хвіліны, калі Адомас упхнуў яго ў машыну, цяпер прарваліся з неймавернай моцай. Ён не мог плакаць, ён нагогул не памятае, калі плакаў, хіба што пасля смерці маці выціснуў некалькі слязінак. Нябачная рука ўчапілася знутры яму ў глотку, выдзіраючы яе вонкі разам з лёгкімі, цела сутаргава курчылася, нібы ў падучцы.

— Не будзь цялём,— бязлітасна сказаў Адомас.— Можа, яшчэ нічога не зрабілася... А калі, аднак, усё-такі... Маладыя яшчэ, будзе другое, і не адно. Але ці трэба гэта, чорт яго ведае? Лепш гадаваць быдла — чалавек у наш час нічога не варты.

Уляцелі ў горад. Будынкі і людзі цягнуліся наўзбоч, як бясконцае пахавальнае шэсце. Былі відаць і ўсмешлівыя твары, але Кяршысу яны здаваліся несапраўднымі — толькі вар'ят у гэтакі час мог смяяцца. Потым скрыжаванне, востры паварот вуліцы, нібы локаць рукі, што ўперлася ў бок. Фурманкі, ровары, вайсковы грузавік, напакаваны салдатамі з паразяўлянымі ратамі — яны спявалі песню; халодныя металёвыя вочы, гэтакія ж, як і гузікі на іхніх шынялях, жудлівыя выбухі спеву. Праляцелі. Адомас раптам крутануў руль, і праз прахон у жываплоце паміж двума белымі слупкамі машына ўехала ў двор. З абодвух бакоў — сад, насупраць — жоўты аднапавярховы драўляны дом з прасторнай шкляною верандаю. Бачыў яго не адзін раз, але цяпер ён здаваўся незнаёмым, перанесеным сюды з нейкага іншага свету.

— Прыехалі,— сказаў Адомас.

На верандзе стаяла маленькая белавалосая жанчына. Светлая, празрыстая і лёгкая, як усё тут наўкола.

— Мая жонка Мілда,— буркнуў Адомас.— Будзьце знаёмыя. Наш дарагі швагер, Мілдзяля.

— Вельмі прыемна,— усміхнулася бялявая маленькая жанчынка і падала Кяршысу мініяцюрную далоньку.

— Добры дзень...— Кяршыс машынальна пацiснуў ёй руку — далікатны цёплы лісток. Яна была амаль бязважкая, гэтая бледная далонька, нерэальная, як і ўсё, што ён перажыў за апошнюю гадзіну.

— Робертас яшчэ тут? — запытаўся Адомас.

— Вядома.— Яна лёгка, нібы подых цёплага ветру, дакранулася да Кяршысавага локця.— Не тужыце, пане Кяршыс. Бывае большае няшчасце. Пан Гінкус ужо нічым не мог дапамагчы.

— Нічым?..— застагнаў Кяршыс.

— Абсалютна нічым.— Яна з дакорам, але разам з тым з ласкавай спагадай паглядзела на Кяршыса.— Дзіця загінула ў таўханіне. Калі вы набожны, падзякуйце богу, што маці засталася жывая.

— Дзіця загінула... Дзіця загінула... Загінула...

— Супакойцеся, пане Кяршыс. Хто не нарадзіўся, таго не трэба аплакваць. Людзі дастаткова плачуць па дарослых, якія яшчэ маглі б жыць і жыць.— Маленькая жанчына павярнулася да Адомаса і з націскам, на гэты раз толькі яму, паўтарыла: — Пэўна, якія маглі б яшчэ жыць. Вы ж кахаеце Аквілю? А гэта самае галоўнае. Доктар Гінкус яе хутка паставіць на ногі, вы не бойцеся. Думаю, вы ёй дазволіце некалькі дзён пагасцяваць у нас, пакуль яна не набярэцца моцы?

— Дзе яна? — пачуў Кяршыс свой голас.

Адомас нецярпліва не то крэкнуў, не то засмяяўся.

Дзверы ціха адчыніліся. За імі другія і трэція. Таямніча белыя, бліскучыя. Падлога таксама блішчала, пахла тэрпенцінам. У пакоі каля акна стаяў пажылы хударлявы чалавек у белым халаце. Па-над маленькімі, глыбока пасаджанымі вачамі купкі калматых броваў, на бледным твары — дзве ружовыя палоскі — моцна сцятыя губы.

— Вось і мы, Робертас,— нягучна сказаў Адомас.

Мужчына кіўнуў і ўсміхнуўся Кяршысу, падбадзёрваючы таго.

— Яна толькі заснула,— сказаў ён мякка, у нос.— Але заходзьце.

Яшчэ адны белыя дзверы адсунуліся ўбок, нібы прывід. Дыхнула вострым пахам лекаў. Ад сцяны аддзялілася пасцель, стала набліжацца, хвалюючыся, быццам поле квітучага кмену, і ў гэтай мігатлівай белі Кяршыс раптам убачыў чорныя пляцёнкі кос. Яны ляжалі на падушцы, нібы адсечаныя галіны на снезе. Аслупянелы, глядзеў ён на зблажэлы твар — чужы, з вытыркнутым носам, запалымі вачамі, якія, нібы пазелянелыя медзякі, прыкрывалі халодныя нерухомыя павекі. Ніколі яшчэ ён не бачыў яе такую празрыста чыстую і страшліва недасягальную. Ніколі. І раптам ён убачыў свае ногі. Не, ён нават не пагля-

дзеў на іх — ён іх адчуў. Ён адчуў свае босыя, запэцканыя зямлёю ногі, якія, як недарэкі, стаялі на слізкім пахкім паркеце. Адчуў на сваім целе вопратку, пранятую пахам хлява і поту. Адчуў далікатны дотык бялявай жанчынкі. Такі чысты і звонкі, як крамяныя зімовыя вечары, як празрыстая, сарамліва заружавелая зара світанку.

Калені ў яго задрыжалі, пачалі падгінацца, і, раздушаны невыносным пачуццём сваёй нікчэмнасці, ён упаў на калені і ўторкнуўся тварам у пасцель.

— А-эх... эх... эх...

I павеяў ветрык
ды з поўначы зімняй.
Зашумела лісце клёна,
міленечкі абудзіўся.

*Літоўская народная песня*

# Кніга другая

## *Раздзел першы*

### I

Складаю Табе гімн — сустрэнеш волю,
як я сустрэў пакінутую хату.
Дзяцей не прадавала ты ніколі —
табой жа гандлявалі так заўзята

з таго самага дня, як аб'явіўся чалавек, несучы пагарду да ўсіх і ўсяго, ненавідзячы кожнага, хто не ідзе пад ягоным сцягам. Хто не носіць абутку ягонага памеру, хто не надзяе гэтакай самай шапкі, хто не вызнае ягонай веры.

Усе мы маем галовы, усе двухногія, усе ходзім вертыкальна, але мая галава разумнейшая і хада шпарчэйшая,— накрэсліў на сваім сцязе гэты чалавек.

І, нібы дзіду, усадзіў дрэўка сцяга ў твае, Зямля, лагодныя, мяккія грудзі, у грудзі маці-карміцелькі, бясконца шчодрай і адкрытай усім, як паветра.

«Тут мая зямля»,— сказаў ён і абвёў вакол сябе круг. Вялізны круг. І штораз усё большы і большы круг абводзіў ён наўкола сябе. І не было гэтаму канца, як і яго хцівасці.

Ты магла здрыгануцца ад гневу і ледзь заўважным рухам раздушыць яго, нікчэмнага раба сваёй прагавітасці. Бо гэта не ты прыйшла да яго прасіць заступніцтва, а ён, быццам клешч, упіўся ў Тваё цела.

«Гэта мой чалавек»,— магла б сказаць Ты, як кажа дзіця: «Гэта маё кацяня», аднак Ты цярпліва маўчала, бо Ты — маці, мудрая і высакародная, а ён толькі неразумнае дзіця.

«Яму трэба цацка,— сказала Ты.— Добра, пабуду яму цацкай. Няхай дзеліць мяне на кругі і квадраты і гуляе ў «класы», нібы маленькая дзяўчынка».

І ён гуляе, мноства вякоў гуляе ў «класы», штурхаючы нагою не белы каменьчык, а чалавечы чэрап. Чэрап свайго брата, які не носіць абутку ягонага памеру, не надзяе гэтакай самай шапкі, не вызнае гэтакай самай веры. Ён поіць Цябе крывёю пераможаных, упіхае ў Твае святыя

вусны іх трупы, кляне і зневажае Цябе, калі часам спатыкнецца аб купіну.

Ці многа на свеце мацярок, якія даравалі б дзецям такое? Якія б кінуліся іх цалаваць, не зважаючы на тое, што яны лупцуюць яе па твары, плююць у вочы, стараюцца ўбіць нож у плечы?

Ці многа такіх мацярок, скажыце?

Толькі адну такую ведаю, толькі адну.

Выпіла мора крыві, але засталася нявінная, прыняла ганьбу, але не страціла чысціні.

Толькі адну такую ведаю, толькі адну.

І я гавару ёй, як перад найсвятым божышчам, падаючы перад ёю на калені:

Я чую: набліжаецца ўжо воля —
Ты растуліла крылы дзіўных шатаў,
каб я ад буры змог у іх схавацца,
нібы ў дупле старога дрэва птушка;
і да грудзей Ты сына прытуліла,
а ён же атуляў сябе кругамі,
хоць ты і непадзельная Айчына
усіх людзей...

Гедымінас усміхаецца, абапёршыся на касу. Жоўтае пшанічнае поле ляжыць залітае сонечнымі промнямі. Дрымотнае, ацяжэлае ад выспелага ўраджаю. Залатая арфа з мільёнамі струн, якія нябачнымі пальцамі кратае ранішні ветрык. Жоўтае пшанічнае поле іграе сімфонію. На схіле лета сімфонію зямлі, што споўніла свой абавязак.

Гедымінас выцягнуў з-за дзягі брусок. Марудзіць чапаць касу: баіцца, каб не знікла чароўная казка.

Няхай жоўтае пшанічнае поле і далей іграе сваю сімфонію. Ён запіша яе ў душы, як на патэфонную пласцінку. Там гэтак многа пустога месца! Вечарам (а можа, у абед) ён сядзе дзе-небудзь ва ўтульным кутку і паспрабуе паўтарыць яе на паперы. Несумненна, гэта будуць марныя спробы (прыроду немагчыма паўтарыць), аднак ён яшчэ раз перажыве шчаслівую хвіліну забыцця.

Маруся сядзіць на снапе, выцягнуўшы ногі ў палатняных панчохах. («Маміны альбо Анэліны панчохі. Яны ўжо ніколі не пачуюць сімфоніі жоўтага пшанічнага поля...») Марусін позірк блукае па хвалях шумлівага калосся. Загарэлы да чарнаты твар пануры і задуменны.

...Ты растуліла крылы дзіўных шатаў,
каб я ад буры змог у іх схавацца...

— Дзівосна,— кажа ён.

Яна запытальна ўздымае галаву. Бліснулі асляпляль-

на белыя зубы. Усмех кароткі і раптоўны, быццам успышка магнію; калі магній згасне, уваччу робіцца яшчэ цямней.

— Ці чуеш, Маруся, як зямля спявае? — зноў кажа ён.— Здаецца, я не бачыў нічога прыгажэйшага за гэтыя палі.

Яна абдымае калені і моўчкі разглядвае свой падол. Вакол шчыльна сціснутых вуснаў утвараюцца маршчынкі і робяць яе твар суровым і чужым.

— Ты не бачыў нашага стэпу.— У голасе туга, і горкая крыўда, і пагарда, змешаная з пакорай, і гонар. Усе пачуцці чалавека, што страціў радзіму, спляліся ў адзіны клубок.— Стэп як неба — без канца і краю. Не акінеш вокам. А тут усё, здаецца, можна ў бярэмца ўзяць.

— Зямля ўсюды прыгожая, Маруся. Толькі яна, як прыстойная жанчына, не любіць, каб людзі дзялілі яе цела.

— Ну уж і сказал...

Гедымінас засмяяўся, узяўся вастрыць касу. Спеўны звон металу паплыў па палях, уліваючыся ў шматгалосы жнівеньскі аркестр.

Калі бацька прыязджае з касілкай (купілі яе ў трыццаць восьмым годзе ўчатырох: Джугас, Кяршыс і яшчэ два такія самыя гаспадары), пшанічнае поле было ўжо абкошанае з усіх бакоў.

— Стаміўся? — турбуецца бацька.— Можа, сядзеш на машыну? Я пайду снапы вязаць.

— Здаецца, я на трыццаць гадоў маладзейшы за цябе, бацька,— усміхаецца Гедымінас.

— Да пачатку школьнага года яшчэ цэлы месяц. Напрацуешся.

— Чаму да пачатку школьнага года? Я ж табе сказаў, што ў гімназію не вярнуся.

Мікалас Джугас дакорліва ківае галавой і адыходзіць. Ён яшчэ верыць: неразумная сынава ўпартасць пройдзе.

Гедымінас з Марусяй займаюць паласу ўздоўж поля. З другога боку, насупраць — Кяршыс са сваім Іванам. У канцы поля, дзе пракосы амаль удвая карацейшыя, па адным чалавеку: у адным канцы — Васіль, у другім — Пуплясеня. Ахвотней бы запрасілі Путрыменю, жонку Чорнага Куксы,— яе заўсёды запрашалі на жніво,— аднак у тую маёвую нядзелю, калі эсэсаўцы ўчынілі паляванне на людзей, яе злавілі (з Лаўксадзіса ўзялі яшчэ Анзельмаса Лукошуса) і вывезлі на працу ў Германію.

Калі б не пайшлі абедаць дамоў, хоць сядзіба і недалёка, да сярэдзіны дня скасілі б усё поле; заставалася б толькі саставіць снапы ў бабкі. Але дзень выдаўся дужа спякотны. Абкладзеныя мухамі і слепакамі, коні турзаюцца, вырываюцца з вупражы, стары Джугас ледзьве ўпраўляецца з імі. Людзі абліваюцца потам; ён цячэ ў вочы, пячэ пад пахамі, смаліць паясніцу, буйнымі салёнымі кроплямі капае з ілба на пожню. Духата. Паветра насычана пахам пылу і збажыны. Твары, як геаграфічныя карты, размаляваны бруднымі струменьчыкамі поту, усе аднолькавыя, нават сталі падобныя — ачмурэлыя ад лютага сквару, зацягнутыя плеўкай, праз якую прасвечваюцца туманлівыя плямы бялкоў. Пшаніца ўдалая, адно толькі ў лагчынках трапляецца асот. Салома таксама бязлітасна драпае не захінутае вопраткай цела. Шчокі, грудзі, рукі смыляць, нібы ашпараныя варам. Добра было б пакупацца ў возеры, але ўсе так стаміліся, што кожны крок дарагі. Памыліся да пояса тут жа, каля студні, і, перакусіўшы, пакладаліся перадыхнуць, пакуль коні ядуць свой корм.

Гедымінас вынес з хаты падушку і расцягнуўся пад яблыняй. Жаўцеюць між ствaламі дрэў вуллі, а яму мірсяцца бабкі пшаніцы, у вушах усё яшчэ шархацяць снапы і нястомна стракоча, прымушаючы спяшацца, касілка. Ён стаміўся, страшэнна стаміўся. У час канікулаў заўсёды ж працаваў на гаспадарцы, але не гэтулькі, з дня ў дзень ад самага світанку да самага вечара, нібыта парабак. Цела як збітае, ные спіна — не злічыць, колькі разоў трэба было нахіліцца! Катаржная праца — вязанне снапоў. Аднак і гной выкідаць не лягчэй. Далоні спрэс укрыліся пухірамі, крывавілі, пакуль не зацягнуліся цвёрдымі мазалямі. Цяжкі хлеб земляроба, аднак можаш яго есці са спакойным сумленнем, не саромеючыся, не баючыся падавіцца асцюком. А як добра вечарам, калі кладзешся адпачыць пасля ўсяго клопату. Ён, вядома, ніколі не скончыцца, гэты клопат. Усё роўна нешта застанецца на заўтра, на восень, на наступныя гады. Так і не пераробіш усяго, пакуль ногі цягаеш. Возьмуцца дзеці. І таксама пакінуць сваім дзецям, так і не скончыўшы ўсяе работы. Але кожны дзень хлебароба нібы новая прыступка ў драбіне, што вядзе ўгору,— стаўшы на яе, можаш агледзець адлегласць паміж узыходам сонца і заходам. Не толькі агледзець, а і памацаць рукамі плён працы. Узараў баразну — вось яна, перад табою, узышло насенне — у яго далікат-

ных парастках цяпло тваіх далоняў. Калі наблізіцца восень — ходзіш вакол поля, удыхаючы ў грудзі духмяны пах хлеба, без якога свет ператварыўся б у магілкі. І ніколі не зробіш памылкі, якую нельга было б выправіць, а калі і памылішся, дык гэта адаб'ецца не на кім-небудзь іншым, а толькі на табе самім. Праваронііш найлепшую пару для сяўбы ці згніе ўраджай пад дажджом — твая бяда. Злосны чалавек, можа, і парадуецца з гэтага, аднак ніхто, апроч цябе самога, не будзе пакрыўджаны. Ты адказваеш перад сабой, толькі перад сабой. І гэтым ты малы. Аднак без тваіх чорных заскарузлых рук зямля была б нежывым шарам. І гэтым ты вялікі. На табе, як на шэрым падмурку, трымаецца ўвесь дом, але не ты будзеш вінаваты, калі па якой прычыне гэты дом рухне. Ты не вінаваты!

Падышоў бацька, пад пахай трымае падушку. У палатняных штанах і ў такой самай палатнянай сарочцы. Белы з галавы да ног, пахне пчалінымі сотамі і палямі.

— Дай жа і я тут прылягу, сыне.

— Кладзіся, тата, кладзіся, тут не так горача, трохі ветрык вее.

Абодва ляжаць, пазіраючы на галіны, аблепленыя румянымі яблыкамі. Яблыню пасадзіў бацька. Усё тут зроблена бацькам, гэтай руплівай мурашкай, якая па саломінцы збудавала сямейны мурашнік.

— Гэтая яблыня штогод родзіць. Яблыкі жалязоўкамі называюць. Ляжаць да вясны. Змарыўся? Заўтра, мабыць, не пойдзеш да Кяршысаў снапы вязаць? — Стары хітравата пасміхаецца.

— Чаму ж? Раз перабраўся на зямлю, дык і працаваць трэба.

— Я вось сам сабе думаю: калі ў гаспадарцы з'явіўся такі працаўнік, то, можа, нам варта адпусціць Васіля? Што тут рабіць чатыром работнікам?

— Пра Васіля ўжо не турбуйся — не сёння дык заўтра яго забярэ Дызэ. Учора Кучкайліс казаў, выйшла пастанова, каб у гаспадарцы было не болей як два чалавекі на дзесяць гектараў зямлі.

— Ну, глядзі. А то, можа здарыцца, агоркне табе наш хлеб, і застануся я наогул без работнікаў,— пацвельваецца стары.

— Я цвёрда вырашыў, тата. Ужо і адказ атрымаў. Забыўся пра гэта сказаць. Учора даслалі. Задаволілі прашэнне — я звольнены.

Мікалас Джугас разгублены. Нарэшце пасля доўгага маўчання кажа:

— Гм... Можа, і добра зрабіў. У такі час, гаворкі няма, спакайней у вёсцы. Што ж, перачакай, пакуль вайна скончыцца.

— Не, тата, я не часова. З настаўніцтвам скончана. Назаўсёды. Буду працаваць на зямлі і ў вольны час пісаць вершы.

Мікалас Джугас ляжыць тварам угору. Вочы заплюшчыў, рукі склаў на грудзях. Як чалавек, што скончыў свой жыццёвы шлях у гэтай даліне слёз,— ён пакінуў яе з лёгкім сэрцам, бо споўніў усё, што выпала на яго долю.

— Ну што ж, відаць, так наканавана. Мы — людзі зямлі.— Голас яго, спакойны і сумны, наплывае аднекуль з глыбіні вякоў, дзе час адсеяў усё марнае, пакінуўшы на сваім сіце толькі залатыя крупінкі неўміручай мудрасці.— Дзед быў прыгонны. Працаваў на пана, але ўсё роўна на гэтай самай зямлі. Потым фальварак падзялілі, мой бацька атрымаў паўвалокі. Прысмактаўся да гэтай дзялянкі, нібы п'яўка да нагі. Я бацькі не памятаю — яго застрэлілі царскія жандары, калі пераносіў цераз мяжу літоўскія кніжкі з Прусіі,— я ўжо нарадзіўся пасля яго смерці, але маці часта казала, што ён быў добры гаспадар. А добры гаспадар не можа не любіць зямлі. Нас было тры браты і дзве сястры. Старэйшыя падзялілі тую паўвалоку напалам, астатнім выплацілі іхнюю частку. Я падумаў: маю чатыры дзесяціны зямлі (іх твая маці атрымала ў пасаг), дакуплю яшчэ столькі — будзе гаспадарка. Пачаў, як скнара, складаць рубель да рубля, далучаць да тых, што атрымаў ад братоў. Працавалі мы з жонкай, быццам катаржнікі. Недаядалі, недасыпалі, абшарпаліся — усё ў гаспадары выбіваліся. Сорам прызнацца: пачаў я зайздросціць свайму найлепшаму сябру — Вайнарасу. Бач, як яно атрымліваецца, думаю. Падлеткамі ў маёнтку разам лапці таптталі, а цяпер ён гаспадаром стаў, ды яшчэ якім — Яўтакоўшчыну атрымаў. І выпадзе ж, браце, такі шчаслівы білет! І толькі пасля таго, як аднаго разу, ледзь не плачучы, ён мне паскардзіўся, што трапіў пад абцас Катры Табакі, у мяне адлегла на сэрцы. Паспачуваў я яму. Ну, а грошыкі ўсё роўна цісну ў далей, як чорт ваду з каменя. І тут раптам трах — вайна! Прыйшлі немцы, рублямі хоць падатрыся, а я як быў, так і застаўся на сваіх няшчасных чатырох гектарах. А тут яшчэ калатнеча за калатнечай — то войска Берманта, то бальшавікі, а потым і літоўскае

войска аб'явілася. Пачаліся заклікі бараніць свой край, ствараць незалежную Літву. Па праўдзе кажучы, не ляжала ў мяне сэрца да маскалёў — бацьку, вечны яму супакой, застрэлілі, людзей у Сібір высылалі. Дый самога мяне маці вучыла літоўскай грамаце тайком, нібы рабіла якое злачынства. Усе мы царскай уладай былі сытыя па горла. Хацелі мець сваю, літоўскую, дзяржаву, гэта і дзіцяці было зразумела. Але хто ведае, ці падаўся б я ў добраахвотнікі, калі б не абяцалі даць зямлі. Ваяваў за Літву, а думаў пра свой палетак, які атрымаю, калі вярнуся. Пад Гедрайчамі ўзяў у палон афіцэра са штаба Жалігоўскага. Прычапілі мне крыж Пагоні. А я дзяўбу — хутчэй дамоў і давай мне зямлі! Не ашукалі. Адкроілі дзесяць гектараў ад фальварка. Узараў я мяжу, злучыў два пляцы ў адзін — і маю чатырнаццаць. Гаспадар. Цяпер зажыву, скончыліся гаротныя дні. А на самой справе ўся гарота была яшчэ наперадзе. Пачаў ставіць хату. Залез у даўгі. Потым — неўрадлівы год. Новыя даўгі. Мае ночы былі кароткія — не было калі спаць,— аднак і гэтыя часам не змружваў вачэй: клопат на клопаце, бяда на бядзе. Эх, Гедымінас, зямля добрая, калі глядзіш на яе збоку. А як прытулішся да яе, як уцягне яна цябе ў свае абдымкі — беражыся! Праз яе, як праз каханую дзяўчыну, можаш чалавека забіць.

Гедымінас, абапёршыся на локаць, з пашанай глядзіць на стомлены бацькаў твар. Так хацелася б прытуліцца шчакой да яго шчакі, пагладзіць парадзелыя сівыя валасы...

— Ты — святы пакутнік, тата,— узрушана кажа ён.

— Кожны селянін, калі ён любіць зямлю,— пакутнік. Пакутнік, дый пракляты навек.

— Гэта таму, што мы ніколі не задавальняемся тым, што маем. Зямля карае чалавека за сквапнасць.

Мікалас Джугас круціць галавою.

— Не, зямля чамусьці любіць тых, хто яе не любіць,— заможных гаспадароў, паноў. Яна шчодрая да такіх, хоць лашчаць яны яе чужымі рукамі. Сквапнасць, кажаш... Але якая тут сквапнасць, калі на маленечкім кавалку зямлі ледзь павярнуцца можна? Дый не пра аднаго сябе галава баліць: дбаеш пра заўтрашні дзень сваіх дзяцей. Хочаш усіх як мага трывалей паставіць на ногі, каб не гібелі ў горы, як ты гібееў. Так і калоцішся ўвесь свой век, хапаеш абярэмкамі, а ловіш шчопцямі. Не, Гедымінас, не будзеш ты мець шчасця на гаспадарцы.

— Не ведаю. Я наогул, тата, не ведаю, ці ёсць яно, шчасце, бо пакуль што не знаўся з ім. Чалавек не можа быць пастаянна шчаслівым альбо няшчасным. Шчасце — гэта асобныя імгненні, драбкі цукру, што не расталі ў шклянцы гарбаты. Такія драбкі трапляюцца кожнаму, дзе б ён ні жыў і што б ён ні рабіў. У селяніна сумленная праца. А гэта галоўнае. Селянін можа, не ўгледзеўшы, заараць птушынае гняздо, парэзаць касой зайчаня, аднак яму не даводзіцца рэзаць людзей.

Мікалас Джугас падымаецца з падушкі. Вочы затуманіліся, нібыта ён толькі што ацёр слёзы.

— Не даводзіцца рэзаць людзей...— глуха паўтарыў ён.— Ты кажаш так, бо не ведаеш зямлі, Гедымінас, не ведаеш яе, мой сыне. Я ж табе сказаў: калі трэба, чалавек можа праз яе роднага брата забіць. Павер мне, я гэта спазнаў на сваёй скуры, бо нешта такое ўчыніў і сам.

Гедымінас адхіснуўся ад бацькі, глядзіць на яго, як на вар'ята.

— Ачомайся, тата. Што ты кажаш...— спалохана шэпча ён.

— Ведаю, сыне, што кажу. На памяць, як пацеры. Ксяндзу спавядаўся, адпушчэнне атрымаў, а грэх і дагэтуль пячэ ў душы.— Мікалас Джугас спяшаецца. Баіцца, што ў апошнюю хвіліну не хопіць адвагі, як гэта здаралася і раней, адкрыць сыну балючую праўду.— Добра ўгледзься ў гэтую яблыню, мой сыне. Памятаеш? Я пасадзіў яе той першай вясною па неўрадлівым годзе. На памяць пра Ка... Казюкаса...

— Памятаю, тата. І той чорны год памятаю. Як сёння. Мне тады ішоў пятнаццаты.

— Трэба памятаць, моцна трэба памятаць той год, сыне.

Затаіўшы дыханне, Гедымінас глядзіць на бацькаву руку: вось яна ўздымаецца, цягнецца да яго пляча, замірае і, некалькі імгненняў павісеўшы ў паветры, бездапаможна апускаецца ўніз.

— Былі страшныя часы, Гедміс, страшныя часы... Я не апраўдваюся, але калі ты ўсё добра памятаеш... Не збіраюся апраўдвацца,— бог мне суддзя. Хачу толькі, каб ты мяне зразумеў...

## II

— Я разумею, тата, вельмі добра разумею цябе. Я ж не малы, мне ўжо чатырнаццаць гадоў,— сказаў я табе тады.— Дзякуй і за тое, што вы зрабілі дзеля мяне.

— Хацеў табе адукацыю даць і даў бы, каб не гэты град, не гэты дождж. Я хацеў, Гедміс, каб ты вучыўся далей, павер мне, гасподзь бог не дасць схлусіць...

— Веру, татка, ведаю, што стараецеся з апошніх сіл. Не марнуйцеся, мне хопіць і гэтай адукацыі. З трыма класамі гімназіі можна займець сякую-такую пасаду. Буду працаваць і самастойна вучыцца далей.

— Другі пусты год запар...— бедаваў ты.— Быў бы Казюкас здаровы альбо Анэля ў ягоных гадах... Гасподзь карае і не ведаеш, за што.

Я стаяў пасярод поля і глядзеў, як ты ідзеш беражком рова, ведучы за абротку каня з выгану. Ногі каня па цыркі гразлі ў размоклай зямлі. Зямля нібы страляла пад яго капытамі, і кожны след адразу напаўняўся мутнай вадой. Камяністая глiністая зямля, якую звычайна адводзілі пад канюшыну; гэтакаю ж парою ў ранейшыя гады тут і кала не ўваб'еш. Самае высокае месца на нашым пляцы, якое мы, дзеці, называлі «гарой»! Цяпер гэтая «гара» раскісла, як сухар у гарбаце, ва ўпадзінах блішчалі лужыны,— здавалася, нехта раскідаў па канюшынішчы бліскучыя шыбіны шкла. Уначы (а мо неўзабаве — апоўдні) зноў ліне дождж, бо краем неба сунуліся цяжкія, набрынялыя вадою хмары, але пакуль што з распагоджанага блакіту прыпякала жнівеньскае сонца, і ад гэтай здрадлівай ласкі рабілася страшна. Людзі і быдла, параскіданыя па палях, былі нейкія не сапраўдныя, як і гэтая кароткачасовая пагодлівая часіна. Амаль не чулася птушынага спеву, не перагукваліся галасы, не ляскалі бізуны, людзі забыліся на песні. Не выбліскваді на сонцы лемяшы плугоў, бо араць не было чаго. Шэрыя постаці з косамі сланяліся па грудах, убіраючы жыта, што нявепска тут урадзіла, але звон кляпаных кос не зліваўся ў вясёлую музыку, як было гэта ў ранейшыя гады. Ён быў падобны да нясмелага шоргату ног у сенцах, да абачлівага стукату ў дзверы выпадковага госця. Ён нібыта адчуваў сябе вінаватым, гэты звон кляпаных кос, за лагчыны, што моклі ў вадзе, за змарнаваную збажыну, што прэла ў гэтых лагчынах, не паспеўшы нават завязаць каласоў. На самых высокіх месцах поля бялелі, як прывіды, бабкі азіміны — калматыя, паўраста-

лыя ў нашурпленае ржышча. Вароны і вераб'і валтузіліся ў расклізлых каласах снапоў; жыццё, якое толькі што зарадзілася, пахла ўжо тленам смерці.

Не, тата, я ніколі ў жыцці не забуду таго благога года. Ён не быў бы такі страшны, каб не леташняя бяда. Каб не тая крывёю набраклая чорная хмара, якая пранеслася над вёскаю і палямі, пакідаючы за сабою павыварочваныя дрэвы, садраныя стрэхі, павыбіваныя вокны і нейкі дзіўны, востры пах цыбулі. Але неўзабаве пачулі мы і іншы пах — пахла крывёю зямлі. Апанаваныя жахам, глядзелі мы на блакітную імглу, што паўзла па палях,— здавалася, з нутра зямлі точыцца дым — вось-вось шугане полымя і ператворыць у попел усё, што яшчэ ўцалела. Бяссільна звісалі аголеныя, паламаныя галіны яблынь; зямля пад імі была ўсланая невыспелымі яблыкамі і нейкім зялёным месівам; клуня ляжала, прываленая стогадовай таполяй, якую д'ябальская сіла ветру вырвала з каранямі; мы глядзелі на ўсё гэта, мы глядзелі... А пасля рынуліся бегчы. Не па дарозе, але дзе папала, бо ўсюды была дарога, ідзі альбо едзь кудою хочаш — ураган праклаў шырачэзны гасцінец. Мы беглі, спатыкаючыся, коўзаючыся — пад нашымі нагамі, быццам дзівоснае буйное зерне, ляжаў град; падалі і ўздымаліся; мы беглі на пахаванне, а ў сэрцы ўсё роўна кволілася надзея, што, можа, застанем яе, зямлю, жывую. Уся вёска бегла на пахаванне зямлі. На палях вохкалі, плакалі, лямантавалі. Узносіліся да неба рукі і праклёны, чуліся малітвы і нараканні. Дзе-нідзе ўраган, як бы з разбегу, пераскокваў цэлыя загоны, і яны стаялі цяпер, на радасць шчаслівым гаспадарам, аазісамі ў брудна-зялёнай пустцы. Людзі падалі на калені, дзякуючы свайму жорсткаму богу за вялікую ласку.

Табе, тата, не было за што дзякаваць богу, аднак ты і не кідаў праклёнаў, не ламаў рук, не ліў слёз. Ты быў сумленны, а ў той дзень я даведаўся, што ты і вялікі. «Дзякуй і за тое, што засталося,— сказаў ты.— Будзе добры корм».

Корм быў, затое не было збожжа. Вясной не будзе чым сеяць. «Галоўнае, былі б усе здаровыя,— суцяшаў ты маці.— Усё зноў будзе добра, зноў акрыяем. Галіны, праўда, паламала, але карані цэлыя».

Гэтак ты гаварыў, хоць ведаў, што і карані ўжо падцятыя. І не ў аднаго цябе. Многа саняў прарыпела ў тую зіму праз нашу вёску з пазычаным насеннем. Многа сялян

прайшло побач з вазкамі, гружанымі насеннем; раз-пораз яны абмацвалі мяшкі рукою, аглядалі, ці не прадзіравіўся які, ці не сыплецца зерне на дарогу, а ўбачыўшы хоць адно зернейка, пашанліва нахіляліся і, падняўшы яго з долу, быццам крупінку золата, хавалі ў кішэню. З яго, гэтага драбнюткага зернейка, вырасце колас, будзе кавалак хлеба. Закарэлыя пальцы селяніна клалі ў кішэню аднадзінае зернейка, а вочы ў ім бачылі цэлую шчопцю. У кішэні старога кажуха ты знайшоў са жменю леташняга гароху. Увесь дзень ты свяціўся тады, нібыта кабыла прывяла завадовае жарабя. Цукровы гарох! Пасееш рэдка, радамі, наўтыкаеш тычак, і вырасце яго ў сто разоў больш. Сто прыгаршчаў салодкага гароху! Пасеяў. І палетак засеяў пазычаным насеннем. «Выкараскаемся, зноў выкараскаемся...» І на́ табе!.. Нават самыя старыя людзі не памяталі, каб на іхнім вяку было такое дажджлівае лета. «Нічога, на грудах уродзіцца,— суцяшаў ты нас і сябе самога святой маной.— Будзе жыта, намалоцім пшаніцы. Галоўнае, каб не выбіла градам, як летась». На грудах, праўда, збажына ўрадзіла, але відаць ужо было, што ўбраць не дасць дождж. Азіміна, якую скасілі, зазелянела на полі ў снапах. Згніе і яравая збажына — гэтыя невялічкія латкі на пясчанай глебе, якая менш за ўсё баялася вады. Згніе на пні, прарасце ў коласе, і невядома, ці вернецца гаспадару яго насенне.

— Вось так, браце,— сказаў ты ўвечары.— Чалавек плануе, а бог пануе. Што зробіш, Гедміс. Рупіліся з маці, як толькі маглі, але сам бачыш... Не злуй, мой сыне...

Маці ўздыхала, выціраючы ражком хусткі слязу. Мая добрая маці. І ты ўздыхнуў, тата. За што я меў злавацъ на вас? Ужо з мінулай зімы вы елі хлеб, напалову замешаны бульбай, а я кожнай раніцы ішоў у гімназію, сытна паснедаўшы. Я мог толькі цалаваць вам рукі, чорныя рукі катаржнікаў зямлі; святыя адважныя рукі, якія ніколі не ведалі стомы і ні разу не апусціліся, паддаючыся жыццёвым нягодам, але сёння прызналіся ў сваім паражэнні. Вашы залатыя рукі, што дзялілі хлеб і любоў, прызнаваліся ў паражэнні... І я цалаваў іх — жылістыя, цвёрдыя і шурпатыя, як тыя бярозы, пасаджаныя вакол сажалкі, як абпаленую сонцам гліну, цалаваў іх, як прыдарожны крыж, пахвошчаны вятрамі стагоддзяў, і на губах адчуваў соль Хрыстовых ранаў. Я тады яшчэ верыў у божае ўваскрэсенне, а ўсё роўна падумаў, што сына нябёсаў укрыжавалі трыма цвікамі, а ў кожную вашу далонь іх было ўбіта

без ліку. Я не ведаў іншых, святцейшых, пакутнейшых рук, якія я мог бы цалаваць са шчырай пакорай.

— Нічога,— сказаў ты,— усё будзе добра, усё будзе добра, мой сыне.

Напэўна, ты ўжо тады думаў пра даўжэзную дзівосную фуру, якой ніхто дагэтуль у Лаўксадзісе не бачыў. І пра камяні на фальварковым выгане. Аднак ты нават не прадчуваў, што праз дзесяць гадоў пан Гульбінас стане тваім зяцем і яго моцныя плечы ўтрымаюць нашу гаспадарку, што няўхільна ссоўвалася ў прорву. Але пакуль што Анэлі было толькі дванаццаць гадоў. Нас магла ўратаваць хіба што машына для вырабу грошай, як жартам ты называў старую мажару, калі забраў яе ад каваля акутай на ўсе чатыры колы жалезам. У двары старога Кяршыса-нябожчыка таксама стаяла гэткая ж фура, хоць ягоная гаспадарка была на некалькі гектараў буйнейшая за нашу. Кожнай раніцы, калі было яшчэ поцемна, вы ехалі на фальварковы выган, нагрузіўшы каменнем свае «машыны для вырабу грошай», цягнуліся ў Краштупены. Адтуль зноў на фальварковы выган і зноў назад. Калі вярталіся пасля другога разу, была ўжо глыбокая ноч. Вы вазілі каменне гарадскім панам, якія будавалі новыя дамы. «Залаты заробак,— радаваўся ты.— За два дні паўтара цэнтнера збожжа». А ноччу ты жаласна стагнаў у сне. Але страшней за ўсё было, калі ты пачынаў хрыпець і турзацца, нібы цябе душылі.

Памятаеш тую раніцу, калі ўтапіўся Гірнюс, якога ў Лаўксадзісе называлі Карнатым? Раніцай выйшаў нібы па сваёй патрэбе і не вярнуўся. На беразе знайшлі споднняе, а яго самога ў вадзе, аблепленага раскай.

— Ад бяды ўцёк,— сказаў ты як мага спакайней, нібы іначай і быць не магло.— Цяпер у яго а ні клопату, анічога. Добра яму...

У тваіх вачах я ўпершыню ўбачыў зайздрасць. І мне стала трывожна, дужа трывожна, тата. Я ўсё выбягаў за сядзібу і ўглядаўся ў дарогу, ці не вяртаешся ты з горада са сваёю даўжэзнай фурай. А цябе ўсё не было і не было. Ніколі гэтак нікога я не чакаў, як цябе ў той вечар. Вячэра даўно астыла, а мы выплакалі ўсе вочы, калі пачулі грукат калёсаў. Затое ты быў вясёлы, шалёна вясёлы. Ты часам выпіваў, любіў пасядзець з сябрамі за збанком піва ў свята, аднак такога п'янага я цябе яшчэ не бачыў. Ты быў страшэнна брудны, ледзь стаяў на нагах і плёў абы-што. Вада цуркамі сцякала з твайго кажуха, заляпанага

гразёю твару, вусоў. Каля ўслона, на які ты пляснуўся, адразу ж нацякла чорная лужа. Ты гупаў заплюханымі гразёю ботамі і крычаў:

— Плывём, плывём цяперака па моры ды ў Амерыку шчасця шукаць!

Потым пачапіў сабе на грудзі крыж Пагоні. Проста на мокры кажух. Той самы крыж, якім узнагародзіў цябе генерал Сільвестрас Жукаўскас за польскага афіцэра і які зарабіў табе дзесяць гектараў. Ты маршыраваў па хаце вайсковым крокам, хістаўся, чапляўся за мэблю і ўтрапёна выкрыкваў:

— Паглядзіце на гэтага героя. Крочыць добраахвотнік Літвы! Няхай жыве незалежнасць! Ура! Ура! Ура! Няхай жыве гаспадар вольнай Літвы без гаспадаркі, краштупенаўскія панове і камяні! Ура фальварковым выганам!

Мы перапалохаліся: думалі, што ты пачаў траціць розум. У цьмяным святле лямпы твае вочы жудасна блішчалі, твар здаваўся пазелянелым, нібы чэрап, што мноства гадоў праляжаў у зямлі. Ты мітусіўся па хаце, быццам начны прывід, і ўслед за табою па сценах слізгалі калматыя фантастычныя цені, ад якіх нам рабілася яшчэ страшней.

Так, гэта была жахлівая ноч. Як сёння, бачу Казюкаса, што скакаў перад сталом. Высозны не па гадах, амаль з цябе ростам, ён пляскаў у ладкі, рагатаў, нешта бязладна галёкаў; слёзы смеху цяклі з вачэй ідыёта — абапал смаркатага носа, па губах, падбародку. Нікому нават у галаву не прыйшло абцерці яму соплі, супакоіць яго. І тады ты... Не, спярша запанавала ціша, такая звінючая ціша, што было чуваць, як патрэсквае агонь у лямпе. Ты стаяў перад Казюкасам ачмурэлы, апусціўшы рукі, а ён спалохаўся, бо заўсёды цябе трохі пабойваўся. Яго прыдуркаватая ўсмешка паволі спаўзала з тлустага старэчага твару. І ён пачаў адступаць ад утрапёнага прывіду, што пазіраў праз пазелянелыя вачніцы чэрапа.

— Да ўсіх нашых бедаў толькі цябе нам яшчэ не хапала, няшчаснае дзіця,— з прыкрасцю сказаў ты.

І ўзняў руку. Можа, далоняй хацеў абцерці Казюкасу абслінелы падбародак, а можа, пагладзіць, аднак я чамусьці падумаў — зараз ты стукнеш яму па твары. Я глядзеў на тваю руку і дрыжаў ад страху. На руку, што знерухомела ў паветры, каб праклясці альбо блаславіць... Яна не ўмела праклінаць, яна была прызначаная для блаславення, аднак страшэнна натруджаная камянямі, якія грузіла

на «машыну для вырабу грошай», яна цяпер бяссільна вісела ў паветры, як падвешаная на вяроўках карова, знядужаная за зіму благім кормам.

— Анэлю — замуж, Гедымінаса — у навуку, Мікалюкасу — гаспадарка,— мармытаў ты, утаропіўшы вочы ў столь, нібыта гутарыў з самім госпадам богам.— А куды падзець Казюкаса? Узычыў гасподзь горб, а ты, чалавеча, цягай увесь век. Фунт хлеба на дзень — два з палове цэнтнеры за год. Гэта адно толькі, калі хлеб улічыць. І так з году ў год, да канца жыцця.

— Барані божа, што ты гаворыш! — ускліκнула маці. Першыя словы, якія яна вымавіла з той хвіліны, калі ты ўваліўся ў хату.— Пабойся бога, Мікалас, гэта ж твае дзіця!

— Усе мае дзеці, маці, усе,— мармытаў ты.— Таму і кажу так, што ўсе мае дзеці... Таму і кажу так, маці...

— Пакарае бог за блюзнерства, пабачыш.

— Мацней пакараць мяне ўжо ён не можа, маці. Я ўжо і так пакараны, як найвялікшы злачынца, пакараны. І дзеці нашы, хоць яны ні ў чым не вінаватыя, таксама пакараны, маці.

Так, тата, я памятаю, я добра памятаю той чорны год. Пустая, слотная восень і галодная зіма, хоць выпадалі дні, калі мы елі па-каралеўску — парасят, начыненых бульбай. Так ужо здарылася, што адразу пасля калядаў апарасілася свіння. Парасят было многа, сабе мы пакінулі толькі двое, астатніх жа ніхто не купляў: не было чым карміць. І мы з’елі іх — духмяных, засмажаных у печы, яны раставалі ў роце, як цукеркі. З’елі ўсіх дачыста. Нават тых, якіх знаходзілі раніцай нежывымі, прыдушанымі свіннёй. Не пакінулі нават костачак — яны ж яшчэ не ацвярдзелі і былі мяккімі храшчыкамі. А потым, здаецца на вадохрышча, захварэў Казюкас. Ляжаў на маміным ложку з абвязаным горлам — чырвоны, з вырачанымі вачамі — і цяжка соп. Сорам прызнацца, але я яго не любіў. Мне было непрыемна, што ў мяне прыдуркаваты брат; я любіў Анэлю, Мікалюкаса, дужа тужыў па іх, калі вучыўся ў гімназіі, а Казюкас быў для мяне пустое месца, я яго амаль ніколі не згадваў, а згадаўшы, думаў: было б лепш, каб яго ў мяне зусім не было. Але цяпер, калі ён кідаўся на маміным ложку са скажоным пакутай тварам і ў ягоных вачах я бачыў чалавечы боль, я не мог стрымаць слёз. І ты, тата, не знаходзіў месца, і мама плакала; увесь дом быў нейкі панылы, жалобны і чагосьці чакаў. Газоўка да раніцы га-

рэла над ложкам у Казюкаса; павінна была смярдзець газаю, а я чуў пах васковай свечкі.

— Доктара... Трэба доктара прывезці...— стагнала маці, ломячы рукі.

— Пачакаем яшчэ гэты дзень,— казаў ты.— Можа, само пройдзе.

Мінуў дзень.

— Пачакаем і гэты дзень,— зноў сказаў ты.— Калі не стане лепш, дык заўтра пэўна паеду.

Паехаў ты заўтрашнім адвячоркам. Але вярнуўся нагуста — доктар кудысьці паехаў, адказала табе служанка.

Як цяпер, бачу адчыненыя дзверы ў той пакой, дзе ляжаў Казюкас. Мы трое, два браты і сястрычка, моцна абняўшыся, стаялі каля тых дзвярэй і глядзелі на нерухомы тавал твару на фоне белай падушкі. Ніколі мы не былі такія блізкія, такія дарагія адно аднаму, як тады, калі чулі, як шалясцяць побач з намі халодныя крылы смерці.

— Дзеці, мае дзеці...— шаптаў ты, выйшаўшы з пакойчыка. І раптам абняў нас усіх, як селянін бабку жыта, калі яна развальваецца ад ветру, сціснуў у абдымках і пачаў цалаваць.

А мама ўсё яшчэ ўсхліпвала, стоячы на каленях каля ложка. На стале гарэла свечка, яна асвятляла братаў спарэлы лоб з халоднымі застыглымі вачамі, у якіх не было больш ні болю, ні бязглуздага выразу — толькі нябыт, вечны спакой. Усё ў хаце пахла паленым воскам і яшчэ нечым — гэта быў пах смерці, якая зрабіла сваю справу. Яшчэ доўга я чуў гэты пах — і пасля таго, як вынеслі нефарбаваную сасновую труну, а ты, запрогшы коней у парныя сані, зноў паехаў па каменне. Нібы нідзе нічога не здарылася. Толькі не хапала парасят, дужа не хапала нам парасят да хлеба, замешанага напалам ці з бульбаю, ці з мякінаю, хоць хлеба цяпер паболела. І маці болей не плакала. Яна ўздыхала і казала:

— Такая божая воля. Яму т а м лепш.

Ты моўчкі ківаў галавою: а як жа, а як жа, бог ведае, што робіць... Толькі мы, дзеці, не ківалі. Нам было шкада Казюкаса, яшчэ болей шкада, чым тады, калі яго душыла ангіна, і доўга яшчэ мы чулі пах смерці.

## III

— Не, тата, той год забыць немагчыма,— пасля доўгага маўчання кажа Гедымінас.— Памятаю, усё вельмі добра памятаю, нібы гэта было ўчора. І тую вясну пасля смерці Казюкаса памятаю. Трава ў садзе была шэрая ад леташняга лісця, галіны дрэў усыпаныя вялізнымі пупышкамі. «Прынясі рыдлёўку з сенцаў,— сказаў ты.— Сама пара садзіць яблынькі». І мы пасадзілі тут дрэўца. Ты ўмінаў зямлю вакол яблынькі, павярнуўшыся да мяне спіною, і мармытаў: «Хай будзе на вечную памяць пра Казюкаса, хай будзе, хай будзе...» Ты паўтараў гэтыя словы, нібы нейкі заклён. А потым сказаў, што восенню я зноў змагу пайсці ў гімназію.

Мікалас Джугас доўга і сумна пазірае на свае рукі. Ці адважыцца сын паціснуць іх пасля таго, што зараз пачуе?

— Дзякуй, сыне, на добрым слове,— нарэшце кажа ён.— Усё гэта праўда. Усё было так, як памятаеш. Толькі адно не так: доктар нікуды не выязджаў... Чаго маўчыш? Страшны я табе зрабіўся? Гэтакі і ёсць: даў жа хваробе задушыць сваё дзіця. Я сам, вось гэтымі рукамі, і задушыў яго.

Гедымінас збянтэжыўся. Не ад таго, што пачуў: яго непакоіць, што бацькава прызнанне не зрабіла на яго ніякага ўражання. Наадварот — ён нават адчуў палёгку.

— Ты не будзеш мяне любіць... ты не будзеш мяне ўжо любіць, Гедміс...— шэпча стары, нібы жабрак па міласціну, выцягваючы далоні.— Я ахвяраваў ім, як Абрахам Ісакам. Гэта не богу была ахвяра — зямля патрабавала яе. Зямля страшная, мой сыне, уцякай ад яе.

— Супакойся, тата. Хто ведае, можа, і доктар яму не здолеў бы памагчы. А калі б і выжыў... Ніякага шчасця з гэтага ні яму, ні другім. Ніякага шчасця, тата, ты толькі падумай!

— Ніякага, можа, і праўда... І твая маці мне тое самае казала, але жыццё... Не свіння, не карова — чалавек, Гедміс. На чалавечае жыццё руку падняў...

Гедымінас бярэ бацькавы рукі і, склаўшы іх нібы для малітвы, пяшчотна іх гладзіць, пазіраючы яму ў вочы. Вочы ў бацькі ціхмяныя, шэрыя, нібы падсохлая на сонцы ралля. Маленькія і неабдымныя. Палахлівыя, зблытаныя цені мільгаюць у іхніх бязмежных абсягах. Але з кожным разам усё слабей і слабей. Яны рассейваюцца, растаюць, гэтыя цені, іх расплаўляе святло, што льецца знутры. Ня-

бачнае і такое відавочнае святло, якое сведчыць, што настае дзень.

— Ты ў сваім жыцці рабіў усё што мог, каб застацца сумленным. Ці можна ад чалавека вымагаць нечага большага? Я разумею цябе, тата.

— Ты добры... Вырас добрым дзіцем, Гедміс...

Гедымінас хацеў бы сказаць нешта грунтоўнейшае, каб запоўніць пустату, якую стары носіць у сваім сэрцы. Суцешыць: «Вось вернецца Мікалас, тата, пабачыш, вернецца — не ўсіх жа губіць вайна». Але пабаяўся вярэдзіць незагоеную рану.

Ляжаць абодва, маўчаць, і кожны думае пра нешта сваё. А калі здалося, што бацька заснуў, пачуўся ягоны голас:

— Зямля, кажаш... Корміць яна, апранае чалавека, гэта праўда, але і сваё бярэ ў чалавека. Ох, як бярэ, мой сыне. Дзевяць скур злупіць з цябе, душу выцягне. І, калі звязаўся з ёю, нікуды ад яе не ўцячэш. Нікуды! Страшнае прыцягненне зямлі, Гедміс, найпрыгажэйшая жанчына супраць яе нішто.

«Магчыма. Напэўна, так»,— падумаў Гедымінас, але нічога не сказаў. Яму зрабілася вельмі сумна, чагосьці шкада.

Бацькавы словы (а можа, голас — глыбокі, прароцкі) уваскрасілі ў ягонай памяці нядаўна пастаўлены помнік Аратаму. Адразу ён не мог і паверыць, што гэта халодны камень, і больш нічога. У яго было такое адчуванне, што нібыта растулілася зямное лона і ў муках выштурхнула манумент на свет божы. Такі блізкі, надзвычай родны, нібы мільёны гадоў пражыў з ім поруч. Ён быў нежывы, халодны, гэты каменны араты, а ўсё роўна хацелася прыпасці да яго каленяў — ён нечым нагадваў бацьку. Дужыя, абутыя ў пасталы ногі трывала ўраслі ў п'едэстал, аднак ён не стаяў на камені — ён ішоў па зямлі; ён ішоў па сваім полі ціхмяным нядзельным днём, песцячы лагодным паглядам урадлівую, залітую зелянінай зямлю, на якой, нібы дрэвамі аздобленыя караблі, плылі хутары і вёскі. «Усё гэта стварыў я»,— казаў ён, выцягнуўшы перад сабой цяжкую сялянскую руку. І ў тым важкім жэсце не было ні пустой ганарлівасці, ні пыхі — толькі спіплае сцвярджэнне таго, што ёсць. І яшчэ запрашэнне: вось, накроіў хлеба, калі ласка, сядайце ўсе і ешце, а потым пойдзем працаваць. У глыбіню вякоў працягнулася яго рука. Пашаплівае прывітанне прашчурам, якія тысячы гадоў таму назад прый-

шлі на гэтую зямлю і назаўсёды прытуліліся да яе шчырых грудзей. Араты благаслаўляў косці прашчураў, якія даўно ператварыліся ў прах і якія развеяў вецер стагоддзяў,— гэтак па звычцы казалі ўсе, аднак ён ведаў, што гэта няпраўда: гэты прах, дзякуючы хлебу, які на ім вырас, ператварыўся ў яго кроў. З суровай набожнасцю ён благаслаўляў косці прашчураў, хоць мог бы праклясці за тое, што яны заснавалі мірнае племя аратых якраз тут, на беразе Балтыкі, на скрыжаванні вялікіх сіл, дзе за кожны дзень існавання даводзілася плаціць крывёю. А можа, на самой справе ён слаў праклён гэтай сваёй руцэ, што высякала святыя лясы, разбурыла ахвярнікі, разагнала жрацоў і вайдэлотак? Руцэ, што дапамагла чужынцам патушыць святы агонь і на месца вясёлага ўладара грымотаў Пяркунаса паставіць укрыжаванага хрысціянскага бога. Аднак гэтая самая рука моцна трымала меч, трапна пускала стрэлы, дубасіла з-за пляча булавою. Яна не толькі абараніла свае палі і сядзібы ад закутых у браню рыцараў, але і загарадзіла ім дарогу на землі суседзяў, якія потым адплацілі сваім абаронцам тым, што скавалі на іх кайданы. Не, aратаму не было за што клясці яе, гэтую сваю руку. Ворагаў было больш, чым дрэў у ягоным лесе; рука аслабла, выпусціла меч, і скрываўленыя плечы мусілі сагнуцца пад націскам чужой моцы. У яго засталася саха — адзіная зброя, якой ён мог бараніцца ад павольнай смерці, вырошчваючы хлеб і гадуючы дзяцей і стараючыся захаваць карані свайго роду ў роднай зямлі. Няшчасны раб! Сеяў збожжа сваім дзецям, а ўраджай дзялілі свае і чужыя паны. Бароны, шляхціцы і князі дзялілі даспелы колас, яму заставалася салома. Яму, гаспадару сваёй зямлі! Дык за што ж, скажыце, саромецца яму сваёй рукі, за што клясці яе?

Не рабаваў ён — ад яго заўсёды,
што здабываў ён, адбіралі прагна,
на катаргу не ён сваіх тыранаў —
яны яго маркотным шляхам гналі,
і ланцугі не ён каваў — яму...
Былі ў яго браты калісьці — прусы,
ад іх найменне толькі засталося;
ад Нёмана да Буга ўсцяж цяпер
гучыць чужая гутарка ўладарна,
а тут, у нашай хаце, наша слова
нам забаронена, і стала домам
не аднаму з нас ледзяная поўнач.

Не, аратаму няма чаго саромецца сваёй рукі. І ён яе трымаў выцягнутую, каб усе яе бачылі. Руку, якая вытрымала

суровыя выпрабаванні стагоддзяў. I гаварыў, як земляроб, які ведае сабе цану і разумее сваю моц, гаварыў, пазіраючы наперад, нібы на зару, што абяцае пагодлівы дзень: «ТУТ НАША ЗЯМЛЯ».

Гедымінас пашанліва зняў тады студэнцкую шапку. У вачах ад глыбокага ўражання з'явіліся слёзы. Душа плакала і спявала ад радасці, складаючы наступны слупок вершаў.

Перад тым як паехаць з таго жэмайцкага гарадка, ён вярнуўся, каб яшчэ раз зірнуць на помнік. Каменны арата вітаў яго, як і мінулы раз, шырокім узмахам рукі. На яго дужых, пахілых ад векавога іга плячах таўпехаліся вераб'і. Каля п'едэстала, павярнуўшыся да ветру спіной, мачыўся п'яны вясковец.

Праз некалькі гадоў, ужо ў другім жэмайцкім гарадку, стоячы перад другім помнікам, ён прыгадаў гэтую блюзнерскую сцэну. Цяпер яна, аднак, не выклікала ўжо абурэння; ён мог бы пазіраць зусім спакойна, нават з гумарам, калі б тут, за спіною Першага Гісторыка нацыі, убачыў селяніна, што спраўляе сваю патрэбу,— старыя ідалы, якім ён маліўся дагэтуль, рухнулі. Дык вось, ён стаяў перад тым помнікам, сам не разумеючы, што яго тут трымае, і думаў пра расстралянага стрыечнага брата Саўлюса, цётчына гора, пра далёкі родны дом, пра вайну. Думаў пра ўсё, толькі не пра тое, што на гэты пляц трэба было прыйсці дзеля таго, каб пакланіцца памяці вялікага жэмайційца. Пляц быў вялізны, і чамусьці здавалася, што ён панылы і самотны, хоць па ім маршыравалі нямецкія салдаты, выкрыкваючы нейкую песню, кожны рэфрэн якой суправаджаўся дружным заўзятым свістам. Навокал стаялі аднапавярховыя домікі — ніводнага разбуранага, нібыта праз гарадок прамчаўся вясельны поезд, а не вайна, аднак Гедымінасу здавалася, што ўсё навокал у курных руінах, і каменны Гісторык, застылы ў сваёй суровай самоце, журботна глядзіць на нежывую пустку, якая яшчэ нядаўна шумела старажытнымі лясамі, поўнымі зверыны, птаства і звонкага спеву паляўнічага рога. Глядзіць, і, выцягнуўшы руку, паказвае пальцам, і шэпча счарнелымі вуснамі: «І гэта — тая самая зямля, якую ўсю я прайшоў пехатою, кіруючыся ў Вільню па навуку, каб змагчы яе прасвятляць? Што вы натварылі, літоўцы, аўкштайты і ўраўнаважаныя жэмайты?» Ён быў перапалоханы, страшэнна перапалоханы, гэты пясняр мінуўшчыны нацыі. Пашарпанае крыссе сурдута матлялася па баках, нецярпліва тапталіся

худыя ногі, намагаючыся як мага хутчэй адарвацца ад п'едэстала, на які людзі ставілі яго ў гонар нацыі, а выставілі на ўсеагульны смех.

«Было ў нас некалькі святых, і тых мы зганьбавалі,— думаў тады Гедымінас.— Бывай, Сіманас Даўкантас. Не варушыся: твае дзеці цябе ўзнялі на алтар, твае дзеці цябе і сапхнуць». Ён ішоў паўз пляц, дзе гарлапанілі нямецкія салдаты, і дзівіўся, што зямля не праглыне іх. А калі выйшаў у поле, яшчэ болей здзівіўся, што на ім спее збажына, пасвіцца жывёла, а птушкі ў небе спяваюць сваю бясконцую песню. Не верачы сваім вачам, ён пераскочыў цераз роў і, зайшоўшы ў хвалістае сіваватае поле, што пахла хлебнай скарынкай, пачаў лашчыць і мацаць каласы — цяжкія і звонкія, нібы гіры старога насценнага гадзінніка.

Зямля не здрадзіла! Яна адна засталася адданая сваім дзецям. Яна, як заўсёды, жыла і нараджала, каб жыло ўсё, чаму прырода дала жыццё.

Шырока расхінуўшы рукі, ён упаў на калені і абняў сівыя валасы зямлі.

## IV

Перасохлыя сцяблінь шамацелі ў ахапку: збажына шэптам развітвалася з зямлёю. Гедымінас апусціў звязаны сноп — асцярожна, на стаўбур, каб не выцерушыць зярнят. Няважна, што не свой — Кяршысаў. Хлеб, з чыйго б поля ён ні ўзяўся, быў яму святыняй: бацька з маленства прывучаў любіць хлеб і шанаваць. У гэтай хаце не адкідвалі нагою скарынку, што ўпала на падлогу, але пашанліва падымалі яе і клалі на стол.

— Добрая ў вас пшаніца,— пахваліў ён.

— Нічога сабе, няблага ўрадзіла,— згадзілася з ім Аквіля.

Хвілінку перад гэтым Кяршыс аб'явіў:

— А-эх, пара і перадыхнуць. Да вечара ўсё роўна ўправімся.

І цяпер кожны, звязаўшы свае снапы, ішоў да бабкі, пад якой стаяў гліняны збанок з вадой, настоенай на хлебных скарынках.

— Пі.

— Пі сама, пі.— Ён далікатна адштурхнуў збанок, які падала яму Аквіля, і пакуль яна піла, спатайка паглядваў у яе бок.

І яна касавурылася на яго. Чорныя вейкі трапяталіся, нібы крылы ў страказы. Праз іх пазірала туга па страчаных назаўсёды днях і бяссільнае спадзяванне вярнуць іх. Хвароба перамяніла яе — яна зноў стала зграбная і гожая; у твары з'явіліся новыя рысы — нейкі высакародны аскетычны бляск, сумная задуменнасць. Яна быццам скінула з сябе нябачны цяжар, які дагэтуль яе прыгнятаў, і цяпер сама дзівілася, як магла гэтулькі часу цягаць яго. У ёй мала што засталося ад той Аквілі, якой Гедымінас чытаў вершы, аднак яшчэ менш яна была падобная на Аквілю, што прыязджала ў Краштупены мінулай зімою, каб абмяняць на рэчы з'ялчэлае даваеннае сала. І такая, змененая да непазнавальнасці, яна здавалася Гедымінасу бліжэйшай, чым раней.

Ён узяў збанок, з яшчэ цёплым ад яе рук вушкам, і, не абцёршы горлечка, паднёс да вуснаў. Цяпер яна спатайка глядзела на яго, а ён на яе, і абое ўсміхаліся вачамі. Ён болей не пагарджаў ёю — ён шкадаваў яе. Яна гэта ведала, хоць не было сказана ні слова. І з удзячнасцю прымала гэтае шчырае пачуццё спагады — яно прыніжала яе, вярэдзіла, аднак яно не хлусіла,— і яна разумела: гэта самае лепшае, што ён можа, не крывячы душою, ёй даць.

— А-та-та, якое смакоцце,— па-дзіцячы цешыўся ён, аблізаўшы мокрыя губы. Падбародак таксама быў мокры, і ён абцёр яго потнай, упэцканай у зямлю рукою.

— Мне так падабаецца вада на хлебных скарынках,— сказала Аквіля.

(«Набліжаецца жніво,— сказала мінулы раз Мілда.— Вы будзеце сядзець пад снапамі і піць падсалоджаную ваду на хлебных скарынках». Я засмяяўся. «А як жа,— сказаў я,— мы будзем банкетаваць, а іншыя за нас будуць пацець. Ці ты калі, наогул, вязала снапы?» — «Ой, і яшчэ колькі! На летніх канікулах маці ні дзянёчка не пакідала без справы. З пятнаццаці гадкоў пачала браць мяне з сабою да гаспадароў вязаць снапы. Спякота, пыл, пот раз'ядае вочы. Думала, што нават у пекле не можа быць горш. А цяпер прыгадаеш — добра было. Усё было надзвычай добра. Так хацелася б пасядзець у цяні бабкі, папіваючы з гліняната збанка салодкую вадзічку, настоеную на жытнёвых скарынках. Але ў яе ўжо будзе не той смак, Гедымінас...» Так, Мілда, нічога на свеце не паўтараецца. Як і твае запіскі. Спачатку яны былі падобныя на зашыфраваныя алгебраічныя ўраўненні, а апошняя — шчырая і нецярплівая, нібы крык параненай птушкі.

Ах, дазволь мне ля кастра пагрэцца —
на дварэ пахмурая няўгледзь!
Камень мае ледзяное сэрца —
сіраты не зможа зразумець.)

— На снапах дапамагаць не буду,— сказаў Гедымінас.— Хачу раней адлучыцца — маю клопат у Краштупенах.

— Ага...

— У мяне клопат,— з націскам паўтарыў ён. Нахіліўшыся, падняў з іржышча саломінку, накруціў яе на палец.— Калі былі дзецьмі, з пшанічнай саломы рабілі кольцы і ўяўлялі, што яны залатыя.

Яна засяроджана пазірае, як ён круціць на пальцы саламяны пярсцёнак. Палец чорны, і жоўтая бліскучая саломінка на самой справе здаецца залатой.

— Я вельмі радая, Гедымінас, што ты вярнуўся ў вёску. Вельмі радая.

— Праўда? Я ж не дужа добра вяжу снапы.

— Ты добры чалавек, Гедміс. У вёсцы мала добрых людзей.

— Добрых людзей няма, Аквіля. Ёсць проста людзі, самыя звычайныя людзі.

— Вось і добра, што ты звычайны. Колькі я цябе памятаю, ты быў нейкі не такі, як усе. Разумнейшы, вышэйшы, чысцейшы за іншых. Не смейся, мне тады гэтак здавалася. Я заўсёды цябе трохі саромелася, нават пабойвалася. А калі ты вярнуўся ў вёску і разам з усімі на поле... Гэтакі самы абшарпаны, брудны, як мы ўсе...

— ...і працаўнік неважнецкі,— смеючыся, падхапіў Гедымінас.

— Не, чаму ж. Працаўнік як працаўнік. А снапы дык я праўда лепей вяжу. Хоць гэта...

Крануты неспадзяваным адкрыццём, ён глядзіць на Аквілю спакойным і журботным позіркам, нібы на звечарэлае сонца.

— Надта позна вярнуўся я на зямлю. Трэба было гэта зрабіць да таго, як напісаў табе любоўнае пісьмо. Праўда?

— Чаму? — Яе голас глухаваты, спалоханы. Пыльны твар з крывымі разоркамі поту пацямнеў.— Ніколі не позна вярнуцца на зямлю, Гедымінас.

Ён не паспеў адказаць, дый не хацеў: па ржышчы сюды шкандыбаў Кяршыс, услед за ім — Маруся і Васіль з Іванам. Напіліся, робяць цыгаркі з самасаду. Аквіля, пад-

хапіўшы апусцелы збанок, таропка ідзе нацянькі па полі: пакуль мужчыны кураць, яна збегае на хутар па ваду.

— О-о-ох!..— глыбокім уздыхам праводзіць яе Кяршыс.

Гедымінас даўно ўжо кінуў курыць — яго раздражняе тытунёвы дым. Адышоўшы ўбок, саставіў бабку, сеў у цянёк і перачытвае Мілдзіну запіску. Вар'ятка! Як можна пасылаць такое пісьмо па пошце! Забыла, дзе і ў які час жыве?!. Нічога дзіўнага не было б, калі б копія гэтага пісьма апынулася на стале ў Адомаса. А можа, яна ўжо там і ляжыць?

Шалясціць іржышча. Шорах усё бліжэй і бліжэй: гэта кружыць навокал Васіль. Зайшоў за снапы, пацягваецца, пазяхае, нібыта нічога болей яго не турбуе, як толькі заваліцца на бок і добра выспацца. А на самой справе Васіля точыць трывога. Ужо каторы дзень ён ходзіць сам не свой, пануры, як хмара. Не скаліць зубоў, не сыпле жарцікамі, не падміргвае дзяўчатам. Нават з твару спаў.

— Чаго смуткуеш, Васіль? — запытаўся Гедымінас учора.— Каханая кінула? Нічога, знойдзеш другую. Нашы дзяўчаты неганарлівыя.

— Не, не тое, гаспадар...— Васіль ужо быў разявіў рот, нібы намерваючыся нешта сказаць, але не адважыўся, патрос галавою і адвярнуўся. А сёння раніцай, пакуль ішлі да Кяршысаў вязаць пшаніцу, усю дарогу гаварыў нейкімі цьмянымі намёкамі, за якімі хаваліся няўпэўненасць і страх.

Знайшліся і такія, якія адразу паслухаліся немцаў і запісаліся ў армію Уласава. Генерал абяцае ўзнавіць незалежную Украіну. Але яму, Васілю, яна была добрая і такая, у якой ён жыў дагэтуль. К чортавай матары гэтую вайну і нямецкія абяцанкі, ён яшчэ малады, хоча жыць. Хоць у самім пекле, галоўнае, каб застацца жывым. І Гедымінас згаджаўся з ім, хоць не быў упэўнены, ці правільна яго зразумеў. Але, сказаў Гедымінас, палітыка, як шлюндра, здраджвае, калі ёй выгадна. Чалавек, прыпісаны да яе, траціць павагу да сябе і да іншых, траціць прынцыпы, якія ў яго былі, і жыве толькі ілюзіямі прынцыпаў. Вось прыклад: той самы чалавек, які сустракаў немцаў з кветкамі, а потым з вінтоўкаю спяшаўся гітлераўцам на дапамогу, сёння без абурэння чытае і перачытвае наклееную ўначы на тэлеграфны слуп шыфраваную лістоўку:

С цяражыцеся
А рыйскіх
М ахляроў.

А йчына
У васкрэсне!
П азбягайце
Р абіцца
А хвярамі.
В ашы
А баронцы.

— Добра ў вас,— чуваць за бабкаю Васілёў голас.

— Шалёная спякота,— кажа Гедымінас. Васіль падабаецца яму больш чым хто з астатніх палонных. Магчыма, за вясёлы нораў. А можа, проста бліжэй яго ведае, чым іншых. Дый Васіль навучыўся гаварыць па-літоўску — здольны хлопец, уважлівы да ўсяго тутэйшага, а да такіх людзей Гедымінас неабыякавы.— Кладзіся пад снапы, Васіль,— кажа ён,— няхай спіна адпачне.

Васіль стаіць перад ім, трохі нахіліўшыся наперад, нібыта намерваецца апусціцца на калені. Каржакаваты, моцны хлапчына з прыгожым смуглявым тварам, на якім адразу вылучаюцца буйныя яркія губы і густыя чорныя бровы.

— У нас пшаніцы не вяжуць,— засмучана кажа ён.— У нас адразу камбайнам... а потым ужо на грузавіках — дзяржаве.

— Смуткуеш па родных мясцінах, Васіль?

— У мяне маці, тры сястры. Бацьку ў трыццаць трэцім забралі — быў настаўнікам, партыйным, падтрымліваў сялян, якія не хацелі ўступаць у калгас. Не зразумеў праграмы партыі. Там і памёр. І дзяўчыну я меў. Прыгожая. Смуткую, як тут не смуткаваць. Начамі сніцца, што я ўжо дома, гуляю па двары, аднак...— Васіль замоўк, журботна паківаў галавой.

— Вернешся, Васіль. Немцы ўжо прайгралі вайну. Усе вернуцца ў свой родны край. Думаеш, нямецкі салдат не хоча дамоў?

— Просты салдат, вядомая рэч. Што яму? Гэтакі самы чалавек, як і я. Але пакуль тая вайна скончыцца...— Васіль замаўкае; нарэшце, набраўшыся адвагі, шэпча: — Добра было б, каб я змог перабыць тут, пакуль Гітлер не лопне...

— Перабудзеш, Васіль. Не забяруць немцы ў лагер, не бойся. У іх цяпер іншы клопат.

— Можа, і не забяруць...

— Будзь спакойны. Якая ім карысць ад вас? Тут хоць дапамагаеце сялянам хлеб вырошчваць. Немцам хлеб трэба, Васіль.

Васіль пужліва азіраецца і яшчэ больш нахіляецца ўсім целам наперад.

— Гаспадар... паслухайце, гаспадар,— шэпча ён, нарэшце рашыўшыся.— Кепска ў нашым лагеры. Мужчыны ўцякаць збіраюцца. У лес, да партызанаў.

Гедымінас зацікавіўся. Але толькі зацікавіўся. Нейкую хвіліну глядзіць на Васіля, не разумеючы, што яму трэба. («Ну і хай уцякаюць, трасца на іх, калі хочуць, а што табе?») Але неўзабаве непрыемная думка ўразіла яго. Ён пачырванеў да вушэй, ад прыкрасці перакрывіўся.

— Дык чаго ты ад мяне хочаш, ліха тваёй матары? — пытаецца ён шэптам таксама, ледзьве стрымліваючы гнеў.— Каб я данёс немцам? Я пра цябе быў лепшай думкі, Васіль.

— Гаспадар...— Васіль прысеў на ржышча, рукамі абхапіў калені. Пазірае кудысьці перад сабой, паўз Гедымінаса. Страшэнна зніякавелы і няшчасны.— Я не гэтага хачу, гаспадар. Я не здраднік. Я толькі хачу дачакацца канца вайны і вярнуцца дамоў. Нічога больш не хачу.

— Дык якога д'ябла ты мне лухту пляцеш? — злуе Гедымінас.— Хай уцякае, каму падабаецца, а ты заставайся.

— А немцы?

— Што— немцы?

— Нічога не зробяць тым, хто застанецца? Помсціць не будуць?

Гедымінас маўчыць. Пытанне, якое спачатку здавалася такім простым, раптам аказалася надзвычай заблытаным.

— Ты не мог знайсці іншага дарадцу, мой дарагі? — цэдзіць ён праз зубы.

Цяпер маўчыць Васіль. Твар у яго такі, нібыта зазірнуў у сваю магілу.

І тут Гедымінас знаходзіць рашэнне. Сам у яго не верыць, аднак хоча, каб гэтак было,— вельмі-такі шкада стала яму Васіля.

— Уцячы няцяжка, але ці будзе вашым хлапцам лепш у лесе? — кажа ён, супакойваючы больш самога сябе, чым Васіля.— Ці варта кратацца з месца, калі немцы не намерваюцца забіраць вас ад гаспадароў? Не думаю, што шмат знойдзецца такіх, хто, жывым-здаровым выслізнуўшы з аднаго мяшка, хацеў бы хутчэй залезці ў другі. Пагаварыць пра гэта, вядома, можна, але калі ўсур'ёз падумаць... Не, Васіль, я не думаю, каб з гэтага выйшла што-небудзь

сур'ёзнае. Усё скончыцца аднымі размовамі, пабачыш. Здаровы розум не дазволіць рабіць глупства. Там жа таксама ёсць такія, як ты.

Васіль усміхнуўся. А можа, Гедымінасу гэта здалося. Не, сапраўды — кароткая, як узмах клінка, усмешка скрывіла губы.

Гедымінас выцягнуў руку, хацеў паляпаць па плячы, але Васіль спалохана адхіснуўся.

— Іван...— прашаптаў ён, са страхам пазіраючы ўбок,— Іван...

Да другой бабкі, дзе кураць мужчыны, да свайго Івана ідзе Васіль.

## V

Іх семнаццаць. Розных нацыянальнасцей, заняткаў, біяграфій. Шостую частку зямнога шара ў мініяцюры ўсадзілі ў каменны склеп парабкоўні, што глядзіць у дваровы сад спехам закратаванымі вокнамі.

Навошта гэты калючы дрот, дзівіліся яны, калі ўначы пасопвае каля дзвярэй адно толькі вартаўнік з кіем, якога, калі захочаш, зусім няцяжка ашукаць? Альбо гэтыя дзіўныя цырымоніі раніцаю і ўвечары — праводзіны да месца работы і адтуль назад? У полі ж ніхто іх не ахоўвае, а ва ўсёй вёсцы, за выключэннем старасты і пана Дызэ, наўрад ці хто мае зброю.

Гэтыя меры засцярогі былі незразумелыя і сялянам («Яшчэ адна недарэчная выдумка нямецкага орднунга!»). А потым усе даведаліся, што ў іншых вёсках палонныя жывуць у гаспадароў вольнымі парабкамі. «Лагер у фальварковай парабкоўні — гэта выдумка старасты Кучкайліса і пана Петара фон Дызэ»,— вырашыла вёска. Адзін стараецца выслужыцца перад немцамі («Бач, яны любяць, каб строга»), а другі, маючы пад рукою такі гурт мужчын, заўсёды можа скарыстаць іх для палявой работы ў фальварку. Гаспадары выказвалі сваё незадавальненне, але дамагліся толькі таго, што Кучкайліс дазволіў палонным хадзіць на работу і вяртацца назад без суправаджатага. Аднак раніцаю (і як мага раней) амаль кожны гаспадар усё роўна прыходзіў па свайго палоннага, баючыся, каб потым не давялося шукаць яго на панскім полі і намарна спрачацца з панам Дызэ. («Ja, ja, das ist твой. Aber я маю большае права на яго. Das ist нямецкі палонны. Яго ўзялі unsere Soldaten. Ja, ja, ich verstehe dich, ён запісаны за табою. Ord-

nung ist Ordnung. Aber ён пайшоў ужо на работу. Arbeitet! Arbeitet schon, verstehst du? Германія alle arbeiten. Вайна перамагчы! Ты не хочаш вайна перамагчы, zum Teufel!»)

За паўтара года жыхары Лаўксадзіса зжыліся з палоннымі, прывыклі іх лічыць за сваіх. Палонныя таксама не глядзелі больш на сялян, як на нейкіх пачвар, якія намерваюцца іх зжэрці. У лагеры ваеннапалонных не было ніводнага, хто б не песціў думкі аб уцёках, але калі яны трапілі ў вёску, дзе такая магчымасць існавала, гэтыя бунтоўныя думкі паступова пачалі бляднуць. Жахі вайны ўсё яшчэ стаялі ў іх уваччу; часта ўначы зрываліся з месца, апанаваныя жудасным сном, а потым шчасліва ўсміхаліся, зразумеўшы, што гэта быў толькі жахлівы прывід мінулага,— сапраўднасць зусім іншая, хоць за акном і віднець дэкарацыя з калючага дроту. Сапраўды, толькі дэкарацыя, бо дастаткова пастукаць у дзверы, і яны адчыняцца. Праўда, нерашуча, нават падазрона, але адчыняцца, і на цябе паглядзяць не халодныя вочы нямецкага салдата, што паблісквають смерцю, а гляне заспаны твар мірнага вяскоўца; можа, не заўсёды прыязны і добразычлівы, але замест кулі гэты вясковец табе заўсёды даў бы кавалак хлеба, калі б ты ў яго папрасіў гэтага. Але табе не трэба прасіць, бо неўзабаве настане раніца, і ты наясіся ўдоваль, седзячы за адным сталом са сваім гаспадаром (вядома, калі ён не староста Кучкайліс і не Петар фон Дызэ). Гэтыя двое сваіх палонных адлучаюць ад усёй сям'і, вызначылі ім норму харчавання — хлеб, бульба, перагнанае малако,— з голаду не падохнеш, аднак і сыты не будзеш. Вечарам вернешся ў гэты інсцэніраваны лагер, знямоданы цяжкай працай, але з напханым чэравам, будзеш сніць родны дом, каханую, будзеш цалаваць рукі старой маці і бачыць сябе пад мілым бацькоўскім дахам, а калі прачнешся, будзеш уздыхаць ад вялікага смутку, і гэты куток чужой зямлі, у якой ты апынуўся дзякуючы шчасліваму выпадку, здасца табе гаючым аазісам у спаленай сонцам бяскрайняй пустыні, дзе самае разумнае, што ты можаш зрабіць, дык гэта перачакаць, пакуль на даляглядзе не з'явіцца караван. Так: перачакаць, бо і цябе чакаюць. Чакаюць маці, жонка, каханая, дзеці. Чакае родная зямля, што засмуткавала па цеплыні тваіх рук... «Вярнёцца наш галубчык, вярнёцца»,— за тысячы кіламетраў чуеш поўныя спадзявання бацькавы словы. І кажаш сабе: «Нада вярнуцца, как жэ, еслі на поле боя пуля пажалела».

— Гэтая сытая кулацкая вёска дарэшты прыспала на-

ша сумленне,— аднаго разу сказаў Фёдар, малады слесар з Пярмі.— Ядзім хлеб ворага і працуем на яго, а нашы браты ў гэты час гінуць на фронце.

Усе занепакоена паглядзелі на Фёдара. Не з-за таго, што ён сказаў — пра гэта шмат хто падумваў,— усіх уразіла нечаканая шчырасць навічка. За ўвесь месяц з таго самага дня, калі Фёдар з'явіўся ў дваровым лагеры — да гэтага ён працаваў у іншай вёсцы ў гаспадара,— ад яго толькі зрэдзьчасу можна было пачуць адно-другое слова, дый тое было нейкае загадкавае, хавала ў сабе непрыемны намёк, які доўга цвяліў душу. Яго рэплікі, якія ён знянацку ўкручваў у гаворку, былі лаканічныя і нібы не вымагалі ніякага адказу, але кожнага прымушалі задумацца. Ён не ўдаваўся ў размовы, не спрачаўся: шпурне ў ціхую затоку адзін-адзіны каменьчык і з цікавасцю назірае, як хвалююцца і разыходзяцца кругі па вадзе.

— Калі падумаю, што калі-небудзь змагу вярнуцца дамоў, не адчуваю ад гэтага ніякай радасці,— вёў далей Фёдар пад панурае маўчанне мужчын, што сядзелі на сваіх драўляных ложках.— І чаго радавацца — не такіх дзяцей чакае айчына. Што я скажу ёй, калі вярнуся? Маўляў, у той час, калі мае таварышы паміралі за яе на полі бою, я сёрбаў тлусты літоўскі боршч.

— Амін,— буркнуў Васіль, валячыся на ложак.— Бацюшка Фёдар адслужыў вечэрняе набажэнства, цяпер можна класціся спаць.

— Ты часам не генерал будзеш, што гэтак каешся? — пачуўся яшчэ нейчы голас.— А можа, сустрэў першага немца і падняў рукі ўгору?

Фёдар пахмура паглядзеў у той бок, але нічога не адказаў.

— Ты, даражэнькі, нас не сарамаці,— адгукнуўся яшчэ адзін жыхар парабкоўні.— Што нам далі ў рукі, тым і бараніліся, куды вялі, туды і ішлі. А што трапілі фрыцу ў кіпці, дык з кожным магло здарыцца. Ты лепей адрасуй сваю прамову тым, па чыёй віне мы апынуліся з голымі рукамі супраць ваеннай нямецкай машыны.

— Правільна, Генадзій. Калі б яна не заехала гэтак далёка, невядома, ці сёрбалі б мы тут літоўскі боршч.

— Не сёрбалі б баршчу, то, можа б, лічылі зоркі праз дзірван. Ніхто не ведае на вайне, калі сустрэнецца на адной кладцы са смерцю.

— Няхай і так будзе, Пётр, аднак гэткія, як я, менш за ўсё вінаватыя, што сядзім у гэтай дзірцы.

— Мог бы кулю пусціць сабе ў лоб. Раілі ж...

— Вось бачыш, Ахро, не пусціў. Спачатку не даўмеўся, а потым было позна. Вінаваты.

— Усе мы па розных прычынах спазніліся. Усе мы тут вінаватыя. Як ты думаеш, Пётр, ці айчына даруе нам гэту нашу віну, калі застанёмся жывыя?

— Не спяшайся, яшчэ маеш час, каб навярнуць галавой.

— Я не ў цябе пытаюся, Тахаві. Няхай Фёдар скажа.

Фёдар хадзіў вузкім калідорам паміж двума радамі ложкаў, што былі выстраены ўзгалоўямі да сцен. Хоць вечар быў і пагодлівы, памяшканне танула ў густых прыцемках — з таго боку, дзе заходзіла сонца, парабкоўню засланяў сад. Вялізны прадаўгаваты пакой здаваўся загрувашчаным аскабалкамі нейкіх цьмяных прадметаў, сярод якіх варушыліся бляклыя плямы — палонныя ў споднім.

— Слухаючы вас, можна падумаць, што ніколі вы не хадзілі ў савецкія школы, не чыталі газет, не рабілі карысную грамадству работу,— сказаў Фёдар, няспешна ходзячы паміж ложкаў; рукі ў кішэнях штаноў, галава апушчаная, нібыта ён саромеўся глядзець у вочы таварышам, хоць у прыцемках гэтых вачэй і не было відаць.— А ёсць жа сярод вас, вядома, і камсамольцы, і колішнія грамадскія дзеячы, можа, нават стаханаўцы. Выраслі пад чырвоным сцягам, пляскалі ў ладкі, крычалі: «Будуем камунізм», а вось прыйшоў час падмацаваць словы справай — і няма вас... Шанавалі б хоць сваіх бацькоў, якія кроў пралівалі за рэвалюцыю, чорт пабяры. Падумалі б, кім бы вы былі, калі б не Кастрычнік...

— О-о-о-а-аў! — пазяхнуў на поўныя грудзі Ахро.— Я вырошчваў бы вінаград. Мой бацька меў добры вінаграднік непадалёку ад Тбілісі.

— А я...— адгукнуўся Васіль і таксама пазяхнуў.— Не, не ведаю, кім бы я стаў. Тут такое, што не раскажаш. Затое мой бацька быў бы яшчэ жывы. Наш род моцны. Дзядуля мой да дзевяноста дацягнуў...

— Ну, так...— пачаў быў яшчэ нехта, але тут пачуўся злосны Генадзіеў голас:

— Заткніся, Васіль. І ты, Ахро. Няма чаго хваліцца сваім кулацкім паходжаннем. Мой бацька таксама мог бы жыць, аднак ён загінуў. За рэвалюцыю. За тое, каб я змог стаць тым, кім хачу. А мяне з маленства вабіла медыцына. Калі б не фашысты, не вайна, я скончыў бы школу працоўнай моладзі, паступіў бы ў інстытут... Пайшоў у армію, не

паспеў агледзецца — і вось... Не надта я кемлю ў зброі, але застрэліцца б здолеў. Меў час. Толькі... Збаяўся? Не. Напэўна-такі, не. Мог уцякаць, зарабіў бы кулю ў спіну. Таксама не атрымалася... Дужа цяжка паміраць маладым, хоць тады пра гады не думаеш. Цяжка, Фёдар. Асабліва калі чакаеш ад будучыні так шмат добрага. А самае галоўнае, калі разумееш, што твая смерць не дапаможа жывым. Ну, скажы па праўдзе, Фёдар, ці было б айчыне лягчэй, калі б мы ўсе, хто тут ёсць, сваёй ахвотай залезлі ў магілу? Ворагу, кажаш, служым? Так яно, але мы змушаныя гэта рабіць, бо хочам застацца жывымі, вярнуцца дамоў і працаваць для свайго краю, для сусветнага сацыялізму. Вось дзе ўся наша віна, Фёдар!

Фёдар спыніўся каля Генадзіевага ложка. Хацеў быў прысесці побач, але перадумаў і толькі паклаў рукі на спінку ўзножжа.

— Віна! — цяжка выдыхнуў ён.— Не ведаю, ці мае хто права нас вінаваціць за гэта. Хоць, калі добра падумаць, айчыне было б якраз больш карысці, калі б мы цяпер ляжалі ў зямлі, чым працавалі на ворага. І ўсё роўна, я думаю, мы вінаватыя: не таму, што засталіся жывыя, а таму, што прымірыліся са сваім лёсам. Прызнайцеся, ці ёсць сярод вас хоць адзін, хто б рашыўся пакінуць гэтую сытую блыхарню і ўцячы ў лес? Зараз жа, не дрыжучы за сваю шкуру?

— Уцячы?!. З пустымі рукамі? — разявіў рот Генадзій.— Вось каб...

— Я сказаў — не дрыжучы за сваю шкуру,— рэзка абсёк Фёдар.— Не, вы не жадаеце самі адчыніць дзверы, бо думаеце не пра барацьбу, а пра тое, як уцалець. Уцалець жывымі трупамі.

— Але які сэнс гінуць па-дурному?..

— Відаць, табе жыць надакучыла, Фёдар,— адгукнуўся Васіль.— Што ж, джгай у лес, ніхто не трымае. Калі хочаш, яшчэ сала дадзім на дарогу.

— Калі ўжо ўцякаць, дык трэба ведаць куды,— умяшаўся яшчэ адзін голас.— А так, безвач, без нічога... Немцы пераловяць усіх, як гусянят; не хацелі карміць блох — будзем карміць чарвякоў.

Фёдар моўчкі падышоў да свайго ложка і лёг. Яшчэ доўга палонныя перакідваліся словамі, спрачаліся, і так і гэтак узважваючы прапанову, кінутую навічком; адны асуджалі яе за безразважнасць, другія прымалі з рознымі агаворкамі, аднак усе сыходзіліся на тым, што ўцякаць, не

маючы зброі, не наладзіўшы сувязяў з мясцовымі жыхарамі,— амаль што самагубства.

Фёдар у той вечар не вымавіў болей ні слова. Маўчаў і другі дзень, і трэці: ён ужо выкарыстаў увесь запас камяньчыкаў. Аднак жыццё ў дваровым лагеры ўжо не вярнулася ў старое рэчышча. Успаміны аб мінулым, якімі палонныя частавалі адзін аднаго, спатольваючы тугу па радзіме, уступілі месца іншым размовам. Па вечарах, вярнуўшыся з работы, яны абмяркоўвалі становішча на фронце, і хоць звесткі, атрыманыя ад вясковых жыхароў, былі ўзяты ў асноўным з акупацыйнага друку, усё-такі можна было скласці прыкладную карціну несумненных перамог Чырвонай Арміі. Усе задумаліся; нават тыя, чыя вера ў ваенную моц сваёй краіны пахіснулася пасля першых ашаламляльных удараў вермахта, пачалі думаць, што адзіны спосаб выкупіць віну перад сваімі — гэта ўзяць зброю ў рукі. «Няхай толькі наблізіцца фронт,— шапталі яны.— І днём з агнём нас тады не знойдзеш...» Аднак да лініі фронту было сотні кіламетраў, і ўсім здавалася, што канчатковае вырашэнне — справа далёкай будучыні. Ніхто, апрача Фёдара, не ведаў, што іхні новы лёс ужо тут, неўзабаве пастукае ў дзверы і крыкне: упусціце!

## VI

Фёдар. Нарэшце, таварышы, магу вам паведаміць радасную навіну: партызанскі сувязны ўжо тут. Спачатку, як і меркавалася гэта, мы меліся ўцякаць вечарам, пасля работы, проста з поля, але ў апошні час план змяніўся. У двух словах растлумачу, чым гэта выклікана. Па-першае, пакуль мы па адным збяромся ля возера Гілужэ, пройдзе багата часу. У двары агледзяцца, узнімуць шум... Калі немцы даведаюцца пра ўцёкі раней, чым мы патрапім у Вянцкі лес, мы прапалі. Другая прычына, якая прымусіла нас змяніць першапачатковы план,— няўпэўненасць у некаторых нашых таварышах. Я не кажу, што сярод нас могуць знайсціся здраднікі. Але хто гарантуе, што не знойдуцца такія, якія ў самы апошні момант завагаюцца і пойдуць не да абрыву Гілужэ, а назад у гэты хлеў? Гэтыя слабавольныя людзі, што страцілі здаровы глузд на кулацкіх харчах, мабыць, думаюць, што гаспадары абароняць іх ад нямецкай расправы. Мы не маем права пакідаць іх на волю лёсу. Таму вырашана ўцякаць проста адгэтуль усім разам. Заўтра, калі сцямнее, акуратна звяжам вартаўніка і...

Г е н а д з і й. Чаму заўтра, калі партызанскі сувязны ўжо чакае?

Ф ё д а р. Няма дваіх — Міхаіла і Глеба. Паехалі з абозам. Вернуцца толькі заўтра.

П ё т р. Заўтра можа не быць іншых.

Ф ё д а р. Сувязны будзе чакаць тры дні запар. А за гэты час...

І в а н. За гэты час нехта можа прабалбатацца, калі яшчэ не прабалбатаўся, і ўсе мы апынёмся ў лагеры для ваеннапалонных.

П ё т р. Калі ўцякаць, дык уцякаць неадкладна.

Г е н а д з і й. Трэба было б дачакацца Мішку з Глебам.

П ё т р. Чакаючы дваіх, можам загубіць пятнаццаць.

І в а н. Па ўсім відаць, так і будзе. Гэты дваровы стары — Пуплясіс, ці як яго там,— якога Фёдар сюды прыводзіў, надта ўжо нагадвае фальшывы грош.

Ф ё д а р. Ён — партызанскі сувязны. Ну і натура ў цябе — падазраваць кожнага.

І в а н. Маю на тое права, чорт вазьмі! Калі ў першыя дні вайны мы выбіраліся з гэтага бандыцкага краю, дык гэтакі самы стары ўсадзіў мне кулю ў лытку.

Ф ё д а р. А мне ўпхнулі кавалак хлеба ў рукі, калі немцы гналі на работу. І не адзін раз.

Г е н а д з і й. За гэта маглі і кулю зарабіць — немцы не шкадавалі. Як цяпер, памятаю жанчыну ў кажушку: едзе на возе з цукровымі буракамі, а мы, вязні, цягнемся следам. Тут адзін немчык угледзеў, што на дарогу з воза надта часта падаюць буракі. Падбег да той жанчыны, прыкладам аўтамата — у плечы, па галаве...

І в а н. Ха! Баба скінула ім трохі буракоў, і мужчыны расчуліліся. Ці не думаеш ты, што кулакі гэтай фашыстоўскай вёскі ад добрага сэрца цябе садзяць за адзін стол?

П ё т р. Хочуць больш выціснуць з чалавека — гэта зразумела. Блага паясі — многа не зробіш.

І в а н. Лухта! Думаеш, яны сваіх парабкаў так кармілі, пакуль не было савецкай улады? Напэўна, газет не чытаў да вайны? Іхнія парабкі і наймічкі працавалі на змор, у лахманах, ад голаду мерлі. Тады чаму гэта, скажы, нас гэтак добра тут прынялі? Э-э, не будзь дурнем. Хіба не разумееш, міжнародны капіталізм хоча нас з'агітаваць? Буржуазная прапаганда, вось што такое твая сытная ежа за адным сталом, цёмная твая галава.

П ё т р. К чорту! Калі гэта прапаганда, Іван, тады скажы, што яна пранікла ў тваё цела. Тры месяцы назад, калі

ты трапіў сюды з лагера ваеннапалонных, ты бразгаў касцямі, а цяпер...

І в а н. Яшчэ адзін, кулакамі з'агітаваны.

Ф ё д а р. Не чаўпі лухты, Іван. Дык вось, хлопцы, дамовіліся: заўтра, як зойдзе сонца, усе як адзін спяшаемся да абрыву. Таго, хто спозніцца, чакаць не будзем. А хто застанецца, няхай вінаваціць сябе, калі немцы паставяць да ямы.

В а с і л ь. Можа, паставяць, а можа, і не.

П ё т р. Відаць, мала іх ведаеш.

В а с і л ь. Немцам трэба работнікі, трэба хлеб. А трупы не напрацуюць.

І в а н. Бачыце, як ён заспяваў! Ці не пан настаўнік цябе прасвятліў? Бачыў, як вы сёння шапталіся за снапамі.

В а с і л ь. Ідзі к чорту.

П ё т р. Яму шкада пакідаць сваю пуховую ўдаву. Не тужы, Васіль, выйдзем на волю, яшчэ прывабнейшую адхопім.

В а с і л ь. Не хачу па-дурному рызыкаваць галавой.

Ф ё д а р. Дык заставайся, чорт пабяры. Дай бацькоўскі адрас, паведамім, дзе твае косці шукаць.

І в а н. Ён думае, што да гэтага не дойдзе. Так, Васіль? Ты думаеш, прадам іх, і немцы пакінуць мяне ў спакоі.

А х р о. Ну і не павесяць.

І в а н. А ты заткніся. Герой, бачыце, вышукаўся, джыгіт з кулацкага вінаградніку.

А х р о. Без гэтага вінаградніку і табе там, у сваім катуху каля Разані, давялося б тужэй зацягваць папружку.

Ф ё д а р. Перастаньце!

І в а н. Контра! Усе яны там, у гарах, контры.

Ф ё д а р. Якія д'яблы апанавалі вас, хлопцы? Сорам. Савецкія людзі, а плявузгаеце, як несвядомыя элементы.

І в а н. Не гарні ўсіх у адну купу, Фёдар. Я імкнуся ў бітву, галаву гатовы пакласці за матухну Русь, а яны свае вінаграднікі аплакваюць ды з ворагамі за снапамі балакаюць. Дык хіба я не маю падставы не паверыць у іх.

Ф ё д а р. Дык ты кажаш, Васіль, хочаш застацца?

В а с і л ь. Я ўжо сказаў — не бачу ніякага сэнсу ў тым, каб самохаць лезці ў пятлю. Але як усе, так і я.

Г е н а д з і й. А пра што гутарылі вы з панам настаўнікам за снапамі?

Васіль. Гэта цябе не тычыцца. Пан настаўнік — прыемны чалавек. Мы часта з ім гутарым.

Іван. Для таго і мову іхнюю вывучыў, каб дагадзіць ім. Не разумею, як ён апынуўся сярод нас. Чорт бы пабраў цябе з тваёй бабай, Васіль, я проста не разумею, чаму ты не падаўся добраахвотнікам у армію новага Пятлюры, здрадніка Уласава? Заклікалі ж немцы абараняць белую айчыну.

Васіль. Гэта самае і ты мог бы зрабіць. Прынялі б, не бойся.

Фёдар. Годзе! Канчайце, да д'ябла, гэтую балбатню! Чаму ты, Васіль, упэўнены, што немцы цябе не зачэпяць, калі застанешся?

Васіль. Хіба я сказаў, што ўпэўнены?

Фёдар. Што ж, заставайся. Хто яшчэ хоча застацца?

Іван. Ты прасцей кажы, Фёдар: ці ёсць яшчэ здраднікі?

Ахро. Навошта чаўпці лухту? Вы ўцечаце, калі вам удасца, а астатніх расстраляюць. У гэтым я не сумняваюся.

Тахаві. Ёсць адзін шлях: альбо ўсім даваць драла, альбо ўсім заставацца.

Фёдар. Пакуль не прыйдуць нашы і не вызваляць?

Пётр. Альбо фронт падсунецца бліжэй...

Васіль. Нарэшце загаварылі разважлівей. Сапраўды, хлопцы, чаго мы даможамся, калі пойдзем у лес? Яшчэ пытанне, ці не пераловяць нас немцы, пакуль туды дабяромся. Але калі і дабяромся, не маці ж родная там чакае. Галовы паляцяць, і агледзецца не паспеем. Скончыцца вайна, іншыя будуць жыць, а нас не будзе на свеце. Давайце пашкадуем сваіх блізкіх. Мацярок, сясцёр, братоў, дзяцей. Хіба мала яны слёз пралілі, чакаючы нас? І хіба так ужо кепска нам тут? Працуем на чужых, прыніжаемся, вядома. Але ў лагеры ваеннапалонных нашым таварышам яшчэ горш. А нас туды не забяруць. Немцаў цяпер не гэта турбуе. Ім трэба рабочая сіла. Так і настаўнік сказаў. Немцы надта многа людзей пазабівалі, а ім трэба хлеб, зброя. Яны нас не будуць чапаць, сказаў настаўнік. Дык які сэнс пляваць на хлеб, якога нам тут удоваль хапае, і некуды ісці смерці сабе шукаць?

Іван. Дык вось пра што ён з тым фашыстам гаварыў за снапамі!

Генадзій. Васіль, чаму ты зрабіў так?

Ф ё д а р. Неадкладна трэба ўцякаць, пакуль гэты настаўнік не данёс немцам.

П ё т р. А Міхаіл з Глебам?

Ф ё д а р. Цяпер ужо няма іншага выйсця. Кожную хвіліну могуць нарвацца немцы.

І в а н. Вужака, хахол! Двух таварышаў загубіў!

В а с і л ь. Настаўнік не выдасць...

Ф ё д а р. Замоўкні, Васіль, мы больш не верым ніводнаму твайму слову.

І в а н. Трэба яму назаўсёды заткнуць рот. Я асабіста не жадаю насіць у кішэні бомбу замаруджанага дзеяння.

Г е н а д з і й. Звязаць яго. Няхай застаецца тут, як і хацеў.

І в а н. Не, я яго ліквідую, гэтага хахла. Немцы сапраўды могуць пашкадаваць такую паскуду.

В а с і л ь. Хлопцы... таварышы... браты...

П ё т р. Не крычы!

І в а н. У цябе трапны ўдар, Пётр. Адразу з капытоў...

Ф ё д а р. Заткніце рот. Рукі і ногі — папругамі. Хутчэй!

І в а н. Да д'ябла папругі! Яны нам самім спатрэбяцца. Ану, хлопцы, давай падушкі! Хацеў мяккага жыцця, няхай і канчае мякка, сукін сын.

Ф ё д а р. Іван, Іван...

І в а н. Хочаш, каб ён па нашых слядах пусціў?

А х р о. Быдлякі...

Г е н а д з і й. Трэба паведаміць таму з маёнтка, Пуплясісу, ці як там яго.

П ё т р. Яшчэ чаго не хапала! Каб яго баба лямант нарабіла?

У с е. Праўду кажа.

Ф ё д а р. Шкада старога.

І в а н. Нічога яму не будзе. Яны тут усе свае. Лепей дваровы склеп абшастаем. Запас у лесе спатрэбіцца.

## VII

Трымаючы ровары, яны ішлі па лугах.

Жанчыны даілі кароў, а дзецюкі, распрогшы потных коней, вялі іх пасвіцца на канюшыну. Грукалі па палявой дарозе калёсы — нехта, накасіўшы вікі свінням, спяшаўся ў вёску. Там брахалі сабакі, дыміліся каміны, гаманілі дзецці і рыпелі калодзежныя жураўлі. Вечэрняе неба распускалася над зямлёю расістаю кветкай цюльпана. Дагараў за-

хад, і, набрынялае ягонай чырванню, яно рассявала над туманлівымі палямі халаднаватую медзь месячнага бляску.

А яны ўпарта вялі свае ровары. Міма кароў, якіх кагадзе падаілі жанчыны, міма коней, што ўдоваль пакачаліся па зямлі і цяпер смакавіта хрумсталі канюшыну, міма бабак, што парассядаліся на ржышчы, як жанкі на дзядзінцы перад касцёлам. Сцежка злучылася з палявою дарогай, потым адасобілася ад яе, пабегла ўздоўж раўка, зарослага вербалозам, а Мілда ўсё ішла наперад.

— Куды ты мяне вядзеш? — не вытрымаў ён.— Пара падумаць і пра начлег.

— Я не хачу ні пра што думаць,— адказала яна сваім мілым шчабятлівым галаском.— Мы будзем ісці, пакуль не застанецца ніякіх сцежак, ніякіх дарог. Адно толькі палі, дрэвы і птушкі. Потым захочам дамоў, але не знойдзем дарогі. Завядзі мяне куды-небудзь, Гедміс, каб я ніколі не знайшла дарогі дамоў.

— І для гэтага ты мне прызначыла спатканне? — стрымана спытаўся ён, падазраючы, што яна хітруе: за гэтыя пару гадзін, якія яны былі разам, хапала і пацалункаў, і ласкавых слоў, аднак ён адчуваў — самае галоўнае яшчэ не сказана.

— Я засумавала па табе.— Яна паглядзела цераз плячо і ўсміхнулася, аднак так, што ў яго дрыгнула сэрца.

— Прачытаўшы тваю запіску, я падумаў, што здарылася нешта куды важнейшае.

— Я — чалавек настрою, Гедміс. Настрою,— падкрэслена паўтарыла яна, аднак гэта прагучала няшчыра.

— Адомас праўду казаў: не ўмееш хлусіць.

— Калі ласка, калі мы з табою ўдваіх, не згадвай я г о.

— Добра, такую ласку я зраблю. Аднак і ты не крыві душою.

— Хочаш, каб я сябе змушала.

— Калі так, не трэба. Хоць вельмі сумняваюся, ці магчыма каханне паміж мужчынам і жанчынаю, калі нехта з іх трымае хвігу ў кішэні.

— Гедміс...— Яна раптам спынілася і ўсім целам павярнулася да яго.— Паглядзі на мяне. Прыгадай апошнія сустрэчы. Усё-ўсё, пра што мы гаварылі. Калі ты адчуваеш чалавека, ты не можаш сказаць, што я цябе не кахаю.

— Калі я цалую губы і адчуваю схаванае за імі слова, я прыгадваю легенду пра Хрыста і трыццаць Юдавых срэбранікаў. Такі я ўжо чалавек, Мілда. Хачу, каб жанчына, якая належыць мне, не была мне загадкай. Іншым — загад-

ка, іншым — таямніца, а мне, бы крыніца, празрыстая да самага дна.

Сціснуў яе ў абдымках. Такую маленькую, крохкую, безабаронную, але неадольную сваёй прыгажосцю. Адчуваў трапятанне кожнай яе жылкі. Маленькія пругкія кулачкі грудзей прагна штурхаліся ў яго грудзі, і ягоная рука, у адказ на гэты бязмоўны заклік, паволі пасоўвалася па яе напружаным у чаканні целе, па гэтым даўно адкрытым мацерыку, на якім кожны раз ён знаходзіў нешта новае і непаўторнае. Гэты маленькі свет дасканалых ліній належаў яму! Гэта яго жанчына! У ім трыумфаваў мужчына, што быў шчаслівы, паддаўшыся салодкаму пачуццю пустаты. Аднак праз аглушальны шум страсці яму чуўся звон нейкай іншай струны, і гэты звон быў поўны пашанлівага здзіўлення і ўдзячнасці прыродзе, якая дала яму такі дасканалы твор мастацтва.

Ён паслаў плашч тут жа, між ровараў, пакладзеных на траву. Потым, калі яна вялай рукою гладзіла яго валасы, яму стала сумна і прыкра. Учора, ад'язджаючы ў камандзіроўку, яе, можа, лашчыў і Адомас. Ён адштурхнуў яе руку. Хацеў сказаць: «Я не магу цябе дзяліць з іншым». Аднак толькі адштурхнуў руку.

— Не трэба было табе выходзіць замуж за Адомаса.

— Сама ведаю. Але здараецца, што жанчына адчувае сябе слабою і баіцца самоты. І калі на той час якраз падвярнуўся мужчына, якому я калісьці была неабыякавая...

Мігатнула, сарваўшыся, зорка-знічка.

— Мая...— прашаптала яна.

Ён нічога не адказаў. Думаў: больш так цягнуцца не можа, трэба нарэшце канчаць з гэтай пакутлівай няпэўнасцю.

— Магчыма, усё гэта і так,— сказала яна, па-свойму растлумачыўшы яго маўчанне.— Калі людзі па-сапраўднаму кахаюць адно аднаго, паміж імі не можа быць ніякіх таямніц. Едучы на спатканне, я цвёрда вырашыла, што ўсё табе раскажу, а потым спужалася. Я баюся страціць цябе, Гедміс! Але болей так не магу, мой любы. Трэба раней было гэта зрабіць, пакуль мы не паспелі так зблізіцца. Але што зробіш... Пацалуй мяне.

Гедымінас занепакоена паглядзеў на яе.

— Ну, пацалуй, пацалуй. Можа, потым не захочаш і паглядзець у мой бок.

— Ну, гэта ўжо трохі па-акцёрску,— засмяяўся ён.—

Чаго добрага, я і на самой справе паверу, што валодаеш талентам акцёркі.

Халодныя рукі абвіліся вакол шыі, і ён, прыпаўшы да яе гарачых вуснаў, зноў адчуў неспатольную смагу.

— Даруй,— расчулена прашаптаў ён.— Я раўнівы недавярак, толькі і ўмею, што абражаць цябе. Даруй, Мілдужэ.

Тады яна заціснула яго твар у далоні і паглядзела ў вочы.

— Ты кахаеш мяне,— сказала яна пераканана.— Пакуль што яшчэ ты кахаеш мяне.— І раптам заплакала.— Гедміс... Гедміс... Гедміс...

— Ну чаго ты?.. Не трэба... Я разумею цябе...— У яго таксама сціснулася сэрца, затуманіліся вочы: ён адчуваў сябе такім самым няшчасным і бездапаможным, як і яна. Аднак цяпер ужо не мог не сказаць таго, пра што нясмела думаў, калі ехаў на спатканне з ёю.— Пакінь яго. Я забяру цябе ў вёску. Мінулы раз ты казала: добра было б уцячы куды-небудзь на бязлюдны востраў і жыць там, як Рабінзон з Пятніцам. Я маю такі востраў. Перабірайся ў Лаўксадзіс.

Яна ўся ператварылася ў слых.

— Не бойся, нічога кепскага ён не пасмее нам зрабіць. Я добра ведаю яго — баязлівец і целяпень. Атайбуемся ў майго бацькі. Месца многа, і стары добры. Хочаш? Дык зараз жа сядаем на ровары і круцім туды! Сапраўды, Мілдужэ, навошта табе вяртацца ў Краштупены?

Яна адхіснулася ад яго. Так раптоўна адхіснулася, што ён не паспеў нават разгледзець яе твару. Павярнуўшыся спіною, доўга выцірала хусцінкай мокрыя шчокі.

— Я сур'ёзна кажу. Вядома, дадасца клопату па гаспадарцы. І выгоды не тыя, як у горадзе, сама разумееш. Чаму маўчыш?

— А што я магу адказаць? — Яна загаварыла нечакана спакойна, холадна, нават з ноткай цынізму.— Я разумею, яны ад дабрыні сардэчнай, гэтыя пажаданні. Ты высакародны, дужа высакародны, Гедміс. На жаль, я не магу табе адплаціць тым самым. Сам жа сказаў, што, цалуючы мае губы, адчуваеш за імі схаванае слова. Я не крыніца, празрыстая да дна, мой мілы.

— Ведаю,— адказаў Гедымінас і спахмурнеў.

— Я табе здраджвала. Не з ім, вядома,— з іншым мужчынам. Прыгадваю адзін твой верш, у якім ты апраўд-

ваеш фізічную здраду, калі ў гэтым не ўдзельнічае душа жанчыны. Я здрадзіла табе толькі фізічна.

Гедымінас сеў. Хацеў павярнуць яе да сябе і паглядзець у вочы.

— Не трэба. Ляжы і маўчы. Калі хочаш, каб паміж намі не было таямніц.

Ён упаў на спіну, нібы ад удару. Мяккі картавы голас струменіўся аднекуль з-пад зямлі. Гедымінас глядзеў у медную пространь неба, а бачыў там адно толькі нахіленую Мілдзіну спіну. Голую пяшчотную спіну. А на ёй белую, у пярсцёнках Дангелеву руку. А можа, тады ён зняў гэтыя пярсцёнкі і паклаў іх на крэсла побач з гадзіннікам? «Духоўная адданасць... Ха! Яна прымала ў сябе яго цела і ў той жа час думала пра мяне...»

— Што ж, Дангель імпазантны мужчына. Але не магу ўявіць, каб ён гаварыў: «Я кахаю цябе». Хутчэй за ўсё ён сказаў: «Ты — прыемная жанчына».

— Не. Ён сказаў: «Вы разумная жанчына, пані Мілда, і адразу мяне зразумелі. Хоць сёння Адомас і перапрашаў за ўчарашнія выбрыкі ў Баярчусаў, аднак бы я яшчэ падумаў, дужа добра падумаў, ці варта гэта забыць».

— Адомаса ратавала?

— Магла б дадаць: і цябе. Аднак гэта было б няпраўда. Калі б Дангель адразу запатрабаваў такую цану, атрымаў бы аплявуху. Аднак ён быў карэктны і надзвычай ветлівы. А я — разгубленая, выбітая з каляіны. І зняважаная, Гедміс. Адомасаваю слабасцю, яго прыніжэннем перад Дангелем...

— Словам, тыповая жаночая помста.

— Магчыма. Называй як хочаш. Я так і ведала, што ты нічога не зразумееш.

— Чаму ж? Разумею. Ёсць мужчыны, якія шукаюць суцяшэння ў чарцы гарэлкі. Жанчыны, аказваецца, алкаголь замяняюць сім-тым іншым.

— Добра, больш я не буду расказваць.

— Гавары. Хоць і без гэтага зразумела: вы ашуквалі мяне, пакуль табе не стрэліла ў галаву думка прызнацца. Аднак я не маю права злавацца: я ж таксама дапамагаю табе ашукваць Адомаса. І дзіўна: не адчуваю ніякіх згрызот сумлення.

— Магу быць дакладная: пасля гэтага я мела з ім справу ўсяго тры разы. І ўжо з разлікам — выцягнуць з паліцыі Адомаса. Ён нічога пэўнага не абяцаў, казаў, не ад яго толькі гэта залежыць, аднак нічога і не стараўся рабіць.

Некалькі дзён назад ён дагнаў мяне на аўтамабілі ў прадмесці, хацеў пасадзіць у машыну. Вырвалася. Вечарам, выдумаўшы Адомасу нейкую пільную справу, зайшоў да мяне ў дом. Хацела выгнаць яго. «Ты дужа не клапаціся,— сказаў ён,— пра свайго мужа. Мы не маем падставы звольніць яго са службы — ён сумленны служака». І тады, Гедымінас, ён мне ўсё расказаў, усё расказаў... Ах, многія і раней гаварылі, што Адомас расстрэльваў людзей, але я не верыла. Я не хацела верыць у гэта, Гедымінас! Не з любові да яго — проста інстынкт самазахавання. Я ж яго жонка, усё-такі я яго жонка... Я столькі прыніжалася перад ім, перад гэтым паганцам Дангелем! Я яму прадалася. А ён усё ведаў і маўчаў. Я выштурхнула яго за дзверы. Думала, звар'яцею — так гідзілася самое сябе. А ён: «Цішэй, цішэй, пані Мілда. Мы шмат што выбачаем жанчынам, але калі яны пераступаюць мяжу, за якой пачынаецца палітыка, тады караем іх паводле закону нароўні з мужчынамі...»

Гедымінас крайком вока паглядзеў на яе. Згорбленую, нібы яна чакала ўдару. Цяпер ён не бачыў ні голай пяшчотнай спіны, ні Дангелевай рукі, аздобленай пярсцёнкамі. А можа, гэтага наогул ніколі не было? Можа, гэта толькі казка, сон летняй ночы? Такі самы дзіўны, як і легенда пра ўкрыжаванага паміж двума злачынцамі.

— Уставай.— Ён узяў яе за плячо, павярнуў да сябе. Хацеў ударыць у змярцвела-бледны твар, аднак руку спыніў малітоўны дзіцячы позірк.— Ужо холадна. Можаш прастудзіцца. Хадзем адгэтуль.

Яна паслухмяна ўстала. Моўчкі паднялі ровары, пакацілі іх па роснай шаматлівай траве. Ён — наперадзе, яна — следам. Крокі, крокі... Роспачныя крокі ўцекачоў. А навокал балаціны згуслага туману. Атуленыя па чэрава, у іх панура стаяць каровы і коні. У імгле тонуць кусты і хутары.

Доўга, неймаверна доўга коцяць яны свае ровары і маўчаць. Год, дзесяць, а можа, і сто гадоў. Усе акіяны планеты паспелі выйсці з берагоў і затапілі вяршаліны дрэў. Быццам краб, ён паўзе па дне акіяна. Тоны вады на адзін квадратны сантыметр. Раздушаць! Жахлівы цяжар самоты навальваецца на яго, як усе горы зямлі. Адлегласць растварылася. Пустата, вакол адна пустата, адна бясконцая прастора, у якой ён блукае, нібы метэор у космасе, што яшчэ не трапіў у поле прыцягнення Зямлі. Смутак страты сціскае сэрца. Душы холадна і няўтульна ў гэтай Арктыцы белай імглы.

— Які туман! — крычыць ён: так хочацца пачуць у адказ жывы чалавечы голас.— Як восенню.

Але ніхто яму не адказвае. Павярнуўшыся, глядзіць на ватную сцяну. За ёю панура і пуста. Чакае, пакуль наблізяцца яе крокі. Іх не чуваць.

— Мілда!

Ціша.

Ён стаіць, адчуваючы, як усё мацней б'ецца сэрца. Потым ускоквае на ровар і імчыцца назад. Пралятае палявая дарожка, па якой ён толькі што выбраўся на бальшак. Далей бездаглядная стадола — месца іхніх сустрэч, вывараная таполя каля дарогі.

— Мілда! Мілда!

Нарэшце! Пад'язджае да яе, сцягвае з ровара.

— Адыдзі!.. Пакінь!.. Прэч!..

— Вар'ятка, мая маленькая вар'ятка...

— Паэт! Узвышаныя думкі, прыгожыя вобразы... Усе вы, мужчыны, становіцеся звычайнымі самцамі, зачапі толькі вашу ўласнасць.

Падымае яе на рукі, лёгкую, нібы дзіця, заплаканую, але паслухмяную. Ён зноў не адзін у Арктыцы белай імглы.

— Перастань! Супакойся! Даруй мяне, Мілдужэ... Ты мусіш таксама зразумець і мяне: у такіх выпадках нялёгка... Калі б цябе не кахаў...

— Але, калі б я цябе не кахала, ты ніколі ў жыцці не пачуў бы таго, што я расказала сёння, і праз некалькі дзён мы ўжо, магчыма, жылі б у твайго бацькі.

— Я разумею цябе, мая маленькая. Ніколі гэтак добра не разумеў, як разумею цяпер.

— Я заўсёды не дужа лагодна глядзела на жанчын, якія гандлююць сваім целам...

— Ну, досыць ужо, забудзем!..— перапыніў ён, сціскаючы яе ў абдымках.— Ты ахвяравала сабой... дзеля кагосьці. Дарма, вядома, але важны не вынік, а намер.

— Не, не! Я зрабіла гэта перш за ўсё дзеля сябе, толькі дзеля самой сябе, Гедміс. Думала, ён яшчэ не запэцкаў рук. Не хацела быць жонкай забойцы.

— Бачу, ты суцэльнае ўвасабленне адных загаы. Ніколі не ведаеш загадзя, што табе стрэліць у галаву. Цябе трэба трымаць у аброці, шэльмачка. Альбо зусім адпусціць. Так, найлепш было б адпусціць зусім. Але што рабіць, калі не атрымліваецца? — Ён нявесела ўсміхнуўся і, апусціўшы яе на дол, сагрэў азяблыя губы доўгім пацалункам.

## VIII

Гедымінас стаіць, зняўшы шапку і апусціўшы галаву. Мухі абляпілі губы нябожчыка. Жаўтлява-сіні твар пачварна раздзьмуты. А быў жа прыгожы хлопец. Вясёлы, прыязны і так моцна хацеў жыць. «Хоць бы сківіцу падвязалі хусцінкай». Але ці гэтакі цяпер час? Вось і фурманка пад'ехала: двое паліцэйскіх бяруць Васіля — адзін за плечы, другі за ногі — і закідваюць на яе, нібы якое бервяно. Трое вяскоўцаў з рыдлёўкамі цягнуцца ўслед за фурманкай: закапаюць на Французскай горцы.

Людзі разыходзяцца невялічкімі купкамі, абмяркоўваючы навіну. Задушаны. Свае пастараліся — гэта зразумела. Відаць, не хацеў разам з імі ўцякаць у лес. І які д'ябал падбіў іх учыніць гэтакую штуку?! Вартаўніка звязалі, дваровы пограб ачысцілі — забралі з сабою сала і кумпякі цэлай свінні. Ліха з ім, з гэтым дваром і з гэтым панам. Горш за ўсё, што ў самае жніво вёска засталася без рабочых рук. Тыя, што не мелі палонных, цяпер смяюцца: дараваны конь да пары да часу цягне. Аднак усе суровеюць, згадваючы, як страшэнна ўстрывожыўся стараста Кучкайліс.

На самым світанку, калі ўгледзеў, што парабкоўня апусцела, Кучкайліс кінуўся ў Краштупены. Прыехаў грузавік, поўны ўласаўцаў, сярод якіх было некалькі паліцэйскіх і нямецкі афіцэр. Акружылі вёску, абшукалі кожную сядзібу. А начальства ў гэты час сядзела ў фальварку, у пана Дызэ. Снедалі, радзіліся. Потым палуднавалі, зноў радзіліся. Паклікалі Кучкайліса. А Васіль валяўся на траве каля парабкоўні.

Кучкайліс выйшаў ад пана Дызэ перапалоханы, збляднелы, нібы зняты з крыжа. Ён насіўся па вёсцы як ашалелы і ў кожным двары паўтараў тое самае. («Ой, ой, яшчэ невядома, чым гэта ўсё скончыцца. Пуплясіса ўжо схапілі, павезлі ў Краштупены: галавой, бач, адказваў за палонных, дый наогул ён цёмны тып, старастам быў пры рускіх. Улада, бач, у такіх выпадках не цацкаецца — айн мамент, і капут»). І пачалі ва ўсіх канцах вёскі вішчаць свінні. На загуменнях загарэліся вогнішчы з саломы, вёска ўсцяж паблакітнела, запахла паленым. Жанчыны вываროчвалі яшчэ гарачыя вантробы, мужчыны сякерамі seклі тушы напалам і, пасыпаўшы соллю, цягнулі да бальшака. А хлопцы генерала Уласава з паліцэйскімі, пад пільным наглядам немца ў высокай шапцы, закідалі гэ-

тыя палавінкі ў грузавік і адна на другую складвалі ў штабелі. Праехалі праз усю вёску і наладкавалі машыну да самага верху, нібы дрывотню дровамі. Не было тут адно свінні пана Дызэ, ну і пан Кучкайліс, вядома, не закалоў сваю.

Бадай іх ліха ўзяло! Мала таго што давай ім свінню, яшчэ соль, такую дарагую ў часе вайны, расходуй на іх... Маркоціліся, наракалі, але разам з тым і цешыліся: можа, адкупіліся свіннямі, не запатрабуюць людскіх галоў. І здзіўляліся, што так жвава ўправіліся. Усяго толькі пару гадзін таму назад рохкаў у загарадцы падсвінак — і вось ужо тырчыць падпалены, скручаны абаранкам хвосцік з-за борта грузавіка. Паехалі, мацюкаючыся, падміргваючы дзяўчатам, а немец у высокай шапцы сядзеў у кабіне побач з шафёрам і мройліва ўсміхаўся; у думках ён ужо ўкладаў у пасылку ружовы літоўскі кумпяк, які неўзабаве вышле сваёй фраў у фатэрлянд. Засталіся толькі паленыя плямы на загуменнях, некалькі паліцэйскіх і Васіль, што распасцёрся на траве, вытканай духмянымі галоўкамі рамонкаў. Аднак і яго вось кінулі на фурманку.

Гедымінас ідзе следам. Адзіны праважаты. Гаўдрымасава ўдава — Васілёва каханка — прыйшла, пакруцілася і знікла. Маруся, вядома, прыйшла б, праводзіла б. Аднак Марусі няма — паліцыя забрала разам з Пуплясісам. На паўдарозе далучаюцца Чорны Кукса і двое падлеткаў. Паліцэйскі кпіць: можа, псалом зацягнем, мужыкі? Гедымінас іранічна пазірае на яго. («Ты не думаеш, дружа, што і цябе калі-небудзь гэтак могуць павезці?») «Зноў засталіся мы з бацькам удвух,— думае ён, горка пасміхаючыся.— Самы час прывесці гаспадыню». Глядзіць на Васіля, а бачыць Мілду. Яе зграбныя ножкі трасуцца на фурманцы, галава нахілілася набок. Гедымінас ацяруршваецца ад гэтага пачварнага наслання, выдзірае яго, нібы кляшча з цела, але ўсё роўна ў душы застаецца знак нейкага страху. І кепскае прадчуванне галодным ваўком блукае наўкола. Не, не трэба было ёй саступаць. Але ці магла яна паступіцца сваёй годнасцю?! «Мы, Гедміс, не зладзеі і не якія-небудзь злачынцы, мы баронім свае права на шчасце. Трэба Адомасу паведаміць усё як ёсць». Але ці зразумее ён? Ці захоча зразумець?

...Апусцілі Васіля ў яму. Ніякай труны, закапаць, як сабаку! — такі загад начальства. Але калі мужыкі, выняўшы з фурманкі дошку, прыкрываюць ёю нябожчыка, а потым насыпаюць надмагілак і дзержаком рыдлёўкі вы-

ціскаюць на ім крыж, паліцэйскія нічога не кажуць. Моўчкі паселі ў фурманку і пагрукацелі з пагорка ўніз. «На бязлюдны востраў... Ха! Магчыма, недалёка той час, калі можна будзе сказаць: вёска нябожчыкаў. Першага ўжо закапалі». Ён чуе, як побач пляцецца Чорны Кукса. Нешта кажа, аднак Гедымінас не адразу разумее сэнс. Быццам шукаючы гэты сэнс, ён глядзіць на яго патрэсканыя, невядома калі чышчаныя чаравікі, на абшморганыя калошы, якія падмятаюць зямлю. Потым позірк падскоквае ўгору і спыняецца на Куксавай кашулі. Брудная, зашмальцаваная. Мабыць, не бачыла мыла з таго самага дня, як забралі яго жонку. Хацеў насварыцца — як можна так апусціцца! — але Чорны Кукса не мае ніякай ахвоты слухаць папрокі.

— Шкада Матавушаса,— нарэшце выразна ён чуе Куксаў голас.— Прапаў мужык ні за што ні пра што.

— Не трэба было лезці не ў свае справы.

— Як тут сказаць... Пуплясісу было ўсё роўна: лезці ці не лезці: пан жа з самага пачатку паабяцаў, што злупіць з яго скуру, калі ўцячэ хоць адзін палонны. Дык ці не лепей, што драпанулі ўсім гуртам?

— Ты яшчэ можаш жартаваць, Путрымас? Знаходзяцца безадказныя людзі, авантурысты, падбухторваюць дурняў, і вось вынік: аднаго самі задушылі, другога павесяць альбо расстраляюць, а тых дваіх, што былі ў ад'ездзе і не ўцяклі, таксама чакае магіла.

— Хто іх падбухторваў, каб іх качкі стапталі, Гедміс?

— Васіль быў куды шчырэйшы за цябе, хоць яго за язык і не цягнуў.

— Васіль... Дык вось яно як! — Чорны Кукса глядзіць на Гедымінаса, разявіўшы рот. Некалькі хвілін змагаецца са спакусай, стараецца адагнаць думку, што ўзнікла ў ягонай галаве, але гэта звыш яго сілы.— І ты яго падтрымаў?

— Ну, так, падтрымаў, бо ён жа разумна гаварыў: ён не хацеў уцякаць.

— Цяпер зразумела, чаму яго знайшлі мёртвага пад ложкам...

— Падзякуй сваім партызанам.

Але Чорны Кукса ўжо не зважае на асцярожнасць.

— Чаму ім, а не каму-небудзь іншаму? — кашляе ён у каўнер бруднай кашулі.— Дамаўляліся ўцякаць сёння ўначы, але Васіль, відаць, стаў пярэчыць, вось яны і спалохаліся, што ён выдасць. Паспяшаліся. Праз гэта і Ма-

тавушас застаўся — ён меўся ўцякаць разам з імі. І тыя двое палонных.

Гедымінас, аслупянеўшы, доўга хапае паветра, пакуль нарэшце не выдыхае слоў, што паляць яму вусны:

— Значыць... значыць, я вінаваты?

— Часам вельмі мала трэба, каб штурхнуць чалавека ў той альбо іншы бок, пане Гедымінас.

Кроў ударыла Гедымінасу ў галаву. Дзе яго прыроджаная стрыманасць, цвярозы розум? Дзе іронія, што ратавала ў крытычную хвіліну?

— Вы прывыклі звальваць віну за свае калектыўныя ліхадзействы на аднаго чалавека,— выбухае ён, з нейкай таемнаю асалодай паддаючыся гневу.— Я вінаваты, што не падбухторваў Васіля ўцякаць, Васіль — што не хацеў уцякаць, а мы абодва з Васілём разам вінаватыя, што загублены чатыры чалавекі. А ты не падумаў пра тых чатырнаццацярых, якія ўцяклі? Што іх чакае? А вёска? Хто ведае, якую яшчэ чартаўшчыну могуць прыдумаць немцы. Можа, сёння альбо заўтра возьмуць некалькі заложнікаў — і да ямы. Хацеў бы я паглядзець, як ты, стоячы над магілай, дзякуеш партызанам. Змагары, каб вас пярун пабіў! За кошт мірнага насельніцтва — жанчын, дзяцей. Калі так ужо закарцела пагуляць са зброяй, пераходзьце лінію фронту, станавіцеся плячо ў плячо з салдатамі. Але тут, вядома, бяспечней. Ім, партызанам. Толькі не бяззбройным, ні ў чым не вінаватым людзям...

Чорны Кукса маўчыць. Не падцягвае нагавіц, што спаўзаюць, не цікуе куткамі вачэй па баках. Пляцецца, ледзьве перастаўляючы ногі, сагнуўся дугой. Яшчэ болей счарнеў, аброс брудам, вось-вось асядзе ў зямлю. Спыніўся. Павярнуўся, як флюгер ад моцнага ўдару ветру, варушыць пакусанымі губамі.

— Я маю дзяцей, пане Гедымінас... Маю дзяцей,— паўтарае ён, уставіўшы вочы ў зямлю.— Лепш, каб ніхто не даведаўся, што я тут нагаварыў...

Гедымінас, вырачыўшы вочы, глядзіць на Чорнага Куксу, як на вар'ята. «Лепш, каб ніхто не даведаўся, што я тут нагаварыў...» Чаму не скажа проста: «Не выдавай мяне, пане Гедымінас...»

Уваччу замігцела. Замахнуўся. Зараз урэжа па гэтай мэмры, што скрывілася ў ліслівай грымасе. Але ў апошні момант авалодаў сабой і са шчырай пагардай плюнуў яму пад ногі.

— Не, не прасі, не пашкадую,— сыкае ён, трасучыся

ад злосці.— Зараз жа пабягу да Кучкайліса і ўсё яму раскажу. Чалавеку, які загубіў чатырох, нічога не значыць загнаць на той свет і пятага... Свіння ты, Путрымас, горшай свінні я не бачыў!

— Пане Гедымінас... пане настаўнік...

— Не, горшай свінні я не бачыў...— За некалькі скачкоў ён адарваўся ад Чорнага Куксы. Ага, неўзабаве і Вайнарасаў канал: вось гэтак, уздоўж яго, ён выйдзе проста да сваёй сядзібы.— Горшай свінні я не бачыў... Горшай свінні... горшай свінні...— Гудзе ён увесь ад макаўкі да пякучых ступняў. Прадзіраецца праз кусты вербалозу, нібы кіпучы кацёл. Не адчувае, як хвошча па твары вецце, спатыкаецца аб камяні і купіны, схаваныя ў траве.

## *Раздзел другі*

### I

Толькі па адной чарцы, пане начальнік паліцыі. Болей не прапаную: па адной-адзінай. У імя старога знаёмства. Што, хіба не прыпамінаеце? Ах, не будзьце такія сціплыя, пакіньце яе непаўнацэнным. На-а-ам, пане начальнік паліцыі. Давайце стукнемся. Трах-трах-та-та-та. Чароўная музыка аўтаматычных флейтаў. Maschinenpistole [1]. Апошнія акорды развітальнага маршу. Вы ж нас праводзілі ў лепшы свет, пане начальнік паліцыі, дык нашто знаёміцца кожную ноч нанава? Тлумачыць, прасіць, перапрашаць? Давай без цырымоній, звышчалавек. Feuer! Трах-та-ра-рах-та-та-та-та... Непаўнацэнны становіцца дасканалым толькі пасля смерці. Мы дасканалыя, пане начальнік паліцыі.

Гвазданудь бы па гэтай агіднай выскаленай мордзе! Аслізлы шар: трухлявыя храшчы вушэй, збуцвелы чэрап, дзве чорныя дзіркі ў касцяной амбразуры лба. Вяршыня дасканаласці. Чакайце, колькі ён праляжаў у зямлі, пакуль дасягнуў гэтай дасканаласці? Год? Не, трынаццаць месяцаў. Дзень-другі туды-сюды. За родзіну, за Сталіна! Да здраўствует... А потым і астатнія параспускалі глоткі. Вар'яты! Затое лягчэй спусціць курок, калі перад табою вар'ят. Пэўна, з ім можна стукнуц-

[1] Аўтаматы *(ням.)*.

ца чаркамі. Што, на брудэршафт? Пацалавацца? Не, не, дзякуй у шапку! Дасканалы з недасканалым...

Мы чхаем на гэту розніцу, пане начальнік паліцыі. Зямля ўсіх удасканаліць.

Жоўтымі зубамі ўпіўся ў губы. Клейкі смурод гнілога мяса. Кашчавыя пальцы, пахрустваючы, лезуць па горле ўгору.

Паветра! Паветра!

Мёртвым не трэба паветра, пане начальнік паліцыі. Ха-ха-ха!

Дзікі рогат. Злева. Справа. Наперадзе. За спіною. Грукочуць зямля і неба. Квадрат 517: камендатура — гестапа — SS — паліцыя. Пяць соцень вар'ятаў, якія трасуцца ад рогату. Д а з д р а ў с т в у е т... Я іду па мосце з трупаў. То наступаю на грудзі, што яшчэ дыхаюць, на твар, што яшчэ не паспеў застыгнуць, то правальваюся ў варушлівае месіва рук і ног. Ад паху крыві і гною перараймае дыханне. Я — гнаявы жук у карыце, у якое накіданы трупехлыя водкіды на спажытак свінням. А там высока, па краях гэтага карыта, яны — здані, што не п'янеюць. Пераплецены плот шкілетаў, абсаджаны пазелянелымі гаршкамі чарапоў. Ха-ха-ха! Маліся свайму богу, сволач, мы гатовыя! Чорныя рулі аўтаматаў нацэлены. У патыліцу. У лоб. У грудзі. П р ы г а т о в і ц ц а. А г о н ь! Але каманды няма. Пакутліва доўга няма каманды. Цягнуцца гадзіны, дні, гады, а я ўсё стаю на цёплым памосце з трупаў. Ха-ха-ха! Маліся свайму богу, сволач, мы гатовыя! Бясконцая вар'яцкая вечнасць. Няўжо яны надумаліся закапаць мяне жывога, як Дангель таго партызана, які не хацеў гаварыць? («Гэты быдляк любіць цішыню. Прыкончым яго паводле характару: без стрэлаў».) Не, не! Я не хачу без стрэлаў. Агонь! Агонь! Агонь!

Пракінуўшыся ад жудаснага крыку, Адомас доўга ляжыць, баючыся расплюшчыць вочы. Мяжа паміж рэчаіснасцю і сном усё яшчэ застаецца няпэўная. За акном завывае панылы восеньскі вецер, раз-пораз у акно стукаюць заблуканыя кроплі дажджу, рыпяць акалелыя сукі яблынь. Жудасная ноч. Аднак ён усё яшчэ не ўпэўнены, што гэта ява, а не працяг сну. Здранцвелымі ад страху пальцамі ён абмацвае грудзі, жывот, трэ запалыя бакі. Яго цела! Пругкія гарачыя мускулы, крутыя дугі рэбраў, за якімі ўсё гучней і адважней пачынае біцца сэрца. Жывы! Існуе! Яны больш не прыйдуць! Хоць гэтай ноччу ўжо не палезуць цалавацца і не давядзецца стаяць у яме

пад аўтаматнымі рулямі, нацэленымі з усіх бакоў. Галоўнае — пастарацца не заснуць і ні пра што не думаць. Не думаць, не думаць. Убі сабе ў галаву гэтае слова і паўтарай да раніцы. Упарта, метадычна, як гэта ўмеюць немцы. Немцы... Народ забойцаў! Да д'ябла іх! Лепей знайдзі ўжо нейкую кропку і глядзі на яе. Напрыклад, на... Ну хоць бы на гэтую белую лёгкую аблачынку. Неба блакітнае і пустое, як акіян пасля буры. Караблі патанулі. Застаўся толькі гэты маленькі, пашкуматаны бураю парусьнік. Скамечаны, паламаны, зусім не падобны на карабель. Аднак жа і неба не падобнае на акіян. Квадратная брудная дзіра, а вакол рулі аўтаматаў... «Яны! Зноўку яны!»

Адомас, не расплюшчваючы вачэй, пераварочваецца ніцма. Нацягвае коўдру на галаву. У нос б'е халодны, нежывы пах зямлі. Магільная яма! Не думаць, не думаць, не думаць... «Госпадзі, зрабі найвялікшы цуд — ператвары мяне ў камень».— — — — — Адзін такі камень ляжаў на схіле Французскай горкі. Вельмі падобны на чалавека, толькі без рук. Калі ён быў малы, прыбягаў сюды з сябрамі; яны станавіліся наўкруга каменя і, пабраўшы адзін аднаго за рукі, скакалі, спяваючы:

Была баба ў Вільні,
была баба ў Вільні...

Гэты камень і сапраўды здаваўся падобным на тоўстую, пачварна распаўнелую бабу. Навокал расло процьма дзядоўніку і лебяды. Яны рвалі іх і, наламаўшы вярбовых галін, майстравалі сваёй каменнай бабе хату-будан. Яму падабалася адна дзяўчынка, на гады два-тры маладзейшая за яго. Ён ужо ведаў ад падлеткаў, адкуль бяруцца дзеці. У лебядзе ён задраў гэтай дзяўчынцы на галаву сукенку, бо хацеў мець дзяцей і жыць з ёю ў будане, як дарослыя жывуць у сваіх хатах. Але дзяўчынка спалохалася і з плачам пабегла дамоў. Маці яго тады адлупцавала («І ў каго ты ўдаўся, і ў каго ты ўдаўся, чортавае насенне!»), а бацька ў тое ж лета павыкошваў пустазелле, узарваў камень і ўзараў схіл пагорка. Ён не памятае ўжо, што пасеялі там на другі год. Ці то авёс, ці то лён. Не, лён цвіў тут намнога пазней. Ён быў ужо гімназістам, а дзяўчынка, якую тады ён перапалохаў, пасвіла статак на фальварку Гульбінасаў. Ён не хацеў успамінаць ні яе, ні таго брыдкага выпадку, ён меў ужо другую дзяўчынку — сапраўдную, з якою яны пажэняцца і будуць жыць не ў будане, а ў хаце, як і належыць людзям. Яны

ішлі наўзбоч магілы каменнай бабы, залітай квяцістым блакітам, і высмыквалі сцяблінкі лёну, пакуль не набралі ладнай такі вязанкі — яна хацела сплесці сабе вянок. Потым яны паселі на беражку рова пад рабінай, і яна сказала: «Якія прыгожыя кветкі лёну! Яны мне нагадваюць пралескі. Калі ранняй вясной паказваюцца з зямлі пралескі, я раблю з іх вянок. І ўсе кажуць, што ён мне дужа пасуе». Дзіва што пасуе, падумаў ён тады. Яе бялявыя косы такія прыгожыя, а вочы сінія-сінія, як у казцы... Але ўголас не адважыўся гэта сказаць. Толькі ківаў галавой, пазіраючы на кветкі лёну, на гэту сіне-зялёную рачную хвалю, што абмывала яе калені, і думаў, што прыгажэйшай дзяўчыны не можа быць на цэлым свеце. А калі яна надзела вянок на свае бліскучыя льняныя косы, яму здалося, што гэта сон,— такой незямной прыгажосцю заззяла яна! Яму шалёна захацелася абняць яе, пацалаваць проста ў малінавыя губы («Тады ўжо ніхто яе ў мяне не адбярэ!»), але пабаяўся, каб яна не загневалася і не ўцякла, як тая дзяўчынка з лебяды. Так і сядзеў ён, здранцвелы ў святым экстазе, не разумеючы, што з ім робіцца. Чаму ўвесь свет стаў раптам сіні-сіні, як ільняное поле? Як яе вочы, як вянок на белай пушыстай галоўцы? Сіняя гарачая хваля захліснула вочы, і ён заплакаў. «Чаму ты плачаш?» Гэтыя словы маглі б ашчаслівіць самага апошняга небараку — гэтулькі ў іх было пяшчоты і занепакоенасці! Як яны былі патрэбныя ўчора, калі яна сказала, што паміж імі ўсё скончана, і апошнія рэчы вынесла ў свой пакой, і ён таксама заплакаў! Першы раз за многія дні сапраўднымі слязамі. Слязамі колішняга хлапчука. І праз слёзы бачыў блакітнае льняное поле. І ўвесь свет зноўку стаў сіне-блакітны. Аднак яна не запыталася, як той раз: «Чаму ты плачаш?» «Ах, супакойся, Адомас. Не трэба сцэн»,— вось што яна сказала. Такім голасам, быццам шпурнула жабраку мядзяк. Вочы былі халодныя — вада асенняга возера; сіняе, напоенае сонцам ільняное поле ўжо адцвіло. Не, вядома, яшчэ цвіце. Можа, яшчэ прыгажэй нават. Аднак ужо іншаму. Іншы цалуе малінавыя губы і гладзіць валасы. Валасы яго дзяцінства, прапахлыя палявою расой.— — — —

— — Цыганка не хлусіла. (Лета. Праз вёску цягнецца цыганскі табар. Фурманкі, поўныя галапузых дзяцей.) Ён толькі смяяўся і, блазнуючы, хапаў яе за грудзі, маладая была, але сказала ўсё як ёсць, ведзьма. («Чакае цябе казённы дом і прыгожыя жанчыны. Не то чорную, не то бе-

лую каралеўну варожаць табе карты, але беражыся яе, красаўчык. З ёю не будзеш ты шчаслівы».) «Пярэстую казу атрымаеш. Ялавую». Чые гэта словы? Здаецца, ляпнуў нехта з вясковых хлопцаў, што панапрыбягалі да табару. Ды не, не, цяпер ён успомніў, гэта Пуплясісаў голас. Матавушас! «Здань, зноўку здань з таго свету!»

Уткнуўся тварам у падушку, прыціснуўся да пасцелі, як салдат да зямлі, ратуючыся ад куль. Моцна, аж да болю, заплюшчаны павекі. Пякучы дождж чырвоных іскраў. Але ён не змывае Пуплясісавага аблічча. Не тое што бесклапотна хмыліцца ў штурхатлівай гурме падлеткаў, залітае летнім сонцам. Іншае, што страціла чалавечае падабенства і ператварылася ў крывавае месіва, дзе тырчыць, як таркаю здрапаны, нос і вылазяць з арбітаў вочы: два крывавыя шарыкі, выкачаныя ў дробна патрушчаным шкле.

## II

Нядаўна бачыў Міграту: прыйшла з той самай просьбай, што і два гады таму назад,— каб выпусціў бацьку. Гэтаксама мулялася на крэсле, паказваючы голыя сцёгны, і шматабяцальна ўсміхалася. Яму раптам закарцела паваліць яе на канапу: з Мілдай даўно ўжо нічога супольнага ён не меў, а гарадскія распусніцы яго не прываблівалі. Нязграбна хаваючы жаданне, растлумачыў, што нічым не можа дапамагчы: стары ў катавальні гестапа, адтуль яго не выбавяць ніякія сілы пекла. Міграта паплакала дзеля прыліку, аднак спакуслівыя вабы ў яе вачах не пагаслі. І ён на часіну замкнуў дзверы, а потым, выпускаючы яе, паляпаў па шчацэ. Не адчуваў ні перад кім віны, але цяпер, калі ўбачыў перад сабою Пуплясіса — знявечанага, непадобнага на чалавека,— яго апанавалі жах і сорам. Некалькі імгненняў глядзеў на скрываўлены мяшок мяса і касцей, паніклы на крэсле,— з двух бакоў яго падтрымлівалі гестапаўцы,— і, душачыся ад млосці, што падступіла да горла, глытнуў паветра.

— Ну, Пуплясіс? Апошні раз пытаюся: хто, апрача цябе, дапамог уцячы палонным? Не ўтаю — усё роўна расстраляем, але перад гэтым яшчэ павыцягваем жылы,— дапытваўся Дангель, прыкідваючыся, што ён не заўважае Адомаса, які стаяў каля дзвярэй.

Мяшок мяса і не зварухнуўся.

«Ці бачыць ён мяне? Не, ён аслеп і аглух. Гэтаму ча-

лавеку ўсё роўна, што з ім будуць рабіць». Ад гэтай думкі Адомасу палягчэла, і ён злосна, з непрыхаваным задавальненнем паглядзеў на Дангеля.

— Вы мяне выклікалі, пане оберштурмфюрэр?

Дангель нецярпліва паказаў рукою на крэсла каля сцяны.

— Бачу, на цябе і гэта не дзейнічае, verdammter Dummkopf [1]. Альбо мае хлопцы перастараліся, альбо яшчэ ў матчыным чэраве сам д'ябал уставіў табе замест нерваў іржавы дрот. Што ж, пастараемся падступіцца да твайго сэрца з другога боку.— Дангель перахіліўся цераз пісьмовы стол; позірк яго дзіўна раздваіўся: адно вока ўсміхалася Адомасу, другое свідравала Пуплясіса.— Ведаю, што ў вас, бальшавікоў, замест сэрца кавалак камення, але тваё ўсё ж такі здрыганецца, калі праз сваю дурную ўпартасць ты загінеш не адзін. Калі, само па сабе зразумела, у цябе засталася хаця б крупінка сумлення. Пане начальнік паліцыі! Вазьміце сваіх людзей — і ў Лаўксадзіс. Дастаўце сюды Пуплясісаву сям'ю. Усіх да адзінага.

Пуплясісава цела турзанулася, па скрываўленым твары прабегла ледзь заўважная дрыготка.

— Вы чулі, пане начальнік паліцыі?

— Так, я чуў, пане начальнік гестапа,— машынальна адказаў Адомас, не ўстаючы з крэсла.

— Пуплясіс, заўтра яны будуць расстраляны ў цябе на вачах, калі ты не дойдзеш да розуму. Даю табе дзве гадзіны на развагу.— Дангель зірнуў на гадзіннік.— У пятнаццаць хвілін а пятай мы зноўку сустрэнемся. І гэта, запамятай, будзе апошні раз. Ад некалькіх тваіх слоў залежыць, ці сам ляжаш у магілу, ці пацягнеш туды ўсю сям'ю. Abführen! [2]

Эсэсаўцы падхапілі Пуплясіса пад пахі (рукі ў яго целяпаліся, як анучы) і павалаклі з пакоя.

Адомас устаў. Ён нічога не бачыў, толькі нейкі бялёсы пухір, што плаваў у бялёсай прасторы. Потым пачаў акрэслівацца фон — закратаванае акно, зялёная шматавіна лістоты за ім; пухір пабляк, набыў рысы чалавечага твару, і за сталом узнікла шэрая Дангелева постаць.

— У нашай рабоце трэба быць псіхолагам, пане Адомас. Гэты быдляк цвёрды, пакуль ён адзін. У пятнаццаць

---

[1] Пракляты дурань *(ням.)*.

[2] Вывесці! *(ням.)*

хвілін а пятай я не спадзяюся пачуць ад яго нічога новага. Але калі заўтра ён пабачыць сваю сям'ю перад аўтаматнымі рулямі, ён зробіцца як шаўковы. Не-е, мы іх не расстраляем, зрэшты, гэта нам і не трэба; гэта будзе невялічкі павучальны спектакль, не болей. Спадзяюся, паліцыя не застанецца пасіўным назіральнікам.

Адомас нязграбна варухнуўся, каб ісці.

— Я зараз жа загадаю даставіць Пуплясісаву сям'ю, пане оберштурмфюрэр.

— Хвіліначку. Баюся, што вы мяне не зусім правільна зразумелі. Мы хацелі б вас бачыць з вашымі хлапцамі на сцэне да самага канца, пане Вайнарас.

Адомас разгублена пацепнуў плячамі.

Дангель выйшаў з-за стала і спыніўся перад Адомасам.

— Бачыце, Пуплясіс не можа не адчуваць да вас сімпатыі, пане Адомас,— вёў ён далей, усміхаючыся куточкамі тонкіх вуснаў.— Прычыны, я думаю, абодвум нам болей чым зразумелыя, таму не будзем паглыбляцца ў падрабязнасці. Хоць вы і неважнецкі псіхолаг, але дзеля аб'ектыўнасці ўсё ж павінны згадзіцца, што чалавеку не ўсё роўна, ці праніжа яго куля невядомага ворага, ці пусціць яе яму ў лоб рука, якая аднойчы ўжо выратавала яго.

— Вы хочаце... Чаго вы ад мяне хочаце?!

— Іменна таго, пра што вы толькі што падумалі. Не, не, пане Адомас. Не адразу. Спачатку вы са сваімі хлапцамі патрымаеце перад аўтаматнымі рулямі Пуплясісаву сямейку, а пасля гэтага прыкончыце яго самога. Асабіста. Для псіхалагічнага эфекту, так сказаць.

Адомас з нянавісцю паглядзеў на Дангеля. Той засунуў палец яму за пасак і, працінаючы яго халодным позіркам ката, што ацэньвае сваю ахвяру, позіркам, ад якога ўсіх кідала ў пот, зазначыў:

— Калі мы караем ворага, дык намагаемся знішчыць не толькі яго цела, але і дух.

Адомас, на сваё вялікае здзіўленне, вытрымаў Дангелеў позірк.

— Вы верыце ў пасмяротнае жыццё? — пачуў ён свой голас.

— «Gott mit uns» [1], пане Адомас, аднак мы не рэлігійныя фанатыкі. Калі я бачу, што мой вораг духоўна зні-

[1] «З намі бог» *(ням.)*.

шчаны, я набіраюся новых сіл для барацьбы. Не пераношу пераможаных, якія паміраюць з усмешкаю на губах.

Адомас ступіў крок назад. Дангелеў палец выслізнуў з-за паска, і Адомас адчуў дзіўную палёгку, нібы нехта рассек ланцуг, што скоўваў іх абодвух.

— На жаль, пане начальнік гестапа, я наўрад ці змагу вам тут дапамагчы. З мяне не атрымаецца майстра псіхалагічных эфектаў. Ды вам, зрэшты, не гэта і трэба.

Цяпер крок назад ступіў Дангель.

— А іменна? — Ён ужо ўсміхаўся не куткамі, а ўсімі сваімі тонкімі вуснамі.

— Вы хочаце, пане Дангель, каб вакол вас быў як мага большы круг людзей, запэцканых крывёю. Я ўжо ў крыві, вы дамагліся свайго, аднак вам і гэтага мала. Вы хочаце, каб гэты няшчасны чалавек панёс на той свет крывавы ўспамін пра мяне, а яго дзеці, вярнуўшыся дамоў, расказалі ўсім, што бачылі.

Усмешка спаўзла з вуснаў Дангеля; ён здзівіўся, нават па-дзіцячаму разявіў рот, агаляючы прыгожыя дробныя зубы. Некалькі імгненняў ён разгублена пазіраў на Адомаса, потым выбухнуў доўгім істэрычным смехам.

— Och, Gott! Ich lache mich tot! [1] Даўно гэтак смачна не смяяўся,— рагатаў ён, выціраючы напарфумленаю насоўкаю сухія вочы.— Аказваецца, я сапраўды не ацаніў вас належным чынам, пане Адомас. Вы не толькі псіхолаг, аднак маеце яшчэ філасофскія здольнасці. Віншую, віншую! Толькі баюся, што вашы развагі занадта небяспечныя, з іх можна зрабіць далёкасяжныя высновы.

Адомас змрочна паківаў галавой.

— Ведаеце, пане Дангель, у жыцці чалавека настае час, калі ўжо не баішся смерці.

— Цікава, цікава... Час надзвычай мяняе людзей. Я вас не пазнаю, Herr Polizeichef.

— Можа быць. Бачыце, раней я адчуваў сябе пэўным чынам непаўнацэнным, а сёння мы роўныя, пане Дангель. З той ночы, калі я дапамог вашым людзям расстраляць пяцьсот бяззбройных. Дазвольце ісці, пане оберштурмфюрэр?

— Нашто так спяшацца, сентыментальная душа? — Дангель, нават не паглядзеўшы на Адомаса, павярнуўся да яго спіною і, цвёрдым ваенным крокам падышоўшы да стала, усеўся на крэсла.— Сядайце! Толькі, прашу, без

---

[1] О божа! Памру ад смеху! *(ням.)*

глупства, Donner Wetter[1]. Нам да канца трэба ўдакладніць заўтрашнюю аперацыю.

— Хто яе пачаў, той і скончыць...

Дангель цераз стол кінуў поўны пагарды позірк: толькі такім чынам яму ўдалося стрымаць успышку гневу.

— Калі мяне не ашуквае памяць, зачэпку для гэтай аперацыі далі вы самі, пане Адомас. Трэба было ў свой час паставіць Пуплясіса да сценкі, замест таго каб адпускаць яго, і я перакана ны, што нам цяпер не давялося б ганяцца за ўцекачамі. Дык пакіньце свае недарэчныя філасофскія высновы. Я маю права патрабаваць ад вас, каб вы заплацілі хоць бы частку доўгу. Што значыць прыбіць гэту дохлую падлу ў параўнанні з чатырнаццаццю ўцекачамі, якія, далучыўшыся да партызанаў, павернуць стрэльбы супраць нас. Чатырнаццаць стваловў! Не месціцца ў галаве, што вы не адчуваеце ніякай адказнасці!

— Не даказана, што Пуплясіс садзейнічаў уцёкам палонных, пане Дангель.

— Дапусцім, так. Аднак вы не станеце спрачацца, што гэта зрабілі людзі, да якіх вы былі занадта паблажлівыя, а Пуплясіс адзін з іх. Дык скончым пустыя размовы. Ваша роля ў заўтрашняй аперацыі вызначаная, шаноўны начальнік паліцыі. Кропка! Будзеце капрызнічаць — расстраляем... Не, не вас, вы нам патрэбны, і, апроч таго, вы сцвярджаеце, што не баіцеся смерці. Людзі, якія не баяцца смерці, нам асабліва патрэбныя.— Дангель абразліва засмяяўся.— Расстраляем гэтую бабу з усімі пуплясянятамі. Даю слова гонару. Мяркую, для вас, сентыментальнай асобы, такі варыянт непрымальны.

— Вы... вы, пане Дангель...— прашыпеў праз зубы Адомас.

— Нягоднік, хацелі вы сказаць? Я не крыўдую. Кожнае паняцце адноснае, шаноўны. А калі пайсці далей, дык, прызнаюся, я вам сімпатызую, пане Адомас. Таму пастараюся быць шчырым, наколькі мне дазваляе мая пасада і нацыянал-сацыялісцкая годнасць. Я хачу з вас зрабіць чалавека, mein Freund[2]. Свабоднага ад забабонаў гнілога ліберальнага грамадства, пазбаўленага мяшчанскіх сантыментаў, лірычнай анеміі — усяго таго смецця, якое ляжыць у аснове рабскай маралі. Ачысціўшыся ад гэтага набытку, вы станеце асобай, змагаром, а не бесхрыбетнай

---

[1] Чорт пабяры *(ням.)*.
[2] Мой дружа *(ням.)*.

плаксівай істотай, якая пакутуе, што некалі раздушыла муху. Ведайце, вы не можаце ступіць і кроку без таго, каб некага не раздушыць. Уцягваючы паветра ў лёгкія, вы ўжо губіце жывыя арганізмы, бо прырода кішма кішыць жыццём. За гэта вас таксама мучыць сумленне? Дык чаму вы перажываеце ад таго, што мы знішчылі некалькі непаўнацэнных вырадкаў? Яны, па-вашаму, людзі? Непаўнацэнны чалавек гэтакі самы паразіт, як, скажам, саранча ці бацылы хваробы, з якімі мы змагаемся. Не, яшчэ горшы. Барацьба з паразітамі, са стыхіяй прыроды ў нейкай меры садзейнічае прагрэсу, а непаўнацэнны чалавек тармозіць прагрэс, ён цяжар чалавецтву, які яно мусіць цягнуць і далей, прыкрываючыся фарысейскімі фразамі гуманізму. Але прыйшоў фюрэр і сказаў — не! Зямля мае быць айчынай разумных, дасканала развітых істот. Асобы кіруюць, а рабы ім служаць. Як першабытнаму чалавеку служыў сабака, потым конь і іншыя прыручаныя жывёлы. Вы ж згодзіцеся, што першую іскру агню выкрасала не карова і не конь, а чалавек? Гісторыя заклікала нямецкі народ выкрасаць першую іскру агню дваццатага стагоддзя, пане Адомас. Мы запалілі ачышчальнае вогнішча, мы прапусцім праз яго чалавецтва, як прапускаюць сарочку хворага чалавека праз дызенфекцыйную камеру, і на зямлі настане новая эра — эра чалавекаасобы, пане Адомас. Дзякуйце лёсу, што ў вашых жылах цячэ арыйская кроў балтаў. Немцы не намерваюцца спусціць яе для арашэння палёў, вядома, калі вы самі таго не пажадаеце. Мы не грэбуючы прымем яе ў сваё цела, даючы вашым нашчадкам ганаровае права стаць дзецьмі найгеніяльнейшай нацыі. Такім чынам, пане Адомас, вы маеце магчымасць пайсці з тымі, каму належыць свет. Перад вамі два шляхі — уладара і раба. Калі вы выбралі першы, дык і ідзіце па ім, не азіраючыся па баках. Гісторыя не любіць нерашучых людзей — іх растоптваюць і выкідаюць на сметнік. Я не хачу, каб з вамі гэта здарылася, бо, яшчэ раз зазначаю, я ваш сябра. Я адчуваю прыязнасць да ўсіх адважных мужчын, да якой бы нацыі яны ні належалі. А тое, што вы якраз такі, вы даказалі яшчэ пры бальшавіках, спусціўшы з абрыву іхні грузавік.— Дангель падышоў да Адомаса і паклаў яму на плячо вузкую бледную далонь.— Сябра не можа быць абыякавы да лёсу сябра, пане Адомас. Таму загадзя прашу прабачыць, што да канца застануся шчыры, асмельваючыся нават умяшацца ў вашы сямейныя справы. Пані Мілда прываб-

ная жанчына, я разумею мужчын, якія не могуць устаяць перад яе чарамі. У тым ліку і вас, пане Адомас. Але прыгожыя жанчыны, калі яны не сяброўкі, а сексуальныя самкі, часта бываюць пачаткам усіх бедаў для мужчыны. Пані Мілда — якраз з гэтакіх жанчын. Калі б знайшоўся мужчына, які б выцерушыў з яе самарыцянскую рабскую мараль, яна нараджала б змагароў. Але вы, пане Адомас, бяссільныя гэта зрабіць, і яна народзіць рабоў альбо зусім не народзіць нікога. Вам трэба не такая жанчына, пане Адомас.

Адомас устаў.

— Я не маю патрэбы ў паслугах свата, пане оберштурмфюрэр.

— Пастарайцеся зразумець мае словы так, як яны сказаны. Вы закаханыя ў сваю жонку, як наіўны падлетак. Уліплі, як муха ў бочцы з мёдам; бачыце, што нічога добрага з гэтага не будзе, а ўсё роўна зумкаеце: соладка. Я не кажу: кіньце гэтую прывабную самачку. Якая мне справа, з кім нашы хлопцы бавяць ночы. Важна, каб яны заставаліся мужчынамі, а не дыванкамі каля ложкаў сваіх жонак. Не дазваляйце жонцы выціраць аб вас ногі, пане Адомас. Тым болей што вы не можаце быць упэўнены, ці іх не цалуюць чужыя губы.

— Я не дазволю...— Адомас, трасучыся ад лютасці, павярнуўся да Дангеля.— Паклёп на жанчын не ўваходзіць у вашы абавязкі, пане оберштурмфюрэр.

— Калі чалавек паверыў у фальшывага бога, мой абавязак — адкрыць яму вочы. Калі хочаце ведаць дакладней — пані Мілда здраджвае вам з колішнім вашым сябрам. Усё. Можаце ісці. Жадаю вам поспяхова падрыхтавацца да заўтрашняй аперацыі, Herr Polizmeister.

## III

Будзем гатовыя, пане начальнік гестапа. Будзем, будзем, будзем... Толькі дазвольце спярша скончыць гэтую бутэльку. Другая, кажаце? Мнагавата? Не жартуйце, пане Дангель. Гэта ж усяго толькі мутная вадзічка. Рудая, як нацысцкі мундзір, і агідная, як... Кажуць, немцы гоняць яе з гаўна. Майстры! Спачатку ўсё ператвараць у гаўно, потым рабіць з яго што спатрэбіцца. Яны могуць запрасіць цябе да стала і тут жа, за ядой, у цябе пад носам, сапсаваць паветра: шкодна, маўляў, здароўю затрымліваць сабраныя газы. «Мы — нацыя найвышэйшай цы-

вілізацыі, не тое што вашы прымітыўныя літоўцы, якія падзяляюць органы цела на прыстойныя і непрыстойныя. Вы думаеце, што чхаць прыстойней, чым выпускаць газы, а мы кажам: усё добра і прыстойна, што ідзе на здароўе». Акультураныя жукі-гнаявікі... Каўтнем за здароўе культур-гнаевікоў, Гедымінас. Сволач ты, а быў жа найлепшым сябрам. Братам! Ну навошта табе спатрэбілася Мілда? Хіба мала вольных жанчын? Якога д'ябла трахнуў маю Мілдзялю? Хлусіш, пане начальнік гестапа, пракляты цмок! Яна не такая! Не такая, не такая, не такая! На галоўцы ў яе вянок з ільняных кветак, вочы сінія-сінія. Ці ты бачыў, крывавая морда, каб сіняе неба было заляпана гноем? Ха-ха-ха! Было б там гаўно, вы і туды дапялі б. Нашкрэблі б і гналі б гэтую трыццаціградусную смярдзючую вадзічку, каб атручваць непаўнацэнных. Чуеш, Пуплясіс. Мы з табою непаўнацэнныя, з рабскай мараллю, але маем усе магчымасці стаць паўнацэннымі. Паны немцы далі нам такі прывілей. Вып'ем за здароўе паноў немцаў. Не хочаш? Дарма. Што з таго? Зрабілі з цябе катлету, заўтра я сам усаджу кулю табе ў лоб — і бывай, дзядзька Матавушас. А мог жа і ты стаць жуком-гнаевіком. Можа, малюсенькім, папіхачом у большых, але жыў бы. А так застанецца ад цябе толькі куча гною. Чаму не захацеў, стары дурань? Не сядзеў бы цяпер я ў рэстаране «Тры асілкі», зачыніўшыся ў асобным пакойчыку, і не жлукціў бы, нібы конь. У рыла, у рыла, па гэтых звіслых рыбіных бельмачах табе, стары ідыёт! Чаго табе не стае, што жыць не хочаш? Можа, гарэлка кепская? А ты выпі! Толькі не па кропельцы, а каўтні як трэба. Праняло, га? Калі чалавек і прыдумаў што вартае, дык адно толькі гэты бальзам, што лечыць душу. О, і лётчык тут! Чалавек, што ўпаў з неба. Падстаўляй сюды сваю чарку! Напампуемся, як паветраныя шары, і ўзляцім угору. Што? Збілі крылы, кажаш? Нічога, мы маем такое паліва, якое ўзносіць і без крылаў. Ну, дык гоп! Нальем гэтай вадкасці ў свае біклагі! Пляснемся? Ну і няхай! На руках прынясуць і пакладуць, дзе маем ляжаць. Не бойся, што б там ні стала, прынясуць. Нікуды мы не ўцячом з гэтага гнойнага хлява, які махляры называюць жыццём. Гэй, Маркайціс, давай яшчэ бутэльку! — — — — — — О-о, пан Бугяніс! Не, не, пра справы потым. Прысядзь, я тут новую бутэлечку распачаў. Будзь ласкавы, дапамажы свайму начальніку. Службовыя справы? Да д'ябла службовыя справы! Напампуемся, як шары, і ўзляцім у нябёсы. Ах,

Пуплясеню даставіў! Гэту квактуху з усім яе выводкам. Бра-а-ава! Аператыўна, аператыўна, пане Бугяніс. Дазвольце выказаць падзяку. Люблю служак. Я таксама служака. Во, перакулю гэтую чарку, і патэпаем у паліцыю. Бывай, пане Маркайціс, каханенькі чалавечак, пан начальнік паліцыі адбывае для выканання службовых абавязкаў. Жудасна вузкі калідор. Цёмна, цесна, бы ў какаўцы, ледзьве прапхнешся паміж скрынкамі з півам. І смурод які! Скажы, пане вахмістр, чаму гэта пан начальнік паліцыі павінен паўзці па нейкіх катакомбах, праз нейкі чорны ход, як хрысціянін часоў Нерона? Паскудны горад. Будынкі скурчваюцца і зноў раздзімаюцца, як гумовыя; ногі вязнуць у цэменце тратуара, а людзей, людзей!.. Ідзеш усё адно як па лесе, дзе кожнае дрэва шпацыруе і намерваецца табе стаць упоперак дарогі. Гэтакі горад толькі абліць і падпаліць, пане Бугяніс.

— Ты не слухаеш, што я кажу: пан фон Дызе не дазволіў забраць Міглу-Дарату Пуплясітэ.

Добра зрабіў, яшчэ як добра зрабіў! Міграта — выдатная дзеўка. Такіх дзяўчат кахаць трэба, а не палохаць. Не дзеўка — агонь гэта Міграта. Шкада, што я не Пуплясісаў зяць. Мігла — Мілда. Мілда — Мігла. Дзве літары пасярэдзіне, не, толькі паўтары літары не супадаюць. Нейкае непаразуменне. Куды ты падзеў маю цешчу з дзеткамі, Бугяніс? Хачу яе пабачыць. Ніякіх размоў! Зараз жа прывядзі ў кабінет, а сам прэч да д'ябла! П'яны? Не бойся, мой пісталет не спудлуе, калі паспрабуеш хітраваць. Жвава! Ну вось і цётухна Пуплясеня са сваімі пісклятамі. Не плач, маці, слёзы тут не дапамогуць. Твой стары пад крылцамі ў начальніка гестапа, неўзабаве мы і цябе туды даставім, толькі не палохайся больш чым трэба. Ведаю, балбачу лішняе, але не таму, што п'яны, Пуплясеня: яшчэ трохі, як бачыш, засталося ўва мне чалавека. Не румзайце, дзеці,—калі я бачу слёзы, на мяне нападае ахвота змазаць па губах. І нашто яны, гэтыя слёзы? Усё роўна не выплачаце назад бацькі. Магіла ўжо выкапана, аўтаматная музыка заказана. Сам за дырыжора буду. Але з вамі нічога кепскага не здарыцца — Дангель прывёз вас, каб папалохаць. Хоча, бачыце, зрабіць чалавеку перад смерцю прыемнае... Так што не бярыце да галавы, калі ўбачыце перад сабою аўтаматныя рулі. Не страляць. Прынамсі, на гэты раз не страляць. І не глядзіце так на мяне, цётухна Пуплясеня, я не бандыт, я толькі выконваю загад. Твой стары правініўся пе-

рад законам і павінен памерці. Яго заб'ю не я — закон. Вы мяне зразумелі, цётухна Пуплясеня? Ідзіце! Хутчэй выбірайцеся, да д'ябла! Толькі без слёз, а то магу змазаць кулаком. Вон!

Зноў вярнуўся ў рэстаран братоў Маркайцісаў і піў да паўночы з кім папала. Потым пацягнуўся да нейкіх дзевак. Абудзіўся раніцай у нейкім цесным смуродлівым пакоі. Каля сцяны ляжала калматае чырвонавалосае пудзіла. Брудная пасцель пахла кіслаю аўчынай і адэкалонам. «Пане начальнік, я думала, што твой пісталет спраўнейшы». Быў яшчэ п'яны, апроч таго, дзяўчына не была такая брыдкая, як гэта яму спачатку здалося,— ён пастараўся рэабілітаваць падмочанае імя сапраўднага мужчыны. Потым яшчэ выпіў у гэтай гарбарні, і дзень распаўся на аскалёпкі, як запацелая шыбіна. З'явіўся Бугяніс. Селі ў нейкія машыны, кудысьці ехалі. Чорныя і шэрыя постаці з белымі свастыкамі на рукавах змешваліся з зялёным ашмоццем дрэў. Лаянка. Крык. Бразгат аўтаматных затвораў. Усё злілося ў суцэльны хаос гукаў і колераў, у якім толькі адно заставалася непарушнае: прывязаны да сасны крывавы мяшок — Пуплясіс. Дзеці па адным падыходзілі да яго (не паверылі ў Адомасавы словы, што іх не расстраляюць) і, развітваючыся, цалавалі ружова-сінія кавалкі мяса — бацькавы рукі.

— Няхай табе даруе гасподзь бог, Матавушас. Загубіў ты сябе і нас, але няхай табе гасподзь бог даруе.— Пуплясеня нізка пакланілася мужу, не пазіраючы на яго. Вочы ў яе былі сухія і надзіва спакойныя.

— Да ямы яе! — загадаў Дангель.— Пане Вайнарас, вы не забылі сваіх абавязкаў?

— На плячо! Цэлься! — скамандаваў Адомас.

— Ну, Пуплясіс, ці табе ўсё яшчэ здаецца, што мы жартуем? — завярашчаў Дангель.— Ты зноў маўчыш, няшчасны фанатык?

Дангель у лютасці падскочыў да асуджанага, схапіў за знявечанае плячо, аднак Пуплясіс нават не паварушыўся. Галава звесілася на грудзі, як у Ісуса на крыжы, ніжняя сківіца адпала: ён быў мёртвы.

## IV

Дзякуй богу (хоць хто ведае, ці ён ёсць), што не давялося пусціць у цябе кулю, дзядзька Матавушас. І твая сям'я вярнулася дамоў цэлая. Праўда, пачаставалі ла-

зою, аднак я тут ні пры чым: такі быў Дангелеў загад. Дык чаго ты хочаш ад мяне? Чаго ўстаеш з магілы, лезеш у вочы? Хіба мы не квіты? Хіба я не зрабіў для цябе ўсё што мог, дзядзька Матавушас?

Не знікае страшная здань. Крывавая мыза крывіцца ў д'ябальскай усмешцы, вырачаныя вочы — дзве мясныя галушкі, выкачаныя ў трушчаным шкле — разрыўнымі кулямі ўпіваюцца ў сэрца. «Будзь пракляты! Будзь пракляты!»

Адомас прыўзнімаецца на руках. Далоні клейкія і халодныя. Кроў! Расплюшчыў вочы, азіраецца па пакоі. Зданяў ужо няма. Навокал чорная пустка. Вымерлы дом. Горад мёртвых. Планета нябожчыкаў. Могілкі, могілкі, суцэльныя могілкі. У глухую асеннюю ноч вецер дзіка вые і свішча сярод надмагілляў. «Будзь пракляты! Будзь пракляты!»

Ускочыў з ложка. Выставіўшы перад сабою дрыгатлівыя рукі, блукае, нібы лунацік, па пакоі. Вочы паступова прывыкаюць да цемры, ужо відаць абрысы прадметаў. Шафа. Стол. Крэсла — на ім у беспарадку ляжыць адзенне. Каля сцяны — канапа. (На ёй удзень любіла паляжаць Мілда. А часам, калі была не ў гуморы, прыходзіла сюды і начаваць. Апошнія месяцы яна кожны божы дзень была не ў гуморы.) Чаму яна, чорт вазьмі, не перацягнула ў свой пакой гэту канапу?! Адомас глядзіць на канапу, як на абрабаваны куфар з сямейнымі каштоўнасцямі. Цяжарам, невыносным цяжарам наліваюцца ногі. Нябачная рука ціснe на плечы, гняце да зямлі. Упаў на калені. Уткнуўся тварам у канапу, гладзіць потнымі далонямі тканіну. Луг з фіялкамі. Хмельны, з зумканнем пчол, як у сонечны летні дзень. Пах яе цела! («Мілда... Мілдзяля...») Цёплы, утульны пах жывога чалавека. Пах каханай жанчыны. Можа, на абіўцы яшчэ засталіся яе валасы? Некалькі шаўковых валаскоў, што так ласкава казыталі шчокі... «Сволач гэты Дангель. Садыст. Не можа спакойна жыць, калі з іншага не точыцца кроў». Аднак Дангель праўду казаў: дарма ёп не хацеў яму верыць, стараючыся заплюшчыць вочы на тое, у чым сам амаль не сумняваўся. А што ён мог з ёю зрабіць? Прыставіць пісталет да грудзей і сказаць: я ўсё ведаю, прызнавайся, што вы там вытвараеце з папам настаўнікам за маёю спіною? І даведаўся б, намнога раней даведаўся б усё як ёсць. Але не захацеў. Лепей пакутлівая няпэўнасць, чым забойчае прызнанне з яе вуснаў.

— Я цябе кахаю, Мілда,— сказаў ён ёй у той дзень.— Мышы ўцякаюць з карабля, які тоне. Ты — апошняя мышка, што яшчэ засталася. Калі ты мяне пакінеш, я пайду на дно.

— Ты даўно на дне.

Такім жахліва спакойным голасам мог гаварыць толькі зусім абыякавы чалавек.

«Усё скончана,— падумаў ён.— Дангель казаў праўду».

— Я хацеў сказаць, што мне застанецца толькі куля,— удакладніў ён, і ў грудзях пацяплела ад злоснай радасці і зманлівай надзеі, калі ў яе вачах мільгнуў цень спалоху.

«Чаму я гэта сказаў? Хацеў напалохаць, зачапіць яе сумленне? А можа, сам шчыра верыў у сваю пагрозу? Хутчэй за ўсё так яно і ёсць, бо хіба можна вярнуць тое, што даўно ператварылася ў попел? «Ты даўно на дне». Няхай, аднак я яшчэ існую. Уначы да мяне прыходзяць здані, а ўдзень я сам сланяюся, як здань. Я жывы. А так мала трэба, каб усё знікла. Рашуча націснуць на спуск — і вечная цемра. Паглыблюся ў шчаслівы спакой, нібы мяне ніколі і не было. Я запэцкаю сваёю крывёю іхні ложак кахання і выбаўлюся ад зданяў. Звыш таго: я сам стану зданню. Кожную ноч я буду прыходзіць да іх і казаць: «Вы мяне забілі, аднак я вам дарую гэта, бо тая куля, якую я ўсадзіў сабе ў мозг, мабыць, адзіная куля, якую я скарыстаў як трэба». Як выцягнецца мыза ў дзядзькі Пуплясіса, калі заўтра, прыйшоўшы сюды, ён застане толькі мой труп. Як расчаруецца лётчык, а з ім заадно ўсе гэтыя вашывыя палонныя, якія штоночы загадваюць мне маліцца свайму богу! Ха-ха-ха! Ці можна яшчэ лацвей ашукаць?! Усіх. І жывых і мёртвых. Вось што можна зрабіць адным стрэлам, калі стрэліць своечасова!»

Адомас адштурхнуўся ад канапы. Пад вопраткай — пасак з пісталетам. Пальцы адхіснуліся, намацаўшы халодны метал. Смялей, смялей! Не бойся, што ў гэтым дуле смерць. Гэта добрая смерць. Яна прынясе табе вечны спакой. З гэтага дула на цябе па-сяброўску глядзіць вызваленне. Дык не марудзь, пакуль смерць прыязная да цябе. Хутчэй да скроні! Альбо не — лепш усадзі дула ў рот, гэтак надзейней. Нічога страшнага, кажу я табе. Хіба ў дзяцінстве ты не рабіў з вербалозін свісцёлак? Уяві: ты зноў хлапчаня, трымаеш у роце свісцёлку і вось-вось зайграеш. Галоўнае —не думаць, што іграеш апошні раз.

## V

З гэтых вербалозін мы рабілі калісьці свісцёлкі. А цяпер мы ідзём па траве, кранутай прымаразкам, па беразе рова, дзе мы калісьці сядзелі і, штурхаючыся плячамі, дзьмухалі ў свае свісцёлкі, і думаем, што ўсё было б куды прасцей, каб аднаго з нас не было на зямлі. «Пакінь Мілду ў спакоі,— толькі што сказаў ён.— Я кахаю яе. Зрабі хоць аднаго чалавека шчаслівым...» Вецер, марозлівы вецер блізкай восені шамаціць у кустах вербалозу, шпурляе пад ногі жаўтлявыя язычкі лістоты. Апусцелыя палі прыкрытыя бруднаю місаю неба. Родныя палі, на якіх, здаецца, яшчэ зусім нядаўна дружна перагукваліся дзве свісцёлкі. «Пакінь Мілду ў спакоі... зрабі хоць аднаго чалавека шчаслівым...» Нібы ў мяне самога гэтага шчасця хоць адбаўляй... Выцягнуць бы пісталет і лупянуць яму ў спіну... Не, куды прасцей схадзіць да Дангеля, а ён ужо... Але ці вернеш гэтым Мілду?

— Нарэшце асмеліўся прызнацца, што ты нягоднік, хоць дагэтуль прыкідваўся святым.

— Вінаваць самога сябе ў тым, што адбылося. Мілда м а г л а цябе кахаць, аднак жа яе каханне, як і наша сяброўства, ты ўтапіў у крыві. Калі б ты заставаўся чалавекам, я не пасмеў бы стаць табе ўпоперак дарогі. А цяпер маё сумленне спакойнае.

— Ты робіш вялікія поспехі, пане Джугас. Не здзіўлюся, калі наступны раз пры сустрэчы ты ўсадзіш мне нож у спіну.

— Не, будзь спакойны за сваю спіну, Адомас, і не мяркуй па сабе пра іншых. Хоць часткова твая праўда: цяпер я ўжо не той летуценны паэт, з якім ты добрыя два гады таму назад піў у рэстаране «Тры асілкі». Калі навокал шалее агонь, нельга не апаліць крылаў.

— Няўжо?! А ты хоць раз лётаў каля самага агню? Наколькі я памятаю, ты сядзеў разам з сокаламі на самай вяршаліне дрэва і пляваў на нас, нікчэмных зямных чарвякоў. Ты быў сам сабе бог, сам сабе нацыя, а ўсе іншыя — ганебныя злачынцы, што бесперастанку забіваюць адзін аднаго.

— Я быў наіўны, Адомас. Уяўляў, што ўцёк на бязлюдны востраў, а на самой справе і далей жыў сярод злачынцаў. Жыў і глядзеў, як яны расколваюць чарапы сваім ахвярам, але нічога не рабіў, каб стрымаць іхнюю руку. Мабыць, па той самай прычыне, па якой ты падымаеш

зброю супраць іншых, не адважваючыся скіраваць яе супраць самога сябе: я баязлівец. Думаў — прыстойны чалавек, і стараўся быць такім, а на самой справе я быў апошні баязлівец, нават не падазраючы пра гэта.

— Куды ты гнеш? — Адомас, аслупянеўшы ад раптоўнай здагадкі, здзіўлена глядзіць на Гедымінаса.— Яна падвучыла? Разумею, вам было б вельмі дарэчы збавіцца ад мяне, каб вам было спакайней абдымацца ў ложку.

— Ведаю, не хопіць на гэта ў цябе адвагі, хоць ты і належыш да тых людзей, якія зрабілі б паслугу чалавецтву, выкрасліўшы сябе са спісу жывых. Але не думай, што я лезу да цябе з парадамі. Проста канстатую факт, і годзе. Парады мне занадта дорага каштавалі, Адомас. Стрыечны брат Саўлюс, гэтыя чацвёра... Хацеў ім дабра, а выйшла так, што дапамог апынуцца ў магіле. Вядома, каб я жыў у нармальным свеце, гэтага не здарылася б. Але навокал звяр'ё... Ці магчыма сярод звяроў застацца чалавекам?

— Я не хачу ведаць, хто былі тыя чацвёра, але радуюся, што ты спусціўся са сваіх вышыняў да смяротных.

— Да злачынцаў,— удакладніў Гедымінас.— Адзін чалавек, які раней называў мяне Гедмісам, а не панам настаўнікам, паставіў мяне ў адным шэрагу з такімі, як ты. Але не радуйся: мы ніколі не будзем побач — нас падзяляе нявінна пралітая кроў. Праўду ты некалі казаў, хоць меў на ўвазе нешта зусім іншае: чалавек не можа ўберагчы сваёй ісціны, стоячы збоку. На самой справе чаго яна вартая — кволая, бездапаможная, як немаўля, забітае ў Аквіліным лоне,— гэтая мая ісціна ў звар'яцелым звярынцы? Вартая жалю пародыя, насмешка з самой сябе. Калі хочаш берагчы чалавечую годнасць, недастаткова пазіраць, як забойца душыць ахвяру: трэба дапамагчы ёй, гэтай ахвяры.

— Гэтак? — Адомас раптам спыніўся і кпліва паглядзеў на Гедымінаса.— А ты падумаў, з кім гутарыш? Па-твойму, мы ўсё яшчэ сядзім на беразе рова, як у дзяцінстве, і іграем на вярбовых свісцёлках?

— Будзь спакойны, нічога супольнага з лесам я не маю — там таксама страляюць кулямі, а не абаранкамі. Зрэшты, калі б і меў, усё роўна нічым не рызыкую: каб пусціць мяне ў расход, дастаткова і таго, што я кахаю Мілду. Аднак, думаю, пакуль ты яшчэ гэтак нізка не ўпаў...

— Дзякую...— ружовая імгла зацягнула Адомасу вочы. Усярэдзіне нешта перавярнулася, пачало падступаць да горла.— Пакорліва дзякую, пане Джугас.

— ...і разумееш, што такім чынам каханне немагчыма вярнуць.

«Так, так, так. Разумею... Як жа не разумець... Але не! — пакуль што яшчэ я так нізка не ўпаў... Ха-ха-ха! Шчаслівы, што чую такую параду з вуснаў праведніка. Каханак суцяшае ашуканага мужа. Абаронца пакрыўджаных — забойцу...» Адомас захлынуўся ад прыступу шаленства. (Такія раптоўныя выбухі, калі ён амаль што траціў прытомнасць, апошнім часам здараліся з ім усё часцей.) Зямля завагалася пад нагамі, пачала кружыцца, а вёска, падобная на дзевяціглаловага цмока, устала на дыбкі, засланяючы фантастычным целам увесь небакрай. («Адсекчы галовы! Усе дзевяць галоў!») У прыпадку шаленства ён яшчэ пачуў свае словы («З Мілдай усё скончана! Скончана! Скончана!»), потым свядомасць зацемрылася.

— Забірай яе сабе, гэту шлюндру, распусніцу, курву,— рынуў у яго з горла спазматычны вір слоў.— Забірай сабе! Не трэба! Ненавіджу! Да д'ябла! Да ўсіх д'яблаў! Прэч з вачэй, бо магу... бо зараз...

Рука вырвала з кабуры пісталет. Стрэл у паветра. Гедымінасаў твар перакрыўлены страхотлівым здзіўленнем. Потым спіна. Спалоханая, дрыгатлівая карлікава спіна, згорбленыя плечы. Мужчына! Куды падзеўся мужчына, які толькі што стаяў тут героем? Вось ён, у вербалозавых кустах! Пераскочыў цераз роў, смешна перабірае ножкамі. І ўсё далей, далей па полі, не азіраючыся... Мілдзін каханак... Ха-ха-ха! Двухногі таракан, ашпараны кіпнем! Заяц! Непаўнацэнная істота!..

Адомас рагоча як шалёны. Пакуль даходзіць да машыны, якую пакінуў у фальварку, клубок нерваў разблытваецца. Абодва паліцэйскія, што прыехалі разам з ім, трывожна дапытваюцца: хто там страляў? «Ja, ja, das ist nicht gut[1], не трэба адзін гуляць»,— ушчувае яго Петар фон Дызэ. Адомас смяецца: аднаго тыпа крыху напалохаў. Яму на самой справе весела, дужа весела, што прынізіў Гедымінаса. Паважліва сядае за стол, застаўлены ядой і пітвом. Банкет не банкет, але калі пан начальнік паліцыі заехаў у двор, дык нельга адпускаць яго без пачастунку. Свой чалавек. Дый Петар фон Дызэ гасцінны гаспадар, сам любіць зазірнуць у чарку. І, як ніхто, разумее Адомаса. Калі б не разумеў, хіба круцілася б Міграта каля стала, адзетая, як паненка. Мяняе талеркі, адну місу прынясе,

[1] Так, так, гэта нядобра *(ням.)*.

другую забярэ, а калі госць разамлеў і насыціўся, ласкава прапануе гадзінку адпачыць. Асобны пакой. Міграта ўваходзіць заслаць ложак... Так, яна мае трохі вольнага часу... Песцячы яе, ён думае пра Мілду. І Гедымінас не выходзіць з галавы. І ўжо неахвота смяяцца. Калі ён сядзеў за сталом, закарцела было расказаць Міграце, як ён папалохаў пана настаўніка, а цяпер усё гэта здавалася танным і дзіцячым. Трагікамічны трыумф Аляксандра Македонскага, што прайграў бітву. Стрэл у паветра... Пісталет пакуль што яшчэ слухаецца яго. А вось Мілды ўжо няма. Няма дзяўчынкі з дзівоснымі сінімі вачамі. Не зацвіце нанава поле лёну, што ўжо адцвіло. Страціў, назаўсёды страціў...

Ён нацягвае штаны і шпарка ідзе да дзвярэй. Прыцемкі, усё гусцейшыя прыцемкі асенняга вечара. На падушцы твар з недарэчнай усмешкай. Па-свойму прывабны, але цяпер глядзець на яго моташна. Задаволеная самка. Двухногае звераня, з якім часам прыемна забыцца. Кажуць, ёсць мужчыны, якія са звярамі... Госпадзі, няўжо і ён... Дамоў, хутчэй дамоў!

Мілда нешта вышывае ў святліцы. «Добры вечар».— «Добры вечар. Вячэраць будзеш?» Ён круціць галавою. Згорблены, стаіць насупраць, пазіраючы на яе спадылба. Адчувае, як спее ў ім адчайнае жаданне схапіць яе ў абдымкі і прыціснуць да грудзей. Так прыціснуць, каб засквытала ад болю. Сука! Але яна ўжо ўстала, ідзе да дзвярэй. Няўлоўная, трапяткая, як полымя свечкі. Уздыхнеш глыбей — і патухне, і ўсё навокал агорне вечная цемра. Збаяўшыся, стаіць нерухома, пакуль яе крокі не паглынае ціша апусцелага дома. Пхае нагою крэсла, яшчэ цёплае ад яе цела, і сунецца ў спальню. Двухспальны ложак, а ён адзін. Яна не прыйдзе, гэтай ноччу яна зноў не прыйдзе... Дапяўшы да шафы, выцягвае бутэльку гарэлкі — лекі ад зданяў. За сцяной пяшчотнае шамаценне. Яна! Сцеле на канапе пасцель, зараз будзе класціся спаць. Тут жа, за гэтай, колеру пажаўцелай лістоты, сцяною. Бачыць яе адзенне, скінутае на крэсла. Сукенку, празрыстую ружаватасць кашулі... Хваля белых шаўковых валасоў залівае голыя плечы, грудзі... Глыток, яшчэ глыток, да д'ябла! Ён разумее: нядобра, не трэба гэтак рабіць, але непадуладная яму сіла падымае кулак, грукае ў сцяну. Ніякага адказу. («Глыток, яшчэ да д'ябла, глыток!») Скаціўся з ложка, хістаючыся ідзе да дзвярэй. Эх, зачынілася, гадзюка. Гэй, ты, не прыдурвайся, адчыні. Хопіць і мне, і

Гедымінасу... Доўга і злосна лаецца, носячыся па пакоі, нібы кручаны сабака, пакуль апарожненая бутэлька не звальвае яго ў пасцель. Раніцай сорамна і страшна. Хіба так ён думае ўтрымаць жанчыну? (Ах, усё гэтае дурное спадзяванне...) Дае сабе слова быць разумнейшым, але праз пару дзён зноўку ўсё тое самае.

А ўчора прыйшоў амаль цвярозы. Пэўна, калі б ён быў п'янейшы і, апроч таго, знайшоў у шафе поўную бутэльку, хто ведае, ці распачала б яна размову.

— Я займаю два апошнія пакоі, пакуль ты не з'едзеш,— сказала яна, нібыта гэта была даўно абгавораная справа.

— Чаму? — прабубніў ён першае слова, што прыйшло яму на язык.

Яна нязмушана села, паказваючы яму позіркам на крэсла.

— Гедымінас табе нічога не казаў? Які сэнс доўжыць гэта агіднае відовішча?

Ён зажмурыўся. Каўнер мундзіра стаў раптам цесны і слізкі, як намыленая пятля з вяроўкі.

— Значыць, надакучыў...

— Ах, перастань. Не хлусі! Сам ведаеш чаму.

— Многа п'ю, вядома, надта многа п'ю...

— Не асуджаю: трэба ж хоць нечым змыць кроў.

Ён абедзвюма рукамі ўчапіўся за спінку. Электрычнае крэсла! Зараз уключаць ток. Спрабаваў засяродзіцца, сабраць думкі, але яны бязладна цяклі, як вада між пальцаў.

— Ты пра ўсё ведаеш?! — прашаптаў ён. Жорсткі пагляд сініх вачэй спаралізаваў волю, і ён зразумеў, што няма ніякага сэнсу бараніцца.— Гедымінас? Ну так, я яму прызнаўся, што мы тых палонных...

— Не, Дангель, твой добры Дангель...

— Я збіраўся табе расказаць пра ўсё адразу. Трэба было. Вінаваты! — машынальна прамармытаў ён.

— Не журыся — гэта нічога не змяніла б. Шкадаваннем забітых з магілы не падымеш.

— Гэта зразумела. Калі б я адразу паслухаўся цябе і кінуў паліцыю...

— Калі чалавек здольны да злачынства, не конча надзяваць мундзір, каб праліць кроў.

— Ты нічога-нічога не разумееш, Мілда. Я быў прыстойным чалавекам, а ўсё роўна... Мне так мала трэба было... Калі б мне хто дапамог... Але ты мяне ніколі не кахала, Мілда.

— Напэўна. Табе трэба была іншая жанчына. Якая цябе прымала б такога, які ты ёсць, апраўдвала б цябе... І абое былі б шчаслівыя.

«Дангелевы словы...— ляніва падумаў ён.— Ці ўмеюць, аднак, такія жанчыны кахаць?» Ён паглядзеў на яе. Бледны чужы твар, прыгожыя рукі, што ляжаць на стале. Маленькія, далікатныя ручаняты, нібы вытачаныя з белага бурштыну, з ружовымі пазногцямі. Вузкія плечы, маленькія грудзі, што какетліва выглядаюць праз выраз чорнай сукенкі, зграбная галоўка, схіленая набок, як бы гатовая кожнага выслухаць і зразумець. Усю-ўсю яе ахапіў ён адным позіркам, увабраў у сябе і адчуў, што дзіўнае здранцвенне праходзіць. Ён нібы абудзіўся ад сну.

— Мне не трэба іншай жанчыны. У мяне ёсць ты, Мілда.

Яна квола пакруціла галавой.

— Не!

Гэта ціха вымаўленае слова прагрымела ў вушах, як выбух; раптам усе прадметы зрабіліся надзвычай яркія, рэальныя — ён канчаткова ачомаўся. Думкі запаланілі мозг, быццам ахоплены панікаю натоўп на вуліцы ў горадзе, што зашугаў у пажары. Хацеў упасці на калені і прысягнуць: кіну гэтую праклятую паліцыю, фальшывых сяброў, гарэлку — усё-ўсё зраблю дзеля цябе, толькі не адварочвайся... І тут жа зразумеў, што ўсё гэта марнае і нерэальнае. «Шкадаваннем забітых з магілы не падымеш...» Але, масты спаленыя — няма каму і няма з чаго іх пабудаваць нанава. І тады ён, апанаваны роспаччу, сказаў тыя дурныя словы пра мышэй, якія ўцякаюць з карабля, і пра кулю — адзінае выйсце, якое яшчэ яму застаецца.

## VI

Прыставіў пісталет да скроні. Зброя, нагрэтая ў яго руцэ, стала жывая і ўтульная і больш не палохала.

«Праз некалькі секунд мяне ўжо не будзе. Пачуўшы стрэл, прыбяжыць Мілда. Раструшчаны чэрап, лужа крыві. Усё... Непаўнацэнны дурань, скажа Дангель».

Адомас апусціў руку. Уваччу мільганула відовішча: па вуліцы едзе воз, на ім труна, абкладзеная яловымі лапкамі, следам цягнецца людская гурма.

— Злітуйся, божа, над яго душою... Хто б мог падумаць, што ён гэтак скончыць?

— А як жа могуць скончыць такія?
— Апошнім часам шмат піў...
— Каб жа толькі гарэлку...
— Вядома, чалавечая кроў — не вада, раней ці пазней...
— Непаўнацэнны дурань!
«Мілда будзе ў чорнай хустцы. І Аквіля, калі наогул прыйдзе. А Гедымінас... Не, гэты не будзе муляцца: хто ж падтрымае за локаць маладую ўдаву? «Не засмучайся, мілая, ніхто ў гэтым не вінаваты. Гэта было непазбежна». Мабыць, у той самы вечар, вярнуўшыся з могілак, зойме вакантнае месца на гэтым ложку... І як ні ў чым не бывала, са спакойным сумленнем, нібы я і не жыў на свеце...»
Адомас шпурнуў пісталет на ложак. Пайсці, не апраўдаўшыся, каб потым кожны тлумачыў яго ўчынак, як каму захочацца? Не! Ён напіша лісты Мілдзе, Гедымінасу, родным, Хрыстафу Дангелю. Вінаваты? Няхай, ён не адмаўляецца. Але хіба ён адзін? Ён жа не прасіў, каб бацькі пускалі яго ў гэты агідны свет. Каб прыйшлі рускія, услед за імі немцы, каб перакапалі жыццё, як свінні чужы агарод, на які брыдка глядзець... Была б старая ўлада, працаваў бы ён сабе ў валасці пісарам. І Бяржэнас сядзеў бы на сваім месцы, і Мілда... Не, не ён жа трасянуў зямлю, што ўсё паляцела дагары нагамі,— гэта яны павінны зразумець. Некалі Гедымінас сказаў: «Чалавек не можа быць поўнасцю вінаваты, ён — толькі цацка ў руках у лёсу». Іменна так, пане паэце, хоць сёння ты наўрад ці згодзішся з гэтымі словамі. Пэўна ж, не, бо вам, абранцам лёсу, чужое пачуццё безвыходнасці. Вы не думаеце, што той, каму суджана вісець на шыбеніцы, апынецца на ёй незалежна ад таго, будзе Адомас зацягваць яму пятлю на шыі ці ляжаць у ложку. Не, я не злачынца, я — ахвяра. Ахвяра вашай фанатычнай упартасці, вашай тупасці. Не я намаўляў цябе, дзядзька Пуплясіс, каб ты саўгануў запалку ў бочку з порахам,— сам яе запаліў. Я не загадваў лётчыку падаць з неба на чужую зямлю, а Аквілі з бацькам — хаваць яго ў сене, не ад мяне залежала, што ў лагеры ваеннапалонных апынуліся гэтыя пяцьсот, якіх мы... Сволачы! Раз ужо не даяце спаць па начах, дык скажыце, што адарвала вас ад плуга, ад фабрычнага варштата і ўклала ў рукі вінтоўку? Баранілі сваю праўду, аднак і я маю сваю праўду. І праз вас, толькі праз вас я запляміў яе крывёю. Статак быдла! Самі лезеце ў загарадзь, каб бойня мела работу... Дангель, гэты галоўны мяснік, праўду сказаў: «Яны самі

лезуць на нож. Чалавек, нават самы непаўнацэнны, мае досыць розуму, каб памерці паводле сваёй волі».

Пяро шпарка бегала па паперы, ледзь паспяваючы за думкамі. Часам рука затрымлівалася, аднак толькі для таго, каб умакнуць пяро ў чарніла. Пакуль пачало світаць, ліст быў скончаны. Адомас уважліва прачытаў яго, разважаючы, колькі зрабіць копій, і адчуў прыемную палёгку. Што ж, па сутнасці, ён сказаў усё, што хацеў сказаць. Амаль усё. Аквілі, несумненна, будзе крыўдна, што так легкадумна адвярнулася ад брата, а Мілда з Гедымінасам пасля ўсяго таго, што тут прачытаюць, таксама не змогуць лічыць сябе нявіннымі анёлкамі. Упадзе, горкая кропля ўпадзе ў іх салодкі келіх спакою. Дангель... Гэтага, вядома, не пройме́ш, ну дык няхай хоць ведае, што Адомас адабраў у сябе жыццё не проста так, паддаўшыся пачуццю сваёй непаўнацэннасці, а пасля спелай развагі... Усё, пане оберштурмфюрэр. Вы ператварылі свет у звярынец, як сказаў адзін непаўнацэнны, які не хацеў станавіцца паўнацэнным. Адомасу Вайнарасу надакучыла карміць тыграў. Стаміўся, бывайце, жывіце сабе на здароўе, калі толькі ў гэтым звярынцы некалі не зжаруць і вас.

Прыціснуўся гарачым ілбом да шыбіны ў акне. Вецер суняўся. Дождж перастаў. Па праяснелым небе плылі асеннія хмаркі. Аголеныя галіны яблынь у садзе здаваліся вылепленымі з гіпсу. Прадметы ў пакоі здаваліся цяжкімі, грувасткімі, спрэс з ламаных ліній, нібы на нейкай недарэчнай звалцы; паветра было густое і клейкае, як цэментавы раствор. Адомас з агідай адчуў, як ліпкая маса плыве па горле, застойваецца ў лёгкіх, і яму зрабілася блага. «Дом вар'ятаў! Ці варта шкадаваць, што выпісваешся з дурдома?» Выцягнуў руку перад сабой. Белая, чыстая рука. Яго рука. Тая самая, якая... З вясёлым здзіўленнем ён глядзеў на сябе збоку, нібы на староннягa чалавека,— усе яго асудзілі, затое ён апраўдаў. Яму было бясконца шкада гэтага чалавека, ён захліпнуўся, аднак не слязамі жалю — нянавісцю да тых, хто падпісаў такі несправядлівы прысуд. Пачуў за сцяною Мілдзіну хаду — у туалет, напэўна, пайшла. Не праз яго пакой — праз другія дзверы. «Вось і добра,— падумаў ён.— Калі ёсць мыза, якую менш за ўсё я хацеў бы бачыць перад адыходам з гэтага дурдома, дык гэта твая...»

Сеў за стол і яшчэ раз перачытаў ліст. Цяпер ён ужо не здаваўся такім складным і пераканальным. Ён не разумеў, што ў гэтым лісце не так, што ён міжволі ўтаіў ці не

змог як след выказаць, але адчуваў: людзі, перад якімі ён хацеў апраўдацца, усё роўна яго не зразумеюць. Мілда вярнулася і ўключыла ў сваім пакоі радыё. Нахабна бесклапотная танцавальная музыка здзекавалася з Адомаса. «Толькі ўзрадуецца, што развязалася са мною. Вядома, будзе клопат — каму прыемна хаваць, ды яшчэ свайго мужа? — затое потым разам з Гедымінасам пацешацца: правільна зрабіў, што адправіўся на той свет. Не, не атрымаўся ліст. Трэба неяк шырэй, важчэй... Абгрунтаваць, даказаць, каб камар носа не падтачыў. Да вечара ўсё перадумаю і напішу нанава».

## VII

Па абедзе, узяўшы з сабою двух паліцэйскіх, ён выправіўся ў Лаўксадзіс апісваць маёмасць Мікаласа Джугаса. Пра ліст ён ужо не думаў. Жахлівыя начныя перажыванні цяпер здаваліся цяжкім сном. «Вышукаўся яшчэ адзін, хто, як кажа Дангель, сам лезе на нож. Распора сабе жывот, і зноў я буду вінаваты,— думаў ён са змрочным задавальненнем.— Несумненна, без пана настаўніка тут не абышлося». Адомас не ведаў, чым скончыцца ўся гэта гісторыя, аднак разумеў, што Гедымінаса чакаюць вялікія непрыемнасці. «Мілда шукала затулку, аднак сцяна, за якою яна хацела схавацца, ужо вагаецца і трашчыць. А калі абваліцца? Цікава, каго яна тады будзе вінаваціць? Гедымінаса, што кінуў недарэчны выклік сіле, ці сілу, якая змяла летуценніка-ідыёта? Хутчэй за ўсё сілу. А на чые плечы яна ўзваліць віну, калі мяне ўжо не будзе?»

Спахапіўся, заўважыўшы, што пра сваю смерць думае як пра факт, які ўжо адбыўся. Аднак гэта не было непрыемна. Наадварот — ілюзія сваёй смерці вызваліла яго ад рэчаіснасці, узвысіла, зрабіла недасягальным, і ён да самага Лаўксадзіса ўпіваўся сваёй выключнасцю, уяўляючы, як будзе выглядаць гэтая няшчасная зямля без яго. Краявід роднай вёскі, ад якога ў яго заўсёды мацней пачынала біцца сэрца, цяпер яго не ўзрушыў. Вуліцы і двары з людзьмі, якія варушыліся там, здаваліся кардонавай дэкарацыяй, і ён глядзеў на іх, як на загрувашчаную бутафорыяй сцэну, на якой замест жывых акцёраў выступаюць лялькі. Пачуўшы, што на падворак уязджае машына, з хаты выйшаў Мікалас Джугас. Сівагаловы, без шапкі, з каравымі рукамі земляроба, якія не раз у маленстве гла-

дзілі Адомасаву галаву. Адомас машынальна падаў руку, каб павітацца, і тут жа, зніякавеўшы, апусціў: стары, што стаяў насупраць, быў таксама несапраўдны, бутафорскі, як і ўсё навокал.

— Пан начальнік паліцыі прыехаў, бач, каб апісаць маёмасць,— першы загаварыў стараста Кучкайліс, якога Адомас прыхапіў па дарозе як прадстаўніка мясцовай улады.— Калі за тыдзень не здасі паставак, папруць з гаспадаркі.

Мікалас Джугас адчужана агледзеў іх. Рукі закладзены за спіну, на губах блукае незразумелая ўсмешка.

— Ну што ж, чыя сіла, таго і воля.

Адомас мог бы растлумачыць, што сёння ў камендатуры самым катэгарычным чынам было зазначана, што няма чаго цацкацца з тымі, хто марудзіць з пастаўкамі, аднак не меў ніякай ахвоты ўдавацца ў доўгія размовы.

— У нашай воласці толькі адзінкі задаўжалі дзяржаве па пастаўках,— сказаў ён.— У гэтым спісе, пане Джугас, вы стаіце на першым месцы, бо дагэтуль не здалі ніводнага кілаграма збожжа. Мяса таксама ў вас здадзена толькі трэць. Таму не гневайцеся, калі мы трохі пашпацыруем па вашай гаспадарцы...

— Навошта гэтыя тлумачэнні? Мы ж свае людзі, не пакрыўдзімся, пане начальнік,— кпліва адказаў Мікалас Джугас.

Адомас у суправаджэнні двух паліцэйскіх і старасты накіраваўся ў хлеў. Апісаў жывёлу. Агледзеў клуню, гумно, лазню, пашастаў па свірне. Пад столлю віселі два кумпякі, некалькі кавалкаў сала, вядро здору. На дне ў кадушцы — засоленая бараніна. У засеках збожжа — як толькі на корм скаціне і на сяўбу.

— Так збяднеў стары, што мне смешна,— здзівіўся Кучкайліс.

— Дрэнна робіш, пане Джугас,— сказаў Адомас, калі ўсе ўвайшлі ў хату.— Ведай, прыедуць людзі, якія лепш за нас ведаюць сваю справу і знойдуць усё, што трэба. Хочаш, каб паставілі да сценкі?

— Не хачу, але калі паставяць, што зробіш?

— Які д'ябал прымушае вас класці галаву пад колы? Можа, думаеце, машына спыніцца? Чаму ўсе людзі як людзі: аддалі ўладам што належыць і жывуць сабе спакойна. І самі не маюць клопату, і іншым не дадаюць.

— Усялякія людзі ёсць, пане начальнік паліцыі. Летась, калі меў з чаго, і я здаў да апошняга зернейка.

— А сёлета бог пакрыўдзіў, ці што? — адгукнуўся Кучкайліс.— Паслухай, бацька, а можа, часам твае пастаўкі пайшлі не туды, куды прызначаліся? Ці часам не заяўляліся да цябе каторую ноччу бандыты ў госці?

— Гэтакую справу ты, пэўна, ужо вынюхаў бы, Кучкайліс,— адсек Джугас.

— Добра.— Адомас падсунуў акт Джугасу.—Пастаўце тут свой подпіс. І падумайце, ці варта пляваць проці ветру. Шмат хто спрабаваў, але толькі жыццём паплаціўся. А чаго дамогся?

— Калі хацеў жыць сумленна, як і належыць чалавеку, дык свайго дамогся, пане начальнік.

— Гэта ўсё Гедымінасавы мудрошчы, пане Джугас. Не будзем разважаць, чаго яны вартыя, але калі бацька пачынае скакаць пад сынаву дудку... Ну, як ведаеце. Мой абавязак — перасцерагчы вас, чаго можа каштаваць бязглуздая ўпартасць. Не хачу, каб потым вы звальвалі віну за свае недарэчныя скокі на плечы другіх.

— На нявіннага не звалiш віны, Адомас.

Адомас здзіўлена павярнуўся да старога. Сапраўды, гэтыя словы толькі што вымавілі яго вусны. Мяккім, добрым голасам, як тады, калі іх не падзяляла сцяна, а дзве сядзібы лучыла сцежка, якую да чарнаты вытапталі яны з Гедымінасам, бегаючы адзін да аднаго. Гэта быў голас дзіцячых дзён, жывы чалавечы голас на гэтай кардонавай сцэне, загрувашчанай дэкарацыямі. І Адомас адчуў, як ад гуку гэтага голасу ўсё навокал набывае свой колер, напаўняецца жыццём і рухам, а ілюзія нябыту рассейваецца, як ранішні туман.

— Вы, дзядзька Джугас, узнагароджаны крыжам Пагоні. Каму-каму, а вам трэба было б адрозніваць, дзе лева, а дзе права,— прамармытаў ён, стараючыся суняць унутраную дрыготку.— Не дапамагаць немцам — значыць дапамагаць бальшавікам. Можа, думаеце, калі яны вернуцца, будзе менш крыві?

І, не дачакаўшыся адказу, выйшаў за дзверы: баяўся, каб зноў не пачуўся адгалосак дзіцячых дзён і каб не разбурыўся дарэшты бутафорскі свет, без якога потым не зможа згуляць да канца апошняй дзеі. Але яны ўжо былі расхістаныя, гэтыя кардонавыя дэкарацыі. Нават седзячы ў старасты Кучкайліса за сталом, устаўленым пачастункам, ён бачыў сівагаловага старога, непрыступнага ў сваёй простай праўдзе; прымроіліся падвешаныя на гарышчы

кашы, дзе Гедымінас трымаў галубоў, складзеная за клуняй груда бярвення, на якую яны ўскарасквалiся, каб разам пасядзець і памарыць, усёй скурай адчуў дымную прахалоду гумна, дзе пах прэлага лёну змешваўся з пахам печанай бульбы, якую яны елі перад яшчэ цёплай печчу, слухаючы казкі дзядзькі Джугаса. Нядаўняя рэчаіснасць стала бязлітасна яркая, адчувальная да болю, і Адомас куляў чарку за чаркаю, дарэмна стараючыся заглушыць яе ў сабе. «Мяне больш няма... няма...— выкрыкваў ён у п'яным трызненні.— Адомас Вайнарас спусціў курок. Слова гонару! Гэты стары пень не хоча разумець, але вось вы скажыце, хіба кепскім чалавекам я быў? Не, сапраўды, няўжо такой сволаччу быў Адомас Вайнарас, што трэба прыйсці і напаскудзіць у яго на магіле?» Кучкайліс усміхаўся, прыязна ляпаў па плячы. («Нашто такія размовы, мне смешна? Мы за табой як за каменнай сцяной, начальнік, ты — наша абарона. Прапалі б...») Астатнія таксама ківалі галовамі, а нехта нават расплакаўся. Адомас таксама расчуліўся. Не, гэтыя людзі яго ніколі не асудзяць, не плюнуць у твар. У яго яшчэ ёсць сябры! «Ведаю, галубок, хто-хто, а вы не станеце вешаць на мяне сабак, калі я пакіну гэты свет. Вы разумееце мяне, спачуваеце; гэта не хутарскі Міхаіл Архангел са сваімі святымі». Пачаў абдымаць і цалаваць кожнага па парадку, але раптам згадаў Міграту. Можа, і не згадаў бы, калі б нехта не прынёс вестку, што ў пана Петара фон Дызэ госці і ён запрашае начальніка паліцыі і старасту весела прабавіць у яго вечар. О, гэта сама раз! У фальварак! А там — Мігла-Дарата... Міграта... рата... ата... та... Нехта, здаецца Кучкайлісава жонка, запярэчыла, што ўжо цёмна дый, апроч таго, п'янаму за руль... Ён толькі зарагатаў: хіба можа разбіцца чалавек, які сёння раніцай уляпіў сабе кулю ў лоб? Пасадзіў Кучкайліса побач з сабою (абодва паліцэйскія — на заднім сядзенні) і памчаў па вёсцы. А потым усё адбылося з ліхаманкавай хуткасцю. На павароце ў дваровую абсаду фары машыны выхапілі з цемры блытаніну ценяў. Засада! Адомас налёг на тармазы і тут жа турзануў кабуру з пісталетам. Аднак было позна: асляпляльны струмень святла сцебануў па вачах, і ён убачыў скіраваную на яго аўтаматную рулю.

— Ні з месца! Рукі ўгору! — прагрымела каманда.

Адзін з паліцэйскіх кінуўся з машыны, але ў гэты ж момант грукнуў стрэл, і абмяклае цела пляснулася на дарогу.

— Па адным з машыны — марш! — зноўку скамандаваў той самы голас.— Гэй ты там, кіроўца гэтай труны! Варушыся хутчэй! Толькі без жартаў, калі не хочаш выцягнуцца побач са сваім дружбаком.

Адомас з вялікай цяжкасцю выкінуў ногі праз дзверцы. Нехта схапіў яго за кляпы, штурхнуў у цемру і пачаў корпацца ў кішэнях. Штаны раптам сталі яму завялікія — з іх высмыкнулі пасак.

— Наступны! Ты, ты, пане паліцэйскі.

Кучкайліса выцягнулі апошняга.

Выстраілі ўсіх трох і пагналі ў двор. Наперадзе ехала Адомасава машына, за руль якое сеў адзін з партызанаў.

— Хто думае ўцякаць, хай моліцца загадзя,— папярэдзіў голас, што кіраваў аперацыяй.

Калі хто спачатку і думаў пра гэта, дык цяпер, адчуўшы паміж лапатак красамоўную цвёрдасць дула, адмовіўся ад усялякай спробы ўцёкаў.

«Як недарэчна...— падумаў Адомас.— Раніцай не ўклала свая куля, вечарам укакошыць чужая».

— Куды гоніце? — машынальна спытаўся ён.

— Што, хіба дарогу забыў да свайго прыяцеля?

«Знаёмы голас...»

Халодныя вільготныя абцугі сціснулі Адомасаву далонь: гэта ўчапіўся Кучкайліс. Ён спатыкаўся, ледзьве не падаў, намагаўся нешта сказаць, але з рота вырывалася хрыплае мармытанне. «Фрэйтка... Бергман...» — нарэшце здагадаўся Адомас.

— Ён самы, Кучкайліс,— адгукнуліся за спіной.— Прыйшоў спытацца, куды ты падзеў майго сына.

— Канчай размовы! Знайшлі месца для тлумачэнняў.

І гэты голас Адомас недзе чуў. Прыўзняў руку, каб сцерці пот з твару, але тут жа атрымаў удар у спіну. Дваровая абсада была нядоўгая, аднак цяпер здавалася, што ёй ніколі не будзе канца. Жвір злавесна шаргацеў пад нагамі («Так шаргацяць рыдлёўкі магільшчыкаў, што засыпаюць магілу»), і гэты гук зліваўся з вусцішным свістам ветру ў галінах дрэў. Усё навокал было такое нерэальнае і нечаканае, што Адомасу раптам падумалася: ці не сон гэта?! Ён ляжыць у сваім ложку, а неадчэпныя здані здзекуюцца з яго.

— Дарма стараецеся,— сказаў ён пад уплывам гэтага зманлівага ўражання.— Такія штукі мне не навіна.

За спіною засмяяліся, па-руску замацюкаліся, а знаёмы Адомасу голас адказаў:

— Як бачу, пане начальнік паліцыі, вы яшчэ не пра-цверазелі пасля пачастунку ў старасты.

— Тым лепш,— адгукнуўся Фрэйтка.— Лягчэй будзе адправіцца да Абрама.

Кучкайліс застагнаў і ўпаў на калені.

— Ідзіце, ідзіце. З гэтым падлам я сам упраўлюся.

Ударылі ў спіну, і гэты ўдар, нібы стрэл, ракетай асвятліў Кучкайлісаву памяць.

(Сонечны летні ранак. На падворку, сярод кулдыклівых індыкоў, два мужчыны з белымі павязкамі на руках. Два гліняныя гаршкі, як набрынялыя жаночыя грудзі, тырчаць адзін каля аднаго на штыкецінах на плоце. «Людзей не хапае,— кажа адзін, вышэйшы ростам, з пляскатым тварам.— А ты староста. Павінен прыклад падаць...» — «Не-е, мужыкі, я не,— круціць галавою Яўтакіс і хавае вадзяністыя вочы, тапырачы далоняй жоўтыя абвіслыя вусы.— Калі ўжо адразу павязкі не надзеў, дык цяпер... Бярыце Пятраса, такім адно задавальненне пабегаць з вінтоўкай, а я ўжо стары...» Калі б не такі спякотлівы дзень і не зваблівы позірк Евасі Яўтакені, можа, і не пайшоў бы ён з імі. Але шалёна прыпякала сонца. Праз чвэрць гадзіны, калі адпачнуць коні, трэба зноў будзе араць канюшынішча. Да вечара абліваецца потам на скварах, мучыцца з конямі, якім жыцця не дае заедзь... А яшчэ так цікаўна з-пад калматых дрыготкіх веек глядзіць гаспадыня. Ніякай надзеі ён не меў, бо тады яшчэ не ведаў, што Яўтакісу ўжо нядоўга целяпацца на гэтым свеце, проста лічыў справай гонару прыціснуць дзе-небудзь на вышках старасціху, тым болей што і яна, здаецца, не супраць. Адчуваючы, як яго суправаджае гэтае спакуслівае падрыгванне вейкаў, ён сеў на ровар і паехаў з тымі мужчынамі ў горад, дзе атрымаў вінтоўку, а Яўтакіс, пачухваючы худыя бакі, паплёўся ў хлеў па коней: ён мусіў цяпер ехаць на поле, араць канюшынішча, змагацца з заеддзю і спякотай. Эх, каб ведаць усё наперад... Але хто табе скажа? Думаў, вінтоўка, каб арыштантаў муштраваць, бабахаць угору, палохаць дзяўчат, а аказалася, яшчэ ў гэты самы дзень... Хто ведае, ці адважыўся б ён прыціснуць яе да шчакі, каб не гарэлка, ды спёка, ды зухаваты настрой — нібы нейкая рака без берагоў: упадзеш — і ўжо нікуды з яе не выплывеш. І паплыў, і паплыў ён разам з іншымі. А восенню зноў... Нават ускіпеў праведным гневам. Юды! Хіба не яны ўкрыжавалі Хрыста?! Сына божага!

Як шалёныя сабакі, на Хрыста напалі,
як ваўкі ягня схапілі, не займелі жалю.

З дзіцячых дзён ён чуў гэты песнаспеў, без якога не абыходзяцца ў вёсцы ніводныя хаўтуры; і цяпер ён гучаў у вушах, зліваючыся з вінтовачнымі стрэламі, а ён усё націскаў і націскаў курок, нібы ашалелы садоўнік, які застаў у сваім гадавальніку гурму зайцоў, што абгрызаюць дрэўцы. Сёй-той, што і казаць, разжыўся, а ён прывёз дадому толькі прыгожую ядвабную хустку з мяккімі аранжавымі махрамі, пярсцёнак і залаты гадзіннік. Склаў гэтыя рэчы ў свой фанерны куфэрак, што стаяў пад ложкам у каморы. А перад калядамі, калі размовы пра яўрэйскія расстрэлы пачалі сціхаць, уклаў гадзіннік у кішэньку, ушытую якраз на гэта ў штаны, і, звесіўшы на жывот цяжкі залаты ланцужок, адсвяткаваў за гаспадарскім сталом свята праводзінаў парабкаў. Ён не намерваўся нікуды адыходзіць і святкаваў гэты дзень толькі таму, што так было заведзена здаўна. Стараста ўжо скардзіўся, што кепска пачуваецца, і пайшоў раней спаць, а Ёвася, выправіўшы парабка з наймічкай на танцы, зноў звабліва дрыгацела вейкамі; ён сам тады не адчуў, як апынуўся ў каморы каля свайго куфэрка і, пазіраючы на гаспадыню асалавелымі ад піва вачамі, ахінуў яе плечы ядвабнаю хусткай з мяккімі аранжавымі махрамі. Яна нягучна смяялася, выгінаючы пад ягонай рукою спіну, нібы кошка, што лашчыцца, і казала, што, зрэшты, падарункі павінны даваць гаспадары парабкам, а не наадварот, але калі ўжо так атрымалася, дык яна ў даўгу не застанецца, няхай толькі пачакае да наступных калядаў. Але гэтак доўга чакаць не давялося: Яўтакіс блажэў на вачах, і аднойчы ўначы, калі ён заснуў, Ёвася ў адной сарочцы прыйшла да яго ў камору. Потым пачала заходзіць нават раніцаю. І тады ён зразумеў, што недарма прывёз гэтую хустку і ахінуў ёю плечы чужое жонкі. Сама раз цяпер выцягнуць на дзённае святло і пярсцёнак, што ляжыць, схаваны, у самым кутку ў куфэрку,— вырашыў ён. «Бач, як атрымліваецца, мне смешна. Айн мамент — і з парабка гаспадар, стараста, галава заможнай сям'і». Але цяпер, калі з усіх бакоў на яго пазірала смерць і не было аніякай надзеі ад яе адкруціцца, смех змяніўся жахам. У нейкую долю імгнення ён зразумеў: каб не тая праклятая спёка і не тыя двое з вінтоўкамі... каб яны прыехалі хоць бы на паўгадзіны пазней, калі ён, выехаўшы ў поле, араў бы ўжо канюшынішча... каб Яўтакіс тады ўжо ляжаў у пасцелі

і гэтак звабліва не міргацелі вейкі ў Евасі... каб жа ведаў усё наперад... Нейкай самай маленькай драбніцы не хапіла — і ён не ўзяў бы ў рукі вінтоўкі і не пачаў бы, бо галоўнае — пачаць. Калі ад тваёй рукі пападалі многія, калі наслухаўся мольбаў і крыкаў аб ратунку, калі сарваў дарагую хустку з плячэй іншаверкі, а яе самую штурхнуў у яму, напоўненую стогнамі небаракаў,— хіба пасля ўсяго гэтага так ужо важны нейкі Фрэйткаў хлапчук?.. Альбо звар'яцелы ўцякач-яўрэй? Адзін з нашчадкаў Юды Іскарыёта, якія сына божага распялі на крыжы...»)

Іх правялі праз парадны ўваход. У зале было светла, як на банкеце: гарэлі ўсе тры жырандолі. Каля адной сцяны на крэслах сядзеў пан Дызэ з жонкай, каля другой — парабкі: чацвёра мужчын, двое хлапцоў і трое дзявок. Каля дзвярэй, трымаючы напагатове аўтамат, стаяў вартавы ў форме нямецкага салдата.

— Ідзі да Вайдатаса,— загадаў яму адзін з тых, што суправаджалі арыштаваных.— Калі заўважыш што падазронае, адразу ж давай знак. Вайдатасу я загадаў, каб ён ні на хвілю не адлучаўся ад машыны.

Вартавы выйшаў.

Той, што ўвесь час аддаваў загады, сеў за стол, пастаўлены збоку каля дзвярэй, і Адомас, аслупянеўшы, пазнаў Маруса Нямуніса. Ён быў апрануты ў кароткі кажушок са знакамі адрознення афіцэра нямецкай арміі; шэрае формнае галіфэ было ўвабрана ў мяккія хромавыя боты, на галаве — высокая армейская шапка з арлом і свастыкай, на шырокім скураным паску з партупеяй — пісталет. Астатнія двое — Фрэйтка і незнаёмы, хударлявы белабрысы хлапчына з кірпатым носам,— былі ў пілотках, у доўгіх нямецкіх шынялях, апяразаных дзягамі, за якімі тырчала па некалькі гранат.

Фрэйтка з белабрысым выштурхнулі арыштаваных на сярэдзіну залы, выстраіўшы іх у такім парадку: Адомас — Кучкайліс — паліцэйскі.

— Ну, вось мы і сустрэліся,— сказаў Марус, пераскокваючы гарачымі вачамі з аднаго на другога.— А можа, мы памыліліся? Можа, вы не тыя, па кім мы даўно сумуем? Адомас Вайнарас!

Адомас нічога не адказаў.

— Ад страху язык праглынуў, ці што? Кучкайліс!

Староста застагнаў, нібы падымаў вялікі цяжар. Ён ледзьве трымаўся на нагах.

— А ты хто такі будзеш? — спытаўся Марус у паліцэйскага.

Той прабубніў сваё прозвішча.

— Даўно служыш ім, Руткус?

— З мінулай восені.

— Шмат нявінных людзей забіў?

— Не давялося, пане... тварыш... Вобыскі дык рабіў. Лавіў спекулянтаў... Гэтакая служба...

— Словам, цаца. А ці не дапамагаў немцам вылоўліваць летам мужчын для вермахта?

Паліцэйскі стаяў, апусціўшы галаву.

— Бачыш, мы ведаем усё не горш за цябе самога. Нядобра ашукваць.

— Калі так, дык мусілі б ведаць, што Руткус, дачуўшыся пра аблаву, звечара паспеў папярэдзіць вёску,— адгукнуўся адзін з парабкаў.

— Ты, хлопча, дарэмна язык распускаеш — нагарыць табе, калі мы пойдзем.

— А хто кажа, што я застануся? — жвава адказаў парабак.

Партызаны пераглянуліся між сабою і шматзначна ўсміхнуліся.

— Сядай.— Марус махнуў рукой паліцэйскаму, паказваючы на месца каля сцяны, дзе сядзелі Петар фон Дызэ з жонкай.— Мы і без дарадчыкаў сёе-тое ведаем пра людзей, з якімі даводзіцца мець справу. Напрыклад, хоць бы пра гэтага нямецкага каланіста з Усходняй Прусіі. Трэба было б павесіць яго на сухой галіне — паветра стала б чысцейшае, але спадзяюся, што пасля нашага візіту пан Дызэ засумуе па айчыне і вернецца туды, адкуль узяўся. А табе, Руткус, карысней было б кінуць гэтую сабачую службу, інакш не магу абяцаць, што другі раз мы цябе зноўку памілуем.

— Яны нас забіваюць, а мы іх мілуем...— прамармытаў Фрэйтка.

— Прэдателі! Расстраляць всех! — крыкнуў белабрысы.

— Мы абаронцы законнага ладу, а не бандыты.— Марус выцягнуў з планшэткі складзены напалам аркуш паперы і ўстаў.— Маглі б знішчыць вас яшчэ на дарозе, але забойцам такая смерць была б занадта добрая. Апрача таго, яна не адпавядала б рашэнню партызанскага суда, бо вы абодва асуджаны на смерць праз павешанне.

З горла ў Кучкайліса вырваўся хрып, ён заікаў. Гала-

ва трэслася, як у эпілептыка, па абвіслым падбародку цякла сліна.

Адомас з агідай адсунуўся ўбок. У вушах звінела, аднак розум быў цвярозы, пачуцці абвастрыліся, нібы даўно ў рот не браў ні кроплі гарэлкі. Бачыў белы чатырохкутнік паперы ў руках у Маруса, за ім двух мужчын з аўтаматамі, гатовымі да стрэлу, разгледзеў нават бялёсы шрам на падбароддзі ў белабрысага і чамусьці падумаў, што грудзі ў яго, напэўна, сіняватыя, як у мерцвяка, а на абедзвюх руках татуіроўка: чэрап са скрыжаванымі касцямі. «За супрацоўніцтва з немцамі... забойства савецкіх грамадзян... асудзіць...»

— Я не забіваў... не забіваў людзей! — усклікнуў Кучкайліс.— Няма сведак... Хлусня!

— Ён забыўся, погань, што яўрэі таксама людзі,— прашыпеў Фрэйтка.

— Колькі немцы табе заплацілі, Кучкайліс, за маіх бацькоў і за хлопчыка Бергмана? — сурова запытаўся Марус.

Кучкайліс упаў на калені.

— Я не думаў... не хацеў... Такі быў загад ад улады,— скуголіў ён, як шчаня.— Будзь чалавекам, Фрэйтка, і вы, пан... таварыш Нямуніс... Злітуйцеся...

— Які добранькі, бач, зрабіўся, мне смешна,— кпліва ўсміхнуўся Фрэйтка, пераймаючы Кучкайліса.— Бач, загадалі яму даведацца, хто хавае яўрэяў, ён вынюхаў — і айн мамент у гестапа. Абавязак такі, што ў гэтым кепскага, мне смешна.

— Не, не, не ў гестапа,— падхапіўся Кучкайліс.— Не немцам. У паліцыю паве... паве... Вось яму, Вайнарасу.— Павярнуў жахліва перакрыўлены твар да Адомаса, цягнучыся да яго рукою, якая дрыгала ў паветры, нібы кій сляпца, што намацвае дарогу.— Гэта ён... ён... Яго карайце!

Адомас адвярнуўся — яму зрабілася блага. Позірк на імгненне затрымаўся каля сцяны, дзе сядзеў паліцэйскі з панамі Дызэ. Усе трое дзіўна здранцвелі, схіліўшы галовы набок, нібы віселі, пачэпленыя на нябачнай вяроўцы.

— У пятлю гэтага нягодніка! — загадаў Марус.

Пакуль Фрэйтка з белабрысым дабеглі да Кучкайліса, той паспеў бразнуцца на падлогу і цяпер поўз да стала.

— Злітуйцеся... Злітуйцеся... Таварыш Нямуніс... Бергман... Магарыч разам пілі... Злітуйцеся...— лямантаваў ён, абняўшы Фрэйткавы ногі.

Белабрысы стукнуў яму прыкладам аўтамата па руках, а калі гэта не дапамагло, садануў нагою ў бок, і толькі тады Фрэйтка вызваліўся са старастаўных абдымкаў.

Партызаны, схапіўшы Кучкайліса пад пахі, пацягнулі яго, як мяшок, у канец залы, да першай жырандолі, з якое ўжо звісала вяроўка.

— Стул! — па-руску крыкнуў белабрысы.

Загрукацела па падлозе крэсла, якое пехта піхнуў ад сцяны. Тупат ног, лаянка, нейкі звярыны рык.

— Праклятая падла! Абляваў...

— Па мордзе сукінаму сыну!

Праявінела апляўха. Другая, трэцяя.

— Будзьце ласкавыя зазірнуць у сваю будучыню, пане начальнік паліцыі,— сказаў Марус.

Адомас не паварухнуўся.

Тады падышоў Фрэйтка і, узяўшы за плечы, павярнуў тварам да жырандолі.

Кучкайліс стаяў на крэсле са звязанымі рукамі і пятлёю на шыі. Твар азыз, атупеў, маленькія вочкі кудысьці схаваліся. Перад каптана і паркет вакол крэсла запаскуджаны; нудзіла ад кіслага паху неператраўленай ежы і алкаголю.

Марус махнуў рукою.

Белабрысы пацягнуў на сябе крэсла, і Кучкайліс з нейкім дзіўным храбусценнем павіс у паветры. Крутануўся ў адзін бок, пасля ў другі (жырандоля падазрона захісталася над паніклаю галавой), нарэшце павярнуўся спіной да Адомаса, нібы засаромеўся сваёй ганебнай смерці, і гэтак застаўся вісець.

Адомас адвярнуўся. «Падох, як апошняе быдла,— мільганула думка.— Не здолеў чалавекам памерці». Падняў галаву, з выклікам агледзеў залу. Паны Дызэ і паліцэйскі сядзелі ў ранейшых паставах — шыі напружаныя, як на шыбеніцы, тварамі да дзвярэй. Парабкі хто перашэптваўся між сабой, хто ўнурыўся ў паркет, аднак ніхто не глядзеў на павешанага. Толькі цяпер Адомас заўважыў, што сярод іх няма Міграты, і яму зрабілася лягчэй. «Усё, што мне засталося,— гэта памерці мужчынам...»

— Другая жырандоля прызначаецца асабіста вам, пане Вайнарас,— са здзеклівай іроніяй сказаў Марус.— Па праўдзе кажучы, ваша асоба не ўваходзіла ў нашу сённяшнюю начную праграму. Звычайнае супадзенне: прыехалі па аднаго, а трапілася ў абдымкі пара. Які ду-

рань не скарыстаў бы такой нагоды? Так што рыхтуйцеся, пане начальнік.

«Калі падыдуць звязваць рукі, лупяну гэтаму кірпатаму — і за аўтамат... Калі гінуць, дык лепш ад кулі».

— Шкада, Нямуніс, што не ўкакошыў цябе ў пачатку вайны. Была нагода,— таксама з іроніяй адказаў Адомас.

— Хочаш расчуліць мяне? Не старайся, нічога з гэтага не атрымаецца.

— Ведаю. Для таго вы і заявіліся, каб зводзіць старыя рахункі. Дзіўлюся, як гэта Кяршыс да гэтага часу жывы. А можа, сёння, праходзячы міма, і яго павесілі на галіне?

— Твая сястра гэтага не вартая. Дзеля яе я і курыцы б шыі не скруціў.— Марус хрыпла засмяяўся.— Шчыра кажучы, мне і цябе шкада: усё ж такі істота з роду двухногіх. Але нічым не магу дапамагчы: забойцаў і здраднікаў мы знішчаем.

— А самі пры гэтым здраднікі... Каму ты служыш? Гэтаму чужынцу?

Марус пагардліва ўсміхнуўся.

— Героя з сябе строіш? Кожны нягоднік, прыцісніуты да сцяны, альбо абробіцца да вушэй, альбо пачне выдаваць сябе за смельчака. А вынік у абодвух выпадках той самы. Вунь сядзяць людзі; можа, яны і не бачылі, як ты таптаўся па калені ў крыві, аднак усе ведаюць, што даўно заслугоўваеш пятлі. Ніхто не паспачувае, не надзене пакутніцкага вянка, не спадзявайся.

— Аднак і цябе не апраўдаюць,— сekануў Адомас, не пазіраючы ўбок, але выразна ўяўляючы выцягнуты твар пана Дызэ. («Вось як памірае сапраўдны літовец, пане немец! Гэты Іванушка нікому не зможа пахваліцца, што павесіў гада, які вымольваў літасці».) — Ад чыйго імя ты судзіш людзей? Я не прызнаю ніякай савецкай улады. Для мяне існуе толькі адна законная ўлада — улада незалежнай Літвы. Яна пакуль што ў Амерыцы, але мой народ тут, у сваім доме. Я служу свайму народу...

— Дапамагаючы немцам яго знішчаць?

— Так, калі размова ідзе пра такіх адшчапенцаў народа, як ты.

— У тваёй асобе гітлераўцы набылі ідэальнага паслугача.— Марус змушаным усмехам засланіў раздражненне, якое расло ў ім.— Але, можа, досыць ужо, пане начальніку, гэтых размоў?!

— Мы адзін аднаго не пераканаем: кожны з нас служыць іншаму гаспадару. Маглі выбраць залатую сярэдзі-

ну, як Гедымінас, ну, але што зробіш — не выйшла... Аднак я не шкадую, што выбраў Гітлера. Прыемней служыць у культурнага пана, чым у занэндзанага мужыка...

Бразнулі дзверы. На парозе з'явіўся партызан.

«Калі не ўдасца загінуць ад кулі, праз некалькі хвілін буду вісець на другой жырандолі побач з Кучкайлісам,— падумаў Адомас. Раптам яму ў галаву прыйшла думка, што на рахунку ў Маруса яны не першыя, што ён таксама запэцкаў рукі ў чужой крыві, і сэрца заліла хваля зласлівай радасці.— Не, усё, што я зрабіў, было непазбежна, мусіла здарыцца. Я забіваў, баронячы сябе і здаровую частку нацыі. І мала забіваў: калі б тады я не пашкадаваў Маруса, сёння не стаяў бы перад дулам яго аўтамата».

Марус павярнуўся да партызана, які міргаў аслеплымі ад яркага святла вачамі, нібы хацеў лепей разгледзець труп, што пакалыхваўся пад жырандоляй.

— Чаго табе, Мядзведзь?

— Нешта не тое, таварыш камандзір. Трэба спяшацца...

— Заводзь машыну!

— Заведзена, таварыш камандзір.

Фрэйтка з белабрысым, не чакаючы Марусавага загаду, ступіў да Адомаса. У гэтае ж імгненне бразнула разбітая шыбіна, за выбітым акном мільгануў прыклад аўтамата і прагучаў спалоханы крык:

— На дарозе машыны! Немцы! Хутчэй!

## *Раздзел трэці*

### I

Толькі пасля таго, як ляпалі дзверы ў сенцах, Мілда адчувала, што пачынаецца яе дзень. Хоць бы да абеду, калі ён забяжыць перакусіць (апошнім часам гэта здаралася ўсё радзей), яна зможа пабыць сам-насам са сваімі думкамі, не бачачы гэтага чалавека, які стаў ёй зусім чужы і якога яна ў роўнай меры і ненавідзела і баялася. І разам з тым шкадавала. Гэта было самае недарэчнае пачуццё — яно замінала ёй прыняць канчатковае рашэнне — аднак яна нічога не магла з сабою зрабіць. Чуючы, як ён бушуе за сцяной альбо нешта мармыча, як, сарваўшыся сярод ночы з пасцелі, адчыняе шафу, звоніць кілiш-

камі, яна ўяўляла няшчасны спіты твар, і ёй станавілася балюча да слёз. «Ён гэтага не варты, не варты спагады»,— дзяўбла яна сабе, аднак бывалі такія імгненні, калі яна ледзь стрымлівалася, каб не кінуцца ў яго пакой і не вырваць з рук бутэлькі. «Няўжо я кахаю яго?» Аднак тут жа спалохана адганяла гэтую думку. Адчувала сябе ў глухім тупіку, з якога хіба што толькі цуд ёй дапаможа выйсці. І яна верыла, што здарыцца, мусіць здарыцца нешта незвычайнае, што зрушыць ледзяныя заторы нарэшце і вынесе яе на шырокія воды. Яна не ведала, якім чынам гэта можа адбыцца, нічога не планавала загадзя, аднак жаноцкім чуццём угадвала хуткае вызваленне. І вось некалькі дзён назад яна пачула ў сабе тупат чыіхсьці асцярожных крокаў. Спачатку нават не паверыла — падман! Нават не падумала, што гэта пастукаўся нарэшце той цуд, якога яна падсвядома чакала, аддаўшыся на волю лёсу. Хацела схадзіць да доктара Гінкуса, але, сама не разумеючы чаму, адклала візіт на заўтра. Потым перанесла яго на другі дзень. Не, яна не рашалася ісці да доктара Гінкуса. Сорам? Можа, трошкі і сорам, хоць Мілда цвяроза глядзела на такія рэчы і не ўхваляла жанчын, якія занадта пільна трымаліся забаронаў хрысціянскай маралі. Нейкае іншае, куды складанейшае пачуццё — яна нават не магла зразумець яго розумам — прымушала яе адхіліць такое, здавалася б, простае, найбольш прымальнае выйсце. Ёй было дзіўна, што яна будзе мець дзіця. Апанаваная радасным хваляваннем, яна пазірала на сябе ў люстэрка («Маці... няўжо гэта жанчына падобная на маці?..») і больш не адчувала нянавісці да Адомаса. І шкадаванне прапала, і страх. Не засталося ніякіх пачуццяў, можа, адна толькі грэблівасць, з якой мы выцягваем на сметнік мэблю, што адслужыла. І ў яе стала лёгка і добра на душы, калі ўчора нарэшце адважылася сказаць, што паміж імі ўсё скончана.

Ноччу спала трывожна. Часта пракідвалася, і кожны раз першаю думкаю было: «Я свабодная!» Яна не намервалася пакаваць рэчы і перабірацца ў вёску да Гедымінаса. Магчыма, некалі гэта і зробіць, але толькі не цяпер. Занадта была прывязаная да горада, а яшчэ больш да свайго дома, саду, словам, да ўсяго наваколля, што яе атачала і адарвацца ад якога яна не мела ні ахвоты, ні моцы. Вёска яе пужала, яна ж збегла адтуль. Яшчэ яна саромелася Гедымінасавага бацькі, баялася, што вяскоўцы яе не зразумеюць; сярод гэтых недаверлівых, з прымі-

тыўнымі думкамі людзей яна будзе самотная. Яна не ўяўляла, як складзецца далей яе жыццё, аднак, звыклая жыць сённяшнім днём, яна не дбала пра будучыню, верачы, што ўсё вырашыцца само па сабе, як толькі нарадзіцца дзіця. Гедымінас яе кахае, гэта самае галоўнае. Нічога яна так рэальна не адчувала, як жыццё, што завязалася ў ёй. Не хутка, яшчэ не хутка... Будзе вясна... Можа, маі, а можа, пачатак чэрвеня... І з'явіцца на свет ён, дзіўны маленькі чалавечак. Слабое, безабароннае стварэнне, што вырасла з тваёй крыві і твайго цела, як парастак з каранёў вялікага дрэва. Ты можаш пагасіць яго — жыццё, што займаецца ў табе,— аднак ты гэтага не зробіш, бо яно табе трэба, надзвычай трэба. Да гэтага часу ты была дадаткам да іншага, а цяпер іншы будзе залежаць ад цябе. Табе трэба каго-небудзь мець побач з сабою, каб, страціўшы ўсё, не застацца без нічога.

Так сказаў тады Гедымінас. Не зусім так, але ва ўсякім разе падобна: «Мы можам страціць бацькоў, блізкіх, сяброў і ўсё роўна не будзем самотныя, калі не страцім сябе. Чалавек мусіць утрымаць у сабе самога сябе, каб, калі не стане ўсяго, не застацца без нічога».

## II

«Гэта пра мяне»,— падумала яна. Зрабілася дужа тужліва і нават страшна ад гэтых загадкавых слоў, і яна, думаючы, што няправільна зразумела, папрасіла яшчэ раз прачытаць той верш.

Узлесак палымнеў бярозамі, апаленымі першымі прымаразкамі. Бабіна лета ішло па аголеных палях, дзе пасвілася скаціна і нерухомелі хутары, зацягваючы срабрыстай пасцілкай павуціны пашарэлы ржэўнік. Неба таксама было нейкае пабляклае, нібы зношанае, хоць горача прыпякала сонца і ніводная аблачынка не парушала гэтага журботнага спакою.

«Але, гэта пра мяне»,— паўтарыла яна ў думках, калі Гедымінас яшчэ раз прачытаў верш. Задраўшы галаву, яна доўга глядзела ў неба, слухаючы гагатанне гусей, што ляцелі ў вырай, хоць і не бачыла іх.

— Засланяюць дрэвы,— расчаравана зазначыў Гедымінас.— Восень... Восень...

— Чаму ты думаеш, што ў мяне нікога не засталося? — спыталася яна са штучнай абыякавасцю, хоць сэрца білася так моцна, што можна было пачуць яго ўдары.—

Маці, праўда, памерла, бацька ажаніўся другі раз, няма сапраўдных сяброў, аднак жа ёсць ты... Яшчэ ёсць...

Ён здзіўлена паглядзеў на яе.

— Пра што ты кажаш?

— Гэты верш ты напісаў пра мяне, Гедміс.

— Няўжо?! — Ён засмяяўся.— Не крыўдуй, але, пішучы яго, я зусім пра цябе і не думаў.

— «У гэты свет мы голыя прыходзім, сціскаючы ў далоні медны грош, у кожнага ён свой, ды ў карагодзе дарог і сцежак змарнаваў я ўсё ж бясцэнны дар, што доля даравала,— і родны дом чужы стаў неспадзеў, і адраклося сэрца, што кахала, ад жабрака, што каралеўства меў...» Сапраўды, Гедымінас, я не змагла разумна скарыстаць свайго меднага грошыка.

— Нічога дзіўнага, калі б я напісаў пра цябе,— кожны паэт павінен апяваць сваю каханую,— але гэтага верша ты не прысвойвай: у ім лёсы многіх, у тым ліку і мой,— сур'ёзна адказаў ёй Гедымінас.— Ці варта дзівавацца, што і ты знайшла ў ім сябе? Наўрад ці ёсць на свеце чалавек, які быў бы задаволены, як ён пражыў жыццё.

— Не суцяшай мяне, Гедміс... Не варта. Год таму назад я толькі пасмяялася б з гэтага твайго верша альбо, у лепшым выпадку, пазяхнула б. «Ды ў карагодзе дарог і сцежак змарнаваў я ўсё ж...» Падумайце, знайшоў, што аплакваць! Жыццё чалавеку на тое і даецца, каб ім карыстацца. Але цяпер я ўжо не тая, Гедміс... Можа, гэта і кепска, можа, праз гэта «і адраклося сэрца, што кахала...».

— Ну што ты выдумляеш? Гэта ўжо хваравітая падазронасць, мая мілая!

— Ведаю, цяпер ужо ведаю: трэба было жыць зусім не так. З самага пачатку не так. Не з таго я пачала... А з чаго я мусіла пачаць? Адомас, калі злаваў, кожны раз вытыкаў мне бурмістра. Нібыта здрадзіла дзіцячай любові... А ён? Спалохаўся Катры Табакі — і ў кусты. Ды чаго там, іншая дзяўчына яго несумненна чакала б. Каханне ўмее чакаць. Але ці кахала я тады Адомаса? Мне толькі здавалася, што кахаю, а на самой справе гэта была гульня пустой ганарлівасці. Сын заможных гаспадароў, верхавод у гімназіі... Думаючы пра Адомаса, я ўяўляла, што сяджу поруч з ім у Вайнарасавай брычцы, у якую запрэжаны стаеннік, і імчу праз нашу вёску. Усе кідаюцца да вокан: Дайлідава Мілда з мужам коціць у госці. Панове Вайнарасы! Паняй хацела быць, Гедміс. Як твая сястра Анэля. Жыць у прыгожай хаце, прыгожа апранацца, смачна есці.

Усе дочкі бабылёў пра гэта марацъ, а што ўжо казаць пра мяне — я ж трохі лізнула навукі ў гімназіі. Я проста задыхалася ў нашай цеснай халупе. Вечная нястача, сваркі. Тут жа, за сцяною, карова, свіння, смурод. Ніколі не забуду, як бацька аднаго разу выцяў маму па твары за тое, што купіла мне новую сукенку. А колькі было такіх апляявух! Галеча робіць з чалавека жывёліну. Чым так жыць, думала я, дык лепей зусім не з'яўляцца на свет. Аднак я з'явілася, Гедміс, і я хацела жыць... Калі б я скончыла гімназію альбо выйшла замуж за Адомаса, усё магло б скласціся іначай... І яго жыццё скіравалася б па іншай каляіне. Большасці ж сялян хапае той драбніцы няшчырага кахання, якое жонкі прыносяць у дадатак да пасагу — да зямлі, коней і кароў. Але мама памерла, я мусіла кінуць гімназію, а з Адомасам нічога не выйшла. Атрымала невялічкую пасаду ў Краштупенах, потым падвярнуўся Бяржэнас... Але не трэба мне было выходзіць замуж, цяпер я бачу, што кепска зрабіла. Ні за аднаго, ні за другога. Трэба было чакаць, цярпліва чакаць, як неяк, раз'ятраны, сказаў Адомас. І не Адомаса чакаць, вядома, а кахання. Цябе, Гедміс! Я паспяшалася на пяць гадоў, мой любы, але памятай, тады я яшчэ не ведала, што такое сапраўднае каханне, не разумела, чаму людзі канчаюць самагубствам, ненавідзяць, ахвяруюць усім дзеля яго, цярпліва чакаюць гадамі і адчуваюць сябе ўзнагароджанымі звыш усялякай меры, калі яно прыходзіць да іх, нават хаця б на адзін дзень.

Пакуль Мілда гаварыла, Гедымінас стаяў перад ёю, апусціўшы галаву. На яго вуглаватым твары, які ёй цяпер здаваўся нават прыгожым, застыў дзіўны выраз — суровасць, змешаная з роспаччу.

— Навошта пра ўсё гэта ты мне расказваеш? — пяшчотна перапыніў ён.— Я ведаю тваю біяграфію.

— Хачу, каб ты мяне зразумеў, Гедміс.

— Ці можна пакахаць чалавека, калі яго не разумееш? З першага погляду? Так бывае, асабліва — у вершах. Магчыма, часам і ў жыцці. Але не тады, калі чалавек мае гэтулькі гадоў, як я цяпер. Я кахаю цябе, Мілда. Такую, якая ты ёсць. Калі б тваё жыццё склалася інакш, скажам, у апошнія гады, магчыма, любоўная прыгода ў тую ноч, калі расстралялі яўрэяў, і засталася б прыгодай. Што б, зрэшты, ні сталася, я не магу прайсці міма чалавека, які топіцца, не падаўшы яму рукі.

— Ты закаханы ў маё гора, а не ў мяне.

— Не спрашчай! Тваё гора зрабіла цябе іншай жанчынай. Такой, да якой я не магу заставацца абыякавым. Ты прыгожая, аднак ведай, раны душы, нават самыя гнойныя, узрушваюць мяне больш, чым вонкавая прыгажосць. Можа, таму, што і сам іх маю.

— Аквіля...— раўніва прашаптала Мілда.

— Не толькі каханне пакідае рубцы, Мілдужэ.— Гедымінас сеў побач з ёю на камель зваленага дрэва.

Абняўшыся, абое маўчалі, слухаючы пошум асенняга лесу. Непадалёку, на ўзлеску, араў селянін. Чорныя тлустыя скібы блішчалі на сонцы, і яна адчувала сытны пах зямлі, як тады ў маленстве, калі басаногі бегала па свежай раллі, распалохваючы птушак, што збіралі чарвякоў. Даўно яна не была такая слабая, пакорлівая другому — гэтым шурпатым рукам, што абдымалі яе, гэтым гулкім грудзям, на якіх ляжала яе галава. Зусім бездапаможная — спавітае немаўля на руках у маці,— аднак шчаслівая. І тут яна пачула смех. Даўкі, няроўны, ад якога дрыжыкі прабеглі па целе.

— Што з табой?

— Згадаў адно вар'яцкае здарэнне. Пазаўчора ў Лаўксадзіс прыязджаў Адомас. Я яму сказаў, што кахаю цябе.

— О мой любы! Але што тут смешнага?

— Ён выцягнуў пісталет, пальнуў угору. Бачыла б ты, як я даваў драпака! — Гедымінас зноў засмяяўся. Злосна, здзекуючыся з самога сябе.

— Кепскія жартачкі. Ён жа мог цябе застрэліць,— жахнулася Мілда.

— Не ведаю. Ва ўсякім разе не трэба было ўцякаць. Не магу сабе даравацъ гэтага.

— Якая лухта!

— Вядома, але яна прымусіла мяне пра шмат што падумаць. Я пачаў лепш разумець тых, хто, апынуўшыся перад дулам вінтоўкі, прадаюць сваіх блізкіх.

— Лепей прачытай яшчэ які верш.

— Абавязкова, калі напішу. І не верш, а цэлую паэму. Пра аднаго наіўнага чалавечка, які думаў, што можна застацца сухім, стоячы пад голым небам, калі лье дождж. Бедалага прамок да ніткі! Я не ведаю, што мне рабіць, Мілда, але мне сорамна жыць гэтак далей. Нядаўна зайшоў немец: «Дай сала!» Морда тлустая, усміхаецца, пачак свайго вішнёвага тытуню падае. А наліха яна мне здалася, гэтая пахкая пацяруха, калі я не куру? Выбірайся да д'ябла, прэч! Вядома, нічога я яму не сказаў. Пай-

шоў у камору, адрэзаў кавалак. На, падавіся! І так мне моташна стала. Адчуў сябе такім вясковым лапцем, хоць плач. Яны нас душаць, а мы іх кормім. Спаражняем свае засекі, спусташаем хлявы. Каб лепей круцілася машына знішчэння. Не, самі мы не забіваем, барані бог! Мы не вінаватыя. Мы толькі кормім тых, хто забівае. А сумленнаму чалавеку тут жа, у нас пад бокам, няма чаго есці. Ну, скажы, як жыць такой Пуплясені? Старэйшыя дзеці зарабляюць сабе на хлеб, а што рабіць з меншымі? Немцы мала таго што забілі мужа, але і абабралі дарэшты: скаціну, жыта — усё забралі. Нават тое збожжа, якое яшчэ і жаць не пачыналі, апісалі, ацанілі і загадалі пасля абмалоту здаць уладзе. Альбо Чорны Кукса. Трое хлапцоў служаць у гаспадароў — адзін парабкуе, двое статак пасвяць,— а астатнія трое, самыя меншыя, сядзяць дома. Зайшоў я да яго нядаўна. Як маешся, Путрымас? Паглядзеў на мяне, быццам я з месяца зваліўся, ухмыльнуўся. «Пакаралеўску, кажа, маюся, пане Гедымінас, як і належыць у часы росквіту новай Еўропы». А на стале адно міска бульбы з лупінамі ды салёныя агуркі. Дзеці бледныя, жывоцікі падзьмутыя. Хапаюць тую бульбу адно перад адным і пхаюць сабе ў рот, не паспеўшы нават аблупіць. Усю ноч я не мог заснуць. А на другі дзень пацягнуў ім бохан хлеба і аполец сала. «Гэта вы дарма, кажа, пане настаўнік: немцам не застанецца...» Выйшаў адтуль як апляваны. Сапраўды, наліха гэтакая міласціна? Гэта ж толькі кропля вады, каб змачыць губы таму, хто канае ад смагі. Езуіцкая прыхамаць філантропа, які хоча пафліртаваць са сваім сумленнем, больш нічога. Я ўзбурыўся на сябе, Мілда. Пракляты двурушнік, слімак, баязлівец! Чым ты адрозніваешся, напрыклад, ад таго ж Кяршыса, які далей за свае гектары свету не бачыць? Ну, шырэй разважаю, ну, мучуся. А калі па сутнасці — мы на адзін капыл: я раблю тое самае, што і ён,— кармлю адпады чалавецтва. Я і раней задумваўся пра гэта, а пасля ўцёкаў палонных, калі забілі Пуплясіса і тых двух рускіх з парабкоўні расстралялі... Калі чалавек хоча, ён заўсёды знойдзе, чым сябе апраўдаць, але прыходзіць час, і бачыш: усё гэта — самападман.

— Ты занадта ўражлівы, мой любы,— сказала Мілда.— Што іншае, жывучы ў вёсцы, можа рабіць чалавек, як не вырошчваць збожжа?

— Згода! Вырошчваць табе, Пуплясені, Чорнаму Куксу, але толькі не пану Ропу з Дангелем! Больш яны не

атрымаюць ні зернейка, панове немцы! У нас досыць і сваіх галодных у вёсцы.

— Ты, мабыць, жартуеш, Гедміс? — яшчэ не верачы, яна ўважліва паглядзела на яго.— Сам выдатна разумееш, якія непамыслоты ты можаш наклікаць на сваю галаву.

— Калі я падзяліўся гэтым намерам з бацькам, сваім добрым старым, ведаеш, што ён адказаў? «Цяпер гэтулькі ўсюды бедаў, што наша будзе не большая, чым у іншых». Такія былі яго словы. І мне засталося толькі дадаць: «Сапраўды, тата, часам здаецца, што быць шчаслівым у гэты час — злачынства».

«Не будзь вар'ятам! — хацелася ёй усклікнуць.— А што будзе са мной?»

У роспачы яна пазірае праз чараду дрэў на палі. Які вялікі свет і як мала ў ім месца!

— Ты гневаешся на мяне? — чуе яна ягоны голас.— Даруй, можа, нам і не варта было зблiжацца: я не магу даць таго, што табе трэба.

— Не кажы так, Гедміс. З табою я зведала сапраўднае шчасце. Хіба гэта мала? Ніхто не вінаваты, што лёс вырывае і тыя крошкі шчасця, якія нам кінуў.

## III

Цяпер, калі Адомас пайшоў на службу, яна думае пра тую размову. Потым яны сустракаліся з Гедымінасам яшчэ не адзін раз, ляжалі пад ялінаю, блукалі па лесе, усыпаным крамяным лісцем, што пахла ветрам, аднак гэтыя сустрэчы неяк пабляклі, а той дзень бабінага лета з небам, асмужаным попелам згарэлай восені, быў па-ранейшаму яркі. І яна глядзіць на неба той сустрэчы, на крывыя калоны бяроз, што трымаюць дзіравы дах жоўтай вашчанай лістоты, і здзіўляецца, што ёй зусім не шкада ні гэтых журботных дрэў, ні птушынага спеву, што затухае сярод сіратлівых галін. Бо і сама яна мёртвая. А можа, ніколі і не жыла? Не было ні ашуканага першага кахання, ні Бяржэнаса з Адомасам, ні зневажальных прыкрых гадзін у абдымках у Дангеля. Не было наогул ніякага мінулага — яно памерла, як тыя птушыныя песні, разам з залацістымі бярозамі. Дзівосная ўласцівасць прыроды — паміраць, каб змагчы пасля гэтага адрадзіцца! Ты не ведаеш, што абяцае табе заўтрашні дзень, аднак зразумела адно — і гэта самае галоўнае! — не будзе так, як было. Ні ганебнага самападману, ні агіднай крывадушнасці, бо тая згуб-

ная пустата, у якой ты мітусілася, шукаючы апоры, напоўнілася дзівосным, жыватворным змесцівам — Каханнем.

Весела парыпвае пад нагамі паркет. Раней, каб вашчыць яго, запрашала знаёмую работніцу, а цяпер хоча гэта зрабіць сама. Цяжкавата з непрывычкі. Баліць спіна, льецца пот, але, ахопленая нейкім шалёным задавальненнем, яна рупіцца, не даючы сабе аддышкі. Перастаўвіла мэблю, на месца старых карцін павесіла новыя, якія калісьці была зняла. Дзверы ў Адомасаў пакой заставіла шафай з адзеннем: цяпер яна будзе хадзіць праз веранду. Адтуль можна трапіць і на кухню. Адомасавы рэчы — чамадан, боты, цывільную вопратку, якой ён даўно ўжо не карыстаўся,— з веранды вынесла ў прысенак. Зрэшты, магла запхнуць і ў шафу ў яго пакоі, але пабаялася, што — ўвайдзі яна туды — і разбурыцца ілюзія ўсмерчанага мінулага.

Такім чынам, рэчы на новым месцы. Адзін пакой навошчаны, блішчыць. На сёння досыць! Адчула сябе раптам галоднаю як ніколі. Трэба хоць што-небудзь згатаваць на абед. Але ў доме нічога няма, апроч неатаваранных прадуктовых картак. У краму! Вываровчвае сумку на стол, лічыць грошы. Дзіўнае адчуванне — ніколі іх не лічыла, хіба што на рынку ці ў краме, калі плаціла за тавар. Сто марак з пфенігамі. Дый тыя Адомасавы. Смешна! А калі яна мела свае грошы? Можа, толькі тыя некалькі месяцаў, калі працавала касіркаю ў кінатэатры. Варта было б пашукаць якую-небудзь службу...

У калідоры надакучліва звоніць тэлефон. «Пані Баярчэня засумавала? Ці якая іншая дама прагне, каб я дапамагла ёй развеяць нуду». Мілда паспешліва надзяе паліто і выскоквае з дому. Вільготны вецер плюецца ў твар, шпурляе за каўнер нежывы яблыневы ліст. Здалося, нібы нехта пацягнуў па шыі лязом, і на хвіліну яе ахапіла вусцішнае пачуццё, ад якога кроў стыла ў жылах. Смерць... Менш за ўсё яна хацела б цяпер памерці. Але адкуль такія дурныя думкі? «Ат, цяжарным жанчынам заўсёды трызняцца ўсякія дзівосы». Пачынае лічыць, колькі чаго атрымае на карткі, падумала, што варта было б якога дня схадзіць у вёску, абмяняць сёе-тое з трантаў на масла, і настрой паступова ўраўнаважваецца. З крамы выходзіць з напакаванай сумкай. Была б амаль пустая, каб не хлеб. Невялічкі кавалак ялавічыны, бляшанка кансерваў, фунт цукру і фунт маргарыну. На Адомасавы карткі яна атрымала б масла, свіного тлушчу альбо добрага свежага мяса. Не,

гэтыя панове не галадаюць. Згадаўшы Гедымінасавы словы пра шчасце, можна сказаць, што быць сытым у гэтым горадзе сорам, бо сытыя толькі злачынцы. Згаладнелы твар — твар сумленнага чалавека.

— Хвілінку... хвілінку, пані Мілда.

Мілда паварочваецца да чалавека, які ідзе побач... Азызлы твар, недзе бачаныя вусікі.

— Пане Саргунас!

— Цішэй, цішэй, пані Мілда.

— Што вам трэба? Я спяшаюся...— Яна непрыязна, з усё большай трывогай глядзіць на яго пабрыдчэлы твар.

— Выбачайце, што проста тут, на вуліцы... Бачыце, такая сітуацыя... Я хацеў злавіць пана Адомаса, аднак ён выехаў у вёску, і ніхто не ведае, калі ён вернецца. А мой цягнік адыходзіць праз пару гадзін. Я маю сёе-тое перадаць пану Адомасу. І наогул, нам трэба было б з вамі пагутарыць, пані Мілда.

— Пра што? — няветліва кідае яна, не прыпыняючы хады.

— Я ведаю настрой вашых думак, пані Мілда. Можа, таму нам і трэба пагутарыць, што ведаю гэты настрой. Але жыццё змяняе чалавека. Многія, хто ўпарта раней трымаўся адной пазіцыі, сёння пераходзяць на другую. У час гістарычных перамен людзі пераглядаюць свае погляды, а што датычыць вас...

Мілда болей не чуе Саргунаса. З радасным здзіўленнем яна глядзіць на жанчыну, што ідзе на другім баку вуліцы. Клятчатая, па-дзявоцку завязаная хустка, шэрая сярмяжная куртка, чаравікі з высокімі шнураванымі халяўкамі не дужа пасуюць да яе стройных, абцягнутых ваўнянымі шкарпэткамі ног.

— Прабачце, пане Саргунас, я з вамі развітваюся. Аквіля!

Жанчына спыняецца, кідае порсткі позірк праз вуліцу. На збянтэжаным твары займаецца нясмелая ўсмешка.

— Шкада, дужа шкада, пані Мілда... У такім разе будзьце ласкавыя перадаць пану Адомасу гэты пакет.— Саргунас нахіліўся, і Мілда не паспела апамятацца, як ён уклаў ёй у сумку тоўсты пакет вялікага фармату.— Маю надзею, што неўзабаве ўбачымся, пані Мілда. Прывітанне пану Адомасу!

— Аднак жа, пане Саргунас...— «Мы развяліся з Адомасам!» — хоча сказаць яна, але Аквіля ўжо намерылася ісці, і Мілда, на ўсё забыўшыся, кідаецца ёй услед.

Жанчыны моўчкі ўсміхаюцца, глядзяць адна на адну. Нарэшце Мілда бярэ Аквілю пад руку і, не слухаючы няўпэўненых пратэстаў, вядзе дадому. Божа мой, як рэдка яны сустракаюцца! Гэта ж не бачыліся ад вясны, калі здарылася тое няшчасце. Чаму, калі наведваецца ў Краштупены, не можа зайсці? Не, не трэба называць мяне паняй Мілдай. Будзем сяброўкамі. Мне так не хапае сапраўдных сяброў, Аквіля. Проста дзіва, што мы ў гімназіі не пасябравалі.

— Мне было так добра ў вас тыя два дні... вясной,— кажа Аквіля.— Вы так клапаціліся пра мяне, пані Мілда.

— Аквіля!

— Не гневайцеся. Мы гэтак мала знаёмыя...

— Ты адна?

— М-так... У Кяршыса, як заўсёды, тысячы спраў.— Аквіля чырванее. У вачах гасне нявыказаная думка, аднак Мілда гэтага не заўважае.

— Чым жа цябе пачаставаць, дарагая госця?

Аквіля аднекваецца: сцямнее, пакуль яна дабярэцца дадому,— аднак Мілда нічога не хоча чуць. Сцягвае з пляччэй госці куртку і запрашае на кухню: удзвюх яны хутчэй згатуюць што-небудзь перакусіць. А калі закуска гатовая (кансервы, бутэрброды з маргарынам і кілбасой, глечык гарачай кавы з жалудоў), Мілда выцягнула з буфета бутэльку яблычнага віна, даўганогія кілішкі, і ўдзвюх, забраўшы пачастунак, нясуць у пакой. У гэты навошчаны да бляску, з пахам тэрпенціну, звонкі, як бор, пакой.

— Якая прыгажосць... О божа! — Аквіля спалохана пазірае на свае брудныя чаравікі, але Мілда на гэта не звяртае ўвагі.

— Кажаш, прыгажосць? Гэта ж я ўсё сама. Аквіля, мілая, ты нават не ўяўляеш, як я сёння стамілася і якая шчаслівая! Не, не тое слова. Мне лёгка і добра на сэрцы. Быццам знялі з мяне горб, які я дагэтуль цягала на сабе. Ты не злуеш на мяне, што пакідаю Адомаса?

— Я разумею вас... цябе, Мілда.

— Дзякуй, Аквіля.— Мілда паціскае руку Аквілі. Белая далікатная ручка і счарнелая шорсткая рука.— За наша сяброўства, дарагая! Да дна. А потым я табе пайграю. Даўно, ох як даўно я не іграла!

Яны выпіваюць па кілішку, наліваюць па другім, і Мілда ідзе да піяніна. Жвавыя акорды шчымлівай музыкі заглушаюць тэлефонны званок у прысенку.

Аквіля, стуліўшыся, глядзіць на маленькую крохкую

фігурку перад бліскучай глыбай чорнага дрэва, і ёй мроіцца шырока разнасцежанае акно, жоўтыя галовы сланечнікаў, белы матылёк. Апошні матылёк, што танцуе танец лета, якое памірае.

Зямлі пакідаем свой след.
Мы разам не можам прапасці —
у зорны бліскучы сусвет
мы пойдзем шукаць наша шчасце,—

спявае Мілда, запалоненая ігрой, і Аквілі здаецца, што гэта б'ецца вялізная птушка, прыкутая да мармуровага надмагілля.

— Прыгожа...— шэпча Аквіля.

— Словы Гедымінаса! — прамовіла, азірнуўшыся, Мілда; яе сінія вочы ліхаманкава блішчаць.

Аквіля глытнула віна. Зрабілася неймаверна сумна. Ад гэтай музыкі, што раздзірала душу, ад бліскучага паркету, ад халоднага чорнага піяніна. Тайком выцерла слёзы, з жалем пазірае на сваю далонь, на непрыгожую грубую далонь, што сарамліва ляжыць на сляпуча белым абрусе.

А музыка льецца. І вялізная птушка б'ецца крыламі аб чорнае мармуровае надмагілле.

Зямлі пакідаем свой след.
Мы разам не можам прапасці...

Нарэшце Мілда адсоўвае крэсла і падыходзіць да Аквілі, не зачыніўшы піяніна, якое шчэрыць цяпер, як нябожчык, белыя зубы.

— Расчулілася, Аквіля? Калісьці я някепска іграла. Але цяпер раблю процьму памылак. Трэба штодня іграць. Ты любіш музыку?

— Падабаецца... У цябе прыгожы голас, Мілда.

— Гэта таму, што словы прыгожыя, Аквіля.

— Гедымінас умее складаць вершы.

— Аквіля...— Мілда нахіляецца да яе вуха.— Скажу табе па сакрэце — яшчэ нават Гедымінас не ведае: у мяне будзе дзіця.

— Што ты кажаш?

— Дзіва, праўда? І мне самой дзіва. Ніколі раней я не хацела мець дзяцей. Напэўна, толькі каханне так можа змяніць чалавека.

— Добра, Мілда, што ты шчаслівая... Я радуюся...

— Тады, калі з табой здарылася няшчасце, я яшчэ не разумела, што значыць — страціць дзіця.

— Вядома, кепска атрымалася, але, можа, яно і лепш.

Мілда маўчыць — яе збілі з панталыку Аквіліны словы. Паднесла да вуснаў кілішак, задуменная, адпівае маленькімі глыткамі, пакуль не застаецца ў ім а ні кроплі.

— Можа, яно і лепш,— упарта паўтарае Аквіля.— Тое дзіця нікому не было патрэбнае.

— Даруй, мілая... Хочаш? Я яшчэ пайграю.

— Не, дзякуй, Мілдзяля, было вельмі добра, але мне ўжо пара.— Аквіля паспешліва ўстае.— Я схлусіла, што пеша пайду — Кяршыс чакае. Прывёз некаму хабар — паўсвінні: хоча дастаць дызельны матор. Ладкуе перасоўны тартак. Пакуль што, зразумела, з яго нікому ніякай карысці — няма бензіну. А вось калі ўсё супакоіцца, Кяршыс напакуе грашыма кішэні.

— Увішны гаспадар твой Кяршыс,— стрымана ўсміхаецца Мілда, не ведаючы, як успрымаць іранічную Аквіліну рэпліку.

— О, на такія штукі ён майстар! Мне часам нават здаецца, што ў адзін кірмашовы дзень ён можа мяне самую ўпрэзентаваць якому-небудзь спекулянту замест падсвінка.

— Ну, як ты можаш, Аквіля! Што ты кажаш? Ён жа цябе кахае!

— Ён кахае і свайго буланага. А яшчэ больш гнядога, якога купіў гэтым летам...— Аквіля ўстала.— У цябе, Мілда, сапраўды вельмі добра, але мне пара ісці. Прыязджай да нас у Лаўксадзіс, будзем радыя.

— Абавязкова, Аквіля. Але і ты не мінай нашай вуліцы. Нам з табой трэба сябраваць.

Яны глядзяць адна на адну і скрушна ўсміхаюцца. Падалі рукі, каб развітацца, але, так і не пацiснуўшы, кінуліся адна адной у абдымкі.

— Я радая, што ты шчаслівая, Мілда.

— Не смуткуй, мілая. Жыццё справядлівае, яно і цябе не забудзе.

— Я не скарджуся — зрэшты, атрымала, што хацела: добрага гаспадара, сытную яду, цёплы кут. Калі б падалася з Марусам, адзін бог ведае, дзе б цяпер выла, нібы сабака.

— Знойдзеш свайго Маруса, мілая.

— Няма яго, Мілда, даўно ўжо няма.

— Кожнай з нас наканаваны свой Марус, Аквіля, аднак не ўсе адразу яго знаходзім.

Мілда выцірае Аквілі мокры ад слёз твар і плача сама. Яна ўжо злуе на сябе, што іграла на піяніна, што спява-

ла, што гаварыла пра дзіця. Наогул, што развесялілася. Прыгнечаная незразумелай трывогай, яна стаіць на двары, праводзячы вачамі сяброўку, пакуль тая не знікае між дамоў. Шчасце яна адчувае цяпер як здраду. Нібы не сваімі рукамі яна адчыняе дзверы, мімаходзь кідае позірк па зваленыя ў кутку Адомасавы рэчы, на люстэрка, на столік, дзе ляжыць Саргунасаў пакет, і, забыўшы зачыніць дзверы на засаўку, ідзе ў свой пакой. Трэба было б прыбраць са стала, аднак яна не можа сябе прымусіць штонебудзь рабіць.

Выцягнулася на канапе. За шэрай плоскасцю столі ёй мрояцца гусіныя чароды, што адлятаюць у вырай, іх тужлівы крык. Доўга і сумна звоняць вечаровыя званы. Звечарэлы дзень прыплюснуўся да акна пасінелым тварам. Дыхае, заліваючы пакой маркотным сутоннем, насычаючы аксамітнымі гукамі — нейкім таемным шэптам, ад якога робіцца холадна і страшна.

Гудуць і гудуць вечаровыя званы. Звоняць гораду, што стаіць на каленях на мёртвым каменні бруку, звоняць згасламу дню. Звоніць у калідоры тэлефон: нехта не чуе малітвы вечаровых званоў, не бачыць агоніі дня, камусьці ўсё роўна, што недзе па калдобінах грукае воз, везучы Аквілю, жанчыну, якую лёс абдзяліў шчасцем.

Мілда заплюшчвае вочы. Канапа вагаецца, як лодка на хвалях. («Напэўна, ад віна гэта мройлівая дрымота...») Шамаціць чарот па ўзбярэжжы возера... Прастора палёў... Абапал гасцінца натоўпяцца хаты... Белая вата аблокаў і званіца капліччкі, што дастае да іх... У падворках гагочуць гусі... Вёска! Бязлюдны Гедымінасаў востраў з хлопцамі і дзяўчатамі, з гармонікам, з суботнімі песнямі і скокамі да сёмага поту, бо людзі там весяляцца таксама сур'ёзна і шчыра, як і працуюць.

Ой, пайду, пайду, не застануся,
тут не родны край...

І Мілда ідзе, ступае па выбеленай сонцам сцежцы, развінаючы бясконцы сувой палатна. Гэтакі самы сувой развінае побач Аквіля. Дзве бялюткія сцежкі цягнуцца па ранішнім, умытым расою лузе, і мяккая зялёная трава, гэты пяшчотны вясновы аксаміт, ласкава казыча босыя ногі, да таго прыемна казыча, што хочацца ўпасці на дол і рагатаць да слёз. Аднак яны ідуць і ідуць, цягнуць бясконцую сонечную сцежку, бо ведаюць: як толькі знікне ў іх пад нагамі сцежка, адразу скончыцца радасны сон.

Ідуць, адчуваючы, што з кожным крокам робяцца ўсё меншыя, што луг п'е іх, нібы дажджавую ваду, пакуль нарэшце не ўсмоктвае апошнюю кроплю, і абедзве яны знікаюць.

## IV

Абудзіўшыся, не адразу зразумела, дзе яна. У пакоі было цёмна, холадна, цягнула з адчыненага акна, рыпелі дзверы ў верандзе, пахла азяблым на лістападаўскім ветры садам і масцікай. Увушшу ўсё яшчэ звінеў тэлефон. Але не, мабыць, гэта быў не тэлефонны, а дзвярны званок: Мілда пачула, як бразнулі дзверы і ў прысенку загрукалі крокі. Адомас! Яшчэ сонная, дрыжучы ад холаду, Мілда падышла да акна, зачыніла яго, потым дзверы ў верандзе, уключыла святло і, накінуўшы халат, прытулілася спіною да кафлянай грубкі. Грубка была яшчэ цёплая. Заклала азяблыя рукі за спіну і, прыціснуўшыся далонямі да грубкі, стаяла з заплюшчанымі вачамі, адчуваючы спіною холад сваіх рук. Крокі ў калідоры заціхлі. Стала ціха, задужа доўга ціха. Можа, хто чужы? (Смешна. А хіба Адомас свой?) Неўзабаве зноў зарыпеў паркет, стукнулі дзверы. «Падаўся ў свае апартаменты. Напэўна, не зусім п'яны. Зараз адчыніць шафу, выцягне пляшку — і дабярэ, што не дабраў...» Рукі нагрэліся і ўжо не халадзілі спіны. Ад цяпла размарыла, апанавала прыемная стома. Захацелася ўпасці на канапу і спаць сабе далей. Але вочы непрыемна мазоліў неприбраны стол. Яшчэ трошкі пагрэецца і навядзе парадак. Усміхнулася, пачуўшы, як у другім пакоі — за шафай — патузалі ручку дзвярэй. Значыць, п'яны як трэба. Зноў будзе валтузіцца да паўночы. Добра, што перацягнула сюды канапу. Зімой будзе халаднавата — цягне з веранды,— але затое спакайней. Каб выбавіцца ад гнятлівага пачуцця, якое наганяла на яе Адомасава прысутнасць, Мілда пачала думаць пра Гедымінаса. «Мабыць, зноў, калі сустрэнемся, прапануе перабрацца ў Лаўксадзіс». Ва ўяўленні ўсплыў заплаканы Аквілін твар, успомніўся дзіўны сон, сувоі палатна, і яна раптам адчула, што яе нічога не звязвае ні з гэтымі пакоямі, высцюжанымі скразняком, ні з настылымі дрэвамі за акном. Хіба што адна гэта грубка, пакуль яшчэ не астыла і пакуль лашчыць спіну сваім утульным дыханнем. Але калі заўтра не выпаліць — усё... Мёртвы дом. Можна сабраць хатулёк і пайсці. Піяніна? У вёсцы яно будзе гучаць званчэй, чым у глухіх гарадскіх мурах, якія паглынаюць чалавечае цяпло,

але не аддаюць яго. Вёска! Зачыненыя напач хлявы, сонnae гырканне сабакі. Пад столлю лямпа, упрыгожаная выцінанкамі з каляровай паперы... Вясёлы трэск бярозавых дроў у печы... Шыпяць гаршкі... Гедымінасава галава, схіленая над кнігай. І маленькі калматы хлопчык. Абавязкова хлопчык. Недзе ў пакоі, каля Гедымінасавых ног. А можа, у яго на каленях ці ў ложачку. Маленькі, ускудлачаны і свіргоча штосьці, як птушка... І жалобнае завыванне ветру за акном. Такое жалобнае, што нават дрыжыкі прабягаюць па спіне, калі чуеш яго ў цёплай, напаленай хаце, дзе ўсё так надзейна, добра, праўдзіва... У калідоры крокі. Падарожны! Прамоклы на дажджы, скалелы ад холаду...

— Добры вечар, пані Мілда.

Мілда здрыганулася: у дзвярах з веранды стаяў Дангель. Без паліта, без шапкі, у цывільным адзенні. Шэры адпрасаваны гарнітур, белая кашуля з цвёрдым каўнерыкам, стракаты пералівісты гальштук. Валасы васковага колеру акуратна зачасаны ўгару. Адну руку ён трымаў за спіною, быццам таксама толькі што грэўся каля грубкі, другую — у кішэні. На бледным твары блукае не ўласцівая Дангелю ўсмешка: ён быццам шкадуе і просіць прабачэння за тое, што так нечакана і, зразумела, не дужа тактоўна ўварваўся ў дом.

— Што, пані Мілда, сумуем? — Ягоны голас, у адрозненне ад выразу твару, быў такі самы, як заўсёды: самаўпэўнены, трохі кплівы, нават уладны — голас гаспадара становішча.

— Як вы тут апынуліся? — ацяміўшыся, злосна спыталася Мілда.— Бясспрэчна, трапілі не ў тыя дзверы: вам трэба пан Вайнарас?

— Якраз не. Мабыць, таму я тут і апынуўся, што яго якраз няма дома. Вас гэта не радуе? Гэта не дзіўна: прыгожыя жанчыны часта бываюць няпамятлівыя.

— Вы заўсёды сябе так паводзіце: спачатку здымаеце паліто, абшнырваеце пакоі і толькі потым паказваецеся гаспадарам?

— Oh nein, madam! [1] — Дангель паблажліва ўсміхнуўся.— Толькі ў тых выпадках, калі гаспадары не сустракаюць у прысенку. Табе непрыемна гэта чуць, дарагая?

— Не, пане штурмфюрэр.— Мілда гаварыла, не пазіраючы на Дангеля, але ўсім целам адчувала, як ён раздзяе

[1] О не, мадам! *(ням.)*

яе паглядам.— І наогул мне непрыемна вас бачыць, пане начальнік гестапа. Зрабілі б вялікую ласку, калі б вы пайшлі.

— Сумны пачатак.— Дангель роблена ўздыхнуў. Левая рука, дагэтуль схаваная за спіною, апусцілася ўніз, і Мілда, скоса зірнуўшы ў той бок, убачыла Саргунасаў пакет.— Ein recht trauriger Anfang [1]. А я дык думаў, што гэта ў гонар мяне ты заслала стол, мая прыгажуня.

— Ведаеце, пакіньце гэтыя жартачкі. Нашы адносіны, якія яны ні былі б, не даюць вам права непаважліва паводзіцца са мной.

— Прабачце, пані Мілда. Вось не спадзяваўся, што бяскрыўдны жарт можа зняважыць жанчыну, з якою, наогул, я дастаткова блізка знаёмы.— Дангель падышоў да стала, паляпваючы па назе Саргунасавым пакетам, і, узняўшы ўгору недапітую бутэльку віна, пачаў разглядаць яе на святло.— Мне вельмі шкада, пані Мілда, што нашы адносіны абарваліся. Сказаў бы, пакутую ад таго, бо вы для мяне не проста чарговая прыгода, дарагая. Мае пачуцці куды глыбейшыя, чым вам здаецца. Ваш паэтычны сябра назваў бы гэта, магчыма, каханнем, аднак я не магу вымаўляць гэтага слова без таго, каб не паморшчыцца: не люблю банальнасцей. Ты, Мілда, з тых жанчын, якіх мужчыны кахаюць, не ведаючы, за што.

— Вы дужа ласкавыя, пане Дангель.— Мілда нечакана засмяялася і ўпершыню за ўсю размову паглядзела на Дангеля адкрыта, з відавочнай варожасцю.

— Давай лепш адно аднаго называць на «ты», Мілда.— Дангель, паставіўшы бутэльку, з уяўнай бесклапотнасцю агледзеў стол.

— Гэта таксама банальна, пане Дангель.

«Усё банальна, нават забіваць людзей — так робяць з часоў Каіна і Авеля, хоць не з такім размахам і не так спрактыкавана, як гэта робіце вы»,— ледзьве не дадала яна.

Дангель незадаволена шпурнуў Саргунасаў пакет на канапу. Ён быў ускрыты, гэты пакет.

— Два кілішкі, дзве талеркі, два відэльцы і два нажы,— пералічыў ён, агледзеўшы стол і мосцячыся на крэсле тварам да Мілды, якая ўсё яшчэ стаяла, прыхінуўшыся да печкі.— З панам экс-настаўнікам балявалі? Адмысловая нагода, калі мужа няма дома.

---

[1] Сапраўды сумны пачатак *(ням.)*.

— Несумненна. І вы, пане Дангель, вырашылі таксама гэтым пакарыстацца?

— Вы надзіва праніклівыя, пані Мілда.— Дангель адхінуўся на крэсле, памаўчаў, пазіраючы ў столь. Лакіраваныя чаравікі парыпвалі пад сталом.— Апроч таго, маеце дзівосную інтуіцыю: я вам сёння званіў некалькі разоў, але вы не падымалі трубкі. Праўда, мне таксама грэх скардзіцца, што не маю падобных якасцей. Праніклівасці альбо, скажам, чуцця. Аднак вы добра разумееце, што я сяджу тут не толькі дзякуючы ім, гэтым якасцям,— часам у чалавеку зараджаецца сіла, мацнейшая за пачуццё абавязку; асабліва калі замешана жанчына. Таму я ўступіў у ваша спакойлівае каралеўства не як службовая асоба — бачыце, я нават не ў уніформе,— а проста як Хрыстаф Дангель. Маё імя Хрыстаф, Мілда. Раней вы вымаўлялі яго без запінкі.

— Перастаньце.— Мілда схавала пачырванелы твар у каўнер халата.— Калі вы маеце хоць кроплю чалавечнасці, не згадвайце мне гэтага больш.

Дангель усміхнуўся. Толькі на імгненне бліснулі бялюткія зубы, аднак гэта маланкавая ўсмешка апякла Мілду. Яна чула голас — жвавы, сакавіты,— які меў уласцівасць у залежнасці ад абставін мяняцца да непазнавальнасці. Цяпер Дангель буркатаў, як голуб на вільчыку даху, аднак яна не ўцяміла сэнсу першых фраз.

— ...выпадковасць, пані Мілда... Прафесійныя навыкі, зразумейце... Прызнаюся, я не думаў, што вы маеце інтэрас да палітыкі. Прыгожая жанчына, па-мойму, перш за ўсё цікавіцца прычоскай, памадай, бялізнай, а не такімі рэчамі, у якіх куды больш агульнага з канцэнтрацыйным лагерам, чым з напарфумленай пасцеллю.— Дангель не ўстаючы дастаў з канапы пакет і спрытна выцягнуў адтуль кіпу нейкіх папер.— Я мог бы папытацца, калі, якім чынам трапілі да вас гэтыя падпольныя газеткі, але цяпер я не начальнік гестапа, а проста Хрыстаф. Добры, паслухмяны Хрыстаф у нагах у прыгожай дамы.

— Калі вам патрэбныя гэтыя паперкі, забірайце іх сабе. Яны мяне зусім не цікавяць. Я хачу спаць, пане штурмфюрэр.

— Я не ў мундзіры, мой матылёк. Апроч таго, любячы дакладнасць, мушу заўважыць, што вы мяне панізілі ў званні. І яшчэ, пані Мілда: не злоўжывайце маёй дабратой. У цяперашняй сітуацыі я магу быць зласнейшы.

— Гэта я паспытала на сваёй скуры: умееце выкарыстоўваць сітуацыю. Але сёння вам давядзецца расчаравацца ў сваіх здольнасцях.— У яе мільганула думка, што Дангель катэгарычна запатрабуе сказаць, адкуль узяўся пакет, і хвілінку разважала, як быць у такім выпадку. Прасцей за ўсё сказаць, як было на самой справе. Няхай разбіраецца з Адомасам. Аднак такое выйсце здалося ёй непрымальным, у нечым падобным на здраду.— Адзінае, што вы можаце зрабіць, дык гэта наставіць на мяне пісталет і завесці ў гестапа: сіла на вашым баку. Аднак толькі сіла, не больш. Так што лепей пакіньце свае пагрозы, вы імі нічога не дасягняце, пане Дангель.

Дангель наліў сабе кілішак віна. Піў паволі, з кплівай насмешкай пазіраючы на Мілду, але не адняў кілішка ад губ, пакуль не выпіў да дна.

— Не будзьце смешная, пані Мілда. Такой дзіцячай забаўцы, як гэтыя газеткі, я прыдаю не болей значэння, чым гульні ў пасьянс. Слон не ўпадзе ад укусу блыхі, мая прыгажуня. Будуйце замкі з пяску, калі не маеце чым запоўніць час. Гэта з аднаго боку. З другога — я надта цаню дружбу з панам Адомасам, каб уздымаць буру ў шклянцы вады.

— Дружбу...— Мілда злаcліва засмяялася.— Мяне з Адомасам больш нічога не звязвае, абсалютна нічога, пане Дангель. Так што можаце смела накладаць наручнікі яго колішняй жонцы.

Дангель здзіўлена свіснуў: Мілдзіна прызнанне было яму неспадзяванкай.

— Oh nein, madam! Вашы ручкі створаны для залатых пярсцёнкаў, а не для сталёвых кайданоў.— Ён зноўку наліў сабе віна і адным махам выпіў да дна. Потым бялюткай напарфумленай насоўкай абцёр губы і ўважліва агледзеў пакой, спыняючыся паглядам на кожным прадмеце, нібыта пасля таго, што сказала Мілда, усё навокал набыло іншы выгляд.— Так, я разумею цяпер, што ў вашым маленькім каралеўстве адбыўся пераварот. Жанчыны, жывучы без мужчын, ствараюць у кватэры своеасаблівую атмасферу, якую можна адразу і не заўважыць, але немагчыма не адчуць. Я амаль рады, пані Мілда, што вы нарэшце адважыліся на такі крок. Адомас някепскі муж, але не жанчынам вашага тыпу. Вы створаны не для клопату па гаспадарцы, а для кахання.

— А мне здаецца, пане Дангель,— нецярпліва перапыніла Мілда,— я створана для таго, каб стаяць і чакаць,

калі ж гэта пан оберштурмфюрэр, папіваючы чужое віно, здагадаецца скончыць свае нудныя размовы.

Дангель нязграбна ўстаў. Бяскроўныя шчокі манекена зачырваneліся. Хутчэй за ўсё ў гэтым было вінавата віно, бо Дангель, як бы ні быў узрушаны, умеў валодаць сабой.

— Даруйце, пані Мілда.— Ён спрабаваў усміхнуцца: здалося, яго тонкія губы трэснулі, адкрыўшы парцалянавыя ачаропкі зубоў.— Разумею вашы пачуцці — вы маеце падставу, каб не любіць мяне. Паводзіў сябе па-хамску, і наогул... Але, прашу, будзьце спагадлівыя, не адбірайце ў беднага Хрыстафа апошняй магчымасці выправіць сваю памылку.

— Не махлюйце, пане начальнік гестапа. Вы ведаеце выдатна, што я ніколі вас не кахала і не магла б пакахаць. А калі што між намі і было... Мабыць, гэта не вельмі ўдалае параўнанне, але яно пэўным чынам тлумачыць нашы адносіны. Самае непрыемнае мне месца, якое па меры магчымасці я стараюся абыходзіць,— гэта крама мясніка. Мяснікоў арганічна не пераношу. Але часам самой даводзіцца ісці туды, усміхацца ўпэцканаму ў кроў і тлушч латрузе, слухаць яго балбатню, пакуль ён адсякае кавалак ялавічыны.

Дангель, заклаўшы рукі за спіну, прайшоў па пакоі да дзвярэй веранды і назад. У цывільным гарнітуры, згорблены, з вачамі, утаропленымі ў падлогу, ён нагадваў затурканага вясковага настаўніка, які толькі таго і чакае, калі які-небудзь вісус стрэліць яму ў спіну папяровай куляй ці вычварыць якую-небудзь яшчэ горшую штуку.

— Вы дужа злосная, пані Мілда,— сказаў ён са шкадаваннем, павярнуўся і зноў пакрочыў у бок дзвярэй веранды.— Ад жанчыны-хрысціянкі, тым больш каталічкі, я чакаў большай спагады.

Мілда маўчала. Кожны раз, калі Дангель праходзіў побач, у твар ёй патыхала водарам адэкалону. Увесь час ён глядзеў сабе пад ногі, аднак Мілду не пакідала ўражанне, што ён яе бачыць, і, апанаваная трывогай, якая паступова ператваралася ў страх, яна шчыльней захутвалася ў свой халат, нібы жадаючы зусім знікнуць у яго фальбонах.

— Вам цяжка зразумець, пані Мілда, як мне трэба ваша каханне,— казаў далей Дангель.— Сёй-той, гледзячы збоку, мне нават можа пазайздросціць, а на самой справе я найняшчасны чалавек. З маленства мяне ніхто не любіў. Бацька быў літовец, маці — немка, і яны вечна спрачаліся, на якой мове трэба гутарыць у сям'і. Бацька хацеў

зрабіць з мяне літоўца, маці — немца, і абое лупцавалі. Першы за тое, што гаварыў па-нямецку, другая — калі азываўся па-літоўску. Потым бацькі развяліся, маці выйшла замуж за сапраўднага немца, але ўсё роўна мяне паранейшаму пярэсцілі, бо айчым не мог забыць, што ўва мне цячэ літоўская кроў. Я закахаўся ў дзяўчыну, тутэйшую, клайпедскую. Дзяўчына ўтаіла, што яна яўрэйка, і я зноў зарабіў кухталёў. Oh nein, не кулакамі і не пугай — прыгожымі словамі мяне адхвасталі мае ідэйныя таварышы, ледзь кар'ера не паляцела к чортавай матары. Калі малады мужчына апячэ крылцы ў каханні, быць не можа, каб яму не трапілася другая жанчына. Я жаніўся — на гэты раз добра агледзеўшыся — з чыстакроўнай прусачкай, мілай, прыгожай, з прыстойнай бюргерскай сям'і, але неўзабаве яна мяне кінула: не спадабалася, што ўступіў у СС. Як бачыце, пані Мілда, маю падставу ненавідзець як яўрэяў, так і сваіх суродзічаў, якія, схіляючыся перад памяццю дзядулі Гіндэнбурга, аплёўваюць сваю нацыю. Біты чалавек не можа мець ніякіх сантыментаў да пашкробкаў грамадства, калі нават яны ходзяць на дзвюх нагах і гутараць на той самай мове, што і мы. Аднак такі чалавек больш, чым хто іншы, мае патрэбу ў жаночай пяшчоце, пані Мілда!

Дангель гаварыў, нібыта выкладаў урок — спакойна, але пераканаўча, з паўзамі, каб слухач здолеў глыбей усвядоміць матэрыял. У гэтую рэдкую хвіліну шчырасці ён не крывіў душой — Мілда не сумнявалася ў гэтым.

— Кожнага з нас жыццё так ці інакш узнагароджвала кухталямі, пане Дангель,— адказала яна, намагаючыся заглушыць у сабе спачуванне, выкліканае неспадзяванай споведдзю начальніка гестапа,— шчырасць заўсёды раззбройвала яе.— Але няўжо таму мы павінны... біць іншых? — У яе ледзь не вырвалася «забіваць».— Пры чым тут «пашкробкі грамадства»? Вы наогул ненавідзіце людзей, адчуваеце задавальненне...— Яна запнулася, раптам убачыўшы яго перад сабою. Блізка, так блізка, што адчула яго напружанае абрывістае дыханне.

— Мілда... Mein kleines Mäd...[1] Зразумей...

Белы авал твару засланіў пакой. Перад гэтым яна паспела яшчэ ўбачыць рукі, працягнутыя як для міласціны; зразумела — трэба нешта рабіць (клікаць на дапамогу, уцякаць, ударыць нагой у жывот), але раптоўнае здранц-

[1] Мая маленькая дзяў... *(ням.)*

венне спаралізавала цела. Яна нават не мела сілы закрыць рот: ён так і заставаўся адтулены з таго часу, калі яна замоўкла на паўслове, нібы чакаў абяцанага пацалунку. Ад вострага паху адэкалону, а яшчэ больш ад яго прагавітых губ, што нібыта ўлівалі ў яе цела расплаўлены метал, Мілда страціла прытомнасць. Але толькі на імгненне. Тая самая хваля, што кагадзе зацягнула яе на дно, цяпер выкінула на паверхню і панесла па ўсім пакоі, дзе ходырам хадзілі сцены і шалёна кружылася столь. Зарыпела канапа. Столь перастала кружыцца, усе рэчы сталі на свае месцы. Побач стаяў Дангель — твар у яго быў скажоны страсцю. Ужо без пінжака, без гальштука. У звужаных, налітых крывёю вачах гарэлі агеньчыкі блізкай перамогі, і Мілда, асепленая гэтым знаёмым, калісьці ўжо бачаным бляскам, раптам апрытомнела. Ускочыла і, захінаючы крыссе ў халаце, кінулася да дзвярэй на веранду. Аднак Дангель схапіў яе, ледзь толькі яна паспела ступіць некалькі крокаў, і шпурнуў яе назад на канапу.

— Мілда... Meine Liebe...[1] будзь разумніца... мы дарослыя людзі... І наогул, я кахаю цябе... Не вар'яцей...— мармытаў ён, адной рукой трымаючы яе за стан, а другой нязграбна спрабуючы расшпіліць халат.

Яна, мабыць, укусіла яго. За вуха, калі ён клаў яе на спіну, ці за руку. А можа, за падбароддзе? Хутчэй за ўсё і за тое, і за тое, бо кусалася яна як шалёнае ваўчаня. Ён брыдка вылаяўся і адпусціў яе. Яна ўбачыла яго твар — чырвоны, як у народжанага дзіцяці, аднак, пачынаючы з ілба, ён паступова бляднеў, набываючы выраз ранейшай пластмасавай маскі. Адчула, што ляжыць амаль голая, але была такая знясіленая, што не магла нават паварушыцца. Дангель акінуў яе пагардлівым позіркам. У яго вачах было столькі гідлівасці, што ён не мог бы абразіць яе балючай, каб нават плюнуў у твар.

— Прывядзіце сябе ў парадак, мадам,— сказаў ён.— Мы не азіяты, не гвалцім жанчын, дарма вы так адважна абараняліся. Нічога не скажаш, вы ўмееце набіваць сабе цану. Шчыра кажучы, мне таксама не падабаюцца лёгкія перамогі, але не люблю змагацца з жанчынамі да крыві. Зрэшты, ці адбылося б гэтае змаганне, каб не было ў вас пана экс-настаўніка? Не, пані Мілда, вы не з тых жанчын, якія лічаць, што ўстрыманне — найвялікшая цнота. Мяркую, вы нічым не горшая за тых дзяўчат, што ў спецыяль-

[1] Маё каханне... *(ням.)*

ных установах забаўляюць нямецкіх салдатаў. Цяпер, калі вас нічога не звязвае, як вы самі прызналіся, з панам Адомасам, варта падумаць і пра вашу кандыдатуру... Не сумняваюся, што вы прыйдзецеся даспадобы і публіцы з больш разборлівым густам — напрыклад, панам афіцэрам. Я ахвотна вас туды пасватаю.

Мілда ўстала на калені на канапе, падцягнуўшы крыссе ў халаце. Хацела нешта адказаць Дангелю, аднак яе трэсла дрыготка і словы завязлі ў горле. Прыціснуўшыся да сцяны, як загнаны выжламі звярок, яна з жахам глядзела на квадратную спіну, якая вагалася то назад, то наперад, нібы не могучы канчаткова вырашыць, у які бок упасці і каго прыдушыць сваім жорсткім цяжарам.

— Oh ja, мадам, вам будзе шкада пакінуць пана Гедымінаса, але не дужа смуткуйце — мы і яму знойдзем зручнае месца,— гучаў кплівы Дангелеў голас.— Пан экс-настаўнік, перакваліфікаваўшыся ў мужыка, дазволіў сабе непрыгожа пажартаваць з немцамі, а мы, хоць і аптымістычна настроеная раса, не заўсёды разумеем гумар.

— Гэтыя газеты...— Язык нарэшце падпарадкаваўся Мілдзе.— Гедымінас Джугас тут ні пры чым. Магу растлумачыць...

— Растлумачыце, само па сабе зразумела, растлумачыце, калі вас папытаюцца.— Дангель надзяваў праз галаву гальштук.— Пан Джугас думае, што мы прайграем вайну, калі ён зоймецца сабатажам паставак. Дзівак! Германія яшчэ не прайграла ніводнай вайны. Яе ставілі на калені, і кожны раз яна адраджалася яшчэ мацнейшай. Такія дзяржавы, як Германія, не гінуць, гінуць асобныя людзі, і перш за ўсё яе ворагі. Nehmen Sie das in Acht, frau Milda [1].

Дангель надзеў пінжак, сабраў раскіданыя па паркеце газеткі і, паспешліва запхнуўшы іх у кішэні, накіраваўся да дзвярэй. За ўвесь гэты час ён ні разу не зірнуў на Мілду, і яна бачыла толькі яго спіну — дзіўна зламаны чатырохкутнік, які на некалькі імгненняў быццам захрас у дзвярах, аднак, пераадолеўшы нябачную перашкоду, усё-такі вырваўся на веранду. Крокі на кухні, у прысенку, глухі бразгат дзвярэй. Гэтыя гукі пранізвалі Мілду, быццам цвікі, што забіваюцца адным ударам, і яна шчыльней прыціскалася да сцяны, быццам сама хацела, як цвік, улезці ў яе. Раптам зрабілася ціха. Нават вецер, здаецца, скамя-

---

[1] Майце гэта на ўвазе, пані Мілда *(ням.)*.

неў за акном. Электрычная лямпачка, атуленая каляровым папяровым каптуром, пагойдвалася над сталом, кідаючы на сцены і паркет вычварныя цені. У попельніцы тлела недакураная цыгарэта; блакітная аблачынка дыму вісела над сталом, і здавалася, што стол, разам з нагрувашчаным на ім посудам, плыве ў тумане і аддаляецца, нібы астравок, на які ўжо ніхто ніколі не вернецца. «Вось і ўсё...» — машынальна падумала Мілда. Яе быццам бы хто адштурхнуў ад сцяны. З нейкай асаблівай пільнасцю яна глядзела на стол і бачыла адно толькі дымок, што віўся з попельніцы, і адчувала саладжавы пах тытуню, ад якога ёй рабілася млосна. Патушыць гэту агідную галавешку! Падбегла да стала. Хацела схапіць пальцамі, раздушыць у попельніцы, але, убачыўшы абслінены канец цыгарэты, з грэблівасцю адхапіла руку. Не, Дангель яшчэ не пайшоў. Засталіся сляды яго зубоў на цыгарэце, прапахлае адэкалонам і дымам паветра, кожны кубічны сантыметр якога прайшоў праз цадзілку яго лёгкіх. І яна цяпер дыхае гэтым паветрам... Адчыніць акно, як мага хутчэй адчыніць акно! Аднак і там быў ён... У гэтай шумлівай цемры, сярод будынкаў і дрэў, краўся ягоны цень, запаўняючы навакольную прастору атрутным дыханнем. Ён быў усюдыісны. Мілда адчувала на сваім целе ягоныя рукі. Неспакойныя, увішныя, як яшчаркі, нагрэтыя на гарачым пяску. На губах яшчэ смылеў клейкі пацалунак. Ніколі яна не адчувала сябе такой бруднай, такой зняважанай, як у гэтую хвіліну. Здаецца, нават бачыла на сваім целе брудныя плямы і магла іх памацаць. Яны прасочваліся ўнутр, шырыліся, нібы эпідэмія, паганячы і таго, што яшчэ не нарадзіўся. Яе ахапіла паніка. Не разумеючы, навошта яна гэта робіць, скінула халат, сарочку, абцерла голае цела ручніком і пачала адзявацца. Яна надзела найлепшую сукенку, як на баль. Прычасалася, нафарбавала губы. І ўсё яшчэ не ведаючы, навошта гэта трэба. Яна ні пра што не думала; збіралася, як заведзены аўтамат, не адчуваючы больш ні паху дыму, змешанага з адэкалонам, ні яго рук, што поўзаюць па целе. І толькі калі апынулася ў кухні, нарэшце зразумела, куды збіраецца. Дарэчы, чаму яна пайшла праз кухню, калі на вуліцу можна трапіць адразу з веранды? Напэўна, па прывычцы, бо ў гэты час яна не кантралявала розумам, што робіць. І вось тут, на кухні, у яе мільганула першая выразная думка: «Уцякаць!» Не важна куды, толькі хутчэй з гэтага зганьбаванага дома, з гэтага горада, а калі можна, то і з гэтага свету. Пстрыкнула электра-

выключальнікам. Яркае святло выхапіла з цемры кухню, выліваючыся праз адчыненыя дзверы ў калідорчык. Там стаяў Бяржэнас, добры стары Бяржэнас. У чорным капелюшы, з паліраваным кійком у руцэ, з пасівелымі бакенбардамі, што аблямоўвалі асветлены мяккаю ўсмешкаю твар. Пан бурмістр вярнуўся з пасяджэння магістрата вячэрац.

— Не варта, мая дзяўчынка,— сказаў ён.— У свеце ёсць такія рэчы, ад якіх нікуды не ўцячэш. Будзь адданая сабе да канца. Я нічога табе не казаў, калі ты мне здраджвала па легкадумнасці, тым больш не асуджу, калі здрадзіш, жадаючы дапамагчы чалавеку.

Мілда ахнула і зажмурылася. Калі яна зноўку адважылася ўзняць вочы, прысенак зеўраў, нібы пашча гіганта, што душыцца кавалкам, які ніяк не можа праглынуць. Па вуліцы з жудасным рыканнем праносіліся вайсковыя грузавікі.

Навобмацак, як сляпая, яна знайшла спінку крэсла і, падсунуўшы яго, апусцілася каля кухоннага століка. Зразумела: трэба зараз жа ісці туды. Не марудзячы ні хвіліны, пакуль Дангель не націснуў кнопкі і гіганцкае кола не падмяла пад сябе Гедымінаса. Застаецца толькі адзін шлях — страшны, але пэўны і выпрабаваны,— лепшага не прыдумаеш. Разумела гэта, аднак сядзела, прыкіпеўшы да крэсла; ведала: што мусіць здарыцца, усё роўна здарыцца,— аднак секунду за секундай адсоўвала страшную неабходнасць.

## V

Ледзьве пераступіўшы парог, ён заўважыў гэтыя дзверы. І ўвесь час, пакуль адбывалася судзілішча, пакуль прыводзіўся ў выкананне прысуд Кучкайлісу, бакавым зрокам ён адчуваў гіпнатычны бляск меднай ручкі. Не, ён не думаў пра ўцёкі; быў упэўнены, што яго лёс вырашаны і адзінае, што яму застаецца, дык гэта памерці з гонарам. Думка пра тое, каб выскачыць у бакавыя дзверы, мільганула ў апошнюю хвіліну. Ён выдатна ведаў размяшчэнне пакояў; калі можна было вырвацца з гэтай пасткі, дык толькі сюдою, высадзіўшы плячом нетрывалую засаўку.

Дзевяноста дзевяць працэнтаў, што не ўдасца, аднак усё-такі лепш выцягнуцца на падлозе ад кулі, чым вісець, як Кучкайліс, высалапіўшы язык.

Панічны сігнал трывогі — удар аўтаматам у шыбіну — быў паратункам Адомасу. Скарыстаўшы міжвольную разгубленасць партызанаў, ён рынуўся да дзвярэй і адным скачком апынуўся з таго боку парога. Ледзьве не грымнуўся аб супрацьлеглую сцяну — гэтак лёгка паддаўся замок. Затрашчалі стрэлы, пачуўся лямант. Нехта кінуўся наўздагон, апантана стракочучы з аўтамата. Але Адомас ужо выскачыў у калідор. Адсюль — на кухню. Намацаў дзверцы падвала, прыўзняў іх і па абшмуленых цэментавых сходцах скаціўся ўніз. Самае разумнае было затаіцца тут, пакуль двор не зоймуць немцы, але чым больш ён аддаляўся ад смерці, тым болей яе баяўся. Яму здавалася, што навокал кішма кішаць партызаны, што немцы на дарозе — справа няпэўная; раптам гэта праезджая часць, якая можа спакойна праскочыць міма, нават не звярнуўшы ўвагі на стрэлы. Марус дагары нагамі пераверне ўвесь дом, калі спатрэбіцца, будзе трымацца да апошняга патрона, але не адступіць, пакуль не адшукае яго, Адомаса. Ён не сумняваўся, што дзеля гэтага партызаны не палічацца з рызыкай і не пашкадуюць намаганняў.

Асцярожна адчыніў акенца ў склепе і, трасучыся ад нервовай дрыготкі, некалькі імгненняў прыслухоўваўся. Стрэлаў ужо не было чуваць; непадалёку раўла, набліжаючыся, машына. Грымнуў выбух, і, нібы ў адказ на яго, засакаталі аўтаматы і загрукатаў кулямёт. Чорная пустэча неба пабялела, нібы хто ў смалу лінуў малака.

Адомас не памятае, як ён вылез на двор, як прадраўся праз густа сплеценыя кусты бэзу, што засланялі акенца падвала, і, нарэшце, прабегшы сад, апынуўся за высокім штыкетнікам у голым полі. Ён ашалеў ад страху. Ужо разумеў, што ўратаваны, аднак не мог ахапіць гэтага ні пачуццямі, ні розумам, бо ўсё, што кагадзе адбылося, здавалася цудам — цябе апусцілі ў магілу, а ты скінуў вечка труны. Хутчэй адгэтуль, пакуль не вярнуліся далакопы і не ўпіхнулі цябе назад у труну!

Спачатку ён, мабыць, бег па канюшыне ці па пеператраным іржышчы. Зямля спружыніла, патрэсквала пад нагамі, як бітае шкло, часам то выстромвалася ўгору, то некуды западала, і ён, страціўшы раўнавагу, падаў жыватом у мігатлівую цемру. У адным месцы ён па пахі правапіўся ў ледзяную жыжку. Гэта быў роў, да краёў поўны смуроднай глеістай вады, багністы, з крутымі берагамі, але, на шчасце, зараслымі вербалозам, хапаючыся за які ён неяк выкараскаўся з гэтай д'ябалавай зяпы. Вочы, па-

ступова асвойтаўшыся з цемрай, пачалі адрозніваць абрысы буйнейшых прадметаў, але ўсё роўна нешта пастаянна выскоквала аднекуль і звальвала з ног.

Выцерабіўся на асеннюю раллю. Ужо не бег, а ледзьве цягнуў ногі. Тонкая скарынка замерзлай глебы, не вытрымліваючы цяжару цела, ламалася пад ботамі. Раз-пораз, напужаны шумам сваіх крокаў, ён заміраў і ўслухоўваўся ў цемру, якую раздзіралі ракеты і стрэлы,— ці хто не гоніцца за ім, ці не акружаюць збоку, ці не заходзяць спераду? Падазроны гук, цёмная постаць куста, што ўзнікала наперадзе, прымушалі Адомаса кідацца на дол, і ён, разумеючы, што гэта бязглузда, аднак не могучы адолець вар'яцкага страху, нейкі час поўз на жываце, нібы спужаны балотны вуж. Прайшло не болей чым паўгадзіны, да апоўначы было яшчэ далёка, а яму здавалася, што неўзабаве мусіць развідніцца. Дзень, які прыносіў дагэтуль супакаенне, свабоду ад начнога трызнення, цяпер прынясе яшчэ і паратунак. Ён адчуваў, як гэты выратавальны дзень набліжаецца. Недзе за яго спіною, там, дзе была вёска, займаўся світанак. Разгараўся паволі, нібы раздзьмуханы горан, заліваючы бляклым блакітам чорнае неба. Здзівіўся, успомніўшы, што ўсход не там, а калі азірнуўся паглядзець, дык аслупянеў: гарэў маёнтак. Стрэлы ляскалі ўжо далей, з боку ад вёскі, здавалася, страляюць з усіх бакоў — кальцо акружэння звужаецца да цэнтра, у сярэдзіне якога корпаецца ён, Адомас. Яму ўсюды мірсціліся партызаны. Нават на гэтым глухім хутары, ад якога вецер нёс мірны пах дыму і хлява і дзе ў сваёй будцы спакойліва драмаў сабака, а праз шчыльна завешаныя вокны не пранікаў у хату ніводзін падазроны гук. Ці пастукаўся б ён у чужыя дзверы — зганьбаваны, перапалоханы,— калі б не валіўся з ног ад знямогі і не быў так прыніжаны, што ўжо нічога не азначала яшчэ раз перажыць прыніжэнне, цяпер ад самога сябе? Ніколі яшчэ ў жыцці ягоны голас не гучаў гэтак гідліва пакорна, як цяпер, калі ён стаяў на ганку і слухаў, як нерашуча топчуцца драўляныя чаравікі ў сенях... Мужык упусціў яго не адразу. Трэсліся абодва — адзін з гэтага, другі з таго боку дзвярэй, хоць і былі знаёмыя. А калі адчыніў і ўбачыў — бяззбройнага, заляпанага гразёю з ног да галавы,— спачатку не хацеў прызнаць за начальніка паліцыі. Давялося добра-такі патрэсці за грудзі гэтага непамятлівага чалавечка ў накінутым на плечы цёплым кажусе, пакуль не вытрас каня. А сядла, паганец, так і не знайшоў. Але, можа, гэтак яно

і лепш: цяпло жывёлы сагрэла закарчанелае цела, ён падбадзёрыўся, зноў адчуў сябе чалавекам. У свядомасці чамусьці мільгануў малюнак — як аднаго разу ў маленстве, калі як з вядра ліў дождж, ён ехаў вярхом на кані з выгану. Магчыма, яму нагадаў пра гэта пах, што падымаўся ад конскіх бакоў і разапрэлай вопраткі, а можа, вясёлае фырканне і стукат капытоў па падмерзлай зямлі. Але гэта доўжылася толькі імгненне. Раптам ён зноў убачыў залу фальварка, прыгорбленыя людскія постаці каля сцен, а пад жырандоляй раскалыханае пудзіла — Кучкайліса. Убачыў і сябе — так выразна, нібыта сцены былі выкладзены люстэркамі. Без паска, без шыняля, у расшпіленым пакамечаным мундзіры, з абсунутымі штанамі. Herr Polizeichef... Карыкатура на пана начальніка паліцыі... Аднак і гэтага ім было мала. Хацелі, каб ён упаў на калені, каб лізаў, як стараста, іхнія боты. Не выйшла па-іхняму. Трымаўся з апошняе сілы, каб не страціць той часцінкі чалавечай годнасці, страціўшы якую Кучкайліс сканаў, як нікчэмнае быдла. Стараўся як мог, а ўсё роўна не вытрываў да канца. Сядзеў у ім спаралізаваны жахам блізкай смерці заяц, які, улучыўшы зручны момант, кінуўся ў дзверы, думаючы толькі пра тое, як ўратаваць сваю шкуру. А тут жа побач стаяў Фрэйтка! Калі білі вокны, усе яны ўтаропіліся туды («Ох!» — выгукнуў белабрысы); трэба было джвагнуць у скіўцу, за аўтамат і толькі тады ў дзверы. Не, перад гэтым яшчэ выпусціць чаргу... Скасіць бы ўсіх з ног. А ён даў драла, нібы які падшыванец, што рассадзіў шыбіну. З пустымі рукамі і, можна сказаць, з поўнымі штанамі. А як ён глядзеўся перад тым, прасмуроджаным пахам туку, мужыком? Адхвастаны прыгонны, што вырваўся з рук цівуна. «Дапамажы, галубок, ратуй... Бандыты!» Пэўна, у такі час чалавек без зброі нічога не варты. Нуль! Калі б ён меў аўтамат, хіба тросся б цяпер у полі, не адважваючыся нават звярнуць на дарогу? Не, ён павярнуў бы гэтую клячу назад, што б там ні стала павярнуў бы. А хутчэй за ўсё і не садзіўся б на яе. Не пёрся б на злом галавы па палях, не поўз бы на пузе, як несусветны ідыёт... Вярнуцца! Несумненна, там ужо немцы. Трапілі пташкі ў іхнія кіпцюры. Ах, з якім задавальненнем узяў бы ён цяпер пісталет і ўвагнаў бы таму белабрысаму ў вантробы ўсю абойму! А потым прыцэліўся б у Маруса і патрымаў бы палец на спуску, пакуль у таго вочы на лоб не палезлі б. Паганцы! Ён ім не даруе гэтай зняважкі! Сустрэнемся яшчэ на вузкай сцяжынцы...

Адомас, ахоплены лютасцю, некалькі разоў спыняўся, каб павярнуць назад, але кожны раз нябачная сіла штурхала яго наперад, і ён, барабанячы пяткамі па ўзмыленых баках каня, зноўку імчаўся галопам у бок Краштупенаў.

...У кухонным акне святло, дзверы не зачыненыя.

Менш за ўсё яму захацелася, каб Мілда ўбачыла яго такога. Але яна стаіць тварам да дзвярэй, адчыненых у прысенак. Прыгожа адзетая — зараз некуды пойдзе. А можа, толькі што вярнулася? З гасцей альбо спаткання, і ў яе на губах яшчэ не астыў чужы пацалунак...

Мог бы прашмыгнуць у свае пакоі. Адтуль, захапіўшы сухое адзенне,— у ванную. Але з кухні хлынула прыемная цеплыня і загарадзіла яму дарогу. Ён адразу ап'янеў — спала нервовае напружанне і нагадаў пра сябе пачастунак у старасты. Стаў у дзвярах, з выклікам глядзіць на яе. Твар неймаверна белы! Вочы застылыя, як у манекена. Ледзяная статуя. Такі, напэўна, выгляд у чалавека, укінутага ў выпрабавальную камеру (пра яе неяк згадваў Дангель), дзе тэмпература блізкая да абсалютнага нуля... «Крані яе рукаяткаю пісталета, зазвініць, як лядзяш».

— Добры вечар, пані,— чуе ён свой голас.— Вас не дзівіць, што я ў такім выглядзе?

Яна маўчыць. Але вочы ажываюць, у іх загараецца такая пагарда, што яму на нейкі момант займае мову.

— Я трапіў быў ім у лапы. Вырваўся амаль што з пятлі. Хоць, мабыць, гэта цябе зусім не цешыць. Іншая справа, калі б зараз увайшоў Гедымінас і, пацiраючы рукі, усклікнуў: «Дарагая, Адомас Вайнарас выцягнуў ногі!»

Мілда павярнулася. Паволі, нібыта была прымацаваная да кепска нашмараванай восі. Скупыя, замаруджаныя рухі. Адомас бачыць профіль, які пастунова знікае, складзеныя на жываце рукі, бледную ракавіну вуха. Нямая спіна маленькай жанчыны... Яшчэ імгненне — і яна знікне за дзвярыма веранды.

— Мілда!

У ягоным голасе было, мабыць, нешта асаблівае — яна спынілася і зноў пачала паволі паварочвацца на нябачнай восі. Павярнулася. Стаіць бокам да яго — яму відаць правая палова яе твару.

— Мілда, ты з тымі, хто ад мяне адрокся, аднак мне далёка не ўсё роўна, што ты пра мяне думаеш. Можаш ненавідзець, асуджаць, толькі не пагарджай — я гэтага не заслужыў. Сёння раніцай я хацеў застрэліцца. Злачынца, адрынуты сваімі блізкімі... Але калі трапіў ім у лапы...

Каб ты бачыла, як яны з нас здзекаваліся! Яны павесілі на жырандолі Кучкайліса, а на другой мусіў апынуцца я, каб не шчаслівая выпадковасць. Калі пачалася вайна, я па сваёй дурноце пашкадаваў Маруса, а ён сёння зацягнуў бы мне на шыі пятлю. Не, Дангель праўду кажа: іх трэба знішчаць! Без жалю! Душыць, нібы клапоў, не чакаючы, пакуль яны ўкусяць. Усіх да аднаго! Я не шкадую, што рабіў тое, што вы называеце злачынствам. Я не забіваў, я толькі бараніўся, бо сярод іх быў не адзін такі Марус, які, дачакаўшыся зручнага выпадку, скруціў бы мне шыю. Ці можаш ты, зрэшты, зразумець гэта, Мілда?!

— Мне трэба ісці, пане Вайнарас.— Плячо паварочваецца, быццам нехта націснуў на спружыну, якая яе, гэту чорна-белую базальтавую скульптуру, паволі паварочвае спіной да Адомаса і заштурхоўвае ў нябачную нішу.

Адным рыўком падскочыў да яе, схапіў за плечы. «Якая лухта... Навошта гэта? Не трэба!» Аднак нічога не мог зрабіць з сабою. Увушшу загучаў знаёмы звон, перад вачамі паплыла ружовая імгла.

— Куды гэта вы сабраліся, мая пані? — рэзка паварочвае яе тварам да сябе. Пакой залівае пах яе цела. Асляпляльная бель шыі, азёры сінюткіх вачэй. Парцалянавая лялька, зманлівае ўвасабленне чысціні і цнатлівасці! Спіснуць яе ў брудных абдымках, ды так, каб бруд прайшоў праз усё яе цела!

— Да Дангеля. Нядаўна быў тут. Запрасіў нанач...— свежа пафарбаваныя губы крывяцца, аднак не са страху — яны нахабна ўсміхаюцца. Увесь твар ад падбародка да пасмаў валасоў торгаецца ў страшнай, ніколі не бачанай усмешцы. Адомас нават адхіснуўся — столькі знішчальнай нянавісці ў гэтым твары, скажоным д'ябальскаю грымасай.

— Сука! — задыхаючыся, кідае ён. Ружовая імгла звіснючым згусткам віруе ўваччу, аднак ён добра бачыць чорныя цені ў яе пад вачамі, падазроную чырвоную пляму на падбародку.— Сука! Маленькая скусаная сучка. Хто ўкусіў цябе за пыску, сучачка? Пан паэт?

— Не, той самы Дангель.— Словы зліваюцца ў гадзючае сыканне. Кожны гук — атрутны плявок у твар.— Ваш знакаміты хаўруснік па забойствах Дангель. Хацеў са мной пераспаць.

— Набівала сабе цану?

— Не, толькі падумала, што ў яго будзе зручней. Пусці, мне пара ісці.

Адомас прыцягвае яе да сябе. Так блізка, што адчувае яе дыханне на твары.

— А што скажа Гедымінас?

— Гедымінас зразумее. Гэта яму на карысць.

— А можа, гэты вечар прысвеціш мне? На развітанне. Як ні кажы, быў тваім мужам.— Ён ужо не чуе свайго голасу. Яе твар распадаецца на аскепкі, расплываецца. Застаюцца толькі далікатная бель шыі, губы і вочы, пакінутыя недзе ў ружовай імгле.— Што табе значыць, сучачка, адным больш альбо менш.

— Не магу расчараваць Дангеля.

— Хлусіш! — У вачах цямнее, позірк адбіваецца ад сцяны вірлівай ружовай імглы. У вушах звон, ад якога расколваецца галава.— Хлусіш! Хлусіш! Хлусіш!

Калі імгла паволі рассеялася і Адомас апамятаўся, ён адчуў, што трымае ў далонях нешта мяккае і далікатнае. Потым убачыў свае рукі. Чорныя, у закарэлай гразі. Паміж халоднымі набраклымі пальцамі белыя палоскі. Яе шыя! У здзіўленні глядзіць на маленькую галоўку, схіленую на плячо. Губы пратуленыя, нібы для ўсмешкі. А можа, для праклёну? З пагаслых вачэй сплывае сіняе месячнае святло.

«О божа... Няўжо?..»

Акамянелыя абцугі рук расціскаюцца; ён адчувае жахлівую пустату; у кожнай жылцы, у кожным мускуле, ва ўсім целе, ад пятак да макаўкі; пустата да самай падлогі... Крывавымі слязамі плакаць пасля таго, што зрабіў!.. Кінуцца на вуліцу, крычаць!.. Аднак ён не можа скрануцца з месца. Толькі мільгае ў галаве дзіўная думка, што ў адзежнай шафе стаіць недапітая бутэлька гарэлкі. Бачыць блакітную этыкетку і веер белых валасоў на падлозе. Круглявую ружаватасць каленяў. Незвычайна пяшчотную і трохі ўжо збляклую ружаватасць каленяў, падкрэсленую жалобнай чарнатою задранай спадніцы. Усё бачыць, хоць глядзіць у кухоннае акно: чорны квадрат — нібы паліраваная пліта на даўно зарослай магіле.

— — — — — — — — — — — — — —

— Арыштаваць вас, пане Адомас? — здзівіўся Дангель.— Oh nein, mein Freund! [1] Рацыянальней за ўсё ў такім выпадку было б накіраваць вас у батальён самаахоўы да братоў літоўцаў. Аднак не думаю, што гэта было б правільнае рашэнне. Вы не забілі, вы толькі адсунулі з даро-

---

[1] О не, мой дружа! *(ням.)*

гі перашкоду, якая замінала вам цалкам аддацца службе. Мне шчыра шкада пані Мілды, аднак я не магу не выказаць свайго задавальнення, калі бачу, як мае сентыментальныя сябры ператвараюцца ў сапраўдных мужчын. Перастаньце! Супакойцеся! Вы тут ні пры чым — яна сама налажыла на сябе рукі. Для гэтага ў яе было дастаткова прычын. Вы зразумелі мяне, Herr Polizeichef? Да-стат-кова прычын.

## *Раздзел чацвёрты*

### I

Пачуўшы першыя стрэлы, вёска здрыганулася, затаілася. Жанчыны кінуліся шчыльней завешваць вокны, мужчыны, якія, седзячы каля дзвярэй, вілі путы, пакідалі сваю работу, а тыя, што ў гэты час былі на двары, паспешліва пахаваліся ў хаты. Але былі і цікаўныя, якія любілі ўсялякую справу высвятляць дарэшты. Не слухаючы сваркі перапалоханых жонак, яны нацягвалі на шворы каптаны, улазілі ў кажухі і вывальваліся з дзвярэй на падворак.

Недзе каля фальварка кіпеў бой. Усё часцей стракаталі аўтаматы, пераплятаючыся з грукатаннем кулямётаў, ўспыхвалі ракеты, калі-нікалі чуліся глухія выбухі. Потым густая начная цемра пасвятлела — над фальваркам, займаючыся ўсё шырэй, распускаўся трапятлівы веер агню.

Лясныя! Падпалілі фальварак.

Усе, хто ў гэты час быў на вуліцы, рынуліся ў свае двары, пазачыняліся ў хатах, патушылі лямпы, хоць праз шчытна завешаныя вокны і так нічога не было відаць. Сядзелі, пазашываўшыся ў куткі, маліліся, клялі лес. Вар'яты! Знайшлі каго чапаць — самога пана Петара фон Дызэ! Не дай божа, калі забілі...

Да раніцы амаль ніхто не звёў вачэй, хоць шум бою даўно ўжо заціх. Падбягалі да вокан і, адхінуўшы фіранкі, узіраліся, што дзе робіцца, і калі нават пераконваліся, што ўсё на сваім месцы, усё роўна не маглі ўтаймаваць страху, чуючы, як недзе ў канцы вёскі равуць вайсковыя грузавікі і гучаць каманды. Ад сабачага брэху, які жыхарам Лаўксадзіса звычайна замяняў калыханку, сэрца цяпер нямела ў трывозе.

Супакоіліся толькі з апошнімі пеўнямі. У дварах замільгацелі ліхтары, зарыпелі калодзежныя жураўлі, запахла дымам. У хлявах, адчуўшы чалавека, заварушылася скаціна, і кожная жывёліна на свой лад вітала новы дзень. Вёска, асавелая пасля бяссоннай ночы, аднак поўная спадзяванняў, што абудзіліся разам з раніцай, устала, каб сустрэць яшчэ адну зару, верачы, што яна не будзе апошняя. Каму трэба было ў млын, той, уклаўшы ў кашалёк дазвол на мліва, запрагаў каня і грузіў мяхі на воз, хто меў пільную справу ў горадзе, таксама стараўся выехаць з дому, пакуль яшчэ не ўзышло сонца. Аднак ледзьве выехалі з вёскі, зараз жа мусілі вярнуцца: натрапілі на нямецкіх салдатаў. Тыя ажно да дошак перагрэслі фурманкі, зазірнулі нават пад спод, нібыта да днішча мог прыклеіцца партызан, і, самым пільным чынам праверыўшы дакументы, загадалі паварочваць аглоблі назад і без спецыяльнага распараджэння не вытыркаць носа з дому. Па дварах прайшла жахлівая пагалоска: вёска акружана! І яшчэ трывожней зрабілася ўсім, калі ўслед за гэтым разнеслася чутка: партызаны ўначы павесілі старасту Кучкайліса, падстрэлілі пана Петара фон Дызэ, а дваровыя хлявы і клуні згарэлі дарэшты.

У печах патух агонь, і хоць трэба было сядаць снедаць, рэдка ў якой хаце сёрбалі боршч. Дый не было калі: ледзь толькі заняўся ранак, вёску запаланілі салдаты. Трымаючы напагатове аўтаматы, з аўчаркамі на павадках, яны кідаліся з хаты ў хату, абшнарваючы кожны куток. Пасля іх адыходу ў пакоях заставаліся адчыненыя шафы, на падлозе раскіданае адзенне, ачарэпкі пабітага посуду. І, зразумела, з камораў знікала сала. Шалёны сабачы брэх і падзінкавыя стрэлы, якімі нецярплівы салдат прымушаў навекі замоўкнуць адданага вартаўніка сядзібы, зліваліся з кудахканнем перапалоханых курэй, дзіцячым плачам і крыкамі раз'ятраных эсэсаўцаў; і ні адной вясковай бабулі падумалася ў гэты час, ці не настаў Судны дзень.

Калі дагары нагамі перавярнулі кожную хату, перапаролі віламі і прастрачылі з аўтаматаў кожны падазроны куток у хлявах, клунях, асецях, калі абшасталі скляпы і гарышчы, частка немцаў села на грузавік і паехала, а астатнія падзяліліся на дзве групы, адна з якіх атабарылася ў фальварку, а другая — у школе.

З таго, як яны ўладкоўваліся і што гаварылі, стала ўсім зразумела, што немцы застаюцца тут не на адзін дзень.

Кяршыс блукаў, панурыўшы галаву,— надта ж далося яму ў знакі гэта нашэсце немцаў.

Яшчэ ледзь толькі пачынала шарэць, а Хвэлька Кяршыс ужо завіхаўся за работай: закалоў свінню і, перацягнуўшы ў асець, абсмаліў. Тады запрог каня ў валакушу і перавёз тушу ў клуню: усё-такі бліжэй да гарачай вады, дый святла больш. Якраз тачыў на падворку сякеру — зараз дапаможа Аквілі разбіраць тушу, а тут адкуль ні вазьміся — чацвёра. Жалезныя рулі на жыватах, аўчарка. «Дзе партызаны?» Кяршыс ледзьве не зарагатаў. Яму так і карцела пацвяліцца: «Ідзіце, глядзіце, знойдзеце аднаго ў клуні, ляжыць абсмалены на валакушы». Аднак немцы не чакалі, пакуль ён разявіць рот: двое падаліся ў хату, двое — у свіран. Адтуль — у клуню, асець, лазню. Абладзілі ўсю сядзібу (аўчарка з высалапленым языком разам з імі), пакрыкваючы, бразгаючы аўтаматамі. І зноў усіх нібы магнітам пацягнула ў клуню. Думаў, заўважылі нешта падазронае, будуць прастрэльваць дзе-якія месцы, як гэта рабілі ў іншых, а то яшчэ прымусяць перакідаць сена. Ды дзе там! Здаецца, нават забыліся, чаго прыйшлі,— свіння іх усіх з панталыку збіла. Гергеталі, пастаўшы кругом, прыспешвалі, каб хутчэй упраўляліся з тушаю, а адзін, нечым падобны на сваю аўчарку, якую трымаў за павадок, ухмыляўся да вушэй і галоднымі вачамі заглядаўся на Аквіліны лыткі, пакуль тая, нахіліўшыся над тушай, аддзірала ад жывата здор. Потым адзін з немцаў выйшаў і неўзабаве пад'ехаў да дзвярэй клуні на матацыкле. Тым часам Кяршыс, адсекшы кумпяк, узваліў яго на плячо, каб несці ў хату, але той, з сабачай мордай, ужо бег насустрач, паказваючы на каляску матацыкла. Пацалуй мяне...— я цябе разумець не разумею. Ужо быў міма прайшоў, ды немец так піхануў у бок аўтаматнаю руляю, што калені падагнуліся. Спатыкнуўся, кумпяк, можна сказаць, сам уляцеў у каляску, а горла, адчуў, праняло болем, нібыта яно зраслося з гэтым кавалкам мяса і цяпер разарвалася. Аднак другі і трэці кумпякі пайшлі куды лягчэй, а калі на верх пачаў складваць брусы сала, дзейнічаў, як аўтамат, апанаваны адзінаю думкаю: «Госпадзі, зрабі так, каб я хутчэй прачнуўся, а-эх, абудзі мяне, цар нябесны...»

Нават хрыбціны з рэбрамі не пакінулі, злыдні. Лёгкія, пячонку — і тыя аўчарка паабгрызала. Адно кішкі, ногі і галава са зморшчанымі ад агню вушамі. Квашаніна, чорт бы іх пабраў! Крываная кілбаса! А дзе дызельны матор? Аддаў учора, як дурань, палову свінні. А гэту абяцаў

заўтра прывезці. Не пазней як заўтра, бо чалавек не можа доўга трымаць матор. Дзе цяпер возьмеш другую свінню? Не трэба было мяняць сала на ўсялякія шмоткі. Параскідалі, парастрасалі... У каморы толькі па яду, дый то не густа. Цяпер ужо не скажуць суседзі: у Кяршысаў тлусты боршч. Калі ababraць камору дарэшты, можа, і хапіла б... Але дамаўляліся — свежае мяса. Дый хіба можна так — самім заставацца без нічога? Не ісці ж, як бяда прыцісне, з торбай да суседзяў... І немцы пад канец зусім азвярэлі. Хто ведае, раптам яны даўжэй затрымаюцца ў вёсцы... А-эх, не дай божа, з костачкамі зжаруць, д'ябальскае насенне.

— Аблупілі як ліпку.— Паныла глядзіць на акрываўленую валакушу. Гарачая вясёлка міргаціць уваччу, выціскаючы слёзы, і яны, падганяючы адна адну, цякуць па рыжым іржышчы шчэці. Такія ж цяжкія, пякучыя, як тады ў Краштупенах, калі ён грымнуўся на калені перад нерухомай Аквіляю, аплакваючы спадкаемца сваёй гаспадаркі.— Гэтакую свінню... І дзякуй не сказалі... Сам, сваімі ж рукамі, зладзюгам пагрузіў...— Заскрыгітаўшы зубамі, схапіў сякеру, замахнуўся.— Абсекчы такія рукі!

— З глузду з'ехаў!..— Аквіля падымае галаву ад місы, у якую збірала ўцалелыя рэшткі. Здзіўленая, аднак амаль вясёлая.— Каб толькі і было бяды, што гэта свіння...

— Што?! Што?! — падавіўся ён, аслупянеўшы ад здрадніцкага жончынага спакою. Вочы ўпіліся ў місу, убачыў учэпістыя, лакіраваныя крывёю пальцы і нават не адчуў, як рука, нібы падкінутая нябачнай спружынай, ускінулася ўгару; сякера са свістам паляцела ў бок дзвярэй і ўрэзалася ў вушак.— А-эх, гэта ёй яшчэ не бяда! Яшчэ замала! Можа, хочаш, каб апошнюю забралі? Вядома, навошта карміць, турбавацца, куды прыемней ляжаць, задраўшы ногі. Але што б тады ела, я паглядзеў бы.

— Замоўкні! З галаду яшчэ не здыхаем.

Хоць і не было таго, яму здалося, што, вымаўляючы гэтыя словы, яна ўсміхнулася. Хацеў схапіць лейцы, якімі ён выцягваў свінню з катуха і якія цяпер ляжалі тут жа, на доле, і шлегануць імі па сагнёнай спіне. Першы раз ён адчуў такую злосць, нават нянавісць да Аквілі, што сам спалохаўся. Ухапіўшы нейкі шматок свежаніны, выскачыў з клуні, шпурнуў пад будку Тыгру і, выціраючы рукавом вільготныя шчокі, стаяў, пакуль сабака не ўмяў увесь пачастунак. У сядзібе багата работы — яблынькі не абвязаны на зіму, не вычапчана загарадзь, можна было б пачы-

нацъ церці лён,— але не было ніякай ахвоты за што-небудзь брацца. Так і прамарнаваўся ўвесь дзень, нідзе не знаходзячы сабе месца. А калі надышоў вечар і немцы, што атайбаваліся ў школе, заспявалі песні, доўга стаяў на ганку, стогнучы і кленучы. А-эх, і весяляцца зладзеі, нажэршыся чужой свініны... Каб яна вам бокам выйшла, каб вам кішкі пакруціла. Не, бог справядлівы, не міне вас кара, не думайце. Рускі ўжо націскае. Націснуць і ангелец з амерыканцам. Як здушаць з абодвух бакоў, усё выблюеце, ліхадзеі, што праглынулі, абрабаваўшы сумленных людзей.

## II

На другі дзень па абедзе хавалі Кучкайліса. Людзей сабралася шмат, бо немцы сурова загадалі ўсім, хто жывы, ушанаваць свайго старасту, які сваёй смерцю даказаў, што ён сумленна служыў рэйху і новай Літве. Прынамсі, так выказаўся прадстаўнік цывільнай улады з Краштупенаў у сваёй прамове над магілаю. Ксёндз быў стрыманейшы — не хваліў нябожчыка, сказаўшы, што яго добрыя і кепскія справы ўзважыць гасподзь бог, аднак не мог не абурыцца, што ў яго парафіі творацца падобныя справы. Будзьце пільныя, дарагія парафіяне! Д'ябальскае насенне не спалена да апошняга зернетка, куколле не павыдзірана з пшаніцы. Бо калі б наша поле было чыстае, браты ў Хрысце, блудныя сыны, замест таго каб бадзяцца па лясах і праліваць кроў свайго блізкага, спакойна сядзелі б дома і ўслаўлялі найвышняга госпада, аддаючы богу — богава, а кесару — кесарава.

Пакуль адбывалася цырымонія, некалькі паліцэйскіх сланяліся вакол натоўпу, а далей, за плотам, з аўтаматамі напагатове стаялі нямецкія салдаты. Людзі неспакойна азіраліся па баках, шапталіся. Наліха іх сюды сагналі? Пакланіцца гэтаму паршыўцу Кучкайлісу? Надта ўжо немцам важна, што нейкі іх папіхайла навярнуў галавой. Папужаць? Хутчэй за ўсё так. Але глядзі, каб у дадатак не пачаставалі яшчэ стрэламі ў спіну, калі пачнём разыходзіцца з могілак... Ну, а гэтыя лясныя зусім без клёку ў галовах. Такую бяду на вёску наклікаць! Не маглі прыстукнуць дзе-небудзь у ціхім кутку, далей ад вёскі. Дзе там! Ім, бачыш, так трэба лупянуць, каб ва ўсім павеце зямля затрэслася...

— Праз яго, Вайнараса, уся непамыслота...— чуе Аквіля шэпт за спіной.

— І выдумаць жа трэба — суд учынілі. Камедыянты...

— Тыя, што бачылі гэту камедыю, кажуць, што там было зусім не весела.

— Людзі зусім пазвярэлі.

— Дык і было за што. Марусу, Фрэйтку. Два другія незнаёмыя. Адзін, кажуць, падобны на Івана, ведаеш, на палоннага, што ў Кяршысаў быў. А вось Нямуніс з Бергманам — гэта пэўна.

— Ахвяра бальшавікоў... няшчасны пакутнік...— панад варушлівым брукам людскіх галоў, расцякаючыся між крыжоў і соснаў, лунае ксяндзоў голас.

— Ага-а-а... А ўсе думалі — і костачкі Марусавы даўно патлелі. Уваскрэс...

— Ну і ну!

Аквіля ўцягвае галаву ў плечы, на вочы глыбей насоўвае хустку. Добра, што побач няма Кяршыса. А гэты каменны крыж акурат дарэчы: ёсць на што абаперціся. Сэрца грукоча, як мост, па якім рухаецца няспынная чарада машын. Уваччу скачуць крыжы і дрэвы, узнесеныя над людскімі галовамі.

— Вечны супакой дай, госпадзі, нябожчыкам, і нябесная светлыня хай ім свеціць на векі вякоў,— аднекуль з таго свету, з вечнасці даносіцца пявучы ксяндзоў голас.

У самы час, бо ногі больш не трымаюць Аквілю. Упала на калені разам з усімі. Губы варушацца, паўтараючы словы малітвы, але іхні сэнс не даходзіць да яе.

— Бач ты, які гонар...— мармычуць побач.— Яўрэяў расстрэльваў, жыццё скончыў у пятлі, ды яшчэ без святога прычасця. Трэба было б яго на Французскай горцы...

— Калі і там самы горшы лепшы за яго...

— Не дужа прыемна нябожчыку Яўтакісу ляжаць пад ім...

— Адзін аднаго вартыя...

Аквіля, схіліўшыся, стаіць на каленях — пасма травы, прыбітая дажджом да зямлі. Востры холад пяску працінае калені. Паўзе ўгору — ад яго нямеюць сцёгны, паясніца, дранцвеюць плечы. Нібыта закопваюць яе самую. Крык Ёвасі Кучкайлені пад шоргат рыдлёвак, пад глухі спеў псалма: «І мяне, і мяне разам з Пятралісам! Не жыць мне больш, у-у-у-гу-гу... Праклятыя забойцы, каты... У-у-у-гу-гу...» Забойцы... Марус — забойца... Гэтыя самыя рукі, якія ўмелі гэтак пяшчотна лашчыць... Жывы! Чорны Кукса ўжо тады, пасля ўцёкаў палонных, заікнуўся пра гэта, але яна не хацела верыць. «Што ты сказала б, Аквi-

ля, калі б раптам — бразь! — у хату Марус? Добры вечар! Як тут наш хлопчык гадуецца?» Раззлавалася: вось наха-ба! Не можа даравацъ, што давялося адпрацоўваць за хату Нямунісаў. «Ідзі лепш, цюцька, спаць, не брашы. Ні жы-вым, ні мёртвым ад цябе спакою няма». Засмяяўся сваім агідным здзеклівым смехам. «А ты была на яго хаўтурах? Вось бачыш, каб цябе качкі стапталі. Языкамі дык мы хут-ка ўмеем закапаць чалавека». Пайшоў, а Кяршыс потым цэлы вечар гыркаў. Больш ён не згадваў пра Маруса, але намёк кляшчом учапіўся ў сэрца: вядома, гэтакія словы не вырастаюць на пустым месцы і ён, Чорны Кукса, ведае больш, чым сарвалася з языка. Яе агарнула трывога, і ўжо яна не магла пазбавіцца думкі, што Марус **м о ж а** быць жывы. А выходзіць, што на самой справе жывы. І не толь-кі жывы, аднак і другім на шыю вяроўку... Калі б Адомас не ўцёк... Заслужыў, няма чаго казаць, але брат жа ўсё-такі. Страх падумаць, што Марус мог яго... З адной вёскі, можна сказаць, разам раслі. Госпадзі, якія часы... А, зрэш-ты, можа так здарыцца, што калі-небудзь з ім давядзецца сустрэцца...

Ад гэтай думкі сэрца перакулілася ў грудзях. Маліць бога, каб гэта ніколі не адбылося, каб ён не вярнуўся, і тут жа, спалохаўшыся гэтага свайго зычэння, прасіць у не-ба, каб яно даравала ёй, і не адважваецца сама сабе пры-знацца ў тым новым жаданні, што раптам узнікла ў ёй. Яна сама не разумее, чаго хоча. Пачуцці пераплячіся ў за-блытаны клубок. Боязь і радасць, надзея і роспач, збянтэ-жанасць і нянавісць, каханне... Цяпер, пажыўшы з Кяр-шысам, яна можа пэўна сказаць, што кахала Маруса. Мо-жа, не так трэба было, але ўсё роўна...

Побач нехта закашляў.

— А-эх, заснула ты, ці што? Хадзем паглядзім маміну магілу.

Кяршыс. Спарэлы, згорблены.

Аквіля паволі ўздымаецца, трымаючыся за крыж. Скон-чана. Нябожчык закапаны, «вечны супакой» адспяваны. Белая ксяндзова далмата, акружаная купкай жанчын, па-соўваецца да брамкі могільніка. Натоўп рассыпаўся на групы — хто адразу дамоў, хто наведаць магілы родзічаў. Паліцэйскія таксама пазнікалі.

— Хадзем,— сказала яна.

Каля каменнай агароджы, сярод маркотных дрэў, ліпеў скасабочаны драўляны крыж. Яму было, можа, гадоў сто — ён увесь счарнеў ад часу.

— Вось разжывёмся — паставім помнік што трэба, усяму могільніку надзіва,— казаў Кяршыс, калі яны прыходзілі сюды. Цяпер толькі скрушна ўздыхае, хрысціцца і, стаўшы на калені, шэпча пацеры. Аквіля прыткнулася побач. Таксама варушыць губамі, аднак думкі далёка ад боскага свету. «Цешся, Марыя, мілаты поўная...» Марус... Вось магіла Нямунісаў. Бацька, Генута. Ці прыйдзе калі Марус пакланіцца ім? «Ляжаць мне тут сярод Кяршысаў, а магла б мая магіла быць там...»

— ...і ў гадзіну смерці нашай. Амін.— Кяршыс шырока перахрысціўся, устаў, і Аквіля разам з ім, хоць яшчэ не скончыла малітвы.— А тваіх не адведаем?

— Мае ўсе жывыя. Там нікога няма з бацькавага боку, толькі радня Катры Табакі.

— Мёртвыя ўсе чалавеку радня.

— Як хочаш. Маглі б і міма прайсці.

Каля магілы Нямунісаў спыняецца, глядзіць на сцямнелы чыгунны крыжык. На дзяды, у дзень памінання нябожчыкаў, паставіла тут свечку. Вясной трэба будзе зноўку насеяць руты і гваздзікоў. Пэўна, калі б не вайна, тут, пад гэтай крывой сасною, было б месца яе вечнага спачынку. Раптам яе нібы токам працяло. Ахапіла злосць — невядома на каго і невядома за што. Павярнулася да Кяршыса і, пазіраючы звужанымі вачамі на яго твар, працадзіла праз зубы:

— Чуў, што людзі кажуць? Марус...

Ага, ужо чуў. Ведае. Адварочвае вочы ўбок. Прыгорбленыя плечы перакасіліся, нібы сарваныя з завесаў дзверы.

— Дык вось жа, кажуць. Усіх парабкаў пазганялі. Гэтага Кучкайліса... Яго работа...— аддзірае слова за словам, нібы засохлую павязку ад раны.

— Кучкайліса ніхто не шкадуе.

— А-эх, усё роўна гэта чалавек, а не свіння, каб яго забіваць.

— Правільна зрабілі. Сабаку сабачая смерць,— падвышае голас Аквіля, сама не разумеючы, які д'ябал цягне яе за язык, аднак адчуваючы салодкае задавальненне, якое апошнім часам усё часцей ахоплівала яе, калі яна магла дапячы мужу.— Хто ведае, ці адпрацуе табе Чорны Кукса вясною за Нямунісаву хату, калі сапраўдны гаспадар аб'явіўся.

Кяршыс нават рота не разявіў. Павярнуўся, шкандыбае, прыгорблены, па сцежцы. Доўгія цяжкія рукі зві-

саюць, як у агароднага пудзіла, нехта нябачны, здаецца, падымае за яго клышастыя ногі, усаджаныя ў боты з высокімі халявамі.

Акviля — услед. Каменныя помнікі і крыжы. Шліфаваны і грубы мармур. Чорны, ружовы. Пад шклом авальныя фотаздымкі. Жалезная агароджа, лаўкі, вазоны з рэштка-мі памарожаных кветак. Жалезны крыж — работа ўмелага вясковага каваля — усаджаны ў чатырохкутны цэментавы пастамент. За ім — драўляны, высокі, да ніжніх сукоў сасны; пад бляшаным дашкам хаваецца ад дажджу парэпанае ўкрыжаванне. І зноў мармур, агароджа, якая захапіла гэтулькі месца, што на чатырох, напэўна, хапіла б: заможны гаспадар. Адразу за вуглом капліцы, каля самай сцяны божага дома, будзе магіла Яўтакісаў. Чорная гранітная пліта трымае груваскі крыж. ТУТ ПАХАВАНЫ... ВЕЧНЫ СПАКОЙ ВАМ, ДАРАГІЯ БАЦЬКІ. ЗАСМУЧАНАЯ АДЗІНАЯ ДАЧКА КАТРЫНА ЯЎТАКІТЭ. Здаецца, радня таму Яўтакісу, колішняму старасту, на якога сёння ўзвалілі Кучкайліса.

Кяршыс прыпыніўся, нібы хацеў павярнуцца, аднак боты ўсё роўна праклыгалі далей. Але спіна распрасталася і абедзве рукі схаваліся ў кішэнях.

— Слава Ісусу Хрысту,— гучыць ягоны голас.

— На векі вякоў. Амін,— адказвае яму нехта.

Аквілю нібыта халоднай вадой аблілі. Павярнуцца і назад! Але Кяршыс ужо стаў на калена перад помнікам, хрысціцца, і ёй нічога не застаецца, як зрабіць тое самае.

Пакуль яны моляцца, бацькі, якія споўнілі свой абавязак раней, моўчкі сядзяць на лаўцы. Аквіля ніяк не можа выбрысці з «Ойча наш». «Ліха нас прынесла сюды. Усё гэты Хвэлька. Пень неачэсаны!»

Кяршыс устае, а яна не спяшаецца: няхай пачакае Катра Табака, раз ёй прыемная гэта сустрэча.

— Прысаджвайся, зяцёк, да нас.

«Зяцёк»... Не верыць сваім вушам. Не словы — мяккія галушкі з цеста, пасыпаныя цукрам.

— Добра, што не забываеце нябожчыкаў родзічаў.

— А-эх, трэба... цешча. Усе там будзем.— Кяршысавы боты крыху патапталіся на месцы і ўрэшце супакоіліся. Сеў.

— Што праўда, то праўда. Вось і я — сяджу і думаю: недалёка той божы дзень, калі ўлягуся побач са сваімі бацькамі.

— Вы дык моцная, увесь Лаўксадзіс перажывяце.— Кяршыс нахіляецца, напэўна, цалуе руку — чуваць цмоканне і заахвочвальны пратэст:

— Не трэба, зяцёк, не трэба. Выходзіць з моды старым людзям рукі цалаваць.

Далібог, усе вясковыя сабакі паздыхаюць! Які такі нябесны дух азарыў сёння Катру Табаку?

Аквіля неахвотна ўстае. Гэтыя трое таксама ўсталі з лаўкі. Кяршыс з бацькам па баках, маці пасярэдзіне. Апранутая ва ўсё чорнае, зблажэлая. Твар пажаўцеў, яшчэ глыбей увалiліся вочы, падаўжэў і завастрыўся нос. Чула ад людзей — хварэе. Баліць галава, бяссонніца мучыць...

— Добры дзень, татачка.— Аквіля абдымае бацьку, цалуе, прыпадае да рукі.

Маці таксама саўганула руку. Звялую, кашчавую, халодную. Яна стрымана дакранулася губамі. Сэрца не затрапяталася, і Аквіля адчула, што цяпер абыякавасці ў ім больш, чым злосці.

Да гасцінца ішлі ўсе разам. Маці скардзілася, што не можа знайсці ўправы на Юргіса і Юсту: у аднаго кнігі ў галаве, у другой — гулі. Аднак пра Адомаса не ўспомніла ніводным словам. Запрашала абаіх зайсці як-небудзь. Усё ж такі радня («Хочаш не хочаш, а богам звязаныя...»). Няма чаго крыўды таіць у такі час, калі чалавек, кладучыся вечарам, не ведае, ці ўстане раніцаю. Потым яна неўпрыкмет турзанула Аквілю за рукаў, яны крыху адсталі, і тады яна шапнула ёй на вуха пра Маруса. Бачыш, з якім бандытам была звязалася! Прызналася, што была несправядлівая да Кяршыса. Сам бог паслаў ёй такога мужа. Паважны чалавек. Увішны, гаспадарлівы, дбайны. Будзеце жыць. Хай толькі часы паспакайнеюць. А тады і наконт пасагу паглядзім. Не басячка ж якая-небудзь, з заможнай гаспадаркі. Дый мы нібыта не бацькі, нібыта сумлення не маем, каб выправадзіць сваё дзіця без нічога, усё адно як байстручку якую. Толькі будзь разумніца, глядзі, трымайся далей ад гэтага душагуба праклятага. Што было, сплыло, а наконт сынка... Усе дзеці аднолькавыя: хто выгадуе, той і бацька. Ну, але што я тут загадзя... Можа, яшчэ, дасць бог, і гэты душагуб акалее. Яшчэ ж вайна не скончылася. Гасподзь не дапусціць, каб гэтулькі добрых людзей згінула, а такі застаўся. Не-е, злітуецца ўсявышні, пачуе. А можа, і пачуў ужо: кажуць, аднаго з гэтай зграі немцы схапілі.

— Схапілі? — блядеючы, паўтарыла Аквіля.

Маці кіўнула галавой і больш ужо не гаварыла пра Маруса. Быццам яго лёс вырашаны, а калі яшчэ і не, дык раней ці пазней гэта адбудзецца, і няма чаго тут дарэмна мянціць языком.

— ...Такую свінню! — бубніў наперадзе Кяршыс.— Чатырнаццаць пудоў...

— Што там, зяцёк, свіння. У людзей галовы падаюць. Другую выкарміш,— суцяшаў бацька.

— Гэтыя немцы таксама добрыя зладзеі,— адгукнулася Катра Табака.— Летась нам за каня здыхляціну ўсунулі, а ўчора, калі тых бандытаў шукалі, гуся ўкралі.

— Не ў нас адных, рэдка каго ўчора не абабралі. Чуваць, збіраецца зноў камісія, будуць коней правяраць. Тады ўжо не адзін заплача.

— Такія, як ты, і заплачуць,— шлеганула мужа Катра Табака.— Разумны гаспадар вухналя ў капыт, камісіі кумпяка — і разам з канём дамоў.

— А-эх, рознае людзі вырабляюць, матухна,— заступіўся за цесця Кяршыс.— Што толькі ў галаву не прыйдзе. Але і немцы паразумнелі, зласнейшыя зрабіліся. Хіба раней такую свінню, як мая, узялі б задарма, нават дзякуй не сказаўшы?..

Гэтак перагаворваючыся, дайшлі да развіліны. Вайнарасам налева, праз вёску, а Кяршысам проста, па беразе возера, на свой хутар. Калі развітваліся, Катра Табака яшчэ раз нагадала, каб не пагарджалі і нейкага дня зайшлі.

— Даўно так трэба было,— сказаў Кяршыс, калі яны засталіся ўдваіх. Ён увесь свяціўся, не могучы надзівавацца, што так неспадзявана пагамірыўся з жончынымі бацькамі.

— Старая сказала, што аднаго партызана схапілі немцы,— вырвалася ў Аквілі.

— Ага. Гудвалісу паліцэйскі сказаў. А другога забілі. Самі шкуру падставілі, пакуль мудрагелілі.— Кяршыс не хаваў задавальнення, а Аквіля ў яго ным голасе адчула яшчэ і цьмяную надзею.

— Што ты кажаш! Двух нават...— Аквіля перачакала, пакуль сунялося шалёнае тахканне сэрца, а потым, супакоіўшыся, абыякава дадала: — А можа, усіх іх немцы пахапалі...

— Не пахапалі, дык пахапаюць. Гэтулькі войска, сабакі. Чалавек не іголка,— з глыбокім перакананнем адказаў Кяршыс.

І зноў, як нядаўна на могілках, Аквілю ахапіла раптоўная злосць.

— Нашто тады было біць Кучкайліса па мордзе, калі сам гэтак прагнеш чалавечай крыві?

Кяршыс закашляўся, нават мочкі вушэй пасінелі.

— Прагну не прагну, а будзе, як мусіць быць, ніхто ў мяне не спытаецца, каго адпусціць у лес, каго застрэліць альбо ўзяць жыўцом, ага.

«Гэта праўда,— падумала Аквіля.— І ўсё роўна ты спаў бы спакайней, калі б адзін з гэтых двух, што трапілі да немцаў у рукі, быў Марус». Трэба было першай пайсці з могілак, не чакаючы, пакуль далучыцца Кяршыс, падпільнаваць Чорнага Куксу і асцярожна, намёкамі... Яны ж з Марусам такія сябры былі! Напэўна ведае, што і як, лепш за іншых.

Дзень ужо хіліўся на захад. Сонца, што час ад часу выглядала з-за хмар, апошні раз усміхнулася і засталося за шэрым пакрывалам, як медны грош, які заваліўся за ватную падкладку. Падзьмуў мацнейшы вецер. Паветра пацямнела, нібы зрабілася гусцейшае. Ад возера ішоў цяжкі гул узбураных хваляў; дажджу не было, але ў твар усё часцей пырскалі адкульсьці пыляцелыя кроплі вады. Усё было амаль як і ў той вечар некалькі гадоў таму назад, калі Аквіля ішла тут, па беразе возера, а вецер жалобна стагнаў у галінах кранутых прымаразкамі дрэў, а пад нагамі вяла шамацела трава — чэзлая, без жыцця, як і яе, Аквіліны, думкі. Яна бачыла прывязаныя на ланцуг лодкі, што скачуць на хвалях, і там, у адной з іх, сябе. У шумлівай цемры, быццам велічэзная птушка, мітусіўся ён, Марус. Яна ўжо не думала пра пана Кантроля і пра тое, дзеля чаго прыйшла на кручу. Ёй было ўсё роўна: толькі б хутчэй перакулілася лодка! Яна прыгадала адну казку Гаўфа. Напэўна, таму, што там гэтаксама шалела бура, была ноч, а герой з казкі меў такі самы спічасты капялюш з шырокімі абвіслымі палямі. Потым часцей за ўсё яна бачыла яго без капелюша — Марус рэдка калі накладаў гэты фантастычны ўбор,— але заўсёды, калі яна думала пра яго, ва ўяўленні паўставаў герой з казкі Гаўфа. Чалавек, які таксама прыйшоў з казкі ў асеннюю непагадзь і вярнуўся ў яе, калі гарачы чэрвень звінеў на лугах косамі. І ніколі ўжо не прыйдзе. Можа, прыйдзе да другой, але не да яе, Аквілі. Сама зачыніла перад ім дзверы.

Лаўрукас, убачыўшы бацькоў, выбег насустрач. Аквіля схапіла яго ў абдымкі, прыціснула да грудзей і горача

пацалавала. Потым, падняўшы на выцягнутых руках, доўга ўзіралася ў дзіцячы тварык, а адтуль на яе пазіраў Марус, і было прыемна зноў прытуліць да сябе маленькае жвавае цельца, ад якога павеяла цеплынёю мінулых дзён і хмелем бяссонных начэй. У сенцах, падымаючы вобłака пылу, важдалася з венікам Юліта. З абедзвюх сясцёр яна менш за ўсё была падобная на Маруса. Хіба толькі вочы. Аквіля, узяўшы дурнічку за руку, глядзела ёй у твар. Прагна, неспатольна, як чалавек, змучаны смагай, глядзіць на шклянку вады. Дурнічка крывілася, яна была непрыгожая, у маці, аднак Аквіля і ў яе губах бачыла Марусавы губы.

Увесь вечар яна была сама не свая, і, што ні рабіла, усё нешта атрымлівалася не так як трэба. Падаіўшы карову, забыла працадзіць малако; косці, што прызначаліся сабаку, ссыпала свінням. Замачыла мяса на заўтра, але не ў той місцы, саштурхнула з паліцы гаршчок з крупамі. Усё чаплялася, падала, разбівалася, вырывалася з рук. Яна ўспомніла, што не сабрала днём яец. Можна пакінуць гэты клопат на заўтра, але ў хаце так душна! У дадатак яшчэ Кяршыс, расклаўшыся каля дзвярэй, майструе пастку на тхароў і цягне сваю старую песню пра змарнаваную свінню ды нявыкуплены матор... Лепей ужо, запаліўшы ліхтар, яна абшнырыць клуню, залезе на вышкі. Хоць адпачне ад гэтага бясконцага нудзьгавання.

Але калі яна вярнулася ў хату — хутчэй, чым павінна,— у прыполе не было яец. Губы былі белыя, нібы стручкі нераспелага гароху, ліхтар скакаў у руцэ.

— Удалая пастка будзе! — казаў Кяршыс.— Пасля вайны тхаровыя шкуркі за шчыры грошык пойдуць.

Ледзьве трымаючыся на нагах, яна прайшла на кухню і, апусціўшыся на ўслончык побач з печкай, доўга сядзела, абхапіўшы рукамі галаву. Ён нешта казаў ёй адтуль, ад сваёйársткі, аднак яна была глухая і сляпая да ўсяго, што тварылася навокал. І толькі тады, калі адчула, што кроў, якая была застыла ад жаху, зноўку пабегла па жылах, што яна ўжо можа разважаць і паводзіць, не выдаючы сябе, яна ўклала ў кішэню ў пінжак электрычны ліхтарык і, сказаўшы, што ёй трэба нешта ўзяць са скрыні ў свірне, выйшла. Але калі вярнулася — на гэты раз затрымаўшыся даўжэй, чым павінна,— у яе ў руках зноў, апроч ліхтарыка, нічога больш не было.

— Задам, а-эх, задам я тхарам пытлю,— весела пагражаў Кяршыс, захоплены сваёю пасткай.

## III

Не трэба было ехаць па той дарозе. Масток ледзь ліпеў, машыны на ім ніколі не ездзілі. Але што заставалася рабіць? Рынуцца па дваровай абсадзе да гасцінца проста насустрач немцам? Толькі самагубца мог прыняць такое рашэнне. Каб жа ўспомніў, што масток нетрывалы... Праз паўкіламетра, калі б паехалі па полі, па канюшыне, маглі б знайсці брод. Яшчэ невядома, ці там не загразлі б, але, прынамсі, цяпер былі б усе разам у кустах. Без небаракі Мядзведзя, зразумела. Эх, Вайдатас часам бывае дужа неасцярожны. Зрэшты, чаму толькі ён — кожны з нас павінен быў прадбачыць такую магчымасць. Шчасце яшчэ, што, перакульваючыся, машына не пацягнула нікога ў Струмлю. Так альбо гэтак яны былі гатовыя і да такой неспадзяванкі. Яму аднаму не пашанцавала, шалёна не пашанцавала. Яны крычалі, хацелі дапамагчы, але стрэлы тахкалі так блізка... У дадатак ён вырашыў, што з нагой нічога сур'ёзнага. Наперад, хлопцы, наперад, дарагая кожная секунда! Напэўна, яны ўжо шпарацъ у бок Гілужскага лесу. На хутары Кнюкшты іх чакаюць коні. Калі немцы не перасякуць дарогі, можна сказаць — уратаваныя.

Ён зноў паспрабаваў устаць. Плынь тут была слабейшая, дно цвёрдае, жвірыстае. Аднак, застагнаўшы ад болю, асунуўся ў ваду. Зламана косць. Недзе каля калена. А можа, толькі вывіхнута? І трэба ж так — проста на камень! Якая бязглуздзіца! Каля парога роднага дома немцам у лапы... Неўзабаве яны будуць тут, убачаць зваленую ў раку машыну і, несумненна, уважліва агледзяць усё навокал.

Засланяючыся кустамі, пачаў пасоўвацца наперад. Праўдзівей кажучы, ён толькі трымаўся на вадзе, наперад несла сама плынь. Заставалася толькі асцерагацца занадта нізка навіслых галін і не вылазіць на сярэдзіну рэчкі, якую раз-пораз асвятлялі ракеты. Страляніна, што была на нейкую хвіліну аціхла, зноў узгарэлася. Мабыць, немцы ўжо заўважылі машыну. Выбух гранаты. На ўсякі выпадак. Баязліўцы! Але, яны ўжо там, каля мастка. Бягуць берагам, абстрэльваюць кусты. Крыкі ўжо з таго боку: перабраліся цераз Струмлю. Цішэй, цішэй! — яны могуць быць і тут. Хутка — мост на гасцінцы. Добра, што паблякла святло ракет, але ўсё роўна трэба трымацца бліжэй да берага, не вытыркацца з-пад кустоў: на мосце, напэўна, ужо стаіць варта.

Невыносна баліць нага. Як знарок, ударыўся каленам аб нейкі корань, што вытыркаўся з вады, а можа, аб камень. Пад сэрцам зрабілася мляўка, пацямнела ўваччу. Ён ужо не спрабаваў уставаць — і так усё зразумела: калі немцы не вывудзяць з вады раней, канец яго падарожжа будзе там, дзе канчаецца Струмля,— у Гілужэ. Калі б удалося знайсці лодку без замка, пераправіўся б цераз возера. А там ужо і Гілужскі лес. Пакуль немцы прачэшуць яго... Дзіўная істота чалавек: любой цаной намагаецца хоць бы на дзень адсунуць смерць. Калі б ён меў аўтамат... Трэба было пашукаць каля таго каменя, хоць, як ён памятае, там неглыбокая яма, але нага ўсё папсавала. Так, яго справы неважнецкія.

Ракеты ўспыхвалі ўсё радзей, амаль не стралялі. Адзенне і абутак намоклі, цягнулі ўніз. Занылі мускулы. Ён ніколі не думаў, што ў Струмлі можа быць такая халодная вада. Дзейнічаў рукамі і здаровай нагой, раскірэчыўшыся, нібы краб, стараўся трымацца на паверхні; там, дзе было плытчэй, адштурхоўваўся ад дна і гэтак, дапамагаючы плыні, досыць хутка пасоўваўся наперад. Аднак яму здавалася, нібыта ён плёхаецца на месцы. Каб толькі не пачаў сцягваць мускулы курч! Тады капцы. У вёсцы заходзіліся ад брэху сабакі. Недзе зусім побач былі хаты, двары, платы, абсаджаныя гаршкамі, у хлявах на цёплым гнаі драмала скаціна. Вось не думаў, што чалавек можа пазайздросціць скаціне. Цеплаваты гной альбо сухая салома. Так, аказваецца, іншы раз аддаў бы немаведама якое багацце за такі набытак. Але прэч, прэч недарэчныя думкі, ад іх можна зусім расклеіцца! Лепш паразважаем пра экспедыцыю Скота. Мароз восемдзесят градусаў, пурга, лядовыя горы. У гэтай рачулцы не больш як шэсць-сем па Цэльсію. І, само па сабе зразумела, вышэй нуля. Усяго толькі трыццаць градусаў не хапае да тэмпературы чалавечага цела. А холадна таму, што чалавек уявіў сабе, што холадна. Быў выпадак, калі чалавеку галаву «адцялі» гусіным пяром. Можа, і дарма падставіў Мядзведзь галаву. Аднак такі ўжо ён быў — лез у самы агонь, гатовы быў за сяброў жыццё аддаць. Калі б яны адразу заўважылі, што яго няма ў машыне, хіба пакінулі б аднаго? А потым, пасля выбуху гранат, калі ўсё зразумелі, было позна. Можна сабе ўявіць, якой сумятні ён нарабіў! Яны выйгралі няшмат, можа, дзве-тры хвіліны, але ў такіх абставінах, калі кожная хвіліна раўнялася гадзіне... Калі б не гэты гнілы масток... Дзякуй, Мядзведзь, дзякуй, дружа, ты недарэм-

на... Але, чорт вазьмі, чаму ёп конча загіпуў? Дзівосаў не бывае, але Мядзведзь умее рабіць дзівосы.

Рэчышча відавочна пашырылася, плынь стала павальнейшая. Ён праслізнуў пад мостам. Нага ўжо не даставала да дна. Неўзабаве возера, тут усюды глыбока. Трэба туліцца бліжэй да берага. Толькі чапляючыся за яго рукамі, можна пасоўвацца наперад. Ён амаль што не адчуваў рук. І ўсё роўна некалькі разоў амаль не войкнуў ад болю: схапіўшыся за нешта вострае — адшліфаваную вадой патырчаку ці нейкую вострую жалязяку. Магла гэта быць і разбітая бутэлька, і адламаны канец касы, выкінуты дзецьмі. Пальцы, напэўна, спрэс знявечаныя, аднак ён стараўся пра гэта не думаць, як не думаў пра твар, да крыві абадраны веццем і пасечаны чаротам, які цяпер, па меры набліжэння да Гілужэ, станавіўся ўсё гусцейшы і загароджваў дарогу. Усё гэта глупства! Галоўнае не павыпорваць вачэй. Падумаў, што зрабіў памылку, не перабраўшыся да другога берага, пакуль рэчышча было вузейшае і сам ён меў больш сілы. Падсвядомае пачуццё самазахавання — трымацца далей ад людзей... Аднак там вёска, непадалёку ад возера і Чорны Кукса! Прытулак, цёплая пасцель... Ад гэтай думкі яму ледзьве не стала моташна. Вар'ят! Ісці ў свой дом, калі ў кожным двары можа стаяць немец! Хочаш загубіць Чорнага Куксу, нібыта ён, калі не даваламэшся жывы да Вянцкага лесу, не спатрэбіцца таварышам?! Як мала трэба чалавеку, каб зусім размямліцца.

Стрэлы заціхлі. Зрэдчасу бліскала ракета, але ўжо далёка. Недзе вуркаталі маторы, нехта нібыта крычаў. Усё лянівей брахалі сабакі. Хлопцам, напэўна, удалося змыцца. Калі толькі не ўзбрыло ў галаву адсядзецца ў Гілужскім лесе... Да раніцы яны адолеюць добры кавалак дарогі, а там ужо недалёка і балоты, там свае людзі. Уратаваны! Але што будзе рабіць ён, такі нездаляшчы, нават калі пераправіцца цераз возера? Усё ж такі трэба было трымацца таго берага. Там амаль што ўсе лодкі. Па беразе, па беразе і неяк бы датэпаў да лесу. Не больш чым паўкіламетра, а калі возерам — амаль два. Усё гэтая праклятая асцярожлівасць, боязь, каб яе чорт узяў! Зноў, зноў лезе ў галаву ўсялякае глупства. Досыць! Што зроблена, тое зроблена. Як ні рыпайся, адзін канец: чакаць у сасонніку за Гілужэ, пакуль не апынешся ў нямецкім невадзе, ці зрасходаваць апошнія патроны тут, на гэтым беразе.

Вылез на бераг возера і нейкую хвіліну ляжаў неру-

хома, нібы калода. Страшэнна ныла ўсё цела. Ён ужо не адрозніваў, якая нага здаровая. Пачаў ікаць — у страўніку адчуваўся холад. Яму здалося, што ён выдыхае ледзяное паветра, і на імгненне ўявіў свае лёгкія, аброслыя бросняй шэрані. Ну ды нічога! Перш за ўсё трэба разварушыць рукі. Прыставіўшы далоні да губ, ён узяўся хукаць. У цемрадзі іх не разгледзіш як след, аднак яны былі клейкія і смылелі, нібы абсыпаныя жарам, пальцаў ён не адчуваў. Яшчэ крыху. Пачаў качацца, ляпаючы рукамі па баках. Агідны вецер, але прыглушае затое шум. Не ўсё ў кепскім кепскае. Паспрабаваў расшпіліць кабуру пісталета. Не адразу, але ўдалося. Ён ужо амаль хацеў, каб з'явіліся немцы. Бераг што трэба, зручная пазіцыя для абароны. У яго, здаецца, каля трыццаці патронаў. Калі б пацэліў кожны пяты... Не, так лёгка яго не возьмеш. Фінал вядомы — апошняя куля сабе,— раней ці пазней усё роўна яго чакаў такі канец. Песіміст? Магчыма. Калі чалавек вымак і змёрз да жудасці, а смерць — падаць рукой, надта цяжка не захацець, каб усё гэта хутчэй скончылася.

Тое здранцвенне, якое скавала ўсе суставы, паступова прайшло, мускулы ўжо не нылі, хоць скроні праціналі іголкі і трохі кружылася галава. Ён зноўку пачаў адчуваць сваё цела. Але адтаго, што вылез з вады, змяніўшы плюс шэсць альбо сем па Цэльсію на два градусы ніжэй нуля, лягчэй не стала. Пранізлівы вецер пранікаў праз адзенне, і ад яго зябкага дотыку цела ахоплівала дрыготка. Знаёмае адчуванне, аднак лепей ужо пякучы арлоўскі мароз, калі ты ў сухім цёплым адзенні, чым сушыць яго на сябе на лістападаўскім ветры.

Ён сеў, абмацаў нагу. Распухла, гарыць, нібы на ёй гарачы кампрэс. Трэба яшчэ раз паспрабаваць устаць. Ахнуў і абсунуўся на дол. Няма чаго казаць, левая ўзяла бестэрміновы адпачынак. І наўрад ці здолее вярнуцца з яго... Але ўсё роўна нельга так сядзець і ляскацець ад холаду зубамі, бо ноч не будзе доўжыцца вечна. Ён упёрся рукамі ў зямлю і, валочачы знявечаную нагу, папоўз па беразе возера. Сухі лядок трашчаў пад ім. Месцамі рукі траха не па локці правальваліся ў мёрзлую гразь, і ён мусіў рабіць круг, каб абмінуць замаскаваную травою лужыну. Потым пацягнуўся бераг, зарослы дрэвамі. Цяпер даводзілася паўзці вельмі паволі, пастаянна спыняцца і ўважліва аглядаць кожны прагал між дрэвамі, ці не відаць дзе лодкі. У такім месцы, вядома, яна будзе замкнёная, каб не

знесла вадой, але не такая ўжо цяжкая справа збіць замок. Далоні набрынялі нейкаю нематою і не адчувалі новага болю. Яго цела складалася нібыта з асобных кавалкаў — налітыя расплаўленым свінцом ногі, галава ў жалезных абцугах, дрыгатлівае тулава, зашытае ў лядовы мяшок. Дрэвы скончыліся. Палоска голага берага, па-над якім высіўся спадзісты абрыў, і зноўку дрэвы. Яму здавалася, што ён прапоўз кіламетры два, хоць на самой справе не адолеў і трэцяй часткі таго. Дзіва, але ён раптам адчуў, што зусім не пазнае гэтай мясціны. Усё чужое, нібы ніколі ён тут і не быў. Наперадзе, перад сабою, ён заўважыў нейкую патырчаку. Вясло! Зламанае вясло... Нейкі час ён ляжаў на баку, адчуваючы, што ўсё павернецца не так, як ён думаў, аднак яшчэ не разумеючы, як іменна. Калі ёсць вясло, недзе непадалёку павінна быць і лодка. Выстукваючы зубамі чачотку, ён глядзеў на чорную шумлівую ваду. Вецер дзьмуў з таго берага. З адным, ды яшчэ зламаным, вяслом проці ветру! З такім жа поспехам можна было б узяцца вычэрпваць лыжкай возера. Можа, паспрабаваць абысці вакол? За тры-чатыры гадзіны... Але што там яго чакае? Калі немцы нават і не будуць прачэсваць лес, сам дасі дуба ад холаду. Які сэнс мучыць сябе, калі вынік усё адно роўны нулю? Трыццаць патронаў можна зрасходаваць і не вылузваючыся са скуры.

Ён зноўку пачаў качацца, лопаць рукамі па баках, не зважаючы на боль у назе, ад якога рабілася цёмна ўваччу. Аднак дрыготка не адпускала: так трэсла ўсяго ад макаўкі да пятак, што здавалася, цела распадаецца на часткі. Холад! — вось проці чаго чалавек бяззбройны. Пра гэта забыўся Напалеон, а немцы нічаму не навучыліся з яго вопыту. Калі б не прамоклі цыгарэты і меў сухія запалкі... Хоць бы адну, чорт вазьмі, запалку! Людзі баяцца агню. Агонь — гэта шчасце. Ён мог бы цяпер засунуць ажно па локці рукі ў жар і разграбаць яго, нібы скнара золата.

Запахла дымам. Ён здзіўлена падняў галаву і задыхаў на поўныя грудзі. Глупства: вецер ад возера, адкуль гэтаму дыму ўзяцца. Трызненне! Аднак дымам усё роўна пахла. Бярозавай карой, печанымі аладкамі, хлявом. Пахла цёплым чалавечым гняздом. Домам! Ведаў, што гэта тое ж самае, што плысці цераз возера проці моцнага ветру, грабучы адным, ды яшчэ зламаным вяслом, але ўсё роўна павярнуўся і папоўз назад. Ага, на шырэйшы канец

вясла, на гэту абшмуляпую мянташку, можна абаперціся. Даўжыня сама раз. Яму трэба мыліца. Устаў, абапіраючыся на вясло, ступіў крок. Адразу і сам не паверыў, што гэта так проста і зручна. Не, вясло крыху задоўгае, а зламаны канец востры, утыкаецца ў зямлю. Зубамі адчыніў нож, бо пальцы не слухаліся, але калі паспрабаваў стругаць, нічога не атрымалася: рукі былі як гумовыя. Ну ды нічога, зробіць гэта потым, калі адлецяцца рукі. Балазе і так можна клыпаць.

Бераг выгнуўся, нібы край місы. Знайшоў пакатую мясціну і пачаў караскацца ўгору. Не, хадзіць не так проста і лёгка, як гэта здалося спачатку. Усё-такі, д'ябал, задоўгае. Недзе справа, там, дзе дарога, загучалі крыкі, заўркатаў матор. Зусім непадалёку. Немцы! Напэўна-такі ўжо ачапілі вёску, і ён апынуўся ў кальцы. Халера! Каб хоць яшчэ не згубіў рукавіц. Ён спыніўся і безнадзейна паглядзеў на сваю мыліцу. Неба нібы пасвятлела, паміж хмар рассыпаліся зоркі. Мабыць, на досвітку мароз памацнее. Пальцы так адубелі, што гэтыя трыццаць патронаў ворагу тое самае, што гарох.

Нарэшце ён выкараскаўся з гэтай місы. Яшчэ не запоўз на самы верх, а ўжо бачыў нейкія горныя хрыбты, што ўпіраліся ў неба, а навокал — дрэвы. Цяпер, стоячы на ўвесь рост на абрыве, ён ужо ведаў, што гэта стрэхі будынкаў. Зусім незнаёмая сядзіба. Сапраўды можна паверыць апавяданням старых людзей пра нячыстую сілу, якая ўмее так затуманіць вочы, што ты кружышся вакол сваёй сядзібы, а на месцы яе бачыш невядомы маёнтак; і гэтак будзеш блукаць да самай раніцы, пакуль не спадзе з вачэй насланнё. Аднак так ці сяк, тут жывуць людзі. У цёплым хляве жуюць жуйку каровы, на гарышчы сена, зацішна... Д'ябальскі вецер! Пакуль яшчэ быў ніжэй, крыху засланялі дрэвы, а тут, на гэтым ветравеі, сапраўднае пекла. Зямля замерзла, бы камень. Калі і падкароціць сваю мыліцу, дык затупляць востры канец не будзе ніякай патрэбы.

Ён мусіў мінуць сядзібу — так ён, прынамсі, цвярдзіў сабе,— але вецер штурхаў яго проста ў гэту начную д'ябальскую сядзібу. Быццам нехта з абодвух бакоў паставіў нябачны плот, і ён сунуўся, час ад часу натыкаючыся на яго, але не знаходзячы шчыліны, праз якую можна было прадзерціся. Ён злаваўся, што нідзе не знаходзіць ніякай шчыліны, аднак у гэтым злаванні было больш самападману, чым сапраўднага жадання вырвацца адсюль прэч. Ён

быў амаль задаволены, што ёсць такі плот, а вецер дзьме ў спіну, хоць і не думаў пра гэта. А калі б нават і думаў, цела, што было нібы сшыта з асобных кавалкаў, рабіла б так, як яму лацвей, бо ў некаторых выпадках логіка прамерзлых лёгкіх альбо пустога страўніка аказваецца мацнейшаю за логіку розуму, асабліва калі ёй бракуе трывалых аргументаў.

## IV

Дзверы ў клуні не даставалі да зямлі, мабыць, на трэць метра. Напэўна, гэта было зроблена для таго, каб лепей праветрывалася памяшканне. Зрэшты, хіба гэта мае якоенебудзь значэнне. Ён ужо ўнутры, ляжыць, павярнуўшыся на здаровы бок, і ўсмоктвае ў сябе мяккае, прапахлае сенам паветра. Вецер застаўся за сценамі. Не, яшчэ цягне з-пад дзвярэй, але ў параўнанні з тым, што было хвіліну назад, гэта божае дыханне.

Ён ласкава пагладзіў сваё вясло: лёс літасцівы, нават чалавеку, што спешным парадкам шыбуе да смерці, штонебудзь падорыць. Нейкі час ляжаў, апанаваны знямогаю. Ужо не так раздражняў дотык мокрага адзення, сунялася дрыготка, хоць цела, як і раней, калола ледзянымі іголкамі. Калі перастаў ікаць ад холаду, гэта не азначае, што можаш вылежвацца, пакуль не адубееш. Ён устаў. Выдатная падмога — мыліца! Зрабілася цяплей, бо цяпер вецер цягнуў толькі па лытках. Каб жа ўдалося трапіць у хлеў, прытуліцца да каровінага бока! Ды не! Куды лепш зашыцца між авечак. Цёплая кучаравая авечая воўна — гэта раскоша... Фантазія! Адкуль ён ведае, дзе той хлеў? І, апрача таго, каля хлява будзе сабака. Абавязкова будзе! Так-так, у самы час згадаў пра сабаку. Хутчэй за ўсё за гэтымі дзвярыма дзённая загарадзь для скаціны, а справа альбо злева — хлеў. І сабачая будка. Не, цяпер трэба думаць не пра цяпло, а пра тое, дзе знайсці бяспечнае месца. Бяспека... Ён не мог стрымацца і горка ўсміхнуўся. Смех смехам, але чалавек мусіць зрабіць усё, што можа. Хвіліну ён напружана разважаў, пазіраючы ў цемру, спярэшчаную блакітнымі палоскамі. Так яно і ёсць: загарадзь за гэтымі дзвярыма. Хлеў, сабака. Вецер дзьме з таго боку. Някепска, зусім някепска. Калі б верыў у бога, прынёс бы малітву падзякі. Асцярожна абапіраючыся на вясло, пачаў кратацца ў цемры. Справа ад сябе намацаў тарпу канюшыны. Прыхінуўшыся да яе, трымаючыся на

адной назе, патыцкаў вяслом над галавою. Канюшыны напхана вышэй бэлькі, а можа, і па самы вільчак. З такою нагою, без драбіны... Паганая рыса натуры ў мужыкоў — скваппасць. Не каб залезці і скінуць скаціне бярэмца канюшыны зверху. Нібыта калі выскубаць па касмыку збоку, можна надаўжэй захаваць корм...

Злева таксама была канюшына. Калючая, з асакою, злежаная, быццам камень. Але толькі да пояса: вышэй было сена. Драбіна! Доўга абмацваў яе, не давяраючы здранцвелым, зраненым пальцам. Нічога дзіўнага, што яна тут — у кожнага селяніна ў клуні стаіць драбіна,— але не ўсе яны прыстаўлены да тарпы, і якраз у такім месцы, дзе лацвей за ўсё залезці. Трымаючыся рукамі за папярочкі, упіраючыся плечуком у сцяну, ён як-небудзь завалачэ на сена сваю нагу.

Узрадаваўся, што сена тут не вышэй бэлькі. Ускараскаўшыся наверх, трохі паляжаў, слухаючы, як шалёна грукае сэрца ў грудзях. Люта балела нага, нылі рукі. Спатрэбілася нямала намаганняў, каб апынуцца тут. Ён ужо ведаў, што будзе рабіць далей. Зверху заточвацца ў сена небяспечна — застанецца след, а калі зашыцца дужа глыбока, можна і затхнуцца. Сена, калі добра ўлежыцца, звычайна адыходзіць ад сцяны, і ўтвараецца як бы лаз. Ён ушчэміцца ў гэты лаз і дзе-небудзь бліжэй да сярэдзіны тарпы пачне выграбаць сабе схову. Выскубанае сена будзе пхаць да сцяны, у гэты лаз.

Ушчэміцца... Лёгка сказаць. Вядома, ён і не думаў, што гэта лёгка, аднак і не спадзяваўся, што надта цяжка. Вясло тут ужо нічым не магло дапамагчы. Нага ўвесь час за нешта чаплялася, і ад вострага болю сціскалася сэрца, на вачах выступалі слёзы. Холаду больш не адчуваў, і гэта была ўжо такая-сякая ўзнагарода. Яго нават праняў пот — здавалася, усяго абклалі гарачымі кампрэсамі. Час-почас мільгала недарэчная думка: калі б у гэтай пячоры (якія-небудзь два метры сена над галавой і гэтулькі ж да зямлі) было светла і ён мог паглядзець на сябе збоку, дык убачыў бы, што ад яго ўздымаецца пара, як зімою ад заінелага каня. Мабыць, ён ужо далез да сярэдзіны тарпы. Калі селянін, спалохаўшыся спахмурнелага неба, звязе недасушанае сена, яно пачынае прэць. Ва ўсякім разе яму з яго мокрым адзеннем холадна тут не будзе.

З цяжкасцю зняў кажушок, сцягнуў са здаровай нагі бот. Расшпіліўшы штаны, пачаў абмацваць знявечаную нагу. Здаецца, яшчэ больш напухла. Далоні, нацёртыя се-

нам, прыліпалі да гарачай скуры, нібыта былі абпэцканы дзёгцем. Кроў... Напужаны, адшпіліў зубамі рукавы ў гімнасцёрцы і запясцямі пачаў расціраць апухлае месца. Не, гэта была кроў з пальцаў. Ні з таго ні з сяго згадаў адно лета (быў ён тады падлеткам), калі конь, спудзіўшыся, вывернуў яго з фурманкі. Тады дасталося правай назе — трэснула косць каля калена. Пару тыдняў ён праваляўся ў ложку, аднак абышлося без урача. Напэўна, і цяпер паўтараецца гэтакая самая гісторыя.

Ён зноўку абмацаў пухліну, націскаў на нагу, не шкадуючы сябе. Потым упёрся нагою ў сена і трываў датуль, пакуль у вачах не заміргацелі каляровыя кругі. Ат, нічога страшнага — мабыць, сапраўды толькі трэснула косць. Што такое пералом, ён ужо ведае — гэтага задавальнення давялося паспытаць на фронце.

Апанаваны раптоўнай радасцю, ён доўга ляжаў на спіне, выцягнуўшыся на ўвесь рост. Што ж, пачатак лепшы, чым ён чакаў. Праўда, яшчэ невядома, чым усё скончыцца, але нашто тлуміць галаву, калі ад цябе гэта менш за ўсё залежыць? Мае някепскі ложак, а што будзе далей — пабачым. Цяпер самае галоўнае — адпачыць, каб, калі настане час, змагчы найлепшым чынам выкарыстаць гэтыя трыццаць патронаў.

Ад сцяны ў галаву цягнула холадам. Ён акрыўся кажушком, закапаўся глыбей у сена і, удыхаючы вільготны пах аўчыны, змешаны з пахам сена, зноўку ўбачыў зарослую кустамі рэчку, якая раз-пораз асвятлялася бляскам ракет, адчуваў ледзяныя абдымкі плыні, якія станавіліся ўсё больш далікатнымі і пяшчотнымі, пакуль нарэшце не ператварыліся ў вірлівыя згусткі імглы і не пацягнулі яго ў нябыт.

Абудзілі яго дзіўныя гукі. Адразу ён не зразумеў, што гэта,— адчуў толькі, што пад скурай ходзяць халодныя іголкі, а калі паспрабаваў павярнуцца на бок, спіну праняло тупым болем. Усё цела было нібы разбітае. Нага ад сцягна да лыткі гарэла, нібы нашмараваная соллю, кружылася галава, перасохла ў роце. Страшэнна хацелася піць. Мабыць, у яго жара. Нішто сабе навіна! Знайшоў месца, каб хварэць.

Прыслухаўся. Гукі, якія не паспеў распазнаць у сне, паўтарыліся: вішчала свіння. У такі час калоць свінню... Дзіўна... Гаворкі няма, ужо раніца, і ўсё-такі... Няўжо немцы выбраліся? Не, гэта не ў іх натуры. Хутчэй за ўсё

трэба было меркаваць, што яны, дачакаўшыся досвітку, уварваліся ў вёску і цяпер рабуюць сялян. Пэўна, сёння шмат хто не далічыцца свінні. І гэта, зрэшты, толькі пачатак. А далей? Пры думцы аб магчымых выніках у яго заныла сэрца. Ён не прывык разважаць ні пра свой лёс, ні пра тое прынцыповае пытанне, якое калі-нікалі ўздымалася ў свядомасці і вагала яго ўпэўненасць: правільна робіцца ці няправільна? Гэта не ўваходзіла ў яго кампетэнцыю. Ён мусіў дзейнічаць, а не пытацца. Арганізаваная сіла, якая стаяла вышэй за яго, лепей ведала, што цяпер карысней: старацца захаваць спакой сялянам ці наадварот — бурыць яго, намагаючыся такім чынам уцягнуць усё шырэйшыя колы насельніцтва ў рух супраціўлення. Правакаваць ворага, каб спадалі нявінныя галовы,— жорсткасць, ён разумеў гэта, аднак апраўдваў такую тактыку як непазбежнае зло. Вайна не можа не быць жорсткая, асабліва такая, як гэтая. Змагаюцца не за асобных людзей, не за тое, якога валадара пасадзіць на трон,— на палях бітваў вырашаецца лёс цэлых народаў. Гамлетаўскае «быць альбо не быць» разыгрываецца не ў межах сцэны, а ў маштабе ўсяго свету. Яго не дужа ўражвала тая сумная акалічнасць, што праз гадзіну-другую, а можа, яшчэ раней, і самога яго могуць змесці з арэны жыцця. Ён ужо чуў пра спаленыя вёскі на Беларусі. Што ж, немцы сваёй тактыкай («За аднаго нашага сто гэтых азіятаў!») самі сабе капаюць яму. Няхай. Ад яго, магчыма, таксама застанецца толькі жменька попелу, але жыў ён недарэмна. Калі-небудзь гісторыкі раскажуць наступным пакаленням пра тых, што сваёй смерцю ўратавалі чалавецтва ад згубы. Ён, зразумела, занадта мала значыць, каб захаваць с в а ё імя ў памяці гісторыі, аднак і безназоўны ён застанецца жыць у жывых. А гэтыя земляробы і свінагадоўцы... Злыдні і галубіныя душы, нахабнікі і баязліўцы — яны не прызнаюць ніякага іншага бога, апроч сваёй зямлі... Самае страшнае для іх было б паміраць за тое, што не належыць ім асабіста, і ведаць прытым, што пасля цябе застаецца пустата. Разам з нейчымі жонкамі, дзецьмі, нявестамі, якія т а б е ўжо ніколі не народзяць спадкаемца, каб араць поле ці ткаць кужэльнае палатно. У гэтай вёсцы было многа людзей, любіць якіх у яго не было ніякай падставы, але цяпер, угадваючы найгоршую магчымасць, ён адчуваў да іх шчырую спагаду.

Раптам ніць думкі зблыталася, абарвалася і завязалася зусім не ў тым месцы, дзе можна было спадзявацца.

«А я?» — падумаў ён. Чалавек, які прысягнуў партыі, што будзе змагацца да апошняга патрона. Няўжо і на самой справе ён ужо зрабіў усё магчымае, што сёння ляжыць, нібы загнаны ў пячору звер, і чакае скону? Чаму ён павінен памерці якраз у гэты час, калі айчыне гэтак патрэбна яго жыццё? Трыццаць патронаў... Так, гэта па-геройску, той-сёй скажа, што ён умеў памерці. Але на якое ліха яны павінны быць апошнія ў яго жыцці? А калі падумаць... Якое тут геройства выпусціць некалькі абоймаў, калі не застаецца іншага выйсця? Памерці здолее кожны дурань. А ты здолей выкруціцца ад смерці ў крытычную хвіліну, зберагчы сябе, каб змагчы змагацца далей. Вось гэта будзе сапраўднае геройства!

Ён жаласна застагнаў. Не ад болю, хоць усё цела гарэла, нібыта абкладзенае жарам,— яго душыла злосць. Безнадзейная і адтаго страшнейшая, што ўжо нічога нельга было паправіць. Трэба было тых двух нягоднікаў павесіць на ліпе каля дарогі! Нашто было з імі малімоніцца?!. А самім у машыну — і ходу. Дык не, захацеў паказаць, што савецкая ўлада справядлівая, без суда не карае нават забойцу, што не трэба наш суровы, але справядлівы прысуд параўноўваць са злачынствамі акупантаў. Стараўся надаць аперацыі, так сказаць, шырэйшае палітычнае гучанне... Ну і, вядома, паказаць людзям, што нямецкі млын трымаецца на курыных ножках. Важкія аргументы? О так, нічога не скажаш. Але калі б на месцы Адомаса быў нехта іншы альбо калі б Адомас наогул не заязджаў у вёску, з Кучкайлісам яны абышліся б прасцей, куды прасцей... Зразумелая рэч, не трэба было нягодніку, ды яшчэ добра вядомаму, даводзіць, што ён нягоднік, аднак убачыць яго перад сабой на каленях, ператворанага ў кучу гною... Гэта ж — прызнанне, што ён атрымлівае па заслугах, хоць і не можа з гэтым згадзіцца, а ты абсалютна справядлівы перад людзьмі. Ты не мог, не меў права зрабіць інакш! Людзі... Хто ведае, можа, тады, думаючы пра іх, ты перш за ўсё меў на ўвазе яе?.. Нібыта мела значэнне, як паставіцца да гэтага жанчына, якую даўно пастараўся выкрасліць з памяці. Што ж, атрымалася ўсё бязглузда. Аднак не надта лёгка павесіць на жырандолі чалавека, з якім вырас у адной вёсцы, сястру якога калісьці кахаў.

Ён зажмурыўся, хоць навокал і так было цёмна. Не варта гэтакімі думкамі вярэдзіць сэрца. Досыць і тых ранаў, што на целе. Лепей парупімся пра свой побыт. Ага,

штаны ўжо зусім сухія. Кажушок таксама падсох. Значыць, наша печачка някепска грэе. Калі б яшчэ ліхтарыка не згубіў, цяпер адчуваў бы сябе зусім прыстойна.

Нейкі час ён ляжаў ніцма, не звяртаючы ўвагі на тое, што боль у знявечанай назе павастрэў. У вушах нешта патрэсквала — мякка, нібы праз вату. Паветра таксама было нібыта запоўнена валаконцамі, з цяжкасцю праходзіла праз закладзеныя ноздры, і ён не адразу даўмеўся, што тут такое. Д'ябальшчына! Гэтак жа можна затхнуцца! Ён затурбаваўся і папоўз нарою ў бок сцяны. Так і ёсць: зверху споўз пласт сена і заваліў выхад. Здаецца, куды лягчэй уначы было выкапаць нару, чым прадзерціся цяпер праз гэтыя некалькі абярэмкаў сена,— цела рэзала ад кожнага руху. Нарэшце-такі сцяна! Выбіўшыся з сілы, ляжаў, прытуліўшыся гарачай шчакою да шорсткага халоднага бервяна, і прагна ўдыхаў свежае паветра. Непадалёку злосна брахаў сабака, чуліся людскія крыкі і нейкія глухія ўдары. Ляснуў стрэл. Другі. Не запар адзін за адным, а з перапынкам, які яму здаўся надзвычай доўгім. А можа, і не стралялі, можа, гэта яму прыснілася? Не, стрэлы сапраўдныя. Усё-такі трэба было б пачысціць пісталет. Разасланы кажушок і як-небудзь навобмацак. Чорт пабяры, хоць бы якая шчылінка была ў гэтай сцяне... Жахліва кружыцца галава. Няўжо схапіў застуду? Скразняку тут не павінна быць, адкуль жа цягне холадам? Па праўдзе кажучы, і там, і у сваёй бярлозе, ён адчуваў, як пад скурай гуляюць ледзяныя іголкі, аднак цяпер яны ператварыліся ў суцэльныя правады, што павуціннем аблыталі ўсё цела і давалі то гарачы, то халодны ток.

Задам, ужо не зважаючы на знявечаную нагу, запоўз назад у нару. Лёг на бок, потым на спіну, зноў на бок. І так і гэтак няёмка. Лепш за ўсё — стоячы. На гушкалцы. Вялікдзень. Набраклыя сокам вяршаліны бярэзін. Уніз-уверх, уніз-уверх. Ад гэтага гушкання нудзіць. Але ж гэтага не скажаш дзяўчынцы, якая стаіць насупраць, на другім канцы дошкі! Ёй дык нічога. Шчокі чырвоныя, вочы ўсміхаюцца, коскі разлятаюцца ў бакі, і сукенка надзімаецца, пнецца ўверх, нібы намерваецца сарвацца. Вось якія свавольныя дзяўчаткі бываюць! Выпіў бы бярозавага соку, і прайшла б гэтая нудота. Дзядуля, будзь ласкавы, прасвідруй бярэзіну. Навошта долатам, трасца тваёй матары? Долатам жа бярэзін не длубаюць, бярэзіны свідруюць. Дурань стары. «Дзеду-дзед, дай нам гароху,— дзеда не чуваць, дзеду-дзед, бяры дзяўчоху,— дзед пачаў ска-

каць». Твая піпка пыхкае, як матацыкл. Пан Кантроль праляцеў! Пане Кантроль, я хачу малака. Смачнага салодкага малачка. Вось дык чалавек — нават цэлы бітон! П'еш-п'еш, ужо і дно відаць, а ніяк не можаш напіцца. Паветра налілі, ці што? Адна пена! Да д'ябла пену, не трэба яна мне, сам галі бараду. Нашы продкі барадатыя хадзілі... Шмат барадаў у лесе, а Гітлер з вусамі, з кароткімі вусікамі, і жыве ў жалезным горадзе. На вуліцах ліхтары, карэты, гарацць вогнішчы, на кожным ліхтары вісіць па чалавеку. Сярэднявечча, інквізіцыя, нічога не зробіш. Хрыста прыбілі да крыжа, вусны звільгатнелі губкай. Ці засталося яшчэ трохі вады ў той губцы?

Абудзіўся, зрошаны потам. Язык шорсткі, не свой, у роце суха, пячэ, нібы хто насыпаў гарачага жвіру. Піць! Стараўся пра гэта не думаць, але вакол цурчалі ручаі, звінелі вёдры, булькала вада. Чорт вазьмі, з вялікай ахвотай ён паўтарыў бы цяпер начное купанне ў Струмлі, каб толькі ўволю напіцца! Было б яшчэ мокрае адзенне — выціснуў бы якую кроплю... Што ж, так створаны свет, што кій мае два канцы. Ратуешся ад холаду — набываеш смагу і наадварот. Убі сабе ў галаву, асёл ты гэтакі, старую дзедаўскую ісціну і не наракай. Ён моцна ўзяў сябе ў рукі, стараючыся накіраваць думкі па іншым рэчышчы («Разваж, братка, як ты выкараскаешся з гэтай пасткі, калі яна яшчэ не зачынілася наглуха»), але ў галаве ўсё блыталася, трэскалася, бы скура на перасохлых губах, і нічога самавітага ён не мог склеіць. Нібыта зноў задрамаў. Плёхкалася гэтая праклятая вада, рыкалі на выгане каровы, а ён стаяў тварам да вясёлкі і, задраўшы галаву, лавіў ротам шчодрыя струмені дажджу. Аднак абудзіўся, і ў роце было яшчэ сушэй. У дадатак панабівалася ў яго сеннай пацярухі, і ён доўга адплёўваўся, ледзьве не плачучы ад прыкрасці. Потым убачыў, як ён ляжыць на вытаптаным снежным полі сярод трупаў. Жанчына з доўгімі чорнымі косамі ляцела над ім, як анёл, аднак ён ведаў, што гэта падман зроку — звычайны птах-падлаед, што чакае яго смерці; хацеў яго прыстрэліць, але не дзейнічаў наган. — — — — — Здрада! Да аперацыі добра падрыхтаваліся. Тэлефонныя правады абрэзаны. Чорны Кукса своечасова падаў сігнал. Смерць здраднікам! — — — — — Убачыў бацькоў каля пакрыўленага стала, разам з імі сёрбаў кіслы халодны боршч, а мухі поўзалі па сценах, абклееных газетамі, садзіліся на твар, на рукі і балюча кусаліся. На дождж, казалі старыя, трэ-

ба сена звозіць. — — — — — Хто ведае, колькі часу я валяюся ў гэтай дзіры? Напэўна-такі доўга, калі трэці раз мачуся, хоць чорт ведае, калі апошні раз піў.

Прабліскі свядомасці перапляталіся з трызненнем і зноўку гаслі, але хвілінамі ён адчуваў рэчаіснасць так балесна выразна, нібы датыкаўся да высечанага з каменя манумента. Неяк, вынырнуўшы з імглы трызнення, ён здрыгануўся ад нечаканай думкі. Хацеў задушыць яе, як вугельчык, што ўпаў на адзенне, але неўзабаве яна зноў выскачыла з рук і яшчэ раз апякла яго. Пагрозліва запахла паленым. Нічога дзіўнага, калі ён тут і апруцянее. Аднаго дня гаспадар, скубучы сена скаціне, намацае ягоныя ногі. Усё-ткі здох, паразіт! З гэтым сваім пісталетам і трыццаццю патронамі...

Яго ахапіў жах. Не, смерці ён не баяўся — проста не мог прымірыцца з такім недарэчным канцом. Лепш бы ўжо там, у Струмлі каля мастка, дачакацца немцаў і да апошняга... Пасля гэтулькіх пакут здохнуць, залезшы ў сена, нібы якому нядошламу зверу? Не, не, ён яшчэ мае дастаткова сілы, каб паказаць, як паміраюць людзі, якія ведаюць, за што паміраюць!

Яшчэ як след не разумеючы, што будзе далей, ён пачаў вылазіць са сваёй схованкі. Боль быў недзе побач, не ў самім целе,— нібы снарад, які кожную хвіліну мог разарвацца, ён рухаўся ўслед за ім і прымушаў спяшацца. Нейкую хвіліну, захраснуўшы ў шчыліне паміж сцяною і сенам, ён нерухома ляжаў, разважаючы, куды караскацца далей. Наверх? Не, няма ніякага сэнсу: гэтак ён не выкараскаецца. Уздоўж сцяны, толькі ўздоўж сцяны, туды, дзе прыстаўлена драбіна.

Зашпіліў кажушок, аперазаўся паскам з пісталетам. Патроны былі на месцы, аднак ён адчуваў, што ўсё-ткі чагосьці не хапае. Згадаў, калі прасунуўся ўздоўж сцяны на сажань: шапкі! Ну не ўжо, каб дзеля такога глупства — і назад?! Тым болей цяпер не той час, калі гаварылі: закідаем ворага шапкамі. Ён ціха засмяяўся. Яго ўжо не трэслі дрыжыкі і не паліў жар, ён быў зусім здаровы. Ён нават здзівіўся, чаму ён да гэтага часу тырчаў у гэтай дзіры. І зноў засмяяўся. На гэты раз проста ад лішку сілы... Трохі сапсаваўся гумор, калі заўважыў, што на адной назе няма бота, аднак снарад, што каціўся па пятах, штурхаў яго наперад! Бот! Падумаеш, вялікая страта! Не на танцы ж! «Скачы, хлопча, скачы, босы, не дрыгва тут і не росы...» Рознакаляровы віхор — карагод танцораў —

уцягнуў яго ў сябе, нібы вір, і ён, з шалёнай хуткасцю круцячыся вакол нябачнай восі, праваліўся ў цемру.

Калі апрытомнеў, пачуў перш за ўсё нейкі скрып, нейкі скрыгат. Там, адкуль даносіліся гэтыя гукі, размаўлялі мужчына і жанчына. «Табе нічога не трэба ў клуні? — пытаўся ён.— Я зачыню дзверы».— «Добра, зачыні,— адказвала яна,— толькі свіран не зачыняй, яшчэ пайду па муку свінням». Потым галасы замоўклі. Засталіся толькі стукаты дзвярэй, румзанне дзіцяці, бразганне ланцуга, які цягаў вакол будкі сабака,— ланцуг, мабыць, чапляўся за перакуленае вядро.

Яму штосьці нагадвалі гэтыя галасы — мужчынскі і жаночы,— аднак ён не мог як след разабрацца. Разгублена глядзеў у шэрую цемру, на шчыліны ў дзвярах клуні, праз якія сачылася бляклае святло — можа, раніца, а можа, вечар, толькі не дзень. Унізе, на чалавечы рост ад зямлі, цямнела нейкая бясформная маса — ён хутчэй заўважыў яе чуццём, чым зрокам. Толькі тады, калі ўгледзеўся лепш, зразумеў, што гэта абсунулася на дол сена, а сам ён ляжыць, высунуўшыся з тарпы па грудзі і звесіўшы ўніз рукі. Які чорт выштурхнуў яго сюды? Як ён тут апынуўся? Апрача нейкіх абрыўкаў, нічога не мог успомніць. Краем свядомасці зачапіў абломак вясла, на які ссунулася сена, прыгадаў бот, пакінуты ў нары. Што ж, і вясло, і бот ужо адслужылі сваю службу. Падумаў, што трэба было б закапацца глыбей — яго зноў пачало трэсці,— але калі паспрабаваў пасунуцца назад, нічога з гэтага не выйшла: нібыта нехта трымаў яго за звешаныя рукі і цягнуў на сябе. І няхай, мільганула абыякавая думка. Зараз ён зноўку засне і перастане адчуваць гэты холад. І сапраўды, шэрая плёнка забыцця зноўку ахінула яго. Але часам яна рвалася, і тады яму здавалася, што яму толькі мірсціцца, што ён спіць. Іначай як бы ён мог убачыць ліхтар, што слізгае па клуні, як мог пачуць перад гэтым рыпенне дзвярэй, а яшчэ раней — жаночы голас, што звяртаўся ласкава да сабакі? Той самы голас, які казаў пра муку і свіран. Толькі адна жанчына ў свеце мае гэткі голас і ўмее гэтак хадзіць з ліхтаром, аднак ён з гэтага зусім не здзівіўся. Яна — гэта я н а, і што тут незвычайнага? Ён глядзеў, як яна стаіць перад ім, і яму было непрыемна, што твар у яе жаўтлявы, як крыху падсмажанае мяса, а замест губ — нейкая варухлівая шчыліна, а вочы лупатыя, занадта лупатыя і нібы аброслыя тлустай лускою. Ліхтар — жоўтая рэпа — гайдаўся ў руцэ,

нібы хацеў разгайдацца, каб з усёй сілы ўдарыць яму ў галаву. Выцягнуў руку, намерваючыся засланіцца ад удару, і разам з гэтым роспачным рухам з грудзей вырваўся хрып:

— Аквіля...

## V

Бульбяная поліўка падгарэла, але Кяршыс усё адно быў у гуморы: пастка гатова — эх і задасць ён пытлю тхарам.

Потым Аквіля сама дзівілася, адкуль у яе бралася сіла: разам з усімі сёрбаць страву, кожная лыжка якой нагадвала смакам рыцыну, і, што самае дзіўнае, ківаць галавой мужу, падтакваючы яго развагам. У той вечар яна ўсё рабіла амаль несвядома, кіруючыся адчуваннем: падзеі, што абрынуліся на яе як гром з яснага неба былі такія неверагодныя, блытаныя і незразумелыя, што папросту ў першыя хвіліны і не змяшчаліся ў галаве. Устала з-за стала, не высербаўшы сваёй міскі, і калі Кяршыс, нарэшце заўважыўшы перамену на яе твары, затурбаваўся і пачаў лезці з роспытамі, яна як мага спакайней адказала, што застудзілася на могілках і што хоча спаць. Не ўсведамляючы таго, што яна робіць, даверыўшыся адчуванню, якое вяло яе наперад, нібы посах — сляпога, яна паспешліва паслала ў святліцы ложак, што прызначаўся гасцям, і легла. Неўзабаве ўвайшоў Кяршыс. Ён ужо выкурыў цыгарку, пакорпаўся ў зубах, аднак не паспеў яшчэ адгаварыць вячэрняй малітвы: маліўся ён заўсёды ў адным споднім. Кяршыс быў збянтэжаны — за няпоўныя два гады іх супольнага жыцця яшчэ не было начы, каб яны спалі паасобку.

Аквіля растлумачыла, што ў спальні ёй душна, нудзіць ад тытунёвага дыму, а тут свежае паветра, да раніцы яна напэўна паздаравее. Тады Кяршыс замітусіўся: можа, заварыць якіх зёлак — ад гарачкі альбо ад млосці; нябожчыца маці добра-такі ў іх разбіралася: на гарышчы поўны мяшок зёлак ад усялякіх хвароб; ён таксама сёе-тое петрыць у гэтых рэчах.

— Нічога, Хвэлька, не турбуйся. Пройдзе. Ідзі спаць. Калі стане горш — паклічу,— паабяцала Аквіля.

І ён, расчулены жончынай ласкавасцю, ад якой даўно адвык, шчаслівы, падаўся спаць.

Яна ведала — праз чвэрць гадзіны Кяршыс будзе храп-

ці як заведзены. На ўсякі выпадак пачакала даўжэй, а можа, ёй толькі здалося, бо час цягнуўся, як здохлая клячa. Яна ўсё яшчэ не рашыла, што трэба рабіць, аднак разумела, што рабіць нешта трэба — у любую хвіліну магло здарыцца няшчасце. Усё расказаць Кяршысу? Пасля таго што ён сказаў пра партызанаў, калі ішлі з могілкаў?! Не, толькі не яму! Яна ўжо вучаная, і яшчэ як, ведае, што ў такіх справах нельга даверыцца нават роднаму брату. Бацька? Пэўна, ён бы не вагаючыся падаў руку. Але што яна скажа маці, калі ўварвецца туды апоўначы? Нават калі б гэта быў ясны дзень, усё роўна трэба было б знайсці прычыну, навошта ёй спатрэбіўся бацька, а не паразумеўшыся з Кяршысам, ні ў якім разе гэта нельга рабіць — хлусня ўсплыве наверх.

Яна ўзрадавалася, што зноўку здольная развaжаць. Галоўнае — не траціць галавы. Яна зразумела гэта ў той самы момант, калі пачула сваё імя і ўбачыла чалавека, што засеў паміж сцяной і тарпой сена. І цяпер яна яшчэ бачыла сябе, як яна мітусіцца па клуні, кідаецца ў хату і назад, бяжыць са свірна з пярынаю ў абдымках, але мозг, ачомаўшыся ад нервовага шоку, ужо дзейнічаў, выстройваючы раскіданыя думкі ў адзін ланцужок. Не, бацька тут не пасуе, патрэбен чалавек, які б не толькі не падвёў, а змог бы выходзіць з дому, ні ў кога не выклікаючы падазрэння. Чорны Кукса! Гэтая думка не магла ўзнікнуць неспадзявана — сёння ж на могілках яна якраз думала пра яго,— але ад хвалявання Аквіля нават села ў ложку. Сапраўды, трэба неадкладна бегчы да Чорнага Куксы.

Яна ціхенька апранулася ў цемры і па-кашэчы прагралася ў сенцы. Тут яна спынілася на хвілінку, каб пераканацца, ці ўсе спяць, і, падахвочаная Кяршысавым храпам, які быў чуваць нават праз зачыненыя дзверы з хаты, асцярожна адсунула засаўку. Церушыўся сняжок. Не моцны, але халодны вецер дзьмуў з боку вёскі, і ўсе гукі, што даносіліся адтуль (сабачае цяўканне, крыкі — хутчэй за ўсё нямецкія), былі чуваць так выразна, нібыта ўсё гэта адбывалася побач, на загуменні. Яна ў нерашучасці спынілася. Вароты былі адчыненыя, нібы запрашалі яе ступіць далей, у шэрую цемру, аднак Аквіля не магла адарваць ног ад зямлі. У такі час — у вёску, калі немцы самым суровым чынам забаранілі з'яўляцца на вуліцы пасля васьмі?!. А што будзе, калі нарвецца на патруль? Ад гэтакай магчымасці дрыжыкі пайшлі па целе. Дагэ-

туль яна жыла думкай, як лепш схаваць Маруса, а цяпер раптам зразумела, якую страшэнную адказнасць узвальвае на свае плечы, рашыўшыся на гэта. За сябе яна баялася менш за ўсё: ведала, за што плаціць такую высокую цану, аднак ведала таксама, што не мае права плаціць чужымі жыццямі. Нават у тым выпадку, калі там, у сене, заўтра знойдзе закачанелы труп. Як бы там ні было, трэба пагадзіцца з голасам розуму: удзень, толькі ўдзень у гэтыя вароты можа ўвайсці выратаванне.

Яна рашуча павярнулася і пайшла па двары. Трэба было вярнуцца ў хату, яна разумела, што робіць нядобра, аднак не магла запярэчыць той сляпой сіле, якая вяла яе ў клуню.

Марус ляжаў уверчаны ў пярыну на тым самым месцы, дзе яна пакінула яго. Яна падумала, што трэба зацягнуць яго глыбей у сена, аднак не так проста было гэта зрабіць: давялося пашыраць прастору каля сцяны, каб можна было свабодна рухацца, а потым пралезці назад, не закранаючы хворага.

Яна вярнулася ў хату з палёгкай на сэрцы: тое, чаго яна найбольш баялася, не пацвердзілася — ён не быў паранены. У гэтым яна ўпэўнілася, абмацаўшы ўсё яго цела пры святле кішанёвага ліхтарыка. Але калі падумала, што ён праляжаў тут не менш чым двое сутак, ды яшчэ мокры — відаць гэта па кажушку,— Аквіля спалохалася.

За сваё маладое жыццё яна не спала шмат начэй, але ні адна не цягнулася гэтак пакутліва доўга, як гэта. І калі Кяршыс пачаў пакрэктваць і кашляць — прыкметы таго, што пара ўставаць,— гэта не раззлавала яе, як звычайна, а прагучала ў вушах чароўнай музыкай. Не чакаючы, пакуль ён зойдзе, яна накінула на начную сарочку стары бурнос і, сунуўшы ногі ў драўляныя чаравікі, патупала падпальваць у пліце. Сёння ўсё павінна быць як звычайна.

Кяршыс, звесіўшы ногі з ложка, курыў цыгарку. Пакурыць, тады і святло запаліць. Курыць альбо абувацца можна і ўпоцемках, гэта не кнігу чытаць.

— А-эх, ужо здаровая? — здзівіўся ён, убачыўшы Аквілю.— Акрыяла за ноч, ага.

— Няма калі вылежвацца, Хвэлька,— работы па горла,— адказала яна, намацваючы на прыпечку запалкі.

— Ну, ну, вядомая справа. Але калі чалавек не можа... Дык як з тваёй немаччу? Ужо не пудзіць пад грудзямі?

— Нібы трохі лепш. Ат, хіба ўсочыш, дзе там у бабы нудзіць.

— Праўду кажаш... Я толькі падумаў, што гэтая нудота...— Кяршыс закашляўся і панурыў галаву, нібы хаваючы вочы ад святла, якое заліло кухню, калі Аквіля чыркнула запалкай.— Думка адна такая ўзварушыла мне ўсё ў галаве, толькі ты не смейся. Гэтае наша няшчаснае дзіця, якое мы Хвеліксюкасам назвалі... Дык вось, перад ім у цябе таксама пад грудзямі нудзіла...

Аквілі хацелася плюнуць, але не час быў пляваццa. Таму яна толькі ўсміхнулася, даючы зразумець, што ўсякае можа быць. А Кяршыс, усхваляваны кволай надзеяй, лашчыў паглядам жончыну постаць і мармытаў, сціскаючы галаву закарузлымі рукамі:

— А-эх, вось было б шчасце! Калі б мне Хвеліксюкаса, гаспадара... Вось бы тады...

— У цябе толькі гэта наўме,— прыкінулася, што злуецца, Аквіля.— Ці будзе, ці не будзе... Лепей бы ты заняўся лазняй. Вунь колькі дошак пад сцяной валяецца, а падлога гнілая, можна паслізнуцца і карак скруціць. Калі ты руплівы гаспадар, усюды навядзі парадак. Думаеш, лазня трэба раз на два тыдні, дык няхай у ёй д'яблы скачуць? Конча трэба замяніць хоць бы дзве маснічыны. Я не хачу паламаць ногі, а то мінулы раз, калі мылася, ледзь гэта не здарылася.

— Мінулы раз? — здзівіўся Кяршыс.

— А калі ж! Саўганула нагу ў шчыліну і расцягнулася на падлозе,— хлусіла далей Аквіля.

— А-эх, і праўда трэба замяніць тыя дзве маснічыны. Табе нельга падаць...— занепакоіўся Кяршыс.

— Можна ці нельга, але вось згатую сняданак і схаджу да Чорнага Куксы — няхай неадкладна зоймецца. Бачу, калі сама не настою, дык нічога з гэтага не будзе.

— Падлогу я і сам магу — пасля сняданку займуся. А Чорны Кукса спатрэбіцца вясной, калі пачнуцца палявыя работы.

— Хочаш застацца ў выйгрышы, але, як я пагляджу, не ўсё твая галава абмазгавала. Ён, бачыце, будзе маснічыны ўстаўляць, а солад будзе стаяць нязмолаты! Хіба забыўся пра той цэнтнер, які адсыпала з саладоўні? Мог бы наварыць піва, завезці бабам у горад. Мог бы пакласці пачак марак у кішэню. Не так даўно і сам казаў, што рукі свярбяць па заробку.

Кяршыс з усё большым здзіўленнем сачыў за Аквіляй,

якая завіхалася каля пліты. Ажно дзіва бярэ, як ажыла жанчына! Калі ёсць дзе кніга дзівосаў, дык гэтую пераменy трэба было б упісаць у яе. Зрэшты, чаго тут дзівавацца: кожны ў свой час набіраецца розуму. Нудзіць пад грудзямі, бо Хвеліксюкас... Калі квактуха сядзіць на яйцах, таксама пнецца, каб больш захапіць. А-эх, вось гэта справа, ага, дзякаваць богу, якраз...

— Праўду кажаш, жоначка. Бочкі тры піва выйшла б. Палавіну, калі не больш, вярнулі б за свінню, што немцы зжэрлі. Я ўжо прыкінуў: калі б дакупіць некалькі цэнтнераў ячменю ды прарасціць. Займелі б кучу марак. А за маркі зноў...

— Ты думай лепш не пра тыя цэнтнеры, што ў чужых засеках, а пра тыя, што дома,— «насварылася» на мужа Аквіля.— Хто ведае, можа, ужо заўтра заявіцца ў Джугасаву сядзібу новы гаспадар і вытурыць старога з двара? Дзе тады возьмеш жорны? Павязеш гэты мех у вёску да маіх старых, каб малоць пад носам у немцаў? А можа, спадзяешся дамовіцца з млынаром, каб ён палічыў твой ячмень за кармавы? Што не, тое не! Сальмініс з перапуду хутчэй утопіцца ў сваім стаўку, чым змеле табе солад. Вязі да Джугаса. І не марудзь, пакуль яшчэ жорны ў яго ўладзе.

— Ты гэтак лічыш?..— Кяршыс вагаўся.— Пакуль круцяцца немцы побач, нібы і ахвоты няма. З вёскі не выпускаюць, і ўсё тут. Чалавек што хочаш можа думаць. Але калі паглядзець з другога канца, дык нічога кепскага пакуль што не здарылася, калі не лічыць свінні. Дзякуй, госпадзі, правёў хмару міма. А ці вернецца яна, гэта табе аднаму, цару нябеснаму, вядома. Усё ў тваёй волі, ага. Вось жа ты, чалавек, мяркуеш, плануеш, як і што, а тут лясь —і адкінуў капыты, як нябожчык Кучкайліс. Ніхто не ведае, колькі табе засталося жыць — імгненне ці дзесяць гадоў. Дык што атрымліваецца — ляж, накрыйся з галавой і чакай, калі кашчавая аб'явіцца? Не-е. Хто чакаў, той усё жыццё з голым азадкам прахадзіў. Праўду кажаш наконт соладу. Не будуць жа немцы вечна сядзець у вёсцы, не дазваляць нікуды і носа вытыркнуць? Нажаруцца нашага сала, падражняцца з дзеўкамі і пакінуць у спакоі. А-эх, што і казаць, жорны пад нагамі не валяюцца — з'езджу ўсё-такі пасля сняданку да Джугаса.

Аквіля падпаліла ў пліце і кінулася даіць кароў. Потым, пакуль варылася страва, пакарміла свіней, сыпанула зерня курам. Толькі-толькі заняўся дзень, а яна ўжо ўпра-

вілася, дый сняданак быў гатовы. Збегала б паглядзець і на Маруса — сэрца грызла трывога,— але ў клуні корпаўся Кяршыс: пакуль, трасучыся над кожным жмутком, наскуб сена скаціне, нашкроб саломы на падсціл ды потым сабраў усе травінкі з двара, дзе праходзіў з рэзгінамі, мінула больш часу, чым гэта трэба было для справы. Калі Аквіля, уся разгарачаная, прыбегла ад Чорнага Куксы, Кяршыс, упрогшыся ў аглоблі, яшчэ толькі цягнуў да свірна парожні воз. Пакуль яны паснедаюць, і конь паесць. Тады солад на калёсы — і да Джугаса.

— Адна ўсюды лётаеш, а Юліта дрыхне да сняданку,— не ўтрываўшы, паўшчуваў жонку за тое, што не ўзняла з ложка дурнічку.

— Не бойся, хопіць і ёй работы, калі ўстане Лаўрукас.

Яны канчалі снедаць, калі прыйшоў Чорны Кукса. Кяршыс завёў яго ў клуню і паказаў, якія дошкі можна ўзяць, а сам паехаў малоць солад.

Аквіля замкнула дзверы ў хаце, наказаўшы Юліце вачэй не спускаць з Лаўрукаса, і яны з Чорным Куксам узяліся за работу. Перш за ўсё выцягнулі з-пад сцяны Маруса, знайшоўшы яму часовае прыстанішча ў закутку каля канюшыны: з двух бакоў — канюшына, з трэцяга — загарадка апусцелага свінога катуха, з чацвёртага — шафа з гаспадарчым начыннем (вухналямі, падковамі, дротам, дзёгцем...). Марус кідаўся, трызніў. Чорны Кукса стаў побач з ім на калені і спрабаваў пагаварыць («Гэта я тут, Путрымас, Пятрас, не пазнаеш мяне, мой хлопчык?»), аднак па мутным Марусавым паглядзе было відаць, што ён нікога і нічога не пазнае.

Аквіля расказала, як, на яе думку, трэба схаваць Маруса. Чорны Кукса згадзіўся, але параіў зрабіць схованшча не там, на сене, дзе Марус ляжаў дагэтуль, а над хлявом.

— Над хлявом яму будзе лепш — там хоць трохі цяпла прасочваецца праз жэрдкі. А наконт паху не бойся — нашы бацькі гной клалі на раны.

Хлеў, адзін канец якога лучыўся з клуняю так, што абодва будынкі, стоячы пад адною страхою, утваралі літару «Г», да самага вільчака быў закладзены яравою саломаю. Кяршыс не будзе чапаць яе, пакуль не скорміць сцірту за клуняй; толькі пасля Новага года пачне сцягваць салому з хлява і карміць ёю скаціну, падмешваючы сена і канюшыны. Але дзеля асцярожнасці яны зробяць схованшча далей ад краю прыкладна над сярэдзінай хлява.

Аквіля дапамагла прыцягнуць старыя дзверы ад клуні, якія стаялі, прыслоненыя да сцяны хлява, а сама кінулася ў хату рыхтаваць хвораму лекі. Пакуль Кукса разбраў дзверы і па дошцы перанёс на хлеў, яна распранула Маруса, нацерла гарачае цела камфарным спіртам, раскрыўшы рот, уліла некалькі лыжак настою з зёлак. Нарэшце, зрабіўшы ўсё, што ёй здавалася самым важным, яна абвязала распухлую нагу старым ручніком, перад гэтым разрэзаўшы яго, сшыўшы накшталт доўгай стужкі і намачыўшы ў борнай кіслаце. А Кукса тым часам паспеў зладзіць Марусу жытло акурат гэтак, як і казала Аквіля: з аднаго боку — страха хлява, з другога — косая сценка з дошак, што ўпіраюцца верхнімі канцамі ў крокву. Каб трапіць у гэты трохкутны дамок, уціснуты ў саломе, трэба было пару сажняў паўзці каля самай страхі, а вылезшы, зноў заваліць саломаю лаз. Яны выбіліся з сілы, пакуль зацягнулі Маруса на хлеў і ўладкавалі ў гэтым дзіўным памяшканні.

— Ну, ведаеш, табе трэба рукі цалаваць, мая ластаўка,— сказаў Чорны Кукса, калі яны, потныя, мурзатыя, злезлі з хлява.— Кеміш. Я добра мусіў бы паламаць галаву, каб усё так прыдумаць, каб цябе качкі стапталі.

— Усю ноч думала, Пятрас. Дый не першы раз сутыкаюся з гэткаю справай.

Чорны Кукса, не разумеючы, што яна хацела сказаць, паглядзеў на Аквілю.

— Мы з бацькам рускага салдата хавалі. Лётчыка. І цяпер я адразу намервалася бегчы да бацькі.

— Рускага салдата?! — Кукса нават ахнуў ад нечаканасці.— Вось дык нумар, каб вас качкі!.. Рускі салдат у Вайнарасаў...

— Знайшла ў лесе. Прывезлі. Але, відаць, яму наканавана было загінуць...— Аквіля задрыжала і схапіла Чорнага Куксу за абедзве рукі.— Пятрас, Пятрукас, вы ж бачылі... Скажыце, як Марус? Я баюся — раптам запаленне лёгкіх...

— Галоўнае, што не паранены. Выратуем. А нага... З той пухлінаю нічога страшнага. Мабыць, косць павярэдзіў,— супакоіў яе Чорны Кукса.— Дык, ты кажаш, рускага лётчыка? Савецкага... А я думаў, што ты... Вось як чалавек можа часам прамахнуцца! Ага, значыць, так яно. Не пара табе Хвеліксас Кяршыс, зусім не пара...— Чорны Кукса спагадліва ўсміхнуўся, пагладзіў Аквілю па плячы, і яна, нечакана расплакаўшыся, прыпала да яго грудзей.

— Не плач, усё будзе добра,— мармытаў ён, нязграбна адной рукою паляпваючы ёй па плячах, што ўздрыгвалі, а другою, двухпальцай, выціраючы сабе слёзы.— Узрушыла ты і мяне, мая ластаўка, але не сорамна: калі чалавека лічыш за нішто, а потым бачыш, што гэта сапраўдны чалавек, і сам, здаецца, нанава нараджаешся. Такое свята не кожны дзень бывае.

— Я ніколі, Пятрас, пра вас кепска не думала. Паверце мне, ніколі! — усхліпвала Аквіля.— Маці... Кяршыс... Так усё склалася...

— І я пра цябе не буду больш думаць благога, Аквіля. Ну, калі ласка, не плач. Слёзы пакінем на той час, калі не мецьмем іншага клопату. А цяпер нам трэба цвёрдасць і розум, каб іх качкі стапталі! Ведай: калі паляціць галава, дык не толькі з Марусавай шыі. Зразумей, якую гару ўзваліла сабе на плечы. Не хачу думаць пра Кяршыса горш, чым ёсць,— ён чалавека не ўтапіў,— але па сённяшнім часе нікому нельга сэрца адкрыць. Будзь асцярожная. Калі адзін ведае таямніцу — гэта яшчэ таямніца, калі двое — палова таямніцы, а калі больш — няма ніякай таямніцы. Знайду якую зачэпку — забягу паглядзець. І ты дай вестку, калі што не так. Але памятай, што дужа часта сустракацца нам небяспечна: фашысцкія паслугачы даўно на мяне касавурацца.

Супакоіўшы і падбадзёрыўшы Аквілю, Чорны Кукса крыху абстругаў дошкі, якія паказаў яму Кяршыс, і, пакінуўшы іх пад паветкай каля варштата, пайшоў дамоў.

Аквіля, злавіўшы ў двары тлусцейшую курыцу, тут жа адсекла ёй галаву. Пакуль дурнічка абскубала, яна паставіла ваду, яшчэ раз збегала з настоем зёлак да Маруса, а потым абедзве яны ўзяліся карміць скаціну, бо, пакуль Кяршыс змеле цэнтнер соладу, настане вечар. Управіўшыся, перакусілі на скорую руку, а калі курыца зварылася, Аквіля дала па кавалачку Юліце і Лаўрукасу, астатняе схавала ў каморы. Тамсама паставіла і збанок з курыным булёнам. І зноў сарвалася зірнуць на хворага, якому станавілася ўсё горш. Марус ляжаў упоперак ложка, скінуўшы з сябе пярыну. Ён штосьці лапатаў, разпораз ускрыкваў, ды так гучна, што ў яе замірала ад страху сэрца. Злезла, пастаяла ў клуні, прыслухалася, потым схадзіла ў хлеў і паслухала яшчэ каля сцяны, знадворку — крыку нібыта не было чуваць. Усё-такі, расплакаўшыся і абцалаваўшы яго, завязала яму рот хусцінкай, а каб не змог скінуць пярыны, захутала яго і

абкруціла лейцамі, якія Кяршыс звіў мінулай зімой для веснавога ворыва.

Вяртаючыся ў хату, набрала з кучы абярэмак ламачча і, убачыўшы, што Юліта ўжо натаўкла бульбы, заліла кіпнем мякіну і замяшала ў сенцах корм свінням, бо колькі таго дня ў канцы лістапада — неўзабаве трэба будзе гатаваць на вечар.

У час гэтага клопату і прыехаў Кяршыс. Галодны, стомлены, пахмуры. Угледзеўшы перад сабою міску з чвэрткаю курыцы, праглынуў сліну, але тут жа скрывіўся:

— Яйцы цяпер на вагу золата...

— Зарэзала. Не нясецца,— вінавата прамармытала Аквіля.— Але паспрабавала есці — не лезе ў горла.

— А-эх, і праўда...— Кяршыс адразу прасвятлеў.— Табе трэба ж есці. Не звяртай увагі, рэж, рэж — я так сабе сказаў. Новых развядзём. А-эх, каб з-за гэтых курэй... А мне не трэба, магу і сала. Хіба гэта мужчынская яда.

— Хопіць і мне, не бойся. Пакінула. Не ведаю толькі, ці з'ем,— нешта ў жываце круціць.

— А-эх, вось дык бяда,— занепакоіўся Кяршыс.— Учора нудзіла, сёння круціць. Можа б, зёлак якіх заварыла?

— Піла ўжо. Пройдзе, нічога. Бывае.

— Мусіць прайсці. Праўда, а як Чорны Кукса? Услаў падлогу?

— Пачаў, але не скончыў. Хлопчык прыбег і паклікаў. Нечага ён дома спатрэбіўся.

— А як жа інакш,— насупіўся Кяршыс.— Ён жа вядомы майстра пачынаць і не канчаць. Пакорпаўся гадзіну, а палічыць за паўдня. Можа, і абед ты яму давала?

— Не давала, не давала. Магу прынесці курыцу і паказаць. Уся. Без гэтага кавалка. Яшчэ Юліта з Лаўрукасам па крылцу атрымалі,— адказала Аквіля, ледзьве стрымліваючы злосць.

Кяршыс засаромеўся.

— А-эх, хіба я што кажу... Але калі чалавек бярэцца за работу, мусіць і скончыць яе. Распачаў баразну, дык і вядзі яе да канца. А калі не можаш — не пачынай. Такое маё правіла... Ага,— памаўчаўшы, апавядаў ён далей, абсмоктваючы курыныя костачкі і час ад часу выціраючы рукі аб штаны.— Справы ў Джугаса неважнецкія. Хацеў немца перахітрыць з гэтымі пастаўкамі, а бачыш, як яно выйшла. Вытураць з гаспадаркі — і ідзі сабак дражніць. А то і горш будзе яшчэ. Думаў, калі мае крыж Пагоні, дык

можа маршыраваць куды захоча, усе кінуцца перад ім на калені, як перад ксяндзом са святымі дарамі. А немцу наплюваць на такія крыжы, ён мае свой — жалезны. А-эх, няма чаго абгаворваць чужую бяду, і ты, чалавеча, можаш трапіць ёй у абдымкі, але хто сам бяду напытвае — не грэх і пагаманіць, каб гэтым і сябе і другіх перасцерагчы. Ходзіць чалавек, як зямлю прадаўшы. Гедымінаса трэці дзень дома няма. Кажа, сам выправадзіў, каб немцы за пастаўкі не забралі. Але хто там ведае, як яно на самой справе. Можа, сядзіць ужо дзе ў астрозе. Адзін-адненькі стары застаўся, як пустэльнік у пустцы. А гаспадарку ж трэба дагледзець? І скаціну пакарміць, і самому паесці. Хоць вазьмі і крычы, як у той песні: «Сам звару і сам насмажу, сам памыю лыжкі». Сурова жыццё з ім абышлося. Была сям'я, у хаце паўнютка людзей. І на́ табе — ні дзяцей, ні жонкі, і маці памерла. Сядзіць адзін за сталом, як у лесе. Аж плакаць хочацца, гледзячы на ўсё гэта.

— Добры чалавек ён,— сказала Аквіля.— Мне быў ён як родны бацька. Знайду часіну — збегаю праведаць: можа, дапамагу чым-небудзь.

— Ага, трэба,— згадзіўся Кяршыс. І, памаўчаўшы, дадаў: — Добры, кажаш? Часта бывае, што з добрага скуру лупяць.

Калі вечарам ухадзіліся з работай і Кяршыс, як звычайна апошні, прывалокся ў хату, Аквіля зноў збегала ў клуню. Грабучыся ў шуфлядзе, на сваю вялікую радасць, яна знайшла некалькі ўцалелых таблетак, якія маглі прыдацца хвораму. Цяпер растварыла дзве штукі ў чабаровым адвары і, лыжкаю раскрыўшы рот хвораму, уліла лекі. Марус гарэў, як у агні, і пот ліўся з яго цурком. Праз слёзы, ледзь бачачы, што робіць (ліхтарык вісеў на сценцы), выцерла яму твар і ўсё цела ручніком і, завязаўшы яму сухой хусцінкаю рот, пабегла ў хату, каб не спахапіліся, што яе няма.

Паслала сабе зноў у святліцы. Кяршыс панура паглядзеў на яе, але нічога не сказаў. Толькі раніцаю, калі яна, як заўсёды, гатавала сняданак, а ён, абуваючыся, курыў першую цыгарку, згадаў, што чуў, як яна хадзіла ўначы; няма тут чаго саромецца — жывот дык жывот. Гадзіннік з жалезным нутром — і то здараецца, псуецца.

Аквіля пастаралася ўсміхнуцца, выглядаць бадзёрай і свежай, але не атрымлівалася: не спала другую ноч запар. Перад трэцімі пеўнямі, вярнуўшыся ад Маруса, нібыта

задрамала, але гэты сон, поўны жахлівых відовішчаў, быў сапраўднай пакутай. То яна бегла да Чорнага Куксы, а яго не было дома, то знаходзіла яго, а ён жудасна рагатаў, надзеўшы форму нямецкага салдата, то бачыла Маруса з завязаным ротам, абкручанага лейцамі, надобнага на вялізнага вусеня, у вырачаных вачах у якога застыў жахлівы спакой смерці. Кола трызнення круцілася і кружылася, паўтараючы адны тыя самыя відовішчы, якія адрозніваліся паміж сабой нязначнымі дэталямі, і калі яна абудзілася пасля адной з такіх карцін, падумала, што прайшла цэлая вечнасць, хоць мінула толькі некалькі хвілін.

Пасля сняданку прыйшоў Чорны Кукса, каб скончыць распачатую работу. Кяршыс корпаўся далёка, недзе на загуменні, і Кукса палез паглядзець Маруса. Марус яшчэ трызніў, тэмпература была гэтакая самая, што і ўначы, аднак вышэй ужо не падымалася. Калі і ўвечары не падскочыць, вырашыў Чорны Кукса, то скажам, што найбольшая бяда засталася ззаду.

У час вячэры Аквіля, смяротна стомленая, мусіла як след узяць сябе ў рукі, каб не выдаць сваёй радасці: слупок іртуці ў тэрмометры стаяў на месцы. Але Кяршыс бедаваў: па твары відаць, як яе вымучыў гэты жывот, і калі да заўтра не пройдзе, давядзецца клікаць доктара,— дзіва што, у ваенны час гэта не жарты, усякія хваробы ходзяць, раптам якая крываўка прычапілася?

Калі апоўначы яна залезла на вышкі, Марус спаў. Першы раз за гэтыя два дні яна ўбачыла, што ён спакойна дыхае, схіліўшы галаву набок і пратуліўшы спечаныя ад жары губы, з якіх спаўзла павязка. Яна рэдка малілася, але цяпер сама не адчула, як перахрысцілася і, упаўшы на калені побач з ягоным ложкам, зашаптала малітву.

Рэшту ночы праспала як забітая. Кяршыс з Юлітаю ўжо пакарміў скаціну, падаіў кароў, на пліце булькацеў сняданак, пахла тушанай капустай і саланінай. Божа, праспала як ніколі!

Кяршыс быў злосны, як муха перад дажджом: прапалі старыя дзверы ад клуні. Яшчэ два дні назад бачыў, стаялі каля хлява, а сёння раніцай паглядзеў — пуста. Д'ябал іх павалок, ці што? Гэтакую аграмадзіну не панясе адзін нават дужы мужык. Дзівосы, дый годзе. Мабыць, нячыстая сіла гэтыя штукі вычварае. А-эх, страта на страце. Яшчэ з гэтым соладам звязаўся. Мог бы і сёння з'ездзіць да Джугаса і прапусціць солад праз жорны. І падлогу пара-

мантаваў бы без помачы гэтага лядашчага Куксы. Таксама майстра знайшоўся! Два дні тупаў, а нарабіў... Каб кепска прыгнаў ці наогул што-небудзь не так, не скажаш, аднак жа трэсак і стружак не пашкадаваў. Мог бы спачатку акуратна адкалоць ад дошак тое, што лішняе,— атрымалася б колькі штыкецін, каб залатаць дзіры ў плоце,— а ён як пусціў у ход сякеру, як налёг на гэбель — калода і тая заплакала б з жалю, што гэтак марнуецца людское дабро.

Аквіля падтаквала Хвэльку, разам з ім здзіўлялася, куды маглі падзецца дзверы, але на сэрцы было вельмі трывожна. Яна ведала, якая ўпартая натура ў Кяршыса — будзе абнюхваць усе куткі, пакуль не знойдзе згубленай рэчы. Да таго ж ёй даўно пара да Маруса. Але цяпер гэта будзе не так проста, бо ліхтарык патух — села батарэйка; давядзецца запаліць ліхтарню і выдумаць нейкае апраўданне, калі спытае, нашто спатрэбілася ўдзень святло.

Толькі блізка паўдня, калі Кяршыс, можа, дзесяты раз аблазіўшы ўсе будынкі і закуткі і канчаткова пераканаўшыся, што дзвярэй на самой справе няма, падаўся ў свіран, каб навеяць жыта, Аквіля змагла шмыгануць на вышкі.

Яна павесіла ліхтарню на цвік, дзе вешала і электрычны ліхтарык, стала на калені побач з ложкам і, прыціснуўшыся спіною да латаў, некалькі імгненняў глядзела на Маруса. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачамі і ціха дыхаў, аднак яна была ўпэўнена, што ён не спіць. Паклала руку на лоб. Лоб быў гарачы, вільготны, але кроў у скронях пульсавала павальней.

— Табе лепш? — прашаптала яна, гладзячы шорсткую, зарослаю рудою шчэццю шчаку.

— Піць...— Цяжкія, набраклыя павекі прыўзняліся і зноў апалі, аднак яна паспела злавіць яго позірк, ад якога сэрцу стала цесна ў грудзях і да горла падступіў гарачы камяк.

Не выціраючы слёз, Аквіля выняла з кошыка бутэльку з настоем зёлак і, прытрымліваючы адной рукою галаву хворага, прыклала да губ. Піў ён доўга і прагна. Час-почас захлынаўся і тады матляў галавою, як цяля. Яна адымала бутэльку і балесным позіркам лашчыла маршчакі на лбе, валасы, вочы, прыкрытыя дрыгатлівымі павекамі. І было добра, што яе слёзы падаюць тут жа каля яго твару, усочваюцца ў белую пасцель, у лейцы, якія бе-

рагуць цяпло цела гэтага вялікага і бездапаможнага дзіцяці.

— Досыць.— Яна адняла бутэльку. Тады ён расплюшчыў вочы, і ў мутнай глыбіні гарачкавых вачэй яна ўбачыла мальбу.— Дам з другой бутэлькі. Курыны булён. Яшчэ цёплы. Табе трэба папраўляцца. Ужо пяты дзень як нічога ў роце не меў.

Пакарміўшы, схавала бутэлькі ў кошык: баялася, каб ён, калі застанецца адзін, не выпіў халоднага і не застудзіўся ізноў. Потым яна разматала лейцы з пярыны і, акуратна згарнуўшы іх, таксама паклала ў кошык.

— Ты кідаўся,— растлумачыла яна, хоць яго позірк ні пра што не пытаўся.— Я нават рот табе завязала. Што было рабіць? Сам разумееш.

Ён паварушыў галавой. Можа, пагаджаючыся, а можа, толькі ямчэй уладкоўваючыся.

— Хутка прыйду зноў,— паабяцала яна.— Прынясу чаго-небудзь лёгкага паесці. Я часта буду прыходзіць да цябе. Толькі не бойся, нічога не бойся.

Яна так расхвалявалася, што забыла нават задзьмуць ліхтарню. Адступала назад, трымаючы яе перад сабою, быццам гэтая кропля бляклага святла магла застацца там, разам з яе сэрцам, пакуль яна не вернецца.

Каля тарпы канюшыны, спіною да шафы з начыннем, стаяў Кяршыс. Відаць, па нешта сюды прыйшоў — па абцугі альбо малаток,— але раней, чым знайшоў тое, што шукаў, пачуў шолах саломы.

Некалькі імгненняў яны пазіралі адно на аднаго: ён — разявіўшы рот, з выцягнутым ад здзіўлення тварам, яна — напружыўшыся ў страшным чаканні, быццам гэтая ліхтарня і кошык з бутэлькамі раптам ператварыліся ў бомбы, якія мусяць зараз выбухнуць.

— Лазіла туды, каб пашукаць яец,— першай апамяталася яна.— Абшастаю, думаю, падстрэшша, можа, куры новыя гнёзды парабілі. Зірну-такі яшчэ з гэтага боку.— Трасучыся ад страху, каб не бразнулі бутэлькі ў кошыку, яна перабралася да другой страхі. Трэба было перачакаць, пакуль супакоіцца сэрца, і, апроч таго, схаваць бутэлькі. Засунула іх глыбей у салому. Хацела паўзці далей, разумеючы, што было б сапраўднае шчасце ўкласці ў кошык хоць бы адно яйцо, але ведала, што не знойдзе.

Калі, крыху счакаўшы, яна прылезла да драбіны, Кяршыс усё яшчэ стаяў каля шафы. Цяпер ён круціў у руках

нейкую жалязяку, уважліва яе разглядаючы. Пачуўшы, што Аквіля спускаецца, ступіў насустрач.

— Шмат яец знайшла? — прыглушаным голасам запытаўся ён і, не чакаючы, пакуль Аквіля адкажа: выбухнуў: — А-эх, бабская твая галава, удзень з ліхтарняй! Можа, думаеш, газу чэрпаюць вёдрамі з сажалкі? Немцы без картак ні кроплі не даюць, а адкуль, скажы, тыя карткі? Колькі ўжо воўны, аўчын, лёну ўпхнулі гэтым злыдням у горла? Адрэжаш каню хвост — і той ім аддай. А ці многа чаго купілі за іхнія паперкі? — Кяршыс павольным, але шырокім жэстам вырваў ліхтарню з Аквіліных рук і задзьмуў.— На хлеў ёй уздумалася. Быццам куры там калі неслі яйцы. Можа, якое яечка за год і знясуць, дык хіба варта на гэта марнаваць газу? Няўжо гэты жывот у галаве тваёй усё перакруціў?

## *Раздзел пяты*

### I

Марус хутка папраўляўся. Па два разы на дзень — пасля сняданку і перад вячэрай — Аквіля прыносіла яму яду, травяны адвар, мяняла кампрэс на назе, з якой яшчэ не сходзіла пухліна, хоць мінуў ужо тыдзень з таго дня, як стала паляпшацца здароўе. Каб не браць з сабою ліхтарні, Аквіля зрэзала хвост бурака, выдлубала сярэдзіну, у дно ўваткнула адламаны зубец бёрда, накрышыла туку і зрабіла каганец. Побач з цвіком, на які вешала ліхтарык, убіла яшчэ адзін цвік і прыладзіла над логавішчам дошку, паклаўшы адзін канец яе на цвікі, а другі — на лату. Тут яна і ставіла свой каганец. Было дужа нязручна — цень ад дошкі падаў на хворага, апроч таго, неасцярожным рухам яна магла перавярнуць дошку. У першы ж вечар гэта і здарылася. Яна доўга не магла заснуць, баялася — раптам якая іскарка, адскочыўшы з кнота, упала ў пасцель альбо ў салому. Небяспека пажару палохала яе не менш, чым немцы. Аднак пра гэта яна ніводным словам не прагаварылася Марусу. Сказала толькі, што пад ім стойла, столь у хляве не з дошак, а з жэрдак, і хоць саломы ў гэтым месцы пядзі на дзве, усё-такі праз шчыліны праточваецца трохі цяпла.

Кошыка яна больш не брала: варыва налівала ў пляскатую бутэльку і клала за пазуху, а іншы харч рассоўвала

па кішэнях у кажушку. Ад Маруса паўзла яна каля самай страхі ціхенька, нібы кошка, што палюе на мышэй. І толькі ўпэўніўшыся, што ў клуні пуста, не чуваць ні голасу, ні хады, кідалася да драбіны і кумільгам скочвалася ўніз. Цяжка было праравацца да Маруса, і ўсе яе вымогі, каб хоць раз у дзень накарміць Маруса гарачай стравою, часта рассыпаліся ўшчэнт. Кяршыс цяпер ад раніцы да вечара корпаўся на хутары — абвязваў яблыні, рамантаваў плот, затыкаў у лазні шчыліны пакуллем,— а пакарміўшы скаціну, сядаў каля дзвярэй і плёў кашы. Але чым бы ён ні займаўся — ці яблынямі ў садзе, ці сваімі кашамі,— немагчыма было ведаць, калі яму стрэліць у галаву зазірнуць у клуню, бо тут ён паставіў пастку на тхароў і па некалькі разоў на дзень правяраў яе.

Яна баялася далей строіць з сябе хворую. Жывот, здаецца, у парадку, але не можа чалавек, адрабіўшыся ад такога ліха, адразу кідацца на вэнджанае сала. Ну і, апроч таго, часам яшчэ пад грудзямі нудзіць... Таму нічога дзіўнага, калі яна засячэ яшчэ адну курыцу. Засекла. Кяршыс паўздыхаў, аднак нічога не сказаў. Апетыт у Маруса рос прапарцыянальна колькасці дзён, якія ён праляжаў у сваім мусовым прыстанішчы.

...Яна расклала яду на дошцы побач з каганцом і, пакуль ён снедаў, згорбіўшыся, сядзела ў яго ў нагах. За гэтыя некалькі дзён, калі Марус пачаў папраўляцца, яны размаўлялі не адзін раз, аднак размова ўвесь час круцілася вакол надвор'я і здароўя. Ён ні пра што не пытаўся, а яна ні пра што не расказвала, мяркуючы, што пасля хваробы і ўсяго, што ён перажыў, яму перш за ўсё патрэбен спакой. Але цяпер, пазіраючы на шматок пасцелі каля сваіх каленяў і слухаючы, як ён упраўляецца з ядой, яна нечакана падумала: яе прысутнасць яго гняце! Ён спяшаецца есці, бо грэбуе ёю, хоча, каб яна хутчэй пайшла,— тады ён зможа застацца сам са сваімі думкамі, і хоць яны не дужа вясёлыя, аднак даюць яму болей уцехі і, магчымая рэч, нават болей пэўнасці, чым шэпт гэтай жанчыны ў кажушку, якая прыносіць з сабою неадчувальнае цяпло дому.

— Сёння ўначы снег выпаў...

— А-а...

— Надта ўжо ранняя зіма. Убачыш, да Новага года снег яшчэ паспее растаць...

— Можа быць.

— Калі ляжыш спакойна, нага не баліць?

— Што той боль. Галоўнае — каб мог ступаць...

— Пройдзе. Зможаш.

— Вядома, пройдзе. Дзякуй, пад'еў. Дужа смачна.

— Дзе там! Халодная яда толькі ад нявыкруткі. Не холадна ляжаць?

— Пад такой пярынай!

Гэта было ўсё, што яны сказалі адно аднаму, пакуль ён еў курацiну і піў з пляшкі крупнік. Папрасіўшы яго патрымаць каганец, Аквіля зняла дошку і пачала аглядаць хворую нагу. На добрую пядзю вышэй і ніжэй калена скура была моцна пачырванелая, гарачая, але не больш чым учора. Аквіля змачыла павязку ў растворы і зноў забінтавала. Потым загарнула ў паперу і сунула ў кішэню курыныя костачкі, пляшку паклала за пазуху і моўчкі ўзяла ў Маруса каганец. Зараз яна задзьме гэты каганец, што смярдзіць авечым лоем, счакае, калі паблякне абвуглены кончык кнота, і, сашчыпнуўшы пальцамі нагар, паставіць яе пад латаю, дзе толькі што ляжала дошка. Але перад гэтым яна яшчэ раз зірне на Маруса. Яна разумела, што ён хоча і мае сказаць ёй яшчэ нешта, апроч гэтых «вядома», «а як жа», «можа быць», і калі яна паспяшаецца пайсці, зноў будзе адсунута на заўтра тое, што ў абаіх цяжкім каменем ляжыць на сэрцы. Яна паглядзела на яго і ўсміхнулася. Не такой усмешкай, як у тыя дні, калі ён быў яшчэ зусім слабы. Не маці дзіцяці — вінаватая жанчына ўсміхнулася мужчыну.

Ён заплюшчыў вочы. Шчокі дрыгнулі і застылі. Яна не паспела злавіць яго позірку, аднак была ўпэўненая, што ў ім адбілася ледзь прыкметнае тое самае пачуццё (суровы і пяшчотны смутак), якое прабілася праз яго зацятую маску, што ахінала ўвесь твар — ад ілба да балесна сціснутых вуснаў.

Стрымліваючы ў грудзях уздых, яна паднесла да рота каганец і дзьмухнула. Усё патанула ў цемры. Толькі вугельчык кнота нейкі час гарэў, нібы светлячок, што аддаляецца ў беспрасветную цемрадзь ночы, і Аквіля глядзела на яго, жадаючы, каб ён як мага хутчэй згас, і разам з тым шкадуючы, што ён згасае. І тады пачуўся ягоны голас:

— У мяне была зброя.

Гэта былі не тыя словы, якіх яна чакала, аднак яна радасна страпянулася: ён не толькі адказваў на пытанні, ён пытаўся і сам.

— Усё тут. Боты, адзенне. Твой пісталет заржавеў быў, дык Путрымас пачысціў, змазаў. Усё на месцы.

— Путрымас? — мабыць, ён вельмі здзівіўся, а можа, нават спалохаўся.— Чаму Путрымас?

— А хто другі мог бы гэта зрабіць? Я не ўмею...

— Дык вы з Путрымасам мяне сюды...

— Ага. Калі знайшла цябе ў той вечар у клуні, не ведала, куды кінуцца. Успомніла, што вы былі прыяцелямі, і пабегла да Куксы. Што, гэта дрэнна?

— Чаму?.. Не. Дык... Кяршыс не ведае?

— Ніхто нічога не ведае, Марус. Толькі мы з Путрымасам.

Аквілі здалося, што Марус уздыхнуў.

— Табе патрэбен гэты... пісталет? — прашаптала яна.

— Добра было б...

Яна адгарнула салому ў нагах у пасцелі і, трохі пакорпаўшыся, выцягнула загорнуты ў намасленую анучыну пісталет з патронамі.

— Вось ён. З усім, што мае быць,— прашаптала яна, кладучы скрутак на пасцель каля Маруса.— Можа, запаліць каганец?

— Не, не трэба. Я начная птушка.

У яго ным шэпце яна адчула ўсмешку. Чула дыханне, што стала часцейшае, шорах, і хоць паміж імі была непраглядная сцяна цемры, Аквіля бачыла, як ён усміхаецца, абмацваючы сваю зброю.

— Вечарам я перавяжу табе далонь і гэтыя два пальцы,— прашаптала яна; у яе прыемна кружылася галава.

— Добра было б.

— Абавязкова перавяжу.

— Добра было б, я хацеў сказаць, пабачыцца з Путрымасам...

— Разы два ён сюды залазіў, але ты яшчэ трызніў. Мабыць, не памятаеш?

— Памятаць памятаю. Думаў, што прыснілася. Хіба ён не ведае, што са мной цяпер можна гутарыць як з чалавекам?

— Чаму ж не ведае! Пазаўчора прыходзіў, хацеў з табою пабачыцца, але Кяршыс, злосны за падлогу ў лазні, насварыўся і выгнаў. Калі б Кяршыс у той час не круціўся на двары, можа, як-небудзь... Праўда, Марус, Куксу ніяк не выпадала зайсці. Але я прыдумаю што-небудзь, каб выпхнуць Кяршыса з дому.

— Можна і ўначы.

— Не, уначы нельга, Марус. Немцы прыгразілі, што расстраляюць кожнага, хто будзе разгульваць уначы.

— Ах, немцы...

— Яны, Марус, яны. З учарашняга дня выпускаюць людзей з вёскі і ўпускаюць назад, але ўначы са сваёй сядзібы нельга ступіць і кроку. Дык я пайду. І так заседзелася. Да вечара, Марус.

— Да вечара, Акviля.

Першы раз ён свядома вымавіў яе імя ў гэтым сваім сховішчы. Некалькі імгненняў Аквіля стаяла ў цемры, адчуваючы, што сэрца распускаецца, як пупышка ружы ў чэрвені, і ўсё памяшканне залівае святочнае вясновае святло, і, ахопленая гэтым радасным пачуццём, яна папаўзла па нары, якая цяпер здавалася ёй чароўнай сцежкай, што вядзе ў маладосць,— даўно страчанай, але, аказваецца, не назаўсёды.

У тую раніцу Кяршыс быў дужа задаволены: з ночы трапіў у пастку тхор. Вестка, што немцы адмянілі забарону на выезд з вёскі, таксама ўзняла гумор. А-эх, цяпер можна будзе пусціць у ход солад! Заўтра-паслязаўтра зварыць піва — і ў горад. Аквіля параіла, што спачатку трэба з'ездзіць дамовіцца. Аб цане і наогул. Можа, немцы так прыціснулі гэтых падпольных шынкарак, што яны і здалёку пабаяцца глядзець на піўную бочку. Кяршыс згадзіўся — разумная парада. Заўтра з'ездзіць у Краштупены, выведае, як і што, але пасудзіну на піва варта падрыхтаваць загадзя. Вось здзярэ шкуру з тхара і пойдзе глядзець кадушкі. У асеці стаяць, не павінны б рассохнуцца, але ўсё роўна варта наліць вады, каб выцягнула пах цвілі.

— Бачыла тхара? — цягнуў ён Аквілю за рукаў пад паветку, дзе, падвешаны за заднія лапы, вісеў звярок.— Прыгожы, д'ябал. Доўгі, ільсністы. Хоць на выстаўку. Думаеш, ён адзін такі ў сядзібе? Уга! За зіму налушчу, як бобу, а пасля вайны тхаровае футра толькі падавай — на вагу золата будзе.

— Ідзі ты з гэтым сваім смуродам,— адмахвалася Аквіля.— Калі табе ён гэтак падабаецца, паставіў бы пастку ў хляве — сёння раніцай, калі даіла карову, бачыла аднаго...

— Тхара? Падурэлі яны, ці што! Я пра тое і кажу, што расплодзілася іх, як д'яблаў. Зараз жа перастаўлю пастку туды. Прышчамлю прыгажунчыку хвост, а-эх, прышчамлю, будзе ён ведаць, як яйцамі ласавацца.

Да вечара Кяршыс свяціўся, як нашараваны мядзяк. Работа спорылася, як гэта заўсёды бывае. калі чалавек у

добрым настроі, і, падварушаны сваёй весялосцю, Кяршыс пасвістваў, а то нават браўся і песеньку дудзець. А-эх, відаць, усё хіліцца ў лепшы бок. Дарога з вёскі вольная, тхор — у пастцы. Толькі купляй ячменю ды вары піва. Дасць бог, верне за страчаную свінню з капою.

Вечарам наступнага дня ён вярнуўся з Краштупенаў з задаволеным выглядам. Праўда, моршчыўся, расказваючы пра шыбеніцы, якія бачыў на пляцы каля помніка: пяць чалавек, ага, вісяць. Але хто вінаваты? Вядома, ад турмы і торбы не заракайся, пры немцах няцяжка і галаву ў пятлю ўсадзіць, аднак жа, чалавеча, хадзі ты як найдалей ад таго месца, дзе лёд танюсенькі, і не правалішся. Кіруй, як умееш, сваёй гаспадаркай, а немец няхай кіруе палітыкай (ці ён мірыцца, ці ваюе), і абодва дамовіцеся. Пахваліўся, што сустрэў валаснога старшыню. Не тое каб сустрэў, а проста зайшоў дамоў да яго, бо тая гуска, якую Аквіля ўчора абскубла (цяпер можна сказаць усё як ёсць), прызначалася пані старшынісе. А-эх, шкада, бясспрэчна, але даеш не таму, што хочаш даць, а таму, што трэба даць. Калі б не валасны старшыня, хто ведае, ці не захапіў бы Кучкайліс Нямунісаву зямлю... А хто меў сілу яе даць, той мае сілу і адабраць. Так што гуска вельмі палепшыла справу з Нямунісоўшчынай. Калі ж у дадатак ён яшчэ закоціць у двор да старшыні бочку піва, дык той прыцісне пячатку на ўсе наступныя часы. А-эх, з такім начальнікам, хоць ён і паходзіць з заможнай гаспадаркі, можна згаварыцца. Просты чалавек. Нават паляпаў па плячы і сказаў, што на такіх працавітых земляробах, як Кяршыс, трымаецца Літва. Потым прапанаваў стаць старастам у Лаўксадзісе. Каб гэта ў часы Сметаны — ого! Гонар, грошы, самы заможны гаспадар табе не пан. А цяпер... Не, не, пане старшыня! Хай становіцца старастам той, хто бліжэй да палітыкі. Хай дапаможа яму бог кіраваць людзьмі паводле закону ўлад, я ж паводле свайго закону буду кіраваць сваёй гаспадаркай, і хай будзе так, як нашы дзяды наказвалі: богу — богава, кесару — кесарава. Прыніжана падзякаваў пану старшыні за гонар, але пакінуў яго другім.

— А-эх, каб я яшчэ соўгаў рукі ў паскуддзе,— закончыў ён.— Але з'ездзіў у горад недарэмна: піва ідзе! Дамовіўся і аб цане — клопат акупіцца.

Аквіля ўсміхалася, слухаючы Кяршысаву гаману, якая ў іншы час пэўна скончылася б сваркай. Яна была шчаслівая не менш за мужа, бо, пакуль ён парадкаваў піўныя

справы ў Краштупенах, да Маруса прыходзіў Чорны Кукса і яны прагаварылі цэлы ранак.

Калі пасля вячэры прынесла яму есці, Марус узрадаваўся— яна адчула гэта па голасе, не паспеўшы нават запаліць бураковы каганец. Быў гаварчэйшы, чым раней, пару разоў нават усміхнуўся ёй, яго варожая замкнёнасць змянілася цяпер задуменнасцю, нават нейкім смуткам. Кожны раз, калі іх позіркі сустракаліся, яе кідала ў жар — ён глядзеў на яе добразычліва, з цікавасцю і здзіўленнем. Калі Аквіля збіралася адыходзіць, ён нясмела папрасіў, ці не магла б яна даць некалькі запалак — атрымаў ад Куксы сёе-тое пачытаць, а пра запалкі яны з ім не падумалі.

— Не бойся, буду асцярожны,— запэўніў ён.— Я і сам баюся пажару.

Яна пакінула ўвесь карабок. Калі яна выйшла з клуні, Кяршыс таптаўся на ганку, нервова курачы цыгарку. Куды яна падзела карыта, ліха з трасцаю! Заўтра з самай раніцы трэба брацца за піва, усё начынне павінна быць пад рукою.

Карыта звычайна трымалі ў каморы. Але нядаўна Аквіля пякла булку, засунула карыта за печку і забыла пра яго.

— Не вымытае, завэдзганае... — накінуўся на яе Кяршыс.— Не разумею, што тут робіцца. Дзверы прапалі, новы кружок сала пачаты, калі яго магло хапіць да самых каляд, а прасці, як пагляджу, ты яшчэ і не бралася. Гойсаеш, як авечка, сюды-туды, нібы табе хто солі на хвост насыпаў. Пабачым, што ў кросны закладзеш. Ці спадзяешся, нас немцы заваляць крамнай матэрыяй?

— Дзе гэта я гойсаю, чаго бурчыш?! — ускіпела Аквіля.— Учора забегла да Джугаса, замясіла хлеб, а сёння хадзіла пячы. Стары мне як родны бацька, мушу ж я чалавеку дапамагчы ў бядзе. Сам жа казаў, якія ў яго пірагі, калі ён адзін застаўся.

— А-эх, хіба я пра Джугаса. Пячы, мясі, памагай, нічога не скажу. Але і тут, дома, немагчыма за табой усачыць. Шабоўць, нібы камень у ваду,— і няма. Што ты згубіла ў той клуні, чаго ты там круцьма круцішся?

— Калі гэта я там круцьма кручуся? — спалохалася Аквіля, намерваючыся прыкінуцца абражанай.

— А-эх, ды не махай ты рукамі. Прападаеш, удзень і са свечкай не знойдзеш. Можа, пазаўчора там не была? Хацеў папрасіць, каб на пінжаку локаць залатала, а ты

калі аб'явілася? І адкуль? Пайшоў паглядзець, можа, дзе заваліліся, а яна з клуні — шух! Не сляпы я, не думай.

— Што бачыш, то бачыш,— узбурылася Аквіля.— Прыстаў як смала,— у цябе не спытаўшыся, і па сваёй патрэбе не выйдзеш. А самага асноўнага ты там і не ўнюхаў — чаго я шастаю ў клуню.

Кяршыс вылупіў вочы.

— Хлопца сабе завяла. Адразу пасля вячэры і бягу з ім кахацца. Можа, сказаць — каго?

Кяршыс плюнуў са злосцю.

— Можаш казаць, можаш не казаць, што мне з тваёй лухты? Аднак жа калі маладзіцы ахвота спаць асобна, муж усякае можа падумаць.

— Дурань!

Аквіля, прыкідваючыся, што яна страшэнна зняважаная (на самой жа справе яна была проста напужаная), у той жа вечар перайшла спаць да Кяршыса. Ноччу са злосцю адапхнула яго руку, калі ён паспрабаваў яе абняць, хоць тут жа падумала, што гэтага, мабыць, не трэба было рабіць. У хаце было душна — Кяршыс не дазваляў адчыняць нанач фортку («Будзем дровы паліць, а цяпло на двор выпускаць? Можа, думаеш, грошы на вуліцы валяюцца...»). Паспеўшы прывыкнуць да чыстага свежага паветра ў святліцы, Аквіля адчувала сябе цяпер у гэтым пакоі, прасмуроджаным тытунём і кухонным чадам, як у скураным мяшку. Дотык Кяршыса ёй быў такі самы агідны, як і цяжкае паветра ў хаце. Нават ляжаць побач з Кяршысам пад адною коўдрай, дзяліцца з ім цяплом здавалася ёй здрадай.

...Што цяпер робіць Марус? Мабыць, чытае паперкі, якія прынёс яму Чорны Кукса, а можа, ляжыць і думае, як яна, Аквіля, спіць з Кяршысам. Ды не — ён нават не ведае, што яна перабралася назад, у хату. Якія яны розныя! Вось заўтра — Кяршыс будзе варыць піва, а Марус, паклаўшы пад падушку пісталет, будзе ўздрыгваць ад кожнага падазронага гуку, хвалявацца, ці не здарылася чаго, а калі яна нарэшце прынясе сняданак, пачне нецярпліва распытваць, што яна думае пра нагу і што наогул чуваць. Будзе чакаць нагоды, каб зноў пабачыцца з Чорным Куксам. А калі выздаравее, падасца ў свае лясы. Зноўку жыццё загнанага ваўка, стрэлы, кроў. Дзеля чаго? Нашто ўсё гэта? Каб перамагчы немцаў? Аднак жа многія чакаюць, калі немцы лягуць касцямі, і спакойна сядзяць сабе дома. Настане час, і ўсё будзе так, як мае быць,—

сказаў бы Кяршыс. Але калі настане і як настане, калі ўсе будуць ваяваць з тхарамі, а не з немцамі?..

...Марус заўсёды ішоў за праўду. Не для сябе рупіўся, для іншых. Часам, калі слухала яго словы пра тое, як на зямлі ўтворыцца рай, яе аж здзіўленне брала. А замест раю абрынулася пекла. І Марус ляжыць, падкошаны сіламі пекла, над хлявом у Кяршыса. Не думае ні пра гаспадарку, ні пра тое, колькі будуць каштаваць тхаровыя шкуркі пасля вайны. Нават свайго жыцця яму не шкада. Паздаравее — і пойдзе, і, калі так будзе наканавана, складзе галаву за іншых. Не будзе немцаў, але не будзе і Маруса. А Кяршыс застанецца. Са сваімі пасткамі на тхароў, піўнымі бочкамі, з жытам, што прыгожа будзе зелянець на зямлі Нямунісаў... А потым, магчымая рэч, з'явіцца на свет і Хвеліксюкас, за ім і Аквілюта: так ужо здараецца, калі спіш з мужам на адным ложку...

...Гедымінаса таксама не будзе. І старога Джугаса. Ва ўсякім разе — у Лаўксадзісе. «Дзякуй, дачушка. Бог яшчэ не забыў сваю зямельку — ёсць яшчэ людзі наўкола, не паспелі немцы вынішчыць...» — «Трэба ж дапамагаць адно аднаму, дзядзька...»

...А-эх, хіба я пра Джугаса? Пячы, мясі, памагай...

...Але хіба гэта помач? Замясіць хлеб, памыць бялізну? А чым яшчэ дапамагчы чалавеку, які неўзабаве мусіць пайсці са свайго дому, як жабрак? Пакіне сваіх коней, з якімі зжыўся, як з людзьмі, з таго даўняга часу, калі яны порсткімі стрыгункамі гойсалі па лугах. Аддасць у чужыя рукі авечак, кароў, больш не пачуе іхняга лагоднага мыкання, не возьме за рогі, не зірне ў іхнія маркотныя вочы. Нехта іншы зойме яго сядзібу, нехта іншы будзе хадзіць па сцежках, па якіх бегалі яго дзеці. Па гумне, па хляве, па лазні, асеці, свірне... Па ўсёй сядзібе, як па бажніцы, у якой жыве ягоная душа, бо ў сценах гэтых будынкаў не знойдзеш бервяна альбо дошкі, каменя альбо кавалка тынку, якія б не былі сагрэтыя далонямі старога, не былі змочаныя яго потам. І пойдзе стары са свайго дому, ужо неўзабаве і пойдзе...

...— Не, не пайду: мяне вырвуць, як сэрца з грудзей, бо я зросся са сваёю зямлёю, як дзёран.

...— Дык нашто, дзядзька, вы яшчэ яблынькі абвязваеце? Усё роўна прыйдзе нехта іншы.

— І яблынькі абвяжу, і пчолам корм пакідаю на зіму. Чым вінаваты святы жучок альбо дрэўца, што не я буду зрываць яблыкі і выбіраць мёд? Жывое стварэнне — і пча-

ла, і яблынька. А жыццё трэба берагчы, пакуль ты сам жывы...

...Аквіля стаіць у дзвярах і глядзіць, як стары важдаецца з жывёлінамі — таго пагладзіць па спіне, а таму паляпае па шыі. Аблёгшы на загарадку, запусціў пальцы ў густую авечую воўну. Як шмат яе і якая яна густая! Той, новы, пэўна-такі астрыжэ бедалажак нагала, воўну аддасць немцам, і будуць мерзнуць авечкі да вясны. Тут жа, за перагародкаю, заржалі коні. Сытыя — толькі што кормленыя; гэта з зайздрасці, што ён бавіцца з авечкамі, а іх, коней, не прылашчыць. Эх, браце, і скаціна, як чалавек, абтужыць па ласцы, пяшчоце. Падышоў да аднаго каня, абняў, пацалаваў у морду, потым гэткімі самімі мілошчамі ўзнагародзіў другога. Эх, мой вараны, гультай ты і зласнюга, нядоўга ўжо нам надакучаць адзін аднаму. І ломіцца голас, як дрэва ў час віхуры, уздрыгваюць плечы, цякуць з вачэй слёзы.

...— Скажы, Марус, чым можна дапамагчы гэтаму святому чалавеку?

— У мяне была зброя...

— Ёсць, Марус, ёсць. Усё ляжыць на сваім месцы.

...Джугас усміхаецца, прыклаўшы вуха да вулея: пчолы гудуць.

...Гедымінас у адной кашулі на зжатым жытнёвым полі. Снапы. Сонца. Шкуматкі белых аблокаў у празрыстым блакіце неба. Адкуль ты ўзяўся, Гедымінас? Людзі ўжо цябе пахавалі, казалі, што гестапаўцы забралі.

«Гестапаўцы добрыя: адпусцілі пацалавацца з коньмі».

«Марус, Гедымінас аб'явіўся!»

Марус усміхаецца. Чыста паголены, у белай кашулі, з гальштукам. Сёння нядзеля, давай, кажа, паляжым, калі ж яшчэ папесціцца, як не ў свята? Вядома, згаджаецца яна. Кяршыс павёз піва ў Краштупены, маем трохі часу... Засаромеўшыся гэтых слоў, хавае твар у яго на грудзях. Адчувае, як абдымаюць яе ягоныя цёплыя рукі, чуе, як ён прыглушана дыхае. Божа мой, што будзе, калі застане Кяршыс — ужо чуваць шорах саломы!

«Марус, ідзе Кяршыс!»

Вырываецца з яго абдымкаў. Дошка з бураковым каганцом ляціць убок. Куды скаціўся каганец?! Божа мой, хутчэй трэба знайсці каганец — пажар будзе!

— Марус, ратуйся, гарым!

Яна абудзілася. Сядзіць у ложку. Цвёрдыя Кяршысавы рукі трымаюць яе за плечы.

— Што такое? Што здарылася? — пытаецца яна перарывістым голасам.

— Гэта ты скажы.— Кяршыс адпусціў яе, выбіраецца з ложка. Знайшоў на прыпечку запалкі, перавальваючыся ідзе да стала.— Ты крычала ў сне, ага, крычала.

— Праўда? Мабыць, прысніла нешта страшнае.— Аквіля выцірае рукавом кашулі ўспацелы твар.

— Ты клікала яго.— Кяршыс хоча запаліць запалку, аднак яны адна за адной ломяцца. Нарэшце запаліў. Нахіліўшыся над ложкам, пакутліва доўга ўзіраецца ў Аквілю. Полымя ўжо дайшло да дрыгатлівых пальцаў, а ён усё яшчэ не можа адарваць спалоханых вачэй ад Аквілі.— Чаму ты клікала яго?

— Каго, Хвэлька?

— Сама ведаеш... Маруса...

— А, яго! — Аквіля ўзрадавалася, што пагасла запалка.— Не дужа верыцца ў гэта, але калі ты кажаш, што чуў, не буду спрачацца,— я ж спала.

— Ты абдымала мяне, а называла яго імя.

— Дзіўна...

— А-эх, ёй дзіўна! Ёй толькі дзіўна, і нічога больш...— Кяршыс нейкі час тырчыць каля ложка, чакае, але не выцягнуўшы з Аквілі адказу, ідзе шукаць табакерку.

— Не дымі сярод ночы, і так няма чым дыхаць. Дзіця...

— Тваё дзіця ў другім пакоі.

Аквіля ўсхапілася з ложка і расхінула дзверы ў сенцы. Кяршыс, пацягваючы цыгарку, паволі ўзняўся з услона і зачыніў. Пляваў ён цяпер на ўсе бабскія забароны.

Раніцаю ўстаюць нявыспаныя. Снедаюць моўчкі. Лаўрукас з дурнічкай былі раздурэліся за сталом, але абое зарабілі ад Кяршыса лыжкай па лбе.

Кяршыс няспешна клыпае да летняй кухні, якая дыміць з самай раніцы. Солад перабрадзіў. Застаецца толькі падрыхтаваць кадушку і зліць у яе сусла. Аквіля, жадаючы паддобрыцца, прапануе нацягаць вады, але катлы яшчэ не кіпяць. Можа, дроў? Кяршыс панура ківае галавою на кучу паленаў, наваленых каля печы, у якой звычайна пякуць хлеб.

— А вось і папярэчыны ад старых дзвярэй,— кажа ён нібы між іншым, піхаючы нагой дзеравячыну.— Знайшоў у дрывотні. Распілаваны і засунуты ў дровы.

— Што ты кажаш! — дзівуецца Аквіля, а кроў супраць яе волі прылівае да шчок.

— Тамсама і завесы. Толькі глыбей схаваны. Трэба

быць глухой і сляпою, каб не заўважыць, як разломвалі дзверы.— Мерае Аквілю падазроным позіркам і выходзіць з кухенькі.— Бочкі мыць дапаможаш?

Яна брыдзе ўслед за ім да студні. Узяўшы ўдваіх бочку, паварочваюць яе так і гэтак, круцяць. Вада звонка плёхкаецца ўсярэдзіне. Аквіля ўсё дзівуецца, як гэта так магло атрымацца з тымі дзвярыма ад клуні, строіць здагадкі, а потым расказвае выдуманы сон: падала аднекуль звысоку ў нейкую прорву, поўную агню, а там, унізе, стаяў не то Марус, не то ён, Хвэлька...

Кяршыс слухае, зыркаючы спадылба, і не азываецца ні словам. Не зразумееш, ці не верыць, ці наогул не чуе, паглыблены ў адно толькі яму вядомыя думкі.

Цэлы дзень працуе моўчкі, нешта абдумвае. Солад удаўся, піва выйшла больш, чым спадзяваўся, але Кяршыса гэта не цешыць. Заквасіў трохі ў збанку. Мігам узнялося. Раней паклікаў бы Аквілю, папрасіў бы пакаштаваць, а цяпер толькі сам сербануў пару глыткоў і паставіў збанок зноўку ў буфет.

Вечарам старэйшы старасцішын сын прынёс павестку — весці коней на камісоўку. Прымаць будуць у пятніцу — гэта значыць праз тры дні. Але каму ў гэты дзень не выпадае, можа прывесці і раней,— у чацвер таксама прымуць.

Кяршыс яшчэ больш спахмурнеў. За буланага ён не баіцца,— нібы між іншым сказаў ён Аквілі,— а вось гняды можа немцам упасці ў вока. Але назаўтра пра камісію больш не гаварыў, не вохкаў, не прыкідваў, як лепей ашукаць немцаў. Здавалася, пагадзіўся з лёсам: весці дык весці, што тут зробіш. А забяруць дык забяруць, таксама што зробіш: такая воля гасподня.

А на самой справе яго прыгнятаў куды большы клопат, чым камісоўка коней. Аквіліны словы, што вырваліся ў сне, былі тымі промнямі святла, якія раптам прабіліся ў цёмнае памяшканне і асвятлілі невідочныя дагэтуль рэчы, і цяпер ужо збольшага можна было сказаць, у якім парадку яны стаяць. Праўда, бачыў ён іх яшчэ даволі невыразна і міжволі стараўся глядзець не туды, куды падала святло, а туды, дзе быў цень. Ён баяўся звесці канцы з канцамі, бо тады давядзецца рабіць нейкія высновы і прымаць меры... А ён яшчэ зусім не вырашыў, што будзе рабіць, калі ўсё высветліцца дарэшты. Аднак наступнай раніцай, працадзіўшы піва, сказаў, што ён ідзе ў асець набраць бульбы свінням, а сам залез за шафу ў клуні і

тут прачакаў добрую гадзіну, перш чым з'явілася Аквіля. Размахваючы пустым кошыкам, яна абышла ўсе закуткі, па драбіне залезла на канюшыну, потым на тарпу сена і, аблазіўшы там падстрэшша, злезла на дол. Напроці шафы выняла з кошыка яйцо, патрэсла каля вуха, правяраючы, ці не поклад гэта. Паклала яго назад, праверыла другое, трэцяе і не спяшаючыся пайшла да дзвярэй. Кяршыс не сумняваўся, што яна заўважыла яго, і рашыў другі раз быць хітрэйшым. Пасля вячэры ён стаў вохкаць і скардзіцца, што яму няможацца, скінуў пінжак, драўляныя чаравікі і ўлёгся ў пасцель. Калі Аквіля, крыху пакруціўшыся ў хаце, накінула кажушок і выйшла, ён паспешліва апрануўся і кінуўся ў клуню. Прайшло не болей як чвэрць гадзіны, а яму страшэнна апрыкрала тырчаць за шафаю. Затаіўшы дыханне, ён слухаў у цемры, як над хлявом зашамацела салома. Потым — рыпенне папярэчын драбіны, крокі па клуні, па двары... «Ша, Тыгр, гэта табе...»

Пайшла.

Кяршыс, ледзьве соўгаючы ногі, паплёўся па двары да сабачай будкі. Тыгр, весела сцёбаючы сябе хвастом па баках, хрумстаў косці.

— Я думала, што ты ўжо спіш,— здзівілася Аквіля, калі ён вярнуўся.

— А-эх, які тут сон...— Кяршыс адвярнуўся.— На двары быў. Відаць, і ў мяне з жыватом, ага...

— Ах, з жыватом...— бляднеючы, прашаптала Аквіля.— Піва яшчэ не перабрадзіла... а ты піў... з дрожджамі... Можа, ад яго...

Ноччу абое ніяк не маглі заснуць, хоць і прыкідваліся адно перад адным, што спяць. Кяршыс разы са два садзіўся ў ложку, намерваючыся нешта сказаць, аднак, так і не рашыўшыся, зноўку залазіў пад коўдру. Устаў на самым золку, курыў, хадзіў па хаце, пакуль не настала пара карміць скаціну. Пакуль коні паелі, паснедаў сам, падкаціў да свірна пустую фурманку, пагрузіў бочкі з півам — дзве днішчамі да каня, трэцюю — упоперак фурманкі, пад сядзенне. Гнядога паставіў у аглоблі, буланага прывязаў побач і выехаў пахмуры, як на пахаванне.

Аквіля, трохі счакаўшы, узяла з сабою сняданак і падалася да Маруса. На душы ў яе было вельмі неспакойна. Яна разумела, што Кяршыс нешта пранюхаў і раней ці пазней усё можа выплысці на паверхню. Апошнія тры дні яе асабліва даймалі яго недаверлівыя пагляды, панурая замкнёнасць, цяжкія ўздыхі. Разумела, трэба нешта ра-

біць, аднак не магла нічога надумаць. Параіцца з Чорным Куксам? Пэўна, сёння яна гэта і зробіць, пакуль Кяршыс не вярнуўся з Краштупенаў. Але што яны змогуць прыдумаць нават удваіх? Каб на нейкі тыдзень пазней, калі ў Маруса нага... А цяпер уся мудрасць — чакаць, што дасць бог, як зазначае Кяршыс, і, вядома, ні слова не казаць Марусу; яму і так не дужа прыемна з дня ў дзень тырчаць у гэтых сховах, нібы тхару ў пастцы.

Адвярнуўшы салому ад уваходу, Аквіля кашлянула, як яны дамаўляліся, і вырнула ў нару.

Марус ляжаў, скінуўшы да пояса пярыну, расчырванелы, і цяжка дыхаў. На лобе блішчалі дробныя кроплі поту. Аквіля спалохана глядзела на яго, трымаючы ў руцэ каганец: няўжо вярнулася хвароба?

— Чаго засумавала, сястрычка? — прашаптаў ён, шырока ўсміхаючыся, і па старой звычцы пацёрся падбароддзем аб плячо.— Засцілай стол і давай сняданак, чорт вазьмі!

— Ты такі чырвоны... спацелы,— азвалася яна, здзіўленая і разам з тым супакоеная яго жвавасцю.

— Толькі што размінаў мускулы. Гімнастыка, так сказаць. Ведаеш, я задаволены сваёю нагою: хоць і баліць, але ўжо трохі гнецца.

— Глядзі, не перастарайся, каб горш не стала.— Аквіля расклала сняданак на дошцы, а Марус тым часам сеў у ложку і, накінуўшы на плечы кажушок, узяўся за яду.

Марус. Якое свята сёння?

Аквіля. Чаму свята?

Марус. Сырнікі цёплыя, суп у місцы таксама дыміцца. Песціш мяне ты, Аквіля.

Аквіля. Затое ўчора і пазаўчора толькі па разочку да цябе зазірала. Табе трэба гарачая яда тры разы на дзень, а выходзіць раз на тры дні. Што гэтак пазіраеш? Еш, еш, пакуль не астыла.

Марус. Ты нейкая... не такая, Аквіля...

Аквіля. Кепска спала ўначы. Казала ж учора, немцы загадалі ўсёй вёсцы весці коней на камісоўку. Кяршыс трэці дзень ходзіць, як пад зямлёю.

Марус. А-а, разумею — аплаквалі сваіх коней.

Аквіля. Ат, не здзекуйся. Коні коньмі, але і без іх клопату хапае.

Марус. Вось, напрыклад, я ў гэтай падпольнай гасцёўні...

Аквіля. Перастань! Гедымінас усё яшчэ не паказ-

ваецца, вось што! Можна падумаць, што пазбягае немцаў, чакае, пакуль яны выберуцца з Лаўксадзіса, але ходзяць упартыя чуткі, што Гедымінаса забрала гестапа.

М а р у с. Гм... Вельмі нават магчыма. Але ж я, трохі ведаючы яго натуру, думаю, што да гэтага не дайшло... Хутчэй за ўсё стары Джугас наўмысна пусціў гэтую пагалоску; Гедымінас хаваецца дома, скажам, у сене на вышках, ну як я ў цябе.

А к в і л я. Не, дома Гедымінаса няма. Нядаўна я бегала памагаць Джугасу, ён мне ўсё шчыра расказаў. Сам дні тры таму ездзіў у Краштупены шукаць Гедымінаса. Не, стары не хлусіў. Калі б нават захацеў, не змог бы такое выдумаць.

М а р у с. Цікава, што ён табе нарасказваў?

## II

Гедымінас выйшаў з дому адвячоркам таго ж дня, калі Адомас, склаўшы вопіс маёмасці, разам са сваімі паліцэйскімі паехаў вячэраць да Кучкайліса. Мікалас Джугас радаваўся, што ўдалося пераканаць сына, і даволі лёгка, на нейкі час падацца з Лаўксадзіса, бо цяпер, калі яны наклікалі няласку самаўправы, можна было чакаць чаго хочаш.

Пакуль немцы трымалі вёску на замку, Мікалас Джугас не рупіўся пра сына, але калі забароны на ўезд і выезд адмянілі і да яго ўсё настойлівей сталі даходзіць чуткі, што Гедымінаса арыштавала гестапа, стары не на жарты захваляваўся.

Счакаўшы дзень-другі, ён прычапіў да кляпы пінжака крыж Пагоні і выехаў у Краштупены. У паліцэйскім участку, расшпіліўшы кажушок так, каб быў відаць ордэн, ён папрасіў дзяжурнага правесці яго да Адомаса Вайнараса. Яму сурова, але не без павагі адказалі: пан Вайнарас ляжыць у шпіталі, часова яго замяняе вахмістр Бугяніс, які загадаў па асабістых справах нікога да яго не пускаць. Усё-такі, саступіўшы настойлівым патрабаванням, Мікаласа Джугаса ўпусцілі ў кабінет начальніка паліцыі. Аднак Бугяніс даволі злосна адрэзаў, што не ведае і ведаць не хоча пра ніякага пана Гедымінаса Джугаса. Дый наогул, невялікі яму гонар мець справу з сабатажнікам дзяржаўных паставак. Між іншым, дадаў ён, схавайце вы лепш гэтую жалязяку, калі на нас яна і робіць нейкае ўражанне, то на немцаў ніякага.

Мікалас Джугас паслухаўся парады Бугяніса — да будынка гестапа падышоў у кажушку, зашпіленым да самага горла. Аднак вартавы, размахваючы аўтаматам, адагнаў яго прэч. Нічога другога не заставалася, як распытаць у знаёмых,— з гэтага, мабыць, і трэба было пачынаць адразу. Ён падумаў, што Мілда можа ведаць пра Гедымінаса больш, чым хто іншы з яго краштупенаўскіх знаёмых, і вырашыў перш за ўсё наведацца да яе.

Ад гестапа ён рушыў праз рыначны пляц, дзе да вайны праводзіліся мітынгі, дэманстрацыі, а яшчэ раней — розныя нацыянальныя ўрачыстасці з шэсцем шаўлісаў, вучнёўскіх і яўрэйскіх арганізацый. На ўскрайку пляца, насупраць касцёла, абгароджаны жалезнаю агароджаю, стаяў помнік добраахвотнікам — заснавальнікам буржуазнай рэспублікі, што загінулі ў 1918—1920 гадах. Мікалас Джугас, жадаючы скараціць дарогу, падаўся нацянькі. Але яшчэ не даходзячы да помніка, ён адчуў: тут нешта не так. Нібыта нечага не хапала альбо было зашмат. А калі нарэшце зразумеў, што́ ў яго перад вачамі, яго абліў халодны пот, і валасы пад шапкай сталі дыба. Першай думкай было кінуцца назад, але тут жа мільганула другая, ад якой балюча сціялася сэрца.

Дрыжучы ўсім целам, ён ішоў проста да драўлянай рамы, пастаўленай непадалёку ад помніка і больш падобнай на футбольныя вароты, чым на шыбеніцу. На перакладзіне, з паўметра адзін ад аднаго, вісела пяць трупаў. Над іхнімі галовамі, нібы прывітанне гасцям, расцягнулася белае палотнішча з надпісам: ТАКІ ЛЁС ЧАКАЕ ЎСІХ ЧЫРВОНЫХ БАНДЫТАЎ І ІХ ПАМАГАТЫХ. Учора паўдня падаў мокры снег, уначы падмарозіла, і цяпер на галовах павешаных тырчалі белыя шапкі. Між пальцаў разбухлых ног, у вушы і паразяўляныя раты набілася снегу; на фоне счарнелых цел ён здаваўся занадта белым і несапраўдным. Рыпелі замерзлыя вяроўкі — трупы гайдаліся пад парывамі ветру, паварочваючыся адзін да аднаго то спіною, то бокам, сутыкаючыся шырока расстаўленымі нагамі; гэты стукат нібы акампанаваў рыпенню вяровак, што церліся аб перакладзіну.

Мікалас Джугас зняў шапку. Пляц раптам стаў незвычайна вялікі і пусты. Недзе справа і злева ішлі тратуарамі людзі. Аднак яны былі вельмі далёка і не большыя, як мурашкі; і дамы, і касцёл таксама пачалі аддаляцца, меншаць; горад, як велізарная крыга, раскалоўся напалам, і абедзве яго часткі распаўзаліся ў розныя бакі, пакідаючы

яго, Мікаласа Джугаса, аднаго на гэтым страшным месцы злачынства.

У жаху ён амаль бегма кінуўся міма помніка да тратуара. Ад жалезнай агароджы аддзяліўся чалавек і ступіў насустрач, але Мікалас Джугас, забыўшы надзець шапку, рухаўся проста на яго важкай паходкай аратага.

— Ведай, падла, перад кім шапку здымаць!

У твар дыхнула пахам цыбулі, у вачах пацямнела ад удару, і Мікалас Джугас асунуўся на брук. Калі ён узняўся, чалавек стаяў, абапёршыся аб агароджу, скрыжаваўшы ногі ў хромавых ботах і засунуўшы рукі ў кішэні: трохкутны твар, вытыркаючыся з настаўленага каўняра паліта, няветліва ўсміхаўся.

— За што, пане? — спытаўся Джугас, уздрыгваючы ад злосці і крыўды.

— Бачыце, яму яшчэ мала? А ці ведаеш, пара такіх, як ты, ужо сядзяць там, дзе ім ураз выб'юць ахвоту кланяцца чырвоным шыбенікам? У гестапа не хочаш?

— За гэтым плотам ляжаць людзі, з якімі я сядзеў у адным акопе, калі пана яшчэ не было на свеце.

— Якая мне справа да таго, што было калісьці. Выбірайся хутчэй адгэтуль да д'ябла ў! І падзякуй богу, што сёння я добры.

— Вам да каго?

— Я хацеў пабачыць паню Бяржэ... паню Вайнарэню. Я Мікалас Джугас з Лаўксадзіса.

Дзверы адчыніліся шырэй. Малады, нечым знаёмы жаночы твар, спачатку спалоханы, асвятліўся радаснай усмешкай.

— Заходзьце, дзядзька Джугас, прашу. Хіба не пазнаяце мяне?

— Мігратa!

— Яна самая. Калі ласка, у дом, дзядзька Джугас.

— Скажы мне, аднак, растлумач — ты што, уцякла з фальварка?

— Як быццам так выходзіць яно, дзядзька Джугас. Але прашу, прашу далей. Гарбаты завару. Мабыць жа, не елі, як прыехалі з дому?

Мікалас Джугас быў так здзіўлены, што не заўважыў, як Міграта зняла з яго кажушок. Не могучы сабраць думак, ён пакорліва ішоў следам за ёй з пакоя ў пакой, пакуль не абышлі ўвесь дом. Піяніна, кілімы, люстэркі, ра-

дыёапарат. Яна старалася звярнуць увагу госця на кожную рэч. А калі настала чарга туалета і ваннай, яна нават паказала, як спускаць ваду, і прапанавала памыцца па-гарадскому.

— Бачылі, якія прыгожыя гардзіны,— гаварыла яна, усаджваючы Мікаласа Джугаса на кухні за сталом, заваленым брудным посудам.— А якая падлога! Як усюды прасторна, светла, аж блішчыць! Ах, дзядзечка Джугас, чаго яшчэ хацець? Пабачылі б вы яшчэ шафы — колькі там усялякага дабра — сукенкі, кофтачкі, чаравічкі... Эх, каб жа яна яшчэ была майго росту!.. Але нічога, і так прыдадуцца, будзе на што сала мяняць.

— Гм... Дык як жа гэта так? — прамармытаў Мікалас Джугас, зусім збіты з панталыку.— Ты, Міграта, так сябе паводзіш, быццам ты гаспадыня ў гэтым доме.

— Гэтак яно і ёсць, дзядзечка.— Міграта засмяялася.— Калі прыляцела я ў тую ноч з фальварка ў Краштупены, не думала, што так усё складзецца. Ну, паны немцы вельмі прыемныя паны. Яны не выпускалі мяне да раніцы. А раніцай прыйшоў Адомас і прывёў мяне дамоў. Пані Мілду да таго часу ўжо забралі. Кажуць, у такое халоднае месца, дзе трымаюць нябожчыкаў. Ну, гэтага я тады яшчэ не ведала. Адомас сказаў, што ён развёўся з ёю і хоча, каб я засталася з ім. Я і засталася. Але гасподзь бог, каго любіць, таму і крыж дае. Першы і другі дзень яшчэ нічога, а потым — усё горш і горш. Можа, таму, што пані атруцілася альбо бандыты гэтак яго перапужалі. Зусім з твару змяніўся, зблажэў, вочы пазападалі, і з іх нібыта нейкі злы дух выглядае. То засмяецца ні з таго ні з сяго, то скажа штосьці — ні субоце ні панядзелку. Аднаго разу ўскочыў уначы, пачаў бегаць па пакоях і крычаць: «Задушыў, задушыў, задушыў!» Ох, які быў прыгожы сервіз, вы б толькі паглядзелі! Ударыла дурная кроў у галаву, схапіў бедныя талерачкі — і адну за адной бразь аб падлогу. Быў п'яны; аднак жа ў яго, калі ён п'яны, адна дурнота, а калі цвярозы — другая. Дактары, яны разумеюць, што да чаго, змогуць адрозніць. Кажуць, праз месяц-другі вернецца здаровенькі, як агурочак. З'ездзіла б я да яго ў той дом вар'ятаў, ды няма на каго памяшканне пакінуць. Гэтулькі дабра, а зладзеяў цяпер...

— Даўно? — прамармытаў Мікалас Джугас, трохі ачомаўшыся.

— Не, тыдзень будзе як забралі.

— Я пра паню... Мілду. Як гэта яна рашылася на такое?

— Хто гэта можа ведаць. Адомас не хацеў пра яе гаварыць, а я не дапытвалася. Атруцілася дык атруцілася. Ах, шкада чалавека, што і казаць, але калі так бог рашыў, мабыць, ведае, што робіць, дзякуй яму і за гэта. Сюды такі чорны афіцэр заходзіць. Вельмі ветлівы, аднак лепей было б, каб ён не заходзіў...— Міграта запнулася і пачырванела.— Дык ён мне, дзядзька Джугас, нібы нейкі сакрэт паведаміў, хоць я не магу зразумець, які гэта сакрэт, калі ўвесь горад чаўпе... Сказаў, што яна чытала забароненыя газеты, знюхалася з бандытамі, а калі ўбачыла, што гестапа ўсё выведала і што ёй давядзецца адказваць, адабрала ў сябе жыццё. Адомас, што і казаць, мог бы яе выцягнуць, але яны ўжо даўно не кахалі адно аднаго. Я гэта ведаю, дзядзька Джугас...

— Як жа, Міграта, ты ведаеш,— кіўнуў Мікалас Джугас, зусім заблытаўшыся ў гушчарэчы думак.

— Мы з Адомасам ужо з мінулага года, дзядзька Джугас. Я даўно ўжо яго ўпадабала. І ён мяне. Калі прыехаў тады ў Лауксадзіс наконт вашай гаспадаркі, мела надзею, што не абміне фальварка. Зварыла панам вячэру, прыбрала ў сваім пакойчыку, а сэрца... Ох, адкуль вам ведаць, што робіцца з дзеўкай, калі ёй хлапец падабаецца! Думаю, мае жонку, нібы і грэх, ну, а з другога боку, хто вінаваты, што яна такая кволая? Такому мужыку, як Адомас,— і жыць з гэткаю пальчаткай? Танюткая, драбнюткая, бледная! З сухой кляновай дошкі больш соку выдушыш, чым крыві было ў пані Мілды. Што з такой, слізгае паміж пальцаў, як нітка воўны. Мужыку трэба, каб было за што ўзяць. Дык вось, прыбрала я свой пакойчык, дзядзька Джугас, а сэрца... бім-бом, бім-бом — ну проста як звон. Ужо і цёмная ноч настала. Вецер, халадэча, а машыны ўсё не чуваць. Няўжо пан Адомас падаўся ў Краштупены, мінуўшы мой ложак? Сказала пані, што трэба збегаць да маці, кажушок на плечы — і ў вёску. А наша хата, як вы ведаеце, трэцяя ад стараставай хаты. Шумяць яны там, яшчэ не выбраліся! Павярнулася — і назад у фальварак. Ну, калі так, заляціць галубок, нікуды не дзенецца. Весела стала, дзядзька Джугас, я ледзь не заспявала, але гасподзь своечасова затуліў мне рот. Гэта было першае аб'яўленне яго святой волі, і тут жа, я яшчэ ішла ў абсадзе, другое аб'яўленне: прыперла мне з патрэбаю. Фальварак фальваркам, але там толькі ў паноў такія выгоды, як

тут — сядзіш у цяпле і можаш ваду спусціць, а наша, парабкоўская, прыбіральня адразу ж за хлявом, калі даводзілася бачыць. Ох, дзядзька Джугас, як добра выйшла, што яна там! Я ўжо канчаю, як раптам — мужчынскія галасы. Чужыя! Валасы на галаве заварушыліся. Не памятаю, што яны там гаварылі, ну, а мне яны страшэнна падазронымі здаліся. А як пачула, дзядзька Джугас, па-руску, сэрца ў пяткі ўпала. Сяджу, не ведаю, што рабіць. А дзверы бразгаюць, крычаць і па-нашаму і па-бязбожнаму: «Усіх у вялікую залу! Хутчэй!» Ну, тут апошняму дурню зразумела, што гэта за госці. Калі бяда прыцісне, адразу розуму набярэшся. Ох, нават сама не магу зразумець, як гэта ў мяне ўсё так спрытна атрымалася. Ну, гэта на самой справе, дзядзька Джугас, бог багаславіў. Калі б не такі моцны вецер, яны, пэўна, пачулі б. Ну і я не дурніца: вывела каня праз дзверы з кароўніка, а потым ускочыла на яго — і нацянькі па палях! Гасподзь бярог, а чорт нёс — вельмі хутка, дзядзька Джугас, я прыджгала ў Краштупены. Не хацелі мяне ўпускаць у камендатуру, дык я пачала лямантаваць на ўсё горла: «Бандытэн, бандытэн!» Прыбег чалавек, што па-літоўску ўмее. Выклала яму ўсё да апошніх драбніц, не пасаромелася сказаць і пра тую справу за хлявом. Ох, дзядзька Джугас, што тады ўсчалося! Як замітусяцца, як забегаюць! Тэлефоны звоняць, дзверы бразгочуць. А мяне — пад варту і ў другі дом. Гестапа называецца, як потым даведалася. Прывялі да гэткага шэра-зялёнага афіцэра — не да таго, што панадзіўся сюды наведвацца,— да іншага, начальніка над імі ўсімі. Аказалася, знаёмы, не раз бываў у пана Дызэ ў гасцях. Вельмі прыемны пан, дзядзька Джугас, такі духмяны, так ласкава ўсміхаецца. Даў мне пакойчык, каб я мела дзе перабыць да раніцы, і паставіў ахоўніка каля дзвярэй, каб мяне, як ён сказаў, не выкралі бандыты. А раніцай, як я ўжо сказала, прыйшоў у той дом, да чорнага начальніка, Адомас. Увесь збялелы, дрыжыць. Глядзіць на мяне проста страх якімі вачамі, губы трасуцца, слова не можа вымавіць. Як быццам нямы, дзядзька Джугас, альбо косткай падавіўся. А чорны начальнік весела ўсміхаецца, ляпае яму па плячы. Кажа, няма чаго смуткаваць, усё ўладзім, сабака не цяўкне. Ці мала добрых жанчын на свеце, кажа, і ўсё ляпае Адомасу па плячы. Паглядзі на гэтую гераіню. Сапраўдная Арлеанская дзяўчына. Калі б не яна, вісеў бы ты на жырандолі побач з Кучкайлісам. Забірай пакуль што яе, толькі такая жанчына зможа цяпер табе

дапамагчы. Пакуль што! Вось тут ён, дзядзька Джугас, праліčыўся. Гэта я адразу зразумела, як толькі мы пачалі жыць разам. Нават смешна, што закаханы мужык можа зрабіцца як малое дзіця. Вяртаецца, бывала, са службы — і адразу да мяне. Ні на хвілінку адзін у пакоі... Я на кухню — і ён туды, я ў другі пакой — і яму туды трэба. Ох, дзядзька Джугас, нібы я аполец сала, а ён згаладнелы кот. Нават уначы, калі ішоў па сваёй патрэбе, будзіў мяне, а калі мне трэба, ўставаў з ложка і сланяўся каля дзвярэй, пакуль не ўпраўлюся. Проста дзівосы — гарачае каханне. Ох, калі ўжо бог дасць, дык дасць, дзядзька Джугас. Не задарма ж і я яго, госпада нашага, шаную, але гэтакага шчасця, каб паняй зрабіцца... Ого! Тлусты кавалак мне дастаўся, няма чаго казаць.

Пакуль Міграта, выстаўляючы на стол гарбату, буркавала і ў нетаропкай гаворцы вылівала сваю душу, Мікалас Джугас ні разу не ўзняў на яе вачэй. Разбэрсаныя думкі зноўку ўвайшлі ў сваё рэчышча, аднак на сэрцы была такая пустата, што ў яго не было сілы ўстаць, хоць унутраны голас бесперастанку падганяў яго: трэба хутчэй адгэтуль ісці.

— На рыначным пляцы, бачыў, пяцёра чалавек вісяць.— Ён сурова паглядзеў на Міграту.— Пяцёра за аднаго...

— Ох, дзядзечка Джугас, які жах! Той сярэдні — наш Фрэйтка. Кажуць, не даўся жывы. Але ўсё роўна павесілі. Каб іншых запалохаць.

— Маглі б вісець шасцёра, калі б аднаго не забілі гэтым летам.

— Шасцёра? На шасцярых перакладзіна закароткая, дзядзька Джугас.

— Вось гэта праўда. Твой бацька быў шырокі ў плячах, не ўмясціўся б, але чорнаму начальніку няцяжка было б знайсці і даўжэйшую перакладзіну.— Мікалас Джугас адсунуў убок пастаўленую перад ім шклянку гарбаты і ўзняўся.

— Божа мілы, чаго вы гэтак? — Міграта дужа здзівілася, а яшчэ больш засмуцілася і схапіла старога за рукаў.— Ну, сядайце, дзядзька Джугас. Пагамонім. Я так знудзілася па вёсцы. Усе тут такія шляхетныя ды ганарлівыя, нос ад мяне адварочваюць. Усё адна і адна. Чалавечую мову можна забыць.

— А чорны афіцэр? — Мікалас Джугас рэзка турзануў рукаў і падаўся да дзвярэй.

— Якая там у яго размова. Усё роўна чужы. Баюся яго. Лепш бы ён не наведваўся, пакуль няма Адомаса, гэты афіцэр. Ну пабудзьце яшчэ, дзядзька Джугас...

Мікалас Джугас, не звяртаючы ўвагі наМіграціну просьбу, надзеў кажушок і не развітаўшыся выйшаў на вуліцу. Аднак яшчэ не хутка ён адчуў боль у разбітай скіўіцы: у галаве шумела, сэрца праціналі халодныя дрыжыкі ад усяго таго, што ён пачуў ад гэтай прыдуркаватай дзеўкі, а ў вачах стаяла яна сама — у чужым халаце, што ледзьве не лопаўся па швах, з голымі каленямі, з голымі па локаць рукамі, у нейкай дзіўнай вязанай шапачцы.

## III

Аквіля. Не, Марус, Гедымінаса на самой справе няма дома. Стары абышоў усіх знаёмых, аднак ніхто не мог сказаць пра яго нічога пэўнага. Толькі вартаўнік гімназіі сказаў, што бачыў Гедымінаса каля шыбеніцы, куды немцы сагналі ўсіх, каго захапілі на вуліцы, каб глядзелі на пакаранне. Каля Гедымінаса стаялі двое мужчын, апранутых у цывільнае, а потым яго кудысьці павялі.

Марус. Шкада, аднак ён сам вінаваты. Пасля таго як ён аддаў Путрымасу і Пуплясені прадукты, што прызначаліся немцам, мы сустракаліся. Я сказаў яму, што ў яго няма іншага шляху, як пайсці з намі. Не захацеў пэцкаць сваіх інтэлігенцкіх ручак у крыві забойцаў. Чаго так утаропілася? Дзівішся, што ўсе сырнікі ўплёў?

Аквіля. Вы сустракаліся?

Марус. Што тут дзіўнага? Ахвотна сустрэўся б яшчэ раз — можа, Гедымінас за гэты час набраўся здаровага розуму. Аднак баюся, што ён яму ўжо не спатрэбіцца.

Аквіля. Калі Джугасы пасобілі бедалазе Пуплясені і Чорнаму Куксу, яны малайцы. Не ведала.

Марус. Вось і не ведай. Гэтакімі ўчынкамі цяпер не выпадае хваліцца. Так, ёсць добрыя людзі, хоць яны і слабыя,— адной дабратой цяпер не пераможаш. Але яшчэ больш сволачаў, якія самі, праўда, крыві не праліваюць, і тым не менш... Бедны Пуплясіс! Калі б уваскрэс, памёр бы другі раз з ганьбы і гора: родныя дзеці — здраднікі.

Аквіля. Кястумерас ужо вярнуўся з працоўнай службы рэйха. Усю восень талакаваў на малацьбе.

Марус. Вырадак! А Міграце з найвялікшым задавальненнем сам бы адкруціў галаву! Два мае байцы, такія хлапцы, загінулі праз яе... А сапраўдны злачынца застаўся

цэлы. Табе, пэўна, прыкра, што я кажу гэтак пра твайго брата, але з песні слова не выкінеш.

Аквіля. Адомас мне не брат, Марус. З самага пачатку вайны мы з ім чужыя. А Мілды шкада. Калі Джугас сказаў, я доўга плакала.

Марус. Дзіўна... Пані начальніца і падпольныя газеты... Неяк не вяжацца. І канчаць жыццё самагубствам, калі муж, начальнік паліцыі, мог бы засланіць сваім крылом... Няважна, што згоды не было. Не веру. Тут нешта не так.

Аквіля. І ў мяне не ўмяшчаецца ў галаве, Марус. Я была ў яе ў той дзень. Частавала, іграла на піяніна. Была вясёлая, прыязная. Каб хоць слоўца прамовіла пра палітыку альбо нейкія газеты. Наколькі я ведаю яе, любіла прыгожа адзявацца, весела бавіць час, але каб палітыкаваць... Праўда, дзіўна. Вось будзе ўдар Гедымінасу, калі ён даведаецца — здаецца, яны ўсур'ёз кахалі адно аднаго.

— Ага, калі даведаецца...— Марус нявесела ўсміхаецца.

Аквіля журботна ківае галавой. Укінула ў кошык міску з лыжкай, відэлец, а адтуль выняла люстэрка, пасудзіну з вадой і Кяршысаву брытву. Марус ціха смяецца: слова гонару, ён адчувае сябе як у вялікую суботу. Можа, яна яму і лазню напаліць? О, чыстая бялізна! Прыемна, прыемна. Нарэшце зноўку свая вярнулася. У Кяршысавым споднім, трэба прызнацца, не надта ўтульна ён сябе адчуваў... У Хвеліксаса і пастава мажнейшая, і плечы шырэйшыя. Малайчына Аквіля, добра, што падумала пра брытву,— калі свята, дык свята. А брытва някепская, хоць лязо сцёртае, а тронак трэснуў. Мабыць, спадчына нябожчыка бацькі. Ах, што было б, калі б гэтая брытва ажыла? Скажам, раптам узяла і ператварылася ў Кяршыса. І знарок-незнарок шах Марусу Нямунісу па горле. Сядзіба, чатыры гектары зямлі...

У Аквілі ўспыхваюць шчокі: шмат пра што яны паспелі дагэтуль пагутарыць, але ні разу не пасмелі крануць сваіх ран. Імя Кяршыса не ўспаміналі — неяк абыходзілі альбо карысталіся займеннікам. А калі незнарок хто і прагаворваўся, дык слова Кяршыс гучала як назва якога колеру альбо рэчы. Ён быў побач, як гэтая салома на вышках, як стойла гнядога, але не паміж імі. Навошта Марус захацеў паклікаць сюды трэцяга чалавека, калі так добра ўдваіх? Гэта непазбежна, вядома... раней ці пазней... Але чаму сёння? Калі гэты трэці так далёка? Навошта клі-

каць цень таго трэцяга чалавека ў такі дзень, які мог бы належаць толькі ім дваім?

Прыгнечаная, яна пазірае на Маруса, што схіліўся над люстэркам. Пеніцца на твары мыла. Струменьчык пары з пракрытага рота. Нейкая святочная маска, што крыўляецца ў бляклым святле мігатлівага каганца, нібыта намервраецца напалохаць.

Пакуль ён паголіцца, яна сходзіць у хату — і так задоўга забавілася. Можа, варта паклікаць Куксу, хто ведае, калі яшчэ выдасца гэтакая зручная нагода? Марус круціць галавой: не, яна не застане яго дома, сёння Путрымас заняты куды важнейшымі справамі, чым наведанне хворых. Адкуль яму вядома? Ды ён быў тут ноччу...

— Пятрас? Тут?! Па начах?!

Чаму па начах? Два разы толькі наведваўся. Але, павер, не дзеля сваёй прыхамаці.

— Нельга Чорнаму Куксу лазіць тут па начах — ледзьве не крычыць Аквіля.— Кяршыс... Можна і сябе і іншых загубіць!

— Ведаю, Аквіля. Не думай, што я толькі пра сябе дбаю. Калі б гэта было так, Путрымас не заходзіў бы сюды гэтай ноччу.

Калі яна сабралася зноўку ў клуню, у хату ўляцела Юста. Вясёлая, жвавая, як заўсёды. А лапатуха — не дасць слова вымавіць. Пакуль скажа, чаго прыйшла, Аквіля мусіць выслухаць усё, што ў сястры на языку. Божа, праз гэтых немцаў можна [illegible] нуды ашалець. Бывала, па нядзелях танцавалі да позняй ночы, а цяпер вечарам пакармілі скаціну — і па дамах. Якая тут пацеха — сярод белага дня? Ну і падклалі ж бандыты ўсім гэтакую свінню, што а-я-яй. Нібы не змаглі знайсці іншай вёскі і іншага Кучкайліса, прынёс іх д'ябал у Лаўксадзіс! Каб хоць немцы былі цікавейшыя. Адзін, праўда, нічога сабе — не лысы і не сівы. Яшчэ маладзенькі. Фельдфебель. Танцуе — проста дзіва. Гэты дык сапраўды «зэр гут».

Толькі праз паўгадзіны Аквіля даведалася, што Юсту прыслала маці, просіць зазірнуць сёння. Блага са старой — не на жарты скруціла хвароба, не можа з ложка ўстаць. Аднак пакуль Аквіля выправіла Юсту дамоў, прайшло яшчэ паўгадзіны. Неўзабаве трэба будзе і абед гатаваць. А там і Кяршыс заявіцца...

— Думаў, што ўжо не прыйдзеш.

У сховішчы яшчэ не растаў пах патушанага тукавага каганца. Можа, адхіліць салому ў паддашку? Прасачылася б хоць трохі святла. Яна так хоча пабачыць яго твар без той маскі з мыльнай пены.

— Ведаеш, пра што я думаў, калі пайшла?

— ?

— Мяне ахапіла такое шалёнае жаданне вылезці з гэтай праклятай ямы, па-чалавечы сесці за стол, што ледзь не заплакаў. Ты разумееш мяне, Аквіля?

— Разумею, Марус, як тут не зразумець.

— Мінулай ноччу сніўся ён мне, наш хлопчык. Здавалася, я гушкаю яго на каленях, а ён тузае мяне за валасы. Ты пайшла, а я прыгадаў гэты сон і ўявіў, як ты ходзіш па хаце, а ён бегае ўслед за табою, учапіўшыся за спадніцу.

— Ён вельмі прывязаўся да Юліты...

— Юліта...— Марус маўчыць, цяжка дыхае.— Ці ўспамінае яна хоць калі пра мяне?

— Часта гаворыць, але ведаеш, якая ў яе гаворка... Смутак бярэ.

— Та-а-ак. Такому чалавеку лепш не жыць. А ці наш хлопчык ужо гаворыць?

— А як жа, Марус. Усё разумее. Калі б ён быў маленькі, я што-небудзь прыдумала б, каб паказаць яго табе... Але цяпер гэта нельга, Марус.

— Ведаю, што нельга.— Перарывісты шэпт западае ў цемру, і зноў ціша. Шамаціць, асядаючы, салома.— Нічога мне нельга, Аквіля. За некалькі крокаў сынок, сястра, аднак я не маю права абняць іх. І хто ведае, ці абдыму калі. Ці пераступлю парог роднай хаты, стану на калені каля магілы бацькі, Генуты... Хто ведае...

Яна прысланяецца каленямі да яго пасцелі. Ужо не адчувае плячамі мулкай кроквіны. Нябачныя рукі працягнуты да яе, і яна хіліцца, хіліцца насустрач ім... Чорная пустата...

— Вайна хутка скончыцца, Марус...— Аквіля хацела б сказаць, каб ён, калі паправіцца, не ішоў у той свой лес — столькі людзей хаваюцца ад немцаў і не ваююць,— аднак раптам сама палохаецца гэтай думкі.— Ты вернешся ў Лаўксадзіс, і, калі захочаш... калі захочаш, усё будзе, як было раней.

Ён маўчыць, пакутліва доўга маўчыць. Твары абаіх так блізка, што яны адчуваюць дыханне адно аднаго.

— Вярнуся. Зразумела. Мушу вярнуцца...— Запнуўся.

Марудзіць, стрымаўшы дыханне, быццам баіцца, каб разам з выдыхнутым паветрам не вырваліся словы — яшчэ не абдуманыя, народжаныя толькі пачуццём,— якія аднялі б у іх апошнюю надзею.— Я прычыніў табе гэтульк і клопату, Аквіля. З тым савецкім лётчыкам табе было куды прасцей...

— З лётчыкам?..

— Але, Путрымас мне расказаў. Ты здрадзіла нашаму каханню, аднак усё роўна засталася чалавекам. Дзякуй, Аквіля.

— Здрадзіла... Калі б ты ведаў...

— Ведаю: думала, што загінуў. Не дакараю. Не многа такіх жанчын, якія не хаваюць каханне разам з каханым. Пасля вайны, вярнуўшыся дадому, не толькі я не знайду той, якая чакае.

«Я цябе буду чакаць, Марус! Буду чакаць! Я ўсё роўна кахаю цябе...» Але яна стрымліваецца: словы здаліся б насмешкаю. Аказваецца, часам самая шчырая праўда можа гучаць як злосны здзек.

— Ты не ведаеш усяго, Марус...

— Калі мне было вельмі цяжка, я ўспамінаў дом. Маці, бацьку, сясцёр. Я не ўяўляў іх без цябе. Ты сядзела насупраць печы, распусціўшы косы, як у той непагодлівы вечар, калі мы, прамоклыя да касцей, вярнуліся з возера. А на тваіх каленях наш хлопчык. Тады я раптам адчыняў дзверы і ўваходзіў у хату... Колькі трэба для першай сустрэчы? Некалькі хвілін. А я прамарыў аб гэтым многа-многа доўгіх гадзін. Часам здавалася нават, што сапраўдны сэнс барацьбы якраз у гэтай, да вар'яцтва шчаслівай, хвіліне сустрэчы, і калі думаў пра яе, забываў аб цяжкай салдацкай долі.

Аквіля, як у сне, прыўзнімае руку і паволі пагружае ў шалахлівую цемру. Яго твар, напэўна, вільготны — чамусьці яна ўпэўненая ў гэтым. Яна хоча пагладзіць вільготныя шчокі. Але прыглушаны ўздых затрымлівае руку. І зноў шэптам льюцца тужлівыя словы. Грукочуць цягнікі, у якіх стогнуць параненыя. Крывавае поле бою. Быццам адкрытыя раны — ямы, высечаныя ў засыпанай снегам зямлі на забітых. «Раптам я адчыняў дзверы і ўваходзіў у хату...» З тых цягнікоў, з таго поля з мёртвымі, з тых ям, што, як адкрытыя раны, цямнеюць у снезе, уваходзіў у свой дом, каб пажыць у мары, якой не суджана было спраўдзіцца.

— Даруй, калі можаш, Марус.

— Я сказаў: не асуджаю. Быў час, калі не мог апраўдаць, але тады шмат чаго пра цябе не ведаў.

— А цяпер? Ці ўсё цяпер ведаеш?

Ён маўчыць.

Тады яна нахіляецца яшчэ ніжэй. Нахіляецца так нізка, што адчувае цяпло ягонага твару, якое лашчыць яе шчокі, нібы пяшчотнае крыло птушкі. А можа, гэта цяпло, якое з гарачым шэптам плыве з яе вуснаў? Ёй няма чым, зусім няма чым апраўдацца. Ды яна і не хоча. Толькі страшэнна шкада, што немагчыма вярнуць таго, што прайшло: вечароў на абрыве Гілужэ, смалістага паху соснаў, густога гудзення пчол на квяцістым чэрвеньскім лузе. Але пакажы мне хоць бы адно імгненне, Марус, што паўтарылася б гэткім, якім было калісь...

Перарывістае дыханне.

Яна дакранаецца кончыкамі пальцаў да яго шчакі. Вільготнай, дрыгатлівай. І тады цемра працягвае да яе рукі. Гарачыя, нецярпліва чакальныя. Шмат рук. Яны абдымаюць за шыю, за плечы, за стан, гладзяць па галаве. І яна, радасна паддаючыся ім, прыпадае губамі да губ.

— ...Ты абрэзала свае дзівосныя косы...— — — —
— — — — — — — — — — — — — —

— Паміж жэрдкамі шырокая шчыліна. Вось тут, у галавах. Учора ўначы я разгроб салому і да абеду прачакаў. Бачыў, як вы з Кяршысам кармілі скаціну.

— Ашалеў!

— Я спадзяваўся, што ў хлеў забяжыць наш хлопчык... Ты магла б яго прывесці. Каля стойла добра відаць. Ён называе Кяршыса татам?

— Марус, ах Марус...

— Чаму ты дрыжыш? Нічога страшнага. Я гэту салому ўначы... А з хлява шчыліны не заўважыш. Дый нашто Кяршысу глядзець угору?

Яна вагаецца, але страх бярэ верх. Нашто Кяршысу глядзець угору? А што ты ведаеш? Можа, ён ужо не першы дзень нешта чуе.

І яна асцярожна, стараючыся супакоіць сябе і Маруса, дзеліцца сваімі назіраннямі.

Доўгая ціша. Здаецца, ён усур'ёз устурбаваны.

— Чаму нічога не казала раней?

— Ты думаеш...

— Не здзіўлюся, калі ён сёння прыедзе дамоў не адзін. А можа, прыдумае што-небудзь разумнейшае. Скажам, патаемна дамовіцца з якім-небудзь немцам з вёскі і выку-

рыць мяне з гэтага ўтульнага кутка.— Марус хрыпла засмяяўся.— Але нашто выкурваць — сам выйду. Калі не будуць трымаць ногі — на каленях. З узнятымі рукамі. Самае лепшае, што я змагу зрабіць,— гэта ўкласці ў рот дула пісталета і спусціць курок. Але не — ім трэба жывы Марус. Ведаю я фашысцкую натуру. Інакш — выстраяць вас усіх каля сцяны ў гэтым хляве. Будзе пяць трупаў.

— Не кажы так.

— Кажу, як можа быць.

— Божа мой, божа...

— Не хацелася б так па-дурному злажыць галаву. Не сябе шкада: многа спраў недаробленых. Сябрам я патрэбен. Каб хоць на некалькі дзён пазней. Паршыва ўсё склалася!

— О-о, гэта праз мяне, усё праз мяне. Я вінавата, Марус!

— Супакойся. Можа, яшчэ абыдзецца.— Зноў гэты непрыемны прыглушаны смех.— Часам не шкодзіць памарыць пра недалёкую будучыню...

Яна раптам ускочыла на ложку. Ратунак! Вядома, калі нічога не здарыцца гэтай ноччу.

— Слухай, Марус! Слухай! — Учапілася яму ў плечы, трасе.— А што, калі да Джугаса? Га? Стары прыехаў бы па цябе ўначы... Хутар, як і ў нас. Добры чалавек. Адзін. Ну, Марус? Я магу зараз жа...

— І не думай!

— Не давяраеш! Такому чалавеку...

— А што, калі на яго хутар заўтра-паслязаўтра нехта іншы прыедзе? І, шчыра кажучы, чаму я павінен яму давяраць? Добры чалавек, кажаш. Многа добрых, а памахае смерць пальцам перад носам... Селянін можа засеяць суседава поле, калі той захварэе, але не ляжа паміраць за яго на лаву.

— Мы з бацькам жа рускага салдата...

— А мне твой бацька нічым не можа дапамагчы.

Гэта праўда... Яна вобмацкам накідвае хустку, надзяе кажушок — пара карміць скаціну. Потым абое застываюць у доўгім пацалунку, быццам развітваюцца перад доўгай небяспечнай вандроўкай, з якой мала надзеі вярнуцца.

## IV

Пасярод двара — дубовы зруб студні. Сцежка ў хлеў, сцежка ў хату. У летняй загарадзе для скаціны валяюцца пустыя кашы. Рудзькава будка. Усё, як пару гадоў таму назад, калі, праважаная матчынымі праклёнамі, пакідала родную сядзібу.

Куткавое акно ў святліцы. Белыя аканіцы з сэрцайкамі. Нанач маці іх зачыняла, але Аквіля даўмелася змазаць завесы тлушчам, каб не рыпелі.

Сажалка за гумном. Тут яе чакаў Марус... Божа, якія кароткія, напоўненыя неспакойнай радасцю былі летнія ночы!

Рудзька турзаецца на ланцугу, здаецца, жыўцом з'есць. «А былі такімі сябрамі...»

— Ша, Рудзька, ша! Не пазнаеш?

Паміж свірнам і хатай — вішнёвы сад. Санлівае снежаньскае сонца пазірае праз голае веццe. Вогненнае ядро, што рассыпаецца на асколкі раней, чым запасці ў зямлю. Падталы снег пахне палявым ветрам. Капае са стрэх. На палыселай латкамі страсе на хляве натоўпяцца галубы. Як падобна ўсё на раннюю вясну!

Насустрач выбягае Юста.

— Чаго па двары сланяешся,— упікае яна.— Пані знайшлася, запрашаць трэба. Забыла ўжо, дзе ў хаце дзверы?

— Бацька дома?

— Абедае. Толькі што з Краштупенаў вярнуўся.

Аквіля ахвотна пасядзела б на кухні з бацькам, але паспявае толькі павітацца: Юста ўпіхвае яе ў вялікі пакой. Без адгаворак, пані Кяршэня, без адгаворак. Праўда, гэтакай госці месца ў святліцы, але там цяпер холадна — не палілі.

Юргіс сядзіць у кутку каля радыёапарата. У драўляных чаравіках, у пінжаку, да якога папрыставала пацяруха,— як прыйшоў з хлява, пакарміўшы скаціну, так і ўторкнуўся ў газеты.

— Гэты свінтус кожны раз палову хлява прыцягне з сабою ў хату, не паспяваю прыбіраць,— сварыцца Юста.

— А-а, панна Аквіля.— Юргіс, не ўстаючы, соўгае сястры руку. На твары скупая бацькавая ўсмешка. Як ён выцягнуўся за апошні час! — Шкада, што раней не прыйшла: убачыла б Юсцінага кавалера.

— Ён будзе яшчэ тут плявузгаць! Хутчэй выносся адсюль са сваімі бруднымі чаравікамі!

— Прыходзіў разам з настаўнікам,— пацвельваецца Юргіс.— Я думаў, ён яго за свата прыхапіў. О, настаўніку спадабаўся б гэткі занятак. Цяпер, калі немцы занялі школу, часу ў яго хоць адбаўляй.

— Годзе балабоніць! — Юста, падляцеўшы да Юргіса, сцягвае з яго ног чаравікі і выкідвае ў сенцы.— Не можаш пераабуцца як чалавек. Клянуся, другі раз укіну ў печ і спалю.

Юргіс дабрадушна ўсміхаецца, варушачы шырокімі ступакамі ў шэрых ваўняных шкарпэтках.

— Бачыш, Аквіля, якая яна чысцюля. Гэты фельдфебель ёй зусім галаву задурыў. Бачыла б ты, як яна тут чырыкала, калі яны зайшлі з настаўнікам. Хабт, хатэ, гэзагт, ух вэй бум. Пяць слоў і тыя на літоўскі капыл. Праўда, пан настаўнік па-нямецку лапоча як па пісаным, але ў Юсты з тым прусаком і без перакладчыка адмыслова атрымліваецца. Тэрэ-фэрэ, айн, цвай, драй, ха-ха-хі. Бяда толькі, што кавалер сёння не з той нагі ўстаў.

Юста падскочыла да Юргіса, малоціць яго кулакамі па спіне, учапілася ў валасы, аднак брат, не зважаючы на гэта, гне сваё. «Я, я, дас іст піхт гут». Кепская справа з суайчыннікамі пана фельдфебеля. Дапялі былі да Чорнага мора, а ўчора ўжо і Гомель пакінулі. За год паклалі чатыры мільёны нямецкіх салдатаў і страцілі дзве трэці рускіх земляў. Калі немцы і далей будуць шыбаваць гэтакім тэмпам, паспяхова «скарачаючы фронт», дык у касавіцу ад Юсцінага жаніха і духу не будзе ў Лаўксадзісе.

— Наш дурненькі Юргяліс збіраецца стаць генералам,— здзекуецца Юста.— Намаляваў карту «Сто кіламетраў сюды-туды». Смех бярэ, калі ён, начытаўшыся нямецкіх паведамленняў з фронту, «займае» гарады, а потым, наслухаўшыся ўцекачоў-літоўцаў з Масквы, ледзь не плачучы «аддае» гэтыя гарады рускім. Далібог, не я буду, калі наш дурненькі Юргяліс не папячэ сабе скуры, слухаючы Маскву.

Юргіс хіхікае ў кулак: чаго баяцца такіх ідыётаў, як немцы.

— Я сказаў гэтаму даўгарыламу фельдфебелю — нос у яго, як дзюба ў дзятла,— што яны даўно маглі б заняць Маскву, калі б па-чалавечы паводзілі сябе ў акупаваных краях. Але настаўнік пераклаў інакш. Тады я спытаўся, што яны думаюць рабіць, калі бальшавікі падступяць да

межаў Літвы. Настаўнік зноў-такі схлусіў. Баязлівец! Вядома, адкуль гэты недалугі фельдфебельчык можа ведаць, як Гітлер паверне палітыку, але Гітлер быў бы апошнім аслом, калі б не даў Літве незалежнасці. А калі б даў — мы ўсе за зброю, сталі б на дзяржаўнай мяжы — ніводнага не ўпусцілі б на нашу зямлю. А немцы няхай стаяць на сваёй мяжы.

Юста фыркае, штурхае Аквілю. Далібог, можна лопнуць са смеху! Дурненькі Юргяліс стане на мяжы — і ўсе рускія, як вераб'і, што ўбачылі пудзіла, пырх у бакі.

— Лепш соплі падатры, чым усялякую лухту чаўпці,— устаўляе бацька, выйшаўшы з кухні.— Ваяка знайшоўся.

— Ваяка не ваяка, а ведаю трохі больш, чым пішуць газеты гэтага фельдфебеля.— Юргіс выцягвае з этажэркі нейкую кнігу і, не трацячы годнасці, тэпае на кухню.

— Чытай, чытай усякія смярдзючыя лісткі, пакуль галавы не скруціш,— кідае ўслед яму бацька.— Смаркачы! Яны затрымаюць рускіх, калі немцы, такая сіла, не могуць даць ім рады. Што новага ў вас, Аквіля?

«Што новага... Шмат чаго, вельмі шмат чаго новага, тата...» На самой справе, чаму б не параіцца з ім? Не расказаць усё, як яно ёсць? Няўжо і ён, як Марус, думае, што Мікалас Джугас не ляжа за іншага паміраць на лаву?

— Зайшла маму праведаць,— няцвёрда кажа яна.— І па вас засумавала, хацелася б пагутарыць...

— Ну, ну? — падбадзёрвае стары.

Аквіля паказвае вачамі на дзверы пакоя, дзе ляжыць маці. Адчыненыя. Чуваць, як рыпіць ложак. Прачнулася. А можа, і не спала?

— Я магу пайсці, калі такія сакрэты,— пакрыўдзіўшыся, ускоквае Юста.

— Якія тут сакрэты, Юста, сядзі,— супакойвае сястру Аквіля.— Ці не сустракалі Кяршыса, тата? Як там з камісоўкай? Хвэлька вельмі баяўся за гнядога.

Бацька крэкча, пажаўцелымі ад тытуню пальцамі цярэбіць рудыя вусы. Эх, немец ужо не той, што раней. Многія спрабавалі падмазаць камісію, але мала каму ўдалося. Секлі без жалю. Як толькі конь спраўнейшы ды маладзейшы, квіток у зубы — столькі і столькі будзе заплачана — і на станцыю. Аднак жа той, хто сёння заявіўся на камісоўку, можа яшчэ дзякаваць богу — забралі толькі коней. А ўчарашніх абабралі да ніткі — з фурманкамі ўзялі, са збруяй. І прыставілі да кожнага каня па чалавеку. Самі мусяць сваіх карміцельцаў даставіць на месца. А дзе тое

месца, ніхто не ведае. Кажуць, адзін з камісіі прагаварыўся, што гэтыя коні з фурманкамі трэба пад Ленінградам. Патроны, прадукты падвозіць да акопаў, а адтуль — параненых. Набачацца людцы, чаго ад веку не бачылі, беражы іх божа!

— Гітлер, відаць, даўмеўся, як Ленінград узяць,— кпліва зазначае бацька.— Дзе табе, чалавеча, прабіць фронт конскімі капытамі, калі трэці год усе твае ваенныя машыны нічога не могуць зрабіць.

— Годзе табе мянціць языком! — крычыць са свайго пакоя Катра Табака.— Навучыць ён, баран з бараноў, вучонага, як ваяваць трэба. Лепш стань на калені ды памаліся богу, што каня не забралі.

Бацька адразу меншае.

— Ды ўжо ж, пранесла. Можа, старшыня заступіўся ці так шчасце спрыяла...— Запнуўся, адвёў вочы ўбок, але Аквілі зразумела, што ён падумаў: «Адомас усё роўна начальнік паліцыі, хоць і ляжыць часова ў доме вар'ятаў...» —А Хвэлька свайго гнедку... Але няма чаго засмучацца, не ў аднаго яго такая бяда. Трэба радавацца, што не трапіў пад учарашні ўдар.

— Чаго ты аплакваеш Кяршыса,— зноў азываецца Катра Табака са свайго ложка.— Праз яго немцы ў нас такога ардэна забралі! Няхай пакусае пальцы, будзе ведаць, як нам было соладка. Не, Кяршыса ты не пераплюнеш, не шкадуй. Сёння ён страціў, а заўтра ўдзесяцёра здзярэ. Умее жыць, не тое што ты, хамут няшчасны.

Аквіля ўстала. Ах, з прыемнасцю б выйшла, нават не зазірнуўшы да маці. І не адчула б ніякай ганьбы, ніякіх дакораў сумлення.

— Як ваша здароўе, мама?

— А-а, гэта ты? Знайшла нарэшце дарогу ў свой дом?— Старая сядзіць на ложку, абапершыся аб горку падушак. Сівыя валасы раскудлачаныя, твар зямлісты, схуднелы, як сушаны грыб. Тонкія губы яшчэ больш патанчэлі — нейкія танюткія палосачкі, прыліплыя да папсутых зубоў. Аднак вочы надзіва жвавыя і маладыя. Аж няёмка глядзець у іх: разваліна ўжо, а гэтулькі злосці і здзеклівасці ў паглядзе!

— Сядай, госцяй будзеш. Ну вось, і тваю маці адолела хвароба. Трывушчую з трывушчых. Пачалося з галавы — і пасунулася ўніз, уніз... Душыць. Пад сэрцам млосна, нібы нагамі таўклі. Доктара да мяне прывозілі, але што гэтыя дактары супраць волі божай? Няўжо прыйшла пара ногі выцягнуць?

— Нічога,— кажа Аквіля, не гледзячы на маці.— Паправіцеся.

— Адно кажаш, другое думаеш. Не хлусі, бачу: чырвоную сукенку надзенеш, калі памру.

— Вы мне сонца не засціце.

— Ведаю, усе вы чакаеце, калі акалею. Надакучыла. І ўсё таму, што дабра вам хацела. Людзей з вас зрабіць хацела, на ногі паставіць. На гару пхала воз, а вам не падабалася. Вядома, з гары весялей тарахцець, але ці далёка? Адпусціла б лейцы, дык гэты баран з бараноў даўно зрабіў бы нас галапузымі, якім сам быў трыццаць гадоў таму назад.

Аквіля сядзіць на крэсле ў нагах у маці. Цяжкае паветра закаркаванага памяшкання, насычанае пахам лекаў. За акном — шэры куст шыпшыны, дрэвы па-над страхою гумна. Далей палі пад бедным кажухом пернага снегу, спярэшчаным чорнымі латкамі. Над пагоркамі расселіся сядзібы, уздоўж равоў маркоцяцца купкі сіратлівых хмызнякоў, туманлівая сцяна лесу падпірае нахіленае нябеснае скляпенне. Пайсці б у гэтыя звечарэлыя палі і ніколі больш не вярнуцца!

— Адатнуліся ад маці, як скарынка ад буханкі хлеба,— наракае старая.— Адомас, гэткі ўжо добры сын, і той, прыязджаючы ў Лаўксадзіс, не знаходзіць дзвярэй роднай хаты. Што я яму зрабіла? Можа, кепскага хацела, калі забараняла браць Дайлідаву Мілду, гэту шлюндру са шлюндраў? Паслухаўся б мяне, калі гэта сука была яшчэ ў дзеўках, не прысох бы да саламянай удавы — усё інакш павярнулася б. Баран з бараноў! Выпіла баба атруты, і яму ўсё змяшалася ў галаве. Бацькава кроў. У нашым родзе Яўтакісаў не вадзілася такіх вахлакоў.

— Але і такіх, што людзей стралялі, таксама не вадзілася,— не вытрымала Аквіля.

Твар у старой балюча перасмыкнуўся. Яна прыціскаецца да горкі падушак, пасінелымі губамі хапае паветра. Можа, боль здушыў, а можа, усім цяжарам наваліліся на яе гэтыя словы. Бароніцца ад іх, махае ў сябе перад носам звялымі рукамі.

— Гаворыш, абы гаварыць. Хто страляў? Каго? Плёткі вясковых галадранцаў. Бальшавікоў! Ненавідзяць уладу, вось і мелюць языкамі, брэшуць. І ты разам з імі. Супраць роднага брата! Ачомайся! Нехта недзе пачуў, падхапіў з дзесятых рук. А хто бачыў? Пакажы хоць аднаго. А калі нават нешта і было... Служба, абавязак. Ва

ўсе часы ўсякая ўлада карала сваіх ворагаў. Хрысціяне ішлі супраць хрысціян, і то бог благаславіў — не грэх забіваць салдату. А тут вайна з бязбожнікамі. Святую веру бароніць. Як у цябе язык паварочваецца! Гэтакае на свайго брата? Чым бязглуздыя плёткі разносіць, лепш бы з'ездзіла адведаць.

Аквіля маўчыць, упарта пазірае ў акно. У грудзях усё ажно віруе. Засыпала б маці гарою найгоршых слоў, аднак хоча як мага хутчэй закончыць пакутлівую размову. «Калі б яна ведала, што мае губы, якія толькі што датыкаліся да яе лба, нядаўна цалаваў Марус...» У страху скурчылася, быццам учэпісты матчын позірк мог прачытаць яе думкі.

— Можа, Кяршыс вярнуўся. Пайду,— кажа яна, намерваючыся ўстаць, але матчын голас зноў прыціскае яе да крэсла.

— Не паедзеш да брата — па мэмры бачу. Шалапутка з шалапутак. Нейкі бальшавік даражэйшы ёй за роднага брата. Што, можа, няпраўду кажу? Ага, нават вушы пасінелі. Вар'яты! З тым рускім салдатам маглі ўсіх загубіць.

— З рускім салдатам? — Аквіля з палёгкай уздыхае, пачуўшы апошнія словы, але ўсё яшчэ адчувае, як варушацца валасы на галаве.

— Не выкручвайся, гэты баран з бараноў мне ўсё расказаў. Прывалаклі з лесу, запхнулі ў сена. Калі б не Адомас, хто ведае, чым бы скончыліся вашы праявы.

— Адомас...— Аквіля з нянавісцю зірнула на маці.— Так, ён зрабіў тое, што вы таксама зрабілі б: выкінуў чалавека, што паміраў, на вуліцу.

— Гасподзь наканаваў яму памерці ў лесе, аднак вы не паслухаліся волі ўсявышняга, вось ён і памёр у іншым месцы.

— Думаю, яшчэ не позна данесці на мяне ў гестапа.

Старая выбухае трохпавярховай лаянкай, а потым пачынае смяяцца. Дзіўна хіхікае, фыркае, быццам кошка перад сабакам. Знайшлі ад каго хавацца — ад свайго чалавека! Гэты баран з бараноў — зразумела. Альбо Аквіля. Ёй увесь час бракавала адной клёпкі. Аднак жа Адомас! І гэты ні слова. Нібыта не яна, Катра Вайнарэня, а сам д'ябал яго нараджаў. Каб не Юргіс, так бы і не ўведала нічога, што тады дома тварылася.

Ох, гэты паганец з паганцаў! Без нажа хоча маці зарэзаць. Кнігі, газеты, радыё. Да работы з кіем не загоніш.

Крычы не крычы, а ён сваё робіць: круціць гэтую бражджотку і зубы выскаляе. І адно дзяўбе: рускія ідуць! Прыйдуць ці не прыйдуць, пан бог ведае, але калі падумаеш, што гэта можа здарыцца, сэрца ў грудзях замірае. Авох! Тады ўжо развітвайся з гэтым светам. Усім пассякаюць галовы, як качаны капусты, за тых жыдоў. Не апраўдаешся: я ж не страляў,— пакладуць у ямы, як немцы паклалі іхніх таварышкоў, і нічога не зробіш. Гэта яны ўмеюць, ведаем: усе газеты пішуць пра зверствы бальшавікоў. Дык вось, пазаўчора Юргіс як распусціў глотку... Рускія занялі такія і гэтакія гарады, забілі столькі і гэтулькі немцаў... Назад ужо не ідуць, усё пруць наперад і наперад, усё бліжэй да Літвы... Як пачне, як пачне — а балбатаць гэты прыдурак з прыдуркаў умее,— ёй, Катры, нават блага зрабілася. Такі страх узяў, нібы фронт ужо тут, у двары поўна салдатаў, а ў вокны цэляцца іх доўгія стрэльбы. Пачала крычаць не сваім голасам, клікаць на помач. У пакой ускочыў бацька, збегліся дзеці, кінуліся супакойваць, аднак ёй усё роўна ўсюды мірсціліся рускія, так і не змагла заснуць да раніцы. Тады гэты баран з бараноў і сказаў ёй: мы з Аквіляй хавалі рускага лётчыка і той выдаў такую распіску, каб бальшавікі, калі прыйдуць, нічога кепскага Вайнарасам не рабілі.

— Не дай божа, каб давялося хапацца за гэтую паперку. Але калі давядзецца... Можа, толькі паглядзяць на яе, як на якую саломінку, плюнуць — і за горла... Але тапелец і за саломінку хапаецца. Адвядзі, госпадзі, гэта няшчасце з няшчасцяў.

Змарылася, замоўкла. Рысы твару памякчэлі, вочы пабляклі. Сінія палоскі губ варушацца: канчаюць нявыказаную думку альбо шэпчуць малітву свайму богу?

Аквіля ўстае, марудзіць, намагаючыся перамагчы агіду. Але дарэмна. Унураны ў падушкі твар адштурхоўвае ад сябе, і яна, не пацалаваўшы маці, бокам выбіраецца з пакоя. Яе праводзіць змрочны позірк, у якім больш горкай крыўды, чым злосці.

Бацька стаіць на двары, прыхінуўшыся да плота, жуе гарох. Толькі што сыпануў жменю галубам, і тыя дзяўбуць, хмарай апусціўшыся да яго ног.

— Паглядзі, якая ў мяне сямейка,— усміхаецца ён, убачыўшы Аквілю. Шчаслівы, як і гэтыя птушкі: ніхто на яго не сварыцца.— Развялося іх — не злічыць, трэба будзе больш кашоў падвесіць пад страхою. Падабаецца ім тут. Няхай плодзяцца. Няхай хоць птушак большае, калі

людзей меншае. Аднак жа як там пачувае маці? — нарэшце згадвае ён.

— Хворая як хворая. Зайду як-небудзь зноў адведаць.

— Заходзь, заходзь, Аквілюта. Абое з Хвеліксам заходзьце.

Аквіля здалёк агінае галубіную чародку, каб не спужаць. Каля Рудзькавай буды круціцца Юргіс. Яна махае ім абодвум. Юсты нідзе не відаць. Мабыць, панеслася ў вёску.

— Здаецца, ты мне хацела нешта сказаць,— даганяе бацькаў голас.

Ах, пра Маруса! Не, цяпер ужо не...

— Спяшаюся. Другім разам, тата.

І адыходзіць не азіраючыся. Ледзьве не бегма, хоць і спяшацца ёй няма куды.

Панурыя старыя дрэвы за гумном. Сядзібы. Голыя купкі кустоў абапал равоў.

«...Тады гэты баран з бараноў і сказаў, што ён мае такую распіску...»

...Такая пустэча ў палях! Ажно сэрца шчыміць...

## V

Вароты шырока адчыненыя. Нібы на падворак уваліўся цэлы полк гасцей. Свежая каляіна. Збруя абы-як кінута на ганак каля свірна. Хіба гэта ў Кяршысавай натуры? Гнядога, праўда, забралі, але ці гняды прычынай?..

Са здранцвелым сэрцам спяшаецца ў хату. Яго няма. За клуняй — калёсы, між аглобляў валяецца пуга. Нават пад паветку не паставіў фурманку. Убягае ў клуню, але і тут пуста. Вочы міжволі шмыгаюць угору, слізгаюць па бэльцы. Цьфу! Дурнейшай думкі быць не можа... Топчацца на месцы, глядзіць у той бок, дзе хлеў. Нічога там не змянілася, аднак нешта і не так, як яна пакінула. Драбіна! — нарэшце заўважае яна. Калі злезла, забыла паставіць яе каля тарпы сена, і вось яе няма на ранейшым месцы. Няма ні тут, ні там. Яна выходзіць з клуні, зазірае пад паветку. Вось яна дзе! Засунута каля самай сцяны за дошкі, толькі кончык тырчыць.

...Кяршыс у хляве. Стаіць ля каровіных ясляў, пазірае на столь. У руках вілы. Аквіля не адразу заўважыла, што гэта не гнаявыя вілы, не сахор, а двухзубыя, на доўгім дзяржаку, якімі жанчыны падаюць адна адной салому, калі кідаюць стог.

— А-эх, а-эх... І яна аб'явілася,— стогне ён, убачыўшы Аквілю.

Яна нешта ляпеча, ашаломленая выразам ягонага твару. Першы раз бачыць яго такім. Не, бачыла ўжо — калі на Лаўрукасавых хрэсьбінах ён ударыў Кучкайліса.

— Хадзіла да бацькоў...— нарэшце ўдаецца ён суняць дрыгаценне губ.— Кажуць, нашага гнядога забралі...

Яго позірк ляціць да яе, быццам з усяе сілы шпурнутыя вілы. Душыцца словам, варушыць сківіцамі, нібы ніяк не можа праглынуць кавалка, што захрас у горле.

— Гняды, а-эх, ёй толькі гняды...— нарэшце вырываецца з рота нешта накшталт стогну.— Толькі гняды, і нічога больш... Ёй толькі...

— А што ж яшчэ болей, Хвэлька? Конь цяпер...— Яна замаўкае, не закончыўшы сказа; яго твар проста страшны. Зніклі вочы, шчокі, падбародак. Застаўся толькі адзін рот, перасмыкнуты сутаргавай грымасай.

— А-эх, дажыўся, ах, і дажыўся! — выкрыквае ён, стоячы каля ясляў.— Каб жонка мяне ашуквала! За каго ты мяне ўважаеш? Можа, я сляпы і глухі, не бачу, што ў доме творыцца? Можа, я дзіця някемлівае? Мала таго што свінню адабралі, а сёння з лепшым канём расстаўся,— хочаш яшчэ горшую бяду наклікаць? Каго ты там хаваеш на вышках?

— Хвэлька... Павер...— лапоча яна, сама не ведаючы што.

— Падманшчыца ты, манюка. Быццам я вораг свайму дому. А-эх, і хлопчыка, здаецца, не крыўджу, і цябе люблю як умею. Чаму ж ты мяне на пасмешышча выстаўляеш?..— Голас апаў, не грыміць вадаспадам, але ўсё яшчэ клякоча, нібы вада па камянях.— Хіба я табе не муж? Хіба не прысягнулі мы перад богам быць адзінай душой і целам? Чаму ж ты гэтак са мной, Аквіля? Што кепскага я табе зрабіў?

Яна нешта адказвае. Не, толькі мыляе губамі, намагаючыся адказаць. Дзіўны сон. Вось Кяршыс нахіляецца ўперад, нібы намерваецца скокнуць. Святло, што сочыцца з дзвярэй, цяпер лепш асвятляе яго твар. Губы перакрывіліся, нібы ён смяецца. Ступіць яшчэ крок — і ўсадзіць вілы Аквілі ў грудзі. Дзяржак сапраўды нахіляецца, перакручваецца ў паветры, і зубцы ўлазяць... у столь. У шчыліну паміж жэрдкамі. Ён нічога ўжо не кажа (а можа, яна не чуе?), толькі, напругшыся, крадзецца па хляве і, цяжка сапучы, поркае ўсюды, дзе пралазяць вілы.

Чах-бах, чах-бах. Над стойлам гнядога, у тым месцы, дзе Марусаў ложак, плечыкі вілаў не ўвапруцца ў жэрдку: там шчыліна шырэйшая, жмут саломы вытыркнуўся з яе на шырыню далоні. Але ад дзвярэй шчыліна здаецца нейкай большай і цямнейшай. Звісшы са столі, калышацца вехцік саломы. Адарваўся, ляціць уніз... За ім гоніцца другі...

Аквіля пачынае варушыцца. Не, не ўся — кратаюцца толькі ногі. Неверагодна цяжка адарваць ад гною нагу, каб змагчы зрабіць хоць малюпасенькі крок. Цёпкае, нібы спутаная, усё глыбей і глыбей грузнучы ў нябачнай багне. Але Кяршыс ужо тут. Павісла ў яго на руцэ, упала на калені да ног.

— Годзе! Годзе! — крычыць, нібы звар'яцела.— Хочаш чалавечай крыві! Вось яна!.. Тут! Пі! Забівай! — Шырокім узмахам вырывае з Кяршысавых рук вілы, кідаецца да стойла гнядога і, падскокваючы, стукае віламі па жэрдках.— Марус, Марус... чуеш? Збірайся... выходзь, калі можаш... Кяршыс прагне тваёй крыві...— Шпурляе ў стойла вілы і кідаецца да дзвярэй.— Бяжы ў вёску, кліч сваіх немцаў. Свінню і каня забралі, а чалавека сам ім аддай.

Праз слёзы нічога не бачыць. Двор. Чорная пашча адчыненых дзвярэй. Пад нагамі хрупае падмерзлы гной. Пах дзёгцю, што перабівае хмельны водар сена і канюшыны. — — — — — — — Шамаценне саломы. Згорблены, трымаючыся адною рукою за крокву страхі, другую выцягваючы перад сабою, быццам сляпы, што намацвае ляскай дарогу, вылазіць Марус. Без шапкі, без ботаў, аднак паспеў нацягнуць штаны, а на плечы накінуць і спехам зашпіліць кажушок. Нейкі час глядзіць зверху, учапіўшыся за кроквіну, потым робіць крок, адпусціўшы сваю апору, аднак тут жа губляе раўнавагу і прыхінаецца спіною да саламянай сцяны.

Кяршыс стаіць каля тарпы сена, задраўшы галаву і разявіўшы рот. У руках, усаджаныя зубцамі ў зямлю, вілы, якія Аквіля толькі што зашпурнула ў стойла гнядога. Дзяржак уздрыгвае, пальцы, якія сціскаюць яго, пабялелі, аднак твар надзіва спакойны.

— Марус... Марус...— шэпча Аквіля сабе, усміхаючыся праз слёзы.— Ты не турбуйся... Цяпер ты ўжо зможаш убачыць свайго хлопчыка... Цяпер дык ужо напэўна...

Але ён не глядзіць на яе. Яго вочы прыкуты да Кяршыса. А Кяршысаў позірк уцяты ў яго. Вочы абодвух

скаваны паміж сабою, нібы два вязні адным ланцугом. Але адзін з іх ведае, што асуджаны за віну другога; ён дык не вінаваты, а-эх, бачыць бог, не вінаваты; і гэтая непарушная перакананасць у сваёй праваце дадае яму спакою і цвёрдасці.

— Чырвоны Марус... Нямуніс...— пасля доўгай цішы цэдзіць ён.— Што, маю жанчыну забраць прыйшоў?

— Хіба яна калі была твая? — нібы рэха, далятае адказ.

— Кажаш... ага...— Вілы вагаюцца, нібы хочуць вырвацца, але голас спакойны.— Можа, калі і не была мая, а цяпер мая... Жывём... Не аддам!

Марус усміхаецца. Там, на вышках, вечаровае сутонне ўжо згусла, і яго твар здаецца шэраю плямаю — усе рысы сцерліся, расплыліся,— аднак Аквіля ўпэўненая, што ён усміхаецца.

— Гэта ўсё, што ты хацеў сказаць?

— Што тут яшчэ скажаш? З'явіўся, як у свой дом, зводзіш чужую жонку. А калі са сваімі бальшавікамі даваў драла, яна не трэба была. Кінуў з дзіцем, няхай сама, як ведае... Змыўся — што ж, твая справа, але чаго прыйшоў? Можа, вайна там скончылася, няма ўжо ў каго страляць? Закарцела тут, у маім доме, ваду каламуціць. У самога жыцця няма, хочаш і іншых утапіць.

— Не патонеш.— Марус горка засмяяўся.— Ты з такога матэрыялу, які не баіцца ні вады, ні агню. З усіх бакоў захінуты. А мае рукі звязаныя. Сынок, сястра, Аквіля...

— Маўчы!

— Аквіля! — цвёрда паўтарае Марус.— Мая зброя зараджана, але ў гэтай сядзібе яна не выстраліць. Ты гэта добра ведаеш.

— А-эх, ён яшчэ пра стральбу! Насабачыўся за два з паловай гады, ага, лепш, чым равы капаць, а ці ведаеш ты, з якога боку сёння дзьме вецер? — Аквіля не пазірае на Кяршыса, аднак адчувае ў яго словах жудлівую ўсмешку («А-эх, задам я пытлю тхарам, будуць ведаць, як яйцамі ласавацца...»).— Сёння вецер на вёску, з боку хаты, а гумно далёка — не перакінецца. Вось падпалю клуню, і страляй, колькі тваёй душы падабаецца, паказвай сваю навуку.

— Навошта кажаш, чаго не зробіш? Такая страта не для тваёй натуры, Кяршыс. Ёсць куды прасцейшае вый-

сце: пасадзіць Чырвонага Маруса на фурманку і завезці да немцаў у вёску.

— На фурманку? Да немцаў?..

— Не турбаваў бы цябе, але, бачыш, нага... Кепскі пакуль што з мяне хадок.

— На фурманку і да немцаў? — Кяршыс шчыра здзіўлены.

— Скажаш, што знайшоў... Ну, ты сам лепш ведаеш, што ім сказаць. Але будзь чалавекам, Кяршыс. Я большага не хачу ад цябе, чым т ы можаш. Разумею тваё становішча і ўсё астатняе...— Марус запнуўся, мацае рукамі навокал, быццам у той шаматлівай саломе шукае згубленыя словы.— Дазволь мне тут застацца да поцемкаў. Потым пайду. А што будзе далей — мой клопат. Даю слова,— калі табе маё слова хоць нешта значыць,— да таго часу, пакуль ты з'ясі вячэру, мяне не будзе не толькі тут, у клуні, але і на тваім полі. Паўзком папаўзу з тваёй дзялянкі, калі не змагу ісці. Але кульбаку ты мне мусіш выразаць, Кяршыс. І паказаць майго сына. Я маю на гэта права. Асуджаным на смерць таксама дазваляюць развітацца са сваімі блізкімі.

Аквіля, скурчыўшыся каля тарпы, жаласна скімліць. Чуе Кяршысаў кашаль, шамаценне саломы наверсе. І зноў Марусаў голас. Апускаецца, нібы чалавек у ваду. Усё глыбей і глыбей. Выстаўленыя наперад рукі падымаюцца, нібы шукаюць, за што ўхапіцца. Але над галавою толькі паветра і вада, толькі паветра і вада, толькі паветра і вада...

— ...Застануцца табе мае гектары, сядзіба, і тваёй жанчыны, як ты кажаш, не забяру. Марус Нямуніс не дзеля гэтага пайшоў ваяваць. І не дзеля гэтага апынуўся ў цябе на вышках. Нарэшце, не дзеля гэтага, калі сцямнее, падасца адгэтуль, каб ужо заўтра, можа, немцы прывезлі яго труп у Лаўксадзіс. Але табе гэтага не зразумець, Кяршыс. Ведаеш, што трэба зямлі, каб выціснуць з яе дзесятае ці пятнаццатае зерне, але ніколі не ўмесціцца ў тваёй галаве, як цяжка чалавеку, калі ён мусіць паміраць заўчасна і не так, як трэба паміраць.

— А-эх, ён ужо пра смерць...— Кяршыс злосны і спалоханы.— Не Кяршыс табе даў жыццё, не Кяршысу яго ў цябе забіраць. Каб чалавек па маёй віне... А-эх, гэта ўжо не! Хто ведае, што табе бог наканаваў — кулю, пятлю ці хрысціянскую смерць на лаве са свечкаю ў руцэ? Можа, якраз гэта, бо ці мала людзей з цягам часу прыходзяць да

розуму? Ці ў маёй моцы стаць насупераак боскай волі? Цела чалавека забіць і душу загубіць? Не, усявышні нікому не даў такога права. Ні мне, ні табе, ні камусьці іншаму, няважна, што ўсе вы страляеце, вешаеце адзін аднаго, адымаючы ў бога тое, што яму аднаму належыць рашаць. А-эх, я гэтага не зраблю! А-эх, не ўжо, я гэтага не зраблю! Можа, немцы ўсіх нас... Але бог і людзі будуць ведаць, што Кяршысавы рукі былі ў гнаі, у зямлі, толькі не ў крыві. Не вазьму чужой крыві на сваё сумленне, няхай яна кладзецца на тваё, Нямуніс.

— Не разумею тваёй казані.— Марус стаіць, выставіўшы хворую нагу, упіраючыся плячамі ў салому. На твары здзіўленне і ўсё большая надзея.— Дык як? Здаецца, я магу спадзявацца, што ты дазволіш мне тут застацца дзве-тры гадзіны?

— Прыйшоў без спросу і пойдзеш без спросу. Ці праз тры гадзіны, ці праз трое сутак. А-эх, табе лепш ведаць. Я цябе не выганяю. Сядзі дзе сядзеў, калі трэба. Я не хачу нічога ні чуць, ні бачыць. На вышках, ага, адкуль ты вылез, жэрдкі рэдка насцелены. Адгарні салому і пашукай у столі шырэйшую шчыліну. Праз яе буду падаваць яду. Я сам. Няма чаго лазіць па драбіне. Няма ў нас ніякай драбіны! Ва ўсёй Кяршысавай сядзібе няма і не было ніякай драбіны! Зразумеў? Унізе, пад тым месцам, дзе цяпер стаіш, вывалю воз саломы. Калі захочаш падацца сваёю дарогай, можаш саскочыць. Шыбуй, адкуль прыцягнуўся. Немцам у лапы ці сваім у абдымкі. Я нічога не ведаю, не бачыў, не чуў. І дай божа, каб мае вочы не бачылі больш цябе, Чырвоны Марус.

## *Раздзел шосты*

### I

Гедымінас не мог пазбыцца гнятлівай думкі, што, параіўшы Васілю не ўцякаць да партызанаў, стаў міжвольным вінаваўцам гібелі Пуплясіса і яшчэ трох чалавек. У гэтым ён пераканаўся, яшчэ раз пагутарыўшы з Чорным Куксам, які добра ведаў план уцёкаў. Таму, рашыўшыся сабатаваць дзяржаўныя пастаўкі, ён не так хацеў нашкодзіць акупацыйнай уладзе, як памагчы Пуплясісавай удаве і Чорнаму Куксу і гэтым хоць часткова выку-

ціць сваю віну, на якую менш уражлівы адно толькі махнуў бы рукою.

На пачатку кастрычніка ў Лаўксадзісе талакою ўзяліся за малацьбу. У сярэдзіне месяца малатарня прыехала і ў сядзібу Джугасаў. Праз некалькі дзён, змалаціўшы, Гедымінас запрог пару коней у фуру, загрузіў яе мяшкамі са збожжам і, заваліўшы зверху саломай, ноччу завёз Пуплясені. У хлеўчуку ўдавы, які, як і свіран, немцы вымелі дачыста, апынулася гэтаксама і Джугасава свіння, што прызначалася на пастаўкі, а Чорны Кукса, нібыта за работу, павёў цялушку і атрымаў у прыдачу некалькі цэнтнераў жыта. Пуплясеня не ведала, як дзякаваць Гедымінасу, а Чорны Кукса, здагадваючыся аб прычыне суседавай шчодрасці, толькі пацепваў плячамі, на свой капыл вытлумачваючы ўчынак Джугасаў.

— Гэтыя шчадроты могуць табе дорага каштаваць, Гедымінас,— сказаў ён.— Аднак я бяру іх на сваю душу: калі што, Чорны Кукса не застанецца ў даўгу, каб цябе качкі стапталі, не бойся.

Толькі на пачатку лістапада Гедымінасу адкрылася, што меў на ўвазе Чорны Кукса. Ён не ведаў, што за чалавек хоча сустрэцца з ім, аднак зразумеў: гэта нехта з партызанаў. На дамоўленае месца прыйшоў не столькі з цікавасці, колькі жадаючы адразу ж рассеяць любыя спадзяванні, якія, мабыць, ускладаюць на яго, Гедымінаса, людзі, звязаныя з Чорным Куксам.

Таямнічы таварыш чакаў іх на ўскрайку Вянцкага лесу ў зацішнай хатцы рабочага з тарфянішча. Потым Гедымінас убачыў яшчэ двух чалавек, апранутых па-сялянску, аднак узброеных. Адзін быў незнаёмы, а другога ён быццам недзе бачыў. Трэцяга Гедымінас пазнаў з першага позірку, як толькі ўвайшоў у хату: Марус Нямуніс! Гэтакай сустрэчы Гедымінас не чакаў! Яны доўга паціскалі адзін аднаму рукі, дзівячыся і радуючыся, што пасля такіх пакручастых гадоў лёс зноўку звёў двух добрых знаёмых, якія, праўда, ніколі не былі сапраўднымі прыяцелямі, аднак паважалі адзін аднаго.

— Не гневайся, Гедымінас, што давялося пратупаць гэтакі кавалак дарогі на сустрэчу са сваім колішнім вучнем,— перапрасіў Марус.— Папраўдзе, гэта я павінен быў наведацца да цябе, калі быў у Лаўксадзісе, але, павер, такая раскоша ў нашых умовах часта звязана з рызыкай пазбавіцца галавы.

— Ты быў у Лаўксадзісе? — здзівіўся Гедымінас, пазіраючы скоса на Чорнага Куксу.

Той непрыкметна ўсміхнуўся ў каўнер.

Цяпер Гедымінас пазнаў і другога ўзброенага мужчыну — гэта быў Іван, палонны, што працаваў у Кяршыса.

— Уцёкі з фальварковай парабкоўні...— пачаў быў ён, але тут увайшла гаспадыня з гарачай гарбатай, і ўсе падселі да стала.

— Я ведаю, як ты ставішся, дакладней, с т а в і ў с я да ўцёку палонных,— падхапіў Гедымінасаву думку Марус.— Тваё меркаванне пра нас, партызанаў, не такое, каб нам сядзець поруч і папіваць гарбату. Але пасля таго як вы з бацькам вырашылі даць немцам пстрычку з гэтымі пастаўкамі, у нас ёсць падстава меркаваць... Вядома, калі ваша рашэнне не нейкая прыхамаць і не выпарыцца, калі вы ўбачыце на двары паліцыю.

Гедымінас нявесела засмяяўся.

— У такім выпадку мы мусілі б забраць у людзей, што ім самі далі,— адказаў ён, ставячы побач з талеркай адпітую да паловы чарку гарэлкі.— А гэтага мы з бацькам ніколі не зробім. У нашай гаспадарцы збожжа засталося якраз на хлеб і каб засеяць вясною зямлю. Селянін — калі ты ведаеш літоўскага селяніна — будзе карміцца саломаю са страхі, але зберажэ насенне. Вядома, самаўправа можа вымесці нашы засекі да апошняга зярняці, але, мяркую, гэтага не дазволіць зрабіць элементарны нямецкі разлік.

— Дзіва што,— іранічна заўважыў Марус.— Ваша самаўправа пакуль што яшчэ не страціла пашаны да сметанаўскіх ордэнаў і, апроч таго, мае спагаду да людзей, якіх лучаць крэўныя сувязі з ахвярамі бальшавікоў.

— Напэўна, гэта так, хоць мы з бацькам, вырашыўшы дапамагчы людзям у бядзе, не кіраваліся такімі сонечнымі перспектывамі,— холадна адказаў Гедымінас, дапіўшы чарку да дна.— Вы б'яце немцаў, але ведаеце іх, на жаль, толькі як мішэнь. Пуплясеню — што праўда, то праўда — яны абабралі да ніткі. Паказальнае пакаранне за мужа, так сказаць. Была б яе гаспадарка большаю, а едакоў — менш, упэўнены, яны пакінулі б збожжа на насенне, каб новы гаспадар меў чым вясною засеяць палі. У першую сусветную вайну адзін рускі палонны расказваў майму бацьку, што неяк, выцесніўшы немцаў з пазіцый, яны знайшлі за акопамі градкі, падрыхтаваныя пад кветкі. Гэта рыса іхняга нацыянальнага характару — спыняцца на дзень, а рабіць так, нібы тут век збіраюцца жыць.

— Па тым, як яны напакоўваюць ямы людзьмі, не скажаш, што яны збіраюцца жыць тут век,— кпліва зазначыў Марус.— Ім карціць як мага хутчэй абрабаваць край і выбрацца да д'яблаў, пакінуўшы пустую зямлю такім мысліцелям, як ты.

— Не, наколькі мне вядомы асновы нацыянал-сацыялісцкай ідэалогіі, яны думаюць інакш: толькі ачысціўшы наўкола сябе прастору ад такіх мысліцеляў, як Нямуніс, Джугас і да іх падобных, яны створаць на зямлі тысячагадовы рэйх,— жартуючы, адказаў Гедымінас.— Аднак ім важна, Марус, каб Джугасаў палетак не заставаўся аблогаю. Немцам трэба хлеб. А без насення і рабоў хлеба не будзе. Мы з бацькам аказаліся непаслухмянымі рабамі. Яны прышлюць распарадчыка, каб камандаваў намі, а то і зусім вытураць з хутара. Але ўсё роўна, што б ні здарылася, нацысты не атрымаюць таго кавалка, што дастаўся Пуплясені і Путрымасу.

Гедымінас замоўк, злавіўшы кплівы Марусаў позірк. Нейкі час чуваць было толькі, як пабразгвае посуд і чаўкаюць едакі за сталом.

Чорны Кукса прапанаваў выпіць яшчэ па чарцы.

— Не хачу зычыць табе, Гедымінас, бяды,— сказаў Марус, калі чаркі былі асушаны і мужчыны зноў налеглі на яду.— Мяркую толькі, што ты занадта добрай думкі пра фашыстаў. Ты ім уступаеш сваю гаспадарку, а не бярэш у разлік, што яны могуць і галаву запатрабаваць. Ты, можа, і не чуў, але мне вядомыя выпадкі, калі яны забівалі сялян, якія не паздавалі паставак. Не сцвярджаю, што яны мелі заслугі і пакутніцкі арэол твайго бацькі — гэта былі звычайныя савецкія людзі,— але ў тэроры акупацыйных улад дарэмна было б шукаць нейкай трывалай асновы.

— Я і не шукаю яе, Марус. Вельмі магчымая рэч, што ўсё адбудзецца якраз так, як ты кажаш. Аднак гэта не мяняе сутнасці справы. Я зрабіў так, як мусіў быў зрабіць сумленны чалавек, а што да вынікаў — яны ад мяне не залежаць. Я проста не мог не зрабіць, што зрабіў, Марус. Чалавек, які не ўмее плаваць, ведае, што ён загіне, а ўсё роўна кідаецца, каб ратаваць тапельца. Пачуццё чалавечнасці, адказнасці перад сваім сумленнем часам бывае мацнейшае за страх смерці.

— Вось тут і пачынаецца сапраўднае геройства, Гедымінас,— узрушана загаварыў Марус.— Так паміраюць нашы людзі, так загінуў Пуплясіс. Аднак, бачыш, адна спра-

ва памерці за чысціню свайго сумлення, а другая — змагацца за тое, каб у будучым нікому не давялося пэцкаць рукі крывёю. Самому ўтапіцца і іншага не ўратаваць — прыгожа, высакародна, але, калі па сутнасці,— танна. А з нашага пункту погляду — і злачынства. Калі ты, чалавеча, не ўмееш плаваць, дык і не скачы ў ваду. Пажыві яшчэ, пакуль навучышся. Навошта непатрэбныя ахвяры? Хіба мала людзей гіне? Паслухай, Гедымінас, я ж не прапаноўваю табе адразу ж, скончыўшы піць гарэлку, браць аўтамат і выходзіць з гэтай хаціны разам з намі, хоць гэтакі ўчынак быў бы самы разумны — пасля можа быць позна. Я хачу, каб ты зразумеў: твой шлях вядзе толькі да нас, Гедымінас.

Гедымінас збянтэжана маўчаў. Ідучы сюды, ён падрыхтаваўся да падобнай атакі, але самагонка разагрэла кроў, і цяпер ён адчуваў сябе так, нібыта сядзеў у добрага знаёмага сярод вясковых хлопцаў, якія перакуляць яшчэ па чарцы, а потым выйдуць на вуліцу і дружна заспяваюць песню.

— Да вас... так... можа быць...— нарэшце вымавіў ён.— Я магу пайсці да вас, але ці буду я з вамі душою, Марус? Ты ведаеш маё мінулае. У часы Сметаны і потым. Тады я пайшоў быў да іх, але ці быў я з імі? У саракавым запрасілі вы — і я таксама спрабаваў ісці ў нагу. Нічога добрага з гэтага не атрымалася. Не такога я крою чалавек, ніяк не магу навучыцца плаваць. Вядома, не было б ніякай трагедыі — я маю на ўвазе маёй трагедыі,— калі б я прызвычаіўся праходзіць міма тапельца, як большасць нармальных людзей. На жаль, цягне ў ваду, і ўсё... Часам зайздрошчу такім людзям, якія са спакойнай душою забіваюць іншага і заўсёды маюць чым апраўдацца, калі ў іх спытаешся, чаму яны так зрабілі. «Знішчыў ворага айчыны. Нягодніка, забойцу...» А гэты вораг айчыны, калі б ён уваскрэс і ўсю абойму выпусціў у ка́та, напэўна, адказаў бы такімі самымі словамі...

— Няўжо вайна не навучыла цябе адрозніваць ахвяру ад забойцы? — зазлаваў Марус.

— Не. Яна толькі даказала мне, і на гэты раз канчаткова, што ўсе мы ахвяры і ўсе мы — забойцы.

— Ну-у-у,— працягнуў Марус.— Нашто заходзіць гэтак далёка? Каго-каго, а сябе, я думаю, ты хочаш вылучыць з гэтай кампаніі.

— Стараюся, Марус, наколькі хапае мяне самога. Але ў гэтым пякельным катле, у якім сягоння мы варымся,

усё так перамяшалася, што, нават не жадаючы забіваць, усё роўна становішся забойцам. Міжвольным забойцам. І, зразумела, ахвярай таксама. Аднак большасць людзей не разумее сваёй віны альбо ўмее выдумаць сабе апраўданне. Гэта іхняе шчасце і наша ўсеагульнае няшчасце, бо ў той час, калі яны паміраюць з усмешкаю праведнікаў на вуснах, мы застаёмся жыць на зямлі, запаскуджанай гэтакімі вылюдкамі.

— Пацешна гаворыш. Кульні яшчэ чарку,— падахвоціў Марус, маскуючы іроніяй прыкрасць.— Табе, чалавеча, зрэшты, напляваць, што робіцца на гэтай, «запаскуджанай вылюдкамі, зямлі». Іначай бы ты не паскудзіў разам з імі, а дапамагаў бы чысціць. Табе важна, каб твой фрак заставаўся чысты. А мы сваіх фракаў не беражом. Думаеш, дужа прыемная работа забіваць чалавека, нават калі ён найвялікшы нягоднік? Калі памятаеш нашы даваенныя размовы, скажы, ці я калі прагнуў чалавечай крыві? Мы ж не ложым, як немцы, у яму кожнага, у каго не гэтакі нос, але стараемся адсеяць ворагаў ад сваіх, бо добры гаспадар таксама вырывае куколле з поля. Мы хочам, каб пад нашым сцягам вырас добры ўраджай, каб усім хапала працы і хлеба, а дзецям месца ў школах. Можа, не ўсё атрымлівалася так, як мусіла быць, аднак аснова нашай праграмы была і застаецца тая ж самая — барацьба за чалавека. Не забіваць, а бараніць чалавека ад забойцаў. Можа, ты, гэтакі мудры, ведаеш, як гэта зрабіць, не праліваючы крыві? Не, чалавеча, не запэцкаўшы рук, гною не выкінеш. І фрак будзе ў плямах, і цела проймецца адпаведным пахам. Непрыемна. Але трэба. Трэба, Гедымінас! Нават дзеля такіх, як ты, якія не саромеюцца ставіць на адну дошку Маруса Нямуніса і Адомаса Вайнараса.

— Я вас не стаўлю на адну дошку, чорт вазьмі!

— Як не? Хіба я не забойца?

— Я не сартавальнік, Марус,— аваладаўшы сабою, адказаў Гедымінас.— Не мая справа асуджаць аднаго і апраўдваць другога. Нічога не зменіцца ад таго, што я вас абодвух абвінавачу альбо скажу, што вы абодва не вінаватыя. Ва ўсе часы людзі забівалі адны адных у імя выдуманага бога, і, пакуль будуць набожныя, забойствы не спыняцца. Я не набожны, Марус. Некалі маім богам быў жоўта-зялёна-чырвоны сцяг, аднак я страціў свайго бога. І не думаю, што змагу яго нанава знайсці ў нейкім іншым сцязе. Рэлігіі прыходзяць разам са сваімі багамі і разам з імі знікаюць. Тое ж самае адбываецца з асобнымі наро-

дамі і цывілізацыямі. Адзінае трывалае на зямлі тварэнне — гэта чалавек, хоць і ён мяняецца. Але духоўныя ўласцівасці, якія адрозніваюць чалавека ад скаціны альбо звера, будуць існаваць, пакуль існуе чалавецтва. Я схіляюся толькі перад гэтым сцягам, Марус. Як паказвае гісторыя і вопыт нашых дзён, многія растапталі яго ў імя фальшывых багоў, але чаму я мушу ісці па іхніх слядах?

— І не ідзі, і не ідзі, мы цябе не цягнем, чалавеча.— Марус са зняважлівай паблажлівасцю паляпаў Гедымінасу па плячы.— Абедзвюма рукамі трымайся за свой сцяг, гэта азначае за сябе самога, пакуль немцы не ўкладуць цябе ў дол з усімі духоўнымі ўласцівасцямі.

Партызаны дружна зарагаталі. Гедымінас збянтэжана глядзеў на разяўленыя раты, перакана адчуваючы сваю праўду і шкадуючы гэтых, як яму здавалася, прымітыўных людзей і адначасова злуючыся ад думкі, што ў іхніх вачах ён выглядае дапатопнай істотай з археалагічнага музея, з якой яны, каб пацешыцца, вырашылі сёння як след надзівіцца. Гедымінасу стала сорамна, нібы яго страшэнна зняважылі, але ён не ведаў, на каго крыўдаваць. Спрабаваў прадоўжыць размову — можа, вернецца тая ўтульная цеплыня, што панавала тут у першыя хвіліны сустрэчы? — аднак ніхто яго не падтрымаў. Чорны Кукса абмовіўся пра некага з Лаўксадзіса, і далей ужо размова пацякла па іншым рэчышчы. Згадвалі агульных знаёмых (апроч Аквілі), выпадкі з даваеннага часу. Марус нават расказаў некалькі эпізодаў з сорак першага, як ён выбіраўся тады з Літвы, а галоўная для ўсіх тэма засталася за межамі размовы. Нібыта яны з Чорным Куксам тэпалі трыццаць кіламетраў толькі дзеля таго, каб пагаманіць з добрымі знаёмымі за чаркай самагонкі. Потым Гедымінас нечакана ўбачыў, што ён сядзіць у пакоі адзін. Ён чакаў, што мужчыны вернуцца з двара, але ў хату ўвайшоў адзін Чорны Кукса. Марус са сваімі людзьмі знік, нават не развітаўшыся. «Чаму? — разважаў Гедымінас, лежачы на мулкай рыплівай канапе.— Каб не трэба было паціскаць рукі, крывадушна ўсміхацца, казаць банальныя словы, як заведзена між людзей, якія вельмі сумняваюцца, ці ўбачацца зноўку?..» Гледзячы ў пацямнелую шыбіну акна, за якім панура шумеў лес, Гедымінас у думках бачыў тых трох узброеных людзей, што не ведаюць, дзе іх чакае магіла, і шчыра шкадаваў, што расчараваў іх. Не трэба было яму прыходзіць сюды. Дарэмна толькі і сабе і іншым разверадзіў сэрца.

Незадаволены, амаль адчуваючы сябе вінаватым, Гедымінас пакінуў раніцаю адзінокую хаціну на ўскрайку лесу. Чорны Кукса сказаў: вяртацца дадому лепш па адным, апроч таго, па дарозе яму трэба зазірнуць да аднаго далёкага родзіча. Можа, ён і праўду казаў, але Гедымінасу здалося, што гэта выдуманая зачэпка, каб збавіцца ад непрыемнага спадарожніка.

Вярнуўшыся дамоў, ён знайшоў паўторную позву на здачу збожжа. Праз некалькі дзён забег Кучкайліс. Грукаў кулаком па стале, пагражаў. («Жартачкі, бач, надумаліся жартаваць. Што вам немцы — малыя дзеці? Няма ў іх, бач! У Джугасаў няма чаго здаваць, мне смешна! Такая добрая збажына ўрадзіла. Запрагайце коней, айн мамент, і грузіце на воз!») Але калі Гедымінас з бацькам недвухсэнсоўна адказалі, што не павязуць ні зернетка, няхай, калі хоча, прыязджае сам валасны старшыня і вымятае насенне, і, на пацвярджэнне сваіх слоў падралі позву, у Кучкайліса вочы палезлі на лоб, хоць разам з тым ён нібыта і супакоіўся: цяпер ён добра ведаў, што мусіць рабіць.

— Мне шкада, тата, што я ўцягнуў цябе ў гэту гісторыю,— сказаў Гедымінас, прыгадаўшы размову з Марусам.— Усё можа скончыцца горш, чым мы думаем.

— Мне ўжо нядоўга засталося жыць,— коратка зазначыў бацька.— Усё жыццё я вырошчваў хлеб, каб елі людзі, дык чаго я цяпер буду шкадаваць, што не аддаў, каб зжэрла звяр'ё? Але калі ты перадумаў, мой сыне, запражом коней і завязём насенне.

— Я не перадумаў, тата, я проста не хачу быць вінаватым...

— У нас не можа быць віны ў аднаго перад адным, Гедміс. Сам гэта ведаеш, нашто дарэмна казаць. Абодвух нас аднолькава штурхалі ботамі, няважна, што гэтыя боты былі не з аднаго капыла. Калі хочаш мяне парадаваць, мой сыне, пагутарым пра іншае: выбірайся з Лаўксадзіса, пакуль не ўтрасецца гэтая справа з пастаўкамі. Ёсць жа ў цябе знаёмыя, дзе можаш затаіцца, каб нават сабака не цяўкнуў? Зразумей, ты ў мяне адзін. Бацьку спакайней паміраць, калі ён ведае, што пакідае на свеце пасля сябе часціну свайго цела. Ты можаш гэта зразумець, мой сыне?

Ён не мог не зразумець гэтага. У бацькавых вачах была мальба. Ён не мог не паслухацца.

З'яўленне Адомаса на хутары было апошнім знакам, што пара развітвацца з домам. Калі паліцэйскія на сваёй

машыне выпхнуліся з двара, бацька адамкнуў пакой, куды заштурхнуў сына, і ледзь толькі пачало змяркацца, Гедымінас пакінуў родную вёску. Адыходзіў з трывогай на сэрцы, аднак спадзеючыся неўзабаве зноўку сюды вярнуцца. Марусавы перасцярогі здаліся яму перабольшанымі; зразумела, яны ішлі не ад бескарыслівага жадання памагчы яму, а мелі мэту завабіць яго, Гедымінаса, у лес. Калі б ён быў гэтак патрэбен немцам, паліцыя сёння забрала б яго разам з бацькам і павезла б у Краштупены. Не, справу можна лічыць амаль што скончанай — у іхнюю сядзібу неўзабаве ўселіцца новы гаспадар. А можа, даручаць гаспадарыць каму-небудзь з жыхароў Лаўксадзіса? Наўрад. Хутчэй за ўсё перасеrange якога немца-інваліда, дадуць яму дзве-тры бабы, прывезеныя з Беларусі,— служыце фюрэру і новай Еўропе! А абодвух Джугасаў — да д'ябла! Ідзіце працаваць у двор да пана Дызэ. Што ж, гэта не горшая перспектыва. Калі толькі не ўсадзяць у вагон і не пацягнуць у Памеранію гнуцца на палях баўэраў. Вядома, не сёння і не заўтра, а калі пройдзе тэрмін, абвешчаны ў позве. Немцы любяць дакладнасць.

Ён яшчэ не вырашыў, дзе ён зможа затаіцца, каб, як сказаў бацька, сабака не цяўкнуў. У адной глухой вёсачцы жыў знаёмы настаўнік, добры сябра студэнцкіх гадоў. Зручна і бяспечна, на нейкі час ён мог бы атайбавацца там. Але падумаў, што спярша трэба наведацца ў Краштупены: хацеў убачыцца з Мілдай. Апошні раз яны сустракаліся напярэдадні ягонай вандроўкі ў лес. За гэты час ён паспеў атрымаць ад яе некалькі лістоў, поўных тугі і любоўных клятваў, аднак гэта не магло замяніць радасці нават хвіліннай сустрэчы. Ну і пасля таго, як паліцыя апісала гаспадарку, трэба было б абмеркаваць з Мілдай некаторыя пытанні.

Значыць — у Краштупены! Пераначуе ў географа Альгіса Туменаса (апошні год яны дужа здружыліся), а там будзе відаць.

## II

У Туменаса тая самая сябрына, можа, трохі меншая, якая звычайна збіраецца тут па вечарах два-тры разы на тыдзень. У даволі прасторным халасцяцкім пакоі накурана да столі. На людзей, што сядзяць за круглым сталом, сурова пазіраюць са сцен князі старажытнай Літвы — з валасамі, што спадаюць на плечы, гожа апранутыя мастаком

у мядзведжыя шкуры, узброеныя сякерамі, булавамі і мечамі. Грунвальдская бітва, Вітаўтас у крыжакоў, Альгірдас прымае паслоў зваяванай Масквы, гераічная смерць Маргірыса... Замкі ў аблозе, бітвы, жэмайцкія палкі на порсткіх конях, першы і апошні кароль Літвы Міндаўгас. Ганаровая мінуўшчына нацыі... Але — толькі мінуўшчына. Ёй прысвечаны тры сцяны пакоя. На чацвёртай — дзяржаўны герб: белы коннік на чырвоным полі. І больш нічога.

Канапа. Нікеляваны ложак. Скасабочаная шафа на адзенне. Каля сцяны некалькі крэслаў. Усё старое, убогае, аджытае, як і гэтая гісторыя, што з пыхлівай веліччу пазірае са сцен на сваіх нашчадкаў, якія сабраліся тут, каб адслужыць ёй чарговае вячэрняе набажэнства.

Набажэнцаў чацвёра, не лічачы Гедымінаса,— ён толькі выпадковы і паблажлівы ўдзельнік рытуалу.

— Аднак, панове, будзем аб'ектыўныя, давайце разбяромся, чаму ўсё так адбылося,— гарачыцца настаўнік фізкультуры Ёзас Гярдайціс, губасты цяльпук з масіўным тварам, якому за сталом заўсёды цесна, бо кожнае важнейшае слова стараецца падкрэсліць узмахамі рук.— Была дзяржава ад мора да мора. Дзве сотні гадоў увесь хрысціянскі свет слаў рыцараў, каб яе заваяваць. Закутых у латы, узброеных найноўшай тагачаснай зброяй. Нічога не маглі зрабіць. Жэмайціец сваёй сякерай ці булавою трах па чэрапе — і рыцар коціцца са свайго жарабца. Скрышылі Вялікі Крыжацкі Ордэн пад Грунвальдам. Цудоўна! Што больш трэба дзяржаве, калі знішчаны яе самы магутны вораг? Расці ды квітней! А ў нас атрымалася наадварот: наляцелі з усіх бакоў мілыя суседзі, расцягнулі па кавалку, і засталіся мы, як згалелыя абшарнікі, на двух гектарах. А потым і таго не засталося.

— Ягайла прадаў нас. Не трэба было хаўрусаваць з польскаю шляхтаю. Самі спустошылі сваю дзяржаву і Літву загубілі,— высноўвае Антанас Ліпкус, настаўнік малявання і гісторыі — хударлявы цыбаты мужчына з жоўтым колерам твару, за што вучні далі яму мянушку Лімон. Яму няма яшчэ трыццаці гадоў, аднак на макаўцы пергаментны месячык плеха, які ён дарэмна стараецца замаскаваць зачасанымі ўгору рэдкіміваласамі. Зубы белыя, буйныя, здаецца, калі гаворыць, увесь час усміхаецца, хоць рэдка пачуеш яго смех.— Не трэба была унія з Польшчай — гэта раз. Нашы князі зрабілі фатальную памылку, рынуўшыся на ўсход: мы перамаглі прастору, а прастора — нас;

мы растварыліся не так у фізічным, як у духоўным сэнсе, альбо, кажучы дакладней, трапілі ў культурнае рабства. Гэта два. А трэцяе, і самае горшае: у нас былі адважныя дружыны, добрыя гетманы, аднак мы не мелі свайго пісьменства. Літоўскія дружыны дапялі ажно да Чорнага мора, далучаючы ўсё новыя і новыя славянскія землі, а пры двары вялікага князя гучала мова тых самых славян. У нашых князёў была рука, каб валодаць мячом, але не было галавы, каб кіраваць дзяржавай.

Паміж гісторыкам Ліпкусам і гаспадаром пакоя ўплішчылася настаўніца літоўскай мовы Юрата Дзірванайтэ. Даволі сімпатычная старая дзеўка з правільнымі рысамі твару, касавокая і дужа катэгарычная. Апошнія дзве ўласцівасці і былі, відаць, той прычынай, па якой панна Дзірванайтэ, пасняхова дажыўшы да дваццаці васьмі гадоў, усё яшчэ не займела спадарожніка жыцця.

— Была рука, не было галавы...— абурана абрывае яна Ліпкуса.— Як можна, пане Антанас! Калі вы гаворыце гэта вучням на ўроках гісторыі, дык, ведаеце...

— Я гавару фактамі, панна Юрата. Гісторык не мае права скажаць факты, нават калі б яны былі і вельмі непрыемныя,— бліскае зубамі Ліпкус.— Ці не праўда, пане Гедымінас?

— Несумненна, пане Ліпкус. Скажаць — ні ў якім разе! Але вытлумачваць так, як таго патрабуе дух часу,— заўсёды,— адрэзаў Гедымінас.

— Вы зусім заскарузлі ў сваёй вёсцы,— скрывіўся Ліпкус, хоць зубы блішчалі.

— Ты з ім далікатней, Антанас,— умяшаўся гаспадар.— Ведай, чыё сала ўплятаеш, то бо то.

На самой справе, стол сёння асаблівы. А то сядзяць, папіваюць астылую гарбату, закусваючы нішчымным, прынесеным з дому бутэрбродам. (Гаспадара гэта не бянтэжыць: ва ўсіх аднолькавыя карткі, нічога не зробіш.) Калі хто і абмяняе якую рэч у селяніна на прадукты, дык рэдка рашыцца ахвяраваць частку іх на агульную вячэру. А сёння ўсе бутэрброды засталіся ў кішэнях у паліце. На стале палова бохана вясковага хлеба, талерка сала, яйцы. Божа мой, нават яйцы! Праўдзівей кажучы, толькі шкарлупіна, бо сябрына ўжо пажывілася імі. Аднак пагутарыўшы, пакурыўшы, не лішне будзе зноў налегчы на хлеб з салам, глытнуць гарбаты, каб з новаю сілаю весці размову.

— Не хапае толькі лімона і французскага каньяку, то бо то,— жартуе Альгіс Туменас.

— І папярос «Рэгата»,— у тон гаспадару кажа Гярдайціс.— Гэтая нямецкая пацяруха, хоць і змешаная з тытунём, дзярэ лёгкія.

— Неймаверна многа курыце, мужчыны,— незадаволена кашляе Дзірванайтэ.— У адной руцэ сала, у другой цыгарка. Здохнуць можна.

— Гісторыя не ведае выпадку, каб жанчына загінула ад тытунёвага дыму,— гмыкае Ліпкус, выпускаючы з рота густое воблака дыму.

— Не смешныя жарты.— Дзірванайтэ бароніцца ад дыму, махаючы ў сябе перад носам абедзвюма рукамі.— Вам, пане Ліпкус, трэба было падавацца ў пажарнікі, а не гісторыю выкладаць. Я проста зразумець не магу, як вы маглі вывучаць мастацтва. Абсалютна ніякай душэўнай тонкасці. Сцвярджаць, што дзяржава — ды яшчэ такая унікальная з'ява ў свеце, як літоўская дзяржава,— загінула таму, што вялікія князі не ўмелі кіраваць, што яны былі спрэс яловыя галовы, такія ды гэтакія... Так спрашчаць, ну, ведаеце, у мяне ў галаве не ўмяшчаецца, панове...

— Я мыслю, панна Юрата. У мяне нармальная суадносіна цвярозага розуму і эмоцый, як і павінна быць у мужчыны. Я не паддаюся жаночай чуллівасці, а мыслю, іменна мыслю, панна Юрата.

— Калі б у вас была нармальная суадносіна розуму і эмоцый, вы павінны былі б згадзіцца, што гібель літоўскай дзяржавы таілася ў самім характары нацыі, пане Ліпкус,— ваяўніча атакуе Дзірванайтэ, адным вокам свідруючы мастака-гісторыка, другім пазіраючы на Туменаса, што сядзіць справа ад яе.— Літоўцы збераглі кроплю даўнейшай арыйскай крыві, якую нашы продкі балты прынеслі тысячагоддзі таму назад з берагоў Ганга. Літовец высакародны, таварыскі, гасцінны, шчыры — гэта ўласцівасці, за якія нас хвалілі іншаземныя летапісцы і якімі мы самі ганарымся. Аднак гэтыя ўласцівасці, калі хочаце ведаць, і загубілі дзяржаву. Які б прайдзісвет ні круціўся каля варотаў, мы кожнага запрашалі ў хату, саджалі за стол. У літоўца няма нацыянальнай годнасці, пане Антанас, вось у чым наша бяда. Жылі мы ў акружэнні ваўкоў, а былі авечкамі, наіўнымі авечкамі, панове. Вось і аплакваем цяпер сваю шкуру.

— Выбачайце, панна Юрата,— устаўляе Гярдайціс.—

Аднак вашы доказы не касуюць логікі пана Антанаса: такім літоўскім характарам, як вы намалявалі, валодалі і нашы князі.

— Пан Ліпкус...

— Злавілі вас, панна Юрата, злавілі! — трыумфуе Ліпкус, не даючы апамятацца Дзірванайтэ.— Апраўдваючы правадыроў дзяржавы, вы абвінавацілі ўсю нацыю. А я не настроены так песімістычна. Нармальная суадносіна цвярозага розуму і эмоцый...

— Панове, годзе грэбціся ў магілах,— умяшаўся Туменас, убачыўшы, што спрэчка можа разгарэцца нанава — Ліпкус і Дзірванайтэ зацятыя апаненты, хоць ходзяць чуткі, што часам на досвітку можна бачыць, як мастак-гісторык пакідае дамок Дзірванайтэ.— Бліжэй да нашых дзён, дарагія калегі. Што барадаты літовец страціў па дабрыні душэўнай, назад языкамі не адбяром. Хапайма за хвост, што яшчэ можна ўхапіць, то бо то.

— Хапайма Гедымінасава сала,— ашчэрыўся Ліпкус і, дэманстратыўна закасаўшы рукавы, палез у талерку.

Д з і р в а н а й т э. Цынік!

Г е д ы м і н а с. Не, толькі рэаліст.

Губасты Гярдайціс ківае галавою, гайдаючыся ў абодва бакі, як дрэва, расхістанае ветрам. На ўсе сто працэнтаў ён на баку тых, што кажуць: мы больш рамантыкі-летуценнікі, чым рэалісты. Калі б дзяржаўная палітыка Сметаны грунтавалася на цвярозым разліку, у нас не было б трэцяга жніўня саракавога года. Літве трэба было арыентавацца на Скандынаўскія краіны, пераймаць мадэль іхняга ладу. Калі б у Літве існаваў сапраўды дэмакратычны лад, дзе ўсе партыі маюць роўныя правы, іначай прагучала б далучэнне рэспублікі да Савецкага Саюза.

— Вы на месцы Сметаны дазволілі б свабодна дзейнічаць і кампартыі? — іранізуе Ліпкус.

— Несумненна! І без ніякай небяспекі для дзяржавы. У Літве на паўтары тысячы чалавек быў адзін камуніст-падпольшчык. Я дапускаю, што, легалізаваўшы партыю, мелі б аднаго камуніста на сто пяцьдзесят чалавек. І што тут страшнага, пане Антанас?

— А калі аднаго на пятнаццаць, пане Ёзас?

— Ну і няхай,— махае рукамі Гярдайціс.— Я згаджаюся нават на большае: няхай бы камуністы атрымалі большасць месцаў у сейме, няхай бы нават узялі ўладу, хоць гэта, вядома, і немагчыма, бо літоўцу далёкія камуністычныя ідэі. Я нават дапускаю і гэта, панове. Не ведаю,

як вам, а мне тады, у саракавых гадах, здавалася: не важна, якая партыя кіруе, важна, каб яна была літоўская.

— Вы чырвоны, пане Гярдайціс!

— Ніколі не быў ім, як табе самому вядома, Антанас. Я проста разважаю, які варыянт нам быў найбольш прыдатны ў тагачаснай палітычнай сітуацыі, каб мы захавалі дзяржаўнасць. А з пункту погляду міжнароднага юрыдычнага права гэта дужа важна. Мы яшчэ не ведаем, як складуцца справы пасля вайны...

— Якая далёкасяжнасць, то бо то,— ад душы смяецца Туменас.— Пакуль рускія дойдуць да мяжы Літвы, у іх прападзе ахвота прэтэндаваць на Прыбалтыку. Немцы выціснуць іх, як лімон. І самі вытхнуцца. Дзядзька Сэм на гэта і разлічвае. Калі абодва пеўні задзяўбуць адзін аднаго да смерці, ён пакажа, дзе іхняе месца. Так думае і пан начальнік павета. Рузвельт не аддасць рускім Прыбалтыкі. Гэта быў бы плявок у твар нябожчыку Вільсану і прэстыжу Амерыкі, абаронцы малых нацый. Мы з панам начальнікам павета...

— Глупства! Што вы там са сваім начальнікам павета...— груба абрывае Ліпкус, якога злуе слабасць Туменаса хваліцца высокімі знаёмствамі.— Рана яшчэ немцам капаць магілу.

— Ты думаеш, яны выйграюць вайну? — азываецца зняважаны Туменас.— Супраць усяго свету?

— На гэтае пытанне няхай адкажа гісторыя, пане Альгіс.

— Сапраўды, панове. Хіба могуць у чалавека, які мысліць цвяроза, узнікнуць сумненні, хто з гэтай вайны выйдзе пераможцам? — Туменас збянтэжаны і абураны.— Я ўжо казаў вам пра сённяшні візіт пана з Каўнаса. Адказны чалавек, падтрымлівае сувязі з кіраўніцтвам самаўправы. Дык вось, вядома, што немцы прапанавалі генералу Пляхавічусу стварыць літоўскае войска. Гэта надзвычай важны факт, панове. Генерал Пляхавічус спадзяецца, што немцы дадуць Літве незалежнасць. Тады новы ўрад рэспублікі аб'явіў бы ўсеагульную мабілізацыю, і нашы хлопцы плячо ў плячо з немцамі — супраць бальшавікоў...

— Не надта прывабная перспектыва, чорт вазьмі,— тапырыцца Гярдайціс.

Д з і р в а н а й т э. Пане Ёзас...

Л і п к у с. Калі не далі незалежнасці адразу ж, як

вытурылі рускіх, дык няхай цяпер Гітлер суне яе ў свой аўстрыйскі азадак.

Дзірванайтэ. Папове, не забывайце, што сярод вас — жанчына.

Ліпкус. Няхай суне і падатрэцца.

Дзірванайтэ. Хам!

Туменас. Гэта толькі гіпотэза, калегі. Чалавек з Каўнаса мяркуе, што незалежнасці ад немцаў цяпер яшчэ рукам не выдзераш — яны зацята верадь у шчаслівы канец вайны. І тады, вядомая справа, не бачыць ім літоўскага войска на фронце як сваіх вушэй, то бо то.

— Дзіўна,— смяецца Гедымінас.— Не адзін кілаграм тытуню скурылі ў гэтым пакоі, змагаючыся за незалежнасць, а, як пагляджу, не дужа ўзрадаваліся б, калі б яе атрымалі.

Усе незадаволена паглядзелі на Гедымінаса.

— Ваш тон зусім не да месца, пане Гедымінас! — Дзірванайтэ абражана.

— Чаго хацець ад вёскі,— дадае Ліпкус.— У мужыка заўсёды на першым месцы лён і свіння.

— Цікава ведаць, пане Гедымінас, ці шмат чаго сам зрабіў на карысць айчыны? — нахіляецца ў яго бок Гярдайціс.— Якія горы звярнуў, калі дазволена будзе спытацца.

— Я не змагаюся з ветракамі, Ёзас.

— Будзем дэмакратычнейшыя, калегі,— спрабуе прымірыць абодва бакі гаспадар.— Гедымінас не згодзен з нашай пазіцыяй, аднак гэта не азначае, што, калі айчына пакліча, ён не выканае свайго абавязку.

— Хто ў гэтым сумняваецца? — кпіць Ліпкус.— Пане Джугас, ці многа сёлета выкарміў свіней немцам? Як жыта ўрадзіла? Ах, спудлаваў, прашу прабачыць: я і забыўся, што вы адмовілі рэйху ў пастаўках. Патрыятычны жэст. Віншую з узняццем сцяга змагання супраць акупантаў.

— Дзякую, пане Антанас,— лагодна адказвае Гедымінас, з'едліва ўсміхаючыся праз воблака дыму Ліпкусу.— Я зрабіў толькі тое, што лічыў сваім абавязкам.

— Многа, надзвычай многа ты зрабіў,— не адстае Ліпкус.— Твае свінні і пшаніца прызначаліся на стол самому Гітлеру. Адольф, чакаючы іх, ужо каторы дзень галадае. Трэба спадзявацца, неўзабаве галоўны штаб фюрэра абвесціць паведамленне, што стары з галадухі выцягнуў ногі.

— Ён не выцягне ног ні ад маіх паставак, ні ад вашых гаворак, пане Ліпкус. Мы з вамі б'ём па азадку, а ёсць людзі, якія цаляюць яму ў галаву.

— Знаёмы з такімі? — Твар у Ліпкуса сапраўды становіцца жоўты, як лімон.

— Хіба вам навіна, што ў Вянцкім лесе страляюць?

— О-ох! — ускоквае Дзірванайтэ.— Ён пра бандытаў...

Гярдайціс плямкае губамі, гайдаючыся паміж Ліпкусам і Гедымінасам, нібы маятнік насценнага гадзінніка. Чорт вазьмі! Гэтага яшчэ не хапала, каб ім прапанавалі ісці ў лес да чырвоных!

— Я не прапаноўваю, Ёзас,— абараняецца Гедымінас.— Я кажу толькі, што гэтая вайна на словах здаецца мне смешнай.

Ліпкус выцягвае з унутранай кішэні пінжака падпольную газету — кожны сябрук атрымаў гэтакую ад Туменаса — і, махаючы ёю перад носам у Гедымінаса, кажа:

— Пра ўсё, што пішацца тут, за тыдзень стане вядома ўсёй гімназіі. Мы падтрымліваем пастаянны кантакт са школьнай моладдзю, пане Гедымінас. Калі мы сёння сядзім у Туменаса, дык гэта не азначае, што заўтра, у гэтакі самы час, кожны з нас не будзе сядзець у сябе дома сярод вучняў, якія разумеюць нас лепш, чым вы, пане Гедымінас. Наша жывое патрыятычнае слова праз навучэнцаў гімназіі даходзіць да іхніх бацькоў, братоў і сясцёр, пашыраецца ў горадзе і ў вёсцы, рыхтуючы нацыю да цяжкіх выпрабаванняў. Вы строіце з сябе героя са сваімі пастаўкамі. Начхаць мне на іх!

Д з і р в а н а й т э. Антанас...

Л і п к у с. Усім нам начхаць на вашы пастаўкі, пане Джугас. Варта было нам толькі захацець, варта было нам націснуць кнопку праз сваіх навучэнцаў — і большая частка вёскі не дала б ніводнага кілаграма збожжа ці мяса. Але мы гэтага не зрабілі — не ў нашых інтарэсах цвяліць немцаў, каб яны пралілі яшчэ больш літоўскай крыві. Хай гэтым займаюцца тыя, што цэляць, як вы кажаце, Гітлеру ў галаву, а на самой справе косяць сваіх.

— Вось не ведаў, што вы такі вялікі аўтарытэт літоўскай нацыі,— іранізуе Гедымінас.

— Чаму ён? — ловіць яго Дзірванайтэ.— Настаўнік! Настаўнік і ксёндз былі і засталіся найбольшымі аўтарытэтамі на нашай вёсцы.

Гедымінас маўчыць. Што праўда — то праўда: з гэтым не паспрачаешся.

— Калі Кубілюнасаў друк пачаў заклікаць моладзь уступаць добраахвотнікамі ў вермахт, шмат вучняў старэйшых класаў узнялі былі крылы, але мы іх жвава падрэзалі,— устаўляе Гярдайціс.

— Але, мы згубілі б не адзін дзесятак хлапцоў, а склалі галовы толькі двое,— бліпчыць рот у Ліпкуса.— Яны ўсе, вось як сёння мы, сядзелі за сталом. У Туменаса, Гярдайціса, у панны Юраты, у мяне. «Дык як, пане настаўнік?» Варта было сказаць: «Пра што гаворка! Ідзі, калі самаўправа кліча. Дай дыхту бальшавікам!» І яны пайшлі б. Аднак жа мы — не! І адны і другія — чужыя нам. Панасі пакуль што галаву на плячах,— складзеш яе, калі спатрэбіцца, за сваю Літву.

— Значыць, адклалі выкананне смяротнага прысуду сваім хлапцам,— спрабуе супраціўляцца Гедымінас, адчуваючы, што здаецца.

Д з і р в а н а й т э. Жахлівы цынізм!

Г я р д а й ц і с. Не — какетнічанне арыгінальнасцю.

Т у м е н а с. Ты часам невыносны, Гедымінас.

Г е д ы м і н а с. Чаму, Альгіс? Вы ж так гэтых дзяцей зарадзілі, што дастаткова націснуць кнопку, кажучы словамі пана Ліпкуса, і ўсе яны паляцяць у мішэнь, калі настане адпаведны час.

Д з і р в а н а й т э. У вас няма нічога святога, пане Гедымінас.

Г е д ы м і н а с. Акрамя чалавека, панна Юрата.

Г я р д а й ц і с. Пачынаю верыць, што ўсе паэты прыпыленыя.

Ліпкус разяўляе рот, нібы рыбіна, выкінутая на бераг. Зялёныя вочы працінаюць Гедымінаса з такой злосцю, што дрыжыкі па спіне бегаюць. Нарэшце — смех. Першы раз за гэты вечар ён чуе Ліпкусаў смех. Сіплы, бразгатлівы. Быццам грукоча па бруку воз.

— Панове, паглядзіце на гэтага чалавека.— Ліпкус працягвае руку цераз стол, тыцкае пальцам у Гедымінаса, ледзьве не дакранаючыся да ягоных грудзей.— Паглядзіце на археалагічнага выкапня. Гэта самае дасканалае спараджэнне чалавецтва. Геній! У яго няма нічога святога, акрамя чалавека, а калі мы ўратавалі для нацыі пяцьдзесят маладых жыццяў, ён, гэты светач гуманізму, смяецца з нас. Але, мы тут, за гэтым сталом, скурылі нямала тытуню, як вы дазволілі сабе выказацца. А што зрабіла ваша імасць на карысць гэтага самага свайго чалавека? Уцякла да таты ў вёску свіней карміць, бо ў вёсцы спакайней, бяс-

печней. Няхай гэтакія дурні, як Туменас са сваёю сяброўнай, барукаюцца з немцамі і іх памагатымі за нашу школьную моладзь, няхай едуць у рэйх працаваць на палях баўэраў альбо ў працоўныя лагеры, калі схопяць іх за каршэнь. Не ведаю, чым скончыцца гэтая камедыя з пастаўкамі, пане Гедымінас, але асабіста я не буду сумаваць, калі вам прышчэмяць хвост. Сам хацеў пасмяяцца — сам і паплач. Нацыя схіляе сцягі толькі перад тымі, хто гіне за яе і разам з ёю. Староннія назіральнікі, ды яшчэ такія, якія кпяць з нацыі ў цяжкую гадзіну, ёй не патрэбны.

Рэха Марусавых званоў... З іншай званіцы, вядома, аднак у ім тое самае бязлітаснае асуджэнне, якое прагучала ў хаціне тарфавіка. «Сам хацеў пасмяяцца — сам і паплач...» Марус сказаў бы гэта трохі інакш: «Абедзвюма рукамі трымайся за свой сцяг, гэта азначае — за сябе самога, пакуль немцы не ўкладуць цябе ў дол...» І там і тут за сталом сядзелі пяць чалавек, і былі два пункты погляду. І той другі, ягоны, пункт погляду ўсім здаўся смешным. Першыя пагардліва павярнуліся спіной, нават не развітаўшыся, другія, праўда, падалі руку, падзякавалі за вячэру, але ва ўсіх іх паводзінах адчувалася такая перавага, што Гедымінас, прыдушаны сваёю нікчэмнасцю, не хутка апамятаўся.

«Трэба было ківаць, згаджаючыся, глытаць чужы тытунёвы дым і маўчаць. Ці быў сэнс яшчэ вышэй падымаць сцяну, якая і так ужо аддзяляе мяне ад учарашніх сяброў? Ліпкус справядліва кінуў мне ў вочы: і на самой справе, што я такога зрабіў «на карысць майго чалавека»? Дапамог Пуплясені і Куксу. А ўсё астатняе — словы, пустыя словы. Але нават і гэты ўбогі аргумент я не меў права скарыстаць».

Гедымінас ляжыць на канапе і пазірае ў столь. Калі б за акном шумеў лес і недзе пад бокам цікаў будзільнік, можна было б падумаць, што ўсё яшчэ доўжыцца ноч на ўскрайку Вяпцкага лесу. Але за адчыненым акном дыхае сонны горад. Па тратуары стукае падкоўкамі ботаў патруль, недзе вуркоча матор машыны, з рэстарана разам з подыхам ветру наплывае, то мацнеючы, то амаль сціхаючы, музыка джаза. Гедымінас заплюшчвае павекі. Вочы пячэ ад тытунёвага дыму, хоць пакой, напэўна-такі, ужо праветрыўся — можна зачыняць акно. У горле мляўка,

Свядомасць выштурхвае і зноў паглынае вобразы, якія нічога агульнага не маюць з сённяшнім вечарам. Вароны зімой — грабуцца ў дымлівых конскіх бульбяхах на дарозе. Маці ў двары корміць курэй. Бацька. Пагодлівы летні ранак... Зноўку бацька. У кашулі. Асядлаў па-дзіцячы зэдлік і кляпае касу... Стук-стук-стук... За гумном, ля сажалкі, белая бярэзіна... Не памятае, хто яго, малечу, тады пакрыўдзіў, але ён плача, абняўшы дрэва. Было лагоднае сіняе неба, што прасвечвала праз ускудлачаную ветрам вяршаліну бярэзіны, лагодныя птушкі і па ўзбярэжжы сажалкі лагодныя сцяблiны аеру, толькі не былі лагодныя людзі. Ён не хацеў бачыць людзей. Уяўляў, што, апроч яго і гэтага дрэва, адзінага ягонага сябра, на свеце нікога болей няма. Хіба што яшчэ птушка, якая праносіцца побач, ды цырбуны аеру — вось і ўсё. Сінія далячыні. Без канца, без краю. Пустэча. І тады, мабыць, упершыню ў сваім маленькім жыцці ён адчуў суровы подых самоты, ад якога, нібы ад балючага ўдару ветру па твары, на вачах выступілі слёзы.

...Як добра было б сядзець, прытуліўшыся спіною да той бярэзіны з дзіцячых гадоў, і даваць волю сэрцу!

— Пэўна, дым ужо выцягнула,— азваўся Туменас з ложка.

Гедымінас таропка выцірае беражком коўдры вільготныя вочы: чаго добрага, Альгіс надумаецца ўключыць святло. Аднак той вобмацкам зачыняе акно і, зацягнуўшы штору, на дыбачках вяртаецца да свайго ложка.

— Я не сплю,— міжволі вырываецца ў Гедымінаса.— Паслухай, Альгіс, мне дужа шкада, што я з тваімі гасцямі паводзіў сябе нетактоўна. Не гневаешся?

— Ліпкус часам занадта распускае язык.— Туменас шырока пазяхае.— А так яны людзі разумныя. Мог бы лагадней да іх паставіцца.

— Бясспрэчна, Альгіс. Тым больш што я гіблы чалавек, ніхто мне не зможа дапамагчы.

— Ну-у, то бо то,— дзівуецца Туменас.— Што здарылася? А, ты наконт паставак...

— Пастаўкі — другарадная справа, Альгіс. Прынамсі, пакуль што другарадная. Адчуваю сябе пякельна самотным. Нейкі жахлівы кашмар. Такое адчуванне, нібыта я скачу, як той лугавы конік, пад велізарным прэсам, які няўмольна апускаецца на мяне.

— Усе мы адчуваем такі прэс, Гедымінас. Сёння гутарым тут, а заўтра можам апынуцца ў гестапа.

— Не, Альгіс, гэта не страх смерці альбо невядомасці. Ці не здаралася табе ў маленстве заблудзіцца ў лесе? Кідаешся ў адзін бок, у другі, і табой авалодвае ўсё большая няпэўнасць, ці правільны шлях ты выбраў. Дык вось, і са мной нешта падобнае.

— Можа, табе не варта было залазіць у вёску?

Гедымінас прапускае міма вушэй Туменасаву заўвагу і прадаўжае думку, якая ўсё больш і больш завалодвае ім:

— Ліпкус мне змазаў па зубах. Прыкры тыпус, не люблю такіх, шчыра кажучы, але вашы намаганні ўтрымаць вучняў ад бойні на фронце... Гэта вы сапраўды, нельга не прызнаць... Учынак, варты пашаны. Я з тымі сваімі пастаўкамі і на самой справе...

— Вярнуўся б у гімназію, Гедымінас. Мог бы болей зрабіць на карысць нацыі,— пажвавеў Туменас.

— З гэтай справай скончана, не будзем,— рэзка перапыняе Гедымінас і, памаўчаўшы, дадае: — Вы і ў самой гімназіі ведзяце такія размовы? Прынамсі, параіў бы асцерагацца хоць Баўкуса.

— Баўкуса? Гэтай старой порхаўкі, то бо то! Сказаў бы — дырэктара...

— Ціхая свіння глыбока рые.

— Баўкуса! Смешна!

— А ты не смейся, лясні цябе пярун!

— Мы нават намерваліся ўцягнуць яго ў свой гурток. Пачалі здалёк, але стары перапужаўся, рукамі толькі замахаў: «Жонка, дзеці...» Баязлівец!

— Табе гэтага мала?

Туменас замест адказу глыбока ўздыхае.

Гедымінас паварочваецца да сцяны. Спружыны нелітасціва ўцінаюцца ў бок. Даўно пара спаць — напэўна, ужо апоўначы,— але ў галаве неадступна натоўпяцца думкі. Нейкі гнятлівы хаос, ад якога нікуды не ўцячэш. Яму карціць прадоўжыць размову з Туменасам, увесці яго ў свой узрушаны свет, павадзіць па таемных лабірынтах сэрца — няхай скажа, што там не так, што трэба змяніць. Не, ён не зразумее; хоць і будзе дужа старацца, нічога ў яго не выйдзе. Нанясе бруду, наплюе. Акрамя бацькі, няма чалавека, перад якім мог бы адкрыць сваё сэрца і адчуваць як брат з братам за святочным сталом. Мілда? Але, з ёй усё проста. Побач з ёй адчуваеш сябе большым,

значнейшым. Усе праблемы адхіляюцца ўбок ад аднаго жэсту яе маленькіх рук, картавай гаворкі, усмешкі, заўсёды прывабнай і бездапаможнай. Яна гэтакі ж самы знявечаны жыццём чалавек, як і ты, толькі яшчэ больш убогая духам, бо ў той час, калі ты мітусішся, смуткуеш за ўвесь свет, яна жыве адно толькі сваім няшчасцем. І заціскаеш сваімі губамі яе губы, лашчыш валасы, паглыбляешся ў цеплыню яе трапятлівага цела, удзячны, што на гэтай залітай крывёю зямлі ёсць істота, якой ты патрэбен, як хлеб галоднаму, як вада сасмягламу, як любоў чалавецтву.

## III

Раніцай, калі Туменас падаўся ў гімназію, Гедымінас памарудзіў якую гадзіну (няхай Адомас выберацца на свой участак) і пайшоў на пошту, каб патэлефанаваць Мілдзе.

Азваўся незнаёмы жаночы голас.

— Будзьце ласкавыя, паклічце да тэлефона паню Вайнарэню,— папрасіў ён, захлынаючыся ад хвалявання.

— Паню Вайнарэню?.. Дык яе... Дык яна ўжо...

Трэск. Паўза. Потым халодны мужчынскі голас:

— Хто пытае? Алё, алё!

Гедымінас, нібы апёкшыся, адняў трубку ад вуха.

— Каго вам? Алё, алё!

Што здарылася, чорт вазьмі? Адкуль у Мілды гэтая заіклівая дзеўка і гэты вогер з хрыпатым голасам?

Выйшаў на вуліцу, пастаяў на ганку, разважаючы, што рабіць далей, потым вярнуўся на пошту і папрасіў яшчэ раз злучыць з гэтым самым нумарам.

Цяпер адразу адказаў мужчынскі голас.

— Паня Мілда дома?

— І што, калі дома?

— Можна яе?

— А з кім бы яна м е л а гонар гутарыць?

— Выбачайце, а які вам клопат? — выбухнуў Гедымінас.— Хто вы такі? Служыце ў яе камердынерам?

— Не, складаю спіс яе колішніх паклоннікаў.— У трубцы цынічна засмяяліся, пачуліся гудкі: тэлефон адключыўся.

Гедымінас выйшаў з пошты, не ведаючы, што і думаць аб такім дзіўным сюрпрызе. Мабыць, Мілды няма дома, а ў Адомаса госці, якія, каб дагадзіць гаспадару, гуляюць у

жартачкі. Ну і няхай. Паблукае па горадзе, потым патэлефануе яшчэ раз.

Ён дайшоў да дома, у якім жыў Туменас. Адтуль, звярнуўшы на Гімназічную вуліцу, пасунуўся міма цукерачнай фабрыкі на вакзал. Крыху патаптаўся на Вялікай горцы, з якой быў відаць увесь горад, і вярнуўся ў цэнтр, дзе сярод цесна згруджаных дамоў не так адчуваўся халодны зімовы вецер, аднак дахі ўсё роўна бялелі шэранню, і на лужах маршчыніўся начны лядок.

Гедымінас зайшоў на пошту і зноў патэлефанаваў Мілдзе. Азваўся той самы мужчынскі голас, спытаўся, з кім мае гонар гутарыць, і, не дачакаўшыся адказу, павесіў трубку.

Гедымінас апанурыўся. Няўжо не ўдасца сустрэцца з Мілдай раней, чым Туменас вярнецца з урокаў? Нейкі час ён смыкаўся непадалёк ад дома Вайнарасаў, спадзеючыся на шчаслівы выпадак, аднак Мілда не з'яўлялася. Эх, плюнуць бы на ўсё і зайсці... Няхай яны пацешацца — Адомас са сваімі хаўруснікамі. Праўда, яго могуць выставіць за дзверы, аднак жа яму трэба не пані Вайнарэня альбо Бярджэненя, а папросту — Мілда Дайлідайтэ. Магчыма, яна сядзіць у сваім пакоі, аднак не паспявае падысці да тэлефона — гэты Адомасаў вогер хапае трубку раней.

Набраўшыся адвагі, Гедымінас увайшоў у двор. За садам стаяў той самы, памаляваны жоўтаю фарбаю Вайнарасаў дом, аднак некалькі імгненняў Гедымінас не мог пазбыцца ўражання, што трапіў не туды. (Нежывы дом. Вокны забіты дошкамі, на дзвярах — іржавы замок. У настылых пакоях пуста, насмечана...) Ён нявесела ўсміхнуўся гэтай дзіўнай уяве і націснуў званок.

Адчынілі не хутка. Напачатку нібыта застукалі крокі, нават бразнула зварушаная клямка, але ў той жа час нехта крыкнуў («Weg!» [1] — пачулася Гедымінасу), і шамаценне сціхла.

Ён яшчэ раз націснуў на кнопку.

— Хто там?

— Адчыніце! — закрычаў Гедымінас, сціскаючы далоні, што раптам зрабіліся потныя.

Дзверы прачыніліся. У твар дыхнула хлараформам і пахам нямецкай цыгарэты. Перш за ўсё Гедымінас убачыў скіраваны ў грудзі пісталет, які трымала зарослая чорнаю шчэцю лапа. Твар у мужчыны быў гэтаксама амаль чор-

[1] Прэч! *(ням.)*

ны, з раздвоеным падбароддзем. Холадна блішчалі вочы, у якіх, апроч прафесійнай цікаўнасці, нельга было прачытаць ніякай думкі.

— Што вы тут робіце? — пралепятаў Гедымінас, адступаючы ад дзвярэй.

Чалавек апусціў пісталет.

— А-а, гэта вы тэлефанавалі? — не то ўзрадаваўся, не то здзівіўся ён, павoлі зачыняючы дзверы.— Гэта вы дарма, пане: вам тут рабіць больш няма чаго.

Гедымінас павярнуўся і выйшаў на вуліцу. Ад хвалявання не заўважыў, як нейкі чалавек выслізнуў з-за вугла дома і падаўся ўслед за ім. «Што тут робіцца, чорт вазьмі! Заіклівая жанчына, мужчына з пісталетам у Мілдзінай кватэры... Няўжо яе арыштавалі? Але за што? Лухта! Адомас не мог скаціцца да таго, каб помсціць такім чынам. Куды лагічней было б перш за ўсё знішчыць мяне». Гедымінас намагаўся ўспомніць, ці быў той мужчына ў мундзіры, нібы гэта цяпер мела нейкае значэнне, але ў памяці засталіся адно толькі калматая лапа з пісталетам і тупы пагляд. Ахоплены неспакоем, які ўсё нарастаў, ён цягнуўся па тратуары, не ведаючы, што рабіць далей, і пяўцямна разумеючы, што здарылася нешта страшнае.

Наперадзе ішлі дзве жанчыны. Адна была маладая, хударлявая і зграбнаю паходкай нагадвала Мілду. Гедымінас дагнаў іх; яшчэ трохі — і ён схапіў бы меншую за руку, аднак своечасова заўважыў памылку: Мілда так безгустоўна не апраналася. Хацеў абмінуць іх — жанчыны тараторылі занадта гучна, а Гедымінас не любіў падслухоўваць чужыя размовы, але тратуар тут быў вузкі, і ён ішоў следам, усё больш здзіўляючыся з таго, што чуе.

Ля скрыжавання вуліц вынырнула легкавушка. На павароце шафёр зменшыў хуткасць, і Гедымінас убачыў на пярэднім сядзенні начальніка гестапа Дангеля. Ён сядзеў, нібы праглынуўшы кол, утаропіўшыся перад сабою невідушчымі вачамі, але Гедымінасу здалося, што іхнія позіркі сустрэліся. На заднім сядзенні сядзелі трое — адзін з іх быў у форме; яны пазіралі па баках з такім выглядам, нібы везлі бомбу замаруджанага дзеяння.

Тратуар пашырэў, але Гедымінас, замест таго каб абагнаць жанчын, параўняўся з імі і нерашуча загаварыў:

— Выбачайце, я незнарок падслухаў вашу гаворку. Бачыце, я сам з Лаўксадзіса, таму зразумейце маю цікаўнасць. Адкуль вам вядома, што партызаны гэтай ноччу спалілі сядзібу фон Дызэ і павесілі старасту.

Жанчыны спалохана ўтаропіліся на яго.

— О-о, вы з Лаўксадзіса! — Жанчынка, што здалася яму падобнай на Мілду, ласкава ўсміхнулася Гедымінасу і расчаравана дадала: — Значыць, няпраўда? І чаго толькі гэтыя людзі не нагавораць!..

— Я не сцвярджаю, што гэта няпраўда, шаноўная. Не магу сцвярджаць,— зазначыў Гедымінас.— Сёння я начаваў у Краштупенах.

— Значыць, ні мы, ні вы нічога не ведаем,— паспешліва ўставіла старэйшая жанчына, падазрона агледзеўшы Гедымінаса з галавы да ног.— Праўду кажуць: за ветрам не ўгонішся. Але так ужо бывае: прыносіць вецер пагалоску немаведама адкуль і праз каго, а людзі падхопліваюць яе і балабоняць, як папугаі.

— Ды вы не бойцеся мяне...

— Што вы! Адразу відаць, прыстойны чалавек. Але нам сюды.— Старэйшая ўзяла сяброўку за руку, і яны нырнулі ў двор.

Міма на невялікай хуткасці зноў праслізнула чорная Дангелева машына і спынілася ля тратуара за дзесятак метраў ад Гедымінаса.

Гедымінас павярнуў быў назад — ён не меў ніякага жадання прыўзнімаць капялюш перад панам начальнікам гестапа,— але ў гэты момант нехта ззаду ўзяў яго за рукі. Здзіўлены і абураны, ён турзануўся, вырываючыся, і кінуў шпаркі позірк на двух мужчын, што па-панібрацку трымалі яго за локці, убачыў на іхніх галовах фетравыя капелюшы, а на ружовых тварах усмешкі, якія па нейкай асацыяцыі адразу нагадалі чорнага тыпа ў дзвярах Мілдзінага дома, і ўсё зразумеў.

— Што вам ад мяне трэба? — рэзка запытаўся ён, з тугой пазіраючы на завалены грудаю дроў падворак, куды зніклі жанчыны.

— Зараз даведаецеся, пане Джугас,— сказаў адзін.— Прашу ў машыну.

— Толькі спакойна,— папярэдзіў другі.— Нашы «заўэры» трапляюць з дзесяці метраў у яйка.

Мужчыны адпусцілі рукі, і ўсе трое, нібы старыя сябры, што выйшлі пашпацыраваць у суботні вечар, рушылі да аўтамабіля.

— Herein! [1] — каркнуў першы, адчыняючы заднія дзверцы ў машыне.

---

[1] Уваходзьце! *(ням.)*

Хоць гэта не мела ніякага значэння, але Гедымінасу зрабілася крыху весялей, калі ён убачыў, што ў машыне, апрача шафёра, больш нікога няма.

— Рукі! — сурова загадаў другі гестапавец, калі аўтамабіль крануўся з месца.

Гедымінас моўчкі выставіў рукі.

— Гэта найлепшым чынам засцерагае ад спакусы, якая звычайна бывае апошняя ў жыцці,— апраўдваўся першы гестапавец, накладаючы на Гедымінаса наручнікі.

«Пачынаюць спраўджвацца Марусавы прароцтвы...»

Раптам яго ахапіў такі жах, што ён ледзьве стрымаўся, каб не закрычаць. Ён не мог вытлумачыць гэтага нечаканага пачуцця, але ведаў — гэта не страх смерці. Такое пачуццё, мабыць, знаёмае жыхару гор, які, ступіўшы неасцярожны крок, падае ў расселіну і, бачачы, як імкліва набліжаюцца скалы, пакутліва ўсведамляе, што ўсё было б інакш, калі б ён пайшоў іншай дарогай. Не, дастаткова было не ступіць апошняга кроку. Аднак ён не мог не пабачыцца з Мілдай. Ах, трэба было адштурхнуць гэтых тыпаў, калі бралі за рукі, і кінуцца ў двор. Бязглуздзіца, вядома. Цяпер бы ляжаў, напэўна, у лужыне крыві, а навокал гамонілі б разявакі. Але ці гэтакае выйсце не лепшае за невядомае заўтра? Бацнуў бы аднаму, кашкануў другому, рывок убок, і не сядзеў бы цяпер у наручніках. Не рашыўся. Зрэшты, нават не паспеў падумаць пра гэта: надта быў ашаломлены загадкавымі падзеямі на кватэры ў Мілды. Успомніў учарашняе сваё выказванне пра коніка пад прэсам. Збылося! Прэс апусціўся. Збыўся жорсткі Ліпкусаў жарцік: сам хацеў пасмяяцца — сам і паплач. Сам... О, каб жа гэта было так! На жаль, чалавек не можа памерці толькі для сябе, не паміраючы для іншых. Колькі гора будзе ў бацькі, у Мілды... Якая жахлівая логіка жыцця: чалавек выбірае права загінуць, каб не забіваць іншых, і ўсё роўна не можа памерці, не прыдушаны горам блізкіх людзей.

У поўным здранцвенні Гедымінас глядзеў на скутыя рукі, якія ляжалі на каленях, стараўся супакоіць сябе, што нічога, маўляў, непрадбачанага не адбылося — ён жа свядома ішоў насустрач такому лёсу, якога мог пазбегнуць, толькі здрадзіўшы сваім прынцыпам,— але ў глыбіні душы адчуваў, што нешта адбылося не так, як павінна было адбыцца.

## IV

Гестапаўцы абшукалі Гедымінаса і пайшлі, забраўшы ўсё, што знайшлі ў кішэнях. Ён шмат чуў пра зверствы людзей гэтай прафесіі і ўсё чакаў, што яны пусцяць у ход кулакі, але ніводзін з іх нават рукі не ўзняў. Калі выходзілі, знялі нават наручнікі і пажадалі (вядома, не без іроніі) хутчэй акліматызавацца ў новых умовах.

Памяшканне, у якім апынуўся Гедымінас, было пакоем сярэдняй велічыні, збольшага прыстасаваным да новага прызначэння. Праз даволі вялікае акно, заляпанае знадворку белай фарбай і закратаванае жалезнымі прэнтамі, сачыўся пануры змрок, скупа асвятляючы бляклыя, невядома якога колеру сцены, драўляныя нары з матрацам і табурэтку — адзіную мэблю ва ўсім пакоі. Паветра было тут настылае, вільготнае і патыхала цвіллю, перакошаныя масніцы жахліва рыпелі пад нагамі. Гедымінас паспрабаваў сесці, але расхістаная табурэтка таксама заверашчала на ўсе галасы, ледзь да яе дакрануўся. Тады ён, не знімаючы паліта, расцягнуўся на нарах. Гэтакая самая музыка, што грае на нервах. Як быццам зроблена ўсё наўмысна, каб вартавы, што стаіць за дзвярыма, мог чуць кожны рух вязня. Гедымінасу падумалася: у матрацы могуць вадзіцца клапы, якія пэўна-такі яшчэ не паспелі пераварыць крыві чалавека, што ляжаў да яго,— але гэтая думка чамусьці не выклікала агіды. Атупелым паглядам ён абмацваў краты на акне і праз гэтую металічную сетку бачыў родную сядзібу, бацьку, Мілдзіны вочы. Вобразы былі непаслядоўныя, урыўкавыя, нібы выпадковыя здымкі з рассыпанага сямейнага альбома, і ён са спакойным смуткам разглядаў гэтыя фрагменты мінулага, стараючыся ні пра што не думаць. Зрэшты, пра гэта і не трэба было асабліва старацца — нават калі б хацеў, не змог бы звязаць ніткі абарванай думкі, якая згубілася ў безнадзейна заблытаным клубку. Усё навокал — крокі вартаўніка за дзвярыма, рыпенне нараў, закратаваны чатырохкутнік акна,— усё гэта разам з бязладнымі вобразамі ўспамінаў, што бязладна вынікалі з падсвядомасці, здавалася, не мела ніякага дачынення да рэчаіснасці. Час ад часу ён ускокваў з нараў, хадзіў па пакоі, бессэнсоўна аглядаючы сцены альбо ўтаропіўшыся ў шчыліну паміж масніцамі, а потым зноў клаўся на матрац. Час і прастора нібыта застылі ў адной кропцы, і было дзіўна, што ў пакоі робіцца ўсё цямней, а потым цемра пачынае радзець і з чорнай пустэчы

вымалёўваюцца халодныя сцены адзіночкі. Ранак! Упершыню за мноства гадоў рассвітала... Ён не ведаў, калі заснуў, урэшце, не быў упэўнены, ці спаў наогул: схлынуў стан апатыі і перад вачамі зноўку паўстала суровая рэальнасць; з пазіцыі безуважнага назіральніка яна вяртала яго да ролі актыўнага ўдзельніка падзей, і нейкую хвіліну Гедымінасу здавалася, што гэта ўсё доўжыцца ўчарашні дзень. Толькі пачуццё голаду нагадала яму, што прайшло нямала часу з той пары, калі ён еў апошні раз. Ён нават узрадаваўся, пачуўшы бразгат засаўкі, хоць яму тут жа давялося расчаравацца.

— Выходзь! — крыкнуў эсэсавец, адчыніўшы дзверы.

У вузкім цёмным калідоры яго чакалі двое.

— Rechts! [1] — скамандаваў адзін з іх.

Гедымінас пайшоў услед. За яго спіною грукалі крокі другога ахоўніка.

Так, ланцужком, яны выйшлі ў высокі пануры двор. Злева была відаць высокая драўляная брама, справа — неатынкаваны дом з абпаленай цэглы; вокны ў ім былі ў гатычным стылі. Увайшоўшы праз шырока адчыненыя дзверы, яны ўзняліся па вітай лесвіцы на другі паверх.

Дангелеў кабінет знаходзіўся ў канцы калідора. Першы эсэсавец, энергічна пастукаўшы суглобамі пальцаў, адчыніў дзверы і выцягнуўся, намерваючыся адрапартаваць, але Дангель, мабыць, жэстам загадаў яму адысці, бо чорная спіна ахоўніка слізганула, адкрываючы постаць чалавека ў мундзіры, што ўстаў з-за пісьмовага стала. Тут жа другі эсэсавец уштурхнуў Гедымінаса ў пакой. Дзверы за спіной бясшумна зачыніліся.

— Пане Джугас! — Дангель, усміхаючыся на ўвесь рот, рухаўся Гедымінасу насустрач.— Якая прыемная сустрэча! Сядайце, пане настаўнік. Не, не, не сюды, з добрымі сябрамі я не люблю гутарыць за пісьмовым сталом — гэта для афіцыйнай кліентуры.— Ён узяў Гедымінаса за локаць і — той не паспеў нават апамятацца ад такога ласкавага прыёму — падвёў да невялікага круглага століка, што стаяў у кутку пакоя паміж акном і дзвярыма.— Як выспаліся? Спадзяюся, мае людзі былі даволі ласкавыя з вамі?

— Не магу наракаць,— прамармытаў Гедымінас, паглыбляючыся ў мяккае, абабітае скурай крэсла.

Дангель усеўся насупраць.

---

[1] Направа! *(ням.)*

— Я мушу папрасіць у вас прабачэння, пане Джугас, за непрыемны сюрпрыз, але часам даводзіцца прымаць даволі крутыя меры, каб засцерагчы нашых сяброў — у дадзеным выпадку вас — ад яшчэ большых непрыемнасцей.

— Дзякуй за клопат, пане начальнік гестапа.— Гедымінас міжволі ўсміхнуўся.— Цікава, з якога часу вы залічваеце мяне ў кола сваіх сяброў?

— Мы паважаем людзей таленту і розуму, пане Джугас. А вы якраз такі. Сярод іншых рэчаў, якія забралі ў вас мае хлопчыкі, я знайшоў лісткі з вершамі. Вы валодаеце пяром. Прызнаюся, я чытаў большую частку вашых твораў, абвешчаных у друку, але гэтыя зрабілі на мяне найбольшае ўражанне. Паверце, гэта не меркаванне прафана. У гімназіі я сам пісаў вершы, многа чытаў. Паэтам не стаў, але прыхільнікам паэзіі застануся да скону.

Дзівіся: брыг ва ўсплёсках шалу.
Куды вядзе яго мана?
Ён зараз рынецца на скалы,
калі не выкрывіць стырна.

— Вы спалілі на вогнішчы кнігі гэтага вялікага нямецкага паэта,— змрочна заўважыў Гедымінас.

— Але, гэта быў геніяльны яўрэй.— Дангель устаў. Гедымінас таксама тузануўся ў крэсле, але начальнік гестапа стрымаў яго жэстам рукі. За плячамі, адчыняючыся, шчоўкнуў сейф. Потым на столік паволі апусцілася рука з распачатай пляшкай французскага каньяку, два кілішкі, парцалянавая талерачка з узорыстым беражком, на якой ляжала некалькі кавалкаў шакаладу.— Мае словы могуць прагучаць для вас парадоксам, пане Джугас, аднак я перакананы: нішто так не паралізуе духу нацыі, не скоўвае яго ланцугамі руціны, як трызненне геніяльных мастакоў, што не памерлі разам са сваёю эпохай. Гэта атрута павольнага дзеяння — атруцімся ў маленстве, а мусім лячыцца ўсё жыццё. Можа, калі немцам і былі патрэбны Гётэ, Гейнэ, Шылер, хоць я і вельмі сумняваюся ў гэтым, але цяпер яны састарэлі. Яны спявалі гімн чалавеку наогул, прышчаплялі свядомасці немца шкодную далікатнасць, засмечвалі галовы прыгожай, але небяспечнай лухтой, якая выхоўвала рабоў, а не змагароў. Нацыя даўно іх перарасла, пане Джугас. Немцам патрэбны не музейныя геніі — няхай яны гніюць у маўзалеі сваёй эпохі,— а старанныя мастакі, творы якіх, магчыма, і не пражывуць іх саміх, але ў якіх будзе тое, што сёння найбольш нам трэба,— адсутнасць літасцівасці да тых народаў, якія нарадзіліся,

каб быць рабамі, і фанатычная вера ў геній сваёй нацыі, якую гісторыя паклікала валодаць светам.

— Пане начальнік гестапа, вы забываеце, што перад вамі сядзіць не немец,— сказаў Гедымінас, пазіраючы на празрыста-белую руку, якая пасоўвала да яго кілішак.

— Ні ў якім разе, пане Джугас! Вы не немец, аднак і не адзін з тых быдлякоў, выбачайце на слове, якім гісторыя наканавала цягаць камяні на будаўніцтва піраміды. Чалавеку вашага тыпу заўсёды знойдзецца месца і належная пашана ў вялікім рэйху. Вып'ем, пане Джугас. За будучыню чалавецтва, кіраваную вялікім геніем нямецкай нацыі! — Дангель узняў кілішак, адпіў і, убачыўшы, што Гедымінас не паварушыўся, паставіў назад на столік. У вачах нешта бліснула, быццам лёзы нажоў, і зноўку пагасла.— Вы не паважаеце гаспадара, пане Джугас.

Гедымінас пацепнуў плячамі.

— Бачыце, мы, літоўцы, прывыклі спярша як след закусіць, а потым ужо выпіваць,— сказаў ён, змагаючыся са страхам і варожа пазіраючы Дангелю проста ў вочы.— Я яшчэ не снедаў, пане оберштурмфюрэр.

— Ah so.— Дангель даравальна ўсміхнуўся.— Што ж, тады зразумела. Пастараюся быць спагадлівым да вашага нацыянальнага характару. Скажыце, пане Джугас, што б падумалі пра чалавека, які ў сметанаўскай Літве лаяў немцаў, а калі немцы вызвалілі Літву ад бальшавікоў, кінуў настаўнічаць і перабраўся ў вёску. З вёскі, дзе ён атабарыўся, у адну ноч уцяклі ўсе палонныя. Потым гэты чалавек адмаўляецца здаваць дзяржаве пастаўкі, і, што самае цікавае, у той самы дзень, калі паліцыя прыязджае секвестраваць ягоную гаспадарку, у вёску ўрываюцца бандыты і вешаюць старасту. Я прапусціў адно звяно з гэтага ланцуга — пра яго пагаворым пазней,— але і сказанага досыць, каб праніклівы чалавек, якім, напрыклад, я лічу сябе, змог зрабіць адпаведныя высновы. Хацелася б ведаць, якая ваша думка на гэты конт, пане Джугас?

Гедымінас здрыгануўся: нарэшце размова пойдзе пра тое, дзеля чаго яго сюды прывезлі.

— Калі вы лічыце сябе праніклівым чалавекам, пане Дангель, вы павінны былі б зразумець, што ні з адным прыгаданым тут фактам, апрача паставак, я не маю нічога агульнага. А паставак мы здаць не можам, бо, як упэўнілася ў гэтым паліцыя, проста не маем з чаго.

Дангель змераў Гедымінаса доўгім дапытлівым позіркам.

— Не лічыце мяне наіўным, пане Джугас. Калі раптам высвятляецца, што селянін не мае збожжа, хоць быў добры ўраджай, а непадалёку швэндаюцца бандыты, напрошваецца іншая выснова. Але пакуль што пакінем гэтае пытанне ў спакоі. Пастаўкі, узятыя асобна, мяне цікавяць менш за ўсё, я гляджу на іх як на адзін з фактаў, за якімі хаваюцца больш важныя рэчы.

Гедымінас з палёгкай уздыхнуў.

— Няўжо вы думаеце, што я дапамог бандытам павесіць Кучкайліса? — з усмешкай спытаўся ён.

— Не, такія подзвігі не для вашай паэтычнай душы.— Дангель таксама ўсміхнуўся.— Хоць, шчыра кажучы, я не сумняваюся, што гэтых людзей вы ведаеце не горш за мяне.

Гедымінас пацепнуў плячамі. Стараўся выглядаць абыякавым, нават нагнаў на твар крывую ўсмешку, але адчуваў, што шчокі спазматычна торгаюцца, а вочы апускаюцца ўніз, не вытрымліваючы пранізлівага Дангелевага позірку.

— Пане оберштурмфюрэр, я не ўтойваю, што не адчуваў асаблівай сімпатыі да немцаў. Але ці дастатковая гэта падстава, каб падазраваць мяне ў супрацоўніцтве з бальшавікамі? Калі вам вядома гісторыя нашай сям'і, вы нават зводдаль не дапусцілі б гэтакай думкі,— адказаў Гедымінас, здзіўляючыся, як шчыра і пераканальна прагучалі яго словы.

— У вёсцы, дзе вы жывяце, пэўна, таксама ёсць людзі, з якімі вы маеце свае рахункі, але абставіны часам складваюцца так, што вы ўсё адно вымушаны з імі супольнічаць.

— Элементарная ветлівасць патрабуе зняць шапку, калі сустракаешся з суседам, як бы ні ставіўся да яго,— спакойна адказаў Гедымінас.

— Так, вы чалавек выхаваны.— Дангель закурыў.— Англічане называюць такіх джэнтльменамі, рускія — гнілымі буржуазнымі лібераламі, а я асабіста лічу, што такія людзі — зручны пень, прабягаючы ля якога ўсе вясковыя сабакі падымаюць нагу. Вы мяне зразумелі, пане Джугас?

— Не, пане Дангель.

— Кіньце прыкідвацца, пане Джугас. Вы кепскі акцёр, ніякі грым тут не дапаможа.— Дангель узлакаціўся на столік. У твар Гедымінасу дыхнула дымам цыгарэты, змешаным з вострым пахам адэкалону.— Мушу вам сказаць, што бандытам у Лаўксадзісе пашчасціла менш, чым яны спадзяваліся. Пры жаданні я мог бы звесці вас з некаторымі людзьмі з іхняй зграі, якія вас ведаюць.

Гедымінас здрыгануўся. Рука міжволі памкнулася да кілішка і апала на калені, не дацягнуўшыся да яго, аднак Дангель заўважыў гэты рух. Ён зласліва засмяяўся.

— Магчыма,— прамармытаў Гедымінас.— Да вайны ў мяне было шмат знаёмых, але не арыентуюся, хто з іх мог апынуцца ў лесе.

— Добра.— Дангель раптам змяніў кірунак гаворкі.— Дапусцім, вы нічога агульнага не маеце з лесам. Дапусцім, што ўсе гэтыя красамоўныя факты, якія я назваў, толькі гульня выпадку. Добра, хай будзе так. Тады, можа, вы растлумачыце, якім чынам у пані Мілды аказаўся пачак антынямецкіх нацыяналістычных газетак?

Гедымінас збляднеў.

— Вы арыштавалі яе?! — ускрікнуў ён, ускочыўшы з месца.

— Тут я задаю пытанні, пане Джугас.— Дангель расселўся ў крэсле ў распешчанай позе арыстакрата і, выпускаючы з рота кольцы дыму, некалькі імгненняў пазіраў, як яны растаюць у паветры.— Спадзяюся, вы не станеце адмаўляць, што вашы адносіны з паняй Мілдай былі інтымныя?

— Я кахаю яе,— ужо аваладаўшы сабою, адказаў Гедымінас.— Скажыце, што з ёю.

Дангель нецярпліва махнуў рукой.

— Такім чынам, адкуль пані Мілда атрымала гэтую антынямецкую пісаніну?

— Не разумею, пане Дангель.

— Вы думаеце, я паверу, што між вамі і паняй Мілдай былі нейкія сакрэты?

— Падпольныя газеты ў Мілды...— не мог апамятацца Гедымінас.— Неверагодна, пане Дангель! Мілда ніколі не цікавілася ніякай палітыкай. Нейкая недарэчнасць, пане оберштурмфюрэр.

Дангель уважліва паглядзеў на Гедымінаса.

— Што ж, на гэты раз вашы вочы не хлусяць,— сказаў ён, узбураны нечаканай здагадкай.— Але факт застаецца фактам: газеткі знойдзены на кватэры ў Вайнарасаў. Няўжо вы думаеце, што пан Адомас...

— Я нічога не думаю, пане Дангель. Вы самі толькі што слушна заўважылі, што паміж мною і Мілдай не магло быць ніякіх сакрэтаў. Яна такая ж далёкая ад палітыкі, як і я, гэта мне добра вядома, паверце.

Дангель паківаў галавою ў знак згоды.

— Пане Джугас, дазвольце задаць вам яшчэ адно пы-

тание,— задумліва сказаў ён.— Мне вядома, што не так даўно вы былі з Адомасам Вайнарасам блізкія сябры. Вы не з тых людзей, што лёгка паддаюцца жаночым чарам, каб у імя кахання ахвяраваць сваімі маральнымі прынцыпамі. Якая прычына штурхнула вас разбурыць сям'ю сябра?

Гедымінас сумна ўсміхнуўся.

— Сям'ю разбурыў сам Адомас, пане Дангель.

— Папрашу ўдакладніць.

— Мілда не з тых жанчын, якім падабаецца насіць пярсцёнкі, знятыя з рук забітых, пане Дангель. Ёй агідна цалаваць мужчыну, ад якога патыхае чалавечынай.

— Самка-вегетарыянка, гэта вы хацелі сказаць? — Дангель роблена засмяяўся.— Так, з гэтага пункту погляду вы пасуеце адно аднаму — абое траваедныя. Вы, вядома, лічыце, што кожная двухногая істота, народжаная жанчынай, мае права жыць. Гэта даволі паэтычная філасофія, але зусім не навуковая. Уявіце сабе, які хаос тварыўся б у прыродзе, калі б мацнейшыя не нішчылі слабейшых. Фаўна зямнога шара даўно перарадзілася б, бо пасрэднасць, маючы колькасную перавагу, зжэрла б эліту. Гэты самы закон прыроды абавязковы і для нас, людзей. На жаль, з павелічэннем колькасці траваедных ён усё часцей і часцей парушаўся. Філантропы вашага тыпу, пане Джугас, атруцілі свядомасць людзей згубнымі ідэямі, прышчапляючы антыгуманную мараль, паводле якой геній павінен дзяліцца кавалкам хлеба з калекам, каб, абрабаваўшы сябе, самому зрабіцца такім самым калекам. А мы кажам — не! Зямля належыць самым моцным, здаровым, таленавітым. Кожны непаўнацэнны — цяжар чалавецтву, перашкода на шляху прагрэсу, ён не здольны кіраваць, не здольны ствараць духоўныя і культурныя вартасці, яго прызначэнне — цягаць ланцугі, з якіх мы, дасканалыя, пабудуем палац новай цывілізацыі. Германія заклікана гісторыяй спраўдзіць гэтую велічную місію. Па вачах бачу, вы не верыце, пане Джугас. Вельмі шкада. Проста дзіву даюся, як вы, адукаваны чалавек арыйскай крыві, не жадаеце ісці ў браму, што шырока адчынена перад вамі, а шукаеце дзірку ў плоце. Наогул, пачынаю не разумець літоўскіх інтэлігентаў. Смешныя дзеці, што будуюць домікі з пяску. Распальваюць антынямецкія настроі, пашыраюць недарэчныя чуткі, а не бачаць, што сякуць сук, на якім самі сядзяць. Вы ж дапамагаеце чырвоным, пане Джугас! Маскве! Калі Германія прайграе вайну, у што, вядома, не

верыць ніводзін чалавек здаровага розуму, сюды прыйдуць рускія. Не англічане, не амерыканцы, на што вы спадзеяцеся, а бальшавікі. І на гэты раз яны будуць зласнейшыя, пане Джугас, адплацяць з капою за тыя стрэлы ў спіну, якімі праводзілі ўцекачоў. І яшчэ за тое-сёе... Звядуць рахункі на месцы, не спатрэбіцца нават вагонаў. Я раіў бы як след абдумаць мае словы і наступны раз адказваць на мае пытанні без выкрутасаў. Не злоўжывайце нашымі добрымі манерамі, пане Джугас. Ведаеце, чалавеку не дужа прыемна, калі яго вешаюць уніз галавой і гарачым жалезам казычуць пяткі альбо выдзіраюць пазногці. Вельмі непрыемная працэдура. Ці варта пакутаваць за тых, якія, у выпадку прыходу чырвоных, усё роўна адправяць вас на той свет?

Дангель напоўніў свой кілішак, глытнуў і закурыў новую цыгарэту. Гедымінас глядзеў на яго далонь, пакладзеную на стол. Нежыццёва белую, далікатную, элегантную. Ці бываюць у катаў такія прыгожыя рукі? Гэтыя доўгія зграбныя пальцы з дагледжанымі пазногцямі маглі б зрываць кветкі, лашчыць жанчыну, гладзіць па галоўцы дзіцятка. Як легкадумна часам паводзіць прырода, упрыгожваючы тое, што трэба было б знявечыць! Гедымінас здрыгануўся, захоплены знянацку адной карцінай. Мілда і і Дангель... У ложку альбо на канапе. Ён не ведаў і не хацеў ведаць падрабязнасцей. Яму і так спатрэбіліся велізарныя намаганні, пакуль ён вытруціў з душы тую вярэдлівую карціну, якую сам стварыў, калі пачуў лаканічнае Мілдзіна прызнанне. І цяпер, калі аслабела воля, яна зноўку з усёю яркасцю ўзнікла ў свядомасці. Мілда і Дангель... Бялявыя валасы на падушцы, гнуткая вузкая далонь з пальцамі піяніста... На голых яе плячах... на грудзях... на сцёгнах....

Гедымінас з нянавісцю паглядзеў на Дангеля. Усю яго стому ўмомант зняло як рукой.

— Я сказаў вам усё, што *м о г* сказаць,— вымавіў ён, раптам адчуўшы, што нябачныя клешчы, якія скоўвалі яго перад Дангелем, аслаблі.— Калі нават вы падвесіце мяне за ногі альбо будзеце выдзіраць пазногці, як вы ласкава дазволілі заявіць, я нічога болей не змагу дадаць.

— Вы так лічыце? — Дангель пагардліва ўсміхнуўся, аднак не здолеў схаваць раздражнення, якое прамільгнула ў неспакойлівым бляску вачэй.— У нашым арсенале ёсць большыя дасканалыя сродкі, чым тыя, якія на хуткую руку я прыгадаў тут дзеля прыкладу. Мяркую, мы не паспе-

ем пусціць ва ўжытак і паловы з іх, як вы заспяваеце анёльскім голасам, спавядаючыся ў сваіх і чужых грахах.

Гедымінас перакрывіўся.

— Калі я ў чым і звінаваціўся перад вамі, пане начальнік гестапа, дык толькі ў тым, што стараюся застацца чалавекам,— сказаў ён, адчуваючы страшэннае жаданне схапіць са стала пляшку і ўрэзаць Дангелю па галаве.— Карыстаючыся вашай тэрміналогіяй — траваедным. Не маю апетыту паглынаць людзей, што зробіш — гэткі ўжо мой арганізм. Вядома, былі ўсе ўмовы, каб прыстасавацца да духу часу — пайсці ў лес альбо паступіць на службу да вас, як зрабіў Адомас Вайнарас,— але, відаць, я з тых, хто ахвотней згодзіцца памерці ад рукі інквізітара, не зганьбіўшы чалавечага імя, чым застацца жывому з трыццаццю срэбранікамі ў кішэні. Вельмі сумняваюся, ці змогуць вашы сродкі, ад якіх, як вы дазволілі зазначыць, пакутнікі спяваюць анёльскімі галасамі, прымусіць мяне далучыцца да іхняга хору.

Дангель прыжмурыўся. Правае павека некалькі разоў тарганулася і застыла, нібы прыклеенае, твар перакасіўся. Аднак толькі на адно імгненне. Як быццам ён хацеў засмяяцца, але раптам спахапіўся, што гэта будзе недарэчы, і, збянтэжыўшыся, ад прыкрасці прыкусіў губу.

— Ja, Sie sind ein ungewöhnliches Wesen [1],— працадзіў ён праз зубы. Яго голас непазнавальна змяніўся.— Аднак мы бачылі і такіх. Маем вопыт. Вы належыце да таго класа жывёлін, якія не адчувальныя да фізічнага болю, але даволі жыва рэагуюць на пакуты другой, тым больш — блізкай істоты. Мяркуючы, вы не зможаце застацца абыякавым, любуючыся, скажам, такой карцінай: мае хлопчыкі сціскаюць прывабную далонь пані Мілды спецыяльнымі клешчамі. Кончыкі пальцаў спачатку сінеюць, потым праз скуру прасочваюцца ледзь заўважныя кроплі крыві. Кіпцюрыкі расхістаны, але яшчэ далёка да поўнага манікюру: распаленыя да чырвані іголкі пад пазногці і ўсё астатняе...

Гедымінас скурчыўся — ён адчуў, як рэзкі боль працінаў страўнік.

— Вы гэтага не зробіце! — залапатаў ён, зрываючыся з месца.— Мілда не вінаватая. Вы не зможаце так абысціся з жанчынай, якой... якую самі...

Дангель нахіліўся ў крэсле, і ў наступнае імгненне Гедымінас убачыў у яго руцэ пісталет.

---

[1] Так, вы своеасаблівая істота *(ням.)*.

— Так як вы ўсё роўна маўчыце, сумняваючыся, ці варта пакласці ў кішэню трыццаць срэбранікаў,— цягнуў ён тым самым бясколерным голасам,— мы ўстаўляем у спецыяльны варштат ножку пані Мілды, якую мы з вамі някепска даследавалі ад лыткі да таго месца, дзе яна прылеплена да тулава. І тады вы пачуеце, як з трэскам ломіцца косць. Прыкладна гэтак трашчаць абаранкі, асабліва калі яны счарсцвеюць, але не думаю, каб ад гэтага гуку ў вас пацякла слінка, нават калі б вы тры дні нічога не трымалі ў роце.

— Немагчыма паверыць...— прашаптаў Гедымінас, выціраючы дрыготкай рукою халодны пот з ілба.— Звяры... На такое здольныя толькі найстрашнейшыя звяры...

— Чаму ж, пане Джугас? Хвіліна шчырасці са мною— і нічога такога не будзе. Выйдзеце адгэтуль пад ручку з паняй Мілдай, як маладыя з касцёла. І на справу з пастаўкамі заплюшчым вочы. Падумайце. Ад вас, толькі ад вас залежыць — выратаваць альбо загубіць дарагога вам чалавека і самога сябе.

Дангель устаў, даючы зразумець, што размова скончана. Гедымінас таксама ўзняўся, але не адразу: кружылася ў галаве, ногі сталі непаслухмяныя, нібы яны з дрэва, і толькі з трэцяй спробы яму ўдалося адарвацца ад крэсла.

— Вы страшны чалавек, пане оберштурмфюрэр,— прашаптаў ён, пазіраючы на нашмараваны да бляску паркет пад нагамі.

— Вельмі адноснае паняцце, пане Джугас.— Дангелеў голас аддаляўся разам з крокамі. Грукнула крэсла: гестапавец усеўся за пісьмовы стол.— Леў для газелі — жах, а для льва толькі леў. Будзьце львом, пане Джугас, і паміж намі не будзе ніякіх непаразуменняў.

— Вы хочаце, каб я ўтапіў іншых, ратуючы сябе і Мілду. Але скажыце, ці былі б мы шчаслівыя, купіўшы гэтакай цаной свабоду? Не, я страціў бы Мілду, як страціў яе ўжо Адомас. Мы сталі б чужыя самі сабе, нават калі б усё жыццё пражылі ў адным пакоі. Вам, прадстаўніку іншага класа жывёлін, цяжка зразумець, што лепш некалькі дзён канаць у самых страшэнных пакутах, чым мучыцца душою ўсё жыццё.

— Abführen! [1] — крыкнуў Дангель.

Гедымінас узняў галаву: у дзвярах навыцяжку стаяў эсэсавец.

---

[1] Вывесці! *(ням.)*

## *Раздзел сёмы*

### I

Хто змог бы жах, што вочы мне нявечыў,
Адрэчыўшы й сугуччаў спеўны зык,
Пераказаць гаворкай чалавечай?

Знiякавеў бы ўсякі тут язык,
І ўсякі розум аказаўся б кволы,
Каб умясціць, чаго ўмяшчаць не звык.

*Дантэ. Пекла. XXVIII песня*

Яго ўштурхнулі праз шырока адчыненыя дзверы ў агромністую залу, якая сваёю формай нагадвала вялізную кубічную студню, высечаную ў шэрай скале. Тут было пуста і вусцішна, нідзе не было відаць ні вокан, ні якой-небудзь мэблі, ні нават электрычнай лямпачкі, аднак нейкім незразумелым чынам сюды трапляла мярэжыстае святло зіхатлівага адвячорка. Спачатку Гедымінасу здалося, што, апроч яго і двух гестапаўцаў за яго спіною, у гэтай гіганцкай каменнай труне з адшліфаванымі сценамі больш нікога няма. Але калі ён лепей прыгледзеўся, убачыў у канцы залы белую постаць, якая, паступова павялічваючыся, паволі рухалася да яго. Гэта была Мілда. Яна ішла звілінамі, нібы ішла яна зараз па мокрым лузе, руплiва стараючыся абмінуць лужыны, якія траплялiся ёй па дарозе. Уся яна — апушчаная на грудзі галава з белымі расцярушанымі валасамі, тонкі стан, кароткая, да каленяў, сукенка — адлюстроўвалася ў паліраванай паверхні падлогі. Гедымінасу было дзіўна, што яна не бяжыць да яго, растапырыўшы рукі, гарэзячы і смеючыся, як летам, калі яны сустракаліся ў дамоўленым месцы, а брыдзе, нібы штосьці шукае. Толькі калі яна падышла бліжэй, ён зразумеў прычыну яе дзіўных паводзін: праз усю залу, пазначаючы пройдзены ёю шлях, вілася вузкая сцежка, густа ўсыпаная жалезнымі калючкамі. Мілда паварочвала то ў адзін, то ў другі бок, стараючыся ступіць босай нагою на голы камень падлогі, але ў імгненне вока там вырастаў сталёвы парастак.

«Варта мне сказаць усё, што ведаю пра партызанаў, выдаць Чорнага Куксу, паказаць хатку работніка з тарфянішча, і мы з Мілдай выйдзем адгэтуль»,— падумаў Гедымінас.

Яна ўзняла галаву і паглядзела на яго, нібыта пачула ягоную думку. На твары — бясконцая пакута, а ў ва-

чах — мальба. Бяскроўныя губы варушыліся не адтульваючыся, аднак ён зразумеў, штó яна хацела сказаць.

Ён апусціў вочы, не вытрымаўшы яе пагляду. Паволі, сантыметр за сантыметрам, слізгаў ён позіркам па лёгкім матыльковым целе, ад галавы да босых ног. Да малых белых ступняў, папрабіваных густою шчоткаю сталёвых іголак. На вастрыях, нібы малюпасенькія сунічыны, чырванелі ледзь заўважныя кроплі крыві. Потым яны пачалі набракаць і распускацца, нібы пупышкі кветкі, зніклі сцены і столь, адкрыўшы блакітнае скляпенне неба, а каменную падлогу заліло поле чырвонага маку. Мілда ішла па ім, падскокваючы, як зайчык. Белыя валасы развяваліся на ветры і пасмамі спадалі на стройную шыю, на маленькія ракавіны вушэй, на лоб, на бліскучыя ад сонца, шчаслівыя сінія вочы. «Я напішу пра цябе верш,— сказаў ён,— і назаву яго «Матылёк». Яна смяялася і не згаджалася з такою назваю: матылёк жыве лічаныя дні, а яна хоча быць шчаслівая з ім, сваім паэтам, усё жыццё. Ён схапіў яе ў абдымкі і пасадзіў на плечы, як малое дзіця. Босыя ногі звешваліся яму на грудзі, і ён гладзіў лыткі ў шэрані срабрыстых валаскоў, і, нібы пялёсткі рамонка, кранаў адзін за адным пальчыкі яе ног, гадаючы «любіць — не любіць». Як усё гэта банальна і ўсё-такі кожны раз новае... І высокае неба над галавой — то сонечнае, яснае, то па-асенняму змрочнае, ускалмачанае хмарамі,— і занядбаная стадола каля дарогі, і лес, напоўнены прывітальным птушыным шчабятаннем...

«Што ж, пане Джугас? Вам усё яшчэ няма чаго сказаць пану оберштурмфюрэру?»

Голас поўз аднекуль зверху. Спакойны і халодны, як сцены гэтай залы, па якіх скочваліся брудныя кроплі вады, нібыта пот з ілба пакутніка. Макавае поле прапала. Перад яго вачамі зноў распасціралася каменная плоскасць падлогі, па якой звілістаю сцяжынай аддалялася, усе меншаючы, белая постаць.

— Затрымайце! Затрымайце яе! — закрычаў Гедымінас, раптам зразумеўшы, што ніколі ўжо больш не ўбачыць Мілды.— Вярніце яе сюды! Я ўсё раскажу...

Першае, што ён пачуў, абудзіўшыся, было пранізлівае рыпенне нараў. Сэрца шалёна грукацела, яго трэслі дрыжыкі. І не ад холаду, хоць паліто валялася на падлозе: яго напалохаў яго ўласны крык, які, здаецца, яшчэ гучаў у камеры. Зрэшты, на яго падзейнічаў не гэтулькі сам

крык, колькі думка, што гэта быў не толькі сон. Ён толькі драмаў, а не спаў, бо цяпер прыгадаў гукі — нейкі стук у столь, крокі вартавога за дзвярыма, нават рыпенне нараў, калі ён варушыўся,— усе гэтыя гукі ўпляталіся ў тканіну карцін, што адбіліся ў падсвядомасці. Гэтае досыць закончанае відовішча ўсё-такі не магло абысціся без удзелу розуму. Няўжо ў ім выспявае здрада? Шаснаццаць сутак ён варыцца ў гэтым пякельным катле, і амаль кожную ноч яму трызняцца жахлівыя сны — у пакутах гібеюць то бацька, то Мілда,— але ні разу не ўзнікала думка, каб урataваць іх цаною подласці. Кожны раз, пачуўшы бразгат засаўкі, ён абліваўся халодным потам, вырашыўшы, што яго вядуць да ката, дзе ён убачыць Мілду. Яна змучылася, яна моліць аб дапамозе. А потым верашчыць ад болю (пах паленага мяса), праклінае яго, Гедымінаса. Уваходзіў эсэсавец, прыносіў сняданак, абед, вячэру. Раз у суткі яго заводзілі па вузкім цёмным калідоры ў туалет, дзе Гедымінас апаражняў сваю парашу. Не, удзень ён мог быць спакойны: удзень яны не наладжвалі крывавых відовішчаў, мяркуючы, што лепш за ўсё гэта зрабіць уначы, калі чалавек глыбока засне. Сцягнуць з нараў, часам абліць вядром халоднай вады, каб прагнаць сон, а потым — ашаломленага ад холаду, роспачы і страху — цягнуць у дзевяты круг пекла. Ён ішоў туды, падрыхтаваўшыся да страшнай сустрэчы, аднак за тымі дзвярыма, праз якія яго ўштурхоўвалі ў ярка асветлены пакой, Мілды не было. На яе месцы перад пісьмовым сталом стаяў мужчына. Не заўсёды той самы, але заўсёды мужчына. Гедымінаса ўсаджвалі на крэсла ў кутку, і тады пачыналася... Ён апускаў галаву, зажмурваўся, жадаючы схавацца ад жудаснага відовішча, але ад крыку, што працінаў сэрца, нікуды не мог уцячы. Паветра напаўнялася пахам крыві і гарэлага мяса, ад якога яму рабілася нядобра, аднак не меў чым ванітаваць. Калі дапытваны траціў прытомнасць, каты выцягвалі яго з пакоя, каб неўзабаве прывесці новую ахвяру.

— Пане Джугас,— у такіх выпадках вяртаўся да Гедымінаса следчы, адзеты ў шэра-зялёную форму са знакамі адрознення унтэрштурмфюрэра,— вам усё яшчэ няма чаго сказаць пану Дангелю? Калі мае хлопчыкі прывядуць сюды жанчыну, якую вы не дужа прагнулі б тут бачыць, будзе позна.

Гедымінас маўчаў.

Вярталіся «хлопчыкі» следчага. З імі — новы пакутнік.

«Не жанчына...» Гедымінас уздыхаў з палёгкай, саромеючыся гэтага пачуцця.

І зноўку ўдары, крыкі раз'ятраных катаў, стогны, ад якіх ледзянела кроў у жылах, грукат абрынутага на падлогу цела.

Праз пару гадзін гэтага мучэння Гедымінас вяртаўся ў сваю камеру, ледзьве трымаючыся на нагах, і ў тую ноч ужо не мог заснуць. Увесь дзень увушшу гучалі нечалавечыя крыкі катаваных, удары, а ўваччу стаялі знявечаныя твары людзей, якія выбралі пакутлівую смерць, каб іншыя засталіся жыць. Ён кідаўся з кутка ў куток, перамерваючы камеру ўшыркі і ўдоўжкі, і не на секунду яго не пакідала балючая думка, што з кожным сваім крокам ён усё бліжэй да вечара, да той начной гадзіны, калі зноўку забразгае засаўка і яго павядуць на крывавы спектакль. Ён ведаў: лепш не спаць — стомлены арганізм рэагуе не гэтак востра,— але толькі адну ноч яму ўдалося дачакацца іх, не змружыўшы вачэй. Ён засынаў ненадоўга і спаў трывожна, але яны нейкім сабачым нюхам здагадваліся, што ён задрамаў, і ўрываліся ў камеру. Ён выходзіў з імі, падбадзёрваючы сябе і з жахам думаючы, што на гэты раз каля стала следчага напаткае Мілду, і зноўку заставаў мужчыну — часам новага, часам ужо бачанага. «Яны хочуць выбіць мяне з раўнавагі, нацягнуць нервы да немагчымасці. Калі псіхічна зламлюся — яны стануць дапытваць Мілду,— рабіў ён выснову. Аднак разам з тым спадцішка напрошваліся іншыя думкі:— Падпольныя газеты, знойдзеныя на кватэры ў Вайнарасаў,— Дангелева выдумка, Мілда свабодная; а калі яе і арыштавалі, каб папалохаць, дык не маюць маральнага права дапытваць. Маральнага права...» Ён паспешліва адганяў ад сябе такія думкі, бо ў яго становішчы не было нічога больш небяспечнага, чым самазаспакоіцца. Ці маюць звяры патрэбу ў маральным абгрунтаванні? Эх, і наіўны ты, хлопча...

Калі хаўрус яднае, а не прэк
Плячо ў плячо з драпежнай воляй розум,
Дык згіне ўсё, і разам — чалавек.

Аднойчы ноччу — гэта было напярэдадні кары смерцю на гарадскім пляцы — у кабінет следчага ўцягнулі чалавека, якога Гедымінас ужо бачыў на допыце. Яго пасадзілі на крэсла — ён не трымаўся на нагах — і, прывязаўшы да спінкі, узяліся за работу. Чалавек не крычаў, не кляў, не пераконваў, што ён нічога не ведае,— ён маўчаў. Час ад часу з яго грудзей вырываўся глухі стогн, які — нібы заса-

ромеўшыся гэтай сваёй мінутнай слабасці — ён тут жа душыў у сабе. Гедымінас не ведаў, чаго яны ад яго хочуць, бо следчы кожнаму задаваў адно пытанне: што можа ён дадаць да сказанага раней? Калі чалавек, ашалеўшы ад катавання, пачынаў крычаць, што ўсё скажа, Гедымінаса выводзілі.

— Нервы гэтага быдла ў канечнасцях,— пачуў Гедымінас раз'ятраны голас следчага.— Падкараціце яму левую нагу.

Гедымінас заплюшчыў вочы, хоць сядзеў, уткнуўшы падбародак у каўнер, і бачыў толькі свае скутыя рукі на каленях — перад тым як вывесці з камеры, на яго надзявалі наручнікі. Грукнула крэсла. Крокі. Гатова. Каты не любілі перагаворвацца за работай. Потым цішыню, ад якой пачынаў вар'яцець розум, напоўнілі мяккія гукі, якія паступова мацнелі, рабіліся цвярдзейшыя, пакуль не зліліся нарэшце ў суцэльнае шархаценне, якое нагадвала шараванне напільніка аб сухую драўніну.

Чалавек заскрыгітаў зубамі і жаласліва застагнаў.

Гедымінас плячом заціснуў адно вуха, а другое заткнуў пальцам, падняўшы да твару скутыя рукі.

— Пане Джугас,— наблізіўшыся да яго, сказаў унтэрштурмфюрэр.— Сваім практыкантам мы не дазваляем спаць. Майце на ўвазе: пакуль вы так будзеце сядзець, уторкнуўшы нос у прарэху, мы і далей будзем пілаваць дровы. Калі вам хоць трохі шкада гэтага быдляка, часцей пазірайце на яго.

Гедымінас узняў ашалелыя вочы. Следчы махнуў рукою, і шархаценне сціхла.

— Кожны раз, калі я ўбачу, што вы праяўляеце цікавасць да таго, што мы робім, я загадаю зрабіць маленькі перапынак,— дадаў ён, крыва ўсміхаючыся, нібыта ў яго балеў зуб.

— Вырадкі!..— прамармытаў Гедымінас. Не жадаючы верыць сваім вачам, ён глядзеў на чалавека, уціснутага між двух крэслаў. Адна нага была апушчана на дол і прывязана дротам да ножкі аднаго крэсла, а другая выпрастана і прасунута пад спінкай другога. Штаны, ад якіх засталіся шкамуты, вышэй калена былі зусім адарваны. У гэтым месцы чарнела нейкая маса, і з яе тырчала пілка, якой пілуюць метал. Адзін гестапавец стаяў, трымаючыся за спінку крэсла, з-пад якой вытыркалася нага, а другі, прысеўшы на калена, трымаў ручку нажоўкі і з абыякавым выразам твару чакаў загаду, каб узнавіць сваю работу.

Гедымінас, не могучы больш вытрымаць, засланіў твар рукамі.

Следчы гыркнуў па-нямецку, і зноў пачулася шархаценне пілы па косці.

«Старайся глядзець... глядзець на яго, тады яны перастануць...» Дрыжучы так, што было чутно ціхае пазваньванне наручнікаў, Гедымінас паглядзеў на катаў, і унтэрштурмфюрэр, ашчэрыўшыся па-воўчы, крыкнуў: «Genug!»[1]

— Гэты пан у кутку вельмі вам спачувае,— загаварыў ён на ламанай літоўскай мове да катаванага.— Пастарайцеся ўспомніць, ці вы не знаёмыя часам.

Чалавек не паварушыўся. Ён сядзеў, прывязаны рамнямі да высокай спінкі крэсла, схіліўшы на плячо цяжкую галаву. Па цьмяным, як іржышча пад дажджом, твары ліўся пот. Жоўтыя напухлыя павекі шырока расплюшчыліся, і Гедымінас убачыў выразныя карыя вочы, якія свяціліся такою ўнутранай сілай, такой нязломнаю верай у сваю праваты і такой лютаю нянавісцю, што здавалася, гэты чалавек адчуваў бы сябе зняважаным, калі б нехта выказаў яму спачуванне. Квадратны падбародак, шрам каля мясістага простага носа, чорныя валасы... Гедымінас не мог успомніць, але быў упэўнены, што гэты твар недзе бачыў.

Толькі назаўтра, калі зноўку вока ў вока спаткаўся з ім — на гэты раз на гарадскім пляцы пад шыбеніцай,— нарэшце пазнаў яго. Гэта быў адзін з трох партызанаў, з якімі сустракаўся ён у хатцы на ўскрайку лесу. Марус называў яго Мядзведзем. Эсэсаўцы першага сцягнулі яго з грузавіка, на якім прывезлі асуджаных, і, схапіўшы пад пахі, павалаклі да шыбеніцы. Тут стаяла табурэтка, на яе трэба было паставіць смяротніка і зашмаргнуць у яго на шыі пятлю. Мядзведзь не мог стаяць, і два эсэсаўцы трымалі яго, пакуль трэці не ўсадзіў галаву ў пятлю. Гедымінас стаяў са звязанымі за спіною рукамі, не могучы адарваць позірку ад смяротніка, і адчуваў дзіўную палёгку ў грудзях. Нарэшце скончацца пакуты гэтага чалавека. Пасля ўсяго таго, што Гедымінас бачыў і перажыў у катавальні, яму здавалася, што, дабіваючы сваю ахвяру, каты робяць ёй толькі паслугу. Не, смерць не самая страшная хвіліна ў чалавечым жыцці, часам яна бывае і шчасцем і паратункам. Ці тое ж самае не думае цяпер Мядзведзь, нібы павесялелым позіркам аглядаючы натоўп, скучаны вакол шыбеніцы? Людзей было многа, і эсэсаўцы ўсё яшчэ

[1] Досыць! *(ням.)*

падганялі з вуліцы прахожых — няхай пацешацца відовішчам і задумаюцца, ці варта бунтаваць. Калі б не крыкі немцаў, якія зганялі народ, і не гудзенне машын (часам — самалёт у небе), на пляцы панавала б магільная ціша. Людзі стаялі моўчкі, паапускаўшы галовы, толькі некалькі цікаўнейшых памкнуліся прабрацца бліжэй да шыбеніцы, аднак і яны, зніякавеўшы, неўзабаве згубіліся ў натоўпе, падпарадкоўваючыся агульнаму настрою. А сярод гэтых людзей толькі нямногія чакалі вяртання таго сцяга, за які змагаліся і зараз загінуць асуджаныя... Але Мядзведзь нібы і тут знайшоў іх усіх — незнаёмых, можа, ніколі ў жыцці не сустраканых таварышаў — і ў думках падышоў да кожнага, апошні раз пацісну руку, падбадзёрваючы мужнаю ўсмешкаю чалавека, які ведае што адыходзіць з гэтага свету не з пустымі рукамі. Адкрыты пагляд карых вачэй бліснуў над натоўпам, нібы маланка, распухлыя губы адтуліліся, і Гедымінас пачуў слабы ўсклік, які, аднак, пакаціўся па ўсім пляцы, як грукат перуна:

— Няхай жыве савецкая ўлада... Смерць акупантам! Вечная слава вялікаму...

Ён не скончыў: трэці эсэсавец узмахнуў рукою і тыя двое разам выпусцілі сваю ахвяру, якая павісла ў паветры. Але Гедымінас ужо апусціў вочы. Ён бачыў толькі Мядзведзевы ногі. Голыя да каленяў, счарнелыя, з пакурчанымі пальцамі. Вішучы на якія паўметра над брукам пляца, яны гайдаліся то ў адзін, то ў другі бок, быццам шукалі апору, каб змагчы адштурхнуцца і закончыць абарваную фразу. Потым каля гэтай апынулася другая і трэцяя пара ног. Гедымінас заплюшчыў вочы, але ўсё роўна бачыў ногі павешаных. Гэтыя пяць параў ног суправаджалі яго праз увесь горад да камеры і пасяліліся ў ёй, як і ўсё іншае, што ён перажыў у гэтым крузе пекла. Часам ва ўяўленні ўсплываў Мядзведзеў твар, асветлены перадсмяротным парываннем, ён чуў яго хрыплы голас і здзіўляўся, што не адчувае ніякага шкадавання да пакаранага. Нібыта ён памёр звычайнай смерцю, як чалавек, што сумленна пражыў свой век, і ўсё. Так ужо наканавана, нічога не зробіш. Гедымінас шкадаваў іншага — адзінага з асуджаных, які кінуўся пад шыбеніцай на калені, маліў аб літасці, крычаў, што не вінаваты,— сябры загубілі. Нікчэмнасць. Любой цаною хацеў зберагчы жыццё, мабыць, выдаў гестапаўцам не аднаго, а ўсё роўна павіс разам з сапраўднымі людзьмі. Так, яны памерлі шчаслівыя, верачы ў сваю праўду. Можа, на іхнім сумленні таксама не адно жыццё, але яны за-

бівалі абараняючыся, а не ад звярынай прагі забойства, каб утрываліць ідэалогію, выдуманую маньякам.

«Калі саштурхоўваюцца два злы, адно з якіх большае, ці не ўвасабляе ў сабе другое зло станоўчага пачатку, якое дае права знішчаць? Дангель хоча цаною пакуты мільёнаў людзей стварыць рай эліце арыйскіх народаў, перш за ўсё немцам, а Марус уздымае зброю, каб спыніць забойцаў.

Усіх панішчыць іхняй помсты меч,
І толькі пасля ўпартага змагання
Зноў прасвятлее неба ад хмурнеч.

Ці хопіць усім месца пад прасвятлелым небам? Наўрад... Людзі ніколі не ўмяшчаліся на зямлі. Можа, пасля вайны зноў будуць слёзы расстання, адны будуць зняважаныя, другія — трыумфаваць, але цяпер існуюць камеры катавання, шыбеніцы, могілкі ў Алешніку. А колькі фашысцкіх злачынстваў нам яшчэ невядома? І ўсё гэта існуе ц я п е р! С ё н н я! Кожную гадзіну, кожную хвіліну ў найвялікшых пакутах гінуць людзі. Наша святая зямля ператварылася ў пекла, у якім пануюць дангелі. А я, святая прастата, спадзяваўся схавацца ад гэтага пекла ў самім сабе. Не апячыся, калі наўкола лютуе полымя, не ўпэцкацца ў смалу, калі пада мною клякочуць катлы. Ілюзіі — я жыў імі. Нібы не ламалі чалавечых касцей, не палілі нагрэтым да чырвані жалезам, не расстрэльвалі, не вешалі, пакуль усяго гэтага не ўбачыў на свае вочы...»

Гэтыя думкі гнялі Гедымінаса не менш, чым пакутлівае чаканне, калі адчыняцца дзверы камеры і яго павядуць на чарговы спектакль да ката, што называецца следчым. Седзячы ў сваім кутку са звязанымі за спіною рукамі (наручнікі пазней замянілі вяроўкай, каб ён не мог затыкаць вушэй), ён адчуваў сябе ў нечым вінаватым перад тым, каго катуюць. Быццам калі б ён зрабіў нешта раней, гэтаму чалавеку сёння не давялося б тут мучыцца. Але не зрабіў і ніколі ўжо не зможа выправіць сваёй памылкі — позна... Яго ахоплівала такая роспач, што ён ціхенька стагнаў, як быццам гэта дапытвалі яго, альбо ўсчынаў крычаць на катаў, бэсцячы іх апошнімі словамі. Тады яго прывязвалі да плечыкаў крэсла, і сам следчы, выскаляючыся па-воўчы, наводліў з абедзвюх рук дубасіў яго па твары. Гедымінас злосна ўсміхаўся і пазіраў яму ў вочы, і яму станавілася прыкра і страшна, што ён можа адчуваць гэтакую пянавісць да чалавека. «Калі б рукі ў мяне былі свабодныя... калі б рукі былі свабодныя...» — гудзела кроў у ву-

шах. І ён бачыў: вось ён хапае следчага за горла, шпурляе на падлогу — і проста ў галаву з яго ж пісталета. Потым абодвух катаў... Ён ніколі не думаў, што прыйдзе такая хвіліна, калі, уяўляючы, як забівае чалавека, будзе адчуваць асалоду. «Чалавека? Якога чалавека? У гэтай камеры пакут ёсць толькі адзін чалавек — ахвяра. Я? Не, я не чалавек, я назіральнік».

Перад тым як яго вывесці, следчы больш не пытаўся: «Вам няма чаго сказаць пану Дангелю?» Развітальная фраза цяпер гучала трохі інакш: «Калі захочаце ўбачыцца з панам оберштурмфюрэрам, не саромейцеся паведаміць мне». А пазаўчора ноччу, калі Гедымінас, не вытрымаўшы енку скатаванага чалавека, сам пачаў крычаць і атрымаў аплявухаў болей чым звычайна, следчы, праводзячы яго разлютаваным паглядам, сказаў:

— Як бачу, пане Джугас, вы напрошваецеся на знаёмства з маімі хлопчыкамі. Што ж, я нічога не маю супраць, можаце на сваёй скуры паспытаць, на што яны здольныя.

— Ведаю. Яны ўмеюць садраць скуру з жывога чалавека, могуць вырваць сэрца і зжэрці яго жыўцом, але зрабіць з чалавека нягодніка, калі ён сам гэтага не захоча, ім не па сіле,— адсек Гедымінас.

Не, ён ні разу не намерваўся адкупіцца здрадай. Наадварот — з кожнай гадзінай, прабытай у камеры допыту, яго ўпартасць расла, жывячыся нянавісцю да звяроў, што зрабілі яго сведкам сваіх жахлівых злачынстваў, і ўсё тое, што Гедымінас лічыў сваёй духоўнай перавагай, якая падымае яго над багнай свету, бурылася і раставала, як пясчаная выспа пад напорам ветру і хваляў.

Дык адкуль гэтае трызненне? Гэтая жудасная Мілдзіна галгофа ў панурай каменнай зале? Гэты здрадлівы крык: «Затрымайце! Вярніце яе! Я ўсё раскажу!»

Гедымінас сеў на нарах. Здзівіўся і яшчэ больш устрывожыўся, убачыўшы, што ў камеры светла. Раніца... Пагодлівая снежаньская раніца. (Ён ужо навучыўся адрозніваць пахмуры дзень ад сонечнага, хоць праз матавае шкло не прабіваліся сонечныя промні.) Як жа так здарылася, што сёння ён так заспаўся? Ах, праўда, сёння ўначы яго не вадзілі ў катавальню. Першы раз за шаснаццаць сутак зняволення. Што яны надумалі? Вырашылі даць адпачыць ці плятуць новыя, яшчэ страшнейшыя, пасткі? Несумненна, апошняе меркаванне самае верагоднае. Яшчэ сёння ён убачыць Мілду ў крэсле допыту, а можа, і яго самога пасадзяць. Гэтыя вырадкі не зробяць вязню нават

дробнай паслугі, за якую не давялося б плаціць новымі, яшчэ большымі, пакутамі.

За дзвярыма загрымелі крокі, забразгала засаўка. «Сняданак...» Гедымінас ускочыў з нараў, стараючыся суняць нервовую дрыготку, ад якой, здаецца, нават язык хадзіў хадуном у роце. «Сняданак, сняданак...» — машынальна паўтараў ён у думках, разумеючы, што гэта не так — сняданак прыносілі роўна ў дзевяць, яшчэ ўпоцемках. Калі не было дагэтуль, дык сёння наогул не будзе ніякага сняданку — немцы любяць пунктуальнасць.

— Выходзь! — крыкнуў эсэсавец, усунуўшы галаву ў дзверы.— Schneller! [1]

Знаёмы калідор, двор, цагляны будынак з гатычнымі вокнамі. Вузкія дзверы справа. Але эсэсавец накіраваўся да шырокіх, праз якія Гедымінаса вялі першы раз. Да Дангеля... Але, вітая бетонная лесвіца. Першы паверх, другі. Доўгі цёмны калідор, які пахнуў галантарэйнай крамаю. Сёння ўсё не так, як заўсёды. Нават рукі не звязаны.

— Добрай раніцы, пане Джугас. Ці добра выспаліся? — гаворыць Дангель, прыязна ўсміхаючыся, нібы ўчора яны банкетавалі за адным сталом.

Гедымінас моўчкі глядзіць на сцяну над плячом у Дангеля. «Кучкайліса павесілі Марусавы людзі. Добра. Але гэтага двухногага ўпыра трэба было б у першую чаргу...»

— Адчуваю, вы абражаны, пане Джугас.— Дангель трэ далонню па шчоках, нібы жадаючы сцерці нябачны бруд. У вачах — шчырае шкадаванне.— Прашу прабачыць. Адбылося маленькае непаразуменне. Я рады, што ў дачыненні да вас не прыняў больш крутых мер. Вы свабодныя, пане Джугас.

Гедымінас нават здрыгануўся. «Яшчэ адна штука гэтага майстра здзекаў...»

— На якіх умовах, пане начальнік гестапа?

— Невінаватым мы не ставім ніякіх умоў. Я пераканаўся ў вашай невінаватасці, пане Джугас. У нас ёсць доказы. Вось адзін з іх.— Дангель адкідваецца ў крэсле і нядбала махае рукою ў бок дзвярэй.

Гедымінас павольна паварочваецца, спадзеючыся пачуць здзеклівы смех, і ажно рот разяўляе — за круглым столікам сядзіць Туменас. У тым самым крэсле, дзе пятнаццаць сутак таму назад сядзеў сам начальнік гестапа, калі Гедымінас глядзеў на яго прыгожыя ўчэпістыя пальцы, што

[1] Хутчэй! *(ням.)*

трымалі кілішак каньяку. Змарнелы, спалоханы твар, барада, не голеная сама меней тры дні. Ён апускае стомленыя вочы, не вытрымаўшы кароткага Гедымінасавага позірку.

— Мы зрабілі ў Туменаса вобыск,— цягне Дангель знуджаным голасам,— і, трэба сказаць, не расчараваліся. А пан Туменас, ведаючы, што з намі лепш гутарыць па-добраму, пастараўся быць разумнікам і назваў сваіх...

Туменас ускоквае з крэсла, круціць галавой. Доўгія скамечаныя пасмы падаюць на вочы, што палымнеюць вар'яцкім агнём.

— Не верце! Не вер, Гедымінас! — крычыць ён, выцягнуўшы рукі да эсэсаўца, які хапае яго за плячо і шпурляе ў крэсла.— Ён хлусіць! Я нікога не прадаў.

Дангель паблажліва ўсміхаецца.

— Прашу прабачыць, пане Туменас, што раскрыў наш з вамі сакрэт,— гаворыць ён спакойна, але з падкрэсленым шкадаваннем.— Чартоўская рассеянасць.

— Хлусіць ён... Хлусіць! — выгуквае Туменас, тузаючыся ў крэсле.

— Хай будзе па-вашаму, калі вам так больш падабаецца, пане Туменас.— Дангель абыякава аглядае пазногці.— Хоць, шчыра кажучы, чаго вам бянтэжыцца? Адправім вас у Германію разам з іншымі гімназічнымі змагарамі за свабоду Літвы, як гучна вы самі сябе называеце, і не пабачыце вы больш ні пана Джугаса, ні іншых, перад якімі вам няёмка за такое, па сутнасці, глупства.

Гедымінас, не ведаючы, што і думаць, журботна глядзіць на Туменаса. «Альгіс... То бо то... Дзірванайтэ, Гярдайціса, Ліпкуса, можа, яшчэ каго. У Германію... На прымусовыя работы...» («У лагер смерці...» — сказаў бы ён недзе праз год з паловай, калі разбурылася гітлераўская імперыя і ўвесь свет даведаўся аб фантастычных злачынствах фашыстаў.)

«Не вер! Не вер яму!» — моляць Туменасавы вочы.

Дангель закурвае. Адчыняе шуфлядку пісьмовага стала, нешта шукае, не перапыняючы размовы. Тон — самы нязмушаны, нібыта да яго зайшлі старыя сябры, якія павінны зразумець і дараваць, што гаспадар пакуль што не можа ўдзяліць ім належнай увагі.

— Дык вось, пане Джугас, з помаччу пана Туменаса мы прыйшлі да высновы, што вы лаяльны ў адносінах да Германіі грамадзянін. Былі падазрэнні ў сувязях з бандытамі, аднак іх рассеяў матэрыял допыту некаторых арыштантаў. Праўда, не можам пахваліць за неабдуманыя па-

водзіны з пастаўкамі, але гэтую справу мы пакідаем на вырашэнне іншай інстанцыі. Шыбуйце сабе на здароўе ў свой Лаўксадзіс да татулі, пане Джугас.

Гедымінас, усё яшчэ не верачы («Чаму можна верыць у гэтай апраметнай?»), агледзеў Дангеля. Як мага менш спадзяванняў, не, лепш ніякіх спадзяванняў: будзе не гэтак балюча, калі акажацца, што абяцанне галоўнага люцыпара толькі чарговы выкрут, каб яшчэ гарачэй нагрэць кацёл са смалой.

— Мілду вы таксама адпускаеце?— горка ўсміхаючыся, спытаў ён.

— На жаль...— уздыхае Дангель.

— Чаму? Калі вы пераканаліся ў маёй невінаватасці, то тым больш...

— Oh, mein Herr, вы кепска ведаеце жанчын! Яна выкінула такую штуку яшчэ перад вашым арыштам!.. Неабдуманы крок, калі так можна сказаць.

— Няўжо?

— Якраз так, пане Джугас. Пані Мілды ўжо няма; у той дзень, калі вы стукаліся ў дзверы да Вайнарасаў, жадаючы пазбыцца смутку, яна ўжо ляжала ў труне.

— Магчыма... («галоўны люцыпар»). Пасля ўсяго, што я бачыў у вас, не здзіўлюся, калі вы скажаце, што ўвесь горад ляжыць у труне.

— Я згадваў вам пра падпольныя газеткі, якія мы знайшлі ў Вайнарасаў. Яна спалохалася адказнасці і праглынула стрыхніну. Пане Туменас, папраўце мяне, калі я памыляюся.

Маўчанне.

Дангель зацягваецца цыгарэтай; схіліўшы галаву на плячо, ён сочыць за ланцужком кольцаў, пакуль яны растаюць у паветры. Пых-пых — зноў выбухаюць Дангелевы губы, выпускаючы новыя кольцы.

Маўчанне.

Гедымінасавы вочы прабягаюць па ўсім пакоі. Чорная постаць эсэсаўца, прылепленая да сцяны. Туменас, скурчаны ў крэсле. Заснежаныя дахі дамоў за акном. Тужлівае дзілінькане шаргункоў у бясконцай снежнай пустыні. Руская тройка. Лермантаў... І зноў — эсэсавец, белы чэрап са скрыжаванымі касцямі на высокай шапцы, кольцы дыму (пых-пых — гутаперчавыя Дангелевы губы), Туменас, белыя дахі дамоў за акном...

Белым-бела на зямлі,
след завеі замялі...

— Але, Гедымінас... Цяжка паверыць, аднак так здарылася... У тую ноч, калі ты начаваў у мяне.— Падбародак у Туменаса вылазіць з каўняра паліта. Аказваецца, на твары ёсць губы, нос. Не пудзіла — чалавечы твар. У вачах вільготны бляск. Маўчы, маўчы, Альгіс. Досыць. Не трэба больш.

— Спачуваю вам, пане Джугас, аднак нічым не магу дапамагчы. Шкада — добрая была жанчынка. Хто-хто, а мы з вамі гэта добра ведаем.

Гедымінас не міргаючы глядзіць на духмянае воблака дыму, што вісіць над пісьмовым сталом. «Забіць пачвару! Схапіць крэсла — і па галаве!» Але цела не падпарадкоўваецца думцы. Замест рук і ног — суцэльны цяжар, што цягне да зямлі. Камень. Увесь, з галавы да ног, адзеты ў каменную шкарлупіну, у якой на вечную самоту зняволена яго душа.

— Вы забілі яе! Вы! — вырываецца тужлівы крык з каменнага астрога.

Ядавітая Дангелева ўсмешка на вузкім бледным твары. Позірк звера, які цяпер сыты і які ведае, што неўзабаве будзе зноў баляваць.

— Гедымінас, не слухай яго: я нікога не прадаў...— крычыць яму наўздагон Туменас.

Хіхіканне Дангеля.

Эсэсавец ідзе побач. Па калідоры, уніз па крутой бетоннай лесвіцы, па двары. Выпускае праз браму на вуліцу, нават прыўзнімае руку.

Ад сцяны аддзяляецца нягеглы мужычок — заечая шапка, пасталы з нявырабленай шкуры на крывых нагах — і тэпае ўслед за Гедымінасам.

Незнаёмы неверагодны горад... Стаіш на месцы, а будынкі самі рухаюцца наўзбоч. Чорная каша снегу на тратуарах. Чорныя людзі. Чорная вежа бажніцы, уторкнутая ў гнайлівую вату аблокаў. Вялізны сіне-жаўтлявы пухір вісіць над Вялікай горкай; над каменнай агароджай могілак, над шэрымі дрэвамі, што пусцілі карані ў зямлю, угноеную людзьмі, абсаджаную крыжамі і каменнымі помнікамі,— сонца. Скрываўлены, збіты твар сонца балесна выглядае з-пад крывавай павязкі аблокаў. Нехта, праходзячы, прыўзнімае капялюш. Нехта спыняецца, мыляе губамі. Чорнымі, як лісты ржавага металічнага вянка на леташняй магіле. Чаго яны хочуць, людзі гэтага мёртвага горада? Патрушчаныя косці, твары, паточаныя гніллю, з садранаю скурай,— мёрзлыя яблыкі. Чаго трэба мерцвякам ад мерц-

вяка? Дзіўная, недзе бачаная вуліца. Не звярнуў бы ў яе, але будынкі самі ідуць насустрач, хоць ты стаіш на месцы. Вось двор, куды ты наведваўся, калі быў жывы і лічыў сябе нешчаслівым. Ганак, дзверы. Няўжо спадзяешся, што іх нехта адчыніць? У горадзе чорных нябожчыкаў? Навошта гэта? Але, у табе яшчэ тлее надзея — маленькая жарынка ў залітым вадою агнішчы. Але вада прасочваецца глыбей і гасіць яе.

Міграта... Махае рукамі, здзіўляецца, водзіць па пакоях. Яшчэ адна нябожчыца. Але гэтая з вёскі. З Лаўксадзіса... Ага, калісьці была такая вёска...

«Мы сядзелі за гэтым сталом і пілі віно. Абрус з амурчыкамі, картавая гаворка, мяккія рукі на шыі. Жывыя, цёплыя рукі. Не, гэта было яшчэ раней. Яна іграла на піяніна, а я чытаў свой верш. Сядзела перад чорнай трунай і іграла... «Мой сіваталовы каток хутка вернецца...»

— Дзе яе пахавалі?

Пахавалі ў сямейным могільніку Бяржэнасаў. Вузкая вулка, выгінаючыся, уздымаецца ўсё вышэй і вышэй на Вялікую горку. Шарэнгамі выстраіліся крыжы і надмагіллі. Нават сярод нябожчыкаў мусіць быць вайсковы парадак. Свежы грудок зямлі пад крывым вязам. Наверсе, нібы заліты абрус пасля ўчарашняй вечарынкі, падталы чатырохкутнік снегу. У гэтым месцы, дзе стаіць груваcткі помнік з высечанымі імёнамі і прозвішчамі нябожчыкаў Бяржэнасаў і Бяржэненяў, мабыць, ляжыць яе галава. Прыгожая светлавалосая галоўка. Заплюшчаныя вочы, губы, якія ён нядаўна цалаваў, маленькія зграбныя ручаняты, складзеныя на грудзях. Паўтара метра, не глыбей. Іх раздзяляюць толькі паўтара метра грунту... Людзей раздзяляюць сотні кіламетраў, горы і акіяны, і яны ўсё роўна сходзяцца, а тут нейкія паўтара метра — недарэчная перашкода, аднак яе не адолець.

Падыходзіць вартаўнік могілак. Яго сын быў першы вучань у класе. Моўчкі глядзіць на зямлю, потым на Гедымінаса, на яго чорную бараду. Кажа, пазнаў па паходцы і вопратцы. Далібог, таемныя дзеі творацца на нашай грэшнай зямлі. Вось, напрыклад, і пані Вайнарэня. А як жа, ведаў: сімпатычная жанчына была. Чаго ёй не хапала? Раптам ні з таго ні з сяго... У галаве не месціцца, пане настаўнік.

Гедымінас, нічога не адказаўшы, брыдзе прэч. «Сімпатычная жанчына была...» Дангель сказаў: «Хто-хто, а мы з вамі гэта добра ведаем...» Колькі знаёмых твараў у гэтым

мёртвым горадзе! I ў губах у кожным хлуслівае спачуванне, абгаворы, затоены ўздых палёгкі: не хацеў бы апынуцца ў яго скуры.

Абапал паўзуць шэрыя будынкі, нібы дапатопныя дыназаўры. Усё меншыя і меншыя, усё далей і далей адзін ад аднаго. Прыгарад. Пярэстая спіна дарогі (ні на санях, ні на калёсах), то тут, то там — голыя натапыраныя дрэвы сядзіб. Недзе ўдалечыні, злітая з шэрай палоскаю небакраю, яго родная вёска. Сабака, прывязаны да будкі, бразгае ланцугом, сакочуць куры, гуляючы па двары, вокны, заплаканыя на світанку. Бацька... Можа, немцы яго ўжо выгналі з дому і ён пабіраецца па чужых дварах і ля чужых сталоў сёрбае боршч? Няшчасце... Смешна гучыць гэтае слова цяпер, калі ты бачыў, як людзям пілуюць косці, як здзіраюць з жывых скуру, калі ў тваіх вушах яшчэ гучаць крыкі вязняў, асуджаных на страшную смерць, а ты сам са зняважанай душой вяртаешся з магілы каханай жанчыны. Куды? Там жа толькі тваё мінулае. У кожным знаёмым твары, у дрэве, у звіліне сцежкі. На дарозе, на мосце, над возерам, на цэментавым ганку малачарні — усюды, куды ні ступіш нагой, цябе сустрэне мінулае. Будзе нагадваць пра сябе, дапытвацца, вярэдзіць раны, загаіць якія зможа адно толькі забыццё.

Не, няма і не было ніякага Лаўксадзіса. Няма і не было хутара з сабакам, што бразгае ланцугом. Акенцаў хаты, заплаканых на світанку. Нічога няма і не было. Ёсць толькі гэты пярэсты бальшак (ні на санях, ні на калёсах), што бяжыць зусім у іншы бок. Звілістая дарога забыцця, аброслая палявымі дарожкамі, дзе чужыя хутары і вёскі, чужыя людзі, сцежкі, якіх ты не таптаў, аблепленыя варанячымі гнёздамі дрэвы, па якіх ты не лазіў. Там інакш бразгаюць ланцугом сабакі, інакш плачуць акенцы ў хаце, інакш уюцца сцежкі, інакш растуць кусты вербалозу панад равамі. Там свет, у якім няма твайго мінулага.

## II

Першая палявая дарожка зацягнула яго, як рачны вір — трэску. Наперадзе ўбачыў густы бярэзнік — страйнюткія белыя бярозы з густымі галінамі, паабчаплянымі замерзлымі кропелькамі вады. З тужлівым здзіўленнем глядзеў ён на ніцыя косы дрэў, аздобленыя ледзянымі самацветамі, якія, ледзь сонца выглянула з-за хмары, заззялі так ярка, аж ёкнула балюча сэрца: усё гэта ён ужо нека-

лі бачыў... Позняй восенню ці ранняй вясной, калі палі скідаюць раскіслы снежны кажух, а пад саламянымі стрэхамі вісяць павастрэлыя ледзяшы і шэрыя дрэвы на ўлонні высокага неба здаюцца чорнымі і мяккімі, нібы намаляванымі вугалем. Ва ўяўленні мільганулі бярозы роднага хутара, сажалка, зарослая аерам. Бусляпка на вяршаліне таполі, абламанай бурай, галубы, што таўкуцца на страсе, бацька ў адной кашулі — падставіў твар гарачаму летняму небу («Вакол сонца абадок, мабыць, збярэцца на дождж — сама на буракі»).

Не, яно было, гэтае мінулае. Яно плялося за ім, як сабака, якога вядуць забіць, за гаспадаром. Па вясковых вуліцах і палявых дарогах, па ніколі не ходжаных сцежках міма ніколі не сустраканых сядзіб, пераступала разам з ім чужыя парогі, уваходзіла ў чужыя хаты, сядала за стол, пазірала знаёмымі вачамі на Гедымінаса. Яго сустракалі падазроныя, спалоханыя твары (яго аблічча — зарослыя шчэццю шчокі, брудная пакамечаная вопратка — ні ў кога не выклікала даверу), на якіх было напісана непрыхаванае жаданне хутчэй збавіцца ад дзіўнага госця; часта дзверы зачыняліся перад самым носам. Але нават гэтая абразлівая людская непрыязнасць не магла дапамагчы яму ўцячы ад самога сябе: якая-небудзь драбніца (рыпенне калодзежнага жураўля, вуллі ў садзе, святы абраз у сялянскай хаце) зноўку і зноўку ўзрушвала свядомасць, уваскрашаючы ў памяці крывавы кавалак мінулага. Лепш за ўсё было залезці да каго-небудзь у клуню і, закапаўшыся ў салому (альбо ў сена), ляжаць так цэлымі гадзінамі. Намаганнем волі ён прымушаў сябе хоць нейкі час ні пра што не думаць (уяўляў, што ён бяжыць па бясконцым крузе) і тады засынаў. Прачынаўся ад голаду, так і не адпачыўшы. Назойлівы сверб у целе нагадваў пра лазню, але ён тут жа адкідаў спакусу: не мог уявіць сябе ў інтымным атачэнні людзей. У хаты заходзіў толькі, каб купіць сабе яды (грошай, дарэчы, ніхто не браў), і толькі там, дзе яго сустракалі шчыра, хоць і не без цікаўнасці, затрымліваўся даўжэй. Хто, як, адкуль? Ён пацепваў плячамі, балесна ўсміхаючыся, і ўставаў з услона. Гэтым людзям, якія не лічылі яго ні вар'ятам, ні злачынцам, што хаваецца ад улады, ён не мог хлусіць. Але як сказаць праўду, не вярэдзячы скрываўленых ран? І наогул, ці ёсць у чалавечай мове словы, якімі можна апісаць тыя нядаўна бачаныя жахі, тыя крывавыя вобразы, якія невылечна атруцілі яго душу? Не, уяўленне занадта беднае, а душа хворая, каб узнавіць усё гэта. Таму

цікаўным («Ці здалёк ідзяце?») ён адказваў пчыра і коратка: «Іду з пекла».

— Няўжо? Дык, можа, вы скажаце, дзе яно? — запыталіся ў яго ў адной хаце.

Гедымінас спыніўся ў дзвярах і, вінавата ўсміхаючыся, павярнуўся — ён не хацеў, каб гэты рослы стары з пажаўцелымі ад тытуню зубамі ўспрыняў яго словы як знявагу.

— Прашу вас, не крыўдуйце. Гэта доўгая гісторыя, і я не змагу расказаць так, каб вы паверылі.

Стары зніякавела развёў рукамі; у прыжмураных вачах непрыхаванае спачуванне здаровага чалавека да хворага.

Гедымінас уздрыгнуў: ужо адзін раз, і зусім нядаўна, ён бачыў гэтага чалавека. Ён выразна памятаў бародаўку на шчацэ каля правага вуха, ліловыя сляды прышчоў на падбароддзі. На сцяне сярод сямейных фотаздымкаў вісеў абседжаны мухамі каляндар («Неўзабаве месяц, як я пайшоў з Лаўксадзіса...»), у кутку стаяў непрыбраны ложак. Так, ён ужо быў у гэтай хаце, сёрбаў з глінянай талеркі драўлянаю лыжкаю боршч, і тады на яго павеяла пахам бацькоўскага дому. Бачыў і калодзежны зруб, што прытуліўся замшэлым бокам да вішні, стары хлеў з запалай страхою, рабога нязлоснага сабаку на двары, па якім зараз ішла маладзіца, несучы кош буракоў. Тады яна сядзела каля акна за калаўротам і прала, з цікаўнасцю зыркаючы на яго спадылба. «Ці здалёк ідзяце?» — запытаўся тады стары. І Гедымінас адказаў такімі самымі словамі, што і сёння. Калаўрот перастаў гусці; Гедымінас выйшаў у двор, не могучы пазбыцца адчування, што маладзіца пазірае на яго праз акно і тукае пальцам сабе па лбе («Небарака... У яго не ўсе дома...»). За клуняй два дзецюкі пілавалі тады дровы. «Памагай бог!» Аднак яны не пачулі: рагаталі з чагосьці, з шалёнай хуткасцю цягаючы пілу. «Вось людзі, яшчэ не разумеюць, што такое гора»,— з абурэннем падумалася яму. Ён ледзьве стрымаўся, каб не падысці да гэтых маладых мужчын, што дыхалі сілай і вясёласцю, і не папытацца, ці вядома ім, што ў гэтую самую хвіліну, калі яны душацца смехам, зусім побач пакутуюць і гінуць людзі, душачыся сваёю крывёю.

Цяпер дзецюкоў за клуняю не было. Ясеневыя козлы тырчалі, паўрастаўшы ў тоўсты пласт пілавіння. Пахла пілаваным дрэвам і заснежанымі палямі. Снегу было няпнога, можа, на далонь. Не ўезджаная санямі дарога не несціла пешахода: ногі то коўзаліся на калдобінах, то па ка-

лена правальваліся ў выбітую калёсамі і зацярушаную снегам каляіну. Хоць Гедымінас ішоў не спяшаючыся, неўзабаве падцяла знямога, а на лбе выступіў пот. І ўсё-такі ён быў задаволены такою хадой: трэба было ісці, не паслабляючы пільнасці, а гэта адцягвала ўвагу ад рэчаіснасці, якая ўсім цяжарам абрушвалася на яго, калі не дзейнічалі вонкавыя фактары. Час-почас мільгала думка, вабячы звярнуць на які-небудзь хутар, але ён згадваў позірк высокага старога з-пад прыплюшчаных павекаў і цягнуўся далей. Не, ён лепш сядзе адпачываць на заснежаную купіну альбо камень. Няёмка, але ўсё роўна прыемней, чым насычаны курнай цеплынёю ўслон, па якім голымі азадкамі соўгаюцца дзеці (а можа — будучыя звяры: быў жа час, калі і Дангель соўгаўся?..). Тут, у гэтым белым царстве прыроды, на цябе ніхто не будзе глядзець з недаверам, і ты, бачачы незнаёмыя твары, не будзеш мучыцца, думаючы, у кім з іх дабро пераважвае зло, а ў кім іх пароўну, гэта азначае якраз столькі, што ў хвіліну вырашальнага выбару чалавек хутчэй заплаціць за сваё існаванне жыццём блізкага, чым, падпарадкоўваючыся голасу сумлення, выбера долю пакутніка. На цябе будуць глядзець шэрае снежаньскае неба, шэрыя кусты, застылыя па-над равамі, і чорная палоска, выгнутая па небакраі. Можа, яшчэ зайчык паглядзіць, смешна прысеўшы на заднія лапкі, ды з недалёкага хутара выкрыкне певень сваё бадзёрае «кукарэку». І ўсё. Нікога больш наўкола. Ты адзін, адзін-аднюткі чалавек у шырока растуленых абдымках палёў, не спаганеных пакуль што бессэнсоўнымі забойствамі і крывавай здрадай.

Узбоч дарогі ляжала кімсьці пакінутае бервяно. Гедымінас згарнуў рукавом снег і сеў. Першы раз за часы блукання мільганула думка, што ён праходзіць не менш дзесяці кіламетраў за дзень і што Краштупены, мабыць, засталіся далёка ззаду. Аднак гэтыя мясціны не здаваліся яму незнаёмымі. Дзесьці ён ужо бачыў і даўгаваты пагорак, парослы роўнымі сосенкамі, і — трохі ўправа ад іх — вятрак, што махаў усімі чатырма крыламі, і нейкую адзінокую будыніну з праламаным пасярэдзіне вільчаком страхі. Былі тамсама і два старыя дрэвы, што абняліся крывымі галінамі. «Не люблю ясеняў,— казала Мілда, калі яны, паклаўшы ровары на траву, размяшчаліся ў цяні.— Але гэтыя нібы наўмысна дзеля нас пасадзілі».

Гедымінас заплюшчыў вочы. Так, нядаўна ён ужо праходзіў тут. («Я апісваю кругі вакол Краштупенаў, як са-

бака вакол сваёй буды».) Бездаглядная стадола, дзе яны сустракаліся з Мілдай, прытуліла яго і ў першую ноч пасля гестапа. Цэлыя суткі ён праляжаў у прэлай саломе, а потым доўга сядзеў на кучы гнілых дошак, слухаючы вераб'інае чырыканне. Ён чакаў цуду: вось яна — вясёлая, з распушчанымі белымі валасамі — саслізне з тарпы саломы, зваленай у кутку, і, падкраўшыся ззаду, затуліць вочы мяккімі духмянымі далонькамі. Аднак цуду не было. Тады ён абышоў усю стадолу, як бажніцу, дзе яшчэ жыла душа каханага чалавека, прынесенага ў ахвяру багам, і скіраваўся да дзвярэй. Але выйсці не паспеў — за спіной пачулася шамаценне, крахтанне, і Гедымінас, спалохана акінуўшыся, убачыў, што з саломы спаўзае чалавек. Ён быў у пасталах, кароткім латаным кажушку, заечай шапцы; у рыжых вусах пазастрагалі саломінкі.

— Вы часам не гаспадар гэтага палаца? — загаварыў ён, мякка ўсміхаючыся.— Прашу, не гневайцеся, што ўваліўся сюды без спросу. Калі чалавека прышчэміць бяда, усякае бывае.

— Я такі ж пастаялец, як і вы,— суха адказаў Гедымінас. Па спіне ў яго прабег халадок ад думкі, што, пакуль ён спаў, нейкі тып прыладкаваўся побач.

— Можа, маеце закурыць?

Гедымінас пакруціў галавою.

Тады чалавек падышоў бліжэй і, не чакаючы роспытаў, пачаў наракаць на свае беды. Ох, гэтыя немцы, сапраўднае боскае пакаранне! Вясною забралі дачку — павезлі ў Памеранію, а цяпер яго чарга настала. Схапілі некалькі дзён таму назад у валасным горадзе (ён родам з Аўкштайціі), заштурхнулі ў вагон. Адно шчасце — рускія самалёты: наляцелі ўначы і давай бамбіць чыгунку. Ахова разбеглася, і яму ўдалося шмыгануць з вагона. Але ці далёка ты, небарача, зойдзеш у незнаёмым краі? Наскочыш на якога здрадніка — а ў гэткі час іх да халеры — і выдасць немцам. Не, няма ўжо ніякай надзеі хоць калі-небудзь убачыць жонку. Калі немцы не схопяць, дык здохнеш з голаду альбо вымуць душу маразы, бо не пражывеш жа ўсю зіму, тулячыся па клунях і жывячыся выпадковым кавалкам жабрачага хлеба. Адзіны ратунак — партызаны. Але як да іх трапіць? Ці прымуць яны незнаёмага чалавека? Іншая справа, каб гэта было ў сваёй парафіі — нават чацвёра знаёмых з вёскі ў лесе. Не адзін раз уначы заходзілі да яго ў хату. «Відаць, вынюхалі, праклятыя. За гэта і дачку, а

цяпер мяне самога. Чырвоны, як жа, супраць палітыкі Гітлера...»

Чалавек гаварыў ледзьве не са слязамі ў вачах, паглядаючы з мальбою на Гедымінаса, нібы той быў знаёмы з усімі партызанамі навакольных лясоў.

— Ведаю, набалбатаў залішне,— раптам спахапіўся ён.— Першаму сустрэчнаму... Але мне ўжо ўсё роўна. Зняможся, не магу больш. Што бог дасць, няхай тое будзе: немцам у кіпцюры альбо да партызанаў у абдымкі. Каб толькі хутчэй.

— Ваша няшчасце не самае вялікае,— жорстка адказаў Гедымінас, паварочваючыся, каб пайсці.

Яму было дзіўна, што ён не адчувае ніякай спагады да чалавека, які трапіў у бяду. Паглыблены ў сваю роспач, ён тады не разумеў, што свая бяда зрабіла яго сляпым і глухім да чужой пакуты. Але дзень за днём ён абуджаўся з пакутлівага жаху, адраджаўся, як выпаленая да чарнаты рунь, якая выпускае пасля дажджу новыя парасткі. У кожным двары, хаце, клуні, дзе яму даводзілася начаваць, у кожным сажні пройдзенай дарогі ён пакідаў часціну цяжару, з якім выйшаў з гестапа.

І цяпер, пазіраючы на стадолу, якая высілася непадалёку, ён мог спакойна думаць пра Мілду як пра некага, хто даўно і незваротна забраны часам. Тое, што, здавалася, павінна было б стаць вяршыняй яго роспачы, самай незагойнай ранаю ў сэрцы, нечакана хутка паблякла, перамясцілася на другі план. Затое карціны катавання ў гестапа, шыбеніца на гарадскім пляцы неадступна стаялі ўваччу. Яны не бляклі, а, наадварот, станавіліся ўсё больш яркія, насычаліся новымі дэталямі; яны ўзнікалі ва ўяўленні Гедымінаса, нібы кінакадры, якія аператар наздымаў, а потым выразаў як лішнія. Гэтых кадраў было многа, вельмі многа, і іх усё болела. Ён бачыў шыбеніцу, але ўжо не адну: тысячы шыбеніц стаялі ў тысячах гарадоў, якія не называліся Краштупены, але там жылі і паміралі гэтакія самыя людзі, хоць яны і гаварылі на іншай гаворцы, на іншай мове, трымаліся іншых звычаяў, інакш хрысціліся альбо наогул не хрысціліся ніяк. Тысячы брудна-зялёных следчых мітусіліся ў клетках, чакаючы, калі чорныя служкі звярынца кінуць ім чарговую ахвяру і яны, хціва мучачы яе, змогуць на нейкі час спатоліць свой люты голад. Незразумела, як удалося яму, Гедымінасу, вырвацца жывому з воўчай пашчы. Ён адчуваў, і з кожным днём усё выразней, балючыя знакі зубоў на сабе. А разам з гэтым рас-

ло сарамяжнае пачуццё віны. Нібыта нешта зрабіў не так, як належыць чалавеку, і гэтым адкупіўся ад апраметнай, стаўшы звычайным назіральнікам крывавага турніру гладыятараў.

Прыгнечаны гэтым пачуццём, ён паклаў у кішэню недаедзеную лусту хлеба і скрыль сала і паволі пайшоў міма стадолы да бальшака. Прамільгнуў Мілдзін вобраз (жоўтыя бярозы на ўзлеску, іржэўнік, зацягнуты блакітнай павуцінай; «Гедміс, прачытай мне яшчэ раз свой верш») і тут жа знік. Ён не ведаў, у які бок цяпер павернe. Хутчэй за ўсё, падсвядома, павярнуў бы ўправа: там быў Лаўксадзіс, бацькаў хутар. Але ўсё вырашылі сані, нагружаныя альховым суччам. На санях, спіной да яго, схаваўшы галаву ў каўнер кажуха, сядзеў селянін. Побач ляжала невялічкая елачка. У нос ударыў востры пах ссечанага алешніку і жывіцы, ад якога раптам перасохла ў горле і закружылася ў галаве. А тут яшчэ пах конскага поту, дым люлькі, скрыпенне палазоў, калі яны ўзбіваліся на голую зямлю... Усё гэта цяпер змяшалася разам, але ва ўсім гэтым усё роўна быў пэўны лад, і Гедымінас нечакана ўбачыў адзін з вечароў свайго маленства. Гэтакіх вечароў было шмат, аднак ён бачыў толькі адзін, што найбольш глыбока засеў у памяці, хоць тады нічога асаблівага і не адбылося. Былі каляды. Пасярэдзіне святліцы стаяла ўпрыгожаная ёлка. Маці — вясёлая і маладая — падняла яго, узяўшы пад пахі, і ён запаліў «зімовы агонь». Іскрысты дождж заліў пакой. Было многа дзяцей і дарослых, многа смеху, галасу, але ён нічога не бачыў і не чуў, захоплены гэтай чароўнай ёлкай, што пырскалася сярэбранымі цуркамі святла. І ўдыхаў кіславата-салодкі пах яловых галінак, змешаны з пахам печыва і тытунёвым дымам, які празрыстай смугою заслаў столь.

І ён, быццам зачараваны, звярнуў у левы бок, памкнуўся за вечарам свайго маленства. Елка на санях уздрыгвала, варушыла галінкамі, якія неўзабаве ўпрыгожацца каляровымі свечкамі, цукеркамі, сярэбранымі паперкамі. Вачамі, поўнымі слёз, ён глядзеў на яе і бачыў ужо, як яна міргаціць трапятлівымі агеньчыкамі, спяваючы ўзнёслы гімн калядам, чуў вясёлую дзіцячую гаману, гудзенне дарослых галасоў і адчуваў у сябе пад пахамі цёплыя матчыны рукі, якія ўздымалі яго вышэй, каб дзіця сваімі далікатнымі пальчыкамі магло дакрануцца да дзівоснага свету казкі.

Ён ішоў і ішоў за вечарам свайго маленства — — — — — — — — — — — — — — — — .

## III

Калі б селянін не азірнуўся і гэтак пільна не паглядзеў на яго... Альбо калі б рассеялася раней ілюзія таго колішняга вечара... А можа, ні тое, ні другое і не было важна — ён проста пачаў задыхацца ад самоты, яго душыў бясконцы ланцуг зданяў, і, не знайшоўшы супакаення ў разлуцы, ён міжволі вяртаўся туды, адкуль уцякаў.

— Сядай,— запрасіў селянін, прытрымаўшы каня.

Ведаў, на чыім хутары апынецца і хто гэты чалавек, што прысланіўся спіною да елкі. Адчуваў, што селянін таксама яго пазнаў. Але яны сядзелі адзін каля аднаго, нібы сустрэліся першы раз, і размаўлялі, як і належыць размаўляць пры першым знаёмстве. («Да лесу далёка?» — «Далекавата».— «Санная дарога яшчэ не надта».— «Пэўна, але і гэтага снегу неўзабаве не стане — заходні вецер падзьмуў».— «Першы снег звычайна растае».— «Ды ўжо ж, зіма-зіма, а, глядзі, і каляды голыя».)

О, калі б ён ведаў, чым скончыцца тая вандроўка за вечарам дзіцячых гадоў! Калі б раней, чым усё гэта адбылося, убачыў гасцей за сталом у святліцы Габрунасаў, пачуў крыкі, п'яныя песні... Словам, уабраў бы ў сябе ўсё хмельнае адурэнне, якое апаноўвае людзьмі, што жывуць у няведанні і знаходзяць у гарэлцы ўцеху. Яму сказалі: «Паслязаўтра каляды. Запросім бліжэйшых суседзяў, сёй-той з родзічаў пад'едзе. Як добра, што вы нас наведалі, пане Джугас: разам адсвяткуем нараджэнне немаўляці Ісуса». Аднак усе гэтыя словы прайшлі міма яго вушэй, як звон пустога посуду. Ён яшчэ жыў у нейкім сне, дзе ўсё адбывалася без удзелу чалавечай волі. Вячэраў, потым снедаў і абедаў за сталом Габрунасаў, схадзіў у лазню, а перад гэтым зголіў гаспадаровай брытвай сваю чатырохтыднёвую бараду. А яшчэ перад гэтым выспаўся, вашывы, у чыстай пасцелі, і яму нават не было няёмка. Дзе там! Нават адчуваў нейкае зласлівае задавальненне, нібыта ў тым брудзе, якога набраўся ў часе свайго блукання, часткова былі вінаватыя і Габрунасы. Раніцай, калі абудзіўся, знайшоў на спінцы крэсла папрасаваныя штаны і памытую бялізну. Падзякаваў, але толькі па прывычцы — у сэрцы не было ні кроплі ўдзячнасці. І гэта яго зусім не здзівіла. Адно было дзіўна, што можа сядзець за сталом, есці, піць святочнае піва, пагарджаць гэтымі сытымі людзьмі і ў той жа час ківаць, усміхацца і адбівацца стандартнымі слоўцамі («Шчыра дзякую», «Добра, яшчэ вазьму», «Што вы! Вель-

мі смачна, пані Габруненя»). Яму было мотапша ад звонкай чысціні святліцы, святыя абразы і сямейныя фотаздымкі пад старанна працёртым шклом калолі вочы, і ён, хаваючы раздражненне, думаў: «Варта было б кожнага з гэтых чысцюляў прапусціць праз той пякельны кацёл, дзе пабываў я. Тады тут не пахла б святочнымі пірагамі».

На куццю ён сядзеў на ганаровым месцы — паміж гаспадарамі. Насупраць — Рута, абодва малодшыя браты, хлапчукі дванаццаці і трынаццаці гадоў. Смачна пахла макавым малаком, селядцамі ў алеі, квашанай капустай. Без дзевяці страў куцця — не куцця. І без пшанічных празрыстых аплатак — «пірага немаўляці»,— пакладзеных побач са жменькай сена, што сімвалізавала яслі Ісуса. На некалькі імгненняў нібы нейкая смуга апала на вочы. Зніклі святліца, стол, Габрунасы. Ён убачыў іншую святліцу, іншы стол і іншыя твары. Свайго бацьку і маці. Бабулю. Сястру Анэлю і брата Мікаласа. І сябе, старэйшага, паміж імі. Бацька ўстаў, перажагнаўся, разламаў аплатку і раздаў усім.

«Блаславі, госпадзі, наш дом. Каб і на другую куццю ўсе сабраліся за гэтым сталом. Выслухай нашу малітву, божа, будзь міласэрны да сваіх дзяцей. Амін».

— Ешце, пане Джугас, просім. Небагаты стол, але што зробіш — куцця, пост. Заўтра разгавеемся.

— Разгавеемся...— прамармытаў ён, асалавелымі вачамі аглядаючы стол.— Разгавеемся... Мы дык ужо разгавеемся, пані Габруненя...

Рута пашанліва ўсміхаецца. Прыязна разяўляецца тлусты рот Габрунені. Святочна засяроджаны Габрунасаў твар. Мір, шчасце, спакой. Вядома, заўтра вялікая радасць усяму чалавецтву: народзіцца Ісус, які выкупіць грахі ўсяго чалавецтва.

— Мы дык ужо разгавеемся, пані... Разгавеемся...— паўтараў ён, не могучы адчапіцца ад гэтага слова і адчуваючы, што пашча нядаўна перажытага пекла зноўку ўсмоктвае яго. Шэра-зялёны следчы, чорныя прывіды з закасанымі рукавамі акрываўленых рук. Твары катаваных, скажоныя страшэннай пакутай, смуродлівы пах паленага мяса. Дзе збаўца, дзе збаўца?

Гедымінас устаў, адсунуў талерку. Словы падалі, як целы закатаваных у яму. Недабітыя, яшчэ жывыя. Залітыя крывёй, што запяклася чорнаю скарынкаю, у перадсмяротных сутаргах. З пераламанымі касцямі, павыдзіранымі вачамі — жахлівыя рэшткі найпрыгажэйшага стварэння пры-

роды.— — — Вы бачылі ўсё гэта, панове Габрунасы? Як яны біруць жывога чалавека, якога, як і нас з вамі, нарадзіла маці, і паступова, кропля за кропляй, высмоктваюць з яго кроў, нітачка за нітачкай выцягваюць нервы і выдзіраюць жылы, а потым, калі застаецца мяшок касцей і мяса — — — Вы бачылі ўсё гэта, скажыце?

Усмешка згасла на твары ў Руты, хвацка падкручаныя вусы Габрунаса паніклі, як пышныя сцяблiны збажыны на выпаленай раптоўным скварам зямлі.

— Хопіць, хопіць...— прашаптала Габруненя, затуліўшы далонямі апалы твар.— Хопіць, пане Джугас... Такія жахі пры дзецях...

Але Гедымінас не мог стрымацца. Нарыў, які гэтак доўга выспяваў, нарэшце лопнуў, і ён з усмешкай і адначасова са злоснай усмешкай пазіраў, як са скулля льецца гной, запаўняючы ўсё навакол атрутным смуродам, ад якога шарэлі твары і застывалі ў жаху вочы. Атруціліся! І няхай! Ніхто не мае права дыхаць чыстым паветрам, калі зямля спавіта атрутнымі аблокамі. Ніхто! Нават дзеці.

— Вам пашанцавала, пане Джугас,— сказаў Габрунас, калі Гедымінас нарэшце замоўк.— З такога пекла вырвацца жывому і здароваму... не жартачкі.

— Адтуль ніхто не вырываецца жывы і здаровы, пане Габрунас. Раней, калі хочаце ведаць, я не мог спакойна прайсці міма чалавека, які пакутуе. Аднак цяпер, пасля ўсяго, што там пабачыў... Мне часам здаецца, я мог бы таго самага чалавека забіць сваімі рукамі, калі б ведаў, што ён нягоднік. Не, пане Габрунас, адтуль не выходзяць жывыя і здаровыя. Гэта фабрыка смерці, дзе адных, на іх шчасце, хутчэй утрупяняюць, а другіх, заражаных бацыламі шаленства, адпускаюць, каб яны заражалі здаровых.

— Я разумею вас, пане настаўнік,— сказала Рута.

— Разумееце? Вы?! — Ён здзіўлена падняў на яе вочы і тут жа апусціў іх: такім асляпляльна чыстым, асветленым унутраным агнём быў яе позірк. (Клас. Дзяўчына ў плісаванай гімназічнай сукенцы. «Я так у вас верыла, пане настаўнік, так верыла...») — Не ведаю, што вы маеце на ўвазе, гэтак гаворачы, Рута, але я не хацеў бы, каб вы яшчэ раз расчараваліся ўва мне. Я не герой, хоць і трапіў т у д ы. Я не вярнуўся да старога алтара, які апляваў, і не знайшоў новага, якому змог бы пакланяцца. Я смяяўся з Туменасавай сябрыны. Але гэтыя людзі ведаюць, за што будуць пакутаваць. А я? Наіўны вандроўнік, які не ўзяў

кія, пайшоўшы праз вёску, хоць ведаў, што ў гэтай вёсцы поўна шалёных сабак.

— Мы занадта доўга змагаліся з немцамі аднымі словамі, пане настаўнік.

Ён нічога не адказаў. Мабыць, стрымаў кіслы выраз на твары Габрунені. (Габрунас незадаволена кашлянуў. «Змагар у спадніцы. Таксама, бач, знайшлася — свет яна перакуліць».) Але потым доўга не мог заснуць, хоць і разамлеў пасля гарачай лазні і сытнай вячэры. «Занадта доўга змагаліся аднымі словамі...» Не, гэтая думка не была яму новая. Не ведаў, калі першы раз яна ўзнікла ў свядомасці, народжаная суровым вопытам жыцця, але, ужо стоячы каля Мілдзінай магілы, ён мог прамовіць гэтыя словы. Праўда, тады ён палічыў бы іх запозненай высновай (трагічная непапраўная памылка, і ўсё), а цяпер адчуваў, што яшчэ нельга ставіць кропкі, у гэтай думкі ёсць яшчэ нейкае прадаўжэнне, ён ужо здагадваўся якое, аднак яшчэ не мог з ім згадзіцца, бо згадзіцца — значыць прыняць рашэнне. Ён разумеў, што трэба толькі невялічкі штуршок, і быў упэўнены: раней ці пазней гэта здарыцца.

І калі на другі дзень у святліцы Габрунасаў сабраліся госці, яму стала зразумела: вось і настала яго гадзіна. Апанаваны дзіўным неспакоем (настрой чалавека, які апошні раз бачыць родны бераг і ведае, што ніколі ўжо не вернецца да яго), ён глядзеў на гаманлівыя сталы, застаўленыя ядой і піцвом, і са скрухаю думаў, што гэтыя людзі сабраліся сюды толькі для таго, каб напакаваць вантробы, напіцца і, спаражніўшыся, усё распачаць нанава. Нібыта кожны лічыць сваім святым абавязкам як мага больш прапусціць праз страўнік. Засаленыя падбародкі... Асалавелыя вочы... Раты... Глытаюць, жуюць, душацца смачнымі кавалкамі, адрыгваюць крыкі, гаману. Быдла... Яшчэ ўчора ён асудзіў бы іх, высмеяў, не вылучаючы з гэтага гурту і сябе, а цяпер замест пагарды было толькі шкадаванне і пачуццё сваёй адказнасці за ўсё гэта. Так, адказнасці. «...бо,— думаў ён,— я ўжо зразумеў, а яны яшчэ не могуць зразумець. Маё гора, калі б я нават адкрыў яго за гэтым сталом, было б толькі маім расказам, а не іхнім жыццём. Такім чынам, кажучы словамі Хрыста: яны невінаватыя, бо не ведаюць, што робяць. А я?» — — — — — —

— Вып'ем, пане настаўнік. Так ці гэтак — адзін канец.

— Скачы, Халімон, заўтра — гамон.

— І я кажу. Заўтрашні дзень не конь, не купіш, у зубы

не паглядзіш. Дык просім, пане настаўнік, не пагрэбуйце,— чапляліся да Гедымінаса з усіх бакоў.

Ён машынальна паднімаў шклянку, стукаўся з суседзямі па застоллі, піў, здаецца, не менш за іншых, але не п'янеў.

— Праўду кажаш, Якімас: заўтрашні дзень — не конь. Лі, пакуль ёсць куды ліць, пхай, пакуль ёсць куды пхаць... Ха-ха-ха! Вернуцца бальшавікі — усе дзіркі пазатыкаюць.

— Гуляй, суседзе, яшчэ поўна ўсяго на стале.

Гаспадарык дарагі,
піва пеніць берагі!
Налівай у збан і ў шклянку,
каб гула ўсю ноч гулянка.

— Пане настаўніку... Ды змоўкніце вы, дайце пагутарыць з вучоным чалавекам! Вы ж разумны чалавек, пане настаўнік... Скажыце, няўжо бальшавікі адужаюць немцаў?

— Не дуры ты чалавеку галавы. Мо табе іх шкада, гэтых немцаў? Настаўнікаў паарыштоўвалі, гімназію зачынілі. Выкінулі нашых дзяцей на вуліцу, а на іх месца салдатаў... Сябры знайшліся! Такім сябрам толькі морду натаўчы ды каленам пад зад. Марш у свой фатэрлянд!

— Вазьмі і натаўчы. Паглядзім, што заспяваеш, калі чырвоныя камісары сюды прыляцяць.

— Не прыляцяць, не бойся: ангельцы з амерыканцамі паабцінаюць ім крылцы. І зноў будзе Літва.

— ...Жарэбчык як маляваны. Добры конь будзе...

— ...За быка — пуд! Ашалеў! Парабак за дзень пуда не заробіць. Зрабі таму бугаю прыемнасць ды яшчэ пуд усябруй у прыдачу. Дудкі!

— Затое якую цялушку альбо бычка займееш!

— Можна жыць, не кажы, суседзе. Можна!

— Такога тракена забралі, злыдні... Мо ўжо недзе пад Ленінградам, бедалага... Конік мой гняды, конік... За роднага сына гэтак бы не...

— ...Дык вось з якога кораня наша сваяцтва паходзіць. Аднаго пня атожылкі, а калі б Габрунас не пасадзіў нас разам за адным сталом, гэтак бы і хадзілі далей: здароў будзь — бывай, і міма. Давай хіба пацалуемся...

— ...А я ўвесь час думаў...

— ...Чаго ты ўпарцішся, Тамашус? Нашто тая вага? І на вока відаць: у маёй бабы кумпякі на тры пядзі шырэйшыя, а цыцкі... хе-хе... адну замест падушкі пакладзеш, другой

накрыешся. А твая — свісцёлка. Азадак як у зайца, паясніца — далонямі абдымеш. Узбурыцца мацнейшы вецер — і панясе. Не мяняюся! Давай засек пшаніцы ў прыдачу.

— ...Антыхрыст... Грыміць, ляціць... І будзе так, як у царыцы Саўскай напісана. Зальюць, змятуць. Былі людзі, народ, вера, а зробіцца царства антыхрыста, дзе будзе панаваць Люцыпар са сваімі чарцянятамі.

— Немцы хваляцца, што вынайшлі новую зброю.

— Зброю! Ха! Дапаможа яна нам, як мёртваму кадзіла, тая іхняя зброя. Калі два дзікі счапіліся, а ты нібы мурашнік пад іхнімі капытамі, нічога не дапаможа. Стопчуць, раскідаюць, сам гасподзь бог не пазнае, што быў тут божы свет.

— Газеты наўмысна палохаюць. Хочуць, каб нашы хлопцы дапамаглі ім ваяваць.

— Дай божа, дай божа, каб гэтак было...

Размова шырыцца, адрываючы аднаго за адным ад песні, якая нарэшце зусім сціхае. Надзённыя клопаты адцяснілі ўбок палітыка. Праўда, сёй-той яшчэ спрабуе скардзіцца на нягоды, што валяцца на бедака-селяніна («Д'ябал, а не нявестка...» — «Меў бы ты, суседзе, такую шалёную цешчу...» — «А ўрадзілася рэдкая, з плехамі, можа, толькі восьмае зерне...» — «Каб жа не было паставак... А то пхаеш задарма ім у глотку свой рупесак...»), аднак і іх, заклапочаных сваімі болькамі людзей, неўзабаве захоплівае агульная плынь. Што будзе заўтра? Не з Юргісам, Пятрасам альбо Ёнасам, а са мной. Самае асноўнае — са мной. Супольная доля, вядома, таму і бядуем разам, але калі ўжо тануць, дык чаму конча ўсім, хто звязаны адною вяроўкаю? Ах, каб можна было абрэзаць яе, разблытацца і вынырнуць на паверхню!.. На жаль... Ты гэтакае самае зярнятка, як і ўсе іншыя, што тут сабраліся,— разам прасеюць праз сіта, а тады — свінням у карыта. Пазадкі! Негадзівыя на сяўбу. Але пачакай, пачакай... Калі па маёмасці глядзець, дык у яго зямля лепшая за маю. І радня ў мяне чыстая — ніхто рукі не прыклаў да расстрэлу і з белай павязкай не гуляў. Як жа так пабяруць усіх, як бараноў, без разбору... Не-е, мусіць быць нейкі выбар. Бо і першы раз, калі прыйшлі... Хоць і тады, гэтакім, як я, дасталося. Праўда, зямлі не абрэзалі, было акурат, цюцелька ў цюцельку, але затое падаткі, і наогул... Кулак. Працоўную сілу эксплуатуеш. Усе, каму хацелася, пальцамі паказвалі, абгаворвалі ў вочы і за вочы, быццам я чалавека забіў. А цяпер, калі вернуцца, схопяць яшчэ мацней. Зробяць,

што тады не паспелі зрабіць. Смяешся, суседзе? Глядзі, каб плакаць не давялося. Думаеш, калі маеш толькі тузін гектараў, дык ты за імі як у пана бога за пазухай. Забяруць. Калгасы будуць. Згоняць усіх да аднаго катла, як у сваёй Расіі. Дазволяць трымаць пару курэй, казу, а ўсё астатняе іхняе — дзяржаўнае. І сам ты будзеш дзяржаўны. Будуць выдаваць табе яду, вопратку, як у войску, і будзеш служыць так да самай смерці. Рэкрут. Гультай будзе сімуляваць, а ты, сумленны чалавек, працаваць за яго. Потым і сам ты пачнеш біць лынды, бо каму ж гэта ахвота ўвіхацца, калі іншы ляжыць-палежвае? Гэтак усе мы прызвычаімся жыць за чужы кошт, а тут і хлеба менш стане, і тут ужо давядзецца красці. А дзе гэтыя двое — гультайства і зладзейства,— там ужо недалёка да жабрачай торбы і астрога. Кажуць: прыйдуць, павыразаюць. А нашто ім выразаць, калі мы самі падохнем? Згніём жыўцом з душою і целам. Такая ўжо боская воля, такі ўжо знак. Скачы не скачы, як жаба перад касою, нікуды не падзенешся: з абодвух бакоў касцы, ды дзве касы, ды дзве разяўленыя зяпы.

Якая розніца, каму ты дастанешся: ці мядзведзю ў лапы, ці ваўку ў зубы? Галоўнае, каб доўга не жавалі. Лепш за ўсё памерці адразу. Чаго баяцца, калі яны адразу, як прыйдуць, усіх з паверхні зямлі... Што будзе, тое будзе, а сёння пакуль што мы жывём. Жывём, браты! Наша гэта гадзіна, гэты дзень, гэтыя каляды. Можа, апошнія (капут, канец!), але нашы. Святкуем! П'ямо, гуляйма! Песню!

Усе рэчкі з беражочкам,
усе рэчкі з беражочкам,—

зацягвае мужчына з вытыркнутым кадыком, што сядзіць насупраць Гедымінаса.

І тут жа некалькі галасоў падхопліваюць:

Гэй!
Усе рэчкі з беражочкам,
няма дзе напіцца.

Прывёў жонку маладую,
прывёў жонку маладую,—

кратаецца кадык. Падхапіўшы песню, яму дапамагаюць усе, хто сядзіць побач, а калі настае чарга другой паловы куплета, у святліцы няма чалавека, які б не цягнуў:

Гэй!
Прывёў жонку маладую,
пасваруся — плача.

Ой, не плач, мая ты кветка,
ой, не плач, мая ты кветка,
гэй!!!

Усе дружна гахаюць кулакамі па стале, тупаюць нагамі аб падлогу. Бразгат посуду зліваецца з аглушальным грукатам, уліваецца ў песню, якая прыўзнімае столь, ірве на шматкі паветра:

Ой, не плач, мая ты кветка,
больш не пасваруся.
Сам звару і сам насмажу,
сам памыю лыжкі.
Гэй!
Сам звару і сам насмажу,
сам памыю лыжкі.
Гэй!
Сам звару і сам насмажу,
сам памыю лыжкі.

Чырвоныя потныя твары, вочы скачуць у экстазе роспачнага шаленства. Рукі... То падымаюцца, паслухмяныя нябачнай дырыжорскай палачцы, то з вулканічнай сілай зноўку абрушваюцца на сталы («Гэй!!!»), ад чаго са звонам разлятаюцца нажы і відэльцы, перакульваюцца шклянкі, падскокваюць талеркі, рассыпаюцца на абрус аб'едкі. Не людзі — дрэвы пад напорам віхуры. Жанчыны і тыя: грудзі калышуцца, нібы квітучае жытнёвае поле на ветры, якое творыць хвалебную оду сейбіту, але адзін бог ведае, ці дачакаецца яно такога ж удзячнага жніва. Ужо растуць, збіраюцца хмары. Пагрозліва чырвоныя, набрынялыя бурай і градам, народжаныя, каб нішчыць. Хто ведае, ці пройдуць яны міма? Не, няма такога прарока, такога мудраца, які змог бы адвесці ўбок злавесную руку невядомасці. Дык будзем, браты, самі сабе мудрацамі. З песняй нашы бацькі і дзяды ішлі на галгофу, няхай жа і сёння дапаможа нам песня весялей сустрэць згубу. Песню! Песню! Песню!

Падаю свінню і гуску,
падаю свінню і гуску.
Гэй!
Падаю свінню і гуску,
запрагу кароўку.
Гэй!!!
Гэй!!!
Гэй!!!
Гэй!!!

Гедымінас сутаргава ўчапіўся за лаву. Здаецца, гэты віхор шаленства, гэтае д'ябальскае насланнё зараз укруціць яго ў свой вір і шпурне ў столь. Як парыў ветру начно-

га матылька. Проста на лямпу, якая вісіць пад столлю і якая то прыгасае, прыгаломшаная гукавой хваляй, то зноў аджывае, але не займаецца на поўную моц, бо паветра кіпіць, нібы возера, узбуранае асеннім ветрам. Там, вакол таго маленькага сонца, ужо мітусіцца матылёк. Сапраўды, матылёк. Кружыцца вакол напаленага шкла, і з кожным разам усё вузейшы становіцца матыльковы круг, і з кожным разам ён усё больш набліжаецца да лямпы. Гедымінас ведае: за акном зіма, снежань (няважна, што з паўдня імжыць), не можа быць ніякага матылька, і ўсё роўна бачыць яго. Гэтага маленькага, звабленага згубным святлом матылька,— свой народ. Сядзібы, якія ён прайшоў, выстройваюцца бясконцым пахавальным шэсцем. Кляны і каштаны каля варотаў, вільчыкі на саламяных стрэхах, сажалкі, парослыя аерам. Вёскі і хутары. Хаты, хаты, хаты... Вялікія і маленькія, абсунутыя ў зямлю і з дужымі хрыбтамі дахаў, накрытых чырвонай чарапіцай, бляхаю альбо гонтай. З маленькімі курнымі акенцамі і вялізнымі вокнамі, з громаадводамі, радыёантэнамі і без іх. Хаты, клуні, хлявы, лазні... Труны, труны, труны... У кожнай сядзібы свой твар, свой лёс, але ўсе яны брыдуць адным кірункам да адной мэты. Жывыя нябожчыкі, яны думаюць, што выканалі свой абавязак перад зямлёй і дзецьмі, аднак яны забыліся, што калісьці тут шумелі непраходныя лясы, зямля радасна трэслася пад конскімі капытамі, трубіў рог. У бой! У бой! Лепш смерць на полі бітвы, чым сытае жыццё пад чужым ярмом. Людзі ўмелі паміраць за свабоду і славу. А гэтыя нашчадкі прыгонных... рабы сваіх гаспадарак, ім лішні літр малака даражэйшы за чалавечую годнасць... Хіба адважацца яны паварушыць хоць бы пальцам, каб зрабіць тое, што не месціцца ў гаспадарчым ужытку? Не! Вакол будуць пакутаваць і гінуць людзі, а яны як ні ў чым не бывала будуць карміць сваіх свіней, даіць кароў, верашчаць, сабраўшыся ў суседа за святочным сталом. Звер працягне, далібог, працягне да іх свае крывавыя кіпці — настане той час. Не адразу ўсіх — па адным перадушыць. Тады яны саб'юцца ў кучу, як гурт, што адчуў ваўка. А калі аднаму з іх перакусяць горла, іншыя ўзрадуюцца: добра, што з таго краю, не мяне... Аднак праб'е час, калі і ты будзеш крайні, так, праб'е гэты час... Ты гэта ведаеш, хоць не хочаш прызнацца, цешачы сябе зманлівай надзеяй: той прайграе, а гэты вызваліць... А ці можаш ты зразумець: што б ні здарылася (няхай твае спадзяванні спраўдзяцца нават сто разоў), ты сам будзеш у пройгры-

ты. Уратуеш маёмасць, жыццё, але страціш, што ў чалавека самае каштоўнае,— гонар. Гісторыя запытаецца: што ты рабіў, калі звер побач з табою душыў чалавека? Калі народы, залітыя слязамі і крывёю, стаялі на краі прорвы? Ці чуў ты крыкі аб дапамозе, ці бачыў працягнутыя рукі, што малілі аб ратунку? Гэтак, адкажаш ты, я ўсё гэта бачыў, але... Я ўсё гэта чуў, але... Досыць, досыць! Замоўкні, мы ведаем! Калі побач з табой тапіўся чалавек, ты спакойна ішоў па беразе. Карміў сваё быдла, збіваў масла, спяшаўся да суседа на піва, пакуль не выпілі ўсё. Злачынца! Няшчасная ахвяра чакання! Гісторыя табе гэтага ніколі не даруе! Ніколі! Ніколі!

— Гэй, змоўкніце, чорт вас пабяры!

— Чуеце, пан настаўнік хоча гаварыць.

— Прасвятлі нас, простых людцаў, пане настаўнік.

— Трэба песню, песню! Патрыятычную, пане настаўнік.

— Гучней, пане настаўнік.

— Да д'ябла палітыку!

Выходзь замуж, дзеўчына,— бачыш ты:
у вароты ўехалі ўжо сваты.

— Ды пазатыкайце глоткі, хай вас пярун!.. Хіба не бачыце? Пан настаўнік — — — — — — — — —
— — — — — — — — — — — — — —

## IV

— — — — — — — — — — — — — —
— — — Сам не разумею, як гэта здарылася, што я ўстаў. Вырашыў выйсці на двор? Напэўна, бо да апошняга імгнення я не намерваўся што-небудзь гаварыць. Але калі ўстаў і нібы з нейкага ўзвышэння ўбачыў гудлівыя сталы, той кадык, што торгаўся насупраць, у грудзях раптам закіпела, завірыла, і я не мог звалодаць з сабой. Разумеў, што не маю права так гаварыць — я пакуль што гэтакі самы, як і яны, што збегліся да калядных ясляў,— мне не хапала ўсяго толькі нейкай пясчынкі, якая, упаўшы на вагі, пераважыла б маё ранейшае «я». І я кінуў гэтую пясчынку, душачыся ад прыкрасці і безнадзейнасці, бо ведаў, што ніхто з іх не ўстане з-за стала і не скажа: «Ваша праўда, пане настаўнік. Мы палохаем адзін аднаго боўдзілам, якога пакуль што няма, і прыкідваемся, што не бачым цмока, якому штодня прыносім крывавыя ахвяры». Усё гэта я хацеў сказаць перш за ўсё сабе. Увагнаць, як альпіністы, гак у скалу, каб змагчы караскацца вышэй.

Яны маўчалі, паўторкваўшы насы ў талеркі з рэшткамі яды; пацепвалі плячамі, падштурхоўвалі адзін аднаго, нешта мармыталі, абняўшы рукою шклянку; некаторыя нясмела хавалі вочы, нібы схопленыя за руку, калі лезлі ў чужую кішэню, аднак не было ніводнага чалавека, хто падтрымаў бы мяне хоць паглядам. (Пабойцеся бога, такія размовы за святочным сталом! Нібы няма пра што па-людску пагутарыць. Насмактаўся, як шваб, дык і шыбуй спаць. няма чаго ваду каламуціць... Вось дык тып! У лес, да чырвоных, яму закарцела.

Скача воўк, лісіца скача,
скача ўся паляна,
толькі зайка-небарача
спіць пад елкай п'яны...)

Толькі адзін чалавек (як мне тады здалося) зразумеў мяне. Нейкі падарожны, пушчаны пераначаваць і запрошаны цяпер гаспадарамі да каляднага стала. Ён мне здаўся знаёмым, але я надта стаміўся і, апроч таго, выпіў, расхваляваўся і не мог адразу прыгадаць, дзе я сустракаў гэтага чалавека. Ён усміхаўся мне са свайго кутка каля дзвярэй, ківаў галавою, а потым, калі госці загаманілі, не згаджаючыся з маімі словамі, ён папрасіў іх памаўчаць і выслухаць яго. Але, гэта быў той самы селянін, якога тыдні два таму назад бачыў у бездагляднай стадоле пад ясенямі. Запінаючыся ад хвалявання, ён слова ў слова выклаў тое самае, што я ўжо раз чуў, і папрасіў не гневацца, калі сваімі злыбедамі азмрочыў прысутным святочны настрой. Сказаў, што не ўпэўнены, ці не сядзіць за гэтым сталом чалавек, якому нічога не значыць выдаць уцекача немцам.

Ну і няхай сабе. Лепш ужо ўпасці ад кулі (так ці гэтак няма жыцця), чым бадзяцца па закутках, як загнанаму зверу.

— Ведай, чалавеча, што пляцеш! — крыкнуў нехта.

— Ды ён п'яны.

— Ну і пускаеш ты, Габрунас, усякую поскудзь у хату.

Тады чалавек, страшэнна зняважаны, усхапіўся з месца. Мне здалося, што ён і на самой справе п'яны, ва ўсякім разе дайшоў да такой ступені ап'янення, што не кантралюе сваіх учынкаў.

— Добра,— выгукнуў ён, клыпаючы да дзвярэй.— Я магу і пайсці. А вы заставайцеся сабе тут, піце і жарыце, пакуль немцы не пакінулі вас без нічога. Але памятайце — настане і для вас такі дзень, калі, страціўшы сям'ю і хату, вы будзеце бадзяцца па вёсках. Хутка ўжо прыйдзе

гэты дзень, як сказаў кагадзе пан настаўнік. Убачыце, прыйдзе!

Можа, ён гаварыў бы і больш, але раптам да яго падскочыў адзін з гасцей — здаравенны хлапчына — і, схапіўшы за каўнер, выпхнуў у двор. Услед яму паляцеў кажушок, які чалавек павесіў быў у сенцах. Габрунас тупаў каля парога і, захоўваючы годнасць гасціннага гаспадара, ушчуваў: еш, пі, начуй, ніхто не шкадуе, але нашто гэтакае глупства плесці...

Я ўзняўся з-за стала і, карыстаючыся агульнай сумятнёй, незаўважна праслізнуў у другую палову хаты, дзе вісела маё паліто.

Была самая поўнач, на дварэ цёмна, хоць вока выкалі. Разважаючы на цвярозы розум, лепш за ўсё было б пераначаваць, пачакаць, пакуль развіднее, і толькі тады падавацца ў дарогу, якая мне здавалася цяпер сэнсам майго жыцця. Аднак у хаце Габрунасаў я ўжо не мог заставацца а ні хвіліны. У гэтым хляве, сярод гэтых двухногіх істот, да якіх і сам нядаўна належаў. Не! Не! Што б там ні было, мушу як мага хутчэй выбірацца адгэтуль. Пакуль яшчэ палымнею, як запаленая паходня, якая да гэтага толькі курэла і не давала святла. Напэўна, я не давяраў самому сабе, баючыся, што гэта толькі часовае прасвятленне, якое міне разам з настроем, і тады я магу адмовіцца ад свайго рашэння. А можа, палохала думка: вось раптам здарыцца нешта нечаканае, нейкая нечаканая перашкода спыніць мяне, і я страчу апошнюю магчымасць выканаць свой абавязак: выкупіць сваю віну перад людзьмі і самім сабою. Галоўнае — перад сабою. Ад людзей можна схавацца, уцячы туды, дзе цябе ніхто не ведае, людзі на такія справы не звяртаюць вялікай увагі, а ад сябе нікуды не ўцячэш. Так што іду я да вас не помсціць, хоць вы і называецеся народнымі мсціўцамі, Пятрас, а каб ачысціць сумленне, каб мець права жыць далей як чалавек. Я мог бы пайсці і да людзей Туменаса, калі б яны не думалі, што страшнага бога знішчэння можна знішчыць, мармычучы ў сябе пад носам праклёны на яго галаву.

Ах, Пятрас! Табе цяжка ўявіць, што я перажыў, пакінуўшы хутар Габрунасаў. Цёмная ноч, ды яшчэ дажджлівая, са слатою, заўсёды наганяла на мяне сум і нуду, але на гэты раз у яе няўтульных абдымках я адчуваў сябе, як дзіця на руках у маці. Раскіслы снег, перамешаны з гразёю, плюхцеў пад нагамі, часам даходзіў да костачак; праз нейкія паўгадзіны я быў мокры, перавэдзганы да вушэй, бо

спачатку, пакуль вочы прызвычаіліся да цемрадзі, раз за разам падаў. Але ні разу не падумаў, што некуды трэба было зайсці, каб дачакацца світанку. Не, мне тут няма чаго рабіць. У гэтай сядзібе, дзе два дзецюкі, бесклапотна рагочучы, пілавалі дровы, у гэтых хутарах і падворках, дзе ўгодліва рыпяць калодзежныя жураўлі, вісяць на платах даёнкі, дзе за вокнамі, якія зачынены аканіцамі і завешаны фіранкамі, храпуць (альбо святкуюць каляды) селянін са сваёй жонкай і дзецьмі, а ў хляве, у акружэнні парасят, рохкае ўсім задаволеная заводная свіння. Не, гэты свет не для мяне. Я не хачу скакаць у ім, як вавёрка ў коле, наадварот — я хачу вырвацца з яго і таму падаюся туды, дзе ўжо займаецца досвітак вызвалення. Хутчэй жа, хутчэй! Калі і спынюся, каб адпачыць (раптам адчуў неверагодную стому), дык толькі ў самотнай стадоле пад ясенямі. Выцягнуся на саломе ў тым кутку, дзе мы ляжалі ўдваіх, пагладжу ў думках яе бялюткія валасы, абцалую губы. Няхай гэта будзе апошняе развітанне з мінулым, якое так шмат абяцала, а ўрэшце адабрала і тыя крошкі, якія было сыпанула сваёй зайздроснай рукой.

Раз-пораз мяне ахоплівала пачуццё, што за мной нехта сочыць, аднак я не звяртаў на гэта ўвагі, прыпісваючы свае страхі нездароваму ўяўленню. Толькі дайшоўшы да раздарожжа — адна дарога вяла ў Краштупены, па другой, пакінуўшы горад збоку, можна было дабрацца да Лаўксадзіса,— я ўбачыў чалавечую постаць. Але чалавек гэты рухаўся наперадзе ў мяне, а не ззаду. Я і цяпер не магу зразумець, якім чынам ён змог мяне апярэдзіць,— можа, тады, калі я памылкова звярнуў не на тую палявую дарогу, а можа, калі пераабуваўся, прысеўшы каля сцяны нейкай будыніны? Так ці інакш, мне нават у галаву не прыходзіла, што нехта можа цягнуцца следам за мной, а потым забегчы наперад, каб я сваімі рукамі першы раз у жыцці зрабіў тое, чым заўсёды пагарджаў і за што асуджаў іншых.

Было гадзін шэсць раніцы. Дождж перастаў. Падзьмуў сухі, сцюжны вецер, і ў праяснелым небе заміргацелі зоркі. Пачарнелая ад дажджу зямля, дзе-нідзе акрытая пенаю яшчэ не расталага снегу, выразна акрэслівалася на пасвятлелым даляглядзе, на якім яшчэ рана было ўзыходзіць зары, але зоркі і месяц, блукаючы недзе паміж парадзелымі хмарамі, давалі дастаткова святла, каб я мог угледзець на раздарожжы чалавека. Зрабіўшы некалькі крокаў у бок Краштупенаў, ён нерашуча тэпаў назад і кідаўся на іншую дарогу, а адтуль зноў варочаўся на раздарожжа і ўзіраўся

на ўказальнікі, дарэмна намагаючыся прачытаць у цемрадзі, што там напісана.

Гэта быў той самы селянін з Аўкштайціі, бедалага, як я са шкадаваннем падумаў пра яго некалькі гадзін назад, мой хаўруснік па няшчасці, якога нажэртыя Габрунасавы парсюкі выпхнулі ў двор... Ах, вы можаце смяяцца з маёй наіўнасці, даверлівасці, слепаты і яшчэ чорт ведае з чаго, здзекавацца, як я цяпер здзекуюся з сябе, хоць рукі яшчэ дрыжаць, але паверце: я шчыра ўзрадаваўся, напаткаўшы гэтага чалавека. Яму не трэба было нават прыкідвацца — я сам мог узяць яго за руку і сказаць: «Я вінаваты перад табою, мой дружа. Даруй. Я рады, што з табою не здарылася нічога кепскага за гэтыя два тыдні. Забудзем пра тую непрыемную сустрэчу ў стадоле і будзем сябрамі. Я тады сам не ведаў, што ў нас з табою супольны шлях, а цяпер — хадзем разам. Можам адразу ісці ў хатку тарфавіка, але, баюся, наўрад ці мяне там прывецяць, бо тады, калі мне падалі руку, я паказаў хвігу. Але не смуткуй, у Лаўксадзісе маю добрага знаёмца, а можа, нават і сябра. Ён завядзе нас куды трэба, у гэтым ты можаш не сумнявацца. Табе не давядзецца болей бадзяцца, дрыжаць за заўтрашні дзень, хавацца ад насцігачоў, зносіць знявагу ад сваіх. О, Чорны Кукса зробіць для нас усё». Але ўсё гэта я сказаў праз дзесятак хвілін, і з яшчэ большым запалам і перакананнем: мяне падкупіла роспач гэтага чалавека.

— Пане,— крыкнуў ён, калі я звярнуў на дарогу, што вядзе ў Лаўксадзіс.— Ці не скажаце часам, кудою ісці на Краштупены?

— А чаго вам там не хапае? — здзівіўся я, зразумеўшы, з кім маю справу.— Хочаце трапіць немцам у рукі?

— А, гэта вы, пане настаўнік! — У яготым голасе я адчуў радасную палёгку.— Калі б я не чуў, што гаварылі вы гэтым свінням, падумаў бы, што вынюхваеце мае сляды, хочаце выдаць гестапаўцам. А можа, гэтак яно і ёсць: хітрыя цяпер парабіліся людзі... Але мне начхаць на ўсю іхнюю хітрасць. Вось пайду і здамся ўладзе.

Я ступіў да яго і ўзяў за плячо.

Вы яшчэ не працверазіліся, дружа. Такія пытанні не вырашаюцца з п'янай галавы.

— Вы мяркуеце так, а я па-свойму,— адцяў чалавек.— Ад бацькі свайго я не адзін раз даставаў лупцоўкі — круты быў стары,— але толькі па мяккім месцы. Ніхто мяне не піхаў, не хапаў за каршэнь, а ўжо каб выкінуць на двор, як якога сабаку... Не-е, гэтакай ганьбы ні я, ні мой бацька,

а можа, нават і дзед ніколі не мелі. Свае людзі, літоўцы... У гэтакі час, калі адзін адпаму павінны быць братамі... Ніякай спагады да чалавека, што трапіў у няшчасце. Ніякай еднасці, кожны дбае аб сваёй шкуры... Сэрца крывёй абліло́ся...— Чалавек ікнуў, відаць, захлібнуўся слязамі, і, узяўшы сябе ў рукі, дадаў: — Я, зрэшты, не з крыўдлівых але разважце вы на сваю галаву: ці доўга можна пратрымацца сярод такіх людзе? Рапей ці пазней... Дык якога д'ябла карміць вошы, калі адзін капец? Пайду здамся, няхай вязуць у гэты свой рэйх.

— Апамятайся! — Я патрос чалавека за плечы.— Калі мы ўжо трэці раз сустракаемся, значыць, нам наканавана да канца быць разам. Хадзем!

Да бездагляднай стадолы пад ясенямі заставалася не больш чым чатыры кіламетры, аднак мы, напэўна, не здолелі б адолець гэтай адлегласці і за добрую гадзіну: ад стомы абодва ледзьве трымаліся на нагах. А калі пхнуліся наперад, дык толькі дзякуючы незразумелай унутранай сіле, якую абуджала і жывіла супольная думка: як мага хутчэй дабрацца да мэты.

Супольная думка... Ах, Пятрас, які я быў наіўны, мяркуючы, што ў нас абодвух супольная мэта! «Я ўжо не адзін, я ўжо не адзін! — сказала ад радасці сэрца.— Я магу абаперціся на плячо брата, якога гэтаксама неміласэрна пакрыўдзіў лёс. Але часам жыццё ўсё-такі бывае справядлівае...» Мая душа адчынілася, як вароты хутара перад доўгачаканым госцем. Я ішоў то поруч з ім, то забягаў наперад і гаварыў, гаварыў... Гэты чалавек мае права ведаць, думаў я, якія душэўныя пакуты я перанёс у гестапа. Няхай зразумее, што не ён адзін пазбыўся і сваёй хаты, і сваіх блізкіх, побач з ім цягнецца яшчэ большы бядак, які страціў — і назаўсёды — каханую жанчыну, які вымушаны быў уцячы з роднай сядзібы, і цяпер, можа, у ёй ужо гаспадараць чужыя людзі. Але нічога, дружа, не падай у роспач, яшчэ на зямлі засталіся людзі, якія дадуць нам прытулак.

Адкуль я мог ведаць, што, выліваючы сваю душу, выдаю цябе і тваіх сяброў агенту гестапа, Пятрас! Трэба было быць не такім даверлівым, не гэтак аглушаным сваім горам, і ўсяго гэтага не здарылася б. Я задумаўся б, чаму Дангель выпусціў мяне на свабоду, у той час, калі яго хаўруснікі даставалі душу з кожнага, хто да іх трапляў, і зрабіў бы лагічную выснову. Але на жаль... Выратавальная ідэя, як гэта ўжо не адзін раз здаралася ў маім жыцці,

прыйшла са спазненнем. Не ведаю, што выклікала ў мяне недавер — ці яго занадта заўзятае падтакванне, ці нейкае пытанне, зададзенае не да месца, ці голас, што на момант змяніўся, калі я расказаў пра сустрэчу з Марусам у хаціне тарфавіка. Як бы там ні было, я раптам інстынктыўна адчуў, што трымаю ў руцэ фальшывы грош, хоць і не мог адразу паверыць у гэта.

— Паслухайце,— сказаў я, разумеючы, што гэта пытанне трэба было задаць па меншай меры паўгадзіны назад, а то і за сталом у Габрунаса.— Вы казалі, што ў родных аселіцах маеце знаёмых партызанаў. Дык чаму вы не падаяцеся туды, а ашываецеся каля Краштупенаў, рызыкуючы трапіць у лапы немцам?

Ён не чакаў гэтага пытання. Несумненна, у яго быў загадзя падрыхтаваны адказ на яго, аднак ён проста не чакаў, што яно прагучыць тут, у гэтых абставінах, калі работа юды зроблена і засталося толькі скамандаваць: «Рукі ўгору!» Ён пачаў тлумачыць, і досыць складна, чаму яшчэ кружыць па Краштупенаўскім павеце, аднак я ўжо не верыў ягоным словам. Ад слабасці (можаш назваць гэта страхам, хваляваннем, спалохам — як табе падабаецца) падкасіліся калені, крок стаў карацейшы, павольнейшы. Ён таксама прытрымаў крок, стараючыся ісці так, каб я быў побач і трохі наперадзе.

Так, не даводзілася больш сумнявацца, якога сябра сабе я набыў. Асабліва пасля таго, калі, паслізнуўшыся, я раптам павярнуўся ў яго бок і ўбачыў, як ён адхіснуўся назад і правай рукою торкнуўся ў кішэню.

Хрыстаф Дангель дамогся-такі свайго! Неўзабаве паліцыя пагрукае, Пятрас, у твае дзверы, арыштуе тарфавіка, і калі вы не вытрымаеце катавання, дык яны дакапаюцца і да Маруса. Гедымінас Джугас, не хто іншы, а Гедымінас Джугас даў ім у рукі кончык нітачкі, і дзякуючы Гедымінасу Джугасу зноў будуць гінуць людзі...

Ах, Пятрас, я ніколі не думаў, што калі-небудзь змагу забіць чалавека! Пагляджу спадылба на неба, убачу ў прагалах між хмараў россып зорак, набяру ў грудзі перадсвітальнага паветра і... Чорныя палі заміргацелі перад вачамі. Вяршаліны дрэў, неба як велізарная, напятая ветрам палатка. Ашчэраны чалавечы твар. Галава. Вялізны бясколерны пухір, які запоўніў усю прастору. Але гэтак здавалася толькі ў першае імгненне, калі я, маланкава павярнуўшыся, ударыў яго ў падбародак, адчуваючы ва ўсім целе такую лютую сілу, што сам спалохаўся. Безумоўна, ён

быў падрыхтаваны да ўсялякіх неспадзяванак, бо трымаў руку ў кішэні, але не чакаў, што я кінуся на яго так раптоўна. Ён упаў як падкошаны, стукнуўшыся пры гэтым галавою аб прыдарожнае дрэва. Рука з пісталетам высунулася з кішэні, але пальцы абмяклі раней, чым ён паспеў спусціць засцерагальнік. Я схапіў выпушчаную зброю і пачаў джвагаць ёю па твары, скронях, ілбе. Лупіў з усяе сілы, з шалёнай зацятасцю, быццам гэта быў не чалавек, а жытнёвы сноп, які трэба было як мага хутчэй абмалаціць, каб ухапіцца за новы. Ягоная галава здавалася мне цяпер ненатуральна маленькай — гутаперчавая галоўка лялькі, якую нехта на здзек прышыў да чалавечага цела. Гэта ілюзія ўзмацнела яшчэ пасля таго, як сарваліся прыклееныя вусы і ад удару пісталетам ссунуўся парык, агаліўшы лысы, нібы паліраваны, чэрап. Я дубасіў не чалавека, а мёртвую галаву лялькі, Пятрас. Бачыў, як распаўзаюцца чорныя плямы, адчуваў, што пальцы сталі клейкія: гэта была кроў, аднак мне здавалася, што гэта дзіркі і трэшчыны, якія ўзнікаюць, калі разаб'еш крохкую рэч. Потым я ўзяў яго за ногі — сваю першую ахвяру («Павіншуйце мяне, людзі, я запісаўся ў мужчыны...»), перацягнуў праз роў і ўтапіў у нейкай заняханай мачыльні. Там жа і рукі вымыў. Бачыш, чыстыя. Плямы на закаўрашах? На крыссі паліта? Нічога, вада ўсемагутная — змые ўсё, што чалавек забрудзіць.

## V

Чорны Кукса доўга маўчыць, пазіраючы на свае рукі, што бяссільна ляжаць на стале. За сцяной — галас: пабіліся малодшыя дзеці. У шчыльна зачыненай кухні (вокны таксама завешаны, хоць на дварэ яшчэ светла) густа пахне квашанай капустай, памыямі, падсохлым адзеннем, патыхае куродымам буракаватага каганца, які стаіць на падаконніку і афарбоўвае ўсё навокал трывожным, змрочным колерам.

— Чаму не пытаешся, як бацька жыве? — парэшце падае голас Кукса.— Улада распарадчыка прыслала.

Гедымінас у здзіўленні падымае стомленыя вочы. Няўжо ж цяпер гэта важна? А можа. Путрымас драмаў, пакуль ён адбываў самую пакутлівую ў сваім жыцці споведзь?

Кукса кашляе, корпаецца па кішэнях, шукае капшук. Ну і дні, каб іх качкі стапталі: не паспее развіднець, глянь,

ужо і змяркаецца, нічога не ўправішся зрабіць за гэтакі дзень.

— Паслухай, Пятрас. Няўжо ты думаеш, што я прыйшоў да цябе, каб разнастаіць нудны зімовы дзень ды расказаць дасціпную гісторыю?

Кукса слініць цыгарку, адплёўваецца, нахіліўшыся над сталом: крошкі тытуню трапілі на язык. Дужа доўга адплёўваецца і крэхча Чорны Кукса.

— Гісторыя цікавая, а як жа,— нарэшце кажа ён.— Незвычайная гісторыя. З кожным гэтакае можа здарыцца, каб іх качкі!..

— Не з кожным,— круціць галавою Гедымінас.— Не думаю, каб ты альбо Марус, трапіўшы ў кіпці Дапгелю, змаглі б вырвацца жывыя.

— Ну, гэта іншая справа...

— Чаму? — Гедымінас хоча зазірнуць Куксу ў твар, але той адвярнуўся да акна, нахіляецца над каганцом, прыпальвае цыгарку. Чорны цень засланіў кухню. Адно толькі відаць калматая галава, як бы пакладзеная на падаконнік, але час-пачас і яна знікае, патануўшы ў густых клубках тытунёвага дыму. Гедымінас зажмурваецца. Джах, джах, джах — апускаецца і падымаецца пісталет. Паліраваная лысіна чэрапа, адтуліна рота, пякучы клей на пальцах...— Што здарылася, Путрымас? — шэпча ён, баючыся расплюшчыць вочы, каб зноўку не ўбачыць галавы, пакладзенай на падаконніку.— Ты мне не верыш? Я забіў чалавека, сапраўды, я забіў чалавека, а ты мне не верыш...

— Хіба я кажу, што не веру? Але, бачыш, калі чалавек вяртаецца адтуль жывы і здаровы, усялякае можна падумаць. Немцы задарма не літуюць.

— Задарма?! Я вярнуўся адтуль з акрываўленымі рукамі! Ці табе гэтага мала? — Гедымінас ускоквае, хапае Чорнага Куксу загрудкі, аднак, сустрэўшыся з ім вачамі, зноўку асоўваецца на крэсла.— Як ты можаш падумаць пра мяне такое, Пятрас? Калі гулялі тваё вяселле, я першую зіму хадзіў у школу. Ты ведаеш мяне змалку. Два месяцы назад ты не пабаяўся звесці мяне з Марусам, а сёння, калі гэта надзвычай трэба, у цябе язык паварочваецца сказаць, што я прадаўся гестапа. Калі б гэта было на самой справе, ты ўжо вісеў бы на пляцы разам з тымі пяцярымі.

— Мяне аднаго немцам мала, яны хочуць расправіцца з партызанамі,— кажа Чорны Кукса, спакойна папыхваю-

чы сваёю цыгаркай.— Да Маруса дакапацца, вось што ім трэба, каб іх качкі!..

Гедымінас хвілінку глядзіць на твар, ахінуты воблакам дыму. І гэта Чорны Кукса, на стале ў якога ляжыць бохан хлеба, спечаны з Джугасавай мукі? Востры боль пранізвае сэрца, мускулы трымцяць і напружваюцца, нібы напятыя струны, у галаве гудзе.

— Пэўна, я паабяцаў Дангелю пракрасціся да партызанаў, выдаць іх, і за гэта ні адзін волас не ўпаў з маёй галавы,— сыкае ён, адчуваючы неадольнае жаданне ўрэзаць Чорнаму Куксу па непрыемна вытыркнутым кадыку («І той крыкун у Габрунасаў быў з кадыком»).— Чаго варта гэтакаму вырадку, як Гедымінас Джугас, зганьбіць памяць Мілды, напляваць на імя свайго бацькі, выдаць сяброў. Ха-ха-ха! Мне, мабыць, усё гэта сніцца альбо я з глузду з'ехаў.

— Ціпшэй, Гедымінас. Супакойся, каб цябе качкі стапталі. Хто кажа, што я не веру табе? Але пастарайся і ты мяне зразумець. Мы ўжо раз цябе запрашалі ў лес, і нядаўна. Адмовіўся. А цяпер сам ірвешся. Дзіўна ўсё гэта можа здацца сяму-таму... Гэтыя жахі ў гестапа, перажыванні, забіты ліхадзей і ўсё астатняе, можа... Не, я дык ведаю, разумею, ты не высмактаў з пальца. Аднак ці паверацць у гэта іншыя? Таварышы нашы? І яшчэ: адна справа самому прыйсці, свядома, так сказаць, і зусім іншая — прыбегчы, калі бяда прыцісне. Вораг хітры, умее плесці самыя неверагодныя петлі. Чалавек, нават вельмі моцны, трапіўшы туды, можа не выстаяць перад спакусай выжыць...

— Што ж, разумею: у мяне няма доказаў.— Гедымінас ціха смяецца. Узняў бы галаву і паглядзеў бы на Чорнага Куксу, але карак нібы здзеравянеў.— Плямы крыві на рукавах яшчэ не доказ — мог наўмысна запэцкацца свінячай крывёю. Маёй споведзі таксама грош цана — такую гісторыю з дапамогай Дангеля магло ўтварыць і паэтава ўяўленне. Калі б не ўкінуў пісталета ў мачыльню... Аднак ён быў у крыві, і я мусіў другі раз мыць рукі. Не, пісталет таксама нічога вам не даказаў бы: сказалі б, што падсунула гестапа. Дзякуй табе, Путрымас. Ніколі не думаў, што можна гэтулькі гадоў пражыць з чалавекам у адной вёсцы і зусім яго не ведаць! Зусім! Ты ўжо не той чалавек, якім быў раней...

— Не, Гедымінас, я той самы, толькі часы іншыя, каб іх качкі, асаблівыя часы. У такія часы чалавек, і сам таго не жадаючы, паварочваецца да дзённага святла іншым бо-

кам твару. Хто добрым, хто кепскім. Не так даўно быў тут выпадак — Марус ускочыў у бяду. Думалі, той чалавек выдасць яго немцам — сур'ёзныя падставы былі. Памыліліся. Праўда, з цяжкім сэрцам карміў і паіў яго, лаяў яго немiласэрна, але не выгнаў з-пад сваёй страхі, хоць за гэта фашысты маглі яму галаву адкруціць. О-о, шмат ёсць людзей, якіх ведаеш, здаецца, як самога сябе, а настане такая часіна — і зблытаюць яны табе ўсе карты, каб іх качкі стапталі. Таму зразумей: вінаваты час, а не людзі. Калі ўсё гэта праўда, што ты казаў... Праўда нікуды не падзенецца, яна, як алей, усё роўна наверх выплыве. А сам ты ўцякай, схавайся дзе можаш. Толькі не ў такіх, як я ці вянцкі тарфавік, калі не хочаш бяды на людзей наклікаць. Думаеш, па тваіх слядах пусцілі толькі таго аднаго выжла, якога ты запхнуў у мачыльню? Не-е, Дангель выпусціў іх куды больш. Можа, і цяпер які сноўдаецца каля нашай вёскі.

Гедымінас сціскае далонямі скроні. (Джах, джах, джах — пісталет падымаецца і зноў апускаецца.) Павекі зліпаюцца, нібы нашмараваныя крывёю. Рэзкі боль у галаве. Дзіркі, шчыліны... Галава патрэскалася, як нераспелы кавун. «Кукса кажа праўду. Яны выпусцілі мяне, каб па маіх слядах высачыць іншых. Я — разносчык чумных бацылаў. Пракажоны! Такія людзі, калі яны маюць сумленне, ідуць падыхаць у пустыню».

— Даруй мне, Путрымас, я не хацеў цябе загубіць.— Устаў, абапіраючыся рукамі аб рыплівы стол. Трэба было б зайсці да бацькі, пераапрануцца ў сухое. Не, нельга — там цяпер за гаспадара немец. Няма больш дома... Да Кяршысаў? Таксама не. У пустыню, толькі ў пустыню, каб там падохнуць. На бязлюдны востраў, як некалі сказала Мілда. Але дзе ён, гэты ўтульны куток зямлі на ахопленай полымем планеце? — Бывай здароў, Пятрас...

— Пачакай! Куды ты ў гэтакім выглядзе? Пашукаю сушэйшай вопраткі.— Чорны Кукса ўстае на парозе кухні.

— Гестапаўскаму шпіёну?

— Хто б ты ні быў — выжлам ці ўцекачом ад выжлаў,— мне адзін д'ябал. Калі схопяць, скончу так, як скончыў Матавушас.

Гедымінас хапае Куксу за кляпы і, прыцягнуўшы яго да сябе, пільна ўзіраецца яму ў вочы. Марнае спадзяванне... Вочы халодныя і пустыя, як поле, прадзьмутае асеннім ветрам. Вочы, якія нічога не кажуць. Шэрая непранікальная сцяна, за якой затаілася панурая невядомасць. А вось жа і не! Нейкі ледзьве заўважны праменьчык, мі-

краскапічная сонечная іскрынка бліснула ў іх, на момант заліўшы твар мяккай цеплынёю, аднак... зноўку гасне —

— — — — — — — — — — — Гасне захад сонца, скрываўленым крылом атуліўшы вёску, што паступова аддаляецца да небакраю. Ужо больш не чуваць сабачага брэху, рыпення калодзежных жураўлёў, дзіцячага крыку. Ужо больш не пахне дымнаю цеплынёю родных сядзіб. Лес уздымаецца насупраць, разгарнуўшы шырокія грудзі. Прапахлы жывіцай і прэлай лістотай. Зялёны брат, чые шчодрыя абдымкі чакаюць госця. Валадар каралеўства звяроў і птушак, у якім хапае месца і чалавеку.

## ЗМЕСТ

**Авіжус Ё.**

А 20 Час, калі пусцеюць сядзібы: Раман: З літоўс./Пер. А. Разанаў.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 542 с., [1] л. партр.— (Проза народаў СССР).

ISBN 5-340-00146-6.

**Авижюс Й. Потерянный кров: Роман.**

Раман «Час, калі пусцеюць сядзібы» (Ленінская прэмія 1976 г.) прысвечаны народным лёсам у паваротныя моманты гісторыі. Дзеянне рамана адбываецца ў 1941—1944 гадах. Літва перажывае чарговую хвалю перамен — падзенне ўрада Сметаны, усталяванне савецкай улады і годам пазней — акупацыю войскамі гітлераўскай Германіі.

А $\frac{4702390201-172}{\text{М } 302(03)-89}$ 134—89

**ББК 84 Ли7**

*Литературно-художественное издание*

**Авижюс Йонас Казимерович**

ПОТЕРЯННЫЙ КРОВ

**Роман**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**
**На белорусском языке**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Авіжус Ёнас Казіміравіч**

ЧАС, КАЛІ ПУСЦЕЮЦЬ СЯДЗІБЫ

**Раман**

Рэдактар В. І. Рабкевіч. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічныя рэдактары Л. М. Шлапо, І. І. Дуброўская. Карэктар Л. М. Маслоўская.

**ІБ № 2445**

Здадзена ў набор 06.02.89. Падп. да друку 07.09.89. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 28,56+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 29,09. Ул.-выд. арк. 31,70. Тыраж 9000 экз. Зак. 2237. Цана 2 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

**Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**